УДК [94(476)+821.161.3.09](081)
ББК 63.3(4Беи)
К44

Укладанне:
*Лія Кісялёва*

Прадмова:
*Уладзімір Арлоў*

ISBN 978-985-6968-31-3





# СЕЙБІТ ВЕЧНАГА

Мой шлях у нацыянальны космас быў асветлены дзвюма кнігамі — раманам Уладзіміра Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім» і томікам гістарычных нарысаў Генадзя Кісялёва «З думай пра Беларусь».

Насуперак падручнікам і лекцыям на нашым гістфаку БДУ гэтыя шчасліва адкрытыя мною і сябрамі кнігі сцвярджалі тое, аб чым юначыя розумы толькі пачыналі здагадвацца: гісторыю робяць не безаблічныя народныя масы, а асобы. І калі ў Караткевіча гэта былі літаратурныя персанажы, якія пакуль дарасталі да сваіх будучых дзеяў, то са старонак Кісялёва да нас прыходзілі рэальныя героі, партрэты якіх хацелася знайсці і павесіць над сваім ложкам у інтэрнацкім пакоі.

Удзельнік марской паўстанцкай экспедыцыі з Англіі ў Літву-Беларусь Фелікс Зянковіч. Малады Валер Урублеўскі з кайстрай, наладаванай свежымі нумарамі нелегальнай бунтоўнай газеты. Але найперш — Кастусь Каліноўскі, што з «рэвалюцыянера-дэмакрата», якім ён быў (адзін з многіх) у скупых і нецікавых радках падручніка, ператвараўся ў сапраўднага героя. Змешчаны ў кнізе ягоны летапіс жыцця і дзейнасці маляваў надзіва жывы вобраз правадыра інсургентаў — канспіратара, ваяра, надзейнага сябра, вернага каханка.

Неўзабаве нашая студэнцкая сябрына выбралася на выходныя ў Вільню ўжо не проста пабадзяцца па піўніцах, а (перапрашаю за міжвольны каламбур) «з думай пра Беларусь». Мы знайшлі Святаянскія муры, куды на арышт Каліноўскага-Вітажэнца былі кінутыя ажно дзве роты салдат. Мы спыніліся каля Дамініканаў, дзе засядала Асобая следчая камісія пад старшынствам палкоўніка Шалгунова, на паседжанні якой Кастуся прыводзілі на допыты з камеры № 3. Мы прынеслі кветкі да мемарыяльнага крыжа на Лукішскай плошчы, дзе паўстанцкі важак зрабіў апошні зямны крок. А потым падняліся на гару Гедзіміна, вяршыня якой з таго моманту сталася для нас перадусім месцам астатняга зямнога прыстанку Кастуся і яго паплечнікаў.

Мы былі неверагодна ўражаныя тым, як дакладна чалавек, што напісаў наш вадэмекум, ведаў адрасы, яўкі, імёны, мянушкі. Аўтар кнігі

здаваўся асобаю адтуль, з паўстання. Уяўленне малявала маладзёна ў канфедэратцы, са штуцэрам на плячы і пісталетам за поясам, які мінулай ноччу чуйна спаў каля ляснога вогнішча, а цяпер, пераапрануўшыся ў цывільнае і зліўшыся з віленскім натоўпам, ідзе побач з намі, але ў сваім часе на канспірацыйную кватэру недзе паблізу Вострай Брамы…

Потым для мяне было, прызнаюся, вялікай нечаканкаю даведацца, што Генадзь Кісялёў нарадзіўся не ў Беларусі, а ў падмаскоўнай Каломне і што ягоны бацька-расеец амаль усё жыццё праслужыў у органах дзяржбяспекі. Дарэчы, гэтыя магутныя аргументы не раз выкарыстоўвалі рэдактары кніг Кісялёва, каб абараніць аўтара ад абвінавачванняў у нацыяналізме. Тое, што Генадзь Васілевіч атрымаў дыплом Маскоўскага гістарычна-архіўнага інстытута (у 1953 годзе, пазначаным у савецкім календары смерцю Сталіна), а затым вучыўся там у аспірантуры, было аргументам слабейшым, бо гісторыкі і літаратуразнаўцы з вайсковымі званнямі ведалі гэтую навучальную ўстанову як «рассаднік вальнадумства».

Кажуць, каб ураўнаважыць згаданы факт, некім была запушчаная думка, што Кісялёва накіравалі з Масквы не куды-небудзь, а менавіта ў Вільню, каб дапамагчы літоўскім таварышам пераадолець іхнія ідэалагічныя хістанні і навесці парадак у гістарыяграфіі. Мне думаецца, што на выбар месца працы найперш паўплываў сам выпускнік: сказалі сваё слова і беларускія карані маці-віцяблянкі, і тое, што ўжо ў віцебскай сярэдняй школе, якую пасля вайны закончыў Генадзь, ён захапіўся гісторыяй Беларусі. Але як бы там ні было, а паўтара дзесяцігоддзя, праведзеныя Кісялёвым на пасадзе супрацоўніка Дзяржаўнага гістарычнага архіва Літвы, сталіся для беларускай гісторыі і літаратуразнаўства шчасцем. Сама атмасфера нашай старажытнай сталіцы і яе неацэнныя архіўныя скарбы, памножаныя на магутны талент і апантанасць сваёй справай, зрабілі Генадзя Кісялёва яшчэ да пераезду ў 1971 годзе ў Менск выдатнай постаццю айчыннай навукі і культуры.

Наступнай сустрэчаю з Кісялёвым — зноў вяртаюся ў гады юнацтва — былі выдадзеныя да 100-годдзя паўстання Каліноўскага «Сейбіты вечнага», першая кніга майго ўжо ўлюбёнага аўтара. Гэтае адшуканае ў бібліятэцы зачытанае выданне ў зеленкаватай вокладцы адразу дыхнула азонам інтэлектуальнай свабоды і сапраўднага адкрыцця. (Яго перажываў не адзін я: на палях нечы аловак панастаўляў дзясяткі клічнікаў, а на забытай або знарок пакінутай закладцы была намаляваная «Пагоня».) Аўтар неабвержна даводзіў, што паўстанне 1863 года ў Беларусі было не «сялянскай вайной», як сцвярджалі афіцыйныя герадоты, а нацыянальна-вызвольным змаганнем, выклікам, што былыя землі Вялікага Княства кінулі паўфеадальнай і дэспатычнай імперыі.

Генадзь Кісялёў і тут вяртаў беларускай гісторыі герояў. Іх у кнізе было, на першы погляд, усяго чацвёра: сам Кастусь Каліноўскі, датуль невядомы мне кіраўнік інсургентаў на Меншчыне Антон Трусаў і два нібыта знаёмыя са школьных часоў пісьменнікі — Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч і Францішак Багушэвіч. Але якімі ж непадобнымі былі гэтыя Вінцэнт і Францішак на тых іхніх школьных аднайменнікаў, што апявалі сялян ды часам насмельваліся выступаць за правы «дурных, як варона», мужыкоў! Дуніну-Марцінкевічу, відаць, адно паважны век не дазволіў узяць у рукі зброю, а малады Багушэвіч ваяваў, у выніку чаго змог толькі праз дваццаць гадоў вярнуцца на радзіму.

Насамрэч герояў-сейбітаў было ў кнізе значна болей. Францішкавы аднакласнікі, таксама паўстанцы Ціт Далеўскі і Юліян Чарноўскі. Яшчэ адзін выпускнік Віленскай гімназіі, залаты медаліст Ігнат Здановіч, што кінуў замежную стыпендыю і бліскуча пачатую кар'еру матэматыка, стаў правай рукой Каліноўскага і загінуў на царскай шыбеніцы. Паўстанцкі начальнік Лідскага павета Людвік Нарбут, у аддзеле якога змагаўся Багушэвіч. Таленавіты расійскі вайсковы інжынер, інсургент, катаржанін, манах-кармеліт, тэолаг Юзаф Каліноўскі, які пры канцы XX стагоддзя будзе кананізаваны. Дачка Дудара беларускага Каміла Марцінкевіч — піяністка, акторка, патрыётка, асуджаная на 25-гадовую высылку.

Кніга чыталася, быццам гістарычны раман: «1863 года 7 сакавіка наглядчык за арыштантамі ў Пабернардынскім будынку жандарскі унтэр-афіцэр Скараходаў падаў у следчую камісію белую насавую хустачку, прынесеную з абедам да арыштаванага Карла Станкевіча (адзін з галоўных дзеячаў нелегальнай менскай паўстанцкай арганізацыі. — *У. А.*). На хустачцы было напісана алоўкам выяўленне нязменнай любові да яго Каміліі Марцінкевіч, якая ўтрымліваецца ў астрозе, вядома сваім дзёрзкім характарам і адкрыта выказвала свае рэвалюцыйныя ідэі. Пастанавілі: для падтрымання далейшай перапіскі, якая можа выкрыць некаторыя акалічнасці, загадаць Скараходаву перадаць хустачку Станкевічу». Затаіўшы дыханне, царскія следчыя чакалі працягу.

І працяг быў: «Думаю пра цябе, дарагая Камілія! Клапачуся і непакоюся, гавару з табой, нібыта ты тут, са мною…».

Пасля «Сейбітаў…» з кнігамі Кісялёва я ўжо надоўга не разлучаўся: набываў новыя, расшукваў у букіністыцы ранейшыя. Знойдзенае, «ювелірна адрэстаўраванае» (Адам Мальдзіс) і выдадзенае нашым геніем архівістыкі сёння — варта азірнуцца — на маёй «залатой паліцы». Важкі брунатны том «Пачынальнікаў». «Пошукі імя» ды іншыя даследаванні, у выніку якіх з'явіліся аўтары ў ананімных раней паэм «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе». Побач «Радаводнае дрэва. Каліноўскі — эпоха — наступнікі» з бліскучай аўтарскай прадмовай: «Гісторыкі — не садоўнікі і не батанікі. Расліннае царства… звычайна цікавіць іх толькі як фон, на якім адбываюцца гістарычныя падзеі. Але і ў іх ёсць дрэва, якому яны аддаюць многа ўвагі, каля якога ім даводзіцца шмат хадзіць і завіхацца. Гэта дрэва радаводнае».

З «Радаводным дрэвам» на паліцы суседзяць «Героі і музы». Тут закладак, здаецца, ледзьве не столькі, колькі ў вожыка іголак. Прызнаюся, сярод герояў і муз мяне (былі на тое і асабістыя прычыны, пра што ўжо даводзілася пісаць у сувязі з маім удзелам у студэнцкім самвыдаце) найбольш уразіў якраз герой з прыстаўкаю «анты». Уразіў так, што я задумаў пра яго аповесць — пра Вітольда Парфіяновіча, якога ў яго няпоўныя дваццаць гадоў Каліноўскі ў верасні 1863-га прызначыў паўстанцкім камісарам Магілёўскага ваяводства і які здрадзіў ідэі, сябрам, уласнай чалавечай годнасці. Мне праглася зразумець, чаму ўчарашні герой, арыштаваны праз чатыры месяцы жандарскім палкоўнікам Лосевым, адразу зламаўся і выдаў усё, што было яму даверана, а на допыце 28 студзеня 1864 года ў Менску раскрыў канспірацыйнае імя Каліноўскага — Ігнат Вітажэнец — і месца яго жыхарства на Святаянскай вуліцы. (У ноч на 29-е пасля шыфраванай тэлеграмы Мураўёву-вешальніку ў Вільню Кастусь быў схоплены.) Чаму Парфіяновіч, атрымаўшы ад Мураўёва дараванне, а значыць жыццё, не знік з відавоку, не схаваўся, замольваючы смяротныя грахі перад таварышамі, а кінуўся замольваць іх перад катамі — перайшоў у праваслаўе, перахрысціўся ў Іосіфа, падаў прашэнне, дзе пісаў, што «быў арыштаваны на 18-м годзе жыцця, і два-тры словы, сказаныя штаб-афіцэрам корпуса жандараў… прымусілі са слязамі дзіцячага раскаяння расказаць усе свае прыгоды».

На мой ліст з Полацка ў Менск аўтар «Герояў і муз» адгукнуўся неадкладна. Імянуючы мяне «баярынам Уладзімірам» (ці то з добрай іроніяй, ці то з надзеяй, што з майго імкнення народзіцца нешта вартае), спадар Генадзь з сваёй заўсёднай грунтоўнасцю і дакладнасцю падаваў спасылкі на архіўныя фонды, паведамляў, што Парфіяновіч выслужыўся да пасады выканаўцы абавязкаў упраўляючага «Томскай экспедыцыі аб ссыльных» (sic!) і нават да рэдактара «Томских губернских ведомостей». У канцы ліста была прыпіска з дазволам званіць і хатнім тэлефонам, а таксама дата — 2 сакавіка 1988 г. (якраз 150-я гадавіна з дня нараджэння Каліноўскага).

Аповесць пра здрадніка пакуль існуе ў чарнавых накідах і, спадзяюся, дачакаецца свайго часу, а тэлефон выдатна памятаю і зараз. Часам забыўшыся, што ўжо пяць гадоў, як на гэты нумар Генадзю Васілевічу не дазвонішся, па-ранейшаму думаю: тут не параіць ніхто, апрача Кісялёва.

Асабістае знаёмства працягнулася, калі я працаваў ужо рэдактарам у «Мастацкай літаратуры», а Генадзя Кісялёва ў 1990-м уганаравалі за кнігі «Адшукваецца класік…» і «Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча» Дзяржаўнай прэміяй Беларусі. Быў шчаслівы час прыходу незалежнасці, веры ў тое, што пачынаюць урэчаісніваца мары, выдыхнутыя Каліноўскім у «Лістах з-пад шыбеніцы».

Генадзь Кісялёў прынёс да нас у выдавецкую рэдакцыю дзве важкія тэчкі, на якіх было напісана: «Кастусь Каліноўскі», — будучы том яго-ных публікацый, лістоў, дакументаў паўстання, сведчанняў сучаснікаў. Я развязаў тасёмкі і прачытаў эпіграф.

*— Каго любіш?*
*— Люблю Беларусь.*
*— Так узаемна!*

Пароль паўстанцаў 1863 года

Ды неўзабаве над краінаю падзьмулі іншыя вятры. Мая рэдакцыя была разагнаная, і загадам палкоўніка, што быў кінуты кіраваць нашым міністэрствам (на тым свеце палкоўнікі Лосеў і Шалгуноў разам з Мураўёвым задаволена пацёрлі рукі), аўтар гэтых радкоў у кампаніі аднадумцаў быў звольнены з выдавецтва «за выпуск исторической и другой сомнительной литературы». На вялікае шчасце, тыя дзве тэчкі не загінулі і ў 1999-м папоўнілі «Беларускі кнігазбор» зялёным томам «Кастусь Каліноўскі. За нашую вольнасць». Тут у чарговы раз на ўсю поўніцу выявіўся геній Кісялёва — архівіста, гісторыка і, на маю думку,

публіцыста, які рашуча бараніў імя нацыянальнага героя ад спробаў паставіць яго подзвіг пад сумнеў.

Ужо ў XXI стагоддзі мне выпала інтэлектуальная раскоша супрацоўнічаць з Генадзем Кісялёвым у часе падрыхтоўкі маёй кнігі «Імёны Свабоды». Можна сказаць, што дзясяткі яе старонак, азораных імёнамі паўстанцаў 1863-га, былі напісаныя з блаславення мэтра. Ён быў гатовы і здольны дапамагчы ў любой сітуацыі. Напрыклад, падказаў, дзе знайсці выявы Камілы Марцінкевіч і Ахіла Банольдзі, або са скрухаю, але абсалютна ўпэўнена параіў спыніць пошукі партрэта юнага Адама Пуслоўскага, які ўдзельнічаў у паўстанні адзін дзень і ўсё роўна загадам Мураўёва быў пакараны смерцю. У мяне ўваччу і цяпер стаіць спадар Генадзь — у калідорчыку, вузкім ад кніжных шафаў, што не змяшчаюцца ў пакоях, схуднелы, з прабачлівай усмешкаю, уласцівай невылечна хвораму чалавеку, які ўжо ведае ці прадчувае блізкасць сыходу.

Падпісаць яму «Імёны...» я яшчэ паспеў. А праз два гады, у 2009-м, мой збор твораў Генадзя Кісялёва пабагацеў на выданне, якое аўтар ужо не пабачыў. Туды ўвайшлі кніга першая — «Сейбіты вечнага» і «кніга апошняя» (бяру гэтыя словы ў двукоссе, бо кніга, якую вы трымаеце ў руках, сведчыць, што выдаўцы папярэдняй крыху паспяшаліся). Другая частка таго выдання здзівіла і ўразіла: Кісялёў паўстаў у ёй у абсалютна новай, здавалася б, іпастасі скарыназнаўцы. Адам Мальдзіс у прадмове патлумачыў адступленне на тры з лішкам стагоддзі назад тым, што ягоны калега «нутром адчуваў непарадак у асэнсаванні спадчыны першадрукара». Атрыманы вынік — праца «Скарынаўская сімволіка: вытокі, традыцыі, інтэрпрэтацыі» — быў названы не толькі «Уводзінамі ў скарынаўскую геральдыку», але і «навуковым дэтэктывам». Рэкамендую.

І вось — новая сустрэча з Генадзем Кісялёвым. Прынцып укладання кнігі падобны: ужо класічнае «Радаводнае дрэва» і дасюль незнаёмыя чытачу тэксты, жанр якіх аўтар вызначае як кверэнды. Ужо самі іх назвы прымушаюць душу заходзіцца ў радасным прадчуванні — і проста захапляльнага чытва, і глыбіні, і заўсёды неабходнай для маўклівай размовы з Генадзем Кісялёвым разумовай працы: «Пра вешчых песняроў, фартуну Радзівілаў і сакрэты старых радаводаў», «У Дабраўлянах, прыстанку муз, у 1863 годзе», «Апокрыфы змагання (Сангін — Самяцічы — Рагінскі)», «Беларускія вёрсты шатландскага двараніна Сен-Клера»... Аматараў гісторыі чакаюць сапраўдныя сенсацыі.

Аўтар верны сабе: вяртае лёсы, пазбягае ідэалізацыі, удакладняе сказанае раней і — хочацца спадзявацца — стварае грунтоўную аснову для будучых твораў нашых гістарычных раманістаў. Да прыкладу, у кверэндах чытач сустрэнецца з адным з найбліжэйшых паплечнікаў Каліноўскага на пачатку паўстання Ахілам Банольдзі (між іншым, аўтарам славутага Кастусёвага фота), якога сябры не толькі за паходжанне, але і за артыстызм і тэмперамент клікалі Італьянцам. Змрочным прывідам з'явіцца здраднік Парфіяновіч, чым антыподам будзе «самая цудоўная і чыстая постаць паўстання» Фелікс Клюкоўскі.

Надзвычай важна, што ў кнізе — новы зварот да падзеяў паўстання, што 150 гадоў таму засведчыла еўрапейскі выбар найлепшых сыноў Літвы-Беларусі і сталася адпраўной кропкаю нараджэння сучаснай беларускай нацыі. Аўтар аднаўляе і даследуе падзеі паўстання ад Гарадзеншчыны да Магілёўшчыны, ад Мядзельшчыны да Піншчыны. Рэканструкцыя зробленая з непаўторным кісялёўскім багаццем фарбаў, нюансаў, дэталяў. Вусцішна робіцца, калі ўяўляеш, колькі тысяч ці дзясяткаў тысяч архіўных старонак (у тым ліку і з архіва сумна вядомага III аддзялення) павінны былі прашамацець у руках Генадзя Васілевіча, каб нарадзіўся сюжэт яшчэ адной ягонай кверэнды.

Думаецца, гэтая кніга будзе адным з найбольш важкіх адказаў тым сучасным «западнорусам» і аплочаным з імперскіх фондаў вялікадзяржаўнікам, якія, на радасць ценям царскіх катаў, дагаварыліся сёння да таго, што Каліноўскі з прыхільнікамі «ненавидели белорусский народ». Затое Мураўёў-вешальнік быў нашым «благодетелем». Калі чытаеш такое на старонках афіцыйнай прэсы, міжволі згадваеш радкі Алеся Дудара, аднаго з дваццаці двух беларускіх пісьменнікаў, расстраляных у тую самую трагічную для беларускай культуры ноч 29 кастрычніка 1937-га:

*О, ганьба, ганьба! Ў нашы дні*
*Такі разлом, туга такая!*
*І баяць байкі баюны*
*Северо-Западного края...*

*Плююць на сонца і на дзень.*
*О, дух наш вольны, дзе ты, дзе ты?*

*Ім мураўёўскі б гальштук ўздзець,*
*Нашчадкам мураўёўскім гэтым…*

Гісторыя мае безліч азначэнняў. Над старонкамі кнігі «Смак Беларушчыны» з памяці выплыла дэфініцыя знакамітага француза Жуля Мішле: «Гісторыя — гэта ўваскрашэнне». Здаецца, якраз яна найлепш пасуе да таго, што так таленавіта і апантана рабіў Генадзь Кісялёў.

Цяпер ён сам навекі далучыўся да сваіх сейбітаў вечнага. Да тых, хто стаяў ля вытокаў нацыянальнай ідэі, хто натхняўся ёю, хто вучыў беларусаў жыць у нацыянальных каардынатах — каб здзейсніцца. Хто ведаў адказ на пытанне, якое і ў XXI стагоддзі не страціла вострай надзённасці:

*Каго любіш?*

*Уладзімір Арлоў*



# РАДАВОДНАЕ ДРЭВА

## Каліноўскі — эпоха — наступнікі



# ВЕЧНАЕ ДРЭВА БЕЛАРУСІ
## Замест прадмовы

Гісторыкі — не садоўнікі і не батанікі. Раслiннае царства (скажам так — па-старадаўняму) звычайна цікавіць іх толькі як фон, на якім адбываюцца гістарычныя падзеі. Але і ў іх ёсць дрэва, якому яны аддаюць многа ўвагі, каля якога ім даводзіцца шмат хадзіць і завіхацца. Гэта дрэва радаводнае.

Адзін з першых радаводаў яшчэ ў той вячыстай Кнізе: Аўраам спарадзіў Ісаака, Ісаак — Якава і г. д. Якіх сто пяцьдзясят ці болей гадоў назад на Віцебшчыне любілі паслухаць таямнічы патрыятычны (напаўфальклорны?) «Радавод Беларускі», які выводзіў 24 «старшыя роды» ад легендарнага князя Боя і яго жонкі Вольгі: «Бойка, адзін сын Вольгі, радзіў Гацюка, Гацюк радзіў Караську, Караська Трасіту, а Трасіта Гусака і Пластуна…». Далей ішлі Воўк, Калышка, Сяўрук, Люрка, Глінка, Гласка, Хрыпка, Пятрушча, Віюк і іншыя не менш характэрныя і пракаветныя прозвішчы і мянушкі. «З усіх гэтых родаў толька восем пашлі ў шырокі свет, іскаць шчасця за Дзвіной, Няпром і Мяжой. Усе асталіся на роднай зямельцы, зрасліся з ёй, і, пакуль сонца будзіць грэць яе, яны будуць яе, родную, пахаць і скарадзіць».

Некалі сваё фамільнае дрэва меў кожны шляхецкі род. Ганаровае месца ў грамадстве займала генеалогія, навука, якая любоўна, да драбніц, вывучала гісторыю знатных родаў, разбірала хітраспляценні сваяцтва «па мячы ды па кудзелі».

Мне шмат давялося бачыць у архівах і старых кнігах радаводных, генеалагічных дрэў. Яны старанна вымалёўваліся мастакамі ў фарбах у выглядзе рэальнага дрэва: унізе, дзе карані, родапачынальнік, або пратапляста, а далей, галінкамі па паверхах кроны, нашчадкі, найперш па мячы — па мужчынскай лініі. Здаецца, вось-вось пачуеш пошум дрэва, галасы пакаленняў. Праўда, потым ужо рабіліся больш абстрактныя генеалагічныя дрэвы з квадрацікаў і кружкоў, злучаных паміж сабой тонкімі жылкамі мудрагелістых ліній. Тады часцей родапачынальнік змяшчаўся наверсе — дрэва як бы апракідвалася каранямі ўверх. Ідэя дрэва гублялася, але толькі знешне. Па сутнасці, у радаводным дрэве заўсёды захоўваліся характэрныя і для дрэва рэальнага гарызанталі і вертыкалі.



Цяпер гісторыкі росцяць, гадуюць, песцяць агульны радавод народа, хоць пра карысць і неабходнасць радаводаў для кожнай сям'і ўсё часцей піша наша прэса.

> Я — мужыцкі сын, і радаслоўная
> анідзе не значыцца мая,
> дзед і прадзед, а далей замглёная
> далячынь —
> стагоддзяў акіян.
>
> *А. Русецкі*

Гэтую тэму працягвае В. Вітка ў вершы «Спадчына», які цытаваўся нядаўна на ўстаноўчым сойме «Згуртавання беларускай шляхты» (аказваецца, ва ўзнаўленні старадаўніх традыцый ёсць свой дабратворны сэнс):

> Адтуль вяду я свой жыццёвы след
> І радаслоўную пішу спачатку,
> Бо на той свет з сабою цемнік-дзед
> Забраў і герб фамільны, і пячатку.

Народ старажытнейшы за любую арыстакратыю. «Калі б народ наш лепей помніў мінулае, калі б разумеў сэнс пошукаў так званай гістарычнай арыстакратыі свайго радаводу, як бы ён пасмяяўся з нашай пыхі, з таго, што мы ганарымся старажытным, трыста гадоў назад атрыманым гербам, ён, што тысячы год налічвае ў сваёй генеалогіі…» — пісаў яшчэ ў XIX стагоддзі вялікі дэмакрат-«нефармал» У. Сыракомля.

Тысячагадовае радаводнае дрэва Беларусі, беларускай культуры трывалае і разгалістае. Нібы неабхватны, прысадзісты, каржакаваты дуб недзе на ўскраіне зубрынай пушчы. Каля камля гэтага дрэва такія імёны, як Усяслаў Чарадзей і Рагнеда, Кірыл Тураўскі і Еўфрасіння Полацкая, Францыск Скарына і Васіль Цяпінскі. Магутныя вузлаватыя пабегі пусціла наша дрэва ў XIX стагоддзі, вельмі важным для духоўнай культуры ўсіх народаў, — Ян Чачот, Кастусь Каліноўскі, Дунін-Марцінкевіч, Багушэвіч. Новае стагоддзе дадало сюды залатыя імёны Янкі Купалы, Якуба Коласа, светлага юнака Максіма Багдановіча, дзясяткі іншых выдатных, нязгасных імён, кожнае з якіх складае славу і гонар народа.

Беларуса нельга ўявіць без лесу, без дрэва. І без песні ў гонар дрэва, якую, нібы духоўную эстафету, зноў і зноў падхопліваюць паэты розных пакаленняў. «Трымаюць Зямлю без падзвіжнікаў тых, без мудрага троса, жывымі рукамі карэнняў сваіх сасна і бяроза» (А. Куляшоў). «Хораша і смела ісці наперад, калі за спіною маеш такога сябра, як дрэва!» (Я. Сіпакоў). «І нават калі чалавек памірае, дрэва становіцца тым чаўном, у якім — разам з ім — ён выпраўляецца ў незваротнае вандраванне» (А. Разанаў). Дрэвы Беларусі здаўна парадніліся з Гісторыяй. Колькі сталёвых зубоў

паламалася ў нашых піл пасля вайны — глыбока ў целе тых трывушчых бяроз і сосен захраслі кулі і шурпатыя, з вострымі, ажно мароз па скуры, краямі снарадныя асколкі. Гэткія ж шрамы ёсць і на радаводным дрэве.

Успамінаюцца яшчэ гістарычныя паркі, што засталіся нам ад старых часоў (такіх старадаўніх культурных гнёздаў шмат на Беларусі — зямлі высокай цывілізацыі) або былі высаджаны ў гонар гістарычных падзей. Ёсць шанаваныя дрэвы, звязаныя з гістарычнымі дзеячамі і асобамі, — ліпа Дуніна-Марцінкевіча ў Люцінцы (праўда, ад яе застаўся адно магутны, несакрушальны пень), дуб Чачота ў Гродзенскай пушчы. Не, што ні кажы, усё-такі гісторыкі — таксама трохі садоўнікі. А быў у нашай гісторыі каралеўскі садоўнік Скарына, і ён жа першы садоўнік у Садзе Мудрасці. А Сімяон Полацкі вырошчваў дзіўныя мудрагелістыя кветкі барока ў «Вертаградзе мнагацветным». Трохі (а можа, і не трохі) садоўнікам — шукальнікам гармоніі ў прыродзе і грамадстве — быў мудры Багушэвіч, і яго Кушляны нездарма ўспамінаюцца ў кнігах па гісторыі беларускіх паркаў.

У трывалага дрэва гісторыі ёсць магутныя галіны, ёсць проста лісце. Усе разам яны ствараюць крону. Чым пышнейшая яна, тым багацейшы на духоўныя здабыткі народ. Пад гоман радаводнага дрэва думаеш пра вечнасць, пранікаешся гістарычным аптымізмам, верай у будучыню.

Зразумела, першы наш клопат — галоўныя галіны. Але і кожны найменшы атожылак шмат можа апавесці пра няспынны бег часу, векавечную плынь Хронаса, пра ўрокі мінулага, пра тое, «чым ёсць для народа ўпадак і хвала».

І яшчэ баліць і рупіць — як бы не пашкодзіць часам, не адламаць, не адсекчы лішне якую галіну, ужо не гаворачы пра тое, як было, напрыклад, у часы сталінскіх беззаконняў або ў вайну, калі злыя перуны безупынна білі ў дрэва жыцця, калі Дрэва Беларусі страціла ці не ўсю зялёную чупрыну, — выратавалі толькі ўчэпістыя карані, што схаваліся глыбока пад зямлёй. Ачомалася, адышло Дрэва, зноў зашумела сакавітым лісцем.

І зноў — абрынулася на яго атрутнае воблака Чарнобыля, ствараючы смяротную небяспеку для самога існавання народа, для яго генафонду… У жыцці і гісторыі вечна змагаюцца дабро і зло, святло і цемра. Поўнай мерай за вякі-стагоддзі спазнала гэта Беларусь. Ці не адсюль яшчэ спрадвечная спрэчка-пераклічка імёнаў — Русь Чорная, Белая.

Я доўга думаў над назвай гэтае кнігі. Спачатку падалося — нібыта нечага тут не хапае. А потым рашыў — няхай будзе проста «Радаводнае дрэва». Гэтая назва ўвабрала і сакрэты-таямніцы, і моц, і бугрыстыя вузлякі-шрамы, і гоман-пошум старадаўніх легенд і паданняў.

Няхай моцным будзе радаводнае дрэва нашай Беларусі, няхай гоніць па сваіх капілярах жывы, гаючы сок Гісторыі.



# КАЛІНОЎСКІ І БЕЛАРУСКАЯ КУЛЬТУРА[1]

…Кнігі Скарыны, Каліноўскага… і многія
іншыя кнігі свяшчэннага пісання нашага.

*Н. Гілевіч*

У 1949 годзе ў артыкуле «Трыццаць савецкіх год» Якуб Колас пісаў з гонарам за свой народ: «…здавён гаварылі нам чарнасоценцы ўсіх колераў і масцей: “Ні пра які беларускі народ не можа быць і гутаркі, бо ў беларусаў няма культурных традыцый”. Але ж дзясяткі тысяч курганоў стаяць на беларускай зямлі!.. Хіба падымаць народныя паўстанні, як рабілі Вашчыла, Гаркуша, Каліноўскі, і біць няпрошаных гасцей — гэта недастаткова культурная традыцыя?»[2].

Тут у вобразна-публіцыстычнай форме, у першым набліжэнні, намечана надзвычай цікавая, прынцыпова важная тэма пра сувязі Каліноўскага з нацыянальнымі гістарычнымі традыцыямі, з беларускай культурай. Разам з тым выказванне Я. Коласа сведчыць, што тады мы яшчэ досыць аднабакова разумелі гэтую праблему, не былі гатовыя да яе глыбокага вырашэння. Знакаміты «атаман мужыцкай праўды» паўстае тут пераважна як ваяр.

Сёння агульнапрызнана, што Кастусь Каліноўскі, палымяны рэвалюцыянер-дэмакрат, правадыр паўстання 1863 года ў Беларусі і Літве, быў адначасова буйным дзеячам нацыянальнай культуры. Яго імя выклікае самыя шырокія нацыянальна-культурныя асацыяцыі і становіцца ў гэтых адносінах у адзін шэраг з імёнамі Ф. Скарыны, В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча.

Каліноўскі — заканамерная з’ява, неабходнае звяно ў гісторыі вызваленчага руху і культуры Беларусі. Яго асоба і дзейнасць цесна звязаны з эпохай 60-х гадоў XIX стагоддзя, з глыбіннымі гістарычнымі працэсамі, што адбываліся ў той час у Беларусі, як і па ўсёй Расіі, а таксама ў суседніх краінах. Эпоха гэтая характарызавалася вострым крызісам самадзяржаўна-прыгонніцкага ладу, ростам капіталістычных адносін, палітычнай актывізацыяй народных мас, выразнымі прыкметамі нацыянальнай кансалідацыі.

[1] На аснове даклада на навуковай канферэнцыі на радзіме К. Каліноўскага (Гродна — Свіслацкі раён) у студзені 1988 г., прысвечанай 150-годдзю з дня нараджэння вялікага рэвалюцыянера і публіцыста.

[2] Колас Я. Зб. тв.: у 14 т. Т. 12. Мінск, 1976. С. 70.

Апошнія дзесяцігоддзі перад падзеннем прыгоннага права ў Беларусі рэзка ўзмацніўся сялянскі антыпамешчыцкі рух. Новымі хваляваннямі сяляне адказалі на абвяшчэнне рэформы 19 лютага 1861 года. Прыкметна вырасла цяга сялян да асветы, у тым ліку палітычнай. Сам Каліноўскі пісаў, што рост свядомасці народных мас адбываецца літаральна на вачах: «От яшчэ нядаўна гаварылі нашыя, што яны створаны для таго, каб служылі паншчыну і былі нявольнікамі, а гаварылі для таго, што нічога не ведалі і нічога меці не хацелі, а чы сягодня гэтак скажуць, калі ўжо ведаюць многа і многа хочуць?» (Мужыцкая праўда. № 3). Усё гэта былі прыкметы духоўнага адраджэння народа, які паступова ператвараўся ў нацыю.

Працэс фарміравання беларускай нацыі ўскладняўся многімі прычынамі, у прыватнасці тым, што пераважная большасць шляхты, наогул адукаваных пластоў, была да гэтага часу паланізавана. Тым не менш у XIX стагоддзі ўжо ясна бачыцца беларускі нацыянальна-культурны рух, узнікаюць і множацца спробы стварэння літаратуры і тэатра на занядбанай народнай мове. Надзвычай паказальна, што побач з выхадцамі з сялянства (П. Багрым, В. Каратынскі) і разначынцамі (Ф. Савіч), мабыць, яшчэ большую ролю ў гэтым руху на працягу XIX стагоддзя адыгрывалі выхадцы са шляхты, пераважна дробнай, а часам нават і буйной (А. Абуховіч, В. Савіч-Заблоцкі). Адбываецца як бы працэс вяртання лепшых прадстаўнікоў шляхты ва ўлонне свайго народа. І, вядома ж, у першую чаргу ў дадзенай сувязі ўспамінаецца К. Каліноўскі. Паходзячы са шляхецкай сям'і польскай культурнай арыентацыі, ён ішоў да працоўнага народа Беларусі праз свой рэвалюцыйна-дэмакратычны светапогляд, які грунтаваўся на непахіснай веры ў невычэрпныя творчыя сілы народа і поўным адмаўленні існуючага сацыяльна-палітычнага ладу, як нязгоднага з народнымі ўяўленнямі аб справядлівасці. Слушным будзе таксама сказаць, што Каліноўскі ішоў да рэвалюцыйнага дэмакратызму праз сваю блізкасць да народа, добрае веданне невыносных умоў яго жыцця, праз гарачае спачуванне народнай нядолі.

Будучы ў многіх адносінах паслядоўнікам рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў М. Г. Чарнышэўскага, М. А. Дабралюбава, А. І. Герцэна, Каліноўскі ўзяў таксама ўсё лепшае, што назапасіла перадавая польская грамадская думка, і высока ацэньваў, у прыватнасці, «вялікія філасафічныя, сучасныя ідэі польскай эміграцыі, што вітаюцца і ў Расіі»[3]. (Цікава, што і ў дадзеным выпадку для яго важнае апрабіраванне гэтых ідэй у Расіі — такая высокая аўтарытэтнасць для яго рускай грамадскай думкі.) Разам з тым першаступеннае значэнне для фарміравання светапогляду Каліноўскага мелі ўласныя беларускія традыцыі вызваленчай

[3] Ратч В. Сведения о польском мятеже 1863 г. в Северо-Западной России: Введение. Вильно, 1867. С. 108.



барацьбы (народныя паўстанні розных часоў, Ф. Савіч, Ю. Бакшанскі), непасрэдныя жыццёвыя назіранні і ўражанні, атрыманыя на радзіме і за яе межамі. Сын небагатага шляхціца, абцяжаранага вялікай сям'ёй, Каліноўскі з дзяцінства меў усе магчымасці добра пазнаёміцца з жыццём народа, увабраць у сябе ўсё багацце беларускай народнай культуры. Біёграфы адзначаюць: «Каліноўскі да 17-гадовага ўзросту жыў у беларускай вёсцы; з ёй не парываў сувязі і ў гады навучання ў Маскве і Пецярбурзе»[4]. Творчасць Каліноўскага з усёй несумненнасцю сведчыць, што ён выдатна валодаў народнаю моваю (гродзенскія гаворкі), да тонкасці ведаў фальклор, народныя звычаі, усе памкненні і спадзяванні народа. Падмечана: беларускія песні з Мастаўлянаў (родная вёска Каліноўскага) настолькі цікавыя, што яшчэ ў сярэдзіне XIX стагоддзя звярнулі ўвагу збіральнікаў народнай творчасці і трапілі ў фальклорныя зборнікі[5]. Важнейшы матэрыял для роздуму і супастаўленняў давала Кастусю таксама гісторыя. Мінулае свайго і суседніх народаў ён вывучаў не толькі па кнігах і іншых публікацыях (асабліва істотнымі для яго былі працы І. Лялевеля), але і непасрэдна па першакрыніцах. У Публічнай бібліятэцы ў Пецярбургу былі надзвычай багатыя зборы старадаўніх рукапісаў з гісторыі Беларусі, Літвы і Польшчы. Іх вывучэннем і перапіскай займаўся па заданні Віленскай археалагічнай камісіі старэйшы брат Кастуся Віктар. Ужо даўно вучоныя меркавалі, што гістарычныя пошукі Віктара былі блізкія і Кастусю. З публікацыі беларускага даследчыка М. Нікалаева (Літ. і мастацтва. 1985. 1 сак.) высветлілася, што Кастусь прымаў непасрэдны ўдзел у гэтай працы. Браты сабралі ў Пецярбургу добрую ўласную бібліятэку, дзе, мяркуючы па каталогу, была, напрыклад, кніга «Аб Заходняй Расіі» (Магілёў, 1793)[6]. Аўтар не ўказаны, але, несумненна, гэта надзвычай важная гісторыка-краязнаўчая праца С. Богуша-Сестранцэвіча (дзядзькі В. Дуніна-Марцінкевіча), у якой ішла размова аб паходжанні і гістарычнай еднасці беларусаў, украінцаў і рускіх. Думаецца, што Каліноўскі быў знаёмы не толькі з гістарычнымі, этнаграфічна-фалькларыстычнымі публікацыямі, але і з творамі першых нацыянальных пісьменнікаў, у першую чаргу — свайго сучасніка Дуніна-Марцінкевіча. Як бы там ні было, ён выразна адчуваў сваю непарыўную лучнасць з беларускім народам і яго культурай, усё свядомае жыццё выказваў вялікую прывязанасць да мовы беларускіх хацін, мовы «Тараса на Парнасе» і Дуніна-Марцінкевіча і нават у турме,

[4] Лушчыцкі І. Н. Нарысы па гісторыі грамадска-палітычнай і філасофскай думкі ў Беларусі ў другой палавіне XIX веку. Мінск, 1958. С. 177.

[5] Гл.: Шалькевич В. Ф. Кастусь Калиновский: Страницы биографии. Минск, 1988. С. 50–51.

[6] Гл.: Шалькевіч В. Бібліятэка Віктара Каліноўскага // Голас Радзімы. 1992. 5 сак.

напярэдадні пакарання смерцю, піша па-беларуску развітальныя пісьмы і вершаваныя радкі да народа, да каханай дзяўчыны. «Мой дарагі народзе», — звяртаўся ён да беларусаў. Матыў развітання вернага сына са сваім народам вар'іруецца, разгортваецца далей і ў вершы Каліноўскага, дзе Кастусь раскрыў нарэшце свой псеўданім «Яська-гаспадар з-пад Вільні», якім падпісвалася «Мужыцкая праўда». Якраз пад гэтым імем Каліноўскі быў найбольш вядомы народу як яго верны сябар і заступнік.

Передавы мысліцель, правадыр шырокага і грознага паўстання супраць царызму і прыгонніцтва на землях Беларусі і Літвы, Каліноўскі ўнёс велізарны ўклад у рэвалюцыйную тэорыю і практыку, у філасофскую і грамадска-палітычную думку свайго часу. Гісторыкі філасофіі і грамадскай думкі звязваюць з яго імем узнікненне ў Беларусі рэвалюцыйнага дэмакратызму як самастойнай ідэалагічнай плыні, «як пэўнай сістэмы ідэйных, светапоглядных прынцыпаў, што станавіліся асновай практычнага рэвалюцыйнага дзеяння»[7]. Вядомы гісторык У. А. Дзьякаў на храналагічна шырокім матэрыяле многіх краін прапануе перш за ўсё тры агульныя крытэрыі, якія вызначаюць рэвалюцыйную дэмакратыю наогул: «Гэта, па-першае, бескампрамісная рэвалюцыйнасць, г. зн. гатоўнасць змагацца супраць сацыяльнага, нацыянальнага і рэлігійнага прыгнёту любымі, у тым ліку насільнымі сродкамі; па-другое, шчыры і глыбокі дэмакратызм, які праяўляецца ў паслядоўнай і самаахвярнай абароне інтарэсаў працоўных мас; па-трэцяе, вера ў неабходнасць сацыялістычнай перабудовы грамадства, як правіла, на аснове ўтапічных, але часам і навуковых тэорый». Прапануецца і чацвёртая тыповая прыкмета — «больш-менш выразна выказаная арыентацыя на міжнацыянальныя рэвалюцыйныя кантакты»[8]. Несумненна, што Каліноўскі з дастатковай паўнатой і паслядоўнасцю ўвасобіў у сваёй дзейнасці і творчасці ўсе гэтыя рысы. У пэўнай меры ён можа служыць нават своеасаблівым эталонам у гэтых адносінах. Хаця некаторыя бакі светапогляду рэвалюцыянера (напрыклад, адносіны да рэлігіі, да сацыялізму) з неабходнай глыбінёй яшчэ не вывучаліся.

Гераічная дзейнасць і палымяная публіцыстыка Каліноўскага засведчылі надыход у Беларусі эпохі сялянскай дэмакратыі. Уся сістэма яго поглядаў выражала карэнныя інтарэсы працоўных мас, сялянства. Менавіта з гэтага пункту погляду ацэньваў ён усе грамадскія з'явы, заклікаючы сялян на барацьбу з самадзяржаўем і прыгонніцтвам, на змаганне за «мужыцкую праўду», за «вольнасць, якой не было нашым

[7] Майхрович А. С. Белорусские революционные демократы: Важнейшие аспекты мировоззрения. Минск, 1977. С. 20.

[8] Дьяков В. А. Некоторые теоретико-методологические вопросы истории революционного демократизма XIX и XX вв. // Новая и новейшая история. 1987. № 3. С. 153.



дзядам да бацькам». Шлях да свабоды Каліноўскі бачыў у добра падрыхтаваным і арганізаваным народным паўстанні, у дружным націску на царызм дэмакратычных сіл усіх народаў.

Галоўным пытаннем эпохі было пытанне зямлі і волі. Каліноўскі вырашаў яго надзвычай радыкальна: скінуць цара, адняць зямлю ў памешчыкаў і аддаць тым, хто яе спрадвеку абрабляе, устанавіць дэмакратычныя парадкі, забяспечыўшы тым самым і свабоднае нацыянальнае развіццё. Гэта была ў вышэйшай ступені прагрэсіўная праграма. Праўда, Каліноўскаму і яго аднадумцам здавалася, што з перамогай сялянскай рэвалюцыі адразу запануе «справядлівая свабода», установіцца грамадства без прыгнёту і эксплуатацыі. У гэтай частцы погляды сялянскіх дэмакратаў былі ўтапічныя. Тым не менш рэвалюцыйны дэмакратызм быў натуральным і надзвычай плённым этапам на шляху сацыяльнага прагрэсу народаў.

Каліноўскі — роданачальнік сялянскай дэмакратыі Беларусі. А паколькі рэвалюцыйны дэмакратызм на многія дзесяцігоддзі быў адной з галоўных ідэйных асноў усёй беларускай дэмакратычнай культуры, гэта і вызначае велізарную, фундаментальную ролю Каліноўскага не толькі ў гісторыі філасофскай і грамадска-палітычнай думкі, але і ўсёй культуры Беларусі. Слушна пісаў у свой час І. Лушчыцкі: «Яго [Каліноўскага] аб'ядноўвае з беларускім народам у адну нацыю не толькі агульнасць мовы, але і агульнасць культуры. Больш таго, Кастусь Каліноўскі быў адным з выдатных стваральнікаў беларускай рэвалюцыйна-дэмакратычнай культуры».

Водбліск генія Каліноўскага можна заўважыць у многіх галінах культуры і сферах духоўнага жыцця. Скажам, у яго ёсць толькі некалькі кароткіх непасрэдных выказванняў, якія датычаць народнай асветы. Але і тут Каліноўскі паўстае перад намі рэвалюцыянерам-наватарам. Выступаючы за школы на роднай мове, а галоўнае, звязваючы пытанні асветы і адукацыі з палітычнымі пытаннямі — з неабходнасцю папярэдняга вызвалення ад самадзяржаўя, ён не мог не ўплываць самым істотным чынам на станаўленне нацыянальнай дэмакратычнай педагагічнай думкі[9].

Адметнасцю пазначаны гістарычныя і прававыя погляды Каліноўскага. Ён умеў вылучыць у гісторыі значэнне пераломных эпох, перадавых дзеячаў (Т. Касцюшка) і прагрэсіўных юрыдычных актаў (Канстытуцыя 3 мая 1791 года, Паланецкі ўніверсал)[10].

[9] Гл.: Трухан А. З позіркам у будучыню: Рэвалюцыйна-дэмакратычныя педагагічныя ідэі Кастуся Каліноўскага // Полымя. 1969. № 2.

[10] Гл.: Перцаў У. М. Гістарычная думка ў Беларусі ў XIX — пачатку XX ст. // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1957. № 2; Шалькевіч В. Ф. Ацэнкі Канстытуцыі 3 мая 1791 года ў грамадска-палітычнай думцы Беларусі XIX стагоддзя // Веснік БДУ. Сер. 3. 1991. № 3.

Нельга не адзначыць яго вялікі ўплыў на беларускую літаратуру, якая была сапраўдным стрыжнем усёй нацыянальнай культуры. Перш за ўсё вылучым аспект ідэйна-эстэтычны. Усёй сістэмай сваіх поглядаў, як і сваёй творчай практыкай, Каліноўскі сцвярджаў народнасць і рэалізм у літаратуры і мастацтве, адстойваў высокія эстэтычныя прынцыпы, уплываў на станаўленне беларускай рэвалюцыйна-дэмакратычнай эстэтыкі, якая панесла далей абвешчаныя ім высакародныя, гераічныя ідэалы служэння народу і барацьбы за свабоду[11].

Надзвычай каштоўны і асабісты літаратурны вопыт Каліноўскага. Правадыр паўстання, непараўнаны канспіратар-падпольшчык, Каліноўскі, несумненна, меў значны літаратурны талент. Пэўны літаратурны бляск відаць нават у дзелавых паперах і некаторых іншых матэрыялах, напісаных ім па-руску або па-польску. Але ў поўнай меры талент Каліноўскага праявіўся ў творах на беларускай мове. Кастусь Каліноўскі ўвайшоў у гісторыю беларускай літаратуры і журналістыкі як першапраходзец-наватар[12]. Выпушчаныя ім у неверагодна цяжкіх умовах сем нумароў «Мужыцкай праўды» слушна лічацца першай беларускай газетай, далі пачатак нацыянальнай дэмакратычнай прэсе. Гэты гістарычны акт усведамляўся Каліноўскім досыць выразна. «Друкаванае слова было заўсёды яго слабасцю, ён прыпісваў яму нейкае асаблівае значэнне»[13], — успамінаюць сучаснікі. У «Мужыцкай праўдзе», «Пісьмах з-пад шыбеніцы», іншых зваротах да народа Каліноўскі выступіў як бліскучы публіцыст, якога з поўным правам можна лічыць першым класікам баявой беларускай публіцыстыкі новага часу. Калі публіцыстыка — «гісторыя сучаснасці», то Каліноўскі быў самым пільным летапісцам сваёй эпохі. Ён любіў нават дакладныя храналагічныя паметкі: «Шэсць лет ужэ мінула…», «Два рокі ўжэ таму…», «Ронд Польскі ўжо таму будзе 70 лет…», «Ждалі мы доўга, аж нарэшці тры лет таму…». Але галоўным для яго быў праблемны разрэз грамадскага жыцця. Сялянская рэформа, дзяржаўная структура і механізм прыгнёту, рэкрутчына, няправедны суд — усё здолеў ён ахапіць, усяму даць ацэнку, нічога не дараваў царызму і панству. Ён па-майстэрску карыстаўся народнымі гаворкамі, усім багатым арсеналам публіцыстычна-мастацкага ўздзеяння на чытача і слухача (публіцыстыка Каліноўскага была разлічана на калектыўнае чытанне, бо сярод сялян, якім яна адрасавалася, было шмат непісьменных).

[11] Гл.: Заркова Г. Л. К. Каліноўскі і развіццё беларускай рэвалюцыйна-дэмакратычнай эстэтыкі // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1985. № 5.

[12] Гл.: Александровіч С. Х. Пуцявіны роднага слова. Мінск, 1971; История белорусской дооктябрьской литературы. Мінск, 1977; Булацкі Р. В., Сачанка І. І., Говін С. В. Гісторыя беларускай журналістыкі. Мінск, 1979.

[13] Дзярж. публічная б-ка (ДПБ) у С.-Пецярбургу. Ф. 629. Спр. 281. Арк. 14.



Каліноўскі развіў і ўзняў на новую вышыню жанр прамоўніцкай прозы, папулярны ў народзе жанр гутарак, апладніўшы іх новым рэвалюцыйна-дэмакратычным зместам. Яго слова трапяткое, жывое, фарбы разнастайныя: іронія, сарказм, рытарычнае пытанне, трапнае параўнанне, фальклорная сімволіка, грубаваты народны жарт. І раптам — мяккія, амаль пяшчотныя тоны: «Працуе бацька цяжка на дзецеткі свае, гадуе маці сына, ночанькі не спіць…» (Мужыцкая праўда, № 5). Гэта гучыць ужо як фрагмент апавядання. Нездарма шмат цікавага для сябе знаходзяць у творчасці Каліноўскага і гісторыкі беларускай мастацкай прозы[14]. «Выключная, можна сказаць, вызначальная роля ў станаўленні беларускай прозы, выпрацоўцы яе першапачатковых форм і традыцый належыць рэвалюцыйным адозвам К. Каліноўскага»[15], — сцвярджае М. Грынчык. Элемент пэўнай літаратурнай умоўнасці заключаўся ўжо ў тым, што публіцыстычныя творы Каліноўскага зыходзілі як бы ад іншай асобы — Яські-гаспадара. Каліноўскаму даводзілася срodкамі маналогу ляпіць гэты вобраз передавога селяніна свайго часу, вострага на слова, які ўжо добра разбіраецца ў многіх складанасцях свету і можа «вучыць сваёй мужыцкай праўды». Гэта яшчэ больш узмацняе ўражанне ад публіцыстыкі Каліноўскага як ад мастацкай прозы.

Разам з тым публіцыстыка гэтая мае пэўныя ўнутраныя сувязі і з паэзіяй. Яна эканомная, страсная, своеасаблíва рытмізаваная. М. Ларчанка не без падставы параўноўваў публіцыстычныя звароты Каліноўскага з вершамі ў прозе[16]. Словам, ад гэтай публіцыстыкі адзін крок да паэзіі. І Каліноўскі яго зрабіў у вершы «Марыська, чарнаброва галубка мая…», які састаўной часткай уваходзіць у «Пісьмы з-пад шыбеніцы». Пры ўсёй вонкавай цяжкаватасці (а можа, некаторая цяжкаватасць дадае яму важкасці) гэта здзіўляльна магутны твор, які ўражвае арганічнай з'яднанасцю інтымных пачуццяў да каханай дзяўчыны з грамадзянскімі зваротамі да ўсяго народа. Перад намі высокі ўзор беларускай грамадзянскай лірыкі XIX стагоддзя, які займае годнае месца ва ўсіх анталогіях нацыянальнай паэзіі.

Узбагачаючы родную літаратуру ў ідэйных і жанравых адносінах, Каліноўскі смела ўводзіў у свае творы новыя паняцці і лексемы, чым істотна спрыяў развіццю нацыянальнай літаратурнай мовы. Нашы лінгвісты заўважылі: «У Каліноўскага сустракаем вялікую колькасць выразаў (словазлучэнняў), якіх раней у беларускай пісьменнасці не было і якія абумоўлены сацыяльнай, рэвалюцыйнай накіраванасцю яго твораў: *адняць свабоду, бараніць бацькаўшчыну, братні народ, братняя роўнасць,*

[14] Гл.: Хромчанка К. Р. Беларуская мастацкая проза (канец XIX — пачатак XX ст.). Мінск, 1979.

[15] Грынчык М. Ад Каліноўскага да Коласа // Полымя. 1980. № 8. С. 246.

[16] Гл.: Ларчанка М. Па шляху рэалізму. Мінск, 1959. С. 47.

*вольнасць праўдзівая, выказацца за вольнасць, глуміцель народа, глум народа, гнаць у Сібір, даць мужыкам вольнасць, даць самарондства* [самакіраванне], *дзела вольнасці, дабро народнае, душа рабочая, запісаць кроўю, згінуць за праўду, здабыць свабоду, не даць загінуць праўдзе і справядлівасці, ісці за праўду і справядлівасць, казённыя мужыкі, казацкая нагайка, мужык нявольны, мужыцкая свабода, народны дух, народнае сумленне, паўстанне ажыўляе народ, прызнаць права самаабароны, сіла народа, як сумленне кажа, сумленне народнае, служыць дзелу, слова пяройдзе ў дзела, сходкі людзей выбраных, туманіць розум, гнуцца перад кнутом, чалавечае і народнае права, царскія псярні»*[17]. Нават вырваныя з кантэксту, гэтыя словы працягваюць жыць, будзяць думку, пякуць, заклікаюць. У творах Каліноўскага беларуская мова апрабіравала многія новыя словы, звязаныя з грамадска-палітычным жыццём, словы з адцягненым значэннем, яе сінтаксіс узбагаціўся складанымі сказамі (Каліноўскаму ж увесь час даводзілася агітаваць, пераконваць, выстройваць ланцужок аргументацыі).

Паўстанне 1863 года было разгромлена, сам правадыр загінуў на віселыні, але яго ідэі засталіся жыць у народзе, каб праз гады азвацца і набыць жыццё ў творах беларускіх пісьменнікаў новых пакаленняў.

У гістарычнай перспектыве ідэі і творчасць Каліноўскага на многія дзесяцігоддзі прадвызначылі ідэйна-эстэтычны кірунак беларускай дэмакратычнай літаратуры. Непасрэдную пераклічку, далейшае развіццё ідэй і вобразаў Каліноўскага мы знойдзем у творчасці Ф. Багушэвіча, А. Гурыновіча, Я. Купалы, Я. Коласа, Цёткі, А. Гаруна. Дабратворнае ўздзеянне рэвалюцыйна-дэмакратычнай эстэтыкі адчуў у сталых сваіх творах і В. Дунін-Марцінкевіч[18]. Запавет Каліноўскага беларускаму народу — «ваяваць за сваё чалавечае права» — ажыве потым у паэтычна-праграмных формулах яго ідэйных пераемнікаў — «людзьмі звацца», «заняць пачэсны пасад між народамі». І справа тут не толькі, а можа, і не столькі ў непасрэдных запазычаннях (хоць вядома, напрыклад, што «Мужыцкая праўда» пашыралася ў Багушэвічавых Кушлянах, а сам Багушэвіч быў паўстанцам; Янка Купала сустракаўся з паплечнікам Каліноўскага З. Чаховічам і знаёміўся ў яго са свабодалюбнай літаратурай паўстання), а перш за ўсё ў тым, што і Багушэвіч, і Купала, і Колас вырашалі ў прынцыпе тыя ж задачы, якія стаялі і перад Каліноўскім. Яны ў новых умовах працягвалі рэвалюцыйна-дэмакратычную лінію ў беларускай літаратуры і культуры, лінію Каліноўскага.

[17] Крамко І. І., Юрэвіч А. К., Яновіч А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 2. Мінск, 1968. С. 68–69.

[18] Гл.: Навуменка І. Я. Пісьменнікі-дэмакраты. Мінск, 1967. С. 55, 65.



Кожны этап рэвалюцыйнага дэмакратызму ў літаратуры меў свае асаблівасці. Багушэвіч у жывых мастацкіх вобразах канкрэтызаваў сацыяльную крытыку Каліноўскага, больш акрэсленае выражэнне ў яго атрымаў нацыянальны момант. Разам з тым у яго няма прамых заклікаў да рэвалюцыйнага дзеяння, якія мы бачым у Каліноўскага: у часы Багушэвіча не было непасрэднай рэвалюцыйнай сітуацыі і звязанага з ёй шырокага руху народных мас. У эпоху імперыялізму рэвалюцыйны дэмакратызм узбагаціўся новымі рысамі, судакрануўшыся з рабочым рухам, з марксізмам. Магутныя крылы творчасці Я. Купалы і Я. Коласа дала першая расійская рэвалюцыя 1905–1907 гадоў. Яна напоўніла іх творы верай у блізкую перамогу, дазволіла ім злучыць сацыяльны крытыцызм Багушэвіча з трыбуннасцю Каліноўскага і паэтызацыяй стваральнай моцы народа.

Сувязь Каліноўскага са сваімі ідэйнымі наступнікамі нельга ўяўляць занадта прасталінейна. На пасмяротным шляху Каліноўскага да свайго народа былі немалыя перашкоды і складанасці, бо беларускі народ страціў у паўстанні 1863 года цвет сваёй інтэлігенцыі і мусіў некалькі дзесяцігоддзяў зноў назапашваць культурныя сілы. У гэтым бачыцца мне глыбокі падспудны сэнс радкоў У. Караткевіча з верша «Нявесце Каліноўскага»: «Дарагая, ты стала ўдавою, / Не пабачыўшы жаніха». Каліноўскага помнілі перш за ўсё як героя паўстання 1863 года, а нацыянальна-беларускі аспект яго дзейнасці доўгі час аставаўся як бы ў цяні. І, вядома ж, гэта залежала ў першую чаргу ад самога ўзроўню развіцця нацыянальнага руху беларускага народа (не адразу ў новы час была ў належнай меры засвоена, падхоплена намі і спадчына Ф. Скарыны). Пра Каліноўскага як дзеяча беларускай культуры былі хіба асобныя згадкі. Гістарычна выверанай ацэнцы Каліноўскага замінаў пашыраны ў свой час погляд на паўстанне 1863 года ў Беларусі як на акцыю выключна польска-шляхецкую, дзе беларускі народ выступаў, хутчэй, у ролі аб'екта, а не суб'екта гісторыі. Адпаведным чынам прачытваліся ў такім выпадку і публіцыстычныя дакументы Каліноўскага[19]. У 1915 годзе праніклівы Максім Багдановіч прыгадаў Каліноўскага ў нарысе «Белорусское возрождение», нібы «прымерыўшы» яго постаць да кантэксту беларускай нацыянальна-культурнай гісторыі.

Сама эпоха вялікіх грамадскіх узрушэнняў стымулявала ўвагу да такіх дакументаў, як «Мужыцкая праўда» і «Пісьмы з-пад шыбеніцы»[20].

Ва ўсёй велічы постаць Каліноўскага паўстала перад намі ў паслярэвалюцыйны час. Гэтаму спрыяла паступовая выпрацоўка навуковага погляду на паўстанне 1863 года як на заканамерную падзею сацыяльна-палітычнай гісторыі Беларусі, звязаную не толькі з паўстаннем у Польшчы, але і з агульнай рэвалюцыйнай сітуацыяй у Расіі. Велічная постаць

[19] Гл.: Карский Е. Ф. Белорусы. Т. 1. Варшава, 1903. С. 443; Т. 3. Вып. 3. Пг., 1922. С. 84.

[20] Гл.: Каханоўскі Г. Адчыніся, таямніца часу. Мінск, 1984. С. 49.

Каліноўскага была даследавана ў кантэксце праблемы фарміравання беларускай нацыі і пастаўлена ў шэраг пачынальнікаў беларускай літаратуры новага часу (працы У. Перцава, В. Барысенкі, М. Ларчанкі, І. Лушчыцкага, А. Смірнова, М. Цікоцкага і інш.).

Нарэшце, тэма «Каліноўскі і беларуская культура» мае яшчэ адзін аспект. Высакародны вобраз і самаахвярная дзейнасць Кастуся Каліноўскага маюць вялікую прыцягальную сілу і на працягу многіх дзесяцігоддзяў служаць магутным імпульсам і самым удзячным матэрыялам для ўвасаблення ў беларускай літаратуры і мастацтве гераічнай гісторыка-рэвалюцыйнай тэмы. У літаратуры створаны такія шэдэўры, як паэмы Максіма Танка «Каліноўскі», Аркадзя Куляшова «Хамуціус», балада Петруся Броўкі «Кастусь Каліноўскі», раман Уладзіміра Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім» і яго трагедыя «Кастусь Каліноўскі. Смерць і неўміручасць». Прысвечаныя Каліноўскаму паэтычныя і празаічныя творы напісалі М. Лужанін, М. Машара, В. Вітка, А. Якімовіч, А. Лойка, А. Мальдзіс, Я. Сіпакоў і многія іншыя пісьменнікі.

Да вобраза Каліноўскага часта звяртаюцца, знаходзяць тут крыніцу натхнення і майстры мастацтва. Сапраўднай падзеяй у культурным жыцці рэспублікі быў спектакль, пастаўлены ў 1923 годзе БДТ-1 па гістарычнай драме Е. Міровіча «Кастусь Каліноўскі» (рэжысёр Міровіч, галоўную ролю натхнёна сыграў Уладзімір Крыловіч). У наш час цікавыя спектаклі па прысвечаных Каліноўскаму творах паказалі акадэмічны Тэатр імя Я. Коласа (па п'есе У. Караткевіча), Брэсцкі абласны драматычны тэатр (па паэме А. Куляшова). Адным з першых яскравых здабыткаў беларускага мастацкага кіно быў гісторыка-рэвалюцыйны фільм «Кастусь Каліноўскі», створаны Беларускай кінастудыяй у 1928 годзе сумесна з ленінградскай фабрыкай «Совкино» (сцэнарый і рэжысура У. Гардзіна, у ролі Каліноўскага — М. Сіманаў). Пра Каліноўскага створаны опера (музыка Д. Лукаса, лібрэта М. Клімковіча, пастаўлена ў 1947 годзе акадэмічным Тэатрам оперы і балета БССР, партыю Каліноўскага выконвалі М. Ворвулеў, М. Сярдобаў), балет (музыка А. Янчанкі). Над увасабленнем гераічнага вобраза Каліноўскага плённа працавалі ў розныя часы майстры беларускага выяўленчага мастацтва: скульптары А. Грубэ, З. Азгур, С. Селіханаў, Л. Гумілеўскі, жывапісцы В. Волкаў, П. Сергіевіч, А. Гугель і Р. Кудрэвіч, Л. Шчамялёў, Л. Дударанка, графікі С. Герус, М. Купава і многія іншыя[21].

Уплыў К. Каліноўскага, яго ідэй і дзейнасці, яго гераічнага вобраза на ўсю беларускую культуру велізарны, разнастайны і няспынны.

[21] Гл.: Вобраз К. Каліноўскага ў літаратуры і мастацтве / скл. А. Белы. Мінск, 1988; Минин С. Н. К. Калиновский в литературе и изобразительном искусстве // Сопоставительное литературоведение: подходы, критерии, опыт. Витебск, 1990.



# ...І ЛІТВА

Першым свядома ўзяў беларускі і літоўскі крыжы на свае плечы Кастусь Каліноўскі.

*А. Мальдзіс*

Першы варыянт гэтага артыкула напісаны (сумесна з Я. Разаўскасам) вельмі даўно — да стагоддзя паўстання 1863 года. Я жыў тады ў ахутаным смугою рамантычных паданняў Вільнюсе, старажытнай Вільні, штодзень (так ужо сталася) хадзіў на працу акурат па вуліцы Каліноўскага. Тады ў Польшчы і ў нас выйшлі з друку шматлікія даследаванні, зборнікі артыкулаў і матэрыялаў, прысвечаныя кардынальным праблемам паўстання — яго класавай сутнасці, ролі ў ім народных мас, інтэрнацыянальным сувязям паўстанцаў. Навуковымі ўстановамі Беларусі, Літвы, Масквы і Польшчы былі падрыхтаваны сумесныя капітальныя зборнікі дакументаў «Революционный подъем в Литве и Белоруссии в 1861–1862 гг.» (М., 1964), «Восстание в Литве и Белорусии 1863–1864 гг.» (М., 1965) і інш. Мне пашчасціла прымаць ва ўсім гэтым самы непасрэдны ўдзел.

У выніку франтальнага абследавання савецкіх і польскіх архіваў былі выяўлены тысячы дакументаў, якія дазволілі па-новаму ўявіць многія пытанні рэвалюцыйнай сітуацыі і паўстання ў Літве і Беларусі, больш глыбока і ўсебакова раскрыць гістарычнае значэнне дзейнасці правадыроў паўстання — рэвалюцыйных дэмакратаў К. Каліноўскага, А. Мацкявічуса, З. Серакоўскага і інш. Знойдзеныя дакументы, а таксама працы гісторыкаў І. Лушчыцкага, А. Смірнова, Ю. Жугжды, С. Лазуткі, В. Кардовіча, К. Канкалеўскага і іншых адыгралі вялікую ролю ў раскрыцці рэвалюцыйнага светапогляду Каліноўскага, яго значэння ў гісторыі рэвалюцыйнага руху і грамадскай думкі Беларусі і Літвы.

Не паўтараючы сказанага, адзначым, што Каліноўскі — вялікі сын Беларусі, выдатны дзеяч беларускай культуры — меў самыя цесныя сувязі з вызваленчым рухам, грамадскай думкай і культурай Літвы, Польшчы, Расіі, іншых народаў. Тэмы «Каліноўскі і Польшча», «Каліноўскі і Літва», «Каліноўскі і Расія», «Каліноўскі і Украіна» чакаюць яшчэ манаграфічных даследаванняў. Кожная з гэтых шматзначных паралеляў мае свае асаблівасці. Гэта сувязі на якасна розных узроўнях

(ад тыпалогіі да самай цеснай знітаванасці). Асабліва моцна праз Каліноўскага Беларусь яднаецца з Польшчай і Літвой.

Без перабольшання можна сказаць, што жыццё і барацьба Каліноўскага неаддзельныя ад Літвы. У тыя часы Літвой называлі не толькі этнаграфічную Літву, але і Беларусь, асабліва заходнюю яе частку, якая побач з літоўскімі землямі складала некалі ядро магутнага Вялікага Княства Літоўскага. У такім шырокім значэнні нярэдка ўжывалася гэтая назва і Каліноўскім. Для яго гэта была не толькі даніна гістарычнай традыцыі, але і глыбокае разуменне агульнасці гістарычных лёсаў беларускага і літоўскага народаў. У сярэдзіне XIX стагоддзя беларусы і літоўцы знаходзіліся, калі зірнуць шырока, у аднолькавым ці амаль аднолькавым становішчы. Руйнавалася прыгонніцтва, і народы Літвы і Беларусі распроствалі плечы, скаваныя путамі сярэднявечча. Перамагалі новыя, прагрэсіўныя ў параўнанні з феадальнымі, вытворчыя адносіны, вырастала грамадска-палітычная актыўнасць народных мас. Ішоў працэс фарміравання літоўскай і беларускай нацый, складваліся нацыянальныя культуры, ствараліся літоўская і беларуская літаратуры новага часу. У сваёй справядлівай барацьбе супраць царызму і памешчыкаў, за нацыянальную культуру беларусы і літоўцы знаходзілі падтрымку ў перадавых сілах рускага і польскага народаў. Побач са сваім сучаснікам — выдатным літоўскім рэвалюцыянерам-дэмакратам Антанасам Мацкявічусам — Каліноўскі выказваў запаветныя спадзяванні літоўскага народа. Яго рэвалюцыйная тэорыя, складваючыся пад дабратворным уплывам ідэй лепшых прадстаўнікоў рэвалюцыйнай Польшчы і рускай рэвалюцыйнай дэмакратыі, насіла шмат у чым самастойны характар, паколькі адлюстроўвала спецыфічныя асаблівасці сацыяльна-эканамічнага ладу і палітычнага становішча Беларусі і Літвы.

Вытокам рэвалюцыйнай тэорыі Каліноўскага з'яўляўся досыць магутны сялянскі антыпамешчыцкі рух, які разгарнуўся ў Літве і Беларусі, як і па ўсёй краіне, напярэдадні і пасля адмены прыгоннага права, вера ў стваральныя сілы народа.

Ён пільна сачыў за барацьбой сялян і абапіраўся на факты гэтай барацьбы ў спрэчках са шляхецкімі рэвалюцыянерамі, што складалі правае крыло «чырвоных». У прыватнасці, Каліноўскі высока ацэньваў размах сялянскага руху і падрыхтаванасць да паўстання сялян Жэмайціі (інакш — у славянскіх крыніцах — Жамойць, Жмудзь). У адной параўнальна нядаўна выяўленай архіўнай крыніцы расказваецца аб спрэчках Каліноўскага з членам Літоўскага камітэта «чырвоных» Л. Звяждоўскім яшчэ задоўга да выбуху паўстання. У далейшым Звяждоўскі займаў даволі паслядоўна рэвалюцыйную пазіцыю па ўсіх



галоўных пытаннях паўстанчай практыкі, але спярша, відаць, лічыў адзінай актыўнай сілай шляхту і недаацэньваў рэвалюцыйную магутнасць сялянства. Пры гэтым, — гаворыцца ў рукапісе, — ён «забыў пра Жмудзь, што яму Каліноўскі і заўважыў»[22]. І сапраўды, у 1863 годзе Жэмайція дала найбольшую колькасць сялян-паўстанцаў.

У аснове сацыяльнай тэорыі Каліноўскага ляжала патрабаванне знішчэння прывілеяў дваранства і ліквідацыі памешчыцкага землеўладання. Адзіным сродкам выйсця з вострага грамадскага крызісу, што склаўся ў Літве і Беларусі, Каліноўскі лічыў сялянскае паўстанне. Неабходнай умовай для падрыхтоўкі і здзяйснення такога паўстання, на яго думку, была сялянская рэвалюцыйная арганізацыя. Над стварэннем такой арганізацыі на Гродзеншчыне працавалі Каліноўскі і яго аднадумец, выдатны рэвалюцыянер Валерый Урублеўскі. Такую ж працу сярод сялян Літвы-Жэмайціі праводзіў А. Мацкявічус.

Рэвалюцыйная тэорыя Каліноўскага складвалася ў барацьбе са шляхецкай ідэалогіяй, якая была яшчэ вельмі моцная ў гэты перыяд у Польшчы, Літве і Беларусі. Многія шляхецкія рэвалюцыянеры, ужо не гаворачы пра памешчыкаў-«белых», марылі аб узнаўленні Рэчы Паспалітай у межах 1772 года, зусім не лічачыся з новымі гістарычнымі рэаліямі. Польшча, Літва і Беларусь уяўляліся ім адным цэлым, таму што і пад Мінскам, і пад Коўнам-Каўнасам, і пад Варшавай памешчыкі і дваране гаварылі на адной і той жа мове. Народ бачыўся ліберальным памешчыкам, ды і шляхецкім рэвалюцыянерам, пакуль што цёмнай безгалосай масай. Значэнне Каліноўскага ў гісторыі Беларусі і Літвы заключаецца, у прыватнасці, у тым, што ён адным з першых у новых умовах на ўвесь голас заявіў пра беспадстаўнасць старой трактоўкі нацыянальнага пытання на землях былой Рэчы Паспалітай. Пастаноўка Каліноўскім нацыянальнага пытання арганічна вынікала з усёй ягонай рэвалюцыйнай тэорыі. Каліноўскі скідваў з рахункаў гісторыі «гэтую гнілую, разбэшчаную касту, якую называюць дваранствам»[23]. Заставаўся толькі народ, які і павінен быў вырашаць будучы лёс Польшчы, Літвы і Беларусі. Адстойваючы права беларускага і літоўскага народаў на самавызначэнне, Каліноўскі адначасова змагаўся за рэвалюцыйны саюз народаў Беларусі, Літвы, Польшчы і Расіі ў барацьбе супраць царызму і прыгонніцтва. Але гэта быў саюз працоўных супраць эксплуататараў. Неабходнасць цеснай сувязі паўстання ў Літве і Беларусі з польскім нацыянальна-вызваленчым рухам і наспелай сялянскай рэвалюцыяй у Расіі — адно з самых важных праграмных палажэнняў Каліноўскага.

[22] ДПБ. Ф. 629. Спр. 42. Арк. 6 (рукапісны фрагмент «Сведений» В. Ратча).

[23] Дзяржаўны гістарычны музей у Маскве. Ф. 381. Спр. 13. Арк. 178 адв.

У агні паўстання гінулі не толькі рэвалюцыянеры, гінулі таксама шматлікія дакументы, неацэнныя ўнікальныя гістарычныя сведчанні-памяткі часу. Цяпер нярэдка мы вымушаны карыстацца тым, што пажадалі захаваць у сваіх архівах царскія ўлады, што пашкадаваў бязлітасны час. Тым даражэйшы для нас кожны новы радок пра ідэі, што натхнялі паўстанцаў 1863 года. Афіцыйны гістарыёграф паўстання царскі генерал Ратч, які карыстаўся крыніцамі, што не дайшлі да нас, паведамляе ў сваіх неапублікаваных запісах, што Каліноўскі першы паставіў нацыянальнае пытанне ў Літоўскім камітэце. Абгрунтоўваючы неабходнасць саюзу з польскім народам, Каліноўскі ў той жа час улічваў палітычную неаднароднасць польскага вызваленчага руху і змагаўся за захаванне рэвалюцыянерамі Літвы і Беларусі самастойных пазіцый. У арганізацыйных адносінах гэта вылілася ў патрабаванне поўнай роўнасці паміж Літоўскім камітэтам і варшаўскім Цэнтральным камітэтам. Паводле слоў Ратча, Каліноўскі «зусім не быў настроены працаваць для Польшчы (г. зн., у дадзеным кантэксце, для польскіх памешчыкаў. — *Г. К.*) і ў выпадку агульнага вызвалення… калі ў Польшчы ўваскрэсне старажытнае магнацтва з усімі шляхетнымі традыцыямі, з нацяжкаю прыстасаванымі да XIX стагоддзя, бачыць Літву, уцягнутую ў той жа вір. Найбольш баяўся ён уварвання [вторжения] белай партыі эміграцыі, указваючы, што яна, падобна французскай эміграцыі 1815 года, пачне дамагацца ранейшых правоў і прывілеяў; Каліноўскі апасаўся таго зліцця з Польшчаю, пры якім потым ад яе нельга было б і адвязацца. Ён хацеў [бачыць] Літву не з узноўленымі на новы лад старымі шляхетнымі традыцыямі, але Літву, якую ён мог бы перастварыць з усеагульным ураўнаваннем правоў і станаў, на новых пачатках камуністычных трызненняў, якія прапаведуюцца Герцэнам і К°, знаходзячы нават, што галіцыйскай разні замала, каб пазбавіць народ ад усякага ўплыву шляхецтва, якога і падрастаючае патомства можа ўваскрэсіць з часам дамагацельствы цяперашнія»[24]. Выдатныя думкі рэвалюцыянера выкладаюцца тут пяром ворага, які смяртэльна баіцца рэвалюцыі (дарэчы, ні А. Герцэн, ні К. Каліноўскі не былі ў дакладным сэнсе камуністамі, яны, хутчэй, сацыялісты-ўтапісты, папярэднікі сацыял-дэмакратыі ў розных яе формах), страшыцца «галіцыйскай разні» — так пасля антыфеадальнага паўстання 1846 года ў Галіцыі называлі бязлітасную расправу сялян з памешчыкамі. Падкрэслім яшчэ раз, што Каліноўскі, выступаючы за справядлівыя акты класавай расплаты, быў супраць «разні» і анархічных метадаў барацьбы, стаяў на варце рэвалюцыйнай дысцыпліны і законнасці.

[24] ДПБ. Ф. 629. Спр. 42.



Вялікае месца ў праграме Каліноўскага займала рэвалюцыйная прапаганда, у прыватнасці выданне агітацыйнай літаратуры. «Мужыцкая праўда», якая адкрывала сялянам вочы на сапраўдныя прычыны іх бедстваў, усяляла ў іх веру ва ўласныя сілы, развязвала творчыя сілы народа, атрымала шырокае распаўсюджанне не толькі ў Беларусі, але і ў Літве. Ужо самім псеўданімам «Яська-гаспадар з-пад Вільні», заўважым — з-пад Вільні, якім падпісвалася газета, Каліноўскі як бы падкрэсліў, што адрасуе яе ўсяму працоўнаму люду Літоўска-Беларускага краю. Гэты псеўданім па самім сваім сэнсе і гучанні быў аднолькава блізкі беларускім і літоўскім сялянам. Літоўскія сяляне ведалі газету Каліноўскага. Вось характэрны факт. У 1865 годзе ўлады рабілі вобыск у мястэчку Дусяты на Ковеншчыне ў доме селяніна Казіса Лукашунаса, які з поспехам камандаваў падчас паўстання атрадам байцоў і потым доўга хаваўся ад царскіх віжоў, пакуль не прабраўся за мяжу. Пры вобыску быў знойдзены 7-ы нумар «Мужыцкай праўды»[25]. Хіба не можа гэта служыць добрым прыкладам літоўска-беларускіх рэвалюцыйных сувязей таго часу? У маі 1863 года 2-і і 3-і нумары газеты былі адабраны ў прапаршчыка Гераніма Швайніцкага на станцыі Жослі, у Трокскім павеце. Швайніцкі родам з Ковенскай губерні. На следстве ён адкрыта заявіў, што ўхіляўся ад удзелу ў карных экспедыцыях, не жадаючы дзейнічаць супраць сваіх землякоў[26]. Улетку ў тым жа Трокскім павеце — гэты раз у старажытным Еўі (цяпер Вевіс), дзе некалі ўбачыла свет знакамітая «Граматыка» М. Сматрыцкага, — зноў з'явілася газета Каліноўскага (7-ы нумар)[27]. Заўважым, што ўсе адзначаныя выпадкі датычаць усходняй Літвы. Схаваную ў гады паўстання «Мужыцкую праўду» знаходзяць і ў нашы часы. Так, у сакавіку 1960 года на гарышчы аднаго з дамоў у Вільнюсе быў знойдзены тайнік з дакументамі перыяду паўстання. Сярод іх знаходзіліся друкаваныя і рукапісныя экзэмпляры беларускай газеты № 1–3. Даследчыкі (У. Абрамавічус, А. Лапінскене, А. Мальдзіс) адзначаюць уплыў «Мужыцкай праўды» на ўзнікненне першай палітычнай газеты на літоўскай мове «Žinia apiej Lenku waina su Maskolejs» («Звесткі аб польскай вайне з маскалямі»), якая выпускалася ў 1864 годзе ў Сувалкіі (Занямонне) літоўскім пісьменнікам-рэвалюцыянерам Мікалоюсам Акялайцісам, выхадцам з сялян. Акялайціс, як вядома, падтрымліваў самыя цесныя кантакты з дзеячамі беларускай культуры, стварыў літоўскую пераробку

[25] Тамсама. Ф. 623. Спр. 290.

[26] ДГА Літвы. Ф. 1248. Воп. 1. Спр. 255.

[27] Гл.: Восстание в Литве и Белоруссии 1863–1864 гг. (Восстание 1863 года. Материалы и документы). М., 1965. С. 138.

антыўрадавай «Гутаркі старога дзеда», па свежых слядах, нягледзячы на забарону гэтага выдання, напісаў рэцэнзію на марцінкевічаўскі пераклад «Пана Тадэвуша».

Гаворачы пра рэвалюцыйна-асветніцкую і выдавецкую дзейнасць Каліноўскага і Літоўскага камітэта, які ім узначальваўся, трэба адзначыць, што асноўныя праграмныя дакументы паўстання былі перакладзены камітэтам на літоўскую мову і шырока распаўсюджваліся сярод сялянства Літвы. Але асабліва часта віленскі падпольны ўрад (ці няма тут нейкай далёкай аналогіі з традыцыямі Вялікага Княства?) карыстаўся ў сваіх зваротах да народа беларускай мовай. Улетку 1863 года Каліноўскі выдаў вялікім тыражом па-беларуску «Прыказ… к народу зямлі літоўскай і беларускай». Па-літоўску такога дакумента няма. У гэтай адозве, звернутай да сялян Літвы і Беларусі, Каліноўскі тлумачыў высокія мэты паўстання, пісаў, што паўстанцы нясуць прыгнечанаму народу «справядлівую вольнасць, якой вашыя дзеды да бацькі здаўна ждалі». Вялікае значэнне мела выкрыццё Каліноўскім канфармісцкай пазіцыі вярхушкі каталіцкага духавенства, у прыватнасці жэмайцкага біскупа М. Валанчуса-Валанчэўскага. Гэтаму пытанню былі прысвечаны спецыяльныя адозвы, апублікаваныя віленскім паўстанцкім цэнтрам увосень 1863 года[28].

Вось асноўныя факты, якія раскрываюць ролю Каліноўскага ў гісторыі Літвы як рэвалюцыйнага мысліцеля. Што да яго арганізацыйных сувязей і асабістых кантактаў з рэвалюцыянерамі Літвы, то гэта сапраўды невычарпальная тэма. Каліноўскі ж досыць доўгі час кіраваў падрыхтоўкай паўстання, а потым і самім паўстаннем на ўсёй тэрыторыі Літвы і Беларусі, узначальваючы паслядоўна Літоўскі камітэт, Часовы рэвалюцыйны ўрад Літвы і Беларусі, нарэшце, «Чырвоны жонд», як традыцыйна называюць гісторыкі паўстанцкі цэнтр, створаны Каліноўскім у Вільні ўлетку 1863 года пасля адхілення ад кіраўніцтва «белых». Прывядзём некаторыя факты, што асвятляюць сувязі Каліноўскага з рэвалюцыянерамі Літвы і яго рэвалюцыйную дзейнасць у Вільні.

Зносіны Каліноўскага з перадавой літоўскай моладдзю пачаліся яшчэ ў гады вучобы ў Пецярбургскім універсітэце. Сюды, у сталіцу Расіі, з'язджаліся маладыя людзі з усіх канцоў краіны. Студэнты — выхадцы з Польшчы, Літвы, Беларусі — аб'ядналіся ў адным «Огуле» (зямляцтве). Кіраўніком левага крыла «Огула» быў Каліноўскі. Ужо ў 1858 годзе да віленскіх салонаў дакацілася вестка, што «ёсць у Пецярбургу

[28] Гл.: Смирнов А. Ф. Революционные связи народов России и Польши. 30–60-е годы XIX в. М., 1962. С. 330, 331.



нейкі Каліноўскі, які бярэ пад сваю няпрошаную пратэкцыю маладых студэнтаў, уцягвае іх у свае таварыства і хоча стварыць з іх род віленскіх прамяністых або філарэтаў, стоячы на чале іх, нібыта другі Тамаш Зан». Пра гэта мы даведваемся з трывожнага пісьма выкладчыка Віленскага дваранскага інстытута А. Здановіча ў Пецярбург — да сына Ігната. Ліберальны вучоны заклікаў свайго сына асцерагацца Каліноўскага, «як агню, як маравой пошасці»[29]. Нагадаем, што ў 1863 годзе Ігнат Здановіч стаў адным з бліжэйшых паплечнікаў Каліноўскага па кіраўніцтве паўстаннем і быў пакараны царскімі ўладамі смерцю.

Надзвычай цікавае пытанне пра ўзаемаадносіны паміж Каліноўскім і выдатным літоўскім рэвалюцыянерам-дэмакратам Антанасам Мацкявічусам. Яго фатаграфіі (у руках нейкая кніжка, мабыць малітоўнік) побач са здымкамі Каліноўскага змяшчаліся ў 20-я гады ў выданнях «Гісторыі Беларусі XIX — пачатку XX стагоддзя» У. Ігнатоўскага. З'яўляецца ён на момант і ў выдатнай драматычнай паэме А. Куляшова «Хамуціус». Нагадаем коратка беларускаму чытачу галоўныя вехі жыццёвага і рэвалюцыйнага шляху Мацкявічуса.

Гэта чалавек са сваёй адметнай, надзвычай цікавай і рамантычнай біяграфіяй. На дзясятак гадоў старэйшы за Каліноўскага, ён паходзіў з глухога кутка Жэмайціі з малазямельнай шляхецкай сям'і. З маленства яму карцела спазнаць свет. Без грошай дабраўся да Вільні. Каб неяк пражыць, прыслужваў па кляштарах і ў багатых людзей.

А колькіх намаганняў каштавала, каб атрымаць сякую-такую навуку, зрэшты, зусім у яго выпадку някепскую. Пашчасціла вучыцца ў Віленскай гімназіі, нейкі час нават у далёкім Кіеўскім універсітэце. Каб зблізіцца з народам, паступіў у духоўную семінарыю і неўзабаве апрануў сутану сельскага ксяндза. Вучыўся злучаць «слова Боскае» са словам рэальнай сацыяльнай праўды. Цэлых дванаццаць гадоў вёў употай вострую прапаганду сярод народа. Карыстаўся кожным зручным момантам, каб уздзейнічаць на народ у рэвалюцыйным духу. Быў надзвычай папулярны сярод сялян. У 1863 годзе ўзняў сцяг паўстання ў Літве, узначаліў буйны паўстанцкі атрад, выявіў выдатныя здольнасці партызанскага камандзіра, некалькі месяцаў паспяхова змагаўся з царскімі войскамі. У самым канцы 1863 года быў нарэшце схоплены на заснежаным беразе Нёмана і паводле прысуду ваеннага суда павешаны на ратушнай плошчы ў Коўне. Захавалася цікавая перапіска царскіх улад пра тое, як адбывалася злавесная экзекуцыя. Мураўёў-вешальнік злосна пытаўся, хто дазволіў, каб Мацкявічус, ідучы да эшафота, курыў сігару. Такі незвычайны гэта быў ксёндз.

[29] ДГА Літвы. Ф. 1135. Воп. 20. Спр. 293. Арк. 339.

Вядома, што Каліноўскі і Мацкявічус былі вельмі блізкія адзін да аднаго па сваім рэвалюцыйным светапоглядзе. У іх выказваннях па карэнных пытаннях рэвалюцыйнай стратэгіі і тактыкі можна знайсці нямала агульнага. «Я чакаў, як збавення... свабоды майго народа, — гаварыў на следстве Мацкявічус. — Дадзена свабода, і што ж? Абмежавалася яна, што бедны народ перамяніў толькі ўладара…»[30]. Гэтаксама ж, як вядома, крытыкаваў вельмі абмежаваную, калі не сказаць — рабаўнічую, рэформу 1861 года, царскіх чыноўнікаў і Каліноўскі. Ды і ў яго паслядоўніка Багушэвіча знойдуцца падобныя выказванні («Цяпер ці не болей настала паноў…»). «Паколькі ж у Літве не было дастатковых умоў для самастойнай рэвалюцыі і дасягнення праз яе чаго-небудзь пэўнага ў будучым, я заклікаў масу памагаць Польшчы і патрабаваць ад яе дапамогі для літоўскай рэвалюцыі, каб тым самым дабіцца для народа хаця б часовага прызнання грамадзянскіх правоў і бясплатнага надзелу зямлі, што ва многім палепшыла б становішча народа…»[31] — казаў Мацкявічус. Такая ж у прынцыпе была і пазіцыя Каліноўскага. Можна нават сказаць, што словы Мацкявічуса памагаюць нам лепш зразумець даволі складаныя, няпростыя ўзаемаадносіны Каліноўскага з польскім вызваленчым рухам, з рэвалюцыйнай Польшчай.

На пачатку паўстання Каліноўскі накіраваў у Ковенскую губерню свайго паплечніка па Літоўскім камітэце Баляслава Длускага, які адначасова з Мацкявічусам пачаў там фарміраванне паўстанцкіх атрадаў. Узначаліўшы «Чырвоны жонд» (мы карыстаемся гэтым звыклым тэрмінам для сцісласці, хаця ён не меў афіцыйнага характару), Каліноўскі ўвосень 1863 года паслаў Мацкявічусу, якому не давярала ранейшае, «белае» кіраўніцтва, мандат на званне арганізатара паўстанцкіх сіл усёй Ковенскай губерні.

Доўгі час не было вядома, ці сустракаліся Каліноўскі і Мацкявічус калі-небудзь асабіста. Нарэшце было знойдзена сведчанне аб асабістым знаёмстве напярэдадні паўстання гэтых выдатных дзеячаў братніх народаў. У прыватнасці, вядома, што Каліноўскі і Мацкявічус сустрэліся 30 ліпеня 1862 года ў мястэчку Кедайняй на вяселлі выдатнага рэвалюцыянера Зыгмунта Серакоўскага. Пра гэта гаворыцца ва ўспамінах жонкі Серакоўскага, што захоўваюцца ў Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы (Ф. 1135. Воп. 8. Спр. 38. Арк. 44, 45, 68). У будучым магчымы новыя цікавыя адкрыцці, што пральюць дадатковае святло на ўзаемаадносіны буйнейшых дзеячаў рэвалюцыйнай дэмакратыі Літвы і Беларусі.

[30] Восстание в Литве и Белоруссии 1863–1864 гг. С. 55.

[31] Тамсама. С. 62.



Дарэчы, каб трапіць у Кедайняй (сёння раённы горад у самым цэнтры Літвы), трэба было добра праехацца з Вільні па літоўскіх дарогах, хутчэй за ўсё, заязджалі і ў Коўна, дзе ў свой час настаўнічаў А. Міцкевіч, а пазней не раз бывалі праездам, гасцявалі У. Сыракомля і В. Дунін-Марцінкевіч. Усё гэта давала Каліноўскаму добрую магчымасць пазнаёміцца з карэннай Літвой. Але найбольш, зразумела, ён ведаў Вільню, Віленскі край, увогуле цесна знітаваныя з Беларуссю, з яе культурай і вызваленчым рухам.

Немагчыма ў кароткім артыкуле пералічыць усе мясціны ў Вільнюсе, звязаныя з жыццём і дзейнасцю выдатнага беларускага рэвалюцыянера. Вільня — горад яго адважнага змагання, яго подзвігу. Адсюль ён пачынаў, сюды перш за ўсё прыехаў пасля заканчэння сталічнага ўніверсітэта. Тут 2 сакавіка 1861 года напісаў заяву генерал-губернатару Назімаву з просьбай аб прызначэнні на службу. Тут узначаліў у 1862 годзе падпольны Літоўскі камітэт. І яшчэ раз вярнуўся сюды з Гродзеншчыны ўлетку 1863 года, каб стаць на чале «Чырвонага жонда». Адсюль ён кіраваў дзеяннямі шматлікіх паўстанцкіх атрадаў, рассылаў указанні ў губерні і паветы. Тут на канспіратыўных кватэрах прымаў пасланцоў з месцаў. У Святаянскіх мурах (сёння комплекс будынкаў Вільнюскага дзяржаўнага ўніверсітэта) была яго апошняя кватэра. Гэтыя старадаўнія сцены помняць, як у глухую студзеньскую ноч 1864 года правадыр паўстання, які жыў тут пад імем Вітажэнца, трапіў у рукі ўлад. У будынку былога Дамініканскага кляштара (рог вуліц Шв. Ігната і Дамінікону) ён утрымліваўся ў зняволенні пасля арышту, вёў напружанае змаганне з вопытнымі следчымі. Тут у камеры № 6 напісаў свае «Пісьмы з-пад шыбеніцы» на роднай беларускай мове, а ў запісках, адрасаваных ураду, як мог бараніў-адстойваў інтарэсы краю: «Пока правительство не приобретет сочувствия в действительно образованном классе здешнего населения, до тех пор слово России не найдет отголоска в сердцах литовцев»[32]. Тут завяршылася яго яскравае жыццё. На Лукішскай плошчы ён быў публічна пакараны смерцю. Гісторыкі лічаць, што астанкі Каліноўскага, як і іншых змагароў, павешаных і расстраляных у Вільні ў 1863 годзе, пахаваны на вяршыні гары Гедыміна.

У свой час да стогадовага юбілею паўстання польскія калегі прыслалі фотакопію ўспамінаў сведкі падзей 1863 года ў Вільні Людвікі Радзевіч, сястры паплечніка Каліноўскага Юзафа Ямант і нявесты Кастуся Марыі Ямант. Яна піша аб жыцці Каліноўскага як «аб жыцці, дарагім для Вільні». Ва ўспамінах прыводзіцца выпадак, які добра характарызуе

[32] Восстание в Литве и Белоруссии 1863–1864 гг. С. 79.

адвагу і вытрымку Каліноўскага. Аднойчы позняй восенню Каліноўскі начаваў у канспіратыўнай кватэры на Зарэччы, дзе захоўвалася падпольная друкарня. Раптам наляцела паліцыя. Каліноўскі ў адной бялізне выбраўся праз акно на дах і, прыціснуўшыся да пакрытай шэранню чарапіцы, праляжаў там увесь час, пакуль доўжыўся вобыск. Каліноўскі быў выдатным канспіратарам. Ён часта мяняў сваю знешнасць, адрасы, псеўданімы. Паводле слоў члена Віленскай асобай следчай камісіі М. В. Югана, афіцыйнае апісанне выгляду Каліноўскага не магло «служыць дапаможнікам, таму што апісанне гэтае каля года было прыклеена на рагах траха не кожнай з віленскіх вуліц. Каліноўскі працягваў жыць у Вільні, і па апісаннях гэтых ніхто не пазнаваў яго»[33].

Вільнюс і дагэтуль ашчадна захоўвае памяць пра беларускага рэвалюцыянера — дзеяча рэвалюцыйнага руху ў Літве. Адна з вуліц горада носіць імя Каліноўскага (гэтай назвы не закранула хваля перайменаванняў апошняга часу). На доме, дзе рэвалюцыянер знаходзіўся ў зняволенні, і на месцы пакарання яго смерцю ўстаноўлены мемарыяльныя дошкі. Унікальныя матэрыялы пра выдатнага змагара захоўваюцца ў вільнюскіх архівах, бібліятэках, музеях. Вобраз Каліноўскага прыцягвае ўвагу літоўскіх гісторыкаў, пісьменнікаў, дзеячаў мастацтва. Адзін з першых біяграфічных нарысаў пра Каліноўскага (1921) належыць літоўскаму гісторыку А. Янулайцісу, які, дарэчы, яшчэ ў 1913 годзе даў у альманах «Маладая Беларусь» надзвычай змястоўны матэрыял і пра Паўлюка Багрыма. Пра часы сумеснай барацьбы палякаў, літоўцаў і беларусаў у 1863 годзе нагадвае раман В. Мікалайціса-Пуцінаса «Паўстанцы» (1957–1967).

Можна без лішняга пафасу сказаць, што Каліноўскі жыве ў сэрцах літоўцаў, як і беларусаў. Ён заўсёды з намі — і ў дні радасці, і ў часіны выпрабаванняў. У гады вайны ў Літве дзейнічаў партызанскі атрад імя Калінаўскаса (Каліноўскага), як былі слаўныя партызаны-каліноўцы ў Беларусі і Польшчы.

Ушанаванне памятных мясцін Каліноўскага ў Вільнюсе мае свае цікавыя традыцыі. Яны прыцягвалі да сябе многіх выдатных людзей. Вось некаторыя прыклады.

У 1913 годзе ў Вільню пасля заканчэння каморніцка-агранамічнага вучылішча прыехаў Максім Гарэцкі. Гэты перыяд паказаны ім у аўтабіяграфічнай аповесці «Меланхолія». Яе герой дзяліўся сваімі ўражаннямі ў пісьме да таварыша: «Пішу табе з Вільні, з тэй Вільні, адкуль свяціла магутным святлом наша старадаўняя культура і адкуль цяпер расцякаюцца па ўсёй краіне жывыя струменьчыкі вызвалення…

[33] ДПБ. Ф. 629. Спр. 145.



Нага мая ступала ўжо па тых вуліцах, дзе за колькі сот гадоў ступаў вялікі сейбіт гуманізму і асветы доктар Скарына і дзе яшчэ так нядаўна вялі бязлітасныя каты на кару смерці адважнага правадыра паўстанцаў Каліноўскага…

Тут пяяў свае мужыцкія песні бацька нашага адраджэння Мацей Бурачок…»[34].

Як бачым, вобраз Каліноўскага пастаўлены тут у самы высокі нацыянальны кантэкст. Пісьмо з аповесці, несумненна, перадае захапленне Вільняй, яе багацейшымі традыцыямі самога пісьменніка — Гарэцкага. Зусім канкрэтная дата пісьма (2 ліпеня 1913 года) супадае з часам прыезду Гарэцкага ў Вільню. Тым не менш ясна — тут зафіксаваны не толькі першыя юначыя ўражанні Гарэцкага, але і яго ўяўленні больш позняга часу. Пісьменнік жыў у Вільні таксама ў 1919–1923 гадах і ўвесь гэты час працаваў над канцэпцыяй гісторыі нацыянальнай культуры. У 1913 годзе — мы ўжо не адзін раз гаварылі і будзем гаварыць пра гэта — нашаніўцы, у тым ліку і Гарэцкі, яшчэ толькі падыходзілі да асэнсавання нацыянальнай значымасці Каліноўскага, яшчэ многага пра яго не ведалі. Аповесць пісалася ў 1916–1928 гадах, у часы актыўнага засваення беларускай культурай спадчыны Каліноўскага, адсюль, думаецца, і трапілі ў створанае аўтарам аповесці пісьмо 1913 года некаторыя акцэнты. Між іншым, якраз сам Гарэцкі вельмі садзейнічаў уключэнню Каліноўскага ў кантэкст роднай культуры, адвёўшы яму значнае месца ў сваёй «Гісторыі беларускае літаратуры» (Вільня, 1920. 1-е выд.).

У 30-я гады шмат раздумваў пра Каліноўскага і яго ролю ў нацыянальнай гісторыі Адам Станкевіч, святар і вучоны, аўтар сур'ёзнай працы «Кастусь Каліноўскі, “Мужыцкая праўда” і ідэя Незалежнасці Беларусі» (1933), які ці не першы (ва ўсякім разе — адным з першых) вывучаў у віленскім «паньствовым архіве» аўтэнтычныя дакументы Каліноўскага і, вядома ж, не раз са складаным пачуццём смутку і гонару спыняўся на месцы гібелі героя.

Прыходзіў сюды пакланіцца, набрацца натхнення малады Максім Танк. Напамінак аб гэтым — цудоўны верш «Вільня» (1936), паэма «Каліноўскі» (1937–1938).

А вось зусім нядаўняе. У эсэ «Вільнюс — часцінка майго сэрца» Уладзімір Караткевіч успамінае:

«Мой Вільнюс, мая Вільня, хадзіў-папахадзіў я тваімі вуліцамі-вулачкамі. Але адзін дзень прынёс мне светлай тугі больш за ўсе іншыя. 10 сакавіка 1964 года, калі споўнілася сто гадоў, як пакаралі смерцю Кастуся Каліноўскага, я яшчэ ў прыцемках прайшоў увесь яго шлях:

[34] Цыт. па кн.: Беларуская літаратура. Мінск, 1991. Вып. 19. С. 34.

ад Дамініканскіх муроў… да Лукішак, дзе ля сцен кляштара Св. Якуба стаяла шыбеніца.

А пасля таксама пехатою пайшоў на месца, дзе хавалі павешаных (на тэрыторыі тагачаснай цытадэлі), падняўся на гару Гедзіміна. Я не ведаў, дзе там ляжаць яго косці, але сеў пасядзець і бачыў, як над горадам абуджаецца ранак.

У тую раніцу ў горадзе выпала шэрань, тонкая і сыпкая, нібы цукровая пудра, галінкі дрэў пакрыліся лёгкім інеем. Сонца, узыходзячы, пазначыла ружовай фарбай верхавіны званіц, а потым перада мною раскінуўся горад — увесь пафарбаваны ў ружовы колер ад праменняў сонца і лёгкі, як хвост райскай птушкі. Вось так я і ўшанаваў памяць Кастуся Каліноўскага. Нібы разам з Беларуссю і Літвой чакаў світання новага дня, за які так упарта — аж да смерці — змагаўся ён».

Вялікі сумесны мітынг прадстаўнікоў «нефармальнай» грамадскасці Беларусі і Літвы адбыўся на Лукішках у 1988 годзе, у дні 150-гадовага юбілею Каліноўскага. Прыйшлі сюды беларусы і ў наступным годзе, калі Вільнюс дальнабачна прытуліў у сябе ўстаноўчы сойм БНФ.

Шчаслівыя хвіліны гістарычнай памяці. Радаводнае дрэва Беларусі далёка пусціла свае карэнні, працягнула галіны ў бок братняй Літвы.

З небыцця нам надзею дае Каліноўскі Кастусь,
што грудзьмі сваймі выкарміць сына ізноў Беларусь
і яго родным сынам прызнае літоўскі народ.

*Д. Бічэль-Загнетава*



# ПАПЛЕЧНІКІ

Вазьмемся, дзецюкі, за рукі
і дзяржэмся разам!

*«Мужыцкая праўда»*

Кожны чалавек, які ставіць перад сабой значныя грамадскія задачы, абавязкова знаходзіць сяброў-аднадумцаў. Шмат такіх паплечнікаў было і ў Кастуся Каліноўскага — палымянага рэвалюцыянера эпохі разняволення народаў ад феадальна-прыгонніцкіх путаў, чалавека, які сам стаўся цэлай эпохай у гісторыі беларускага рэвалюцыйнага руху, грамадскай думкі і культуры.

У яго надзвычай моцнае і шырокае поле прыцягнення, у якое на розных этапах яго жыцця траплялі самыя розныя людзі. Але найперш такія, хто шукаў свабоды свайму народу.

Першым яго сябрам у высокім значэнні гэтага слова быў старэйшы брат Віктар (1833–1862), які ўвёў Кастуся ў неабсяжны свет навукі і рэвалюцыйных шуканняў. «Нямаш, браткі, большага шчасця на гэтым свеце, як калі чалавек мае розум і навуку», — скажа пазней Каліноўскі. Тыповае асветніцкае палажэнне — заўважым мы сёння. Але нельга не ўбачыць: многае тут — ад супольных з братам маладых захапленняў і пошукаў, ад маладога энтузіязму, з якім яны штурмавалі навуку, спрабавалі спазнаць законы быцця і грамадства. У раннім духоўным станаўленні Кастуся — вялікая заслуга Віктара. Услед за Віктарам Кастусь едзе з Якушоўкі ў Маскву, а ўлетку 1856 года ў Пецярбург. Кастусю былі блізкія шуканні Віктара ў галіне гістарычнай навукі. Яны разам працавалі ў пецярбургскай Публічнай бібліятэцы над важнымі і каштоўнымі першакрыніцамі з гісторыі Беларусі, Літвы, Польшчы. Гэтыя дакументы памаглі ім яшчэ раз убачыць адметнасць гістарычнага лёсу Беларусі, яе неад’емнае права на сваю долю ў гістарычнай спадчыне народаў і самастойнае нацыянальнае развіццё. Іх жыццёвы вопыт, атрыманыя веды давалі ім веру, што Беларусь з яе багатай мінуўшчынай будзе мець і цудоўную будучыню, дзеля якой варта жыць і змагацца.

Віктар пазнаёміў Кастуся з кіраўнічымі дзеячамі пецярбургскай рэвалюцыйнай арганізацыі — Зыгмунтам Сераkоўскім і Яраславам Дамброўскім. Серакоўскі (1826–1863) — блізкі сябар Чарнышэўскага, выведзены ім у рамане «Пралог». Чалавек яркай творчай натуры, вопытны

і заслужаны вайсковец, ён узяў на сябе ў 1863 годзе ваеннае кіраўніцтва літоўскімі паўстанцамі. Пра блізкія сувязі Каліноўскага і Серакоўскага сведчыць хаця б тое, што Кастусь у ліку нямногіх гасцей быў запрошаны на вяселле Зыгмунта, якое адбылося прыкладна за паўгода да паўстання ў мястэчку Кейданах (Кедайняй) на Ковеншчыне, у глыбіні Літвы. Гэта была, як потым казалі, «апошняя мазурка на Літве» перад грозным выбухам паўстання. З прысутных на тым вяселлі мала хто ацалеў, для многіх 1863 год стаў апошняй рысай жыцця.

Ставячы побач Каліноўскага і Серакоўскага, мы не можам не заўважыць іх ідэйную роднасць і блізкасць, але некаторыя крыніцы дазваляюць зрабіць вывад, што паміж рэвалюцыянерамі былі і пэўныя разыходжанні тактычнага парадку. Маладзейшы і вельмі чуйны Кастусь быў больш нецярплівы ў празе свабоды і сацыяльнай справядлівасці, больш непрымірыма ставіўся да памешчыкаў і шляхты. Не трэба важдацца са шляхтай, народ сам заваюе сабе свабоду, сцвярджаў Каліноўскі. Бывалы, спрактыкаваны Серакоўскі бачыў магчымасці для больш шырокага фронту барацьбы. Лёс абодвух выдатных рэвалюцыянераў аднолькавы. Серакоўскі першы, а праз якіх восем-дзевяць месяцаў і Каліноўскі прынялі смерць ад рукі мураўёўскага ката на Лукішскай плошчы ў Вільні. Іх памяць і спакой аберагае там цяпер супольная, адна на дваіх, мемарыяльная пліта.

Другім кіраўніком пецярбургскіх канспіратараў быў Яраслаў Дамброўскі (1836–1871), таксама вайсковец, афіцэр Генеральнага штаба, якога за малы рост таварышы любоўна называлі Лакаткам. Свой талент палкаводца-рэвалюцыянера Дамброўскі аддаў праз некалькі гадоў Парыжскай камуне і, стоячы на чале яе армій, загінуў у баях з версальцамі. Сваім лёсам Яраслаў Дамброўскі засведчыў той напрамак, у якім развівалася перадавая рэвалюцыйная думка Польшчы, Беларусі, Расіі ў той перыяд. Гэта ідэі братэрства і свабоды ўсіх народаў, барацьбы супраць любой несправядлівасці. Нездарма ж і Каліноўскага дасведчаныя сучаснікі называлі «дзіцём сусветнай рэвалюцыі».

Шмат сяброў у Кастуся было сярод пецярбургскага студэнцтва. На працягу некалькіх гадоў ён узначальваў левае, радыкальнае крыло ва ўніверсітэцкім зямляцтве выхадцаў з Беларусі, Літвы, Польшчы, быў прызнаным лідарам самаахвярнай «чырвонай» моладзі, якая ў неадкладнай рэвалюцыі бачыла выратаванне ад сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту.

У ліку маладых сяброў Каліноўскага — пецярбургскіх студэнтаў — быў, напрыклад, Фелікс Зянковіч (1843–1910), чалавек дзівоснага, проста неверагоднага лёсу. Паходзіў з Пружаншчыны, сталічны студэнт. Напярэдадні паўстання вырваўся за мяжу, пасябраваў у Лондане з Герцэнам і Агаровым, удзельнічаў у славутай марской экспедыцыі паўстанцаў з Англіі да берагоў Літвы, улетку 1863 года з'явіўся ў Вільні, дзе стаў сакратаром Каліноўскага. Арышт, віленскія казематы. І, нягледзячы на зусім зялёны ўзрост, сталая цвёрдасць на следстве. Пасля працяглай сібірскай ссылкі вярнуўся на радзіму, перапісваўся з беларуска-польскай пісьменніцай З. Тшашчкоўскай (Манькоўскай).

Гродзенская рэвалюцыйная арганізацыя моцна здружыла Кастуся з Валерыем Урублеўскім (1836–1908), хаця, хутчэй за ўсё, яны пазнаёміліся яшчэ ў Пецярбургу. Недалёкі зямляк, родам з Жалудка (цяпер у Шчучынскім раёне), Урублеўскі пасля заканчэння пецярбургскага Ляснога інстытута стаў афіцэрам корпуса ляснічых і ўзначаліў пісарска-егерскую школу ў горадзе Саколцы на сумежжы Беларусі і Польшчы. Выдатны арганізатар (як да нейкага магніта, да яго цягнуліся людзі), чалавек яскравых байцоўскіх якасцей, да ўсяго трапны стралок, ён быў сапраўднай знаходкай для канспіратыўнай арганізацыі. Праз выпускнікоў школы ў яго завязаліся шырокія сувязі з народам у розных кутках заходняй Беларусі. Урублеўскі падзяляў радыкальныя погляды Каліноўскага і быў яму першым памочнікам у выданні і распаўсюджванні «Мужыцкай праўды». З усёй паўнатой яго талент раскрыўся на полі бою. Адважны кіраўнік паўстанцаў Гродзеншчыны, а потым Падляшша і Люблінішчыны, ён пасля гібелі Каліноўскага панёс далей у свет ідэі роўнасці людзей і народаў, стаў, як і Дамброўскі, генералам Парыжскай камуны, членам Генеральнага савета І Інтэрнацыянала, чалавекам, блізкім К. Марксу і Ф. Энгельсу. Астанкі вернага Кастусёвага сябра спачываюць на знакамітых могілках Пер-Лашэз у Парыжы, ля Сцяны камунараў. Яго жыццё было доўгае — усяго якіх дзевяць гадоў не дажыў ён да вялікіх рэвалюцыйных падзей у Расіі, якія — у розных формах — вярнулі дзяржаўнасць Беларусі, Польшчы, Літве.

У выданні і пашырэнні палымяных лісткоў «Мужыцкай праўды» прымаў удзел яшчэ адзін паплечнік Каліноўскага — Фелікс Ражанскі (гады нараджэння і смерці, на жаль, невядомыя), каморнік з вёскі Вялікая Бераставіца, якая стала адным з галоўных апорных пунктаў гродзенскай падпольнай арганізацыі. Паводле ўспамінаў сястры Каліноўскага (вільнюскі гістарычны архіў), Кастусь быў з Ражанскім у самым блізкім сяброўстве, той літаральна дняваў і начаваў у Якушоўцы, калі Каліноўскаму здаралася бываць дома. Апрача ўсяго іншага іх збліжала, трэба думаць, любоў да літаратуры, да народа. Ражанскі выдатна валодаў народным словам, быў аўтарам баявых зухаватых беларускіх паўстанцкіх песень, папулярных сярод гродзенскіх паўстанцаў. Праз сорак гадоў пасля паўстання, ужо на пачатку нашага стагоддзя, ён апублікаваў у замежным друку ўспаміны (нельга не пашкадаваць, што

кароткія) пра Кастуся і гродзенскую арганізацыю. Без гэтай каштоўнай першакрыніцы не можа абысціся цяпер ніводзін біёграф Каліноўскага.

Як вядома, акалічнасці выдання «Мужыцкай праўды» дагэтуль да канца не высветлены, у таямніцу першай беларускай газеты вельмі ж цяжка пранікнуць. У ліку яе выдаўцоў крыніцы называюць яшчэ Станіслава Сангіна. Пра яго мы ведаем, на жаль, яшчэ менш, чым пра Ражанскага. Служыў чыноўнікам на Гродзеншчыне, выступаў у віленскім друку з артыкуламі на эканамічныя тэмы (да іх нашы даследчыкі яшчэ не дабраліся), разам з іншымі культурнымі дзеячамі краю быў абраны ў Віленскую археалагічную камісію, збіраў экспанаты для адкрытага ў Вільні музея старажытнасцей. Як бачым, зноў перад намі неардынарны чалавек, інтэлектуал з шырокімі культурнымі інтарэсамі. У выказваннях сучаснікаў знаходзім кароткія, але прынцыпова важныя звесткі, што Сангін, як і Урублеўскі, выступаў у абарону нацыянальных і сацыяльных правоў беларускага народа, стаяў на чале «літоўскай партыі»[35]. Ясна, што перад намі аднадумец Каліноўскага, чалавек, вельмі блізкі яму па духу і грамадскіх памкненнях. На самым пачатку паўстання Сангін быў адным з кіраўнікоў гродзенскіх паўстанцаў, удзельнічаў у зацятай сямяціцкай бітве, у смелым захопе Пружан 1 лютага 1863 года, а праз два дні загінуў у баі з царскімі войскамі каля мястэчка Рэчыца (зараз Камянецкі раён). На жаль, апрача вельмі агульных і няпоўных звестак у энцыклапедыі, пра Сангіна не напісана яшчэ ніводнага артыкула.

Цікава, што сярод паплечнікаў Каліноўскага па гродзенскай арганізацыі сустракаліся нават духоўныя асобы. Такім быў Ігнат Казлоўскі, ксёндз з той жа Вялікай Бераставіцы, дзе не раз бываў па канспіратыўных справах Каліноўскі. Гэта быў незвычайны святар. Досыць сказаць, што паходзіў ён з прыгонных беларускіх сялян. Выпадак не часты. Гэта значыць, беды народа ведаў не па чутках. Нарадзіўся каля 1832 года. Нейкім цудам здолеў атрымаць адукацыю — вучыўся ў Беластоцкай гімназіі і Віленскай духоўнай семінарыі. Між іншым, перад Бераставіцай пабываў вікарыем і ў Ялоўцы, правіў службу ў тым самым касцёле, дзе ў свой час хрысцілі Кастуся. Як і Сангін, супрацоўнічаў з Віленскай археалагічнай камісіяй, што сведчыць пра значныя культурныя інтарэсы. Пра яго ўдзел у рэвалюцыйнай арганізацыі ўлады не ведалі, хоць быў момант, калі ён абвінавачваўся ў падмаўленні сялян не даваць паказанняў супраць паўстанцаў. Пасля паражэння паўстання Казлоўскі склаў з сябе духоўны сан і служыў настаўнікам у рускіх губернях. Вядома, што ў 1882 годзе ён быў ужо калежскім асэсарам, працаваў у Вусць-Мядзведзіцкай мужчынскай гімназіі на «ціхім» Доне. Гэта

[35] Гл.: Токажевич Ю. 1 июля 1867 г. (Письмо к А. Герцену и Н. Огареву) // Избр. произв. прогрессивных польских мыслителей. Т. 3. М., 1958. С. 998.



апошняя звестка пра яго, якую пакуль што ўдалося адшукаць у архівах. Невялікі, жыва напісаны артыкул П. Абрамовіча пра Казлоўскага быў змешчаны ў газеце «Голас Радзімы» ў красавіку 1970 года.

Трывалыя таварыскія і ідэйныя сувязі прынесла Каліноўскаму дзейнасць у віленскай рэвалюцыйнай арганізацыі. Галоўным кіраўніком віленскіх «чырвоных» быў спачатку Людвік Звяждоўскі (1829–1864). Бліскучы, рэспектабельны капітан Генеральнага штаба, якога чакала забяспечаная кар’ера, ён удзень, як і належала, старанна працаваў ва ўпраўленні Віленскай ваеннай акругі, лічыўся ўзорным, вельмі перспектыўным афіцэрам, а вечарамі на канспіратыўных кватэрах абмяркоўваў самыя смелыя і далёкасяжныя мары і планы рэвалюцыянераў. Крыніцы гавораць як пра спрэчкі Каліноўскага са Звяждоўскім, так і пра ідэйную блізкасць з ім.

Рэвалюцыянерам былі надзвычай карысныя шырокія сувязі Звяждоўскага ў вайсковых колах. Ён быў умелы канспіратар. Улады цалкам давяралі яму. Калі генералу Назімаву (папярэдніку Мураўёва на пасадзе віленскага генерал-губернатара) данеслі ўвосень 1862 года аб падазроных сувязях Звяждоўскага, самаўпэўнены саноўнік ніяк не мог у гэта паверыць, і ўсё абышлося пераводам Звяждоўскага ў Маскву. Вясной 1863 года ён тайна з’явіўся на Магілёўшчыне, узначаліў там пад імем «Тапара» ўзброенае выступленне супраць царызму, марачы перанесці паўстанне ў рускія губерні (несумненная сувязь яго псеўданіма з вядомым заклікам рэвалюцыянераў «К топору зовите Русь!»). Спачатку справа пайшла як найлепш. З дапамогай студэнтаў Горы-Горацкага земляробчага інстытута Звяждоўскі захапіў павятовыя Горкі. Аднак сялянства Магілёўшчыны ў сваёй масе не толькі не падтрымала паўстанцаў, але сустрэла іх нават у большасці выпадкаў варожа. Працягваць паўстанне ва ўмовах гэтай своеасаблівай Вандэі значыла біцца з народам. Таму Звяждоўскі распусціў атрад і выехаў за мяжу. Пра дзеянні Звяждоўскага на Магілёўшчыне яскрава распавёў пісьменнік Уладзімір Арлоў у навеле «Пяць мужчын у леснічоўцы» (гл. яго кнігу «Дзень, калі ўпала страла», 1988). Каліноўскі цяжка перажываў гэтую няўдачу. Была ў яго крыўда і на Звяждоўскага. Сам Кастусь лёгка знаходзіў агульную мову з народам, і, магчыма, яму здавалася, што Звяждоўскі зрабіў не ўсё, што было можна. У адным з пісьмаў Каліноўскі з уласцівым яму максімалізмам у патрабавальнасці да сябе і людзей кпіў: «Звяждоўскі пасля няўдачы на Магілёўшчыне з большай лёгкасцю трапіў за мяжу, чым у атрад, напрыклад, у Мінскім, Гродзенскім ваяводствах або на Жмудзі»[36]. І ўсё ж урэшце Звяждоўскі да канца выканаў свой абавязак

[36] К. Калиновский: Из печатного и рукописного наследия. М., 1988. С. 75.

рэвалюцыянера. Вярнуўшыся ў Польшчу, смела там ваяваў, камандаваў ажно цэлай паўстанцкай дывізіяй, быў схоплены карнікамі і павешаны ў горадзе Апатаве ў лютым 1864 года, у тыя самыя дні, калі яго таварыш і апанент Каліноўскі чакаў вырашэння свайго лёсу ў віленскай дамініканскай турме. Вось як усё не проста ў гэтым жыцці, якім пакручастым бывае лёс людзей і іх узаемадачыненняў…

Але вернемся ў восеньскую Вільню 1862 года, калі Звяждоўскі выехаў у Маскву, а Каліноўскі ўзначаліў так званы Літоўскі камітэт «чырвоных» — цэнтр падрыхтоўкі паўстання на ўсёй тэрыторыі Літвы і Беларусі. У камітэт уваходзілі розныя па характары і сацыяльным становішчы людзі. Іх усіх аб'ядноўвала вера, што толькі ўзброеным паўстаннем можна дамагчыся радыкальных перамен.

Ян Козел (1837–1896) — адстаўны афіцэр, родам з Вілейшчыны, адзін з заснавальнікаў мінскай арганізацыі «чырвоных» (і гэтым асабліва нам цікавы). Увосень 1862 года, выкліканы з Мінска ў Вільню, стаў надзейным паплечнікам Каліноўскага. Калі пачалося паўстанне ў Польшчы і трэба было неадкладна вырашаць, што рабіць рэвалюцыянерам Беларусі і Літвы, менавіта яго, Козела, надзвычай паваротлівага і ў той жа час цвёрдага (псеўданім — Скала), паслаў Каліноўскі ў Пецярбург і Маскву для ўзгаднення планаў выступлення з Серакоўскім і Звяждоўскім.

Місія, як бачым, вельмі адказная. Вяртаючыся, Ян Козел пабываў тады на Міншчыне і Гродзеншчыне. Потым ваяваў у паўстанцкіх атрадах на тэрыторыі Польшчы, быў у эміграцыі.

Яшчэ адно імя, яшчэ адзін адметны лёс: Баляслаў Длускі (1826–1905). Чалавек са значным жыццёвым вопытам, сваёй цікавай біяграфіяй. Яшчэ будучы вучнем Віленскай гімназіі, за ўдзел у рэвалюцыйных канспірацыях аддадзены ў салдаты і адпраўлены на Каўказ пад кулі горцаў. Усё перанёс, заслужыў афіцэрскае званне, што давала магчымасць выйсці ў адстаўку. Нейкі час вучыўся ў Пецярбургу ў мастацкай акадэміі. Потым скончыў Маскоўскі ўніверсітэт (студэнтам, як успамінаюць сучаснікі, насіў «беларускую сярмягу»), стаў доктарам. Бачыў самабытнасць, адметныя традыцыі Беларусі і Літвы, упарта адстойваў іх правы на перагаворах з варшаўскімі рэвалюцыянерамі.

На пачатку паўстання пасланы Каліноўскім на Ковеншчыну, пад прозвішчам Ябланоўскага ўзначаліў там буйны паўстанцкі атрад, умела выкарыстоўваючы свой каўказскі вопыт, біўся з царскімі войскамі. («Ябланоўскі робіць цуды», — радаваліся звесткам пра поспехі свайго таварыша паўстанцы-дэмакраты ва ўсіх кутках краю.) Потым прадстаўляў інтарэсы «Чырвонага жонда» Літвы і Беларусі за мяжою, клапаціўся аб зброі для паўстанцаў. Захавалася перапіска Каліноўскага з Длускім гэтага перыяду, якая сведчыць аб поўным даверы, які існаваў паміж двума дзеячамі. Гэта Длускаму пісаў зухавата-шчымліва наш верны рыцар свабоды: «Не турбуюся ні аб чым… А калі прыйдзецца павіснуць, то хай будзе на пацеху ўсім літоўскім панам і прасветлай Маскве!» Зазначым — усё так і адбылося, як абяцаў-прадбачыў Каліноўскі. Кастусь смела пайшоў на смерць. А Длускаму было наканавана жыць. Праз многа-многа гадоў пасля паўстання ён захапіўся ў Кракаве жывапісам, пасябраваў з Янам Матэйкам, і той угаварыў яго пазіраваць для славутай карціны «Грунвальдская бітва». Сцвярджаюць, што партрэтныя рысы паплечніка Каліноўскага захаваліся ў аблічы накрэсленага на гэтым палатне эльблонгскага комтура Тэтынгера.

Зыгмунт Чаховіч (1831–1907) — нязменны «экспедытар» віленскага паўстанцкага цэнтра, трымаў у памяці ўсе прозвішчы, адрасы і яўкі, кіраваў сувязямі з мясцовымі падпольнымі арганізацыямі Літвы і Беларусі. Перажыўшы катаргу і ссылку, вярнуўся на Лагойшчыну. Тут таксама яму на першым часе давялося нясоладка, здаралася, не было чым скрасіць няхітрую вячэру, але ён заўсёды як прадстаўнік былога паўстанцкага цэнтра «чырвоных» помніў пра даўгі паўстання, пра грошы, пазычаныя калісь на паўстанцкія мэты. І як толькі атрымаў спадчыну, у першую чаргу разлічыўся з гэтымі даўгамі. Паплечніку Каліноўскага Чаховічу выпала ў жыцці таксама сустрэцца з маладым Купалам. Скупы на аўтабіяграфічныя сведчанні, Янка Купала не раз з падзякай успамінаў Чаховіча і яго багатую бібліятэку ў Бясядах. Сустрэчы Купалы з Чаховічам каларытна паказаў у сваёй п'есе «Калыска чатырох чараўніц» Уладзімір Караткевіч. Зрэшты, пра ўсё гэта мы яшчэ будзем мець нагоду расказаць спецыяльна.

У 1972 годзе ў газеце «Літаратура і мастацтва» (за 2 чэрвеня) з'явіўся артыкул У. Яфрэмава пад характэрнай назвай «Сябра Манюшкі, паплечнік Каліноўскага, змагар парыжскіх барыкад». Размова ў ім ішла пра Ахілеса Банольдзі (1821–1871), які быў, бадай, самым незвычайным з усіх незвычайных людзей, што акружалі Каліноўскага. Мяркуйце самі. Італьянец па паходжанні, нарадзіўся ў Іспаніі, вучыўся ў Швейцарыі. Чалавек тэмпераментны, захоплены мастацтвам, у маладыя гады апынуўся ў Вільні, як спявак і настаўнік быў заўзятым прапагандыстам музыкальнай культуры, усёй душой палюбіў край, які стаў яго другой радзімай. Разам з Каліноўскім рыхтаваў паўстанне. Вымушаны ўцячы за мяжу, выконваў там важныя даручэнні правадыра паўстання. У 1871 годзе памёр ад ран, атрыманых на барыкадах Парыжа. Лёс, які таксама заслугоўвае мастацкага асэнсавання, літаральна просіцца ў аповесць або паэму.

Блізкім Каліноўскаму чалавекам быў афіцэр корпуса шляхоў зносін, інжынер-пуцеец Уладзіслаў Малахоўскі (каля 1830–1900). Калі

Каліноўскі быў для сяброў «Хамуціус 1», то Малахоўскі ў канспірацыйных колах тытулаваўся «Хамуціусам 2». Які яшчэ патрэбны доказ блізкасці? Адчайна смелы, ён нават, як расказвалі, выцягнуў аднойчы рэвальвер у жандара, што стаяў на варце. Смелы і паслядоўны ён быў таксама ў вырашэнні пытанняў рэвалюцыйнай тактыкі. Будучы ў Вільні рэвалюцыйным начальнікам горада, улетку 1863 года разам з Каліноўскім падрыхтаваў новы пераварот у рэвалюцыйнай арганізацыі, які завяршыўся адхіленнем ад улады «белых» і ўтварэннем «Чырвонага жонда». Гэта ён, Малахоўскі, падпісаў смяротны прысуд віленскаму маршалку шляхты Дамейку, праціўніку паўстання.

Вымушаны выехаць у Пецярбург, выканаў там надзвычай важныя даручэнні Каліноўскага па наладжванні сувязяў з рускай рэвалюцыйнай арганізацыяй «Зямля і Воля». Спецыялісты-навукоўцы заўважылі, што сёмы нумар «Мужыцкай праўды», выпушчаны ўлетку 1863 года, пасля значнага перапынку, адрозніваецца па мове ад астатніх. У сувязі з гэтым выказваецца арыгінальнае меркаванне: «Гэтыя разыходжанні апошняга нумара з шасцю папярэднімі гавораць за тое, што апошні напісаны кімсьці з паплечнікаў Каліноўскага, прадстаўніком паўднёвай (окаючай) гаворкі»[37]. Гэтым паплечнікам Каліноўскага якраз мог быць Малахоўскі, родам з Кобрыншчыны.

Нельга не ўспомніць у гэтым артыкуле і Ігната Здановіча (1841–1863), юнага выпускніка сталічнага ўніверсітэта з навюткім дыпломам кандыдата матэматычных навук, сына вядомага віленскага педагога і літаратара. Маючы вялікія матэматычныя здольнасці і зусім акрэсленую схільнасць да высокай навукі, ён ва ўмовах рэвалюцыйнага ўздыму адмовіўся ад навуковай кар'еры і палічыў за лепшае весці касу і рахункі паўстанцкай арганізацыі. Пасля арышту нікога не выдаў. Як небяспечны «дзяржаўны злачынец», зацяты вораг самадзяржаўя публічна павешаны ў Вільні ў адзін з апошніх снежаньскіх дзён 1863 года. Свет страціў, можа, новага Галуа. Адна праца яго была ўсё ж надрукавана. Толькі не матэматычная. Яшчэ да паўстання ён паспеў выдаць у Парыжы маленечкую брашурку — запіс дзядзькавых аповедаў пра часы філаматаў і філарэтаў. Вось дзе вытокі мужнасці, адданасці, прамая сувязь пакаленняў.

Не абмінём у нашым мартыралогу і Цітуса Далеўскага (1840–1863). Зусім малады яшчэ студэнт, парастак сям'і, якая дала вызваленчаму руху шмат выдатных дзеячаў, прынесла, так бы мовіць, на алтар свабоды шмат ахвяр. Бліжэйшы памочнік Каліноўскага ў складанай і небяспечнай справе адзінаборства з царызмам быў заўсёды пад рукой,

[37] Крамко І. І., Юрэвіч А. К., Яновіч А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. С. 68.



мог і ўмеў усё. Ён быў расстраляны на той жа Лукішскай плошчы праз некалькі дзён пасля смерці Здановіча. Мураўёўскі чыноўнік пазначыў у сваіх запісках: «…казнён был в Вильне молодой дворянин Тит Далевский, также упорно не сознававшийся в своих преступлениях, и в конфирмации его одним из главных пунктов обвинения было то, что он находился постоянным агентом и рассыльным Калиновского…»[38]. У такім самым духу выказваецца ў сваіх мемуарах і Я. Гейштар: «На смерць прывяла Цітуса неабходнасць захавання таямніцы пра асобу Каліноўскага, якая іх [царскія ўлады] найбольш цікавіла, і нянавісць Мураўёва да сям'і Далеўскіх». Перад смерцю Цітус паспеў пераслаць запіску блізкім: «У жыцці я не зведаў шчасця. Дзяліў са сваёй сям'ёй яе вялікую нядолю і ўсе маральныя пакуты. Любіў сваю радзіму, і цяпер мне радасна аддаць за яе жыццё. Пакідаю сваю сям'ю на апекаванне майго народа, бо з нас, братоў, ніхто жывы не застанецца»[39]. Столькі прынесена высакародных ахвяр, маладой любові і адвагі. Чаго вартыя адны даты: год нараджэння — саракавы, сорак першы, апошняя рыса — шэсцьдзесят трэці. Можам уявіць, як цяжка перажываў смерць сяброў Каліноўскі, чалавек найвялікшага сэрца. Дый у самога тая ж сумная, трагічная «арыфметыка»: 1838–1864. Міжволі ўспамінаеш пранізлівы верш Караткевіча «Павешаным 1863 года». Адважных паўстанцаў паэт параўноўваў з героямі-маракамі, што гінуць, так і не спусціўшы перад ворагам горды баявы сцяг:

Даўно здалася — нават сталь, —
І толькі зараз — мы памром
Пад сцягам, што ў прадонні хваль
Знікае разам з караблём.

Колькі таямніц, маладых募 мараў панеслі яны з сабой у бездань нябыцця…

Сапраўдным штабам Каліноўскага ў Вільні была кватэра Ямантаў на Ратушнай плошчы (цяпер плошча вакол Мастацкага музея Літвы ў раёне вуліцы Дзіджойі). Яманты добра ведалі Беларусь — бацька доўгі час служыў там у князёў Вітгенштэйнаў. Сын-студэнт Юзаф Ямант (нарадзіўся каля 1841-га, год смерці невядомы, пятля яго абмінула) быў сакратаром Каліноўскага, памагаў кіраўніку паўстання, «разварочваючы яго сюжэты на паперы», яны разам вялі «палеміку з Варшавай, якая не разумела мясцовых адметных умоў літоўскага краю» (паказанні Ямантa ў вільнюскім гістарычным архіве). У верасні 1863 года Каліноўскі накіраваў яго ў Мінск для ўзмацнення тутэйшай

[38] Мосолов А. Виленские очерки. СПб., 1898. С. 120.

[39] Смирнов А. Ф. Восстание 1863 года в Литве и Белоруссии. М., 1963. С. 381.

рэвалюцыйнай арганізацыі. Кастусь прасіў свайго паплечніка найперш высветліць, як можна прыцягнуць сялян да паўстання, якога характару павінны быць друкаваныя адозвы. Сястра Юзафа Марыя была нявестай Каліноўскага — тая самая Марыська чарнабровая з развітальнага верша рэвалюцыянера. За ўдзел у паўстанні Яманты ўсёй сям'ёй былі сасланы ў Сібір, дзе ўсяляк клапаціліся пра іншых ссыльных, удзельнічалі ў тайных планах тамашніх арганізацый. Апошнім часам пра Ямантаў былі цікавыя публікацыі В. Шалькевіча.

А верная сувязная-кур'ерка Каліноўскага напярэдадні арышту Караліна Яцына, якую — у сваім рамантычным асвятленні — прадставіў Караткевіч у драме «Кастусь Каліноўскі»? А памочнікі-супрацоўнікі Ільдэфонс Мілевіч і Юзаф Каліноўскі? (Апошні стаў пасля манахам-кармелітам і за заслугі перад Царквою нават кананізаваны.) А аднадумцы ў Мінску і Навагрудку Антон Трусаў і Уладзіслаў Борзабагаты?..

Мы назвалі толькі некаторых бліжэйшых сяброў і паплечнікаў Кастуся Каліноўскага. Гэта нібы маленькая, далёка не поўная галерэя людзей з яго акружэння. Верыцца: з цягам часу выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» наважыцца падрыхтаваць грунтоўны том — энцыклапедычны даведнік «Кастусь Каліноўскі», дзе кожнаму яго паплечніку, сябру, супрацоўніку будзе адведзена належнае месца. Несумненна, што вывучэнне акружэння Каліноўскага шмат што дадае да незгасальнага вобраза «атамана мужыцкай праўды».



# РЭХА ДАЛЁКІХ ГАДОЎ

…Ціхі жаль над крыжамі застыў,
ціхі ўздох на забытай магіле…

*Л. Геніюш*

Узяцца за пяро гэты раз мяне падштурхнула пісьмо аб адным цікавым гістарычным помніку ў Навагрудскім раёне. Яно растрывожыла, прымусіла засесці за парадкам падзабытыя на той час кнігі і архіўныя выпіскі, каб узнавіць у памяці падзеі стодваццацігадовай даўнасці…

…Тады на беларускай зямлі вiравала паўстанне Кастуся Каліноўскага. З'явішча вельмі няпростае і супярэчлівае. Сацыяльныя патрабаванні народных мас, перш за ўсё сялянства, перапляталіся ў ім з не менш магутнымі плынямі нацыянальна-вызваленчага руху. Вір падзей падхапіў і сялян, і дваранства, закрануў нават асобных памешчыкаў, вядома, самых чуйных і актыўных з іх у грамадскіх адносінах. У цэнтры апынуліся сярэднія пласты — афіцэры, студэнты, людзі свабодных прафесій, адукаваная шляхта без вялікіх маёнткаў і г. д. Усё гэта «чырвоныя» тых часоў, апошні ўсплёск шляхецкай рэвалюцыйнасці, на змену якой ішла рэвалюцыйнасць сялянская, разначынная. Спадзяванні працоўнага народа — пра гэта светла думаецца — надзейна прадстаўляў у разнагалоссі паўстання сам Каліноўскі. Цікава, што з паўстаннем у той або іншай ступені былі звязаны ці не ўсе тагачасныя беларускія пісьменнікі (Багушэвіч, Дунін-Марцінкевіч, Вярыга-Дарэўскі, Абуховіч, Каратынскі, Тапчэўскі). Перадавыя тэндэнцыі паўстання падкрэсліваюцца далейшым лёсам многіх яго ўдзельнікаў (Урублеўскі — генерал Парыжскай камуны, Трусаў — сакратар Рускай секцыі І Інтэрнацыянала).

Сяляне ставіліся да падзей 1863 года неадназначна. Адны пайшлі ў паўстанцы, другія не прынялі паўстання, не разумелі яго мэт. Гэта прызнаваў сам Каліноўскі («Селянін, бачачы не абрэзаныя кіпці сваіх паноў, не мог ім даверыцца…»), адлюстравана гэта і ў творах гістарычнай мастацкай літаратуры («Каласы пад сярпом тваім» У. Караткевіча, «Хамуціус» А. Куляшова).

Супярэчнасці і парадоксы часу добра відаць на прыкладзе падзей, што разгарнуліся на Наваградчыне. Маем на ўвазе былы Наваградскі (Навагрудскі) павет, значна большы за сённяшні раён. Падрыхтоўкай

паўстання тут кіраваў аднадумец Каліноўскага доктар Уладзіслаў Борзабагаты, які гарой стаяў за сялян і патрабаваў экспрапрыяцыі памешчыкаў. Ён яшчэ ў школьныя гады зрабіўся ворагам самадзяржаўя і быў выключаны з «воўчым» білетам з Мінскай гімназіі. Пасля разгрому паўстання завочна асуджаны царскім судом на смерць, але ўцёк у Францыю і ў час славутай Камуны быў галоўным медыкам парыжскага шпіталя.

Як вядома, з сакавіка 1863 года да ўлады ў віленскім паўстанцкім цэнтры прыйшлі «белыя», якія прадстаўлялі інтарэсы ліберальнага памеснага дваранства. Адбыліся змены і на месцах. Кіраўніком навагрудскай арганізацыі прызначаецца памешчык Канстанцін Кашыц, чалавек фразы, а не дзеяння, маладушны балбатун з універсітэцкім дыпломам. Борзабагатаму ўвесь час даводзілася змагацца з сабатажам Кашыца.

І ўсё ж у павеце намаганнямі Борзабагатага фарміруюцца паўстанцкія атрады. Яму памагаюць некалькі афіцэраў, напрыклад член пецярбургскага гуртка Серакоўскага — Дамброўскага, адстаўны штабс-капітан Караль Шалевіч. У актыве навагрудскай арганізацыі былі таксама рана арыштаваны валасны пісар з сялян Вінцэсь Клімовіч, які напісаў музыку на элегію Каратынскага «Туга на чужой старане», студэнт Лаўрын Клюкоўскі з братам Кастусём. Трэці іх брат, Фелікс, якога даўно ўжо шукалі царскія ўлады, паводле слоў мемуарыста, «пусціўся пешкі ў народ па Случчыне і Піншчыне. Адважны, кемлівы, ён дасканала валодаў народнай мовай і ценем знікаў ад царскай паліцыі, спыняючыся ў корчмах або сялянскіх хатах, дзе смела сеяў патрыятычную прапаганду… Гэты чалавек належыць да самых прыгожых і чыстых постацей апошняга паўстання…»[40].

Да такіх жа маладых энтузіястаў вызваленчага руху належаў Адам Пуслоўскі, пра якога і пойдзе цяпер гаворка. Гэта студэнт 20 або 21 года, які стаяў яшчэ, можна сказаць, на парозе жыцця. Каля двух гадоў правучыўся ён у Пецярбургскім універсітэце, а ў верасні 1862 года перайшоў у старажытны ўніверсітэт Кракава, дзе некалі набіраўся высокай мудрасці Францыск Скарына. Калісь гэта была польская сталіца, а ў XIX стагоддзі Кракаў уваходзіў у склад габсбургскай Аўстрыі. Магчымасці для вучобы за мяжою ў Адама былі — ягоная маці Эвеліна з Абуховічаў (хутчэй за ўсё, нейкая сваячка Альгерда Абуховіча) валодала пад Любчай даволі прыстойным маёнткам Сенна: 2064 дзесяціны зямлі, 437 «рэвізскіх душ». Са студзеня грознага 1863 года Пуслоўскі на радзіме. Ні ўласнасць, ні зразумелыя засцярогі бацькоў не могуць утрымаць хлопца: ён заўзяты «чырвоны», прагне паўстання ў імя свабоды айчыны і эмансіпацыі, як тады казалі, сялян. Сенна, дзе, між іншым,

[40] Успаміны мінчаніна В. Кошчыца-Валодзькі ў кн.: Polska w walce. T. 2. Kraków, 1875. S. 199–200.



у свой час быў хатнім настаўнікам пісьменнік Вінцэсь Каратынскі, становіцца адным з асяродкаў паўстанцкіх рыхтаванняў.

На пачатку красавіка (адразу пасля Вялікадня) падрыхтоўка была збольшага закончана і Наваградчына выступіла.

І — вельмі няўдала.

Прывядзём амаль цалкам параўнальна кароткае данясенне мінскага губернскага жандарскага штаб-афіцэра Рэйхарта ў Пецярбург ад 13 красавіка 1863 года (зразумела, паўстанцкія атрады ў ім называюцца «шайкамі», а самі паўстанцы — «мяцежнікамі» ці «інсургентамі»):

> «Военный начальник Новогрудского уезда полковник Чертов доносит, что в Новогрудском уезде появились две шайки мятежников: первая – в деревне Колпеничах, около 46 человек, которая на подводах проехала чрез местечко Полонечку, Мир и в местечке Еремичах переправилась через Неман в Селявскую слободу Ошмянского уезда, направляясь в Налибоки; главными коноводами этой шайки были: отставной штабс-капитан Шалевич, окончивший курс наук в Академии генерального штаба, и студенты Киевского университета Клюковские, Юльян Далькевич, дворянин Иосиф Обухович и землемер Эдмунд Герман. Вторая шайка, в числе до 60 человек, появилась в Сенно помещика Пусловского, где присоединился сын его Адам; эта шайка переправилась через Неман в Ошмянский уезд в Понемоне, под предводительством новогрудского ксендза Лашкевича и Пусловского.
>
> Шайки эти по мере их следования по уезду увеличивались и снабжались оружием, телегами, лошадьми и пр. Против них отправлен был отряд из одной стрелковой роты Староингерманландского пехотного полка при 10 казаках под командою майора Слешинского. Мятежники настигнуты были отрядом 7 апреля в 20 верстах от местечка Налибок в лесу, где соединились обе шайки. Инсургенты встретили отряд ружейным залпом, и после двухчасовой с обеих сторон перестрелки инсургенты стали отступать к озеру и наконец, сильно теснимые стрелками, бежали, оставив на месте до 60 человек убитыми и 5 пленных... После того из числа бежавших поймано 31 человек, в числе коих дворян до 20 человек и между ними штабс-капитан Шалевич и помещик Пусловский, к поимке немало способствовали тамошние крестьяне. В отряде ранен 1 казак и 1 лошадь.
>
> Полковник Рейхарт»[41].

[41] Восстание в Литве и Белоруссии 1863–1864 гг. С. 415–416.

Камандзіры царскіх карных падраздзяленняў звычайна перабольшвалі страты паўстанцаў (што лёгка ўдавалася) і змяншалі свае (што было цяжэй, але таксама, трэба думаць, рабілася). Тым не менш нават пры такой карэкцыі відаць, што паўстанцы пацярпелі ў дадзеным выпадку дастаткова сур'ёзнае паражэнне. Гэта — праўда, больш стрымана — прызнала і паўстанцкая газета «Вядомосьці з поля бітвы» (№ 10 за 7 мая 1863 года новага стылю, гэтага ж стылю і даты ў тэксце): «Атрад з Навагрудскага павета, які налічвае каля 150 чалавек, дня 18.IV уступіў у Ашмянскі павет, у ваколіцах Налібок дня 19.IV яго дагналі значна больш шматлікія сілы. У першы момант, як паказаўся вораг, нашы жаўнеры кінуліся наперад, але пад густым ружэйным агнём 2 рот пяхоты вымушаны былі схавацца ў лесе. Страты салдат невядомыя, паколькі яны авалодалі полем бою, з нашага боку загінула 20, узята ў палон 10…». Паводле газеты, карнікі бязлітасна дабівалі параненых паўстанцаў.

Лічбу 20 забітых падае і вядомы грунтоўны даведнік польскага гісторыка С. Зялінскага «Бітвы і сутычкі 1863–1864 гадоў» (1913). Зялінскі таксама прывязвае гэты бой да Налібок. Але гэта занадта агульны арыенцір. З архіўных дакументаў відаць, што абедзве паўстанцкія групы злучыліся на дарозе Налібокі — Шчорсы і спыніліся на адпачынак у лясным урочышчы Белыя Мхі, дзе і адбывалася трагедыя.

Як сведчыць другі дакумент, у забітых 7 красавіка навагрудскіх паўстанцаў знайшлі «ў вялікай колькасці» выданні Літоўскага правінцыяльнага камітэта, які ўзначальваўся Каліноўскім, у прыватнасці дэкрэт ад 1 лютага аб перайменаванні камітэта Каліноўскага ў Часовы ўрад Літвы і Беларусі і бліжэйшых мэтах паўстання. Так што сувязь Пуслоўскага і яго таварышаў з рухам «чырвоных», з Каліноўскім відавочная.

Сабатажнік, а пасля арышту і здраднік Канстанцін Кашыц ва ўсіх няўдачах абвінавачваў Борзабагатага. У адрасаванай царскім уладам запісцы ён гаварыў аб сваіх спробах парушыць планы рэвалюцыйнага камісара: «…змяніўшы коней, я паехаў у Сенна, каб затрымаць ад'езд маладога Пуслоўскага, які, я ведаў, быў у спісе тых, каго Борзабагаты прызначыў у якасці збавіцельнай ахвяры… На жаль, я прыбыў занадта позна. Ён не толькі паехаў, але калі я прыбыў у Сенна, туды прыйшла вестка, што атрад, дзе знаходзіўся няшчасны малады чалавек, разгромлены, а сам ён узяты ў палон. Яго бацькі не было. Дома знаходзілася толькі маці, яна не ведала аб палажэнні сына — мне выпала сумная місія паведаміць ёй пра гэта. На жаль, тады мы былі яшчэ далёкія ад таго, каб здагадвацца аб трагічным канцы, які чакаў гэтага высакароднага, але няшчаснага маладога чалавека, чые каштоўныя якасці былі б, магчыма, так карысныя краіне…» (пераклад з французскай)[42].

[42] Дзяржаўны гістарычны музей у Маскве. Ф. 381. Спр. 13. Арк. 194–195.



Сапраўды, няўдача спасцігла навагрудскіх паўстанцаў так хутка, што яны не паспелі яшчэ нарабіць вялікай шкоды для царскіх улад. Дзясяткі байцоў засталіся ляжаць на полі бою — здавалася б, пачуццё помсты ў карнікаў павінна быць цалкам задаволена. Што да Адама Пуслоўскага, дык гэта яшчэ зусім малады чалавек з вядомай да таго ж у краі фаміліі. Ён і ў паўстанні быў літаральна нейкія суткі, лічаныя гадзіны: 6-га выйшаў, а 7-га той нешчаслівы бой… Так што будучыня малявалася Пуслоўскаму і яго сям'і спачатку, мяркую, не ў самых змрочных фарбах.

Зрэшты, пагартаем «Дело штаба 3-й пехотной дивизии об инсургентах, взятых в плен 7 апреля… и о предании полевому военному суду предводителя шайки… Пусловского…» (ЦДГА ў Мінску. Ф. 296. Воп. 1. Спр. 29б).

Ліст 1. Палкоўнік Чартоў — камандзір палка і ваенны начальнік павета — перасылае 10 красавіка камандзіру дывізіі генералу Гальтгоеру спіс палонных і дадае: «…из словесных показаний пленных и пойманных видно, что шайкою командовал помещичий сын Адам Пусловский, взятый при разбитии шайки». Спіс на 29 чалавек палонных (15 дваран, 13 сялян, 1 мешчанін) адкрываўся прозвішчам Пуслоўскага.

Аддаецца загад неадкладна наладзіць пры палку ваенны суд, следства правесці «з усялякаю паспешлівасцю, у скарочанай форме».

Высветлілася, што паўстанцы прабылі ў Сенна нейкую гадзіну, забралі тут 11 коней. Апрача Адама з імі пайшлі адсюль яшчэ 8 чалавек. Палонныя і іншыя сведкі паказалі, што Пуслоўскі вёў атрад, едучы вярхом наперадзе, а пасля прыбыцця ў лес Белыя Мхі загадаў паставіць пікеты і паслаць людзей на фуражыроўку. Гаварылі, што ён раздаваў байцам зброю і прывёз у лес паўстанцкі сцяг, або значок. Потым былыя паўстанцы пачалі адмаўляцца ад ранейшых паказанняў. Сам Пуслоўскі ў выкананні камандзірскіх функцый не прызнаваўся і стаяў на тым, што быў уцягнуты ў рух ці не гвалтам.

Суд палічыў не даведзеным, што Пуслоўскі быў кіраўніком, тым не менш прыгаварыў яго да расстрэлу за ўдзел «у шайцы» са зброяй у руках. Гэта была максімальная ў такіх выпадках кара, якая ўспрымалася пакуль што сімвалічна.

Камандзір дывізіі Гальтгоер не адважыўся зацвердзіць прысуд і 14 мая пераслаў справу ў Вільню. Былі ўсе падставы чакаць змякчэння — і значнага — першапачатковага прыгавору. Але…

Трэба ж так здарыцца, што якраз у той дзень 14 мая ў Вільню прыбыў новы галоўны начальнік краю, Мураўёў-вешальнік. У яго быў прынцып: адразу запалохаць. Няхай шыбеніцы ўзнімуцца і прагучаць залпы расстрэлаў у розных кутках Беларусі і Літвы. Ахвяр асабліва не

шукаць — бадай, чым больш нечаканы прысуд, тым лепш. Няхай кроў стыне ў жылах у мяцежных жыхароў Беларусі. У Наваградку яго выбар паў на Пуслоўскага…

Гаворaць, што словы «расстраляць» і «павесіць» Мураўёў выводзіў з асаблівай прыемнасцю. І ў дадзеным выпадку яго пяро не павагалася, не прыпынілася, нягледзячы на ўсю няпэўнасць, недастатковасць матэрыялаў справы.

1 жніўня 1863 года ў герцэнаўскім «Колоколе» з'явілася перадрукоўка з «Виленского вестника»: «Сын памешчыка Наваградскага павета, Мінскай губерні, Адам Пуслоўскі аказаўся вінаватым у прыняцці ўдзелу ў дзеяннях мяцежніцкай шайкі, за што ён, паводле зацверджанага прыгавору суда, пакараны смерцю — расстраляны 26-га чысла гэтага чэрвеня, а 6-й гадзіне папоўдні, у горадзе Наваградку». Адначасова перадрукоўвалася паведамленне афіцыйнай прэсы аб пакаранні смерцю селяніна Мацея Цюхны ў Саколцы за распаўсюджванне «Мужыцкай праўды». «Нельга не заўважыць, што крыважэрнасць яўным чынам расце. Цяпер ужо караюць смерцю не правадыроў, а "ўдзельнікаў у дзеяннях мяцежніцкай шайкі" і "распаўсюджвальнікаў брашур і фальшывых чутак"»[43], — каменціраваў А. І. Герцэн. Вялікі лонданскі выгнаннік дакладна адчуў тэндэнцыю.

Дык вось, у Наваградку грымнуў залп. Пакаранне смерцю адбылося. Дзе менавіта? «На плацы за Гродзенскаю заставаю», — адказваюць дакументы. «При стечении народа». Пра астатняе дакументы маўчаць, але мы ведаем, што звычайна цела ахвяры засыпалася вапнай і закопвалася на месцы пакарання. Магілу разраўнівалі, каб не засталося ніякага знаку.

Мясцовае наваградскае паданне расказвае, што маці Пуслоўскага пасля прысуду як на крылах прыляцела ў Вільню, вымаліла ў Мураўёва памілаванне, але міласць гэта была аказана ўжо нібыта пасля выканання прысуду. Сітуацыя вельмі блізкая да апісанай У. Караткевічам у рамане «Нельга забыць».

У дакументах толькі далёкія згукі, нейкія намёкі на страсці, што кіпелі вакол наваградскай трагедыі. Мінскі губернатар Кажэўнікаў піша 29 чэрвеня — праз тры дні пасля таго, як усё было скончана, — Чартову: «Вследствие полученной мною телеграфной депеши г. генерал-губернатора здешнего края прошу ваше высокоблагородие с первою отходящею почтою уведомить меня, приведен ли в исполнение и когда именно приговор над помещиком Пусловским и если не исполнен, то почему»[44]. «Пан генерал-губернатар тутэйшага краю» — гэта Мураўёў. Вешальнік турбуецца, каб ахвяра хаця б не выслізнула з яго хіжых кіпцяў.

[43] Герцен А. И. Собр. соч.: в 30 т. Т. 17. М., 1959. С. 333–334.

[44] ЦДГА ў Мінску. Ф. 295. Воп. 1. Спр. 1565. Арк. 17 адв.



Паданне пра тыя трагічныя падзеі пераказаў мне настаўнік з вёскі Горная Рута Карэліцкага раёна Леанід Навара, пісьмо якога якраз і прымусіла мяне ўзяцца за гэты артыкул. Дарэчы, як сказаў мне славіст з Лондана Гай дэ Пікарда, родам брэтонец, прозвішча Навара французскага паходжання і ідзе ад напалеонаўскіх салдат, што пры адступленні «Вялікай арміі» прыставалі ў прымы ў беларускіх вёсках. Леанід Аляксандравіч родам з Сенна. Яго продак селянін Андрэй Жылка быў таварышам Адама Пуслоўскага па няўдалым паўстанцкім паходзе.

Народная памяць захавала цікавыя дэталі з тых падзей, напрыклад (цытую пісьмо): «Пры павароце з Сенна на Купіск атрад Пуслоўскага абстраляў урадніка і яго людзей, што ехалі з Любчы арыштаваць паніча». У дакументах следчай справы гэтага не было. Значыць, звесткі аб антыўрадавай дзейнасці Адама даходзілі да ўлад яшчэ да пачатку ўзброенага паўстання.

Пасля разгрому атрада Жылку ўдалося ўцячы, ён шчасліва пазбег рэпрэсій. Як расказвае Леанід Аляксандравіч, Эвеліна Пуслоўская заўсёды была ўважлівая да Жылкі, дала нават яму лішні шнур зямлі. Яе можна зразумець: гэты селянін, што старэў разам з ёй у хлебаробскіх клопатах, быў часцінкай памяці аб сыне, які назаўсёды застаўся дваццацігадовым.

Даючы кавалак зямлі паўстанцкаму таварышу Адама, яна рабіла як бы апошнюю паслугу сыну, які марыў бачыць народ шчаслівым.

А найперш пасля гібелі сына яна загадала тайна выкапаць яго цела з безыменнай магілы на месцы пакарання і перанесці ў сямейны склеп у маёнтку Сенна. Над склепам узнёсся арыгінальны помнік, увенчаны прыгожым мастацкім распяццем. Расказваюць, што пані Эвеліна любіла сядзець на ганку свайго дома-палаца і глядзець на помнік. У гэтым жа склепе праз два дзясяткі год пахавалі і яе саму. Як паведамляе Леанід Аляксандравіч, у склепе было шэсць ніш, з іх запоўнены толькі дзве: у адной ляжалі астанкі Адама, у другой — яго маці. На помніку выбіта толькі імя маці: Ewelina Pusłowska z Obuchowiczów. Імя Адама не пазначана ў сувязі з акалічнасцямі перазахавання.

Сенненскі помнік, як заўважыў Леанід Аляксандравіч, згадваецца ў беларускай літаратуры.

І праўда, у 1910 годзе, падарожнічаючы па Беларусі, Сенна наведаў пісьменнік Ядвігін Ш. У маёнтку гаспадарылі ўжо сяляне, якія раскупілі яго па частках. Былыя дворныя будынкі разбіраліся. Помнік ужо тады выглядаў сіратліва. У «Лістах з дарогі» пісьменнік піса: «Супроціў быўшых палацаў — зноў прысады; цягнуцца яны недалёка — толькі да магілы даўнейшых тутэйшых паноў. На месцы магілы вымураваны склеп; над склепам пастаўлены вялізны памятнік; на ім крыж з фігурай Хрыста, дзіўна пекнай работы.

Сумныя думкі так і наляталі, так і ціснуліся ў душу маю, калі я пакідаў гэты двор. Сумна…» Пісьменнік сумаваў, бачачы, што раз’яднанасць не прыносіць людзям шчасця: «Бо не прыйшла сюды свядомая грамада людзей, а пайшлі яны ўрассыпную і жыць будуць урассыпную: не для грамады, не для агульнага дабра, а кожны сабе, кожны паасобку»[45].

Помніку ў Сенна не шанцавала і пасля. «У цяперашні час, — з трывогай пісаў Леанід Аляксандравіч, — помнік на мяжы знішчэння. Труны з ніш выкінуты, замест дзвярэй з кольцамі — пралом. Але сам помнік пакуль астаўся не пад сілу часу… Ён адліты з чыгуну, вышыня яго каля 10 метраў. Але, чаго добрага, знойдзецца сіла або воля недасведчанага чалавека, перад якой і чыгун не ўстаіць».

Трывога настаўніка зразумелая.

Помнік у Сенна — гэта як бы рэха, што дайшло да нас з часоў Каліноўскага, рэха вялікай матчынай любові.

Пасля надрукавання гэтага матэрыялу (1983) я дабраўся да польскага краязнаўчага часопіса «На земі нашэй», які выходзіў на пачатку стагоддзя ў Львове. Аказалася, што помнікам у Сенна і звязанымі з ім падзеямі цікавіўся таксама вядомы вучоны-прыродазнавец і ўдзельнік вызваленчага руху эпохі Каліноўскага Бенядзікт Дыбоўскі, які ў 1909 годзе надрукаваў у гэтым часопісе артыкул «Адась Пуслоўскі» са здымкам помніка. Вялікіх разыходжанняў з нашымі звесткамі там няма.

Папраўку трэба зрабіць хіба тую, што сваякі Адама, па новай версіі, спадзяваліся на дапамогу не з Вільні, а з Пецярбурга, куды спецыяльна выехала цётка нашага паўстанца, уплывовая генеральша. Але гэта не памагло.

Падрабязна апісвае Дыбоўскі бязлітасную расправу карнікаў над Адамам, яго апошнія хвіліны. Трагічнага выніку ніхто не чакаў, і перш за ўсё сам вязень. «Раптам а 6-й гадзіне вечара ўляцеў у турму афіцэр з загадам, каб Адась рыхтаваўся на выхад; той, думаючы, што яго выклікаюць у следчую камісію, якая засядала ў “падамініканскім будынку”, дзе была даўней гімназія, у якой вучыўся Адам Міцкевіч, ішоў весела ў акружэнні салдат, аднак калі замест таго, каб ісці вуліцай направа да Дамініканаў, раптам павярнулі налева ў Смаленскі завулак, Адась запытаўся, куды яго вядуць. Адзін з салдат сказаў: “Ідзеш на смерць”. Гэты адказ салдата палічыў Адась за маскоўскі жарт, бо не дапускаў, як гаварыў пасля свайму спавядальніку, каб яго без прысуду павялі на смерць (папраўдзе, прыгавор быў, ды ў сур’ёзнасць яго ніхто не верыў. — *Г. К.*).

45 Ядвігін Ш. Выбраныя творы. Мінск, 1976. С. 229–230.



Толькі калі паглыбіліся ў пусты незабудаваны завулак, убачыў Адась, што ў падножжа гарыстага яра спехам укопваюць слуп, выцягнуты па суседстве з агароджы, і капаюць яму пад слупам, прычым быў ужо тут ксёндз, наваградскі дэкан Эймунт, а таксама атрад салдат, якія зараджалі ружжы. Толькі цяпер зразумеў, што яго тут будуць забіваць. Ксяндзу не дазволілі спавядаць, загадалі толькі “паблагаславіць” Адася і далі трохі часу, так што асуджаны мог паведаміць ксяндзу, што яго не папярэдзілі пра тое, што вядуць на смерць… ды і цяпер не прачыталі прысуду. Двое салдат па знаку афіцэра груба схапілі Адася пад пахі, прывялі пад слуп, скруцілі рукі за спінай і прывязалі вяроўкамі да слупа. Адась прасіў, каб яму не завязвалі вачэй, не паслухаліся гэтай просьбы, завязалі яму вочы хустачкай, вынятай з кішэні афіцэрам. Потым загадалі салдатам падысці так блізка да ахвяры, што траха не датыкаліся штыкамі. Закамандавалі агонь, і пасля стрэлаў, сцякаючы крывёю, мёртвае цела павісла на вяроўках ля слупа.

З нейкай дзіўнай паспешнасцю вырвалі слуп, каб паставіць яго назад у агароджу, а цела Адася разам з вяроўкамі і хустачкай афіцэра кінулі ў неглыбокую яму (выходзіць, абышліся без вапны. — *Г. К.*), зараўнялі зямлёю і, як забойцы, што ўцякаюць з месца ўчыненага злачынства, пакінулі месца экзекуцыі, не выставіўшы ніводнага вартавога, як гэта бывае ў такіх выпадках пасля расстрэлу ахвяры. Бацька Адася, атрымаўшы вестку пра ўчыненае забойства, пастараўся выкрасці цела няшчаснага свайго сына. Выкрадзенае цела схавалі ў катакомбах Наваградскай фары ў вялікай таямніцы». І толькі пазней цела пакутніка-паўстанца апынулася ў сямейным склепе.

«Пра забойства Адася не данеслі ў праўленне Нягневіцкай парафіі, і ў метрычных кнігах жыве ён дагэтуль, як жыве і жыць будзе ў сэрцах сваіх землякоў» — такімі словамі завяршае Б. Дыбоўскі свой журботны артыкул.

Помнік у Сенна і звязаныя з ім падзеі маюць, такім чынам, і сваю адметную літаратурную гісторыю.

І ў канцы — добрая вестка. Некалькі гадоў назад помнік вялікай мацярынскай любові, помнік маці і сына, наколькі дазвалялі мясцовыя ўмовы, усё ж упарадкаваны, абнесены агароджай, і Леанід Аляксандравіч Навара сам — ён умее і гэта — выбіў на памятнай дошцы адпаведны выпадку надпіс.

# «ЯК СОЛАДКА ПАМЕРЦІ ЗА РАДЗІМУ!..»
## Паўстанцкі камандзір Францішка Багушэвіча

Гэта з Людвіка Нарбута ранаў
разлілася ціхая Котра.

*Д. Бічэль-Загнетава*

Сярод паўстанцкіх камандзіраў 1863 года сваім талентам і ратным майстэрствам асабліва вылучаўся Людвік Нарбут, які ўзначальваў баявыя дзеянні змагароў за свабоду ў Лідскім павеце, на сумежжы Беларусі і Літвы. Яго параўнальна кароткае жыццё напоўнена драматычнымі падзеямі, якіх хапіла б не на адзін прыгодніцкі раман.

Нарадзіўся ён 31 жніўня 1832 года (называюць таксама 1831-ы і нават 1830 год) у Шаўрах на Лідчыне ў сям'і славутага гісторыка Тэадора Нарбута. Пасля заканчэння павятовага вучылішча (Ліда) Людвік працягваў вучобу ў Віленскай гімназіі. Паводле ўспамінаў блізкіх, любімым прадметам яго была гісторыя, якая на кожным кроку давала захапляльныя прыклады і ўзоры высокай духоўнасці і маралі. Вельмі рана юнак далучыўся да вызваленчага руху. І тут яго падпільнавала бяда. У канцы 1850 года, будучы ў апошнім класе гімназіі, за спробу ўтварыць тайную антыўрадавую арганізацыю сярод навучэнцаў Людвік быў арыштаваны. На следстве ён прызнаўся, што «в ноябре месяце (1850 г.) возымел намерение составить между своими товарищами общество патриотов с целью произвести восстание… патриотические понятия внушены ему лекарем Ренperiodом, который бывал в доме родителей его, вселял в него чувство ненависти к правительству и давал читать запрещенные сочинения». Паказанні Людвіка ўжо не маглі пашкодзіць вядомаму дзеячу вызваленчага руху доктару Аніцэту Рэніеру, яшчэ ў 1848 годзе сасланаму з Вільні на катаргу ў Сібір. Хутчэй, гэта быў свядомы выклік маладога патрыёта царскім уладам. Гісторыкі гавораць пра мужныя паводзіны Людвіка на следстве, у сувязі з чым ніводзін яго таварыш не пацярпеў. Затое расправа над самім Людвікам была выключна жорсткай. Пакараць публічна розгамі і аддаць у салдаты — была рэзалюцыя цара Мікалая І. У сакавіку 1851 года пасля гнюснай і зневажальнай для маладога двараніна экзекуцыі Людвік быў адпраўлены ў Калугу ў штаб 18-й пяхотнай дывізіі.

Там і пачалася яго доўгая, нясцерпна цяжкая служба салдата-штрафніка, асабліва нязносная для юнака, які ведаў дагэтуль толькі высокую гармонію сям'і Нарбутаў і агульную любоў таварышаў. Людвік і ў гэтых надзвычай суровых умовах не схіляў галавы, кінуўся аднойчы на афіцэра, які абразіў яго. Справу, на шчасце, сяк-так замялі. Людвіка перавялі ў Маскву, адкуль ягоны полк выступіў на Каўказ. Давялося ўдзельнічаць у незлічоных сутычках. Юнак сумаваў па радзіме. У пісьмах да любімай сястры Тэадоры, з якой заўсёды падтрымліваў сувязі, прасіў прыслаць хаця б засушаную кветку або які жытні каласок з родных палёў. Падчас Крымскай вайны служыў у войсках генерала Мураўёва-Карскага (прагрэсіўнымі поглядамі зусім не падобнага да свайго брата — Мураўёва-вешальніка), быў паранены пры штурме крэпасці Карс і, расказваюць, атрымаў тры рублі ўзнагароды за салдацкае цярпенне і храбрасць.

У 1859 годзе, пры новым ужо імператары, дачакаўся нарэшце афіцэрскага звання і першага водпуску дамоў. Можам уявіць сабе, як сустрэлі яго ў родных Шаўрах. Кожны афіцэр меў права на адстаўку. Людвік неадкладна выкарыстаў гэтае права, пасяліўся ў бацькі і заняўся гаспадаркай. У 1861 годзе ажаніўся з маладой удавой Амеліяй Седлікоўскай і перабраўся на жыццё ў яе маёнтак Серпянішкі, непадалёк ад Шаўраў. Любімая кніжка, пяро і паляўнічая стрэльба заўсёды былі пад рукой. Жыў ён таксама і ў прыцягальнай сваімі культурнымі і гістарычнымі традыцыямі Вільні (у доме на Замкавай вуліцы насупраць Святаянскага касцёла). Была ў гэтым і сямейная неабходнасць: сыны яго жонкі ад першага шлюбу якраз у 1862 годзе паступілі ў Віленскую гімназію.

У краі рыхтуецца паўстанне, і Людвік заводзіць сувязі з «чырвонымі», з Каліноўскім. Бывае на сходах канспіратараў у Лідзе. У падпольнай арганізацыі Лідскага павета яму выпалі абавязкі аднаго з акруговых арганізатараў. З Каліноўскім збліжае Людвіка, усіх Нарбутаў, А. Яліцкі, аўтар цікавай кніжкі «Нарбут», што выйшла неўзабаве пасля паўстання ў Львове. На думку аўтара, Каліноўскі — «найвялікшы з нашых рэвалюцыянераў, выразнік грамадскай думкі паўстання ў такой жа меры, як Нарбут быў выразнікам духу і гераізму эпохі…».

Вось храналагічны ланцужок фактаў, якія пацвярджаюць гэтую характарыстыку. 10 (22) ці, хутчэй, 11 (23) студзеня 1863 года паўстала Польшча. Праз дзесяць дзён віленскі паўстанцкі цэнтр — Літоўскі правінцыяльны камітэт «чырвоных» на чале з Каліноўскім — абвясціў сябе Часовым правінцыяльным урадам Літвы і Беларусі і заклікаў падтрымаць паўстанне ў Польшчы актыўнымі дзеяннямі. Як вопытны вайсковец, Людвік Нарбут

без ваганняў пагадзіўся ўзначаліць баявыя дзеянні паўстанцаў у Лідскім павеце (афіцыйна яго паўстанцкая пасада называлася — вайсковы начальнік павета). 1 лютага ўжо склалася ў Шаўрах першае, невялікае спачатку, ядро паўстанцкага атрада з некалькіх чалавек (у іх ліку брат Людвіка Баляслаў, таварыш Багушэвіча па ўніверсітэце Уладзіслаў Пілецкі, можа — дакладных сведчанняў няма — і сам Багушэвіч). Маці Хрысціна благаславіла сыноў і іх сяброў на святую барацьбу. Першы лагер, паводле пазнейшых паказанняў Пілецкага, заклалі за 3 вярсты ад мястэчка Нача. Сюды прыбыў Леў Краінскі з невялікай групай новых байцоў. Разам перайшлі ва ўрочышча Сабалюнцы, куды пасля публічнага прачытання паўстанцкага маніфеста ў Эйшышскім касцёле з'явіўся звязаны з рэвалюцыйнымі коламі малады ксёндз Юзаф Гарбачэўскі — ён стаў капеланам атрада. Для таго часу гэта было надзвычай важна. Нарбут хацеў нават, каб Гарбачэўскі зрабіў першы стрэл, але той адмовіўся, бачачы сваю задачу ў іншым. Так або інакш справа зрушылася.

Прыблізна ў адзін час з Нарбутам па закліку Каліноўскага распачалі баявыя дзеянні яшчэ некалькі паўстанцкіх груп у іншых месцах Літвы і Беларусі, але толькі бадай што Нарбуту ў гэты пачатковы перыяд удалося адразу ж стварыць баяздольны атрад і пратрымацца больш-менш працяглы тэрмін. Прычым першым паўстанцам было асабліва цяжка — стаяла яшчэ зіма (хоць у тым годзе досыць цёплая), атрадаў было мала, і карнікам лёгка было накіраваць супраць кожнай групы значныя сілы (зрэшты, і царскіх войск у краі было спачатку меней). І яшчэ адна асаблівасць. Многія паўстанцкія камандзіры хаваліся за псеўданімамі або дзейнічалі там, дзе іх не ведалі. Людвік адразу ж выступіў пад уласным імем у сваіх родных мясцінах, дзе Нарбутаў не толькі выдатна ведалі, але ганарыліся імі. Зноў гэта быў свядомы выклік. Таму зразумелая трывога віленскага паўстанцкага цэнтра за лёс першых паўстанцкіх груп. Захаваўся загад Каліноўскага, Часовага рэвалюцыйнага ўрада вайсковаму начальніку Лідскага павета ад 16 (28) лютага 1863 года «звязацца з паўстанцамі ў Слонімскім павеце і, як толькі мясцовыя ўмовы дазволяць, прабівацца ў напрамку Мінскага ваяводства». «Вам рэкамендуецца, — гаварылася ў загадзе, — дзейнічаць энергічна і рашуча, у адпаведнасці з дадзенымі інструкцыямі»[46].

Але загады загадамі, а рэальная абстаноўка дыктавала свой спосаб дзеяння, і планы гэтыя неўзабаве змяніліся. Спачатку атрад Нарбута кружыў у ваколіцах Эйшышак і Начы, дзе вырас да 80 чалавек. «Асновай атрада Нарбута былі сяляне — 3/4 усіх байцоў, — піша вядомы гісторык А. П. Смірноў. — Сказаліся і папулярнасць Нарбута сярод мясцовага насельніцтва, і абвяшчэнне ім маніфеста аб спыненні павіннасцей

[46] Восстание в Литве и Белоруссии 1863–1864 гг. С. 109–110.



і надзяленні сялян зямлёй. Нарбут даў атраду вайсковую арганізацыю, навучаў паўстанцаў стральбе і прыёмам партызанскай вайны»[47]. За абарону інтарэсаў народа яго незалюбілі мясцовыя паны-памешчыкі, кансерватыўная іх частка. Нарбут са сваім атрадам рушыў на поўнач у Рудніцкую пушчу, якая была як бы натуральнай крэпасцю, створанай прыродай. Да таго ж была надзея злучыцца з паўстанцкімі групамі, што ва ўсе бакі раз-пораз выходзілі з Вільні. 25 лютага (9 сакавіка) адбылася першая буйная сутычка паўстанцаў Нарбута з царскімі войскамі пад Руднікамі. Паўстанцкая прэса апісвала гэты бой так:

«Атрад, сфарміраваны ў Лідскім павеце пераважна з сялян гэтага павета, пад камандаваннем грамадзяніна Нарбута (высокае слова "грамадзянін" — у духу традыцый Французскай рэвалюцыі. — *Г. К.*) увайшоў у Трокскі павет у Рудніцкую пушчу. Адтуль 9.III выступіў і рухаўся ў кірунку Руднікаў з мэтаю злучэння з атрадамі, што выходзяць з Вільні. Пры выхадзе з лесу сустрэў сотню казакаў і дзве роты гвардзейскіх стралкоў. Гэтыя перавышаючыя сілы ў параўнанні з нашым невялікім атрадам, які налічваў тады ледзьве 80 паўстанцаў, не здолелі, аднак, пахіснуць адвагі нашых байцоў, якія мужна ім супрацьстаялі.

Адразу ж пасля першых стрэлаў з нашага боку казакі зніклі, пяхота падалася назад, каб нашы стрэлы яе не даставалі. Наш жа атрад пераправіўся ў найвялікшым парадку праз Сольчу і рушыў на Араны…»[48].

Потым Нарбут вярнуўся ў Начскую пушчу і спыніўся лагерам паблізу Паддубічаў. 30 сакавіка (11 красавіка) быў новы бой. Да нас шчаслівым выпадкам дайшоў адпаведны рапарт самога Нарбута:

«10.IV, заняўшы пазіцыю, я паслаў атрад коннікаў у Берштаы знішчыць мост на рацэ Котра, каб перарваць камунікацыю ад чыгуначнай станцыі Парэчча… Назаўтра 11.IV непрыяцель прыбыў сілаю 5 рот пяхоты і сотні казакаў. Высланая разведка паведаміла аб набліжэнні… Хаця мясцовасць мне не спрыяла і я не меў дакладнай на той час звесткі аб сіле непрыяцеля, вырашыў даць бой. Бог памагаў нашай зброі. Праціўнік, маючы перавышаючыя сілы і дасканалую зброю, пачаў націскаць. Бачачы небяспеку акружэння, я загадаў адступаць, што ўдалося зрабіць вельмі шчасліва… Страцілі ў баі аднаго забітага і 5 раненых…»[49].

Захаваўся таксама складзены па ўсіх правілах вайсковай навукі рапарт гвардзейскага капітана Цімафеева, які камандаваў у гэтым баі атрадам царскіх войск:

«30 марта в 5 часов утра отряд двинулся на дер. Бершты. Не доходя 7 верст до этой деревни, получено известие от волостного писаря, что

[47] Смирнов А. Ф. Восстание 1863 года в Литве и Белоруссии. С. 139.
[48] Prasa tajna z lat 1861–1864. Cz. 2. Wrocław; Warszawa; Kraków, 1969. S. 4.
[49] Prasa tajna z lal 1861–1864. S. 8.

в ночь на 30 число мятежники разобрали мост на р. Котре… Казаки бросились вброд, и отряд безостановочно продолжал движение на дер. Пиловня.

Здесь получено известие, что мятежники находятся около Глембоки, мызы помещика Микульского, у которого Нарбут с кс. Горбачевским приводил к присяге навербованных в окрестных деревнях крестьян…

Едва цепь стрелков вошла в опушку леса, как встречена была сильным ружейным огнем. Несмотря на это, цепь, поддерживаемая резервами, начала быстро наступать на неприятеля, двигаясь местами по пояс в воде по густому болотистому лесу. Мятежники бросили свои засеки и начали отступать. Отступление их сопровождалось сильным и метким огнем и совершалось с таким искусным применением к местности, что стрелки наши могли стрелять только на дым… С нашей стороны убито 2, ранено 5 рядовых, один из них тяжело…»[50].

Расказваюць, што раззлаваны генерал-губернатар краю Назімаў (папярэднік Мураўёва) прызначыў пасля гэтага бою вялікую цану за галаву няўлоўнага правадыра паўстанцаў. Атрад Нарбута рос разам са славай. Салдаты карных падраздзяленняў прымхліва жагналіся, называлі яго ведзьмаром.

У небяспечны раён сцягваюцца ўсё новыя падмацаванні. Пад націскам моцных груповак царскіх войск Нарбут вырашыў прабівацца ў Гродзенскую пушчу. Насустрач яму з Гродні 2 красавіка выйшаў царскі палкоўнік Вернер са значным атрадам карнікаў: 3 роты пяхоты, эскадрон улан, гармата, 20 казакаў. Усяго 805, як гавораць вайскоўцы, штыхоў і шабель. Ледзь не тысяча вымуштраваных прафесіяналаў. Нагадаем, што ў самыя лепшыя часы атрад Нарбута не дасягаў трох-чатырох сотняў чалавек, большая частка якіх была ўзброена косамі, астатнія паляўнічымі стрэльбамі недалёкага дзеяння. Але Нарбут карыстаўся падтрымкай народа. Сяляне не хацелі паведамляць карнікам ніякіх звестак, не выдавалі знакамітага камандзіра. «Ні пагрозы, ні пераконванні на іх не дзейнічалі», — пісаў у сваім рапарце Вернер.

Аднак 8 красавіка ў вёсцы Буды Вернер усё ж даведаўся, што паўстанцы хаваюцца ў балотах у наваколлі возера Думбля. Тут у той жа дзень і заспелі іх карнікі. Адбыўся вельмі гарачы бой (яго называюць таксама боем пад Кавалькамі або боем у Лакштуцянскім лесе). Паводле рапарта Вернера, пасланая а 4-й гадзіне апоўдні рота карнікаў трапіла ў акружэнне. Але падаспелі астатнія войскі. Паўстанцы, прыкрываючыся стралковым ланцугом, пачалі правільнае адступленне па балоце. Карнікі падцягнулі гармату, якая секанула па інсургентах карцеччу. Бой доўжыўся 4 гадзіны. Страты карнікаў паводле афіцыйнага рапарта Вернера: 10 параненых; паўстанцы страцілі, як паведамлялася ў падпольным

[50] Восстание в Литве и Белоруссии 1863–1864 гг. С. 117–118.



друку, 7 забітымі і звыш дзясятка параненымі. Вернер пісаў аб сваёй поўнай перамозе, але гэта было далёка не так. Нарбут захаваў ядро свайго атрада. Бой сведчыў аб мужнасці і баявым умельстве паўстанцаў. «Паведамляем, што вайсковы начальнік Лідскага павета грамадзянін Нарбут шчасліва выйшаў з акружэння яго царскімі войскамі»[51], — з палёгкай, з радасцю за таварышаў гаварылася ў адным з пісьмаў віленскага паўстанцкага цэнтра. 18 (30) красавіка 1863 года паўстанцкія ўлады, улічваючы значны ўклад Нарбута ў агульную барацьбу, прысвоілі яму званне палкоўніка паўстанцкіх войск (у царскай арміі ён быў усяго толькі прапаршчыкам). У кнізе А. Яліцкага, якая ўжо згадвалася, гаворыцца нават пра рашэнне віленскага паўстанцкага цэнтра прызначыць Нарбута галоўнакамандуючым усімі баявымі сіламі паўстанцаў у Літве і Беларусі.

Але, магчыма, гэтыя рашэнні паўстанцкіх улад ужо не дайшлі да Нарбута. 22 красавіка (4 мая) ён загінуў. Гэта здарылася пад Дубічамі над ракой Котрай, куды адважны паўстанцкі камандзір вярнуўся з Гродзенскай пушчы. Высачыў Нарбута на гэты раз капітан Цімафееў, які са сваімі адборнымі гвардзейскімі стралковымі ротамі даўно ўжо ганяўся за знакамітым партызанам.

Захаваўся цікавы расказ царскага афіцэра-гвардзейца пра апошні бой Нарбута. Ён чуў гэтыя падрабязнасці нібыта ад самога Цімафеева. Вось гэты расказ:

«По словам Тимофеева, шайка дралась так искусно, что он удивился. Нарбут распоряжался молодцом: приказал отступать перекатами, то есть в две линии — одна залегала позади, а другая, отстреливаясь, перебегала за первую, после чего вторая линия начинала стрельбу, и так далее. Повстанцы были плохо вооружены, большею частию охотничьими ружьями, поэтому очень боялись наших стрелковых рот, прозванных ими “чарны пасы” (черные пояса). Русские штуцера производили страшное опустошение, и одною из первых жертв был сам Нарбут, отступавший последним и показывавший пример стойкости и бесстрашия. Верховой лошади у него давно уже не было. Он шел пешком, сопровождаемый одним из доверенных сослуживцев и гимназистом, который нес самовар и чемоданчик начальника.

Отступление совершалось в порядке, как вдруг Нарбут пошатнулся, упал на колени и присел на землю. Ближайшие повстанцы бросились к нему на помощь, но он замахал руками и проговорил: “То ниц, то ниц!..” (Это ничего, ничего!). Он был смертельно ранен. Его подхватили на руки и побежали с ним, но спасти все-таки не смогли, так как наши подошли и были уже в нескольких шагах. Нарбут успел еще расстегнуть чамарку и передать бумаги и деньги одному из своих проводников, но затем упал

[51] Восстание в Литве и Белоруссии 1863–1864 гг. С. 122.

мертвым вместе с помощниками, пораженными несколькими пулями… Шайка при известии о тяжелой ране своего начальника приостановилась на свою гибель. Ее окружили и почти всю уничтожили»[52].

Яшчэ характэрная дэталь. Шчаслівы пераможца Нарбута Цімафееў назаўтра праспаў да палудня. Яго абуджэння нецярпліва чакаў мясцовы спраўнік: «“А я вам гостинца привез!” Мы вышли в переднюю: первое, что я увидел, был лежавший на скамейке труп Нарбута. Он был в простой синей чамарке, без всяких отличий и в больших сапогах. Лицо покойника было красивое, привлекательное: высокий лоб, правильные черты лица, на котором как будто застыла горделивая улыбка. На вид ему было 40 лет, не более». У сапраўднасці Нарбут быў маладзейшы.

Ёсць і іншыя апісанні апошняга бою знакамітага паўстанцкага камандзіра. Некаторыя расказваюць, што, адчуўшы смяротную рану, Нарбут нібыта сказаў: «Як соладка памерці за радзіму!..» Рамантычныя легенды таксама высвятляюць нешта важнае, нярэдка праясняюць схаваны сэнс падзей.

Патрабуе паправак і прыведзены расказ афіцэра-гвардзейца. Атрад не быў поўнасцю знішчаны. Пасля бою апрача Нарбута знайшлі яшчэ 11 або 12 паўстанцкіх цел, якія перанеслі ў Дубіцкі касцёл. У народзе гаварылі ў сувязі з гэтым пра 12 апосталаў. Цімафееў, да яго гонару, дазволіў прыстойна пахаваць забітых.

Пасля гібелі Людвіка Нарбута атрад Лідскага павета ўзначаліў Парадоўскі-Астрога, які ўлетку 1863 года павёў байцоў у Гродзенскую пушчу, а потым у Аўгустоўскія лясы.

У атрадзе Нарбута ваяваў вядомы віленскі мастак Эльвіра Андрыёлі, які ў баі пад Дубічамі быў паранены і адлюстраваў пазней гібель свайго камандзіра ў вядомым палатне «Смерць Нарбута». Для нас гісторыя паўстанцкага атрада Нарбута цікавая яшчэ таму, што, паводле меркаванняў даследчыкаў, якраз у гэтым атрадзе ваяваў будучы класік беларускай літаратуры Францішак Багушэвіч, які перад паўстаннем настаўнічаў у маёнтку Доцішках непадалёк ад Шаўраў. Вядома, што Багушэвіч сябраваў з Андрыёлі, пазней пазіраваў яму для партрэта. Некаторыя нават лічаць, што на карціне «Смерць Нарбута» мастак паказаў сярод іншых паўстанцаў і Францішка Багушэвіча[53].

У знакамітым вершы Багушэвіча «Ахвяра» ёсць маральны імператыў: «Каб за край быў умёрці гатоў». Няма сумнення: паэт успамінаў пры гэтым таксама Людвіка Нарбута, сваіх баявых сяброў — паўстанцаў Каліноўскага.

---

[52] Имеретинский Н. К. Воспоминания о графе М. Н. Муравьеве // Исторический вестник. 1892. Т. 50. С. 614.

[53] Гл.: Содаль У. Песня ў трох вымярэннях: Ф. Багушэвіч і мастацкае атачэнне // Мастацтва Беларусі. 1989. № 9; яго ж. Імпульсы // Полымя. 1989. № 6.



# «ЭХ, СКРУЧУ Я ДУДКУ!..»
## Ля вытокаў творчасці Ф. Багушэвіча

> У нас быў выдатны пачатак…
> Францішак Багушэвіч.
>
> *С. Дубавец*

Багушэвіч увайшоў у беларускую літаратуру сваім зборнікам «Дудка беларуская». Было яму тады ўжо трохі за пяцьдзясят. Бясспрэчна, пачаў ён пісаць значна раней, але калі менавіта — невядома.

Думаецца, што пачаткі творчасці паэта трэба звязваць з паўстаннем Кастуся Каліноўскага. Як вядома, Багушэвіч быў актыўным удзельнікам паўстання. Сувязь з тым часам можна адчуць у яго творах. Вось прыклад.

Ёсць у паэта выдатны верш «Хрэсьбіны Мацюка», цікавы і для нашых сённяшніх роздумаў пра гістарычны лёс беларускага народа, роднай культуры. Верш пра пакуты селяніна-беларуса ва ўмовах асіміляцыйнай палітыкі царызму. І пра цвёрдасць чалавека з народу ў адстойванні сваіх маральна-духоўных прынцыпаў. Спачатку з Мацюка «па-свойску» здзекаваліся казакі, якія аніяк не маглі зразумець яго ўхілістага самавызначэння — «тутэйшы». А потым сялян-католікаў сабралі ў панскі двор і сталі шчодрымі абяцанкамі і нават дармовым пачастункам «смущать» у праваслаўе. Запраўляў усёй гэтай аперацыяй нейкі князь Хаванскі.

«Прыехаў, — кажуць, — начальнік такі,
Сам князь Хаванскі; ідзіця у двор!
Трэба ўсё кідаць (хоць святам было).
Народам, як макам, весь двор заліло:
Князь у палетах, васолы такі!
“Эх, — кажа, — рыбяты! — вы дуракі,
Што ў рускай зямлі ды каталікі!
Ну, цар вас прымае ў сваю веру;
Дасць зямлі многа!.. Вы, на паперу,
Тут падпішыце, а поп пасвенце, —
Будзе ўсё добра, усюды пашэнце.
Ну, братцы, вып’ем па чарцэ ўсе;
Бацюшка крыж і крапідла нясе!”»

Як бачым, Багушэвіч па-майстэрску, вельмі пластычна малюе ўсю гэтую сцэну, буйным планам падае партрэт князя-дэмагога — гэткага, на першы погляд, дэмакрата-дабрадзея, які можа прыкінуцца зусім сваім чалавекам, народным заступнікам і дарадцам.

«Ну што, маладзец, нап'емся водкі?»
Даець мне грошы, такі салодкі:
Усё гаворэ, радзе, пытае,
Жонку цалуе, дзяцей гайдае.

Але маска ўмомант зляцела з князя, як толькі ён пачуў цвёрдую адмову Мацея памяняць веру:

Іх! закіпеў той князь, аж зароў,
Аж вылупіў вочы, счырванеў ён, як кроў…
«Розаг падайце, нагаек, сто лоз!
Ён з веры смяецца мне тут пад нос!»

Вось такі няпросты, надзвычай рэалістычны вобраз намаляваў Багушэвіч.

Нагадаем, што верш «Хрэсьбіны Мацюка» надрукаваны ўпершыню якраз у зборніку «Дудка беларуская», гэта значыць у 1891 годзе. Паўстае пытанне: да якога часу адносяцца паказаныя ў вершы падзеі, ці існаваў рэальны прататып князя? Што раскрыў, а можа, і «схаваў» у сваім творы паэт?

Князі Хаванскія — вельмі вядомае ў гісторыі арыстакратычнае прозвішча. Яны, дарэчы, выводзілі сваё паходжанне ад пінскага князя Нарымунта Гедзімінавіча, значыць, нейкімі далёкімі ніцямі звязаны і з нашым краем. Нездарма ў фамільным гербе Хаванскіх красавалася нават літоўска-беларуская Пагоня (выпісваю са старадаўняга расійскага гербоўніка: «…в красном поле на белом коне всадник с поднятым мечом…»[54]). У часы «цішэйшага» цара Аляксея Міхайлавіча князь Хаванскі камандаваў маскоўскімі войскамі на тэрыторыі Беларусі, удзельнічаў у многіх баталіях, перамагаў і бываў бітым. Яго імя не адзін раз можна сустрэць у тагачасных беларускіх хроніках і дакументах. Успамінае яго і У. Сыракомля ў сваіх краязнаўчых нарысах. У 1682 годзе той жа князь Іван Андрэевіч Хаванскі і яго сын Андрэй Іванавіч спрабавалі выкарыстаць у сваіх амбіцыйных мэтах стралецкае паўстанне ў Маскве і паплаціліся за гэта галавою. Таму і само тое паўстанне атрымала ў гісторыі назву «Хаваншчына». Ёсць і адпаведная папулярная опера М. Мусаргскага, пастаўленая ўпершыню ў 1886 годзе, калі Багушэвіч ужо, можа, абдумваў свой першы зборнік, сваю «Дудку беларускую».

[54] Петров П. Н. История родов русского дворянства. СПб., 1886. Т. 1.



Так што гучнае, характэрнае прозвішча магло трапіць у твор Багушэвіча як нейкае мастацкае абагульненне або пераасэнсаванне нават з гэтай крыніцы. Але ўдаецца адшукаць і больш прамыя паралелі.

Пытанне гэтае, аказваецца, мае сваю цікавую гісторыю.

У 1907–1908 гадах выдавецтва «Загляне сонца і ў наша ваконца» перавыдала «Дудку…» і «Смык…» Багушэвіча. Царскія ўлады нават ва ўмовах пачатку ХХ стагоддзя, напоўненага самымі бурнымі рэвалюцыйнымі падзеямі, палічылі творчасць паэта занадта вострай і прыцягнулі выдаўцоў да судовай адказнасці. Справу разбірала ў 1910 годзе Пецярбургская судовая палата.

На судовым пасяджэнні прысутнічалі зусім малады яшчэ Янка Купала і яго прыяцель-студэнт — актыўны ўдзельнік беларускага грамадска-культурнага руху Яўген Хлябцэвіч. Апошні праз 17 гадоў успамінаў у артыкуле «Царскі суд над творамі Ф. Багушэвіча» (Узвышша, 1927, № 3), што адным з галоўных пунктаў абвінавачання быў якраз верш «Хрэсьбіны Мацюка», дзе, паводле Хлябцэвіча, «выведзены тагачасны генерал-губернатар Паўночна-Заходняга краю князь Хаванскі, які ўжыў казацкую плётку для далучэння ўніятаў да праваслаўя».

Сапраўды, калі зазірнём у адпаведныя абвінаваўчыя дакументы, то знойдзем там самыя рэзкія і катэгарычныя выпады царскіх законнікаў: «…в приведенном стихотворении приписываются казакам поступки, явно позорящие их воинскую честь, каковое преступное деяние предусматривается ст. 6 отд. VIII Закона 24 ноября 1909 г.

Вместе с тем то же стихотворение возбуждает в крестьянах вражду к представителям власти, усугубляя тяжесть изображаемого произвола яркой окраской религиозного фанатизма польского [так!] крестьянина, ненавидящего православную веру. Преступление это предусмотрено п. 6 ст. 129 Угол. улож. изд. 1903 г.»[55].

Выдавецтву пагражалі значныя непрыемнасці. Трэба было ратавацца.

З непадробным захапленнем расказвае Хлябцэвіч пра ўдалую абарону запрошанага выдавецтвам адваката: «Абаронца ж Гальдштэйн ужыў усё сваё адвакацкае кручкатворства і разбіў гэты пункт абвінавачвання такім чынам. Дастаўшы ад беларусаў кнігу протапрасвітэра вайсковага і марскога духавенства, царскага духоўніка Шавельскага "О воссоединении униатов с православной церковью", прадэманстраваў гэтую кнігу суддзям у камергерскіх мундзірах і прачытаў услых якраз тое месца з гэтай кнігі, дзе Шавельскі пісаў, што нетактычнасць князя Хаванскага пашкодзіла справе праваслаўя. Карыстаючыся гэтаю думкаю Шавельскага, абаронца зазначыў, што "протапрасвітэр і царскі духоўнік" дае

[55] Цыт. па кн.: Багушэвіч Ф. Творы. Мінск, 1967. С. 203.

гістарычную даведку аб князю Хаванскім, якая апраўдвае прыведзеныя ў вершы факты. А потым, гаварыў абаронца, гэта справа мінулага, справа гісторыі, — як аўтар, так і выведзеныя ім асобы даўно-даўно памерлі».

Надзвычай салідная, са мноствам спасылак на гістарычныя дакументы, на старадаўнія віцебскія і пецярбургскія архівы, кніга Г. Шавельскага ёсць у нас у Мінску ў акадэмічнай бібліятэцы. Поўная яе назва — «Последнее воссоединение с православною церковию униатов Белорусской епархии (1833–1839 гг.)» (СПб., 1910). Размова ў ёй пра вядомае ў гісторыі вяртанне беларускіх уніятаў «ва ўлонне праваслаўнай царквы», завершанае ўрадам у 1839 годзе. Важную ролю ў гэтых падзеях і на самай справе адыгрываў князь Мікалай Мікалаевіч Хаванскі, які, праўда, быў генерал-губернатарам не Паўночна-Заходняга краю (гэта значыць, віленскім), а віцебскім, смаленскім і магілёўскім[56].

У кнізе лёгка знаходзім мясціны, дзе Хаванскі атэставаўся не зусім добра. Напрыклад, на с. 117 — цытата з запісак уніяцкага епіскапа (пасля праваслаўнага архіепіскапа) Васілія Лужынскага пра падзеі 1833 года: «Возвратившись после хиротонии (пасвячэння ў сан. — *Г. К.*) в Полоцк, я был поражен дошедшими до меня положительными сведениями о том, что по распоряжению генерал-губернатора кн. Хованского (редко бывавшего трезвым), воспользовавшегося моим отсутствием из пределов епархии в С.-Петербург, по настоянию епископа православного Смарагда, крестьяне казенных имений обращались насильно…». Або данясенне згаданага полацкага епіскапа Смарагда ў сінод гэтага ж часу (дадатак, с. 15): «…по секрету вашему превосходительству скажу, что мысли кн. Хованского не всегда гармонируют с распоряжениями гражданского губернатора. Оттого-то многие дела не клеятся у нас! Губернатор, впрочем, предельный (надзвычай дзелавы. — *Г. К.*) человек, и если б он один действовал, то дела присоединения, конечно, потекли бы успешнее».

Адным словам, паводле версіі адваката Гальдштэйна, размова ў вершы ішла пра далёкія падзеі, удзельнікам якіх быў генерал-губернатар Смаленшчыны і ўсходняй Беларусі ажно першай трэці XIX стагоддзя. Усё гэта ў многіх адносінах (і храналагічна, і тэрытарыяльна) далекавата ад Багушэвіча. Дый у вершы нідзе не гаворыцца пра ўніятаў, а размова ідзе пра сялян-католікаў. Таму выкарыстанне кнігі Шавельскага

[56] Гл.: Перечень главных начальников, военных губернаторов и генерал-губернаторов Северо-Западного края, с обозначением времени управления ими краем // Виленский календарь на 1908 високосный год. С. 57–58. Хаванскага ў гэтым пераліку няма. Гэтае прозвішча знаходзім у другім спісе (апублікаваным тамсама): «Белорусские (витебские и могилевские) генерал-губернаторы». Пад № 6: «Хованский Николай Николаевич, князь, генерал-от-инфантерии — с 1822 г. по 1837 г.». Беларускі генерал-губернатар князь Хаванскі згадваецца і М. Багдановічам у артыкуле «Сталецце руху беларускага народа».



для абароны Багушэвіча можна разглядаць усяго як спрытны адвакацкі манеўр, які зрабіў пэўнае ўражанне на суддзяў, не знаёмых з тонкасцямі беларускай гісторыі. Трэба думаць, што падказаў гэты манеўр адзін з кіраўнікоў выдавецтва «Загляне сонца…», бліскучы знаўца гісторыі і культуры Беларусі Браніслаў Эпімах-Шыпіла, які вельмі баяўся нешчаслівых вынікаў судовага разгляду. Маладому беларускаму выдавецтву і без таго ставала фінансавых і розных іншых цяжкасцей. Хутчэй за ўсё, выкарыстаная адвакатам кніга была з багатай асабістай бібліятэкі Эпімах-Шыпілы.

Але гістарычна верш трэба звязваць з падзеямі, сучаснікам якіх быў паэт. Як вядома, асіміляцыйная палітыка царскіх улад надзвычай актывізавалася пасля паўстання 1863 года. Улады выкарысталі паўстанне для наступу на ўсё, што адрознівала Беларуска-Літоўскі край ад цэнтральных губерняў Расіі, у тым ліку на касцёл. У прыватнасці, беларусы-католікі (там, дзе яны былі) спешна пераводзіліся ў праваслаўе. Вядома, што сяляне Коласавай Мікалаеўшчыны (у тым ліку прамыя продкі Якуба Коласа) былі пераведзены ў праваслаўе ў 1866 годзе. Калі я збіраў матэрыялы для зборніка «З жыццяпісу Якуба Коласа», то бачыў у архіве вялізныя спісы пераведзеных у праваслаўе па Мінскай епархіі. Зразумела, не менш актыўна гэты працэс ішоў на Віленшчыне, пад бокам самога Мураўёва-вешальніка. Тое, што Хаванскі ў вершы абяцае паслухмяным сялянам нарэзаць зямлі, таксама дазваляе аднесці дзеянне верша да 1860-х гадоў, калі праводзілася сялянская рэформа і дзейнічалі так званыя паверачныя камісіі па адмежаванні сялянскіх і памешчыцкіх земляў. Дый паводзіны казакаў у вершы, наўрад ці магчымыя ў звычайны, «мірны» час, зусім натуральна ўпісваюцца ў абстаноўку непасрэднага падаўлення «мяцяжу» або першых гадоў пасля паўстання, калі край быў на ваенным становішчы.

Як вядома, нядаўні паўстанец Францішак Багушэвіч хаваўся некаторы час пасля паўстання недзе ў Вільні. Да нас дайшла сямейная фатаграфія, зробленая там 21 снежня 1864 года пасля вызвалення яго сваякоў з турмы. Мяркуючы па пісьмах, абрыдлы і небяспечны на той час «віленскі брук» яшчэ доўга помніўся яму[57]. Пакінуў ён родныя мясціны дзесьці на пачатку 1865 года (у маі стаў ужо студэнтам у Нежыне) і мог на ўласныя вочы назіраць факты прымусовай асіміляцыі.

Некаторыя літаратуразнаўцы, пад уплывам Хлябцэвіча, пішуць: «У сюжэтную тканіну твора пакладзены рэальныя факты злачыннага праследавання царскімі ўладамі бязвінных ахвяр чыноўніцка-папоўскага свавольства. Паказаны і сапраўдны герой “секущего”

[57] Гл.: Багушэвіч Ф. Творы. Мінск, 1991. С. 180.

самаўладства — генерал-губернатар Паўночна-Заходняга краю князь Хаванскі, якога натхняў на “подзвігі” супраць безабаронных людзей крывавы цень Мураўёва-вешальніка»[58]. І ў рамане-эсэ А. Лойкі той жа Хлябцэвіч (але ўжо як персанаж рамана) расказвае Купалу: «А калі дзе заблудшыя не згаджаліся з абародзелымі попікамі, тадышні генерал-губернатар Паўночна-Заходняга краю князь Хаванскі спяшыў да попікаў з казацкай соценькай і бізунамі — дахрышчваў!» Аднак, як мы бачылі, такога генерал-губернатара ў Вільні не было. Дый генерал-губернатара велізарнага краю нельга ўявіць сабе ў ролі выканаўцы асіміляцыйнай акцыі на ўзроўні адной або некалькіх вёсак, як гэта паказана ў вершы. Затое высвятляецца, што адным з непасрэдных душыцеляў паўстання, ваенным начальнікам Віленскага павета ў мураўёўскія часы быў гвардзейскі афіцэр (адсюль «палеты» — эпалеты) князь Хаванскі. Звалі яго, як колішняга віцебскага генерал-губернатара, Мікалай Мікалаевіч.

Павет быў неспакойны, і клопатаў князю выпала нямала. У зборніку матэрыялаў мураўёўскага музея надрукаваны два рапарты флігель-ад’ютанта падпалкоўніка князя Хаванскага пра баявыя дзеянні ў Віленскім павеце і на яго межах. 12 чэрвеня 1863 года ён асабіста ўзначальваў царскія войскі ў баі з паўстанцамі атрада А. Мінскага (Альбертуса) пад вёскай Гедройцы (на поўнач ад Вільні). У сваім рапарце князь адзначыў зацятасць інсургентаў: «…засевши в овраг, покрытый густым и частым кустарником, и окруженные со всех сторон, они дрались с остервенением, это была страшная схватка, дрались штыками, прикладами и, наконец, душили друг друга руками. Скрытые от нас густыми листьями, мятежники стреляли почти в упор, некоторые из них, прячась за деревьями и пропустив наших солдат, кидались на них сзади и с боку»[59]. Калі верыць рапарту, не знаходзілі паўстанцы спагады і ў мясцовым людзе: «Преследуемые нашей цепью, они заползали в рожь или кидались в деревни, где мужики встречали их вилами и топорами и обезоруженных приводили ко мне». Мабыць, гэта не толькі аздоба стылю, а горкія рэаліі. Так што ў князя быў даволі разнастайны вопыт зносін з народам.

Успаміны чыноўніка Масалова (таго самага, што даў хрэстаматыйнае апісанне публічнага пакарання смерцю Каліноўскага, занатаваў яго апошнія словы) малююць гэтага Хаванскага ў ліку блізкіх Мураўёву асоб. Вось Масалоў апісвае досыць напружаны «працоўны» дзень Вешальніка:

«Часов в 11 являлся полицеймейстер с рапортом и докладывал; затем виленский губернатор, а в приемной уже собирались представляющиеся и должностные лица, почти ежедневно появлявшиеся к этому времени, как то: попечитель Виленского учебного округа Иван Петрович Корнилов, начальник полицейского управления С.-Петербурго-Варшавской железной дороги полковник Житков, заведующий тюрьмами полковник Петр Семенович Лебедев, а впоследствии полковник Бушен, *военный начальник Виленского уезда князь Хованский,* командующий войсками в губернии (сперва генерал Дрентельн, по уходе гвардии — князь Яшвиль, а по смерти его с февраля 1864 г. — генерал Криденер), все чиновники особых поручений, адъютанты и разные другие лица. Иногда в это же время посещал генерал-губернатора митрополит Иосиф»[60].

Як бачым, князь Хаванскі названы тут у ліку непасрэдных памагатых Мураўёва. Чарадзейная оптыка старых успамінаў дазволіла ўбачыць князя з адметным арыстакратычным прозвішчам у стракатым натоўпе, што непасрэдна акружаў Вешальніка. Хаванскага натхняў не «цень» Мураўёва, а сам Мураўёў. Цікавыя звесткі знаходзім у кнізе Г. Кіпрыяновіча пра мітрапаліта Сямашку[61]. Вядома ж, з ёю пазнаёміўся (не мог не пазнаёміцца) Багушэвіч і, пэўна, сам здзівіўся нечакана блізкім паралелям са сваім, ужо апублікаваным, вершам. Усяго, паведамляе Кіпрыяновіч, па Літоўскай епархіі, куды ўваходзіла Віленская губерня, на працягу 1865–1866 гадоў да праваслаўя далучылася каля 30 тысяч чалавек. У Віленскім павеце, паводле кнігі, «с похвальной ревностью действовал князь Хованский, бывший виленский военный начальник». У іншым месцы чытаем: «…известный деятель князь Николай Хованский доложил митрополиту Иосифу о желании многих крестьян Виленского уезда присоединиться к православию и о необходимости, ввиду заявленного ими желания, обратить некоторые костелы в церкви…» Сямашка паставіўся да гэтага з поўным разуменнем. У сувязі з поспехамі справы праваслаўя ў Віленскім павеце было неадкладна ўтворана асобнае «Шумское благочиние» з цэркваў Рудомінскай, Рукойнскай (гэта родныя мясціны Багушэвіча), Шумскай, Астравецкай, Быстрыцкай і інш.

Хаваючыся ў 1863–1865 гадах у Вільні, а магчыма, і ў ваколіцах Вільні (у Свіранах пад Вільняй паэт нарадзіўся, там жылі сваякі), Багушэвіч не мог не ведаць ваеннага начальніка павета князя Хаванскага. Калі персаніфікаваць, ён хаваўся якраз ад князя Хаванскага. Думаецца, што верш «Хрэсьбіны Мацюка» тады і зарадзіўся, бо калі ўявіць, што ён пісаўся ў канцы 80-х — пачатку 90-х гадоў непасрэдна для «Дудкі беларускай», то ў такім выпадку ён будзе выглядаць як верш

[58] Майхровіч С. Нарысы беларускай літаратуры XIX ст. Мінск, 1957. С. 225.

[59] Виленский временник. 1915. Т. 6. Кн. 2. С. 231.

[60] Мосолов А. Виленские очерки. С. 98–99.

[61] Гл.: Киприанович Г. А. Жизнь Иосифа Семашки митрополита литовского и виленского и воссоединение западнорусских униатов с православною церковию в 1839 г. Вильна, 1893.

гістарычны, а рэчаіснасць штодзённа давала паэту актуальны матэрыял. Трэба думаць, паэтычная дудка ляжала ў ранцы паўстанца Багушэвіча побач з баявымі патронамі. Адным словам, верш пра Мацюка вельмі важны для роздуму пра пачатак творчага шляху Багушэвіча.

Але нейкая разбежка ў часе паміж апісанымі ў вершы падзеямі і канчатковым афармленнем твора ўсё-такі была. Пра гэта сведчыць першы радок: «Калісь, як у нас казакі то стаялі…». Дарэчы, ёсць звесткі, што верш «Хрэсьбіны Мацюка» пісаўся Багушэвічам у Кенах, маёнтку асвечаных памешчыкаў-інтэлектуалаў Славінскіх[62]. Дададзім, што Кены (Кіяны) паэт успамінае ў вершы «Здарэнне». Гэта якраз па суседстве з багушэвічаўскімі Свіранамі. З другога боку, «двор Замаслаў», які згадваецца ў вершы (калі гэта рэальнае паселішча, а не мастацкая дэталь), па гучанні назвы, хутчэй, трэба звязаць з сённяшняй вёскай Жамыслаўль (Жамыслаўе) у Іўеўскім раёне[63]. Цікава, што ў некаторых старых выданнях «Дудкі…» так і друкавалі — Жамаслаў (у выданнях лацінкай над пачатковым z як бы неўпрыкмет не-не дый пракінецца адпаведны значок)[64]. Вядома, што ў Жамыслаўе (на гэта звярнулі ўвагу каментатары апошняга Збору твораў Багушэвіча У. Содаль і Я. Янушкевіч) выклікаліся казакі ў 1861 годзе ў сувязі з сялянскімі антырэформеннымі хваляваннямі[65]. Не выключана, што паэт па-мастакоўску аб’яднаў у адным творы розныя падзеі: сялянскія хваляванні 1861 года ў Жамыслаўі і прымусовае наварочванне ў праваслаўе сялян у раёне Свіран і Рукойняў. Ёсць паданне (не пацверджанае пакуль дакументальна), што і сам Багушэвіч быў збіты казакамі пад Кушлянамі. Многа метак было на памяці паэта. Прырода мастацкага твора часцей за ўсё складаная. Пытанне пра рэаліі верша «Хрэсьбіны Мацюка» вымагае дадатковых расследаванняў. Тут ёсць яшчэ над чым падумаць.

Так або інакш верш «Хрэсьбіны Мацюка» яшчэ раз сведчыць аб духоўнай повязі Багушэвіча з часамі Каліноўскага, з паўстаннем 1863 года. Слушна пісаў Алесь Яскевіч: «1863 год для Багушэвіча — той маяк, які свяціў паэту праз усё далейшае жыццё, быў вышэйшай мерай паводзін, жывіў духам няскоранага змагання яго музу»[66].

---

[62] Гл.: Канапацкі М. Сэрца, якое не ведала стомы // Ніва (Беласток). 1962. 23 лют.

[63] Гл.: Рапановіч Я. Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Гродзенскай вобласці. Мінск, 1982. У старых рускіх і польскіх даведніках: Жемлослав.

[64] Гл.: Bahušewič F. Dudka bielaruskaja. Wilnia, 1930. S. 24.

[65] Гл.: Крестьянское движение в Белоруссии после отмены крепостного права (1861–1862 гг.). Мінск, 1959. С. 89.

[66] Яскевіч А. Загадкі пачынальнікаў // Вобраз-81. Мінск, 1981. С. 148.



# З СУЗОР’Я БАГУШЭВІЧА
## За вокладкай сямейнага альбома

Вы, хто любіце натрапіць
Між страніц старых, пажоўклых…
*М. Багдановіч*

Напачатку некалькі цытат з успамінаў.

Вось што пісаў неўзабаве пасля смерці Багушэвіча Напалеон Роўба пра вядомую экскурсію групы віленскай інтэлігенцыі 1897 года на лодках па Віліі і Нёмане: «Экскурсія цягнулася амаль цэлы тыдзень, і Ф. Багушэвіч аказаўся самым вынослівым, таму што разам са сваім сваяком і сябрам Габрыелем Радзевічам дайшоў ажно да Балтыкі»[67].

Больш падрабязна той жа Роўба расказаў пра гэта праз 22 гады: «Багушэвіч выехаў разам са сваім сваяком Габрыелем Радзевічам на асобнай лодцы і са сваёй гаспадаркай. Гэта значыла, што начавалі яны асобна, харчаваліся асобна і г. д. Памятаю, як начавалі яны на беразе рэчкі каля вогнішча, якое падтрымлівалася ўсю ноч, як абавязкова два разы ў дзень варылі сабе кашу і смажылі скваркі. Калі мы трымаліся поўнай цвярозасці, Багушэвіч з Радзевічам выпівалі пару разоў у дзень па чарцы і закусвалі скваркай. Раніцою, калі мы яшчэ толькі завіхаліся каля самавара, тыя двое даўно памчаліся наперад, і наганялі мы іх толькі ў паўднёвую спёку»[68].

Зыгмунт Нагродскі ўспамінаў, што ў выбары знаёмстваў у віленскі перыяд Багушэвіч быў вельмі пераборлівы: «…займаючыся адвакацкай практыкай, ані з адвакатамі, ані наогул з грамадзянствам асабіста бліжэй не сыходзіўся. Апрача Нагродскага, адваката Адама Карповіча ды сваяка свайго Радзевіча, больш ні з кім блізка не жыў»[69]. Як бачым, зноў называецца Радзевіч.

Хто ж такі Габрыель Радзевіч, якога мемуарысты ўпарта малююць у бліжэйшым акружэнні выдатнага беларускага пісьменніка?

---

[67] Пачынальнікі. Мінск, 1977. С. 426.

[68] Тамсама. С. 432.

[69] Тамсама. С. 434.

З друкаваных чыноўніцкіх даведнікаў таго часу, так званых памятных кніжак, відаць, што Гаўрыла (Габрыель) Міхайлавіч Радзевіч служыў у 90-я гады памочнікам галоўнага бухгалтара, а потым галоўным бухгалтарам у Віленскім прыватным камерцыйным банку.

Але якія сваяцкія адносіны яго з Багушэвічам?

На гэтае пытанне памагаюць даць адказ матэрыялы Дзяржаўнага гістарычнага архіва ў Вільнюсе.

Фамільныя дакументы Шкленікаў-Радзевічаў, якія выпадкова зберагліся ў калекцыях былога Віленскага таварыства сяброў навукі, сведчаць, што Габрыель Марыян Міхайлавіч Радзевіч нарадзіўся ў 1862 годзе, ён сын доктара, дзявочае прозвішча маці — Шкленік[70].

А мы ж помнім, што жонка Багушэвіча была таксама са Шкленікаў — мінчанка Габрыеля Міхайлаўна Шкленік.

Гэта быў ужо пэўны след, заставалася толькі ўдакладніць ступень сваяцтва.

Як ні дзіўна, але зрабіць гэта ўдалося пры дапамозе следчых матэрыялаў паўстання 1863 года.

Перанясёмся зноў у часы Кастуся Каліноўскага.

19 лютага 1863 года ў Вільні быў арыштаваны паплечнік Каліноўскага па падрыхтоўцы і кіраванні паўстаннем, член Літоўскага правінцыяльнага камітэта Эдмунд Вярыга. Кватараваў ён «на Бакшцы ў доме Шкленіка». У той жа дзень паліцмайстар накіраваў генерал-губернатару Назімаву рапарт аб выніках вобыску ў кватэры Вярыгі. У прыватнасці, ён пісаў: «Найдено только в шкафу, вделанном в стену, ключ от которого, как объявил доктор Родзевич, находится у тестя его, хозяина сего дома адвоката Михаила Шкленника, проживающего постоянно в городе Минске, несколько свинцовых букв и около полуфунта легкой дроби, а также четыре помеченные Веригою карты и в шкафу доктора Родзевича письма»[71].

Успомнены тут мінскі адвакат Міхаіл Шкленік — гэта, несумненна, будучы цесць Францішка Багушэвіча; доктар Радзевіч — бацька Габрыеля. Такім чынам, доктар Радзевіч і Багушэвіч былі жанатыя на сёстрах Шкленічанках, былі шваграмі, а Габрыель Радзевіч прыходзіўся родным пляменнікам жонцы пісьменніка.

Пра асабістае дачыненне Багушэвіча да паўстання 1863 года вядома даўно. Цытаваны вышэй паліцэйскі рапарт паказвае, што тыя слаўныя падзеі не абмінулі і сям'ю жонкі пісьменніка. Прычым Шкленікі і асабліва Радзевічы былі блізкія да асяроддзя, цесна звязанага з Каліноўскім.

70 ДГА Літвы. Ф. 1135. Воп. 20. Спр. 705. Арк. 21.

71 Тамсама. Ф. 421. Воп. 2. Спр. 1447. Арк. 1–2; Ф. 1248. Воп. 1. Спр. 6. Арк. 43–44.



Высвятляецца, што брат доктара Міхаіла Радзевіча Людвіг быў жанаты з Людвікай Ямант, сястрой бліжэйшага паплечніка і сакратара Каліноўскага Юзафа Яманта. Як вядома, кватэра Ямантаў была галоўнай канспіратыўнай кватэрай Каліноўскага ў 1863 годзе, сапраўдным штабам паўстання. Тут часта бывалі браты Радзевічы. Удзельнік віленскай рэвалюцыйнай арганізацыі Ільдэфонс Мілевіч паказваў у следчай камісіі: «Да самих Ямантаў часцей прыходзілі яго [Яманта] сваяк доктар Радзевіч (служыць пры чыгунцы), родны брат жанатага з дачкой Яманта, замужняя дачка яго Радзевічава…»[72]. Няма ніякага сумнення, што браты Радзевічы асабіста ведалі Каліноўскага. Што датычыць Людвікі Радзевіч-Ямант, якая ў цытаце названа Радзевічавай, то яна пакінула каштоўныя ўспаміны пра Каліноўскага, пра якія ўжо пісалася ў беларускім друку[73] (згадваем і мы іх у гэтай кнізе, у артыкуле «…І Літва»). Цяпер жа высветлілася, што ўсё гэта людзі, якіх Багушэвіч ведаў калі не асабіста, дык па расказах сямейнікаў.

Я ўжо не здзіўляўся, натрапіўшы на імя Радзевічаў у знакамітых успамінах землявольца Л. Панцялеева (пра іх пісаў Генадзь Каханоўскі ў краязнаўчых нататках «Маладзечна — Мінск — Урал, а далей — усюды»[74]). Пасля арышту ў канцы 1864 года Панцялееў быў дастаўлены ў Вільню і чакаў прысуду ў тых самых Дамініканах, дзе незадоўга перад гэтым правёў свае апошнія дні Кастусь Каліноўскі. «В один прекрасный день, — чытаем ва ўспамінах, — совершенно неожиданно ввели ко мне нового сожителя. То был Людвиг Родзевич, из местных виленских жителей, незадолго перед тем арестованный по какому-то самому ничтожному поводу. Родзевичу было лет под сорок, с ранней юности он служил в администрации имений Витгенштейна, обширные владения которого (унаследованные от Радзивиллов) были разбросаны по всему Западному краю. Родзевич, хотя и получил только гимназическое образование, видимо, много читал, особенно хорошо знал историю Литвы, но главное, благодаря разъездам по делам Витгенштейна, отлично был ознакомлен с краем, особенно с экономическим положением крестьян, не только в настоящем, но и в более отдаленном прошлом. Его тесть Ямонт был выслан в Сибирь, брат жены тоже; многих из деятелей 1863 г. Родзевич лично и хорошо знал. Он сразу отнесся ко мне вполне доверчиво, так как ему было известно, за что я арестован. Потому, забросив чтение, я без зазрения совести

72 Восстание в Литве и Белоруссии 1863–1864 гг. С. 84.

73 Гл.: Кісялёў Г. Сейбіты вечнага. Мінск, 1963. С. 45–46, 112–114; Мальдзіс А. Таямніцы старажытных сховішчаў. Мінск, 1974. С. 119–121; Радзевіч Л. Жменька ўспамінаў з 1863 года (Публ. В. Шалькевіча) // Голас Радзімы. 1988. 7 студз.

74 Голас Радзімы. 1991. 25 ліп.

эксплуатировал его, заставляя по целым часам рассказывать; и только одно меня огорчало: Родзевич, горячий католик, каждый день по целым часам молился и тем сокращал драгоценное время для интересовавших меня разговоров»[75]. Маладая жонка Панцялеева, прыехаўшы з дзіцем услед за мужам у Вільню, спынілася якраз у Радзевічаў і з падзякай успамінала гасціннасць гэтай сям'і.

Такім чынам, за Шкленікамі і Радзевічамі, з якімі Багушэвіч парадніўся ў 1874 годзе, былі багатыя, блізкія пісьменніку традыцыі.

На гэтым знаходкі не скончыліся. Аказалася, што малады сябра Багушэвіча Габрыель Радзевіч сам заслугоўвае не толькі нашай увагі, але і ўдзячнай памяці як удзельнік рэвалюцыйнага руху, чалавек неардынарнага лёсу.

Як цяпер высвятляецца, ён быў актыўным дзеячам адной з першых марксісцкіх арганізацый у Расіі — так званай групы Бруснева, якая займае адметнае месца ў гісторыі народаў Расіі.

Нагадаем, што гэтая арганізацыя, вядомая таксама пад назвай «Рабочы саюз», дзейнічала ў Пецярбургу ў 1889–1892 гадах. Складалася яна з інтэлігенцыі (пераважна студэнтаў) і рабочых, была звязана з замежнай групай «Вызваленне працы». Група Бруснева аб'ядноўвала звыш дваццаці рабочых гурткоў, арганізавала вядомую Шалгуноўскую дэманстрацыю, першую ў цэнтральнай Расіі маёўку 1891 года, спрабавала ўплываць на стачачную барацьбу, выдавала лістоўкі. У 1892 годзе група была разгромлена паліцыяй.

У апошнім акадэмічным выданні «Истории СССР…» напісана:

«Непараўнальна больш значнай і разгалінаванай, чым дзве папярэднія арганізацыі пецярбургскіх рабочых (групы Благоева і Тачыскага. — *Г. К.*), была група М. І. Бруснева. Яна склалася ўвосень 1889 года ў Пецярбургу са студэнцкіх гурткоў Тэхналагічнага інстытута і ўніверсітэта. Сам Брусьнеў, студэнт Тэхналагічнага інстытута, вылучаўся сярод рэвалюцыйна настроенай моладзі як перакананы марксіст і таленавіты арганізатар.

Найбольш актыўныя ўдзельнікі гэтай новай групы Брусьнеў, браты Л. Б. і Г. Б. Красіны, В. С. Голубеў, Г. М. Радзевіч, В. Ф. Цывінскі і іншыя ўстанавілі сувязі з рабочымі гурткамі, у якіх вялі прапаганду марксізму…»[76].

Згаданы тут Л. Б. Красін, Леанід Красін — будучы вядомы дзеяч партыі і савецкай дзяржавы, а Г. М. Радзевіч — сваяк Багушэвіча, яго віленскі сябра.

[75] Пантелеев Л. Ф. Воспоминания. М., 1958. С. 380–381.

[76] История СССР с древнейших времен до наших дней. Т. 5. М., 1968. С. 466.



У тым, што мы не памыліліся, нас пераканаў артыкул маскоўскага гісторыка А. М. Арэхава «Удзел польскіх студэнтаў у сацыял-дэмакратычнай прапагандзе ў Пецярбургу (1889–1892 гг.)», надрукаваны ў 1967 годзе ў выдадзеным АН СССР зборніку «Революционная Россия и революционная Польша», а таксама іншыя прагледжаныя намі выданні па гісторыі сацыял-дэмакратычнага і рабочага руху ў Расіі. У літаратуры прыводзяцца наступныя звесткі: Габрыель Марыян Радзевіч нарадзіўся ў 1862 годзе (гэта мы ведалі раней) у Дынабургу. У 1882 ці 1883 годзе скончыў 1-ю Віленскую гімназію і паступіў у Пецярбургскі ўніверсітэт, адкуль перайшоў у Ваенна-медыцынскую акадэмію, але ў 1886 годзе (па іншых звестках, у 1887 годзе) пакінуў яе, не скончыўшы курса. Працаваў у Пецярбургу кантралёрам на Мікалаеўскай чыгунцы.

Пра яго жонку — таксама ўдзельніцу рэвалюцыйнага руху — паведамляецца:

Юлія Аляксандра Радзевіч-Вайчынская. Вучылася спачатку ў Варшаўскай (па іншых звестках у Варонежскай) гімназіі. З дзесяцігадовага ўзросту жыла ў Пецярбургу. Пасля заканчэння Пецярбургскай жаночай гімназіі (1879) наведвала сталічныя педагагічныя курсы, у 1887 годзе скончыла Вышэйшыя жаночыя курсы. Такім чынам, яна блізкая да слаўнай плеяды бястужавак, якія адыгралі прыкметную ролю ў грамадскім жыцці тагачаснай Расіі. Працавала яна хатняй настаўніцай.

Муж і жонка Радзевічы далучыліся да рэвалюцыйнага руху яшчэ ў студэнцкія гады. Спачатку яны прытрымліваліся народніцкіх поглядаў і ўдзельнічалі ў арганізацыях «Народнай волі». Пералом у іх поглядах адбыўся, мяркуючы па ўсім, у 1887 годзе пасля разгрому народавольскіх арганізацый, звязанага з няўдалым замахам на Аляксандра III (вядомая справа А. І. Ульянава і яго таварышаў). Ужо тады, задоўга да ўзнікнення групы Бруснева, Радзевічы знайшлі аднадумцаў сярод студэнтаў Тэхналагічнага і Горнага інстытутаў і пачалі весці прапаганду марксізму ў рабочых гуртках. Яны працягвалі дзейнасць першых рускіх марксісцкіх груп Благоева і Тачыскага, разгромленых паліцыяй у 1887–1888 гадах, нейкі час працавалі нават паралельна з імі[77].

Гаворачы пра арышты сярод пецярбургскіх марксістаў 1888 года, удзельнік тых падзей студэнт В. С. Голубеў адзначаў, што прапаганда ў рабочым асяроддзі не спынялася: «Гурток інтэлігенцыі з тэхнолагаў і гарнякоў працягваў дзейнічаць, прычым відную ролю адыгрываў тады былы студэнт-медык Р. і яго жонка». (Былое. 1906. № 12. С. 108).

[77] Гл.: Красная летопись. 1930. № 2 (35). С. 5–25.

Гэтыя ўспаміны былі надрукаваны яшчэ пры царызме, таму прозвішча Радзевічаў у іх зашыфравана.

У манаграфіі Ю. З. Палявога «Зарождение марксизма в России» (1959) таксама падкрэсліваецца вялікая роля Габрыеля і Юліі Радзевічаў у станаўленні першых марксісцкіх арганізацый: «Гурток Г. М. і Ю. І. Радзевічаў, куды ўваходзілі некаторыя студэнты ўніверсітэта, Тэхналагічнага і Горнага інстытутаў, не абмяжоўваўся вывучэннем грамадскіх навук, а ўстанавіў у 1888–1889 гадах сувязь з перадавымі рабочымі шэрагу буйных заводаў і фабрык. Амаль увесь склад гэтага гуртка ўвайшоў потым у сацыял-дэмакратычную групу Бруснева».

Бруснеў з'явіўся сярод пецярбургскіх марксістаў увосень 1889 года. Тады ж склалася і новая, разгалінаваная арганізацыя, якая атрымала ў гісторыі імя «групы Бруснева». У манаграфіі Ю. З. Палявога адзначаны вельмі знамянальны для тэмы нашай размовы факт: «Сам Бруснеў быў прыцягнуты да дзейнасці марксісцкіх гурткоў Г. М. Радзевічам, які быў звязаны з групай Благоева». Удакладнім, што, мяркуючы па ўсім, Радзевіч быў не столькі арганізацыйна звязаны з групай Благоева, колькі з'явіўся яго пераемнікам, што ж да ролі ў яго асабістым лёсе Бруснева, то яна пацвярджаецца сведчаннем самога Бруснева. Пасля перамогі Кастрычніка колішні кіраўнік пецярбургскіх марксістаў успамінаў далёкую восень 1889 года: «У рабочы гурток мяне ўвёў Радзевіч. Гурток гэты быў на Васільеўскім востраве, у Гавані. Раней там вёў заняткі сам Радзевіч, так што я з'явіўся яго пераемнікам. Я выбраў сабе псеўданім "Фёдар Васільевіч" і выдаваў сябе за рабочага, хоць, вядома, усім было ясна, што я студэнт. Гэты першы мой гурток налічваў тады чалавек 8–10 рабочых. Усе гэта былі маладыя людзі, галоўным чынам рабочыя-металісты Балтыйскага завода. Рабочыя былі дастаткова развітыя і падрыхтаваныя маім папярэднікам»[78].

Сам Радзевіч узяў пасля гэтага гурток студэнта-тэхнолага Уладзіміра Пераверзева (Пераверзіна) у майстэрнях Пецярбургска-Варшаўскай чыгункі. Удзельнік гэтага гуртка слесар Мікалай Багданаў успамінаў пра гэта так: «…у канцы 1889 года быў арыштаваны і высланы Улад. Пераверзін. У нас у гуртку яго замяніў Гаўр. Міх. Радзевіч. Гэта быў адзін з відных сацыял-дэмакратаў і карыстаўся ў нас вялікай павагай»[79]. Успаміны Багданава даносяць да нас атмасферу таго гістарычнага часу — зараджэння рабочага руху: «Не вялікія былі нашы сілы,

[78] Бруснев М. И. Возникновение первых социал-демократических организаций (Воспоминания) // Пролетарская революция. 1923. № 2 (14). С. 20.

[79] Ольминский М. О воспоминаниях Н. Д. Богданова // От группы Благоева к «Союзу борьбы» (1886–1894). Ростов-на-Дону, 1921. С. 41.



але велізарныя запал і рашучасць пачаць барацьбу за вызваленне рабочага класа».

Мужа і жонку Радзевічаў ведалі ў рабочым асяроддзі пад імёнамі Івана Казіміравіча і Аўдоцці Міхайлаўны. Ідучы да рабочых з перадавым рэвалюцыйным словам, яны вялікае значэнне надавалі падпольным выданням. Вядома, што Габрыель Радзевіч склаў і размножыў на гектографе «Рабочы катэхізіс», надрукаваў на гектографе таксама брашуру П. Лафарга «Рэлігія капіталу». У гістарычнай літаратуры адзначаецца такі характэрны выпадак. Калі ў верасні 1888 года адзін са студэнтаў Тэхналагічнага інстытута сказаў, што знайшоў літаграфію, дзе можна будзе друкаваць рэвалюцыйныя выданні, патрэбны толькі грошы, Юлія Радзевіч без ваганняў аднесла ў ламбард свой сярэбраны сталовы сервіз. На атрыманыя грошы былі надрукаваны «Гістарычныя пісьмы» П. Лаўрова.

8 кастрычніка 1890 года Радзевічаў арыштавалі. Яны былі добрымі канспіратарамі, і нічога забароненага ў іх не знайшлі, толькі нататкі і выпіскі з друку па рабочым пытанні. Ім пашанцавала, бо паліцыя лічыла тады больш небяспечнымі народнікаў-тэрарыстаў. Габрыель сказаў, што займаўся мірнай асветніцкай дзейнасцю, Юлія наогул ад усяго адмовілася. Праз два месяцы іх выпусцілі да суда на свабоду пад грашовы залог, які ўнесла маці Юліі. У студзені 1892 года быў абвешчаны прысуд: Габрыель прыгавораны на паўгода ў турму, над Юліяй на два гады ўстанавілі яўны (гласный) нагляд паліцыі.

Недзе ў гэты час Радзевічы асталяваліся ў Вільні, сталі бліжэйшымі сябрамі свайго родзіча, прысяжнага паверанага Віленскага акруговага суда і выдатнага беларускага паэта-дэмакрата Францішка Казіміравіча Багушэвіча.

Мы ведаем цяпер, дакладней, можам уявіць сабе, пра што размаўлялі, што ўспаміналі Багушэвіч і яго малады сябра Радзевіч каля вогнішча на беразе Віліі ў час экскурсіі 1897 года.

З Радзевічамі ў жыццё беларускага пісьменніка ўвайшло нешта вельмі і вельмі важнае, істотнае, хоць, па ўсім, марксісцкіх поглядаў ён не падзяляў, а ў пісьме 1893 года выказаў нават непрыхільнасць да экспрапрыяцый, звязаных, на яго думку, з «камунізмам» і «сацыялізмам»[80]. Але за народ, мы ведаем, стаяў гарою і паноў не мілаваў.

Варта дадаць яшчэ, што група Бруснева цесна судакраналася ў сваёй дзейнасці з пецярбургскім студэнцкім «Гуртком моладзі польскай, літоўскай, беларускай і маларускай», да якога належаў Адам Гурыновіч. Члены гэтага гуртка К. Акуліч і І. Непакайчыцкі, бліжэйшыя сябры

[80] Багушэвіч Ф. Творы. Мінск, 1991. С. 227.

А. Гурыновіча, якія нейкі час жылі нават на адной кватэры з ім, адначасова былі актыўнымі ўдзельнікамі бруснеўскай групы. У дзейнасці групы Бруснева самы актыўны ўдзел прымалі таварышы Гурыновіча па Віленскім рэальным вучылішчы і Тэхналагічным інстытуце Ю. Бурачэўскі і В. Цывінскі. Улічваючы ўсё гэта, можна меркаваць, што Гурыновіч быў знаёмы з Радзевічамі. А гэта значыць — намячаецца адзін са шляхоў, якім Гурыновіч мог увайсці ў непасрэдныя кантакты з Багушэвічам.

І яшчэ. Я чакаў, што знайду фатаграфіі Габрыеля Радзевіча і яго жонкі ў вядомым сямейным альбоме Багушэвічаў, які захоўваецца ў Дзяржаўным музеі Беларусі. Некалі знятыя на фатаграфіях асобы былі вызначаны, апазнаны ўнучкай пісьменніка С. Тамашэўскай, што прыязджала з Польшчы. У спісе фатаграфій альбома значыцца нямала розных Шкленікаў і Радзевічаў, але Габрыеля сярод іх, на жаль, няма. Знайшлася толькі «Ю. Радзевіч, пляменніца жонкі паэта» (здымак № 49). Можна было думаць, што гэта якраз і ёсць Юлія Радзевіч, жонка Габрыеля. Некалькі фотаздымкаў засталося неапазнанымі. Ці не Габрыель на адным з гэтых здымкаў? Вось каб ведаць, як ён выглядаў…

Фірменны цягнік «Чайка» ідзе ад Мінска да Вільнюса нешта тры з паловай гадзіны. У дарозе думаецца пра многае, найперш пра тое, што турбуе. Мой клопат — гісторыка-літаратурны пошук: Габрыель Радзевіч, бліжэйшы Багушэвічавы сябра 90-х гадоў. Задача: знайсці ў Вільнюсе яго фатаграфію, каб з ёю ўжо зноў вярнуцца да альбома Багушэвічаў. Хацелася пашукаць яшчэ і дадатковых звестак.

Добра знаёмы Дзяржаўны гістарычны архіў на вуліцы Геросес Вільцес не падвёў і на гэты раз.

Некалі сакрэтная справа Віленскага гарадскога паліцэйскага ўпраўлення «О состоящих под негласным надзором полиции дворянах Габриеле и Юлии-Александре Родзевичах» (Ф. 420. Воп. 2. Спр. 1416) вялася на працягу 12 гадоў (1891–1903) і паспела вырасці ў ладны стос папер — 222 лісты. Праўда, трэба адзначыць, што нагляд быў даволі фармальны. У справе зафіксаваны пераважна змены адрасоў, выезды з Вільні. Кола знаёмстваў не акрэслена.

Першая ж папера спыняе ўвагу. Перапісваюцца мясцовыя віленскія ўлады. Начальнік губернскага жандарскага ўпраўлення, палкоўнік з неразборлівым подпісам, піша паліцмайстру 9 студзеня 1891 года:

«Департамент полиции уведомил меня, что привлеченный к дознанию при С.-Петербургском губернском жандармском управлении по обвинению в государственном преступлении дворянин Габриель Родзевич и жена его Юлия (урожденная Войчинская) по освобождении из-под



стражи под залог в 500 руб. выехали 23 минувшего декабря. из С.-Петербурга на жительство в город Вильну.

Сообщая об изложенном, покорнейше прошу ваше высокоблагородие иметь в виду, что названным супругам Родзевичам воспрещены всякие отлучки из места их жительства, г. Вильны, впредь до окончания производящегося о них дела».

Такім чынам, маладыя Радзевічы з’явіліся ў Вільні ў канцы 1890 года, яшчэ да суда над імі. Зразумела, прыезд пецярбургскіх сваякоў не застаўся незаўважаным у сям’і Багушэвіча, хоць яго прозвішча нідзе ў дакументах не называецца.

З далейшай перапіскі высвятляецца, што Радзевічы больш года пражылі ў Вільні пад сакрэтным (негласным) наглядам паліцыі, чакаючы прысуду. Справа была вырашана ў Пецярбургу адміністрацыйным парадкам, пастановай цара. 6 лютага 1892 года губернатар паведаміў паліцмайстру пра царскі прысуд. На дакуменце ёсць паметка: «Гавриил Родзевич отправлен в тюремный замок на 6 месяцев 7 февраля 92 года». Над Юліяй, як вядома, на два гады ўстанавілі яўны нагляд, у сувязі з чым у справе з’явіўся адпаведны дакумент: «1892 года февраля 7 дня. Я, нижеподписавшаяся, даю настоящую расписку в том, что положение о гласном полицейском надзоре мне объявлено, причем обязуюсь в точности выполнять его и еженедельно по понедельникам являться в канцелярию г. виленского полицийместера. Юлия Родзевич».

Праз паўгода Габрыель вызваляецца з турмы з устанаўленнем над ім сакрэтнага нагляду. Да гэтага часу адносіцца цікавы дакумент: «Г. министр внутренних дел, на основании 1 и 16 ст. Положения о государственной охране, изволил признать необходимым воспретить дворянину Гавриилу-Мариану Михайлову-Францеву Родзевичу, по освобождении его 7 сего августа из Виленского тюремного замка, пребывание в университетских городах, Твери, Нижнем Новгороде и Саратовской губернии в течение 2 лет…».

Тады ж паліцэйскі прыстаў на запытанне жандарскага ўпраўлення паведаміў асноўныя біяграфічныя звесткі пра Габрыеля (яны нам вядомыя) і дадаў, што паднаглядны «занятий никаких не имеет, а живет на средства своих родителей, проживающих в г. Вильне, отец которого доктор и антокольский домовладелец». Антокаль (Антакальніс) — гэта колішні прыгарад Вільні, цяпер раён горада. Са справы відаць, што жылі Радзевічы не ў бацькоў, а здымалі кватэры, даволі часта пераязджаючы з месца на месца: дом Невядомскай на Стафанаўскай, дом Залкінда на Зарэччы, дом Шульца на Антокалі, дом Высоцкага на Папоўшчыне, дом Сломскага на Полацкай, дом Фалевіча на Завальнай, дом Кудзіча

па Нікадзімскім завулку… Усе гэтыя адрасы, трэба думаць, добра ведаў Багушэвіч.

У 1894 годзе над Юліяй спыняецца яўны нагляд і зноў устанаўліваецца сакрэтны. Паведамляюцца даволі падрабязныя звесткі: ёй 30 год, нарадзілася ў Вільні. Маці-ўдава жыве ў Пецярбургу на Мойцы, эканомка бальніцы Міколы Цудатворца. Юлія афіцыйна нідзе не працуе, муж за службу ў камерцыйным банку атрымлівае 40 рублёў у месяц. «Недвижимого имущества не имеет, капиталов тоже нет». Калі муж не працаваў, памагала яе грашавітая маці-эканомка.

Паводле справы, Габрыель, апрача службы ў камерцыйным банку, нейкі час займаўся прыватнымі ўрокамі, у канцы 90-х гадоў служыў у зямельным банку, тым самым, куды герой «Новай зямлі» дзядзька Антось ездзіў па пазыку.

Як ужо гаварылася, у справе ёсць звесткі пра ўсе выезды Радзевічаў з Вільні. Нас цікавіць, як адлюстравалася ў дакументах вядомая экскурсія па Віліі і Нёмане 1897 года, у якой Габрыель удзельнічаў разам з Багушэвічам. Прамых згадак пра экскурсію на лодках у справе няма, але 19 ліпеня 1897 года паліцэйскі прыстаў паведаміў, што Габрыель выбыў з Вільні ў Паланген (так, на нямецкі лад, называлася тады літоўская Паланга). Калі меркаваць па гэтых звестках, то да Коўна падарожнікі дабраліся за адзін дзень, бо вядома, што 20 ліпеня Багушэвіч упісаў у Коўне некалькі вершаў у альбомы сёстраў Петравічанак. Праўда, не выключана, што прыстаў паведаміў пра выезд Габрыеля крыху запознена. У справе ёсць таксама паведамленне палангенскага паліцмайстра ад 4 жніўня, што Радзевіч у Паланген не прыязджаў. Нарэшце, знаходзім яшчэ данясенне прыстава, што 6 жніўня Радзевіч вярнуўся ў Вільню, на ранейшае месца жыхарства. Словам, удзел у экскурсіі маладога спадарожніка Багушэвіча выклікаў цэлую паліцэйскую перапіску.

Нагляд над Радзевічамі быў спынены ў маі 1903 года, ужо пасля смерці Багушэвіча.

У справе пра нагляд ёсць згадка, што Радзевіч у 1892 годзе пры зняволенні ў турму быў сфатаграфаваны і яго здымак накіраваны ў Турэмнае аддзяленне Віленскага губернскага праўлення. Удалося адшукаць адпаведную справу Турэмнага аддзялення (Ф. 384. Воп. 1. Спр. 432). Вось і фатаграфія: спакойны пагляд светлых празрыстых вачэй, невялічкая зусім маладая бародка кліночкам, футравы каўнер зімовага паліто або цёплай курткі. Сямейныя акалічнасці Радзевічаў перадае наступны дакумент, складзены, магчыма, з дапамогай вопытнага юрыста Багушэвіча праз дзесяць дзён пасля зняволення Габрыеля:



«Его превосходительству
г. виленскому гражданскому
губернатору Гревеницу

Дворянки Вестины Юрьевны
Родзевич

ДОКЛАДНАЯ ЗАПИСКА

Сын мой Гавриил Михайлов Родзевич арестованный находится в заключении в тюремном заведении на предместьи г. Вильно Лукишках. Покорнейше прошу ваше превосходительство дозволить мне, матери, а равно и отцу, Михаилу Фомичу Родзевичу, также жене сына Юлии Игнатьевне Родзевич, иметь свиданья.

Вильно, 17 февраля 1892.

Местожительство: Антокольская улица, № 1464».

Вядома ж, ён недзе тут блізка, «за кадрам», — дзядзька Францішак Багушэвіч — трывожыцца, падказвае, кансультуе.

Карыстаючыся выпадкам, зноў праглядаю ў архіве папку з дакументамі Радзевічаў і Шкленікаў у зборах Віленскага таварыства сяброў навукі (Ф.1135. Воп. 20. Спр. 705).

З дакументаў відаць, што дваранскі род Шкленікаў быў вядомы з XVII стагоддзя. Да канца 20-х гадоў XIX стагоддзя яны валодалі маёнткам Заборжа-Вітуніч (інакш Шклянцы, Асовіна) у Барысаўскім павеце. Цесць Багушэвіча Міхаіл Дамінікавіч нарадзіўся ў 1814 годзе, быў адвакатам Віленскай цывільнай палаты і меў дом у Вільні на Бакшце. Пазней працаваў у Мінску. Між іншым, разам з земляком-мінчанінам Люцыянам Неслухоўскім (бацькам Янкі Лучыны) ён значыцца сярод падпісчыкаў «Памятніка науково-літэрацкего» Р. Падбярэскага (1849–1850), самага прагрэсіўнага мясцовага альманаха таго часу. Пра яго ёсць нямала дакументаў і ў ЦДГА ў Мінску (Ф. 694. Воп. 4. Спр. 5401, 5414, 5450), яны расказваюць пра дзейнасць М. Шкленіка як паверанага (пленіпатэнта) князёў Вітгенштэйнаў. У прыватнасці, ён удзельнічаў у продажы Вітгенштэйнамі горада Слуцка казне (1847). Адрас на некаторых дакументах: «Его благородию Михаилу Доминиковичу Шкленику. г. Вильно — на улице Бакштах в собственном доме». Лічыўся ён пленіпатэнтам князя ў Вільні, а потым у Мінску, меў немалую сілу, мог сам аператыўна прызначаць і выплачваць грошы людзям, «полезным и благосклонным» для князя. У прашэнні Шкленіка 1850 года пададзены адрас: «Жительство просителя в городе Минске в доме Новаковского». Цікава, што ў 1856 годзе ў гэтым доме жыў Дунін-Марцінкевіч.

Як жыхары параўнальна невялікага губернскага горада, вядома ж, яны былі знаёмыя.

Радзевічы паходзілі з Самагіціі (лацінская назва Жмудзі-Жэмайціі). Бацька Габрыеля Міхаіл Франц Фаміч нарадзіўся ў 1827 годзе ў Вільні, скончыў Віленскую гімназію і медыцынскі факультэт Маскоўскага ўніверсітэта (1851). Быў членам Віленскага медычнага таварыства, дарыў туды кнігі і часопісы. 32 гады (да 1891 года) праслужыў старшым урачом на чыгунцы ў Вільні. Чалавек высокай гуманітарнай культуры: як відаць з прадмовы да вядомага так званага віленскага слоўніка польскай мовы (т. 1, 1861), разам з беларускім паэтам Вінцэсем Каратынскім прымаў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы гэтага слоўніка, вёў там медыцынскі аддзел і нават трымаў нейкі час агульную карэктуру. У 1863 годзе быў арыштаваны як рэферэнт мінскай рэвалюцыйнай арганізацыі.

Яшчэ цікавы дакумент (віленскі архіў): у 1859 годзе ў Мінску ў кафедральным касцёле (цяпер плошча Свабоды) бяруць шлюб Міхаіл Радзевіч, 31 года, прыхаджанін віленскага Святаянскага прыхода, і Марыя Марцыяна Аляксандра Шкленічанка, 19 год, прыхаджанка мінскага Кафедральнага прыхода.

Праз некалькі год новы запіс, ужо трагічнага гучання: у лістападзе 1864 года ў Вільні, у доме Шкленікаў на Бакшце, сканала ад тыфознай гарачкі дваранка Марцыяна Радзевіч, народжаная Шкленічанка, 26 год, жонка Міхаіла. (Выходзіць, не зберог доктар сваю спадарожніцу.) Пакінула сыноў Габрыеля і Марціна. Пахавана на Бернардзінскіх могілках. Значыць, тая Вясціна Юр’еўна Радзевіч, якая дабівалася ў 1892 годзе спаткання з Габрыелем, — не родная маці. А роднай ён, па сутнасці, не ведаў.

Як сведчыць складзеная апантаным краязнаўцам Л. Уземблам картатэка віленскіх могілак (бібліятэка АН Літвы), самому доктару Радзевічу выпала досыць доўгае жыццё. Перажыўшы нават свайго значна маладзейшага швагра Багушэвіча, ён спачыў у 1902 годзе на могілках Святога Пятра роднага горада.

…Сямейны альбом Багушэвічаў знаходзіцца ў экспазіцыі Дзяржаўнага музея Беларусі. Ён ляжыць пад шклом у вітрыне аднаго з залаў, і дабрацца да яго не проста. Але, улічваючы важнасць справы, намеснік дырэктара музея Мікалай Васілевіч Сінкевіч дае каманду дастаць альбом. Разам з супрацоўніцай музея Ларысай Аляксееўнай Александрэнкай, так бы мовіць, робім апазнанне.

Некалі альбом быў абцягнуты чырвоным аксамітам, цяпер, пад уздзеяннем часу, яго колер няпэўны. Сем дзясяткаў фатаграфій ахопліваюць



перыяд з юнацтва пісьменніка і да 20-х гадоў XX стагоддзя, прадстаўляючы некалькі пакаленняў Багушэвічаў і іх сваякоў. Здымкі пераважна невялікія (памеру візітнай карткі), па чатыры на старонцы.

Паволі гартаем старонкі альбома, паглядаючы раз-пораз на прынесеную мною копію віленскага здымка Габрыеля. Сумненняў няма — вось ён на фатаграфіі № 50, якая якраз лічыцца неапазнанай. Нават той жа паварот галавы, толькі выгляд на фота ў альбоме больш парадны і ўзнёслы, таму што здымкі рабіліся зусім у розных абставінах. Фатаграфія Юліі (№ 49) акурат у альбоме побач. Трэба думаць, так размясціў іх сам пісьменнік. Дарчых надпісаў на адвароце няма, але відаць, што здымкі Габрыеля і Юліі зроблены ў адным і тым жа фотаатэлье А. Лоранса на Неўскім праспекце ў Пецярбургу.

Звяртае таксама на сябе ўвагу здымак маладой рэспектабельнай жанчыны з немаўлём (№ 29). На адвароце надпіс: «Марцыяна Радзевіч з Габрусём». Перад намі, такім чынам, Габрыель у раннім дзяцінстве з маці. Суседні здымак (№ 30) — «Доктар Міхаіл Радзевіч». На здымку № 31 — цесць Багушэвіча і дзед Габрыеля Міхаіл Шкленік.

Паводле малавядомых успамінаў З. Нагродскага на польскай мове (Вільна, 1929), Габрыель у 90-я гады ўдзельнічаў у тайнай асвеце народа. Напярэдадні Першай сусветнай вайны абіраўся гласным Віленскай гарадской думы, яго далейшы лёс пакуль не ўстаноўлены. Юлія Радзевіч-Вайчынская побач з Цёткай, З. Верас, У. Станкевіч называецца часам сярод працаўнікоў беларускай асветы пачатку XX стагоддзя, пазней працавала ў Вільні ў сістэме польскай асветы. Час, жыццёвыя расчараванні наклалі на яе свой адбітак. С. Тамашэўская помніла яе «як удаву, якая адразу пасля Першай сусветнай вайны працавала дырэктарам гімназіі ў Вільні, потым — як кіраўнічка інтэрната. Гэта была замкнутая асоба, безуражлівая. Па ёй немагчыма было пазнаць, калі яна радуецца, а калі смуткуе» (Полымя. 1990. № 3. С. 166). Яна была жывая яшчэ ў 30-я гады, спрыяла беларускім дзеячам у іх перагаворах з сям’ёй Багушэвіча адносна рукапіснай спадчыны пісьменніка. Яе кароткія ўспаміны пра Багушэвіча надрукаваны ў 1938 годзе ў «Запісах Беларускага навуковага таварыства» (Пачынальнікі. С. 433–434). Цікава, што яна пазнаёмілася з пісьменнікам яшчэ дзяўчынкай у 70-я гады, калі той жыў у Канатопе. Здаецца, Вайчынскія (Вуйчынскія) былі таксама сваякамі Шкленікаў. У альбоме Багушэвічаў ёсць некалькі здымкаў, пазначаных гэтым прозвішчам. Беларускі дзеяч Ф. Стацкевіч, які жыў у канцы стагоддзя ў Вайчынскіх у Пецярбургу, успамінае, што ў іх была Багушэвічава «Дудка беларуская» (Літ. і мастацтва. 1990. 17 жн.).

Пазней я даведаўся, што здымкі Габрыеля змешчаны таксама ў кнігах А. М. Арэхава «Социал-демократическое движение в России и польские

рэвалюцыянеры: 1887–1893» (1973) і «Первые марксисты в России» (1979). Адзін з іх датаваны 80-мі гадамі. Мяркуючы па адным і тым жа паліто і шаліку, здымкі зроблены адначасова, толькі на адным Габрыель з непакрытай галавой, на другім у капелюшы.

Але самае цікавае, што пасля нашых публікацый на гэтую тэму (1982–1983) Уладзімір Содаль выявіў у тым жа самым альбоме Багушэвіча яшчэ адзін здымак, пад № 2, дзе Габрыель і Юлія Радзевічы сфатаграфаваны разам. У параўнанні з іх асобнымі здымкамі з альбома гэты здымак зроблены крыху пазней у Вільні. Я не звярнуў на яго ўвагу, бо ён не адносіўся да ліку неапазнаных — лічылася, што на ім Багушэвічавы пляменнікі, дзеці сястры Ганны, Ян Мніховіч і Марыя Тарчэўская. У. Содаль рыхтаваў альбом выяўленчых матэрыялаў па Багушэвічу і больш пільна вывучаў з гэтай нагоды сямейны альбом пісьменніка (Звязда. 1984. 26 жн.).

А яшчэ праз некаторы час У. Содаль пазнаёміў нашу грамадскасць з новым рэдкім здымкам, дзе Багушэвіч і Радзевіч зняты ў маляўнічай групе экскурсантаў недзе на высокім беразе Віліі або Нёмана ў 1897 годзе (Беларусь. 1986. № 7). Хутчэй за ўсё, нейкі вельмі ўмелы фатограф (з Вільні? з Коўна?), сапраўдны майстра сваёй справы, заспеў нашых падарожнікаў у пачатку ці канцы экскурсіі. Наша багушэвічазнаўства ўзбагацілася нечаканымі знаходкамі.

У сем'ях Радзевічаў, Шкленікаў, Багушэвічаў, як і ў многіх іншых тагачасных дваранскіх сем'ях Літвы і Беларусі, былі моцныя польскія культурныя традыцыі. Але не менш трывалыя былі і мясцовыя традыцыі, якія з цягам часу станавіліся вызначальнымі. З публікацый А. М. Арэхава даведваемся, што Габрыель назваў сябе на допытах у Пецярбургу літоўцам. Гэтым ён хацеў падкрэсліць сваю сыноўскую сувязь з зямлёй продкаў, з Літоўска-Беларускім краем.



# ВАКОЛ ЗАГАДКІ «ХВЭЛЬКІ З РУКШЭНІЦ»

Дзівіліся ўсе
З пана Фелікса,
Што па-тутэйшаму казаў…

*Р. Барадулін*

У гісторыі беларускай літаратуры драматычных эпізодаў, прыкрых прабелаў і вялікіх таямніц, здаецца, аж зашмат. І нават на гэтым фоне асоба і творчасць Фелікса Тапчэўскага выглядаюць досыць загадкава. Яго творы, за выключэннем хіба абнародаванага ананімна ў газеце «Виленский вестник» «Панскага ігрышча», у свой час не друкаваліся, у тых умовах, хутчэй за ўсё, і не прызначаліся для друку і дайшлі да нас толькі дзякуючы неацэннай рукапіснай «Хрэстаматыі» ягонага земляка Б. Эпімах-Шыпілы. Зусім невядомая была і біяграфія Тапчэўскага. Першыя дакументы аб ім апублікаваны ў 1977 годзе ў зборніку «Пачынальнікі» (невялікая, літаральна мімаходзь, дакументальная згадка, амаль забытая нашым літаратуразнаўствам, была ў 1920-я гады ў адным з артыкулаў гісторыка і літаратуразнаўцы Данілы Васілеўскага; мы да яе яшчэ вернемся).

Няясныя абрысы сталі праступаць больш выразна, намацаліся нейкія зыходныя кропкі біяграфіі. Высветлілася, што Тапчэўскі — выхаванец Лепельскага павятовага вучылішча, працаваў нейкі час канцылярыстам у Віцебскім земскім судзе. Але галоўнае не гэта. Аказалася, што таленавіты паэт-гумарыст, творы якога датуюцца апошняй чвэрцю XIX стагоддзя, як і Ф. Багушэвіч, прычыніўся да вызваленчага руху 1860-х гадоў, у часы паўстання Каліноўскага быў звольнены з пасады валаснога пісара ў мястэчку Ула на роднай Лепельшчыне, а на пачатку 1864 года нават арыштаваны. Прычым пры нейкіх таямнічых акалічнасцях. 25 лютага гэтага года веліжскі павятовы спраўнік (Веліж — вунь ажно дзе — на мяжы са Смаленшчынай) склаў акт пра тое, што прыбыў у вёску («сяльцо») Красны Стаў — маёнтак памешчыцы Апалінарыі Іванаўны Жыркевіч — і арыштаваў там яе стрыечнага брата двараніна Фелікса Феліксавіча Тапчэўскага. Пры вобыску нічога падазронага не знойдзена, узята толькі перапіска на польскай мове з сваякамі

Жыркевіч і асабістыя дакументы Тапчэўскага. Паэт, калі не сказаць — будучы паэт, разам са згаданымі паперамі адпраўлены ў Віцебск, да губернатара. Вось і ўсё, што стала вядома. Ясна, што арышт быў звязаны з падзеямі 1863 года, але ў чым канкрэтна заключалася віна Тапчэўскага і як ён апынуўся на другім канцы губерні — мы не ведалі, таму што акт гэты пра арышт паэта зусім выпадкова, па нядбайнасці колішніх канцылярыстаў, трапіў у справу яго аднафамільца віцебскага чыноўніка Іосіфа Тапчэўскага і гаворка там ішла, натуральна, пра гэтага апошняга. Звязаныя з Іосіфам Тапчэўскім дакументы захоўваюцца ў мінскім гістарычным архіве. Пра «Хвэльку з Рукшэніц» у іх больш нічога не было, і сляды паэта зноў згубіліся.

І вось у адну з камандзіровак у Вільнюс мне ўдалося знайсці саму следчую справу па падазрэнні аб удзеле Фелікса Тапчэўскага ў паўстанні Кастуся Каліноўскага. Накіраваная ў свой час з Віцебска ў Вільню на заключэнне, яна там так у архіўных спратах і засталася.

Гэтая даволі ёмістая справа Палітычнага аддзялення канцылярыі віленскага генерал-губернатара (ДГА Літвы. Ф. 378. Паліт. аддз. 1864 г. Спр. 1506) мае назву не надта выразную — «О дворянке Лепельского уезда Еве Камионко и других лицах, оговоренных ею в преступных действиях против правительства». Як бачым, у загаловак вынесена зусім невядомае, як бы выпадковае прозвішча, у назве няма нічога такога, за што магло б зачапіцца вока нашых літаратуразнаўцаў — у «злачынных дзеяннях» тады, па сутнасці, абвінавачвалася ўся Беларусь. А між тым падшыўка захоўвала нямала цікавага.

Пачалася справа 20 лютага 1864 года, калі ў Полацку была затрымана паліцыяй тая пазначаная ў загалоўку паненка Камёнка з вёскі Асінаўка Лепельскага павета. Раз'язджаючы па горадзе, яна рабіла нейкія таямнічыя візіты, сустракалася з падазронымі людзьмі. Яе затрымалі і, абшукаўшы, знайшлі фатаграфіі Івана і Вінцэнта Рэутаў, знятых у забароненых нацыянальных касцюмах. Як аказалася, згаданы тут Вінцэнт Рэут — вядомы польска-беларускі пісьменнік, колішні актыўны супрацоўнік «Rubona» і «Rocznika Literackiego», які вылучаўся дэмакратычнымі поглядамі, глыбокай цікавасцю да беларускага фальклору, жывога народнага слова. Гэта з яго пісьма ў свой час стала вядома пра сустрэчы Тараса Шаўчэнкі з пецярбургскімі беларусамі 1840-х гадоў, пра дадзеную вялікім Кабзаром прыхільную ацэнку нашай «Энеіды навыварат». (Пра гэта мне ўжо даводзілася пісаць у «Загадцы беларускай "Энеіды"».) Дык вось гэты ўжо немалады Рэут, паводле паказанняў Евы Камёнкі, быў у цесных адносінах з мяцежнікамі Сасноўскімі, збіраўся ісці з імі ў мяцеж, рыхтаваў для гэтага зброю і коней.



Са справы даведваемся, што «мяцежнікі Сасноўскія» — панічы з маёнтка Вусвіца Полацкага павета, за ўдзел у паўстанні зняволены ў Дзінабургскай крэпасці. Спачатку пры чытанні дакументаў, напісаных не заўсёды разборліва, падумалася, што Вусвіца — гэта варыянт назвы Вухвішчы, звязанай з біяграфіяй Тапчэўскага (як вядома, ён быў там пад канец жыцця аканомам-упраўляючым), але старыя даведнікі даюць Вухвішчы асобна — у Лепельскім павеце. Сёння Вухвішчы ў Полацкім, а Вусвіца — ва Ушацкім раёне. Хаця ў цэлым гэта адзін і той жа рэгіён. Вусвіца нават адносілася да Рукшэніцкай парафіі[81]. Рукшэніцы добра ведала і не абмінула ў сваіх паказаннях-агаворах і наша занадта гаваркая Ева Камёнка. Наступны аб'ект яе ўвагі — якраз рукшэніцкі ксёндз Восіп Клапатоўскі, які, бываючы ў кампаніі Сасноўскіх, нібыта насіў патрыятычна-сімвалічную, чорную з белым, стужку. Нарэшце (тут мы падыходзім да сваёй галоўнай тэмы), дваране Фелікс і Мікалай Тапчэўскія, паводле яе слоў, падчас узброенага выступлення на Віцебшчыне былі ў «шайцы» Грабніцкага.

Трэба расказаць хоць збольшага пра гэтую паўстанцкую групу, пра яе камандзіра. Отан Грабніцкі быў чалавекам незвычайнага лёсу. Нарадзіўся ён у 1829 годзе ў маёнтку Арэхаўне пад Ушачамі ў забяспечанай, калі не сказаць заможнай, памешчыцкай сям'і. Бацька яго ў розныя часы быў павятовым і губернскім маршалкам (прадвадзіцелем дваранства). У маёнтках Грабніцкіх (тая ж Арэхаўна, Нача, Павулле ў Лепельскім павеце, Тарэспаль у Дрысенскім) цешылі вока багатыя зборы культурных каштоўнасцей, прадметаў мастацтва, палотны старых славутых майстроў Аляшкевіча, Арлоўскага, Смуглевіча. Вучыўся Отан у прывілеяваным прыватным пансіёне ў Вільні. У час Крымскай вайны быў юнкерам. Звольнены са службы, жыў у Феадосіі і хутка трапіў у праславутую Петрапаўлаўскую крэпасць за «шкодны склад думак» і зносіны з татарскімі сепаратыстамі, а неўзабаве адпраўлены радавым у Сібірскі асобны корпус. У 1859 годзе ў выніку агульнай амністыі яму дазволена выйсці ў адстаўку і вярнуцца на радзіму, але нянавісць да царызму ён захаваў. У бурным 1863 годзе ўзначаліў паўстанцкі атрад на радзіме. «Шайкі Себежскага павета, Полацкага, Віцебскага, Веліжскага і Лепельскага мелі намер, злучыўшыся, рушыць на Полацк, а потым на Віцебск»[82], — чытаем у афіцыёзнай брашуры, складзенай больш як сто гадоў назад па свежых слядах паўстання. Але нічога з гэтых намераў

[81] Цяпер Рукшэніцы (Рукшаніцы) зліліся з в. Глыбачка Ушацкага раёна. Вусвіца — у Глыбачанскім сельсавеце. Гэта вельмі старое паселішча, сустракаецца яшчэ на картах Літвы — Беларусі XVI ст.

[82] Кареев А. Н. Очерк о начале и ходе мятежа в инфляндских уездах. М., 1873. С. 7.

не выйшла. Сялянства Віцебшчыны сустрэла паўстанцаў непрыхільна, і нешматлікі атрад Грабніцкага, як і іншыя тамашнія атрады, адразу ж быў рассеяны, не паспеўшы толкам сфарміравацца і разгарнуць сваю дзейнасць. Са следчай справы Грабніцкага ў тым жа вільнюскім архіве відаць, што яго атрад пачаў фарміравацца 23 красавіка ў маёнтку Павулле. Перад выхадам на зборны пункт паўстанцаў Грабніцкі абвясціў перадачу зямлі сялянам «ад імя Цэнтральнага Камітэта». Ды не надта людзі ў гэта паверылі. Сабралася ўсяго чалавек трыццаць, больш панкоў ды падпанкаў (у тым ліку згаданыя Сасноўскія з Вусвіцы), а ўжо 25 красавіка па суседстве з'явіліся царскія войскі. Пачалася паніка, бязладныя перасоўванні, спробы ўцячы, а потым і арышты. Сам камандзір да ўсяго быў цяжка хворы (абвастрыліся сухоты). Яго тайком перавезлі за Дзвіну ў маёнтак сваячкі Збрадовічы, дзе ён і быў 6 мая схоплены мясцовымі сялянамі з дапамогай салдат. Праз два гады няўдачлівы правадыр паўстання памёр у далёкім Екацярынбургу па дарозе ў Сібір. Вось паплечнікамі гэтага Грабніцкага і былі, калі верыць паненцы Камянчанцы, браты Тапчэўскія. У выніку абодва браты апынуліся за кратамі ў віцебскай турме.

5 сакавіка 1864 года (за пяць дзён да пакарання смерцю Каліноўскага) Фелікс даваў паказанні ў Віцебскай следчай камісіі па палітычных справах. Яму 25 гадоў. Разам з братамі Мікалаем і Францам і сёстрамі Іаганнаю і Анэляю мае «нерухомасць» Будзішча ў Полацкім павеце. З восені 1862 года пісар у Уле. 20 або 21 красавіка вызвалены ад пасады мясцовым міравым пасрэднікам. 25-га або 26-га выехаў праз Віцебск у Веліжскі павет. 27-га са спадарожнікам — памешчыкам Камёнкам — прыбыў у Віцебск, а 5-га або 6 мая — у Красны Стаў. Быў у гэтым маёнтку ўпраўляючым. Перад законам чысты, з ніякімі мяцежнікамі не знаўся, рэвалюцыйных знакаў не насіў.

Побач паказанні брата — Мікалаю было ў гэты час 23 гады. Жыў у матчыным фальварку Будзішча Полацкага павета. За фальваркам лічылася ўсяго 30 дзесяцін зямлі. Быў там драўляны дом уладальнікаў (відаць, невялікі, як звычайна ў дробнай шляхты). З часу адкрыцця валасцей у Віцебскай губерні займаў пасаду краснянскага валаснога пісара ў Лепельскім павеце. Жыў увесь гэты час па-ранейшаму ў Будзішчы, адкуль ездзіў на працу ў Краснае. У канцы красавіка або на пачатку мая 1863 года быў «па памылцы» арыштаваны, сядзеў два тыдні ў полацкай турме, потым разабраліся і адпусцілі.

Ёсць у справе таксама паказанні трэцяга з братоў Тапчэўскіх — Франца, які засведчыў прыезд Фелікса ў Красны Стаў. Выходзіць, беднякі-бадзягі браты Тапчэўскія вечна туліліся пад крылом сваёй забяспечанай, добраўладкаванай (па-руску скажам — «благополучной») стрыечнай



сястры Апалінарыі Жыркевіч. Красны Стаў — зусім побач з павятовым Веліжам, цяпер гэта Смаленская вобласць. (Пад Веліжам, дарэчы, меў вёску папулярызатар «Энеіды навыварат» Каятан Мыслоўскі.) Гаспадыня маёнтка пані Жыркевіч (Жыркевічава), магчыма, паходзіла з роду Тапчэўскіх. А можа, сваяцтва ішло па матчынай лініі. Аднак цікава, што прозвішча Тапчэўскіх згадваецца і ў іншых дакументах па Веліжскім павеце. Напрыклад, у верасні 1855 года праўленне Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі паведаміла віцебскаму губернатару, што пасля летніх канікул не вярнуўся ў акадэмію студэнт Адольф Тапчэўскі, які паехаў на вакацыі да бацькі, двараніна Тапчэўскага, у маёнтак Красны Горад Веліжскага павета[83]. Магчыма, Красны Горад — гэта ўжо знаёмы нам Красны Стаў, а Адольф Тапчэўскі — брат, або пляменнік, або іншы сваяк Апалінарыі Жыркевіч.

Паказанні Фелікса падчас следства пра свой узрост пацвярджаюць нашы ранейшыя разлікі, зробленыя на падставе вучнёўскіх спісаў Лепельскага павятовага вучылішча 1849 і 1852 гадоў, што паэт нарадзіўся каля 1838 года, быў, такім чынам, равеснікам Кастуся Каліноўскага (Пачынальнікі. С. 378). Цалкам узгадняецца гэта і з надпісам на адшуканым нядаўна надмагільным камені Тапчэўскага: «Памёр 17 снежня 1892 г., маючы 54 гады» (Каханоўскі Г. Адчыніся, таямніца часу. С. 93). Калі ўжо выпала такая нагода, спынімся яшчэ на спісе вучняў Лепельскага вучылішча на вызваленне ад платы за навучанне, датаваным 22 лютага 1852 года. У ім названы два Тапчэўскія — Франц Феліксавіч 14 гадоў і яго брат Фелікс Феліксавіч 13 гадоў. Абодва, нягледзячы на немалы ўзрост, вучыліся ўсяго толькі ў другім класе. Паводзіны ў абодвух на чацвёрку, стараннасць і поспехі на тройку. Ды, мабыць, гэтай галоце (са шляхецкага погляду) было і не да вучобы. «Ва ўдавы, маці вучняў Тапчэўскіх, 3 сыны і 3 дачкі, — усе на яе ўтрыманні, а сялян ва ўладанні яе толькі каля 10 душ. А таму вучні Тапчэўскія падлягаюць вызваленню ад платы за навучанне»[84], — гаварылася ў спісе. Згадваецца ў гэтым дакуменце 1852 года і малодшы брат Мікалай, які яшчэ не паступіў тады вучыцца, хоць па гадах ужо даўно мог быць вучнем.

Няма сумнення, што і ў дакуменце 1852 года, і ў паказаннях братоў 1864 года маецца на ўвазе адзін і той жа матчын фальварак Будзішча. А гэта давала падставы для досыць важнага вываду. Трэба думаць, што тут і нарадзіліся дзеці Тэклі Паўлаўны Тапчэўскай, тут, мабыць, прыйшоў на свет і Фелікс, а не ў Лёсаве, як пішацца ў нашых энцыклапедыях на падставе мясцовых успамінаў, сабраных Генадзем

[83] ЦДГА ў Мінску. Ф. 1430. Воп. 1. Спр. 27 217. Арк. 2.

[84] ЦДГА ў Мінску. Ф. 2507. Воп. 1. Спр. 463. Арк. 154.

Кахаповскім. Дзе ж шукаць тое Будзішча? З дакументаў вынікае, што фальварак-хутар Тапчэўскіх знаходзіўся ў Полацкім павеце на самай мяжы з Лепельскім. Мяжа паміж паветамі праходзіла якраз на поўдзень ад Рукшэніц і Вусвіцы і далей па Дзвіне. У друкаваным, здаецца, поўным, спісе паселішчаў Віцебскай губерні 1906 года Будзішча (як, дарэчы, і Лёсава) каля Рукшэніц я не знайшоў. Было там Будзішча ў Полацкім павеце за Дзвіной (цяпер Шумілінскі раён). Публікуючы першы варыянт гэтага артыкула ў зборніку «Шляхам гадоў» (1990. Вып. 2), я і выказаў меркаванне, што гэта Будзішча Тапчэўскіх. Тым больш што яно непадалёк ад Улы, дзе працаваў Фелікс.

Але сумненні заставаліся. У такім выпадку брат Мікалай ездзіў бы на працу ў Краснае праз Дзвіну, а гэта клопатна, ды і далекавата. Тут якраз у наш час выйшла для «паспалітага» карыстання даволі дэталёвая карта-двухкіламетроўка Віцебскай вобласці. На ёй усё як на далоні. Павулле, Вусвіца, Краснае, Глыбачка (Рукшэніцы) і на поўдзень ад яе зусім блізка Асінаўка, відаць, тая самая, што належала ў свой час суседзям Тапчэўскіх Камёнкам.

Да таго ж успомнілася адна ранейшая архіўная знаходка — метрычны запіс пра хрышчэнне ў рукшэніцкім касцёле ў 1839 годзе Пятра Ігната Ігнатавіча Тапчэўскага. Кумою была якраз «высакародная Тэкля Тапчэўская, жонка Фелікса». Можна думаць, што і жыла яна, Тэкля Тапчэўская, маці паэта, недзе паблізу ад Рукшэніц. Перачытаў яшчэ раз публікацыі Каханоўскага: Лёсава за паўтара кіламетра ад Глыбачкі на паўднёвы захад. Гэта ж прыблізна ў бок Асінаўкі. Ці не знаходзілася Будзішча побач з Лёсавам?..

У нашай Нацыянальнай (былой Ленінскай) бібліятэцы адшукаў кнігу, якая выйшла ў 1907 годзе ў Віцебску пад рэдакцыяй вядомага гісторыка-краязнаўца А. Сапунова, — «Землевладение и землевладельцы Витебской губернии в 1905 году». Гэта алфавітныя спісы землеўласнікаў па паветах, а ўнутры паветаў па станах-катэгорыях: асобна дваране, святары, купцы, мяшчане, сяляне. Тапчэўскіх няма ані знаку ў ніводнай катэгорыі, сам паэт да таго часу ўжо даўно памёр. Але Генадзь Каханоўскі пісаў, што дачка паэта была замужам за Радзішэўскім. І тут чакала ўдача. У спісе землеўласнікаў-мяшчан Полацкага павета ёсць запіс: «182. Радзишевская Фекла Феликсовна, быв. Топчевского Феликса Фелик-ча». І назва ўладання — «Лиосово, или Будище». Далей пазначана веравызнанне ўладальніцы — рымска-каталіцкае (р/к), паштовы адрас маёнтачка-хутара (праз г. Полацк) і яго памеры: 34 дзесяціны раллі ды 3 лесу.

Усё адразу стала на сваё месца. Зусім дарэмна я спрачаўся з Каханоўскім. Ён усё выдатна разведаў. Проста хутар Лёсава раней называўся



Будзішчам. Цікава, што дачка паэта паказана ў спісах землеўласнікаў-мяшчан. Чаму? Можа, Тапчэўскія не былі афіцыйна зацверджаны ў дваранстве, як, напрыклад, сям'я Я. Купалы. Або да мяшчан належаў яе муж (паводле гэтага ж даведніка, мяшчане Радзішэўскія валодалі 175 дзесяцінамі ў суседняй Глыбачцы). Але гэта ўжо дробязі. Галоўнае ўстаноўлена: Фелікс нарадзіўся ў Будзішчы (Лёсаве) каля Рукшэніц. У сваім вядомым псеўданіме ён зашыфраваў месца нараджэння. Ды і ўсё наступнае яго жыццё знітавана з Лёсавам-Будзішчам, з Рукшэніцамі.

Дакументы досыць рэльефна малююць сумныя абставіны сям'і будучага беларускага паэта Тапчэўскага. Рана страціў бацьку. Маці адна цягнула вялікую сям'ю, а фальварак у яе, як для тагачаснай шляхты, вельмі мізэрны. Вось чаму, агораўшы сяк-так вучылішча, Фелікс быў вымушаны адразу ж паступіць на службу пісарчуком-канцылярыстам у Віцебскі земскі суд (павятовую паліцыю). Быў ён тады яшчэ па сутнасці падлеткам і для салíднасці накінуў сабе тры-чатыры гады, таму па дакументах земскага суда выглядае значна старэйшым, чым быў у сапраўднасці (у 1861 годзе яму нібыта 27 гадоў). Не абышлося, відаць, без пратэкцыі. Жыццё ў старажытным Віцебску, значным адміністрацыйным і культурным цэнтры, плённа ўплывала на духоўнае развіццё даравітага юнака.

Цяпер галоўнае. Дык быў або не быў Фелікс Тапчэўскі паўстанцам 1863 года? Такое пытанне стаяла найперш і перад царскімі следчымі. Улады правялі своеасаблівы хранаметраж — што рабіў Тапчэўскі ў 20-х чыслах красавіка — пачатку мая, калі на Віцебшчыне была спроба ўзброенага выступлення. Фелікс упарта трымаўся сваёй версіі. На шчасце, знайшліся адпаведныя сведкі, адзін з іх — недалёкі сусед Тапчэўскіх па Будзішчы Адольф Камёнка, брат той самай Евы, ад «многоглаголания» якой і пачалася справа. Фелікс і Адольф добра ведалі адзін аднаго з дзяцінства, «и как семейство их, Топчевских, всегда почти находилось в бедном положении, то они часто пользовались помощию Камионки». Дык вось Адольф Камёнка пацвердзіў, што ездзіў з Тапчэўскім у Віцебск і адтуль у Красны Стаў. На камёнкаўскіх конях сябры дабраліся спачатку да паштовай станцыі Курылоўшчына (цяпер Шумілінскі раён), дзе, дарэчы, іх абшукалі казакі (характэрная дэталь часу), далей ехалі на паштовых.

Шалі правасуддзя схіляліся то ў адзін, то ў другі бок. Памог, і вельмі істотна, нават ульскі бацюшка Клімент Акановіч, у якога сталаваўся Тапчэўскі падчас службы валасным пісарам (кватараваў ён у самім валасным праўленні). Святар, відаць, добры чалавек, вельмі салідна і разважліва сказаў, што 24 красавіка а 4-й гадзіне дня (бачыце, як дакладна) Тапчэўскі з братам Мікалаем паехаў з Улы да маткі. Намер быў

у яго ехаць у Веліжскі павет да сваячкі Жыркевічавай, а адтуль па яе рэкамендацыі адправіцца ў Пецярбург для адшукання сабе месца па стацкай (цывільнай) службе. Свае паказанні Акановіч завяршыў такімі словамі: «Неблагонадежности в нем в отношении политическом я никакой не заметил, что можно было видеть, во-первых, при чтении газет о польских делах, где он очень не одобрял варварских польских поступков, и, во-вторых, почти никуда не отлучался и ни с кем из помещиков не водил дружбы» (згодна з афіцыйнай версіяй, як мы ведаем, паўстанне было справай польскіх памешчыкаў ды ксяндзоў).

Пададзім яшчэ некаторыя з сабраных следчай камісіяй дакументаў, выстраіўшы іх у пэўны лагічна-храналагічны ланцужок. Пісьмо з Улы (з беларускім цвёрдым «р» і мноствам, дзе трэба і не трэба, прапісных літар):

«Ульское Волостное Правление честь имеет донести Вашему Благородию, что Писар Феликс Топчевский принят Мировым Посредником Г-м Реуттом (аднафамілец літаратара. — *Г. К.*) 1861 года 4-го Ноябра (сам Тапчэўскі гаварыў пра лістапад 1862 г. — *Г. К.*) по предписанию от 7 Октябре за № 158 и уволен от занимаемой должности Волостного Писара по предписанию Мирового Посредника 1-го Участка Г. Реутта от 1-го Мая за № 141 в 1863 году, а как видно по бумагам, что он, Топчевский, выбыл прежде данного Предписания, но только неизвестно, куда и по каким причинам».

Паліцэйскі прыстаў 1-й часткі горада Віцебска:

«По забранным справкам оказалось: Топчевский и Камионко прибыли в г. Витебск в Апреле месяце прошлого 1863 года 27-го числа и остановились в «С.-Петербургском трактире», где пробыли два дня и 29 числа того же месяца выбыли из города будто бы в Витебский или Суражский уезд…».

Яшчэ даведка:

«Витебское Уездное Казначейство имеет честь уведомить, что Коллежскому Регистратору Феликсу Топчевскому выдана сим Казначейством подорожная от г. Витебска до г. Велижа 2 мая прошлого 1863 года…».

Ёсць у справе нават падрабязная «Выписка о времени проезда чрез почтовые станции по тракту от Витебска до Велижа Коллежского Регистратора Топчевского по подорожной от 2 Мая 1863 года за № 1557-м»: з Віцебска выехалі 2 мая ў гадзіну дня, а 4-й гадзіне былі ў Суражы, адкуль праз 15 мінут паехалі далей і г. д. Цяпер мы можам дасціпна заўважыць: які гонар сціпламу валасному пісару — ягоны маршрут распісаны па мінутах, як падарожжа якой саноўнай або нават каранаванай асобы. Але тады такая ўвага таіла вялікую небяспеку.



А вось дадатковае тлумачэнне Тапчэўскага ад 21 мая 1863 года наконт няяснасці, што ён рабіў два дні перад атрыманнем падарожнай:

«Съехавши с квартиры второй гильдии купца Зельцера, я 30 Апреля и 1 Мая был в Витебске, но так как я приехал без вещей (рэчы ён перад выездам з Улы пакінуў у валасным праўленні. — *Г. К.*), то расчел оставлять за сабою квартиру излишним. Имея много знакомых в Витебске, я провел время у знакомых, но у каво именно — не упомню, как тому прошло уже более года. В эти два дня я никуда из Витебска не отлучался и ежели бы выезжал, то в то время было бы известно полиции. Коллежский Регистратор *Феликс Феликсов сын Топчевский*».

Усё, здаецца, больш-менш растлумачылася, сяк-так звязалася ў адно цэлае, але ж дата выезду з Улы (24 красавіка — паводле К. Акановіча) не можа не звяртаць на сябе ўвагу. З біяграфіі Арцёма Вярыгі-Дарэўскага вядома, што якраз на 23–24 красавіка намячалася агульнае паўстанне на Віцебшчыне і Магілёўшчыне. Менавіта ў ноч на 24-е паплечнік Каліноўскага Звяждоўскі з дапамогай студэнтаў Земляробчага інстытута захапіў горад Горкі. Да гэтага ж часу адносіцца тайны выхад з Віцебска таварышаў Вярыгі-Дарэўскага, у тым ліку паэта Вуля (Карафы-Корбута). Некаторыя крыніцы называюць больш раннюю дату агульнага выступлення на Віцебшчыне (напрыклад, той жа Карэеў у сваёй брашуры называе 16 красавіка, але, хутчэй, гэта дата адносіцца да паўночных, так званых інфляндскіх, або інфлянцкіх, паветаў губерні). 19 красавіка, як вядома, выступіла Міншчына, тыднем раней Гродзеншчына. Як бы там ні было, але Тапчэўскі пакінуў сталае месца жыхарства і працы якраз у той момант, калі дзясяткі і сотні перадавых людзей Беларусі пакідалі родныя хаты, каб стаць у паўстанцкія шэрагі, папоўніць баявыя атрады паўстанцаў Каліноўскага.

Гэта агульны погляд на сітуацыю. А калі канкрэтызаваць, для нас асабліва важна, што 23 красавіка пачаў збіраць свой атрад па суседстве ў Павуллі Грабніцкі. Ды і першы арышт Мікалая Тапчэўскага недзе ў канцы красавіка або пачатку мая 1863 года (на жаль, дакладнай даты не ведаем) адбыўся якраз у Павуллі. Кемлівы хлопец адгаварыўся тады, што прыехаў па справах сваёй валаснай канцылярыі, і яго даволі хутка адпусцілі.

Цікавыя звесткі аб тагачасных падзеях на Лепельшчыне прывёў некалі Даніла Мінавіч Васілеўскі ў артыкуле «Сялянства Віцебскай і Магілёўскай губерань у паўстанні 1863 года» (Полымя. 1928. № 6). Ён карыстаўся архіўнай справай пад назвай «Наряд[85] № 505 лепельского уездного исправника секретным бумагам с 1861 по 1864 год», якая

[85] Нарад — разнавіднасць канцылярскай справы ў старым справаводстве.

захоўвалася ў той час у Віцебскім акруговым архіве, а потым недзе прапала (мабыць, загінула ў часы Вялікай Айчыннай вайны).

Са зместу справы, пераказанага Васілеўскім, відаць, што яшчэ ў 1862 годзе сяляне знаходзілі на дарогах рэвалюцыйныя брашуры на рускай мове «Что нужно делать войску», «Что нужно делать духовенству». Пад Чашнікамі з'явіліся антыцарысцкія «Песні набожныя», а ў мястэчку Уле (там, як мы помнім, працаваў якраз Тапчэўскі) на беразе рэчкі былі знойдзены нейкія падазроныя кнігі на польскай і замежных мовах. У мястэчку па руках хадзіла «Гутарка старога дзеда». Губернскія ўлады ў страху загадалі адшукаць пашыраны ў Віцебскай губерні маніфест «О совершенной свободе селян с предоставлением им всей земли». З месцаў паступалі паведамленні, што бачаць паненак у касцёлах у зухаватых канфедэратках. У сакавіку 1863 года губернатар папярэджвае спраўніка пра з'яўленне адозвы на рускай мове аб падтрымцы паўстання з пячаткай «Русского Центрального Комитета Земля и Воля». Хадзіла таксама нейкая небяспечная «пісьмовая адозва да сялян, якая заклікае іх паўстаць супраць паноў».

Асаблівай трывогай напоўнены, нават скажам так — перапоўнены, дакументы апошняга тыдня красавіка. Васілеўскі цытуе надзвычай характэрныя данясенні з Ушач, дзе была станавая кватэра III паліцэйскага стана, у Лепель, спраўніку: «24/IV (зноў тая ж дата. — *Г. К.*) у маёнтку Заскорках аказаліся дзве шайкі паўстанцаў. Каля Янава і Бікулініч яны падзяліліся і пайшлі ў лес, адна па дарозе на Ушачы, другая па Полацкай дарозе. Насельніцтва мястэчка і сумежных вёсак у перапудзе, частка пакінула хаты і схавалася, другая частка напагатове ўцякаць. Рабочыя на мосце на рэчцы Ушача кінулі работу і разбегліся па хатах, паром не ходзіць. З прычыны таго, што мяцежнікі напалі на маёнтак Бікулінічы, пана Косава, і забралі коні і быдла, гаспадары павыганялі быдла ў лясы і пахавалі коней. Няма дзе дастаць фурманак для правозу войска, казакі выйшлі на Лепель. Прыстаў моцна захварэў, стан застаўся на справаводзе, але і яго схапіла ўдушша, баляць грудзі, калоціцца сэрца…». Вельмі каларытныя, проста мастацкія дэталі, якія выдатна характарызуюць той час, трывогу розных груп насельніцтва, разгубленасць мясцовых улад.

Гаворачы аб спачуванні паўстанцам пэўнай часткі сельскай інтэлігенцыі, Васілеўскі прыводзіць надзвычай каштоўныя для нас факты са спасылкай на старонку 87 таго ж «наряда» № 505: «Так, каля 10 траўня 1863 года начальнік Віцебскай губерні прапануе лепельскаму земскаму спраўніку зараз жа звольніць з пасады пісара Ульскай воласці Фелікса Тапчэўскага і Краснянскай воласці Мікалая Тапчэўскага за выказанае імі спачуванне паўстанню. Фелікс Тапчэўскі быў вядомы пазней беларускі пісьменнік на Лепельшчыне — «Хвэлька з Руканіц» (так у Васілеўскага. Хутчэй за ўсё, памылка друку. — *Г. К.*). Дарма сялянства, — працягваў Васілеўскі, — выносіла прыгаворы аб звароце на ранейшую пасаду свайго паважанага пісара. Царскі ўрад іх хадайніцтвы не задаволіў». Гэтыя вельмі цікавыя звесткі гавораць пра цесную сувязь маладога Тапчэўскага з сялянствам. Вельмі шкада, што дакументы гэтыя не дайшлі да нас у арыгінале. Але будзем удзячныя Васілеўскаму і за кароткі канспект.

Так што, як бачым, матэрыялы супраць Тапчэўскіх у царскіх улад былі (бацюшка Акановіч, распісваючыся за палітычную добранадзейнасць Тапчэўскага, трэба думаць, узяў-такі на сваю душу немалы грэх). Але асобныя звесткі былі раскіданы па розных справах. Следчыя не здолелі іх звязаць і належным чынам прааналізаваць. Клопатаў ім хапала, бо ўдзельнікаў паўстання, на якіх заводзіліся справы, былі многія сотні і тысячы. Добра трымаліся і самі Тапчэўскія. У жніўні 1864 года следства закончылася. Улады хочаш не хочаш былі вымушаны прызнаць, што паказанні Евы Камёнкі не пацвердзіліся. Накіраваную ў Вільню справу там закрылі з перадачай у генерал-губернатарскі архіў. Але на заметку Фелікса Тапчэўскага, як і яго брата, усё ж узялі. Яго імя значыцца ў «Алфавіце» асоб, датычных да спраў Палітычнага аддзялення канцылярыі віленскага генерал-губернатара. Праз гэты «Алфавіт» я і выйшаў на «Справу пра дваранку Камёнка».

Матэрыялы следства нямала даюць біёграфу Тапчэўскага. Апрача канкрэтных дат, месцаў, імёнаў, гэта адчуванне, што Тапчэўскі ўжо ў тыя часы быў чалавекам досыць сталым, з цікавай біяграфіяй і нават «геаграфіяй» — ён ведае не толькі павятовую Лепельшчыну або Полаччыну, але і губернскі Віцебск і другі край Віцебскай губерні — сумежны з Расіяй. Пэўныя перспектывы адкрывала стрыечная сястра Апалінарыя Жыркевіч (вакол яе могуць быць яшчэ цікавыя ў гэтым сэнсе знаходкі). Тапчэўскі думаў нават з яе рэкамендацыямі ехаць у Пецярбург, каб шукаць там службы. Ці толькі магчымасцю працаўладкавання прыцягваў яго сталічны горад?..

На старонках справы добра вымалёўваецца таксама постаць Вінцэнта Рэута, з якім Тапчэўскі быў, пэўна, знаёмы. Гэтае знаёмства магло быць для Тапчэўскага такім жа плённым, «судьбоносным», паводле моднага цяпер выразу, як і раннія сустрэчы Я. Купалы з У. Самойлам і Ядвігіным Ш. У справе ёсць не толькі паказанні Рэута, але і некаторыя яго асабістыя дакументы, узятыя паліцыяй пры арышце. Некалі я пісаў пра Рэута артыкул у БелСЭ і зазнаў немалыя цяжкасці — не хапала самых элементарных звестак. Цяпер з'явілася магчымасць удакладніць звязаныя з ім даты.

Напрыклад, у атэстаце аб адстаўцы, атрыманым Рэутам у 1834 годзе, калі ён быў яшчэ зусім маладым чалавекам, прастаўлены ўзрост — 24 гады. Тым не менш за яго плячыма немалы стаж і жыццёвы вопыт: з восені 1827 года ён ужо служыў у Віцебскім губернскім праўленні, потым перавёўся ў дваранскую дэпутацкую зборню, жанаты з удавой Францішкай Рэутавай. Хутчэй за ўсё, Вінцэнт Рэут паходзіў з людзей бедных, з юных гадоў быў вымушаны служыць і паправіў сваё становішча выгаднай жаніцьбай. Па звестках іншых дакументаў, у 1842 годзе яму нібыта 28 гадоў. За ім тады ўжо лічыўся някепскі набыты («благоприобретенный») маёнтак Мосар у Полацкім павеце на 233 душы мужчынскага полу. Гэта паставіла яго ў шэраг аўтарытэтных дваран павета. У 1839–1842 гадах ён быў полацкім павятовым маршалкам.

Але напярэдадні паўстання яго афіцыйны твар ужо зусім іншы. Ён, відавочна, зноў збяднеў і выглядае, хутчэй, нейкім прыжывалам у асяроддзі больш самавітых і ўдачлівых сяброў.

Паводле ўласных паказанняў Рэута, яму тады (у 1864 годзе) было 52 гады, і гэта дазваляе ўрэшце лічыць, што нарадзіўся ён прыблізна ў 1812 годзе (разлікі па папярэдніх, прыведзеных вышэй дакументах даюць у адным выпадку 1810-ы, у другім — 1814 год нараджэння, гэта значыць узрост спачатку завышаны, а потым заніжаны). Цэлы год перад паўстаннем Рэут жыў у Вусвіцы ў Сасноўскіх, лячыўся хатнімі сродкамі ад залатушнай хваробы. Наведваў таксама Камёнкаў у Асінаўцы, дзе пазнаёміўся з паненкай Евай. У сярэдзіне красавіка 1863 года (зноў гэтая падазроная дата) выехаў з Вусвіцы нібыта ў Полацк, дзе, паводле паказанняў, быў хворы, не мог нібыта нават надзець ботаў. Наконт здымка, знойдзенага ў Евы, сказаў, што зняўся ў паляўнічым касцюме ў заезджага фатографа, «которого фамилии иностранной не упомню»[86]. Абвінавачванняў не прызнаў. Усё ж падчас следства адкрыўся факт, што ў жніўні 1862 года ён іграў на аргане ў рукшэніцкім касцёле, а прысутныя пад яго акампанемент спявалі патрыятычны гімн. (У справу не трапіла данясенне полацкага архіепіскапа Васілія ў Пецярбург 1861 года: «…у помещика Викентия Реута, по неимению постоянного местожительства вояжирующего не только по разным уездам, но и по губерниям, есть революционные воззвания и стихи профессора (паэта. — *Г. К.*) Михайлова, которыми он наделяет встречного и поперечного…». Дакумент апублікаваны яшчэ ў 1964 годзе ў зборніку «Революционный подъем в Литве и Белоруссии…». Цяпер адпалі ўсе сумненні: гаворка ідзе пра «нашага» Рэута.)

[86] Дарэчы, гэты здымак мне сустрэўся раней у адным з альбомаў, што захоўваецца ў вільнюскім гістарычным архіве. Тамсама фота Евы Камёнкі. Светлая сукенка ў цёмную палоску з шырачэзнай па тагачаснай модзе да зямлі спадніцай, дробныя, нязначныя рысы твару. Дзіўная ўсё-такі (такое ўражанне, што крыху «чокнутая») гэтая паненка. Тапчэўскіх ведала (павінна была ведаць) з дзяцінства, а вось жа без бачнай патрэбы падвяла пад астрог, змусіла пакаштаваць каталажкі.



Пры завяршэнні справы спачатку меркавалася выслаць Рэута з краю, потым ішла перапіска пра штраф, але высветлілася, што 200 рублёў штрафу яму па беднасці заплаціць не пад сілу. Урэшце, аддалі яго пад нагляд паліцыі, які быў зняты ў 1869 годзе.

Вось такой, надзвычай «літаратурнай», калі тут падыходзіць гэтае слова, аказалася «Справа пра дваранку Камёнку». Апрача пісьменнікаў Тапчэўскага і Рэута ў ёй ёсць яшчэ адно імя, цікавае з гэтага погляду. Пад першымі пратаколамі стаіць подпіс «Сапраўдны стацкі саветнік Старажэнка». Трэба думаць, што гэта ўкраінскі пісьменнік Аляксей Пятровіч Старажэнка, які служыў якраз у той час ва ўпраўленні так званага Паўночна-Заходняга краю (потым жыў пад Брэстам, там і пахаваны; дарэчы, адно з яго апавяданняў ужо ў 1887 годзе перакладзена на беларускую мову).

Магчыма, меў схільнасць да літаратуры і даўні сябар Тапчэўскага Адольф Камёнка, з якім ён ездзіў у Красны Стаў. У кожным разе вядома, што ў 1862 годзе нейкі дваранін Камёнка з Лепельшчыны (імя, на жаль, не называецца) падазраваўся ў напісанні «стихов на польском языке о вооружении к восстанию» (той жа зборнік «Революционный подъем…»).

А яшчэ мільганула ў дакументах добра вядомае нам па ранейшых гісторыка-літаратурных даследаваннях прозвішча Дышлеўскіх (помніце, у Кацярыны Дышлеўскай нібыта некалі быў аўтограф «Энеіды навыварат»). Дык вось у Сасноўскіх у Вусвіцы быў лоўчы — француз Лепрэтр, які вытаргаваў у Вышадках у Дышлеўскіх за паўсотні рублёў сабе сяброўку жыцця Алену Харытонаву і меў ад яе сына. Такія былі тагачасныя рэаліі…

У нас ёсць яшчэ адна нагода вярнуцца непасрэдна да Тапчэўскага. Такую магчымасць дае не пазбаўленая цікавасці справа канцылярыі віцебскага губернатара «Об отдаче в аренду коллежским советником Лилье имения Будище дворянину Топчевскому р[имско]-католического вероисповедования», выяўленая ў мінскім гістарычным архіве (Ф. 1430. Воп. 1. Спр. 39192).

Справа адносіцца да зусім іншага часу. Пасля паўстання Каліноўскага прайшло больш за два дзясяткі гадоў. Улетку 1887 года губернатар атрымаў звесткі (на жаль, яны засталіся нераскрытыя), што той пазначаны ў загалоўку папкі саветнік Мікалай Лільe аддаў у арэнду свой маёнтак Феліксу Тапчэўскаму. А трэба ведаць, што згодна з правіламі, уведзенымі яшчэ Мураўёвым-вешальнікам, асобам каталіцкага вызнання

(у тадышнім разуменні — палякам) было забаронена купляць і нават арандаваць маёнткі ў «заходніх» губернях, гэта значыць у Беларусі, Літве і значнай частцы Украіны.

Полацкі спраўнік атрымлівае даручэнне падрабязна расследаваць гэтую справу — як, што і чаму. Высветлілася, па-першае, што размова ідзе не пра які там важны маёнтак, а пра невялікі фальварак, хутчэй, нават звычайны хутар, усяго на 22 дзесяціны. Належаў ён некалі дваранцы Канстанцыі Ігнатаўне Тапчэўскай, па мужу Шантыр, а ў 1875 годзе быў прададзены з таргоў за даўгі. Ацэнены фальварачак усяго толькі на 283 рублі. Набыў яго ўжо згаданы Лільe, які ў 1884 годзе памёр. Цяпер зямлёю валодае яго ўдава Марыя Лільe. Жылы дом і іншыя пабудовы належаць арандатару, калежскаму сакратару Станіславу Леапольдавічу Падарэўскаму, які заключыў у 1878 годзе дагавор на дзесяцігадовую арэнду Будзішча. Фелікс Тапчэўскі арандатарам не з'яўляецца, «а лишь фольварок этот, — гаварылася ў дакуменце, — ранее принадлежал родственнику этого Топчевского Петру Топчевскому». А вось арандатар Падарэўскі (няма дыму без агню) — сапраўды асоба каталіцкага вызнання, балазе, што дагавор на арэнду ў яго заканчваецца. На пачатку 1889 года спраўнік данёс дадаткова, што Будзішча ўжо год як не арандуецца Падарэўскім і «что землю эту предполагают уже оставить под лесную заросль». Вось і ўсе акалічнасці справы.

Звесткі пра гэты хутар знаходзім і ў згаданай кнізе «Землевладение и землевладельцы… в 1905 году». Там пазначана: «Подеревский Бронислав Станис-ч, быв. малолетних Лилье», уласнасць «Будище», 22 дзесяціны (у тым ліку 2 дзесяціны лесу і 4 непрыдатнай). Можа, наш паэт сапраўды і прыглядаўся да гэтага кавалка зямлі, які належаў некалі ягоным сваякам.

У хітрасплячэннях сваяцкіх сувязей нялёгка разабрацца. А ці не патрывожыць нам зноў шляхецкі радавод?

Мяркуючы па матэрыялах Віцебскай дваранскай дэпутацкай зборні (ЦДГА ў Мінску. Ф. 2512. Воп. 1. Спр. 51), усе Тапчэўскія належалі да аднаго кораня. У 1804 годзе ў зборні разглядаліся доказы Тапчэўскіх на дваранства, з якіх вынікае, што яны паходзілі з беларуска-польскага сумежжа, з Падляшша. Там непадалёк ад горада Вельска ёсць вёска Топчава, адкуль і пайшлі Тапчэўскія. Двое з іх, браты Тамаш і Мацей, у другой палове XVIII стагоддзя апынуліся нейкім чынам на паўночным усходзе Беларусі, у Полацкім ваяводстве. Тамаш пасля далучэння гэтага краю да Расіі быў полацкім каморнікам, арандаваў маёнтак Цётча, дарэчы, непадалёк ад Рукшэніц. Ён ажаніўся з Бальбінай Бутавічанкай і меў ад гэтага шчаслівага шлюбу чатырох сыноў: Антона, Ігната, Фелікса і Яна, і столькі ж дачок: Барбару, Петранэлю, Францішку і Тэклю. У Мацея, жанатага з Юсцінай Баброўскай, былі сыны Станіслаў, Эльяш і Юзаф і дачка Петранэля. Згаданы Фелікс Тамашавіч — мабыць, бацька нашага паэта. У такім выпадку Пётр і Канстанцыя Ігнатавічы, што не здолелі ўтрымаць у сваіх руках хутар (частку маёнтка?) Будзішча, — стрыечныя брат і сястра «Хвэлькі з Рукшэніц». Тапчэўскія карысталіся старажытным шляхецкім гербам «Слепаврон»: на блакітным геральдычным шчыце белая падкова, крыж і чорны крумкач. Бог ведае, што зашыфравана ў гэтых загадкавых шляхецкіх кляйнотах?.. Відаць, як і ў Скарынавым сігнеце, адвечнае спалучэнне святла і ценю, долі і нядолі, якіх хапае ў жыцці кожнай сям'і і кожнага чалавека…

Пад канец жыцця Ф. Тапчэўскі быў упраўляючым маёнтка Вухвішча. Тут напісаны яго галоўныя творы, у некаторых адлюстраваны мясцовыя падзеі. Напрыклад, да верша «Вечарынка» ёсць каментарый: «Апісанне балю, адбытага ў Вухвішчы. Паніч — барон Эрдман; пан у акулярах — Шырын». Таму нам трэба як мага болей ведаць пра гэтую мясціну, пра яе рэаліі.

Польскі «Слоўнік геаграфічны» якраз у год смерці Тапчэўскага паведаміў: «*Вухвішча* — маёнтак над возерам, Лепельскі павет (сёння Полацкі раён. — *Г. К.*), каталіцкая парафія Селішча, 804 дзесяціны дворскай зямлі. Уласнасць спачатку Кубліцкіх, потым Аркадзя Любінскага, які пабудаваў тут філіяльны касцёл у гатычным стылі. Цяпер [1892] уласнасць спадчыннікаў Любінскага Адэлі Селявіны і Мікульскіх».

Гэты згаданы ў слоўнікавай даведцы філіяльны касцёл, па дакументах — капліца, прынёс царскім уладам шмат клопатаў.

Раскажам коратка гэтую гісторыю, як яна малюецца паводле дакументаў вільнюскага і мінскага гістарычных архіваў[87].

У 1864 годзе багаты памешчык Аркадзь Мацвеевіч Любенскі (напісанне дакументаў), карыстаючыся ранейшым дазволам, завяршыў пабудову ў Вухвішчы прыгожай капліцы над фамільным склепам. Але вельмі хутка мураўёўскія ўлады спахапіліся і забаранілі праводзіць тут богаслужэнне. У Любенскага былі нават буйныя непрыемнасці, нейкі час яго трымалі пад арыштам у Лепелі. Толькі ў 1881 годзе Любенскі, ужо стары і разбіты паралічом стацкі саветнік, усё-такі атрымаў дазвол весці тут службы з умовай, што гэта будзе рабіцца без вялікага шуму і не часцей аднаго разу ў месяц.

Неўзабаве ўладальнік Вухвішчаў памёр. Сваякам было дазволена адслужыць толькі адну жалобную літургію і капліцу закрыць.

Спадчынніца, сястра Любенскага, Адэль Мацвееўна Сялява з 1883 года павяла энергічнае змаганне, каб адчыніць капліцу зноў. Робяцца

[87] ДГА Літвы. Ф. 378. Агульн. аддз. 1864 г. Спр. 1509; ЦДГА ў Мінску. Ф. 1430. Воп. 1. Спр. 34502, 37040, 39624.

самыя розныя хітрамудрыя захады, пішуцца шматлікія прашэнні ў Пецярбург і Віцебск. Спачатку Сялява спасылалася на свой састарэлы ўзрост. Мясцовы спраўнік на запытанне губернатара данёс, што ёй усяго каля 55 гадоў. Як памёр яе брат, яна жыве то ва ўласным маёнтку Люцкі Чарсвяцкай воласці, то ў Вухвішчы Бабініцкай. Здароўя яна не слабога і часта без шкоды для сябе робіць гэты канец з маёнтка ў маёнтак амаль на 25 вёрстаў. Дык пры патрэбе можа з'ездзіць, меркаваў спраўнік, і ў парафіяльны касцёл за 6 вёрстаў ад Вухвішча.

На гэтым і пагадзіліся.

Праз пяць гадоў перапіска ўсчалася зноў. 9 сакавіка 1888 года новы спраўнік данёс: «…просительница Селляво постоянно проживает в имении своего покойного брата "Ухвище", от коего ближайший приходской костел "Загатье" находится в расстоянии шести верст, а другой "Селище" — в 10–12 верстах. Госпоже Селляво в настоящее время от роду свыше шестидесяти лет, но при этих почтенных годах не слышно было, чтобы она жаловалась на неудовлетворительное состояние своего здоровья или чтобы оно препятствовало ей совершать переезды и на более дальнее расстояние, чем два упомянутых выше костела…» Да таго ж свяшчэннік бліжэйшай бабініцкай праваслаўнай царквы Іваноўскі пад уплывам жыццёвых нягодаў (цяжкая хвароба жонкі) запіў, «прихожане охладели к своему духовному отцу и вместе с тем и к местному храму» і зачасцілі ў касцёлы. У канцы дакумента спраўнік даволі тонка падпусціў туману: «Фактов, компрометирующих политическую благонадежность г-жи Селляво, привести не могу, но Ваше сиятельство, зная неустойчивость еще религиозных верований крестьян православных приходов Лепельского уезда (паўстагоддзя назад яны далучаны з уніі. — *Г. К.*) и присущий фанатизм личностям, из национальности коих происходит и г-жа Селляво, в особенности в том возрасте, в коем она находится…» Адмоўна выказаўся з гэтай нагоды і праваслаўны ўладыка Маркел.

У 1890 годзе ўлады дазволілі Сяляве перанесці ў вухвішчанскую капліцу рэшткі бацькоў і сваякоў, пахаваных у розныя часы на Сушанскіх могілках Селішчанскай парафіі за тры вярсты ад Вухвішча. У сувязі з пераносам дазволена і аднаразовая літургія з удзелам ксяндзоў з Селішча і Загацця без «зборышча народа».

Гэта стварыла небяспечны для ўлад прэцэдэнт. Сыплюцца ўсё новыя і новыя прашэнні.

Вельмі магчыма, нейкі ўдзел ва ўсёй гэтай энергічнай дзейнасці Сялявы прымаў і яе ўпраўляючы Тапчэўскі, хоць у дакументах ён нідзе прама не называецца. Трэба думаць, памешчыцы якраз быў патрэбны



памочнік з лёгкім пяром і фантазіяй. І да таго ж чалавек, які мог бы годна прыняць і заняць шматлікіх гасцей.

Традыцыі гасцінных «вечарынак» працягваліся ў Вухвішчы і на пачатку XX стагоддзя, калі ні Тапчэўскага, ні Сялявы ўжо не было ў жывых. Маёнтак належаў тады Івашэўскім. У 1903 годзе памочнік начальніка Віцебскага губернскага жандарскага ўпраўлення даносіў, што ў маёнтку Вухвішча 4-га стана Лепельскага павета Антона і Леанціны Івашэўскіх «очень часто бывают большие собрания помещиков-поляков с их семействами Лепельского же уезда и Дисненского, Борисовского и Сенненского уездов Виленской, Могилевской и Минской губерний.

Собрания эти достигают иногда 200 человек, преимущественно молодежи, и носят характер танцевальных вечеров и спектаклей, причем последние даются на польском языке, без всякого ведома и разрешения чинов местной полиции. Сцена устроена постоянно на току. 26 минувшего июля на этой сцене был дан один из спектаклей на польском языке, в котором принимали участие помещики: Лепельского уезда им. Хотовичи Густав Корсак, им. Тадулино Сипайло, им. Софиевка Игнатий Ширин, Игнатий Любимский и другие лица…» (Спр. 45877). Ну як тут не ўспомніць радкі Тапчэўскага:

Каб ты ведаў, брат-кумішча,
Што ўчора відзеў я;
У паноў было ігрышча, —
Да якое ж — ай-я-я!

Вось нават і пан Шырын зноў завітаў у Вухвішча, як у часы Тапчэўскага…

Думаецца, што гэтая невялікая жменька архіўных дакументаў і фактаў паможа пабудове дакументаванай біяграфіі таленавітага беларускага паэта-дэмакрата, сучасніка Ф. Багушэвіча, Я. Лучыны і А. Абуховіча. Чалавека, які зрабіў значны, адметны ўклад у развіццё роднай літаратуры, у станаўленне яе сатырычна-гумарыстычных жанраў.

# «ПАСЛУХАЙЦЕ, БРАТКІ, НАВУМА СТАРОГА!..»

Нашу культуру, нацыю, гісторыю нельга ўявіць без беларускіх асветнікаў — Яна Чачота, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Уладзіслава Сыракомлі, а пазней — Янкі Купалы, Якуба Коласа…

*В. Адамчык*

Той жнівеньскі дзень Дунін-Марцінкевіч мог са спакойнай душой палічыць удалым. Ён перапісаў набела толькі што скончанае вершаванае апавяданне «Халімон на каранацыі», апошні раз абмакнуў пяро ў добрае арэшкавае чарніла і, крыху счакаўшы, з прыемнасцю паставіў пад тэкстам дату і назву любага роднага горада: «Жніўня 20-га дня 1857 года. Мінск». Гэтым самым былі завершаны «Быліцы, расказы Навума», яго новы беларускі твор або, хутчэй, нават цыкл.

Як і кожны пісьменнік, Марцінкевіч любіў гэтае адчуванне сцішанасці пасля заканчэння твора. Уласна якраз гэтая лёгкасць, якая прыходзіла ў канцы доўгай працы, і сведчыла, што твор завершаны. Хоць заўсёды была і трывога — ці атрымалася? Уяўляем, з якім пачуццём, пасля таго як была пастаўлена апошняя кропка, перагарнуў ён яшчэ раз свой сшытак, углядаючыся ў роўныя слупкі радкоў.

Увесь досыць вялікі твор складаўся з дзвюх частак. У першай расказвалася няхітрая, але па-свойму цікавая гісторыя селяніна Тодара Калеткі — колькі пакутаў давялося яму выцерпець ад няўдалай жаніцьбы са свавольнай і распуснай Ульянай. Вось ужо сапраўды —

Добра жонка — дома рай!
Злая — з хаты цягу дай!

Гэтыя словы ён якраз вынес у эпіграф, падкрэсліўшы тым самым асноўную ідэю твора.

Асабліва задаволены быў Марцінкевіч самым пачаткам «Былiц…», дзе яму пашчасціла трапна зачапіць заморскія звычаі і пахваліць свой родны край за мужыцкае добрае сэрца і цярплівасць, за светлыя фарбы беларускай прыроды:



Ой, нямаш зямелькі, як Беларусь радзона!
На лугах дыванам сцелецца зялёна
Травіца па пояс, кветкамі міргае!
А лес, вось тычынка, неба падпірае!
Мужык хоць убогі, — як вол працавіты!
Гаруючы цяжка, рэдка калі сыты;
Зато ў позну восень, як з ніўкаю зладзіць
Дый святой нядзелькай на куце засядзіць,
Яго ж маладзіца, Домна чы Усціння,
Спражыць верашчакі, наварыць бацвіння, —
Хоць хлябок чарненькі, часам і з карою,
Вясёл пажывае з сваяшнай раднёю.

Запаветныя словы любові і сыноўняй адданасці, словы лучнасці з зямлёй, якая яго нарадзіла.

Але найбольш не адпускала пісьменніка другая частка — «Халімон на каранацыі», аповед пра паездку гарадзецкага старшыны Халімона Забалотнага ў Маскву на нядаўнюю каранацыю гасудара ўсяе Вялікія, Малыя і Белыя Русі Аляксандра II. Тут увішнаму пяру Навума Прыгаворкі добра-такі ўдалося схапіць натуру. Марцінкевіч нібы яшчэ раз пабываў з Забалотным у старажытнай рускай сталіцы, якую (адкуль?) някепска ведаў. Зноў з усімі дэталямі ўспомнілася яму дарога — багаты Смаленск («Там станцыя пачтавая — / Дзіва, браткі! люстравая! / Золатам блішчыць снарад»), Барадзіно са святымі магіламі 1812 года, Вязьма з абавязковымі пернікамі і сама Масква, «сэрца рускай зямелькі, благачасцівай сямейкі», яе святочнае ўбранне, сталічныя дзівосы, усе падрабязнасці каранацыйных урачыстасцей. Пісьменніку, здаецца, удалося перадаць дапытлівасць, таварыскасць, сумленнасць і высакароднасць свайго героя — Забалотнага, простага мужыка з Магілёўшчыны, які зусім не зганіў сябе ў квяцістым натоўпе шматплямённых гасцей сталіцы. Было перададзена і яго расчараванне: ніяк не выпала Халімону сустрэцца, пагаварыць з царом, каб расказаць гасудару пра патрэбы беларускага народа. Прычым падавалася гэта так тонка і далікатна, што Марцінкевіч спадзяваўся: цэнзар Павел Кукальнік — свой чалавек сярод літаратараў — прапусціць, не будзе асабліва чапляцца…

Адразу ж папярэдзім — «Былiцы, расказы Навума» пры жыцці Дуніна-Марцінкевіча не друкаваліся. Аб прычынах мы скажам ніжэй, а пакуль адзначым, што пра само існаванне гэтага твора доўгі час было вядома толькі з артыкула прыяцеля Дуніна-Марцінкевіча літаратара Адама Плуга «Некалькі ўражанняў з падарожжа па Літве» («Ліст да Фелікса Пяткевіча»), апублікаванага ў 1858 годзе ў варшаўскай газеце «Кроніка вядомасці краёвых і заграгічных».

Плуг пісаў там пра творчасць беларускага пісьменніка: «У сваіх творах, якія выйшлі да гэтага часу, малюючы то гулянку ў карчме, то традыцыйныя ўрачыстасці, як купалле, дажынкі і г. д., аўтар, мне думаецца, больш клапоціцца аб сваіх адукаваных чытачах, чым аб простых людзях, і для іх, а не для народа народ паказвае. Няма сумнення, што ў далейшым Марцінкевіч знойдзе сапраўдную дарогу, і тады яго кніжачкі пойдуць да літоўскіх (беларускіх. — *Г. К.*) сялян, пачнуць уплываць на народныя звычаі; пацвярджэнне маіх надзей бачу ў апошнім лісце аўтара да мяне, дзе ён піша, што падрыхтаваў да друку "Быліцы, расказы Навума", з якіх адна называецца "Злая жонка", дзе паказваецца, што злая жонка — гэта бяда нават для лепшага селяніна»[88].

Вось і ўсё пра «Быліцы…».

Як бачым, папрокі Плуга калі і слушныя, то толькі часткова, прынамсі, яны не ўлічвалі сітуацыі, у якой даводзілася працаваць пісьменніку, разам з тым цікава, што Плуг глядзеў на новы твор Дуніна-Марцінкевіча як на этапную з'яву.

Аднак у друку, як ужо гаварылася, «Быліцы…» тады так і не з'явіліся. Доўгі час пасля нарыса Плуга пра іх наогул не было ніякіх звестак. Польскі славіст Юзаф Галомбак, скрупулёзны даследчык, аўтар першай грунтоўнай манаграфіі пра Дуніна-Марцінкевіча (1932), якая не страціла свайго значэння да нашых дзён, мог толькі спаслацца на згаданае сведчанне Плуга, заўважыўшы са шкадаваннем: «Апрача гэтай нататкі, аб гэтым зборнічку нічога невядома»[89].

І ўсё-такі на гэты раз жыццё пацвердзіла справядлівасць старадаўняга мудрага выслоўя: «Напісанае застаецца». Твор не загінуў, хоць перыпетыі яго лёсу надзвычай своеасаблівыя.

Адразу пасля Вялікай Айчыннай вайны ў беларускім друку з'явіліся дзве цікавыя і досыць важныя для гісторыкаў літаратуры публікацыі. У апошнім нумары часопіса «Беларусь» за 1945 год публікуецца невядомая беларуская вершаваная аповесць Дуніна-Марцінкевіча «Травіца брат-сястрыца», а ў «Полымі» ў наступным годзе друкуюцца тэксты «Быліц, расказаў Навума» (у тым ліку і «Халімон на каранацыі», які быў пададзены, а зрэшты, і да самага апошняга часу падаваўся як асобны твор).

Публікатар у абодвух выпадках адзін і той жа — беларускі літаратуразнавец Л. А. Бэндэ, які жыў у той час у Ленінградзе. Той самы Лука Апанасавіч Бэндэ, які ў 30-я гады пакінуў пасля сябе сумную

[88] Цыт па кн.: Александровіч С. Х., Александровіч В. С. Беларуская літаратура XIX — пачатку XX ст.: хрэстаматыя крытычных матэрыялаў. Мінск, 1978. С. 72.

[89] Gołąbek J. Wincenty Dunin-Marcinkiewicz, poeta polsko-białoruski. Wilno, 1932. S. 41.



памяць у Беларусі як крытык вульгарна-сацыялагічнага кірунку, які вышукваў ідэйныя хібы і памылкі ў жывых і мёртвых літаратараў і залічаў у рэакцыянеры буйнейшых беларускіх пісьменнікаў XIX стагоддзя, у тым ліку Дуніна-Марцінкевіча.

«Пладавіты беларускі памешчыцкі пісьменнік-рэакцыянер Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч (тады пісалі: Марцынкевіч. — *Г. К.*) нарадзіўся ў фальварку Панюшкевічы…» — так без хітрыкаў пачынаў у 1935 годзе Лука Бэндэ адзін са сваіх артыкулаў[90]. У артыкуле з вялікай страснасцю і пераканананасцю даводзілася ні больш ні менш, што «творчасць Дуніна-Марцінкевіча ад першага да апошняга радка прыгонніцкая па сваім змесце», што толькі нядобрасумленныя людзі і ворагі народа могуць думаць інакш.

Так было.

І калі Л. Бэндэ выступіў цяпер з публікацыяй новых твораў Дуніна-Марцінкевіча, гэта сведчыла пра тое, што апошнія гады не прайшлі бясследна і для яго.

Але найперш нас цікавіць цяпер пытанне: на падставе якіх крыніц зрабіў Бэндэ свае публікацыі.

Ва ўступных нататках публікатар пісаў даволі расплывіста: «У свой час з гэтай аповесці Дуніна-Марцінкевіча ("Травіца брат-сястрыца". — *Г. К.*), як і з другіх яго рукапісаў, быў зроблен спіс кірыліцай, які і захаваўся ў нас да гэтага часу. Самыя рукапісы Дуніна-Марцінкевіча да вайны захоўваліся ў Інстытуце літаратуры Акадэміі навук БССР і, мабыць, загінулі» (Беларусь. 1945. № 11–12. С. 20).

«У 1929 годзе з лацінскага пісьма гэтых твораў Дуніна-Марцінкевіча была зроблена копія кірыліцай, якая знаходзіцца ў нас. Некалькі аркушаў рукапіснай копіі "Быліц…" згублена намі ў часы блакады Ленінграда. Рэшту друкуем па сучаснай арфаграфіі» (Полымя. 1946. № 8–9. С. 93).

Разам з тым ва ўступных нататках рабілася даволі падрабязнае апісанне арыгіналаў Дуніна-Марцінкевіча, называлася колькасць лістоў у арыгіналах, прыводзіліся ўсе надпісы (цэнзарскія і іншыя), якія на іх былі, і г. д. Было няясна — адкуль усё гэта. Як быццам штосьці недагаворвалася.

З удзелам Бэндэ была таксама здзейснена публікацыя гэтых тэкстаў Дуніна-Марцінкевіча ў Зборы твораў пісьменніка 1958 года. У заўвагах да Збору твораў адносна тэкстаў гэтых аповесцей сказана: «З арыгіналам зверыў Л. Бэндэ».

Такім чынам, выходзіла, што публікацыі 1945–1946 гадоў рабіліся па копіях, а ў Зборы твораў чамусьці размова ішла ўжо аб арыгіналах.

[90] Бэндэ Л. Аб літаратуры XIX века: Артыкул другі. Вінцэнт Дунін-Марцынкевіч (1807–1884) // Полымя. 1935. № 5.

Відавочная супярэчнасць. Тут была нейкая загадка, як загадкавая была ў многім і ўся дзейнасць Лукі Бэндэ.

Не ўнесла яснасці і гутарка з Антанінай Феліксаўнай Харкевіч, укладальніцай Збору твораў 1958 года. Яна пра крыніцы нічога дадаць не змагла, таму што з Бэндэ дамаўлялася непасрэдна само выдавецтва.

Неабходна было звярнуцца да матэрыялаў асабістага архіва Бэндэ, які ў 1963 годзе, пасля смерці літаратуразнаўцы (1961), быў перавезены з Ленінграда ў Мінск і захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва Беларусі.

Наш Літаратурны архіў, або архіў-музей, месціўся тады ў так званай Жоўтай царкве на Нямізе. Дакументальныя фонды архіва даволі багатыя і няспынна папаўняюцца.

Архіўны фонд Л. А. Бэндэ, улічаны тут за № 66, адзін з самых змястоўных і цікавых. Аказалася, што Бэндэ — нельга гэтага не прызнаць — сабраў вельмі каштоўныя матэрыялы (іншая справа — якім спосабам гэта рабілася). У прыватнасці, да яго трапіла частка асабістага архіва слыннага дзеяча беларускай культуры Браніслава Ігнатавіча Эпімах-Шыпілы, які таксама жыў у Ленінградзе. Сярод матэрыялаў Бэндэ можна бачыць, напрыклад, славутую «Хрэстаматыю» Эпімах-Шыпілы, якая данесла да нас многія беларускія паэтычныя творы XIX стагоддзя. А вось другая нацыянальная каштоўнасць — зробленая ў свой час Эпімах-Шыпілам копія «Залётаў» Дуніна-Марцінкевіча. Паколькі арыгінал да нас не дайшоў, гэта цяпер галоўная першакрыніца тэксту выдатнай камедыі, фігуральна кажучы, залатое яе забеспячэнне.

У архіве Бэндэ знайшлося шмат матэрыялаў, звязаных з «Быліцамі…» і «Травіцай…». Прычым матэрыялаў самых нечаканых. Найперш гэта старонкі артыкула вядомага беларускага літаратуразнаўцы акадэміка Івана Іванавіча Замоціна «Аб новых рукапісах В. Дуніна-Марцінкевіча» (адзінка захавання № 1048). Выдатны вучоны вельмі падрабязна апісаў рукапісы «Травіцы…» і «Быліцы…», якія паступілі на кафедру гісторыі беларускай літаратуры нашай Акадэміі навук у канцы 20-х гадоў. Стала ясна, што менавіта адсюль Бэндэ ўзяў звесткі для ўводных нататак сваіх публікацый. Дакладней, нават не звесткі — фактычна Бэндэ падаў цэлыя кавалкі з артыкула Замоціна без двукоссяў і ўказання крыніцы.

Пасля апісання ў артыкуле Замоціна ішла публікацыя саміх твораў пад назвай «Тэкст новых рукапісаў В. Дуніна-Марцінкевіча». Праўда, тэкстаў гэтых усяго дзве старонкі — самы пачатак «Быліц…».

Што найбольш уражвала і прымушала задумацца — на рабочым стале перад намі ляжалі не рукапісныя і не машынапісныя старонкі з замоцінскім артыкулам, а друкарскія. Так, 16 друкарскіх старонак даволі буйнога фармату, з друкарскай жа пагінацыяй ад 81 да 96 старонкі. Якраз друкаваны аркуш.

Такім чынам, перад намі быў фрагмент нейкай кнігі. Мяркуючы па друкарскай паметцы петытам унізе адной са старонак (у паліграфістаў такія паметкі чамусьці называюцца «нормай»): «Працы к-ры гіст. бел. літ-ры, т. I» — гэта першы том «Прац кафедры гісторыі беларускай літаратуры».

Дык, значыць, публікацыя Бэндэ не была першай? Выходзіць, тэксты Дуніна-Марцінкевіча апублікаваў раней акадэмік Замоцін?..

Трэба пайсці ў бібліятэку, заказаць там «Працы кафедры…», том I, і ўсё праясніцца.

І вось каторы дзень шукаем кнігу з падобнай назвай у галоўных навуковых бібліятэках Мінска — Ленінскай, акадэмічнай, — старанна перабіраем карткі каталогаў. Дарэмна. Не згадвае яе і «Летапіс друку БССР», які бясстрасна і няўхільна год за годам фіксуе ўсе выданні, што выходзяць у рэспубліцы. Насцярожвае і тое, што артыкул Замоціна аб рукапісах Дуніна-Марцінкевіча абсалютна невядомы літаратуразнаўцам.

Але ж старонкі кнігі ў архіве — таксама рэалія. Яны, так сказаць, матэрыялізаваныя, іх можна патрымаць у руках…

Звяртаемся ў архіў АН Беларусі.

Даваенных дакументаў там, на жаль, вельмі мала. З матэрыялаў кафедры гісторыі беларускай літаратуры, ператворанай у 1931 годзе ў Інстытут літаратуры, мне змаглі прапанаваць усяго адну толькі справу — пратаколы за 1929 год.

Час знамянальны. «Год вялікага пералому», калі шмат чаго было паламана, шмат што абарвалася. А як, здаецца, усё добра ішло. Якраз напярэдадні, у канцы 1928 года, Мінск наведаў Анатоль Васілевіч Луначарскі, які сустракаўся з Замоціным і ўхваліў дзейнасць беларускіх вучоных. Гэта натхняла. Дакументы акадэмічнага архіва раскрываюць плённую працу вельмі невялікага згуртаванага калектыву літаратуразнаўцаў (сярод іх А. Барычэўскі, В. Мачульскі, М. Піятуховіч), які ўзначальваўся Замоціным. Толькі што быў выдадзены, і на вельмі высокім узроўні, двухтомнік «Твораў» Максіма Багдановіча. На чарзе стаялі падрыхтоўка і выданне біябібліяграфічнага слоўніка беларускіх пісьменнікаў (здзяйсняецца толькі ў наш час).

Знаходзім у справе і звесткі аб падрыхтоўцы зборніка кафедры. Ужо ў пратаколе ад 18 красавіка 1929 года гаворыцца аб рэкамендацыі для змяшчэння ў зборніку артыкулаў Піятуховіча «Творчасць Ц. Гартнага» і Мачульскага «Беларуская інтэрмедыя ў школьнай драме». На пачатку кастрычніка разглядаўся прысланы з Оршы матэрыял Д. Васілеўскага «Ян Баршчэўскі ў яго перапісцы з Ю. Шапялевіч».

18 кастрычніка зацвярджаўся план на бягучы год (акадэмічны год тады пачынаўся з верасня). На зборнік кафедры было адведзена 15 друкаваных аркушаў.

Праз тры дні разглядаецца план зборніка:

«Слухалі: Склад зборніка кафедры.

Пастанавілі: У зборніку маецца на мэце надрукаваць наступныя артыкулы:

1. Фрычэ. Артыкул аб яго літаратурных працах (Барычэўскі).
2. Літаратуразнаўства і марксізм (Вальфсон).
3. П. Трус (Чаржынскі).
4. Творчасць Рыпінскага (Піятуховіч).
5. Палуян (Мачульскі).
6. Літаратурная спадчына Петрашкевіча (Замоцін).
7. Аб новых рукапісах Дуніна-Марцінкевіча (Замоцін).
8. Інтэрмедыі (Мачульскі).

9–10. Артыкулы аспірантаў.

11. А. І. Барычэўскі: Параўнанне як стылістычны прыём».

У далейшым склад зборніка ўдакладняецца. У пратаколе ад 6 снежня згадваецца даклад Піятуховіча «Пляханаў і вывучэнне фальклору», які і вырашана было, у рэшце рэшт, уключыць у зборнік замест запланаванага раней артыкула «Творчасць Рыпінскага». Яўная спроба хоць нейкім чынам актуалізаваць, выратаваць каштоўнае выданне.

На гэтым пратаколы кафедры абрываюцца.

Працяг — у літаратурным архіве.

Як паказваюць матэрыялы Бэндэ, зборнік кафедры быў ужо, прынамсі, часткова, набраны (відаць, у 1930 годзе), але ў свет так і не выйшаў.

Апрача артыкула Замоціна ў архіве Бэндэ захаваўся яшчэ пачатак кнігі (с. 1–48) з артыкуламі Піятуховіча «Пляханаў і вывучэнне фальклору» і Барычэўскага «Параўнанне ў мастацкай літаратуры» (адз. зах. № 1052 і 1045).

Перад намі сляды цікавай няздзейсненай выдавецкай задумы.

Вернемся да твораў Дуніна-Марцінкевіча. Мы ўжо сказалі, што ў друкаваным фрагменце артыкула Замоціна толькі пачатак тэкстаў Беларускага дудара.

На шчасце, у фондзе Бэндэ, як удалося вызначыць, захаваўся амаль увесь наборны рукапіс Замоціна з тэкстамі Дуніна-Марцінкевіча. (Тады набор яшчэ дазвалялася рабіць па рукапісе ў поўным сэнсе гэтага слова, а не па машынапісе, як цяпер.) Праўда, у літаратурным архіве часткі некалі адзінага рукапісу («Быліцы…», «Халімон на каранацыі», «Травіца брат-сястрыца») аказаліся ў розных адзінках захавання (№ 1284, 1286 і 1285). Аднак за тое, што раней гэта быў адзіны рукапіс, гаворыць і аднолькавы знешні выгляд матэрыялаў, і скразная нумарацыя старонак (з 11 да 108, пачатковых лістоў няма).

Тэкст напісаны ад рукі на адным баку ліста буйным выразным почыркам сіне-фіялетавым чарнілам (асобныя старонкі чорным чарнілам іншай рукой). Чырвоным чарнілам зроблены некаторыя праўкі. Рукапіс дае добрае ўяўленне пра арыгінал Дуніна-Марцінкевіча, таму што Замоцін, хоць і перавёў лацінку арыгінала на кірыліцу, імкнуўся па магчымасці захаваць аўтарскую арфаграфію. Ды і ўвогуле ўся гэта работа выдатнага вучонага выканана вельмі акуратна, на высокім тэксталагічным узроўні.

На жаль, няма пачатку рукапісу (дзесяць старонак), але значная частка страты пакрываецца дзвюма друкарскімі старонкамі тэкстаў, якія ёсць у артыкуле Замоціна, пра што гаварылася вышэй. У выніку не хапае ўсяго нейкіх 60 радкоў. 30 з іх узнаўляюцца дзякуючы знаходцы аўтографа Дуніна-Марцінкевіча з фрагментам «Быліц…» у Пушкінскім доме, аб чым нам давялося ў свой час пісаць (Літ. і мастацтва. 1981. 23 студз.).

Пытанне, як трапілі матэрыялы зборніка кафедры гісторыі беларускай літаратуры да Бэндэ, вымагае ад нас паглыбіцца ў яго біяграфію. Балазе ў яго асабістым фондзе нямала аўтабіяграфічных матэрыялаў.

Апошнім часам постаць Бэндэ вырасла да нейкага жахлівага сімвала — увасаблення сталінскіх часоў. Вайсковая форма. Наган. «Пяро паблісквае злавесна ў руцэ крывавай Лукаша» (У. Скарынкін). Мабыць, у пэўным сэнсе ўсё так і было. Але за гэтым губляюцца звычайныя чалавечыя рысы. Хто ён і адкуль?

У таварыскіх размовах наш старэйшы калега незабыўны Юльян Сяргеевіч Пшыркоў не раз выказваў упэўненасць у няпростым паходжанні Бэндэ: «У яго, ведаеце, была парода, пастава… Ды і прозвішча нейкае нянаскае…»

Паводле ўласных слоў, Лука Апанасавіч Бэндэ нарадзіўся ў 1903 годзе на Брэстчыне ў сялянскай сям'і. У 1915 годзе скончыў пачатковую школу. У сусветную вайну зазнаў злыбеды, быў бежанцам, жабраваў, парабкаваў, працаваў чорнарабочым на чыгунцы, фурманам.

З восені 1921 года пачаў службу ў савецкіх установах, адначасова вучыўся на агульнаадукацыйных курсах.

У 1927 годзе скончыў экстэрнам БДУ, наступныя тры гады вучыўся ў аспірантуры Беларускай акадэміі навук. Праўда, завочна. Здаецца

таксама, дысертацыі не абараняў. Але ён і без таго быў нарасхват. Яго анкета гэтага перыяду літаральна стракаціць ад пасад і прызначэнняў: служба ў арміі, выкладчык ваеннай школы, сакратар палітыка-выхаваўчага часопіса, рэдактар часопіса ваенна-абароннага. А яшчэ БелАПП, БелЛАЧАФ (армейскае літаратурнае аб'яднанне), гарачыя крытычныя баі, якія непазбежна прымалі палітычны характар і ў якіх Лука Апанасавіч паказаў сябе не апошнім байцом. («О! Ён крытык-артадокс / Баявой сістэмы — / Вынімае па рабру / З кожнае паэмы» — тагачасная эпіграма С. Дарожнага.) І — хвацкія набегі ў гісторыю літаратуры (прыклад мы прыводзілі вышэй).

Гэта быў час агульнага вар'яцтва-ачмурэння. Каб пераканацца, разгарніце любую тагачасную газету або часопіс. Добра сказаў В. Каверын: «В наше время — это изысканное по остроте и изумляющее чтение. Все дышит угрозой. Литература срезается, как по дуге, внутри которой утверждается и превозносится другая, мнимая, рапповская литература».

У аналах беларускай крытыкі і літаратуразнаўства так апісваецца той цяжкі перыяд: «Што датычыцца крытыкаў таго часу, то многія з іх усур'ёз верылі, што грубыя абвінавачванні, наклейванне абразлівых ярлыкоў, нацкоўванне адных пісьменнікаў на другіх, адвольная інтэрпрэтацыя твораў — уся гэта непрыстойная і небяспечная цыганіна нібыта і ёсць сапраўдная крытыка. Мы ўжо не кажам аб крытычных практыкаваннях вульгарызатараў накшталт Бэндэ, дзейнасць якіх прыносіла шкоду беларускай літаратуры»[91]. Відаць, тут трэба было б сказаць — «асаблівую шкоду».

Свае немалыя «крытычныя» намаганні Лука Апанасавіч спалучаў з працамі адміністрацыйнымі. Нешта з год быў загадчыкам сектара мастацкай літаратуры і намеснікам дырэктара Белвыдата (дзяржаўнага выдавецтва), у 1934 годзе накіраваны ў Ленінград на кінафабрыку «Беларусьфільм» зноў жа ў якасці мастацкага кіраўніка і намесніка дырэктара.

У 1935 годзе перайшоў на работу ў Пушкінскі дом (ох, нялёгка там яго ўявіць…), працаваў у іншых ленінградскіх установах, у тым ліку ў школе НКУС (вось гэта яму, бадай, бліжэй). У вайну перажыў блакаду, быў нейкі час у апалчэнні.

Вялікай кар'еры ён у Ленінградзе не зрабіў і, здаецца, сумаваў па Беларусі, дзе прайшла яго вельмі напорыстая маладосць. Збіраў у ленінградскіх архівах матэрыялы па гісторыі беларускай літаратуры, пасля вайны зрабіў асобныя, часам даволі змястоўныя публікацыі, заснаваныя на архіўных знаходках.

Але з яго намеру апублікаваць свае большыя працы (напрыклад, манаграфіі пра Купалу і Коласа, раздзелы якіх можна бачыць у яго архіве)

[91] Мушынскі М. Беларуская крытыка і літаратуразнаўства: 20–30-я гады. Мінск, 1971. С. 161.



і нават зусім перабрацца ў Мінск[92] нічога не выйшла — у Беларусі дабром яго не ўспаміналі. І, вядома, не без падстаў.

Аднак не хацелася б, каб заслужаная рэпутацыя Бэндэ 30-х гадоў засланіла ад нас тое, можа, адносна і нямногае станоўчае, што ён зрабіў. Яго архіў паказвае, што ён ведаў цану гістарычным каштоўнасцям. У цяжкія дні блакады Ленінграда, калі кнігамі і рукапісамі прыватных збораў палілі печы, ён прыняў захады, каб не загінулі беларускія гісторыка-літаратурныя скарбы, якія сабраў у свой час Эпімах-Шыпіла і захоўваў пасля другі ленінградскі вучоны-беларус Канстанцін Аляксеевіч Пушкарэвіч. Нельга без сапраўднага хвалявання чытаць надпісы на «Хрэстаматыі» Эпімах-Шыпілы, якую мы ўжо ўспаміналі.

Рукою Пушкарэвіча:

«Получ. от Брон. Игн. Эп.-Шипиллы 26/V-34. 2-го июля после второго удара Б. Игн. потерял сознание и скончался 6 VI 34 в 8 ч. утра в больнице им. С. Перовской». (Здаецца, толькі адсюль мы і ведаем дакладную дату смерці выдатнага працаўніка Эпімах-Шыпілы.)

Рукою Бэндэ:

«Получено от Конст. Алексеевича Пушкаревича 13/I 1936 г. Завещено в собственность 1/I-42 г. Умер К. А. в феврале 1942 г. в гостинице "Астория".

Характэрна, што Бэндэ не ведаў дакладнай даты смерці Пушкарэвіча. Ды і ці было тое завяшчанне? Але так або інакш, а ўсё ж менавіта Бэндэ стаў тым звяном, праз якое гэтая нацыянальная каштоўнасць дайшла да нас, заняла сваё законнае месца ў адным з дзяржаўных сховішчаў Беларусі.

Істотная, хоць і вельмі супярэчлівая роля Бэндэ і ў тым, што не прапалі тэксты Дуніна-Марцінкевіча, пра якія мы цяпер вядзём размову.

З біяграфічных матэрыялаў Бэндэ відаць, што ён быў сваім чалавекам на кафедры гісторыі беларускай літаратуры ў той час, калі рыхтаваўся зборнік кафедры, а Замоцін працаваў над сваёй публікацыяй. У адной з аўтабіяграфій Бэндэ пісаў: «У студзені 1928 года без адрыву ад педагагічнай работы паступіў у аспірантуру пры Інстытуце літаратуры Беларускай Акадэміі навук (недакладнасць: у 1928 годзе не было яшчэ ні Інстытута літаратуры, ні Акадэміі навук, размова, вядома ж, ідзе пра ўсё тую кафедру гісторыі літаратуры Інстытута беларускай культуры. — *Г. К.*) і ў кастрычніку 1930 года выпушчаны і прызначаны вучоным сакратаром Інстытута літаратуры…» (БДАМЛМ. Ф. 66. Воп. 1. Спр. 31. Л. 6). Як вучоны сакратар Інстытута літаратуры (тады ён называўся

[92] Гл. яго перапіску з Я. Коласам у зб.: З жыццяпісу Якуба Коласа: Дакументы і матэрыялы. Мінск, 1982. У 1948 г. працаваў кароткі час у Інстытуце літаратуры, мовы і мастацтва АН БССР.

Інстытутам літаратуры і мастацтва) Бэндэ, зразумела ж, меў доступ да рукапісаў былой кафедры гісторыі беларускай літаратуры, у тым ліку і да матэрыялаў зборніка кафедры, і праз нейкі час яны апынуліся ў яго асабістым архіве.

Тут дарэчы будзе сказаць, што ў згаданым артыкуле 1935 года Бэндэ назваў у ліку твораў Дуніна-Марцінкевіча і творы з нявыдадзеных сшыткаў, але зрабіў гэта вельмі нядбайна (чаго ж цырымоніцца з рэакцыянерам!). Былі ўпамянуты: «Хвілімон (так! — *Г. К.*) на каранацыі» (памылка не толькі ў назве, але і год напісання не той), «Травіца братсястрыца». «Быліцы…» не называліся. «Халімона…» ён усё-такі чытаў, бо прыцягнуў гэты твор для абгрунтавання сваёй пазіцыі. Зганіўшы «Сялянку» і «Гапона», Бэндэ пісаў: «Рэшта вершаваных твораў Дуніна-Марцінкевіча амаль нічога не даюць для яго характарыстыкі. Толькі твор “Хвілімон на каранацыі” дае новую рысу яго. У гэтым творы Дунін-Марцінкевіч выяўляецца як халуй царскага трону і гэтую сваю якасць надае вобразам сялян у выглядзе іх “натуральнай, прыроднай пакорлівасці і адданасці цару”. У гэтым жа творы Дунін-Марцінкевіч, паказваючы, як Хвілімон выратаваў ад пагібелі багатую пані, вучыць сялян ахвяроўваць сваім жыццём, каб ратаваць багатых, бо гэта робіцца “ў імя хрысціянства”. Такім выглядае селянін з вершаў Дуніна-Марцінкевіча… Гэта хутчэй пародыя на селяніна, чымся здымак з сапраўднасці».

Ці магла быць пры такім падыходзе ў той час размова пра надрукаванне рукапісаў Дуніна-Марцінкевіча? Але наборны рукапіс Замоціна Бэндэ ўсё ж захаваў. Ці быў ён няшчыры ў сваіх пісаннях? Або гэта проста страсць калекцыянера?.. Цяжка адназначна адказаць на гэтыя пытанні.

Цяпер некалькі цытат:

«23 чэрвеня 1941 года авіяцыя ворага наляцела на Мінск, і горад запалаў, а на чацвёрты дзень вайны ён ужо ляжаў у руінах» (Горад і годы. Мінск, 1967. С. 111).

«…И сгоревшую в Минске бумагу, страницы книг люди встречали за сорок — пятьдесят километров» (Мы расскажем о Минске. Мінск, 1966. С. 21).

«К моменту прихода немецких захватчиков в гор. Минск из Академии наук ничего не было вывезено. В первые дни немецкие оккупанты в лабораториях Академии начали ломать и бить оборудование… Был выброшен на улицу архив Академии наук и сожжен» (Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии: 1941–1944. Мінск, 1965. С. 215).

Арыгіналы Дуніна-Марцінкевіча, якія засталіся ў Інстытуце літаратуры, загінулі, трэба думаць, у пажарах вайны (можна для дакладнасці ўжыць вайсковы тэрмін — «прапалі без вестак»).



Матэрыялы Замоціна, вывезеныя Бэндэ ў Ленінград, ацалелі.

Тэксты Беларускага дудара ўсё-такі захаваліся для нашчадкаў.

Іван Іванавіч Замоцін працаваў у 1929 годзе над двума рукапісамі Дуніна-Марцінкевіча: над «Травіцай…» на 27 лістах і «Быліцамі…» на 64 лістах. З яго апісання відаць, што «Травіца…» была скончана 3 мая 1857 года і 26 кастрычніка гэтага ж года атрымала дазвол віленскага цэнзара Паўла Кукальніка на друкаванне.

«Быліцы…», як мы ўжо казалі, былі завершаны 20 жніўня 1857 года. Дунін-Марцінкевіч пажадаў прысвяціць твор свайму магілёўскаму прыяцелю Тадэвушу Чудоўскаму, які, адзначым, быў звязаны з вызваленчым рухам і загінуў праз пяць год у час паўстання Каліноўскага. На рукапісе робіцца адпаведны надпіс: «Вяльможнаму Тадэвушу Чудоўскаму ў доказ глыбокай пашаны гэты слабы твор ахвяруе аўтар». Паводле тагачасных правілаў, патрэбна была згода асобы, якой твор прысвячаўся. Сшытак пасылаецца Чудоўскаму на Магілёўшчыну або паказваецца яму пры асабістай сустрэчы. На рукапісе з’яўляецца надпіс без даты: «На ахвяраваную мне дэдыкацыю (прысвячэнне. — *Г. К.*) твора згаджаюся і з удзячнасцю прымаю. Тадэвуш Чудоўскі». Потым твор пасылаецца або адвозіцца ў Вільню Кукальніку. Новы надпіс паказвае, калі гэта было: «От сочинителя Марцинкевича. Г. Кукольнику. 23 июня 1858 года». Яшчэ адзін надпіс сведчыць, што дазвол быў дадзены вельмі хутка, 30 чэрвеня, але толькі на першую частку «Быліц…». «Халімон на каранацыі», насуперак спадзяванням пісьменніка, цэнзуру не прайшоў. Тэкст апавядання ў рукапісе перакрэслены, зроблены надпіс: «Эта вся статья не может быть пропущена, а потому ее должно исключить. Цензор П. Кукольник». Відаць, Кукальнік палічыў, што тэму каранацыі лепш не чапаць, што разважанні мужыка Халімона, няхай і досыць дабрадушныя, з нагоды такой важнай падзеі не ўсім будуць даспадобы.

Гэта быў вельмі балючы ўдар, але яшчэ не катастрофа.

У гэты ж час пісьменнік, як вядома, напружана працаваў над перакладам на беларускую мову шэдэўра Адама Міцкевіча — паэмы «Пан Тадэвуш». Сшыткі з перакладамі па меры гатоўнасці неадкладна пасылаюцца Кукальніку. Першы сшытак прайшоў цэнзуру 28 мая 1858 года, другі 30 кастрычніка, трэці 7 студзеня наступнага 1859 года (Пачынальнікі. С. 132). У сярэдзіне 1859 года віленскі выдавец Сыркін скончыў друкаванне першага тома перакладу, у які ўвайшлі два сшыткі (дзве першыя «быліцы» паэмы). І тут на перакладчыка і выдаўца абрынулася пастанова Галоўнага цэнзурнага ўпраўлення аб забароне ўжываць лацінскі шрыфт для ўкраінскіх і беларускіх выданняў. Гатовы том з перакладам у свет не выйшаў.

Вось тут ужо быў, як кажуць, шах і мат.

Думаецца, што гэта ж пастанова пазбавіла Дуніна-Марцінкевіча магчымасці выдаць у той час «Травіцу…» і дазволеную цэнзурай першую частку «Быліц…».

Як цяпер стала вядома, пасля паўстання Дунін-Марцінкевіч перапісаў пачатак «Быліц…» кірыліцай і ў лютым 1867 года запрапанаваў твор для надрукавання «Виленскому вестнику», але атрымаў ад рэдакцыі гэтага рэакцыйнага органа жорсткую водпаведзь, якой начыста закрэслівалася ўся беларуская літаратура. Рэдакцыя выступіла не супраць канкрэтнага твора, а менавіта супраць усёй беларускай літаратуры.

Рукапісы «Травіцы…» і «Быліц…» 1857–1858 гадоў, відаць, знаходзіліся ў свой час у хатнім архіве Дуніна-Марцінкевіча, у тым знакамітым куфры пісьменніка, які прыгадваў у сваіх успамінах Ядвігін Ш.

Як яны трапілі ў канцы 20-х гадоў у Мінск на кафедру гісторыі беларускай літаратуры — невядома. У агульнай форме гэта трэба звязваць з тымі нацыянальна-культурнымі працэсамі, якія інтэнсіўна адбываліся ў БССР у 20-я гады. Беларуская культура ўпершыню за апошнія стагоддзі атрымала падтрымку дзяржаўнай улады. Ставіцца задача збірання нацыянальных культурных сіл і каштоўнасцей. Расшукваюцца гістарычныя дакументы. У тым ліку і гісторыка-літаратурныя матэрыялы. Пра гэта гаварыў Замоцін у 1927 годзе ў сваім дакладзе аб чарговых задачах вывучэння беларускай літаратуры на агульным сходзе класа філалогіі Інбелкульта. Вучоны прывёў канкрэтныя прыклады поспехаў у збіранні гісторыка-літаратурных матэрыялаў, у прыватнасці і рукапісаў Дуніна-Марцінкевіча. «Некаторыя матэрыялы, — казаў Замоцін, — могуць знаходзіцца і ў прыватных руках, бо традыцыя не толькі параўнальна нядаўна памершых беларускіх пісьменнікаў, але і такіх, напрыклад, як В. Дунін-Марцінкевіч, усё яшчэ жыве ў паасобных сямействах і ў аддзельных асоб. Так, нядаўна ў (Літаратурную. — *Г. К.*) камісію перададзены сшытачак з творамі Дуніна-Марцінкевіча (“Гапон” і некалькі паасобных вершаў), які быў выпадкова знойдзен у Бабруйску карэспандэнтам па ахове помнікаў т. Тараймовічам у адной мясцовай жыхаркі. Вядома, сама камісія сваімі сіламі гэтага дакументу не адшукала б. Выкарыстаць гэтую прыватную традыцыю беларускае літаратуры хутчэй за ўсё могуць таксама мясцовыя краязнаўцы, якім лягчэй навесці даведку аб тым, дзе і ў каго ў даным раёне захавалася памяць аб тым ці іншым пісьменніку ў вусным паданні ці ў адпаведных дакументах»[93].

Відаць, у час, калі рабіўся гэты даклад, рукапісаў «Травіцы…» і «Быліц…» у Замоціна яшчэ не было, але вучоны празорліва намячаў далейшыя шляхі збірання спадчыны беларускіх пісьменнікаў, яго выступленне стымулявала новыя пошукі. Надзвычай было б цікава даведацца, ад каго канкрэтна паступілі гэтыя рукапісы, але пакуль такіх звестак у нас няма. Магчыма — з ваколіц Люцінкі, дзе яшчэ жылі сваякі пісьменніка (нават у 1944 годзе з Валожынскага раёна ад нашчадкаў аўтара «Гапона» і «Пінскай шляхты» ў віленскі Беларускі музей паступіў цэнзурны рукапіс 1-й «быліцы» «Пана Тадэвуша» ў перакладзе Дуніна-Марцінкевіча[94]). У пратаколе кафедры гісторыі беларускай літаратуры БАН ад 21 лютага 1929 года (згаданая справа ў акадэмічным архіве) ёсць толькі глухое ўпамінанне аб водпуску грошай на набыццё нейкіх рукапісаў Дуніна-Марцінкевіча, відаць тых самых. У 1929 годзе Замоцін ужо на поўную сілу працаваў над гэтымі рукапісамі. У апошнія дні снежня слухаўся даклад аднаго з членаў кафедры аб Дуніну-Марцінкевічу. У пратаколе ў сціслай форме зафіксавана выступленне Замоціна: «Невядомыя ў друку аповесці Дуніна-Марцінкевіча, якія знаходзяцца ў кафедры Беларускай АН і разглядаюцца Замоціным, не супярэчаць установоўцы, данай у дакладзе». Адчуваецца, што члены кафедры з павагай і цікавасцю ставяцца да новай работы свайго старэйшага калегі і кіраўніка і чакаюць яе вынікаў.

…Паслухайце, браткі, Навума старога!
Ён у час дасужны дзянёчка святога
Будзе весці расказы аб розны быліцы, —
Што здарылася намесь у нашай зямліцы:
Аб братах Калетках і паганай жонцы,
Старым Забалотным і аб Шавалонцы,
Аб каранаванні, прыгодах маскоўскіх, —
Вы зроду не чулі аб дзівах такоўскіх!..

Калі мы сёння адкрываем том Беларускага дудара і перачытваем «Быліцы…» або «Травіцу…», то наўрад ці думаем аб тых прыгодах, якія часам выпадаюць на долю пісьменніцкіх рукапісаў, перш чым яны стануць кнігаю.

А гэтыя прыгоды таксама не толькі дзівосна цікавыя, але і павучальныя. Лёс рукапісу залежыць ад выпадку. Унікум безабаронны перад тысячай небяспек. Толькі друкарскі станок, як, мабыць, і іншыя сучасныя сродкі масавага тыражыравання, здольны захаваць культуру. Пра гэта добра ведае прырода: абміне ўсе небяспекі, прарасце і дасць патомства хіба адно шчаслівае семка, але яго падстрахоўваюць тысячы, мільёны іншых зернятак-дублёраў.

І ўсё ж здараецца — напісанае застаецца.

[93] Замоцін І. Чарговыя задачы вывучэння беларускае літаратуры // Запіскі Аддзела гуманітарных навук. Кн. 2. Мінск, 1928. С. 268–269.

[94] Цэнтр. б-ка АН Літвы. Ф. 21–398.

# ХТО ВЫ, КАРАФА-КОРБУТЫ?

І адзавецца мне здалёк мой продак…
*Л. Пысін*

Адзін з самых яскравых твораў беларускай паэзіі XIX стагоддзя — верш «К дудару Арцёму ад наддзвінскага мужыка», у 1859 годзе яго ўпісаў у Віцебску ў знакаміты альбом Арцёма Вярыгі-Дарэўскага нехта Ялегі Пранціш Вуль. Верш элеганцкі, лёгкі, надзвычай гарманічны, прасякнуты гістарычным аптымізмам, пачуццём удзячнасці да дэмакратычнай творчасці і асветніцкай дзейнасці Вярыгі. Аўтар віртуозна карыстаўся вельмі арганічнай у яго вуснах народнай мовай, тонка і ненавязліва ўводзіў паэтычную сімволіку (дарэчы, ці не тут упершыню ў новай беларускай паэзіі і мільгануў той мілы вобраз — цвяток радзімы васілька?):

Грудзяй цэлай гудзі смела
На ўвесь мужыцкі свет, —
Што пасееш, будзіць цэла,
Будзіць некаліс і цвет…

То-та радасць, радасць будзіць,
Калі Бог за мужыкоў
Ды вянок табе прысудзіць
З белых рож і з васількоў!

Белы рожы — то за гэта,
Што ты совесць беліш нам,
Што нас вывеў ад Яхвета,
Хоць наш бацька, кажуць, Хам.

Васількі — то, брат, нябёсы,
Адкуль кожны Божы дар!
Адкуль сонца, дожджык, росы,
Адкуль мы і ты, дудар…

Перад намі, несумненна, паэтычны геній, які з абсалютнай свабодай арганізоўваў стыхію беларускага верша. Традыцыі не было ці амаль не было. Ён слухаў народ. Нават саму графіку Вулевага верша — своеасаблівую фанаграму далёкай мінуўшчыны — цікава разглядаць, за ёй выразна чуецца жывая мова Віцебшчыны.



Хто ж такі Вуль?

Яшчэ на пачатку нашага стагоддзя вельмі інфармаваны Рамуальд Зямкевіч паведаміў акадэміку Карскаму сапраўднае імя аўтара — Элегій Францішак Карафа-Корбут. Больш, па сутнасці, нічога не было вядома. Толькі прозвішча — цікавае спалучэнне нейкай экзотыкі з тутэйшай аўтэнтычнасцю.

У свой час нам удалося знайсці архіўную справу пра ўдзел паэта ў паўстанні 1863 года і яшчэ некаторыя дакументы (частка з іх апублікавана ў зборніку «Пачынальнікі»), якія далі магчымасць, няхай і эскізна, пазначыць вехі яго жыцця, скласці першую біяграфію.

Карафа-Корбут нарадзіўся 9 красавіка (старога стылю) 1835 года (метрыка ўдакладняе нават — «вечарам») у горадзе Віцебску ў сям'і дробнага чыноўніка, належаў, як прынята гаварыць, да старадаўняга, але збяднелага шляхецкага роду.

Бацька Маўрыкій Фаміч быў акурат равеснікам стагоддзя, атрымаў добрую адукацыю, скончыў Полацкую езуіцкую акадэмію, якая давала грунтоўную ўсебаковую падрыхтоўку, але ўсё жыццё вымушаны быў перабівацца, скажам так, не на самых важных пасадах у розных віцебскіх установах. Вялікага службовага поспеху не было. Хутчэй, у гэтым сэнсе яго можна назваць няўдачнікам. Напрыклад, у 1855 годзе, у досыць немаладым ужо веку, ён лічыўся ўсяго толькі тытулярным саветнікам, сакратаром так званага совеснага суда. У той жа час яго цанілі ў мясцовых інтэлігентных колах, ён не цураўся літаратуры і пакінуў вершаваныя радкі па-польску (праўда, не бог ведае якой вартасці) у тым жа альбоме Вярыгі-Дарэўскага. (А Вярыга ж не для кожнага раскрываў свой альбом, далёка не кожны ўдастойваўся такога гонару.) У Маўрыкія Фаміча былі тры сыны: старэйшы — паэт Элегій Францішак, Людгард Люцыян і Вільгельм.

Сярэдні сын пасля ў дакументах нідзе не ўспамінаецца (магчыма, рана памёр), а бацька з сынамі Элегіем і Вільгельмам удзельнічалі ў падзеях 1863 года і былі высланы з краю. Калі іх судзілі, то склалі даведку: у дваранстве не зацверджаны і ў радаводную кнігу губерні не ўнесены.

Справа з іх дваранствам цягнулася з даўніх часоў. Нешта там усё не клеілася. Сляды нейкіх перашкод раз-пораз сустракаем у архівах віцебскіх устаноў. Яшчэ ў 1832 годзе, да нараджэння Элегія, Маўрыкій Корбут, тады адносна малады губернскі сакратар, звярнуўся ў Віцебскі павятовы суд з прашэннем наступнага зместу:

«Из оставшихся после смерти в прошлом 1831 году родного дяди моего капитана Флора Осипова сына Караффа-Корбута бумаг узнаю я, что

им прошлого 1819 года занесена манифестация (заява. — *Г. К.*) в Витебский поветовый земский суд о потере бывших у него — предкам фамилии моей служащих разных документов, почему и покорнейше прошу учинить по ведомству своему надлежащую справку, буде окажется в отыскании означенная манифестация, с оной на прилагаемом мною у сего листе рублевого достоинства гербовой бумаги выдать за надлежащею скрепою копию, яко нужную мне к доказательству по фамилийным надобностям»[95].

Відаць, згубленыя паперы ўсё ж не адшукаліся, таму дваранства віцебскіх Карафа-Корбутаў лічылася так і не даведзеным. Зрэшты, да гэтага пытання мы яшчэ вернемся.

Вучыўся Элегій Францішак у Віцебскай гімназіі. Захавалася прашэнне, з якім улетку 1846 года Маўрыкій Фаміч звярнуўся да папячыцеля навучальнай акругі. Не вельмі зграбная канцыляршчына (мабыць, пэўная ўскладнёнасць лічылася прыкметай саліднасці, надавала паперы вагу): «Желая из сыновей моих Франца Элегия Корбута, достигшего установленных лет на принятие публичного учения, воспитывать его в науках, преподаваемых в Витебской губернской гимназии, нахожусь в невозможности вносить установленную плату денежную по 5 рублей серебром в год…»[96]. «Нахожусь в невозможности…» Нялёгкая для шляхецкага, ды і проста чалавечага гонару, папера — прызнанне ў несамавітасці — была, аднак, спагадліва падтрымана дырэктарам вучылішчаў у губерні. На шчасце, гэтую пасаду тады займаў Антон Антонавіч Бернгоф, чалавек высокай культуры, які ганарыўся колішнім знаёмствам з самім Пушкіным. Ён даў спачувальную атэстацыю: «…проситель, служа в канцелярии здешней Палаты уголовного суда, получая весьма умеренное жалованье и не имея никакого состояния, действительно находится в бедном положении, а потому и мог бы быть освобожден от платежа за учение сына, с самого поступления в Витебскую гимназию».

Справа была ўладкавана. Для Элегія пацягнуліся гады вучобы. Якую ж звышмоцную падзорную трубу нам знайсці, каб убачыць праз добрыя паўтара стагоддзя Вуля-гімназіста? Такое павелічальнае шкло ёсць. Гэта архіўныя дакументы. Яго прозвішча не адзін раз сустракаем у журнале наглядчыка за вучнямі (ЦДГА ў Мінску. Ф. 2507. Воп. 1. Спр. 482). Здаецца, фіксуюцца розныя дробязі, але яны складваюцца ў пэўную карціну.

[95] ЦДГА ў Мінску. Ф. 2636. Воп. 1. Спр. 264. Арк. 44.

[96] ДГА Літвы. Ф. 567. Воп. 2. Спр. 5737. Арк. 12.



Запіс 1851 года: вучань VI класа Карафа-Корбут жыве на Селязнёўскай вуліцы, «при шоссе» (гэта падказка-арыенцір для мясцовых краязнаўцаў). Тады ж начальства запрапанавала наглядчыку наведаць Корбута, устанавіць, ці часта ён бывае ў нейкіх Мальчэўскіх. Што тут была за прычына, чым праштрафіліся гэтыя Мальчэўскія, а праз іх і Корбут, мы пакуль што не ведаем. Але пэўная заклапочанасць у начальства была.

14 лістапада Корбут не быў у класе з-за хваробы — «страдает сильным удушьем». Праз два тыдні зноў пропуск. Той жа дыягназ (астма?), і да таго ж моцны галаўны боль.

16 снежня ўсюдыснае вока наглядчыка заўважае гімназіста Корбута «с родителями в ложе бенуара № 2». Адразу пераносімся ў атмасферу правінцыяльнага тэатра далёкага мінулага. Цесны зальчык, цьмянае святло (свечкі? газавыя лямпы?). Задуха. І — відаць, скразнякі. Прынамсі, побач у журнале паметка інспектара: «…простудился в театре и заболел снова».

Мабыць, у строгія, вельмі рэгламентаваныя мікалаеўскія часы наведванне тэатра вучнямі без дазволу начальства не віталася. Назаўтра наглядчык атрымлівае даручэнне «сходить к отцу ученика VI класса Караффа-Корбута и попросить его пожаловать в гимназию для объявления насчёт сына».

Новыя запісы аб прыступах удушша 5 лютага, 12, 13, 16 красавіка 1852 года сведчаць, што Корбут быў чалавекам не самага моцнага здароўя. А гэта ўжо істотна для вобраза паэта, які паступова складваецца ў нашым уяўленні.

Вылучаецца запіс ад 22 кастрычніка 1851 года. Дырэктар даручае ўсё таму ж наглядчыку схадзіць да Корбута, паведаміць яму, каб сачыненне, прачытанае ім, Корбутам, на літаратурнай гутарцы, было падрыхтавана да заўтрашняга дня.

Размова ідзе пра так званыя літаратурныя гутаркі ў гімназіі. Гэта былі своеасаблівыя маленькія вучнёўскія канферэнцыі, удалая форма педагагічнай працы, якая практыкавалася ў Пецярбургскай навучальнай акрузе, куды ўваходзіла ў той час і Віцебская губерня. Вучні-старшакласнікі пісалі для гэтых гутарак спецыяльныя сачыненні па пытаннях літаратуры, этнаграфіі, гісторыі. Іншыя рэцэнзавалі, рабілі разборы. Кожнаму карцела паспрабаваць пяро. Усе павальна захварэлі на пісьменніцкі сверб, парабіліся бойкімі літаратарамі і паважнымі крытыкамі. Лепшыя сачыненні пасылаліся ажно ў Пецярбург, самому пану папячыцелю сталічнай навучальнай акругі.

І вось высвятляецца, што сапраўдным каралём гэтых гутарак быў наш Корбут. Адкуль што бралася. Тут з «нямоглым» сынам беднага

недаленгі-чыноўніка не мог зраўняцца ніхто. Корбут з усёй відавочнасцю дэманстраваў перамогу творчага духу над слабай плоццю. У гімназічных дакументах (Ф. 2507. Спр. 462) ёсць звесткі аб прачытаным на адной з гутарак у кастрычніку 1851 года «артикуле» Элегія пад назвай «Успаміны дзяцінства і юнацтва». Тонкую матэрыю выбраў, як бачым, наш паэт. Бліскучае сачыненне юнага літаратара было адразу ж паслана ў Пецярбург і праз некаторы час з пахвалою адзначана ў цыркуляры папячыцеля. «К отличным сочинениям, — гаварылася ў гэтым дакуменце, — можно отнести “Воспоминание детства и юности” г. Караффа-Корбута и “Час, проведенный перед памятником генералу Кульневу в Сивошине” г. Фиалковского». Трапіць у цыркуляр было вельмі ганарова — ён рассылаўся па ўсёй акрузе. Сваё новае сачыненне падбадзёраны Корбут прысвяціў роднаму гораду. Яно таксама мела поспех і трапіла ў папячыцельскі цыркуляр, у якім адзначалася: «Заслуживают похвал сочинения “Витебск” ученика VII класса Караффа-Корбута, “Предслава княжна Полоцкая” ученика VII класса Моннерота-дю-Мэна, “Георгий Конисский” ученика VI класса Потрыковского и “Тарас Бульба” ученика VII класса Кожевникова». Нават гэты просты пералік гаворыць аб сур’ёзнасці навукова-літаратурных зацікаўленняў тагачасных вучняў-старшакласнікаў (сёмы клас быў тады апошнім).

Назва наступнага сачынення Корбута — «Хрэсьбіны ў беларускіх сялян» — гаворыць сама за сябе. Нарэшце, на пачатку 1854 года Элегій узяўся ажно за такую паважную тэму: «Пра Дзяржавіна наогул і пра оду “Бог” у прыватнасці». Як бачым, Корбут глыбока цікавіўся краязнаўствам, этнаграфіяй свайго народа, літаратурай, яму ўласцівыя былі няпростыя духоўныя шуканні. На жаль, сачыненні гэтыя не захаваліся. Яны многае расказалі б нам пра асобу маладога паэта. Але нават па тэматыцы можна меркаваць, што перад намі як бы цэлы творчы цыкл: успаміны ранняга ўзросту, сантымент да роднага горада, цікавасць да народных духоўных каштоўнасцей, экскурс у вялікую літаратуру з яе высокімі, вечнымі пытаннямі. У прыватнасці, класічны верш Дзяржавіна, відаць, прыцягнуў увагу юнака пранізлівым філасофскім роздумам пра веліч і трагізм чалавечага быцця.

Я связь миров повсюду сущих,
Я крайня степень вещества;
Я средоточие живущих,
Черта начальна божества;
Я телом в прахе истлеваю,
Умом громам повелеваю,
Я царь — я раб — я червь — я бог!



Касмічная маштабнасць Дзяржавіна моцна ўразіла віцебскага гімназіста. Ды і сам ён, схіляючыся з пёркам над лістом паперы, адчуваў у сабе боскую здольнасць па сваёй волі ствараць новы свет.

Але з-за беднасці (можа, хто знае, дадаліся і яшчэ якія прычыны) гэты таленавіты чалавек не змог нават скончыць гімназію. Як відаць з яго пазнейшага службовага атэстата, ён выбыў з VII класа і ў 1856 годзе паступіў на службу пісцом у губернскую палату дзяржаўных маёмасцей. Там не патрэбна была творчасць, вышэй за ўсё цаніліся паслухмянасць і акуратнасць. Гэта было, хутчэй, існаванне на ўзроўні нікчэмнага чарвяка, калі вяртацца да дзяржавінскіх вобразаў. Канфлікт быў непазбежны. Праслужыўшы ў палаце шэсць гадоў, у ліпені 1862 года Корбут (хоць быў ужо жанаты) звальняецца, як сказана ў атэстаце, «для поступления в высшее учебное заведение». Вядома ж, яго вабілі, не маглі не вабіць, сталічныя ўніверсітэты. Але гэта былі, хутчэй, за ўсё толькі мары. Звестак аб яго канкрэтных кроках падобнага кшалту ў нас няма. Нешта трымала яго ў Віцебску. Здавальняўся выпадковымі заробкамі, рэпетытарствам.

Несамавіты пісец палаты дзяржаўных маёмасцей, а потым і проста чалавек без пэўнага грамадскага статусу займаў між тым самае віднае месца на віцебскім Парнасе.

У літаратурным жыцці старажытнага горада на Дзвіне тады якраз было нямала цікавага. Досыць сказаць, што гімназічным таварышам Корбута- Вуля быў Канстанцін Вераніцын, з якім мы звязваем цяпер выдатныя паэмы «Тарас на Парнасе» і «Два д’яўлы». Нам бачацца плённыя ўзаемаўплывы Вуля і Вераніцына (можна дапусціць нават нейкія формы суаўтарства; у чымсьці яны нібыта «двайнікі»). Часам з’яўляўся на віцебскіх даляглядах і малады Фелікс Тапчэўскі, таксама вельмі блізкі велічынёй і характарам свайго таленту да Вуля і Вераніцына. Моцна зачапіла Вуля, трэба думаць, кніжка земляка Яна Баршчэўскага «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» — ёй навеяны, хутчэй за ўсё, тэмы многіх яго гімназічных сачыненняў (у Баршчэўскага ўсё таксама прасякнута сувяззю з роднай зямлёй, успамінамі калі не Віцебска, дык Полацка). Вуль уваходзіў у гурток А. Вярыгі-Дарэўскага, як ужо гаварылася, у 1859 годзе ўпісаў у яго альбом выдатны верш «К дудару Арцёму…». І яшчэ адзін верш па-польску — «Няновая думка», твор, прадыктаваны сур’ёзнымі духоўна-маральнымі шуканнямі. Вуль раздумваў у гэтым вершы аб месцы ў жыцці людзей такіх высокіх катэгорый, як Любоў, Цнота, Праўда, Хараство, Дабро. Абраны маладым паэтам псеўданім (Вуль — вулей) добра суадносіцца з народнай сімволікай і сведчыць аб сур’ёзным стаўленні яго да свайго таленту. «Так рупная пчала / Умее ў соты мёд сабраць і з горкіх кветак», —

скажа праз паўстагоддзя М. Багдановіч. І ў Купалы чытаем: «Нібы пчолы ў соты з мёдам / Да свайго вулля, / Мы вяртаемся дадому, / Як адна сям'я». Ды і задоўга да гэтага ў сваім узнёслым гімне любові да роднай зямлі Скарына не прамінуў сказаць: «…пчелы и тым подобная боронять ульев своих…» Пчала як сімвал патрыятычна-творчай рупнасці ёсць і на славутым Скарынавым аўтапартрэце.

У тым жа 1859 годзе ў Віцебск прыязджаў слынны ў тыя часы польскі паэт Эдвард Жалігоўскі, больш вядомы пад псеўданімам Антон Сава. Паэт прыехаў як прадстаўнік прагрэсіўнай польскай газеты «Słowo», выданне якой было наладжана тады ў Пецярбургу. Побач з іншымі віцебскімі літаратарамі (А. Вярыгам-Дарэўскім, Г. Марцінкевічам) Жалігоўскаму быў прадстаўлены і Вуль. Адам Мальдзіс адшукаў у свой час сярод папер Жалігоўскага ў Кракаве напісаныя Вулем радкі прысвячэння: «Няхай усюды, дзе ў цемры праімчаць крыллі Савы, праз цемру ночы праб'юцца ясныя промні дня»[97]. Пра гэта марылі тады ўсе перадавыя людзі.

Тыя «ясныя промні» заззялі над краем у часы паўстання Кастуся Каліноўскага. Згодна з планамі кіраўнікоў Віцебская губерня павінна была выступіць на святога Юр'я — 23 красавіка старога стылю. Выступленне аказалася няўдалым, сяляне не падтрымалі тут паўстанцаў. Але многія віцябляне ў прызначаны дзень усё ж выйшлі са зброяй у руках з горада, каб далучыцца да барацьбітоў за свабоду. Актыўны ўдзел у гэтых падзеях прымала фактычна ўся сям'я Корбутаў. Стары Корбут, якому было ўжо за шэсцьдзесят, побач з Вярыгам-Дарэўскім, лічыўся адным з галоўных завадатараў «мяцяжу». Жылі Корбуты тады на так званай Свіной пляцоўцы (Трынітарская плошча) у сталяра-мешчаніна Баўтуты, які пасля на допыце сказаў, што Маўрыкій Фаміч «был бедным до того, что едва имел чем разговеться» (цытую следчую справу — ДГА Літвы. Ф. 1248. Воп. 2. Спр. 482. Арк. 54). Былі і іншыя паказанні — «что он главный бунтовщик и волновал всех жителей города Витебска». Хоць многія таямніцы паўстання ўдалося схаваць, стары Корбут атрымаў 8 гадоў катаргі. Сыны Элегій і Вільгельм (васямнаццацігадовы гімназіст) належалі да паўстанцкай групы, якая, убачыўшы непрыхільнасць сялян, адразу склала зброю. Элегій, паводле прысуду, ссылаўся на пасяленне «ў больш аддаленыя месцы Сібіры», брат — на жыхарства ў Табольскую губерню. Прыцягваліся да следства, трапілі за краты і жанчыны сям'і Корбутаў: Антаніна Іванаўна Сабалеўская — маці паэта, Ганна Іванаўна Талвінская — яго жонка (выпісваю гэтыя прозвішчы для магчымага прасвятлення сваяцкіх сувязей). Урэшце жанчын — і старэйшую, і маладзейшую — выпусцілі на парукі, дазволілі застацца на радзіме, але тут выйшла няўвязка. 3 верасня 1864 года ў Віцебску адстукалі тэлеграму:

[97] Тарас Шаўчэнка і беларуская літаратура. Мінск, 1964. С. 186–187.



«Вильно. Генерал-Губернатору. Конфирмациею по делу Дымановской шайки Маврикий Корбут ссылается в каторжную работу. Жена его Анна (Антаніна. — *Г. К.*) и жена сына его Франца, сосланного уже в Сибирь на поселение, подлежат обе водворению на месте жительства, но обе просят разрешения следовать за Маврикием… Корбут отправляется завтра. Испрашиваю разрешения. Генерал-майор Веревкин». (Віцебскі губернатар часоў паўстання меў характэрнае прозвішча.)

Зразумела, дазвол быў дадзены — улады адчувалі палёгку кожны раз, калі яшчэ адна мяцежная душа з бунтоўнага краю знаходзіла супакой за Уральскім хрыбтом. Так уся сям'я Корбутаў, можна сказаць, у поўным складзе апынулася ў Сібіры. І як у ваду канула.

Праўда, ёсць глухія звесткі, што ў 80-я гады Элегій Корбут, адбыўшы ссылку, жыў у Варшаве. Вакол яго склаўся там беларускі гурток, у які ўваходзілі вядомыя літаратары В. Каратынскі, А. Плуг. Нібыта там, у Варшаве, паэт і памёр. На гэтым сляды абрываліся. А дзесьці ж, не раз прыходзіла ў галаву думка, жывуць нашчадкі нашага паэта, патомкі віцебскіх Карафа-Корбутаў. Вось каб разжыцца ў іх дадатковымі звесткамі. А можа, пашанцуе на які здымачак ці нават рукапісы…

Адшумела, адышла ў легенды, сталася далёкай гісторыяй эпоха Каліноўскага. Экспрэс часу набірае хуткасць. Мільгаюць паўстанкі гадоў, пуцявыя будкі месяцаў…

У 1984 годзе ў газеце «Голас Радзімы» быў змешчаны даволі вялікі матэрыял пра папаўненні Савецкага фонду міру, прыводзіліся вытрымкі з пісьмаў ахвяравальнікаў. І сярод іх такая:

> «Я ненавіджу вайну... Мы не павінны дапусціць, каб над нашай зямлёй зноў пранёсся вогненны смерч. Мы абавязаны перамагчы сілы вайны. Ахвярую ў Савецкі фонд міру 2500 рублёў.
>
> *Міхаіл Карафа-Корбут,*
> пенсіянер, г. Віцебск».

Пісьмо ўразіла не зместам (самым на той час звычайным), ні нават шчодрасцю дару, а подпісам. Карафа-Корбут з Віцебска! Гэта якраз мог быць нашчадак нашага паэта. Грэх быў бы не паспрабаваць. Напісаў віцебскім сябрам. Адказ не парадаваў: у Віцебску ніхто з такім прозвішчам не жыве. Але стрэмка-загадка ўсё-такі ў запасніках памяці засталася, раз-пораз прымушала вяртацца да яе ў думках…

Праз пяць гадоў у «Звяздзе» друкуецца інтэрв'ю старшыні праўлення Мінскага гарадскога аддзялення Савецкага фонду культуры мастака Васіля Шаранговіча. І там зноў такія радкі: «Вось вытрымка з аднаго пісьма (такіх прыходзіць шмат у адрас нашага фонду). 86-гадовы М. Карафа-Корбут піша: «У 1941 годзе быў рэпрэсіраваны, але ў 1955-м па пратэсту Генеральнага пракурора Вярхоўны суд СССР адмяніў пастанову асобай нарады пры НКУС… Цяпер жыву ў Маскве. Маю свабодныя грошы. Жадаю іх унесці на будаўніцтва мемарыяла ахвярам сталінізму ў г. Мінску». Міхаіл Іванавіч, — працягваў Шаранговіч, — пералічыў на наш рахунак 10 000 рублёў. Гэта самы буйны ўзнос, атрыманы ад аднаго чалавека».

Тут я ўжо не вытрымаў і, хоць лішне турбаваць не люблю, паляцеў у Фонд культуры, каб даведацца адрас шчодрага ахвяравальніка (я не сумняваўся: гэта ўсё той жа «пенсіянер з Віцебска», які, праўда, чамусьці раптам зрабіўся масквічом).

І вось знаёмае хваляванне першых пісьмаў, паміж Мінскам і Масквой працягнулася нітачка даверу. Міхаіл Іванавіч быў тады ў бальніцы, хварэў на вочы. Адказала мне яго жонка Луіза Генрыхаўна, якая, адзначу, выдатна, звыш усякіх пахвал, выконвала сакратарскія функцыі. Акрыяўшы, наш зямляк расказаў сваю гісторыю.

Не, ён не з Віцебска, ён з Палесся, з вёскі Барычаў у Петрыкаўскім раёне. Корбуты — збяднелая шляхта. Як і адкуль яны з'явіліся ў Барычаве — дакладна невядома. Нібыта раскупілі па частках нейкі памешчыцкі маёнтак, як гэта нярэдка рабілася ў парэформенны перыяд. Паводле расказаў барычаўцаў, прозвішча Карафа-Корбут сустракалася каля Слуцка, Бабруйска і Глуска. Называлі іх і проста Корбутамі.

— Упершыню слова «Карафа» я пачуў у 1913 годзе, калі паступаў у гарадское вучылішча, для чаго спатрэбілася метрычная даведка з кнігі запісаў аб нараджэнні петрыкаўскай царквы за 1903 год, — успамінае Міхаіл Іванавіч.

Тое вучылішча ў Петрыкаве ён скончыў у баявым 1918 годзе. Потым вучыўся ў Навазыбкаўскім тэхнікуме, яшчэ тады надрукаваў першы артыкул у газеце «Беднота» (пасля было нямала публікацый у розных органах друку па пытаннях сельскай гаспадаркі). Скончыўшы тэхнікум, працаваў аграномам на Гомельшчыне, асабліва захапляўся культурай бульбы. Надышла калектывізацыя. Маці (бацька, а потым і айчым памерлі) была раскулачана («адзін конь, дзве каровы і пустыя хлявы і гумны», гаворыць Міхаіл Іванавіч) і выслана пад Чардынь у Пермскую вобласць[98]. Міхаіла Іванавіча як класава чужы элемент выключылі з кандыдатаў у члены партыі і знялі з пасады ўпаўнаважанага Белсельгастрэста па Мазырскай акрузе.

У 1933 годзе (свет не без добрых людзей) уладкаваўся аграномам на Багушэўскі спіртзавод. Гэта ў вёсцы Янова тады Багушэўскага, а цяпер Сенненскага раёна Віцебскай вобласці (відаць, адсюль пазнейшыя звесткі ў друку пра сувязі Міхаіла Іванавіча з Віцебскам). Літаральна на голым месцы малады энергічны аграном арганізаваў апорны пункт Інстытута спіртавой прамысловасці. Тут быў апрабіраваны вельмі ўдалы сорт бульбы «остботэ», які атрымаў высокую ацэнку спецыялістаў і пасля вайны займаў даволі вялікія плошчы ў БССР.

Пра далейшае Міхаіл Іванавіч расказвае так:

— Нягледзячы на паспяховую маю працу, двайное прозвішча выклікала беспадстаўнае падазрэнне, і ў дзень аб'яўлення вайны ў 1941 годзе я быў арыштаваны «па падазрэнні ў шпіянажы» і паводле пастановы асобнай нарады пры НКУС СССР асуджаны на восем гадоў турмы без указання артыкула.

За адно толькі нязвыклае, неардынарнае прозвішча — следства нават не праводзілася. Суровыя, нічога не скажаш, часы.

Тэрмін адбываў у Горкім. Турма мела падсобную гаспадарку, дзе спатрэбіўся вопыт вязня-агранома. У цяжкіх умовах, не без прафесійнага гонару ўспамінае Міхаіл Іванавіч, атрымлівалі ўраджаі бульбы больш за 200 цэнтнераў з гектара, караняплодаў па 600 і капусты па 900 цэнтнераў.

Сям'я між тым заставалася ў акупаванай ворагам Беларусі. Потым даведаўся: жонка Вольга Сяргееўна Першына наладзіла сувязь з партызанамі, кіравала падпольнай групай у Янове. У 1944 годзе, за некалькі дзён да вызвалення, была расстраляна фашыстамі. Яе імя на мемарыяльнай дошцы ў ліку 39 імёнаў расстраляных і замучаных аднавяскоўцаў.

У 1949 годзе тэрмін зняволення скончыўся, але Міхаіл Іванавіч яшчэ некалькі гадоў працаваў брыгадзірам у Горкаўскай вобласці. Забраў туды дачку і цешчу, паставіў дом у Балахне, меў кавалак зямлі, дзе разводзіў гародніну ды ўсё тую ж бульбачку-выручалачку. У 1958 годзе, пасля рэабілітацыі, уладкаваўся ў Маскоўскае аддзяленне Усесаюзнага інстытута раслінаводства. Прадаў балахнінскі дом і пабудаваў сабе новы ў Ступінскім раёне Маскоўскай вобласці. З інстытута праз пяць гадоў пайшоў на пенсію, але працягваў працаваць на сваім прысядзібным участку.

[98] «У 1933 г. маці самавольна вярнулася з Чардыні ў Барычаў, ёй выдалі пашпарт, і да сваёй смерці ў 1949 г. была калгасніцай (не дачакаўшыся майго вяртання з турмы 4 месяцы)» (заўвага Міхаіла Іванавіча). Вось яшчэ адзін радок у гісторыю чалавечых лёсаў перыяду калектывізацыі на Беларусі.

Міхаілу Іванавічу было пад шэсцьдзесят, калі ён пабраўся з Луізай Генрыхаўнай. Можна сказаць, выцягнуў шчаслівы білет — жонка ва ўсім яму памочніца. Бываючы ў ГДР у яе сваякоў, звярнуў увагу на выдатны сорт бульбы «адрэта». Адразу сцяміў — тое, што трэба. Уражаны, дабіўся свайго — атрымаў дванаццаць бульбін гэтага сорту ў Беларускім інстытуце бульбаводства і даказаў яго перспектыўнасць для ўсёй тэрыторыі Савецкага Саюза. Пра гэта было шырока распублікавана ў газетах і часопісах, прыйшла слава, пасыпаліся заказы і пісьмы, і Міхаілу Іванавічу з жонкай давялося разаслаць каля пяці тысяч бандэроляў з элітным пасадачным матэрыялам.

«За шматгадовую плённую дзейнасць па пашырэнні лепшых сартоў бульбы і актыўную прапаганду сельскагаспадарчых ведаў» (цытую паводле фотакопіі) УАСГНІЛ узнагародзіў яго Ганаровай граматай, а сярод шматлікіх пісьмаў, што ішлі з усіх куткоў краіны, былі нават вершы, дзе слыннага практыка-бульбавода называлі чарадзеем і зычліва пыталіся:

Как вырастил чудо-картошку?
Быть может, прибегнул к участью богов
И веришь в молитвы немножко?

Міхаіл Іванавіч верыў ва ўласныя рукі, прафесійнае чуццё ды дзівосную, непераможную моц зямлі-карміцелькі.

У 1987 годзе па стане здароўя давялося прадаць падмаскоўны дом (хапае яму маленькай, надзвычай сціплай кватэркі ў Маскве на Аланецкім праездзе). Палову выручаных грошай унёс у фонд будучага помніка ў Курапатах, а другую палову аддаў на агароджу могілак у Барычаве, дзе пахаваны ўсе сваякі. Добра распарадзіўся.

— Усё маё жыццё было звязана з працай на зямлі і вырошчваннем бульбы, і я з законнай гордасцю магу сказаць, што быў карысны і ў турме і на волі, — так без нараканняў рэзюмуе наш зямляк. Тут мае вусны замыкаюцца, я нічога не магу да гэтага дадаць, хіба паўтарыць мележаўскае, з запісных кніжак: «Кланяюся вам, людзі трыццатага года!.. Вялікі ты, праўда, вялікі душою народ!»

Луіза Генрыхаўна дала адрасы яшчэ некаторых Карафа-Корбутаў, якіх лёс раскідаў па розных кутках краіны. Па многіх лёсах бязлітасна пракацілася суровая гісторыя часу. Карафа-Корбуты не заўсёды ўпісваліся ў нашу паўсядзённасць. Некаторым атожылкам роду нават давялося «схавацца» за іншымі прозвішчамі.

Інжынер, былы флоцкі афіцэр і ракетчык, Уладзімір Дзмітрыевіч Акульшын жыве ў Галіцыне пад Масквой. «На жаль, я наўрад ці змагу памагчы вашым пошукам, — напісаў ён мне. — Справа ў тым, што мой бацька Карафа-Корбут Фёдар Васільевіч у 1937 годзе быў арыштаваны за ўдзел у "шпіёнска-дыверсійнай" і "паўстанцкай" арганізацыі на Кузнецкім металургічным камбінаце і расстраляны ў тым жа годзе. Рэабілітаваны пасмяротна ў 1957 годзе.

Паколькі ў 1937 годзе мне было ўсяго два гады, то пра бацьку я ведаю вельмі мала — ён нарадзіўся ў 1892 годзе, ураджэнец вёскі Малінава былой Бабруйскай акругі.

Ведаю, са слоў сваякоў, што быў ён афіцэрам, пасля служыў у Чырвонай арміі. Былі сваякі (як мяркуецца, брат) недзе на Беларусі. Як ён апынуўся ў Сібіры (а з маці яны пазнаёміліся ў Барнауле), я не ведаю. Пошукі сваякоў, пакуль безвыніковыя, пазнаёмілі мяне з сям'ёй Міхаіла Іванавіча Карафа-Корбута, ад якой вы і атрымалі звесткі аба мне.

Буду вельмі ўдзячны, калі вы ў ходзе сваіх пошукаў атрымаеце якія-небудзь звесткі пра сваякоў майго бацькі і паведаміце іх мне».

Уладзімір Дзмітрыевіч носіць іншае прозвішча, бо, застаўшыся немаўлём без бацькі, быў потым усыноўлены.

Не адразу ўдалося разгаварыць Юрыя Уладзіміравіча Карафа-Корбута, што жыве ў Сімферопалі. Ён лічыў, што размаўляць пра радавод — гэта значыць закрануць занадта многае. «Я такой думкі, — пісаў мой сімферопальскі карэспандэнт, — толькі таму, што пра каго б я ні заікнуўся, усіх ужо няма на свеце. Мы з Міхаілам Іванавічам, пэўна, апошнія. Ці варта біць у званы, калі радавод ужо на зыходзе».

Потым ён усё ж змякчыўся і апавёў шмат цікавага. Тым больш што яго можна лічыць як бы захавальнікам традыцый і летапісцам роду. Са сваёй паштовай скрынкі я выняў паслядоўна «Пісьмо першае», «Пісьмо другое», «Пісьмо трэцяе, заключнае». Заставалася толькі крыху скампанаваць.

Аповед Юрыя Уладзіміравіча Карафа-Корбута,
нашчадка і апошняга летапісца слаўнага роду,
або, па-даўнейшаму, фаміліі,
з асобнымі заўвагамі аўтара

Фамілія Карафа-Корбут утварылася шляхам аб'яднання двух родаў (дваранскіх фамілій): Карафа — італьянцы, Корбут — палякі. (І беларусы, скажам мы. — *Г. К.*)

Пра польскага шляхціца камерсанта Корбута вядома, што ў XVIII—XIX стагоддзях ён меў канцэсіі на гандаль сукном у многіх краінах Еўропы. На гэтых раздарожжах яго дачка сустрэлася з італьянскім афіцэрам графам Карафа (імёны іх невядомыя) і выйшла за яго замуж.

Вельмі магчыма (мяркуючы па часе), што Карафа-Корбуты, якія жылі ў мінулым стагоддзі ў Віцебску (1863 год), маглі быць гэтай шлюбнай парай, у якой былі сыны Элегій Францішак і Вільгельм. (Наш матэрыял

гэтага не пацвярджае, сувязі тут, відавочна, больш складаныя, апасродкаваныя. — *Г. К.*)

У перыяд пашпартызацыі (1930 год) у Екацярынаславе нам выдалі пашпарты з выдаленнем з прозвішча адной літары «ф», тое ж самае адбылося і з Міхаілам Іванавічам Карафа-Корбутам ў Беларусі. Хоць у пасведчаннях пра нараджэнне было два «ф». І ў мінулым адбываліся такія ж казусы — то з’яўляецца другое «ф», то знікае, і няма гэтаму тлумачэння.

Радаводная карта, якую я бачыў у сябе дома, выглядала так: на тоўстым белым кардоне, падклееным ззаду батыстам, велічынёй у разгорнутым выглядзе з паверхню аднатумбавага пісьмовага стала. У левым верхнім рагу карты радавы герб. Праз усю карту ад герба прозвішча: Карафа-ды-Корбут. Уся карта, якая складвалася ў аб’ём кнігі, уяўляла сабой генеалагічную схему з 660 квадрацікаў, выкананых тушшу вопытнай рукой чарцёжніка. У кожным квадраціку значылася мужчынскае імя. Імёны былі шматнацыянальныя, у тым ліку мноства беларускіх, рускіх, польскіх, італьянскіх, французскіх.

Мая маці Яўгенія Яўгеньеўна Карафа-Корбут настойліва патрабавала ад мяне, каб я часцей глядзеў на гэтую карту і ўсё, што на ёй накрэслена, запомніў. Ёй нібыта трэба было аддаць наш радавод некаму на захаванне. Праз некаторы час карта знікла.

З тых апошніх прадстаўнікоў роду Карафа-Корбут, хто атрымаў гэтую карту, быў мой бацька Уладзімір Станіслававіч, які мусіў далей весці радаводную, робячы на карце паметкі аб нараджэнні і смерці. Не ведаю, што магло замінаць майму дзеду Станіславу Варфаламеевічу або майму бацьку рабіць гэтую цікавую і няцяжкую працу.

Валю грахі на сваіх продкаў таму, што, маючы і дагэтуль устойлівую памяць, я добра помню, што на карце былі зроблены толькі 95 або 98 крыжыкаў у квадратах тых сваякоў, хто памёр. Калі лічыць, што майго бацькі 1881 года нараджэння даўно няма, а я нарадзіўся ў 1913 годзе і жывыя толькі я і Міхаіл Іванавіч, нараджэння 1903 года, то радаводная — ужо могільнік мінулага стагоддзя. Вядома, працяг можа быць, калі лічыць толькі прозвішча, але не дваранскае паходжанне, таму што мы ў выхаванні нашага часу згубілі духоўны бок дваранскага выхавання.

Мой дзед Станіслаў Варфаламеевіч Карафа-ды-Корбут у 1900–1909 гадах быў дырэктарам опернага тэатра ў Варшаве.

Бацька Уладзімір Станіслававіч Карафа-Корбут, як ужо сказаў, 1881 года нараджэння, інжынер-суднабудаўнік у Пецярбургу, скончыў жыццё ў 1918 годзе. Яго брат Яўген — астролаг. Брат Канстанцін — прафесар медыцыны. Пра яго дзейнасць па ліквідацыі эпідэмій у перыяд пралетарскай рэвалюцыі з падзякай адзываўся У. І. Ленін. Пра гэта паведамляе часопіс «Дерматология» ў адным з нумароў за 1966–1968 гады. Апошні брат Аляксандр чамусьці насіў толькі частку прозвішча — Корбут. Ён піяніст, акампаніраваў Ірме Пятроўне Яўнзем у оперным тэатры Масквы. З Ірмай і Аляксандрам мы з мамай сустракаліся ў Екацярынаславе падчас іх гастролей. З астатнімі з пералічаных не давялося пабачыцца з-за драматычнага лёсу нашай сям’і.

Мае бацькі былі самай шчаслівай і любячай парай на свеце. Але нядоўга. Калі мне было ад роду ўсяго пяць гадоў, за дзвярыма нашай кватэры ўжо стаяла смерць. (Захоўваем своеасаблівы стыль летапісца. — *Г. К.*)

Увосень 1918 года бацька быў забіты бандай горцаў на Каўказе, калі ехаў экіпажам з поштай арміі ў Батумі. Ахова з двух чырванафлотцаў і фурмана была перабіта ў няроўным баі.

У гэтыя дні мама была цяжарная (на сёмым месяцы), камандаванне арміі ўмоўчвала аб гібелі бацькі, каб не пашкодзіць здароўю будучай парадзіхі. Але мама адчула моцную трывогу, і да яе паслалі марака з легендай пра тое, што бацька знаходзіцца ў шпіталі пасля ранення, а пісьмо, якое ён уручыў мараку, нібыта згубілася ў дарозе. Мама яму не паверыла. Пакуль марак выкручваўся, пачаліся роды. Нарадзілася дзяўчынка (мая сястрыца), вельмі кволая, з прыкметамі эпілепсіі. Нас эвакуіравалі ў Екацярынаслаў, дзе маму паклалі ў бальніцу ў вельмі цяжкім стане, а мяне з сястрой уладкавалі ў дзіцячы прытулак.

Толькі ў 1926 годзе мама забрала нас з дзіцячага дома. Мы жылі ў калідорным памяшканні з адным акном. Там стаяў адзін ложак на траіх. Былі ў нас дзве коўдры, падушкі саламяныя, была шафа з самым няхітрым посудам. Каля сцяны столік, насупраць куфар. Самым дарагім для маці і мяне былі мамін дыплом з залатым медалём чэмпіёнкі свету па велагонках і запаветныя звязкі бацькавых і матчыных пісьмаў у цыратавых абгортках на шафе, іх было каля тысячы.

Тады мне было ўжо трынаццаць гадоў, сястры восем. Мама пачала працаваць машыністкай у павятовым выканкаме. Я бегаў на розныя заробкі — то пільшчыкам дроў, то грузчыкам у рачным порце, то прадаваў газеты на вуліцах. Гандлявалі хлапчукі і папяросамі, выкрываючы: «Папиросы “вырви глаз” — закури, рабочий класс». Увогуле жыццё кіпела, толькі заробкі былі такія малыя, што многія жылі галаднавата. Познімі вечарамі, калі мы з мамай вярталіся дамоў, каб пакарміць і падбадзёрыць сястрычку, якая амаль увесь час ляжала ў пасцелі, мы забіраліся пад коўдры і, саграваючы адно аднаго, чыталі запаветныя бацькавы пісьмы.

Пазней, калі я зноў перачытаў усе пісьмы, у маю юную галаву прыйшла нават думка стаць пісьменнікам. Мара не збылася, не захаваліся

і пісьмы, якія маглі стаць матэрыялам для рамана пра годнае і адданае каханне.

Крыху пазней я скончыў ФЗВ і працаваў чаканшчыкам на металургічным заводзе ў Днепрапятроўску (колішні Екацярынаслаў). Служыў на флоце. Астатнія гады рабіў таваразнаўцам і забеспячэнцам у «Крымнафтагазразведцы». Ад двух шлюбаў маю трох сыноў. Адзін — былы вайсковец — жыве ў Керчы, другі ў Цюменскай вобласці, выкладчык у ПТВ. Ёсць унукі. Прозвішча Карафа-Корбут працягваецца.

Вось такая мая жыццёвая адысея.

Цікавыя людзі, абломкі старых родаў, жывуць сярод нас. Якія толькі дзівосныя гены не ўліваюцца ў агульны генафонд народа. Але затрымаемся яшчэ на хвіліну ў Сімферопалі. У сям'і Юрыя Уладзіміравіча шмат чытаюць і, вядома ж, звяртаюць увагу на ўсіх аднафамільцаў, або фамільянтаў, якія сустракаюцца ў друку.

Гэта, напрыклад, італьянскі кампазітар Генрых Міхаіл Карафа (1787–1872), удзельнік напалеонаўскага паходу ў Расію 1812 года, які потым жыў у Францыі.

У рамане Дзюма «Луіза Сан-Феліча» дзейнічае энергічны і мужны Эторэ Карафа (граф Руво). Ці выпадкова? Гавораць, што Дзюма старанна выпісваў гістарычны фон сваіх захапляльных кніг.

У Сімферопалі радуюцца кожнай новай звестцы пра адгалінаванні слаўнага роду. Хіба не цікава, што да нядаўняга часу ў Львове жыла (а можа, і цяпер жыве) мастачка Соф'я Карафа-Корбут?[99]

У канцы XIX — пачатку XX стагоддзя на оперных сцэнах Пецярбурга і Варшавы выступала (часам з Шаляпіным) вядомая спявачка Наталля Эдуардаўна Карафа (Карыбут). Гэтае «ы» ў сярэдзіне другога прозвішча вельмі турбуе Юрыя Уладзіміравіча, ён лічыць яго памылкай. Магчыма. Хоць, з другога боку, у гісторыі Беларусі і Польшчы былі вядомыя не толькі Корбуты, але і Карыбуты. І ўсё ж, відаць, праўда тут на баку нашага летапісца. У кнізе «Музыкальный театр Белоруссии: Дооктябрьский период» (1990) паведамляецца пра сувязі гэтай артысткі з Беларуссю: «Не чужым быў Мінск і для вядомай опернай спявачкі Н. Э. Карафы. Тут на Захар'еўскай вуліцы ў доме № 109 жылі яе сваякі Карафа-Корбуты, і сюды спявачка часта прыязджала на адпачынак пасля стамляльных гастрольных паездак». Наталля Эдуардаўна не раз выступала на мінскай сцэне і нават давала ў Мінску ўрокі спеваў. Ведаў

[99] Між іншым, яна згадваецца ў перапісцы Л. Геніюш (Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі АН Беларусі). Львоўскія сябры пісалі паэтэсе: «Карафа-Корбут — ваша зямлячка-беларуска, якая вырасла на нашай зямлі. Надзвычай цікавы чалавек, вялікая мастачка».



дом Корбутаў на Захар'еўскай вуліцы дзеяч беларускага Адраджэння Аляксандр Уласаў, які сцвярджаў у сваіх успамінах, што ў 1860-я гады тут знаходзілася загарадная дача губернатара.

Была свая артыстка-спявачка Корбут і ў Віцебску. Праўда, Корбут яна па мужу — віцебскім землеўласніку і чыноўніку. Атрымаўшы добрую прафесійную падрыхтоўку (у 1879 годзе бліскуча скончыла Пецярбургскую кансерваторыю), яна была душой мясцовага музычна-драматычнага таварыства, выступала з канцэртамі нават у Вільні (Виленский вестник. 1884. 15 мая).

У даведніках і гістарычных крыніцах Карафа-Корбуты сустракаюцца літаральна на кожным кроку.

У Італіі і Аўстрыі Карафы ў розныя часы былі паэтамі, фельдмаршаламі, кардыналамі, аўтарамі паважных трактатаў. З гэтага роду паходзіў нават адзін рымскі папа (Павел IV, сучаснік Ф. Скарыны).

У сярэдзіне мінулага стагоддзя вельмі прыкметнай фігурай у музычным жыцці Беларусі быў Пятро Карафа-Корбут, кампазітар і выканаўца, які віртуознай ігрой на двух дзясятках інструментаў зачароўваў меламанаў Мінска, Слуцка (называюць і Нясвіж). Для сяброў у часы натхнення дэманстраваў нават такую рэдкую музыку, як «келішкафон». Належаў да таямнічых масонаў. Быў сваім чалавекам у сям'і Станіслава Манюшкі. Яго па-свойску некалькі разоў замаляваў увішным алоўкам бацька кампазітара Чэслаў Манюшка: са скрыпкай у руках або нават з вялікай люлькай у роце за сямейным сталом у пажонднай кампаніі карцёжнікаў. Памёр, па адных звестках, у 1858 годзе, па другіх — у 1840-я гады.

Ведалі гэтае адметнае прозвішча ў старым Віленскім універсітэце. Доктар філасофіі Матэвуш Карафа-Корбут выкладаў там права і логіку на пераломе XVIII–XIX стагоддзяў, калі ўніверсітэт яшчэ называўся Галоўнай літоўскай школай. А ў так званы міжваенны перыяд ва ўніверсітэце Стафана Баторыя ў Вільні былі два прафесары з гэтым прозвішчам, родныя браты: Казімір вёў гігіену, Уладзіслаў — хімію. Родам яны ажно з Сярэдняй Азіі. Сыны сасланага паўстанца 1863 года. Але бацьку звалі Вінцэнт Антон. Значыць, гэта не галіна нашых віцебскіх паўстанцаў, а нейкая іншая.

Найперш дзеля Вуля я ніколі не прамінаю дакументаў і іншых звестак пра Карафа-Корбутаў.

У мінскім гістарычным архіве неяк сустрэлася так званая рэвізская сказка сям'і дваран, не зацверджаных герольдыяй, Карафа-Корбутаў, якія сядзелі ў 1875 годзе на зямлі князёў Радзівілаў у Грозаўскай воласці Слуцкага павета: Аляксандр сын Матэвуша Фёдаравіча, Самуіл сын Міхаіла Юр'евіча, Канстанцін сын Сямёна Міхайлавіча, яго сыны Іван

і Сямён. Канстанцін Сямёнавіч, які падаў гэты дакумент, па непісьменнасці папрасіў распісацца за сябе кагосьці іншага. Выходзіць, перад намі сям'я шляхціцаў-земляробаў, блізкіх па становішчы да сялян.

Спецыялісты добра ведаюць масцітага польскага бібліёграфа і гісторыка літаратуры Габрыеля Корбута (1862–1936). Нядаўна шматтомная бібліяграфічная праца па гісторыі польскай літаратуры выдадзена пад назвай «Новы Корбут». Прозвішча, такім чынам, перайшло ў назву выдання, стала сімвалам высокай прафесійнай годнасці. Дарэчы, гэта настольная кніга і для гісторыкаў беларускай літаратуры. У грунтоўным «Польскім біяграфічным слоўніку» чытаем пра класіка літаратурнай бібліяграфіі: нарадзіўся ў Пецярбургу, сын Юзафа, юрыста, тайнага саветніка (дзяржаўны чыноўнік вышэйшага рангу). Сям'я бацькі, чытаем далей, паходзіла з літоўска-рускіх (беларускіх?) земляў і ўжывала прыдомак (дадатковае радавое прозвішча) Карафа. Значыць, знакаміты бібліёграф таксама Карафа-Корбут.

У вільнюскім архіве можна бачыць клепсідру (аб'яву аб пахаванні) Ганны Карафа-Корбут з дому Канцэвічаў, якая памерла ў 1896 годзе ў Варшаве ў даволі маладым узросце. Гэта дакументальны след нейкіх варшаўскіх Корбутаў (вельмі магчыма, размова ідзе пра першую жонку бібліёграфа).

Нарэшце, у «Польскім біяграфічным слоўніку» яшчэ раз знаходзім прозвішча, якое нас сёння так цікавіць. Зноў перад намі жанчына з каларытным наборам разнамоўных імёнаў: Людміла Ганна Гелена Карафа-Корбут. У яе гонар названа вуліца ў старажытным Кракаве. Нарадзілася каля 1882 года. Дачка паўстанца 1863 года Якубоўскага. Удзельніца антыфашысцкага падполля ў Кракаве ў часы Другой сусветнай вайны, замучана гестапаўцамі. Мяне зацікавіў яе муж: доктар Браніслаў Карафа-Корбут, нарадзіўся ў 1870 годзе ў Табольску, працаваў на чыгунцы ў Туркестане.

У 1921 годзе Людміла і Браніслаў вярнуліся ў Заходнюю Беларусь, два гады жылі ў Наваградку, дзе Браніслаў кіраваў шпіталем. Потым перабраліся ў Варшаву і Кракаў. Памёр Браніслаў у Кракаве ў 1933 годзе. Як паказала праверка па метрычных кнігах табольскага касцёла, якія захоўваюцца ў мінскім гістарычным архіве, гэта родны пляменнік нашага паэта Вуля, сын яго брата Вільгельма, сасланага, як мы помнім, якраз у Табольскую губерню. Такім чынам, мы ведаем цяпер, што пляменнік Вуля вярнуўся з Сібіры на радзіму бацькоў. У яго маглі быць нейкія цікавыя для нас матэрыялы. Але гэтая нітачка абарвалася ў 1933–1944 гадах (дзяцей у Браніслава і Людмілы не было).

У знакамітай дарэвалюцыйнай Энцыклапедыі Бракгаўза і Эфрона сказана: «Карафа-Корбуты — літоўскі дваранскі род, герба Корчак, узыходзіць да XVI стагоддзя і ўнесены ў VI і I часткі радаводнай кнігі Мінскай губерні». Апісанне герба Корчак (ім карысталіся многія шляхецкія роды) знаходзім у польскіх даведніках: на чырвоным полі геральдычнага шчыта тры сярэбраныя гарызантальныя палоскі рознай даўжыні — верхняя самая доўгая, ніжняя самая кароткая.

Даведка ў старым Бракгаўзе, дзе гаварылася пра мінскую «прапіску» роду Карафа-Корбутаў, была важным арыенцірам, падказала яшчэ адзін ход, які аказаўся досыць плённым.

У Цэнтральным гістарычным архіве рэспублікі па вуліцы Казлова праглядаю справаводства Мінскай дваранскай дэпутацкай зборні. У адрозненне ад дакументацыі Віцебскай зборні матэрыялы гэтага фонду захаваліся надзіва добра. Пра Корбутаў цэлых сем спраў — некаторыя на тысячу лістоў. А калі лічыць на старонкі, дадайце яшчэ амаль столькі ж.

Барыс Пастарнак параўноўваў працу над старымі матэрыяламі з пагружэннем вадалаза. Сапраўды, вельмі падобна.

З галавой акунаюся ў гісторыю. Мільгаюць стагоддзі і прозвішчы. Згрызеныя зубамі часу, як казалі класікі, старыя шляхецкія граматы нагадваюць беларускую казку — сабака аддаў свае радаводныя рэліквіі на захаванне кату, а мышы іх згрызлі (гэты матыў развіваецца і ў нашай паэзіі ад У. Сыракомлі да М. Лужаніна). Сярэднявечны выцвілы скорапіс, пісарскі почырк XIX стагоддзя, і як вялікая палёгка (глыток кіслароду) для сённяшніх даследчыкаў недзе ў канцы стагоддзя з'яўляецца машынапіс. Папера і пячаткі ўсіх часоў і гатункаў. Самыя розныя мовы. Словам, сапраўдны рай для даследчыка. А ва ўмовах цэйтноту, калі спяшаешся, — страхоцце. Уважліва чытаць і аналізаваць гэтыя матэрыялы трэба месяцамі, можа, і гадамі. У мяне такога часу проста няма. Выхопліваю толькі самае галоўнае.

Найперш хочацца намацаць лінію згаданага вышэй музыканта першай паловы XIX стагоддзя Пятра Карафа-Корбута, бо ведаем мы пра яго да крыўднага мала. Невядома нават, як звалі яго бацьку, а ў біяграфічна-генеалагічных пошуках без гэтага ну проста нявыкрутка. Затое ў нас ёсць геаграфічны арыенцір — нам патрэбны Пётр Карафа-Корбут, звязаны са Слуцкам і Мінскам. Напэўна, гэта Пётр Якаўлевіч, які асабіста падаў у 1844 годзе ў Мінскую зборню вялікае прашэнне з радаводнымі клопатамі (Ф. 319. Воп. 2. Спр. 1470). Як высвятляецца, нарадзіўся ён 28 чэрвеня 1790 года, відаць, на Случчыне. Увосень 1852 года ішла перапіска, што дваранін Пётр Якаўлевіч Карафа-Корбут, які паходзіць са Случчыны, а жыў у Мінску, сканаў пяць гадоў назад. Такім чынам, атрымліваем дату яго смерці — 1847 год. Яго ўдава, застаўшыся з кучай

дзяцей-малалетак, хутка выйшла замуж за мясцовага архіварыуса Фалькоўскага. Дзеці ад першага шлюбу прыпісваліся да роду Карафа-Корбутаў: Уладзіслаў Анзельм 1839 года нараджэння, Апалінар Ігнат 1843-га. Былі і дзяўчынкі: Эмілія Каятана і Людвіка. У 80-я гады Уладзіслаў Анзельм пісаў у Мінскую зборню з Сібіры, з Томска. Аказваецца, ён, будучы студэнтам Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі, таксама прычыніўся да паўстання Кастуся Каліноўскага і апынуўся за Уралам. Вось яшчэ адзін паўстанец з роду Карафа-Корбутаў.

Як аказалася, быў прыпісаны да мінскіх Карафа-Корбутаў і вялікі бібліёграф Габрыель Корбут. У справах сустракаем адпаведныя прашэнні яго бацькі, важнага пецярбургскага чыноўніка, метрычныя выпісы Габрыеля і яго братоў. Дзядзька Габрыеля надворны, а потым стацкі саветнік Варфаламей Іванавіч стала жыў у Мінску ва ўласным доме на галоўнай Захар'еўскай вуліцы, нейкі час загадваў мінскімі харчовымі складамі вайсковага ведамства. Напэўна, у яго і спынялася спявачка Наталля Карафа. І яшчэ адна дэталь. У Варфаламея Іванавіча быў сын Станіслаў Віктар, 1859 года нараджэння. Трэба думаць, гэта той самы Станіслаў Варфаламеевіч, дзед нашага сімферопальскага летапісца.

Падчас чарговага пагружэння ў архіўныя нетры выплываю з каштоўнай здабычай у руках — дакументамі пра прыпіску да дваранства ў самым канцы мінулага стагоддзя Фёдара Васілевіча Карафа-Корбута, які нарадзіўся ў 1891 годзе ў засценку Малінава пад Глускам. З прыемнасцю пішу пра гэта ў падмаскоўнае Галіцына, дзе жыве яго сын. Вядома ж, яму дарагая кожная вестачка пра бацьку, пра карані.

Мімаходзь вылоўліваю агульныя цікавыя матэрыялы з гісторыі роду, з якіх відаць, як паступова складвалася, удакладнялася сямейная легенда. Вось адна з версій, зафіксаваная ў старых дакументах: «…род просителя Караффа-Корбутов, состоящий в польском дворянстве, берет свое начало из Неаполитанского Королевства от фамилии Караффов, подтверждает о сем издание автора итальянского Aldimari под названием Storia della familia Caraffa за 1691 год. Один из сей фамилии Павел Караффа в царствование короля польского Владислава Ягеллы перешел в Польшу и, будучи при королевском дворе, вступил в воинскую службу и впоследствии, проживая в Польше, оставил сына Матвея, который тоже состоял в воинской службе в царствование Владислава III, отличился в войне с Турками, за что был награжден чином ротмистра и особо получил имение, прозываемое Корбутово, состоящее Волынского воеводства в Хелмской Земле, как удостоверяет первоначальное определение Виленского Дворянского Депутатского Собрания, и с того времени к своему первому прозванию принял другое, свойственное Славянскому и Литовскому Народу Корбут… Потомки его завсегда



были полезны Отечеству, исполняя обязанности, приличные дворянскому званию».

Хочацца і паспрачацца: хутчэй, Корбутава паходзіла ад прозвішча, а не наадварот.

Апекунамі Корбутаў у XVI стагоддзі (гэта ўжо дакументальна) былі слуцкія князі Алелькавічы, якія далі ім зямлю ў сваіх уладаннях. У Беларусі яны добра прыжыліся. Лік Корбутаў рос у геаметрычнай прагрэсіі, яны бяднелі, рассейваліся па свеце. Бачым, як у XIX стагоддзі царскі ўрад спрабаваў адсекчы асобныя галіны роду, пераводзячы іх у аднадворцы, мяшчане, нават сяляне. З гэтым працэсам мы добра знаёмыя і паводле жыццяпісу Янкі Купалы.

Загадкавае сваім непастаянствам спалучэнне двух прозвішчаў, экзатычнасць першага з іх нярэдка выклікалі розныя пытанні, асабліва ва ўмовах Расіі, мала знаёмай з падобнымі з'явамі[100]. Мінская зборня, іншыя дваранскія ўстановы былі вымушаны не раз даваць з гэтай нагоды пісьмовыя тлумачэнні. Прывядзём адно з іх, выдадзенае знаёмай нам ужо ўдаве музыканта, якая да 1868 года, відаць, паспела пахаваць і другога мужа — тытулярнага саветніка:

«Дано сие от Минского Уездного Предводителя Дворянства вдове титулярного советника по первому браку Антонине Карафа-Корбутовой, а по второму Фальковской в том, что слово "Карафа" прежде фамилии Корбут не составляло фамилии в тесном смысле и употреблялось необязательно и произвольно членами рода, так что некоторые из них это слово ставили прежде фамилии своей и показывали по документам и Метрическим выписям, а другие нет; слово это, как и другие подобного рода, в польских фамилиях обыкновенно употребляемые, назывались на польском языке "пржидомок". В уверение чего подписом моим с приложением казенной печати удостоверяю. Губернский город Минск. Ноября 28 дня 1868 года».

Яшчэ адзін дакумент — 1889 года — перадае разгубленасць начальства Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі перад нязвыклай анамастычнай сітуацыяй.

«Младший врач 104 пехотного Устюжского полка Александр Васильевич Корбут-Караффа, удостоенный степени лекаря конференциею Академии 13 ноября 1887 года, просит о восстановлении правильности его фамилии на основании имеющихся в Академии документов и о перемене ее на фамилию "Караффа-Корбут". Из хранящихся при делах Академии документов означенного врача усматривается, что в выданном из Минской духовной консистории свидетельстве о рождении от

[100] У Расіі бывалі падвойныя прозвішчы, але не было т. зв. прыдомкаў — неабавязковых родавых прыдаткаў да асноўнага прозвішча.

12 декабря 1864 года за № 11874, аттестате зрелости Слуцкой гимназии от 12 июня 1882 года за № 1037 и в свидетельстве о приписке к Слуцкому призывному участку… он назван по фамилии “Корбут”, в свидетельстве же Минского дворянского депутатского собрания от 25 октября 1866 года за № 3194 он именуется то “Карафф-Корбут”, то “Караффа-Корбут”, то “Корбут”.

Ввиду вышеизложенного, покорнейше прошу Минское дворянское депутатское собрание уведомить Академию, как именно должен быть назван упомянутый выше врач в лекарском дипломе, который имеет быть изготовлен взамен прежде напечатанного и присланного в Академию для перемены».

Адказ зборні мы з вамі прадбачым беспамылкова — Карафа-Корбут.

Дарэчы, і доктар Браніслаў Вільгельмавіч, пляменнік Вуля, быў запісаны ў 1870 годзе ў метрычную кнігу табольскага касцёла пад прозвішчам «Корбут», і толькі праз 39 гадоў спецыяльнай пастановай кансісторыі запіс быў дапоўнены «предфамильным названием его “Караффа”». Так што нялёгкія, ох, нялёгкія прыгоды былі наканаваны гэтаму прозвішчу і яго носьбітам.

Але чым мяне асабліва ўсцешылі дакументы Мінскай зборні — у іх таксама адшукаліся сляды віцебскіх Корбутаў.

У 1844 годзе сюды звярнуўся цёзка музыканта, настаўнік французскай мовы Гродзенскай гімназіі, з дваран Пінскага павета Мінскай губерні Пётр Фаміч Карафа-Корбут, які прасіў выслаць дваранскае пасведчанне на сябе і сваіх братоў Маўрыкія, Ігната, Восіпа і Івана на адрас згаданага брата Ігната ў маёнтак Угрынічы на Піншчыне. Такім чынам, акрэсліліся сваяцкія сувязі Маўрыкія Фаміча, бацькі нашага паэта. Аказалася, што дзед паэта Фама Восіпавіч ажно «94 месяцы» (так у дакуменце — амаль восем гадоў) правёў у сценах Віленскага шляхецкага кадэцкага корпуса, які рыхтаваў сыноў шляхты не толькі для вайсковай, але і для цывільнай службы. Фама выбраў цывільную. Выпушчаны з корпуса з прыхільнай граматай самога караля Станіслава Аўгуста, у 1791 годзе атрымаў патэнт на пасаду пінскага каморніка.

Паводле перапісу 1795 года, маці Фамы Брыгіда Корбутава жыла ў Гродне, дзе мела ўласны дом, падораны каралём, на Басняцкай вуліцы, пад № 560. У дакументах яна з пашанаю называлася ўдавой чэсніка Аршанскага павета. Сям’я была моцна раскідана. Фама, як мы ведаем, апынуўся ў Пінску. Яго браты Фларыян (той самы Флор Восіпавіч, які згадваўся ў колішнім прашэнні Маўрыкія Фаміча), Антон (паручнік былых польскіх войск) і сястра Элеанора — у Курляндыі, старэйшы брат Ігнат у Варшаве, сястра Уршуля ў ваяводстве Мсціслаўскім, Апалонія выйшла замуж за нейкага Вольфальтэра, часам ад яе даходзілі весткі



аднекуль з Францыі. Такая рухавасць, мабільнасць — характэрная рыса роду. Таму так цяжка сабраць у адно цэлае шматлікія галіны радаводнага дрэва, якія шырока раскінуліся па свеце.

Адным з хавальнікаў фамільных традыцый быў якраз паэтаў бацька Маўрыкій Фаміч. Цікава, што з ім, прынамсі, паводле спісу 1844 года, жыла маці, Варвара Восіпаўна Палонская, хоць сыноў у яе, як мы ўжо ведаем, было многа. У Маўрыкія Фаміча былі і некаторыя сямейныя рэліквіі — згаданая каралеўская грамата бацьку 1788 года з нагоды выпуску з Віленскага кадэцкага корпуса і яго каморніцкі патэнт. У 1830 годзе Маўрыкій Фаміч прадбачліва ўпісаў гэтыя дакументы ў актавыя кнігі Віцебскага галоўнага суда, дзе тады працаваў канцылярыстам. У справах Мінскай зборні яны фігуравалі ўжо ў копіях з тых віцебскіх актавых кніг.

А ў 1847 годзе Маўрыкій Фаміч звярнуўся ў Мінск з наступным прашэннем:

«В прошлом 1843 году декабря 22 дня представлены в Витебское Дворянское Депутатское Собрание доказательствы на Дворянское происхождение рода Караффов-Корбутов в числе прочих на сыновей бывшего Пинского коморника Фомы Караффа-Корбута, то есть меня просителя и родных братей моих Петра, Игнатия, Иосифа и Ивана Фоминых сыновей Караффов-Корбутов по дворянскому их происхождению от Иосифа деда, Казимира прадеда и дальнейших предков Караффов-Корбутов, узнал же я, что на таковое ж происхождение дворянское поименованных лиц находятся документы и в Минском Дворянском Депутатском Собрании, а потому… всеподданейше прошу —

Дабы повелено было… находящиеся в Минском Собрании документы на происхождение бывшего Пинского коморника Фомы Осиповича Караффа-Корбута и его сыновей Маврикия, Петра, Игнатия, Иосифа и Ивана Караффов-Корбутов, отделив от общего дела о роде Караффов-Корбутов… препроводить таковые в витебское Дворянское Депутатское Собрание на зависящее со стороны сего последнего распоряжение и меня о сем по жительству моему в городе Витебске во 2-й части в доме мещанина Бовтутова почтить уведомлением чрез Витебскую Городскую Полицию»[101].

Што ні кажыце, гэта была фатальная памылка, дарэмна Маўрыкій Фаміч перанёс справу ў Віцебск, бо Віцебская зборня, як мы ведаем, не здолела давесці перад пецярбургскай герольдыяй дваранства гэтай галіны Карафа-Корбутаў.

І вось на што яшчэ хочацца звярнуць увагу. У 1847 годзе паэту было ўжо 12 гадоў, і, вядома ж, ён быў у курсе ўпартага змагання сям’і за

[101] ЦДГА ў Мінску. Ф. 319. Воп. 2. Спр. 1577. Арк. 290.

дваранскія правы. Праз каларытную гісторыю роду, праз шырокія сваяцкія сувязі ён вучыўся лепей пазнаваць родны край: дзядзька Пётр выкладаў элеганцкую французскую мову на другім канцы Беларусі ў Гродне[102], другі дзядзька — Ігнат — жыў на мяжы з Украінай у маёнтку Угрынічы (відаць, на правах нейкага службоўца — маёнткам у розныя часы валодалі князі Дольскія, потым Чарнецкія і Орды).

Характэрна, што і ў 1847 годзе віцебскія Корбуты кватаравалі ў таго ж мешчаніна Баўтуты, што і ў часы паўстання (у гэтым дакуменце ён названы на рускі лад Баўтутавым).

Пара падвесці вынікі нашых даследаванняў. Мы высветлілі, што Карафа-Корбуты — вельмі разгалінаваны старадаўні шляхецкі род, цесна звязаны з Беларуска-Літоўскім краем. Многія яго прадстаўнікі на працягу стагоддзяў унеслі прыкметны ўклад у гісторыю і культуру Беларусі, Польшчы, Расіі, Літвы, Украіны.

Прамых нашчадкаў віцебскіх Корбутаў нам адшукаць пакуль што не ўдалося, калі не лічыць звестак пра памерлага ў 1933 годзе доктара Браніслава Вільгельмавіча, але мы даведаліся нямала цікавага пра сам гэты ў нечым унікальны род дый заадно пераканаліся яшчэ раз, што кожны сямейны, фамільны радавод — непарыўная частка айчыннай гісторыі. Бо гісторыя народа, як тканіна з асобных нітак, складаецца з тысяч і тысяч індывідуальных і сямейных лёсаў. Праз прадстаўнікоў аднаго роду мы атрымалі каларытны зрэз гісторыі грамадства за многія дзесяцігоддзі.

Думаем, што сама наша публікацыя паможа ў далейшых пошуках, дазволіць лепш уявіць постаці таленавітага беларускага паэта мінулага стагоддзя Элегія Францішка Вуля або яго старэйшага сучасніка — музыканта Пятра Карафа-Корбута.

На наш нарыс пасля апублікавання былі водгукі.

Зрэшты, калі матэрыял яшчэ чакаў сваёй чаргі ў «Полымі», даследчык Ігар Запрудскі паведаміў[103] радасную навіну: у польскай газеце пярэдадня паўстання 1863 года ён знайшоў карэспандэнцыю Вуля з Віцебска. Яркую, змястоўную. Адкрыўся зусім новы, шматабяцальны ракурс — Вуль-журналіст. Гэта сапраўдная падзея ў вывучэнні творчасці таленавітага паэта дый заадно літаратурна-культурнага жыцця Віцебшчыны.

[102] Відаць, быў настаўнікам Віктара Каліноўскага, калі той у 1851 г. для завяршэння гімназічнай адукацыі перабраўся са Свіслачы ў Гродна. У другой палове 1860-х гг. настаўнічаў у Міры.

[103] Потым была і публікацыя: Запрудскі І. Вядомы адным вершам // Літ. і мастацтва. 1993. 19 сак.



Прачыталі мой нарыс у Маскве, у доме на Аланецкім праездзе. Міхаіл Іванавіч Карафа-Корбут адпісаў: «Мне ўжо дзевяноста гадоў, зрабіўся сляпы, амаль глухі, ногі баляць, і трохі хаджу па пакоі з кіёчкам, галава цяжкая. Перанёс ужо інфаркт і інсульт. Пры такім стане майго здароўя і 80-гадовым узросце Луізы Генрыхаўны зразумейце правільна наш настрой: жыць без справы вельмі цяжка, тым больш пасля шматгадовай самай разнастайнай працы. Паверце, што атрыманы Ваш нарыс надаў нам бадзёрасці лепш за ўсякія лекі і ў нас з'явілася цікавасць жыць…»

Прыйшло «Полымя» ў школьную бібліятэку вёскі Лукі пад Жлобінам. Раскрыла свежы нумар бібліятэкарка Людміла Леанідаўна Шаўцова і растрывожылася. Чаму, што яе так усхвалявала — відаць з пісьма, атрыманага мною праз рэдакцыю: «Вы пішаце пра Карафа-Корбутаў. У прыватнасці, пра Уладзіміра Дзмітрыевіча Акульшына, што жыве ў Галіцыне пад Масквой. Яго бацька Фёдар Васілевіч нарадзіўся ў вёсцы Малінава Бабруйскай акругі.

У вёсцы Малінава на Глушчыне нарадзілася і мая бабуля Карафа-Корбут Вольга Васілеўна. У яе былі два браты — Фёдар і Іосіф. Фёдар быў афіцэрам, а Іосіф — камендантам горада Арла. Гэта ўсё, што я ведаю са слоў маёй цяпер нябожчыцы маці. Ніякіх дакументаў не захавалася. Іх усе давялося спаліць у 1937 годзе, калі майго дзеда Караткевіча Іануарыя Іванавіча (мужа Вольгі Васілеўны) забралі і пасадзілі ў турму як ворага народа. Захавалася толькі фатаграфія: дзядуля, бабуля і трое першых дзяцей. Усіх дзяцей было сямёра. Жылі яны ў вёсцы Дабужа Рэчыцкага раёна[104].

Паважаны Генадзь Васілевіч, вельмі прашу: перашліце гэтае пісьмо Уладзіміру Дзмітрыевічу… Я думаю, ён пажадае з намі пазнаёміцца (нас многа)».

Выходзіла, што У. Д. Акульшын — стрыечны дзядзька маёй карэспандэнткі, які цудам адшукаўся. Я павіншаваў Уладзіміра Дзмітрыевіча са шчаслівым уваходжаннем у шматлікі «клан» (у добрым сэнсе) беларускіх сваякоў, з выхадам на свае пракаветныя карані-вытокі.

Былі і яшчэ пісьмы, званкі, пытанні, парады.

Калегі па Інстытуце літаратуры падказалі: прозвішча Карафа-Корбут зафіксавана і ў купалазнаўстве — так звалі, аказваецца, адна-

[104] Поўнае прозвішча дзеда Іануарыя (Януара) таксама характэрнае — Корвін-Караткевіч. Усе яго сыны (а іх пяцёра) з годнасцю прайшлі вайну, адзін загінуў. Цікавая згадка пра род Караткевічаў, да якога належаў і наш славуты пісьменнік, аўтар «Каласоў пад сярпом тваім», ёсць у дакументальнай аповесці У. Ліпскага «Адпяванне жывых», надрукаванай у «Полымі» — так ужо сталася — адначасова з маім нарысам. Што да гэтай галіны Корбутаў, то апрача Дабужы яны жывуць цяпер у Светлагорску, Жлобіне і іншых мясцінах Беларусі. Сярод іх людзі розных прафесій: настаўнікі, урачы, рабочыя.

го з выкладчыкаў знакамітых дарэвалюцыйных Чарняеўскіх курсаў у Пецярбургу, дзе вучыўся ў свой час Янка Купала[105]. Мабыць, гэта той самы Казімір Вікенцьевіч Карафа-Корбут, прызнаны спецыяліст у галіне гігіены, які пазней быў прафесарам у Віленскім універсітэце. Выходзіць, ён вучыў і Купалу. Курсы збіралі лепшыя выкладчыцкія сілы, абы-каго туды не запрашалі.

Сустракаем гэтае прозвішча сярод удзельнікаў Слуцкага паўстання 1920 года (Літ. і мастацтва. 1993. 29 студз.).

Зычлівы і памятлівы Максім Лужанін, які не раз даваў мне творчыя імпульсы, расказаў, што ў іх на Случчыне, недзе на мяжы Цароўскай і Грозаўскай валасцей, таксама жыў Карафа-Корбут, таўсматы такі фальварковец, уладальнік добрага млына і крупарушкі. Памёр ён у Першую сусветную вайну, і сяляне паступова расцягалі з апусцелага дома даволі прыстойную бібліятэку. Самому Лужаніну, тады вясковаму хлопчыку-падшыванцу, дасталіся два ладныя польскія томікі — Пруса і Канапніцкай. Падзеі жыва каментаваліся ўсёй ваколіцай. Вясковыя мудрацы яшчэ каламбурылі, што памёр Корбут «ад карафкі».

Я палез у лексіконы і са здзіўленнем даведаўся, што звычайнае польскае «карафка» (графін; сустракаецца гэтае слова і ў Багушэвічавым «Смыку беларускім») паходзіць ад італьянскага «карафа» (таксама адмысловая пасудзіна-бутэлька для трункаў). Ёсць блізкія словы ў многіх еўрапейскіх і славянскіх мовах, усе яны, у сваю чаргу, шляхам узаемных запазычанняў узніклі ад арабскага слова, якое азначае «збан». Ды і наш прасцецкі «графін», калі пакапацца, адсюль жа — ад «карафы», ад арабскіх, італьянскіх, іспанскіх выгінастых пасудзін з духмянымі напоямі паўднёвых экзатычных краін. У рэшце рэшт — ад блаславёнага, жыццядайнага сонца Міжземнамор'я.

Вось такая нечаканая этымалогія.

[105] Гл.: Дэконская В., Дапкюнас Ж. Чарняеўскія курсы і Я. Купала // Народныя песняры. Мінск, 1972. С. 196.



# ДЗВЕ «ПАЛАВІНКІ» АДНАГО ЖЫЦЦЯ
## Ляскоўскі — Карабіч

…Нібы заве мяне
прыдзвінская зямля.
*С. Панізнік*

Мне заўсёды цікавая была, калі так можна сказаць, псіхалогія даследчыцкага пошуку, шлях да знаходкі, уражвалі выпадкі, калі ўважлівым супастаўленнем і аналізам удавалася аб'яднаць зусім розныя, здавалася б, факты, а то і злучыць, зляпіць разарваныя «палавінкі» аднаго жыцця…

1883 год. У вёсцы Страганы на Віцебшчыне дажывае свой век заслужаны беларуска-польскі пісьменнік і фалькларыст Аляксандр Рыпінскі. Ён працуе над гісторыяй літаратуры роднага краю і ў пісьме ў Варшаву да Адама Плуга паведамляе спіс беларускіх пісьменнікаў, імёны якіх удалося яму расшукаць, вырваць з нябыту. Усяго ў спісе 55 прозвішчаў. Пад № 22 — Ляскоўскі Юльян.

Праз многа гадоў, рыхтуючы гэтае пісьмо да публікацыі ў зборніку «Пачынальнікі», задумаўся: а што, уласна, мы ведаем пра Ляскоўскага, якія падставы былі ў Рыпінскага адвесці яму нейкае месца на беларускім Парнасе?

Адзінае, што было вядома, — у 1861 годзе ён выдаў у Вільні ў выдавецтве Кіркора зборнік вершаў на польскай мове «Беларускі бандурыста». І ніякіх біяграфічных звестак. Так сказаць, голы бібліяграфічны факт. У 1913 годзе руплівы Вацлаў Ластоўскі пад псеўданімам Власт надрукаваў у «Нашай ніве» артыкул «Пamажыця!», у якім звяртаўся да чытачоў з просьбай памагчы ў зборы матэрыялаў з гісторыі беларускай літаратуры XIX стагоддзя. Артыкул вельмі насычаны, змястоўны — прозвішчы, прозвішчы, кароткія лаканічныя звесткі пра піянераў новай літаратуры, просьбы аб іх папаўненні, аб прысылцы матэрыялаў. Ці ёсць там што пра Ляскоўскага? Вось, калі ласка: «Нам казалі, быццам “Białoruski Bandurysta” спярша быў напісаны па-беларуску, а ўжо пасля пераложаны на польскую мову самім аўтарам. З вершаў яго відаць, што ён быў гарачы беларускі патрыёт… На друкаваным экзэмпляры “Biał.

Bandurysty” напісана: “Majej żanie”, відаць, рукою аўтара. Патрэбна яго біяграфія, партрэт і творы». Ластоўскі спяшаўся. У тыя часы яшчэ жывыя былі людзі, якія асабіста ведалі пісьменнікаў нядаўняга XIX стагоддзя, у тым ліку, можна было спадзявацца, і Ляскоўскага.

На артыкул «Памажыця!», а таксама на дадатковыя вусныя (прынамсі, недрукаваныя) звесткі Р. Зямкевіча спасылаўся Я. Карскі, які ў сваіх «Белорусах» (1922) аднёс Ляскоўскага да пісьменнікаў, пра беларускія творы якіх ёсць толькі паданні і чуткі. Назваўшы вядомы нам зборнік Ляскоўскага, Карскі дадаў: «Хотя эта книга вся на польском языке, но есть предположение, что автор писал и по-белорусски, между прочим, он переводил баллады Мицкевича». Апошняя заўвага асабліва каштоўная — якраз яна і зыходзіла, хутчэй за ўсё, ад вельмі інфармаванага Зямкевіча, апантанага збіральніка беларускіх рукапісаў і іншых гісторыка-літаратурных матэрыялаў, які быў сапраўдным знаўцам гісторыі культуры Белай Русі.

У 1915 годзе (яшчэ да Карскага) Ляскоўскага прыгадаў Максім Багдановіч у наступным пасажы свайго вядомага нарыса-даследавання «Белорусское возрождение»: «Точно так же почти не печатались, хотя и писали на белорусском языке, поэты Ялеги Францишь Вуль, Н. Короткевич, Юлиан Лясковский, Якуб Т-ки, Юлиан Мрочек и мн. др. Не вдаваясь в детальную оценку их творчества, подчеркнем все же, что со времени сороковых годов белорусская письменность значительно продвинулась вперед». Вуль, Караткевіч, Якуб Т-кі (яшчэ не раскрыты крыптанім) увайшлі ў гісторыю нашай літаратуры дзякуючы альбому А. Вярыгі-Дарэўскага, дзе ёсць іх аўтографы. Мрочак наогул таямнічае для нас імя, Багдановіч прывёў яго, хутчэй за ўсё, паводле глухой згадкі ў «Живописной России» (1882). Пра Ляскоўскага Багдановіч ведаў, трэба думаць, з цытаванага артыкула Ластоўскага «Памажыця!». Праца Багдановіча «Белорусское возрождение» двойчы перадрукоўвалася ў зборах твораў паэта (1928, 1968), але каментатары давалі пра Ляскоўскага вельмі лаканічныя, мінімальныя звесткі: «…з’яўляецца аўтарам польскага зборніка “Białoruski Bandurysta” (Wilno, 1861) і, відаць, пісаў вершы па-беларуску…» (1928). Каментатары 1968 года яшчэ больш скупыя на інфармацыю: «…з’яўляецца аўтарам зборніка “Беларускі бандурыста” (Вільня, 1861)» — і ўсё.

Польскі славіст, сябар Беларусі Юзаф Галомбак у манаграфіі пра В. Дуніна-Марцінкевіча (1932) аднесіў Ляскоўскага да польскіх паэтаў беларускай школы, якія па-беларуску не пісалі. У цэлым ён высока ацэньваў творчасць паэта. Вось гэтае месца з яго манаграфіі:

«Самым лепшым у гэтым раздзеле трэба прызнаць зборнічак вершаў Юльяна Ляскоўскага пад назвай “Беларускі бандурыста”, у якім паэт



змясціў (с. 15–105) лірыка-эпічную паэму пад назвай “У чужой старане”. У гэтым творы аўтар усім сэрцам і душою застаецца са сваёй роднай Беларуссю, якую горача любіць і па якой гадамі сумуе на выгнанні ў Францыі. Якраз гэтае пачуццё надае твору надзвычай многа харараства. Гэты твор трэба залічыць да беларускай школы таму, што паэт уплятае ў апавяданне народныя аповесці і паданні-балады, прычым ужывае беларускія звароты і выразы, хоць у гэтых адносінах вельмі асцярожны. Вартасць паэмы заключаецца ў пастаянным наследаванні плыні народнай песні і ў паэтычнай трактоўцы паданняў. Ляскоўскі паэт вельмі ўражлівы, умее ён дзе-нідзе ўжыць моцны выраз, каб падкрэсліць пачуццё, і больш прыгожа ў параўнанні з В. Марцінкевічам раскрыць вобраз роднай зямлі, напрыклад у вершы, у якім наследуе Багдану Залескаму:

U nas inaczej!.. wniz po Berezynie
Sotnia baidaków w czarnomorze płynie,
A świtem, z rosą dzwoni nóta śpiewna
Pieśni prostaczej, a tęskna, a rzewna (с. 29).

Ляскоўскім канчаецца агляд паэтаў, якія любілі Беларусь толькі на польскай мове». Абарвём тут цытату, з якой відаць, што Галомбак, па сутнасці, зыходзіў толькі з адной рэаліі — зборніка «Беларускі бандурыста».

Зборнічак Ляскоўскага (па звестках А. Мальдзіса, забаронены ў 1864 годзе), на шчасце, ёсць у нас у Мінску ў акадэмічнай бібліятэцы — гэта зноў жа сведчыць, што яе руплівыя супрацоўнікі не сядзяць склаўшы рукі, а як мага папаўняюць сваю бібліятэку рэдкімі скарбамі. Праглядаю кніжку, каб пазнаёміцца з творчасцю паэта, а заадно выявіць хоць нейкія факты яго біяграфіі, як яны адлюстраваліся ў творах.

Зборнік выдадзены Кіркорам за кошт аўтара. Дазвол на выпуск кнігі даў 10 лістапада 1860 года знакаміты цэнзар Павел Кукальнік, які бласлявіў у друк і многія кніжкі Дуніна-Марцінкевіча. На асобнай старонцы нечаканае прысвячэнне: «У гонар айцоў бернардзінцаў, што навучылі мяне чытаць і пісаць». Хоць, калі ўдумацца, чаму ж нечаканае? Цяпер даследчыкі мяркуюць, што і славуты Францыск Скарына атрымаў першую адукацыю якраз у бернардзінцаў, якія ўжо ў вельмі далёкія часы з’явіліся ў Вільні і Полацку.

Але найперш звяртае на сябе ўвагу сама назва. Тут яўны пошук традыцый, апоры на папярэднікаў, пераклічка са зборнікам Дуніна-Марцінкевіча «Дудар беларускі», выдадзеным у Мінску ў 1857 годзе, як і Дунін-Марцінкевіч, у сваю чаргу, несумненна, адштурхоўваўся ў нечым ад Шаўчэнкавага «Кабзара». Сюды ж кладзецца і псеўданім

Вярыгі-Дарэўскага «Беларуская дуда». Перад намі яўнае жаданне стварыць беларускую «музыку». Гэтая ж лінія будзе працягвацца пазней у назвах кніжак Багушэвіча, Цёткі і нават Купалы — «Дудка», «Смык», «Скрыпка», «Жалейка»…

16 кастрычніка 1860 года ў Вільні (вось нейкая зусім пэўная храналагічна-біяграфічная вяха) Ляскоўскі падпісаў свой паэтычны запеў — «Да братоў лірнікаў», якім адкрываецца зборнік. «З чужой стараны я да вас сюды прыходжу, вам незнаёмы, хоць брат ваш родны… » Паэт гаворыць пра сустрэчы на эміграцыі з журботнымі «вандроўнымі лірнікамі», якія раілі яму співаць не толькі для паноў, але найперш пры лучыне для простага народа, нагадвае, што Вільню ведаў яшчэ ў маладосці, малюе цяжкасці адаптацыі пасля доўгай разлукі з радзімай: «Абег вёскі і сядзібы драўляныя, здаецца, тыя ж самыя — ах, я не памыляюся! Прайшоў столькі, агледзеў столькі. Усё як даўней — месцы добра знаёмыя!», «І шукаю сваіх… але свае памерлі, мала хто застаўся — іншыя не прызналі».

Зусім як у Лермантава:

Найду ль там прежние объятья?
Старинный встречу ли привет?
Узнают ли друзья и братья
Страдальца после многих лет?

Или среди могил холодных
Я наступлю на прах родной?..

*(«Спеша на север из далека…». 1837)*

Вялікая паэма «У чужой старане», як сведчыць пра тое адпаведная паметка пасля тэксту, напісана ў Лондане ў 1855 годзе. Яна заснавана на непрыняцці багатага, уладкаванага, але халоднага і меркантыльнага Захаду і на рамантычнай паэтызацыі роднага краю, стараны «над Дзвіной, над Сергучам, над Бярэзінай», з яе незлічонымі курганамі, паданнямі, простым, шчырым, прыгожым і мудрым народам, які жыве ў поўнай згодзе з прыродай і ўласным сумленнем. Паэт успамінае старога знахара Івана з роднай вёскі, які некалі рупліва ўводзіў яго, паніча, у паэтычны космас народнага светаўспрымання. Некаторыя легенды прыводзяцца цалкам, у паэтычнай апрацоўцы аўтара становяцца натуральнымі часткамі мастацкай тканіны паэмы. Прычым аўтару важна ўказаць на аўтэнтычнасць першакрыніцы, і тады ў падрадковай заўвазе мы чытаем: «Уся гэтая аповесць узята з падання люду над Дзвіной». Вельмі важная тэма твора — гісторыя, яе маральныя ўрокі, вернасць суроваму, гераічнаму мінуламу свайго народа. На думку аўтара, паны



здрадзілі сваім мужным продкам, захапіліся заморскімі звычаямі. Паэт супрацьпастаўляе ім «кмеця простага, шарачковага шляхціца», якія свята трымаюцца сваёй радзімы. «Мовай, звычаем у два супрацьлеглыя бакі мы разышліся…» Зразумела, падобныя думкі рыхтавалі глебу для ўзнікнення літаратуры на мове гэтага «кмеця» і шляхціца-земляроба. На беларускай мове. Канчаецца паэма апафеозам роднага краю. Лірычны герой, як гавораць спецыялісты (ці не цалкам, скажам мы, у дадзеным выпадку тоесны аўтару), звяртаецца да радзімы: «Калі я ўбачу твае абшары, твае русалчыны бары, балоты. І люд твой чулы…». Паэт зноў хоча пачуць наддзвінскую песню, убачыць родную зямлю, дзе чакаюць яго маці і сястра, дзе бацькоўская магіла.

Сваёй выразнай сацыяльнасцю вылучаецца верш «Сірата» (1859). Горкая сіроцкая доля — наогул скразная тэма паэзіі Ляскоўскага («Вясной», 1859; «З вясной, дзяўчына-сіротка», 1860). Перад намі паэт-рамантык, паслядоўнік заснавальніка «ўкраінскай школы» ў польскай паэзіі Багдана Залескага (у Ляскоўскага ёсць адпаведныя прызнанні). Характэрна, што Залескім цікавіліся іншыя беларускія паэты — у прыватнасці, на пераломе двух стагоддзяў яго перакладаў Карусь Каганец. Сам Залескі выказваў увагу да беларускай літаратуры — сярод яго папер у Кракаве Я. Янушкевіч знайшоў спісы «Тараса на Парнасе», верш В. Савіча-Заблоцкага. Так што падстава для ўзнікнення нейкага поля прыцягнення паміж Залескім і Ляскоўскім (можа быць, узаемнага) была. Дарэчы, уплывам Залескага можна тлумачыць назву зборніка Ляскоўскага: бандура, хутчэй, украінскі, а не беларускі музычны інструмент. (Якраз у 1861 годзе ў сваім аглядзе творчасці Дуніна-Марцінкевіча ўкраінскіх бандурыстаў прыгадаў У. Сыракомля.)

Ляскоўскі шмат узяў ад рамантыкаў. Але не цураецца ён і рэалістычных карцін. Асабліва характэрны ў гэтых адносінах верш «Незабаўныя забаўкі», напісаны ў Вільні 20 кастрычніка 1860 года. Там паказаны гарадскі шынок-трактір, здзекі сытага натоўпу з бедных наведнікаў, што зарабляюць сабе пачастунак убогім спяваннем па заказе гасцей. Верш заклікае да міласэрнасці.

Мяркуючы па змесце зборніка, аўтар паходзіў з усходняй Беларусі, з Падзвіння. Звернем таксама ўвагу на рэкі Бярэзіну і Сергуч, што называюцца ў паэме «У чужой старане». Асабліва цікавая нам у дадзеным выпадку маленькая рэчка Сергуч, прыток Бярэзіны ў яе верхнім цячэнні. Сергуч уваходзіць у сістэму Бярэзінскага канала, які злучаў Бярэзіну (і праз яе басейн Дняпра) з Дзвіной. Тут праходзілі старадаўнія маршруты купцоў і вояў, пра што згадваецца ў гістарычным рамане Я. Дылы «На шляху з варагаў у грэкі», але найбольш ведалі Сергуч, зразумела, мясцовыя жыхары. Так што, магчыма, Ляскоўскі і паходзіў

якраз з тых ваколіц (сённяшнія Лепельскі і Докшыцкі раёны Віцебскай вобласці). Але з прысвячэння вядома, што паэт вучыўся чытаць і пісаць у бернардзінцаў. Ці былі ў тым рэгіёне бернардзінцы? Знаёмлюся з адпаведнай літаратурай (існуе нават двухтомная манаграфія «Бернардзінцы ў Польшчы», дзе гаворыцца і пра гісторыю гэтага ордэна ў Беларусі) і раблю для сябе адкрыццё. Паблізу, у мястэчку Беразіно Барысаўскага павета (цяпер вёска Докшыцкага раёна), быў да 1832 года бернардзінскі асяродак (кляштар), дзе Ляскоўскі і мог атрымаць сваю першую адукацыю (у першай трэці XIX стагоддзя многія каталіцкія ордэны — езуіты, піяры, дамініканцы і г. д. — з дазволу, а дзе, магчыма, і без дазволу ўрада займаліся навучаннем, утрымлівалі школы). У паэме згадваецца таксама «Будская святая Марыя», перад абразом якой маліўся аўтар у маленстве «ў месцы, шырока вядомым цудамі». Думаецца, што гэты пасаж можна аднесці да недалёкага будслаўскага бернардзінскага касцёла, прысвечанага якраз Маці Божай. Ёсць звесткі, што Будслаў і пайшоў ад адзінокай буды манаха-пустэльніка ў лесе.

Пра будслаўскія святыні быў артыкул у «Спадчыне» (1991, № 4). Яго аўтар В. Дубінка піша: «Вядома, што пры будслаўскім кляштары бернардзінцаў існавала музычная школа, парафіяльная школа, а крыху пазней — народнае вучылішча. Вучылі тут і багаслоўскім навукам, чытанню і пісьму, матэматыцы, геаграфіі, фізіцы, замежным мовам». У наш час (Полымя. 1961. № 8) у сутарэннях будслаўскага касцёла была выяўлена цэлая бібліятэка старадаўніх кніг. Так што Ляскоўскі мог атрымаць дастатковую адукацыю таксама ў Будславе.

Пойдзем далей, адштурхоўваючыся ад пэўных храналагічна-геаграфічных арыенціраў. Вядома, што Ляскоўскі ў 1855 годзе быў у эміграцыі ў Лондане (насуперак Галомбаку, звестак пра жыццё на эміграцыі ў Францыі ў зборніку няма. А можа, вопытны польскі даследчык меў якія-небудзь дадатковыя звесткі?). У 1860 годзе паэт ужо вярнуўся на радзіму, бо піша вершы ў Вільні. Выпісваю паметкі пад іншымі вершамі, вехі жыццёвай дарогі паэта. Паміж Лонданам і Вільняй цэлы шэраг малазначных паселішчаў, паэт увесь час пераязджае, нейкі клопат вечна гоніць яго з месца на месца: 1856 — Шчучын, 1858 — Карсы, Осек (Озіек), 1858–1859 — Зелюнь, 1859–1860 — Елень. З поўнай упэўненасцю аднесці гэтыя паселішчы да нейкага рэгіёна цяжка, але можна думаць усё ж, што гэта Познанскае княства, далучанае ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай да Прусіі[106]. Звернем таксама ўвагу на верш «Гетманская магіла на Пабярэжжы. З падання маларасійскага люду», напісаны ва ўжо ўпамянутых Карсах у 1858 годзе. Размова там ідзе пра

[106] Назва Осіек (ёсць, аказваецца, такі горад і ў Харватыі) мільгала ў прэсе ў сувязі з падзеямі міжусобнай вайны ў Югаславіі.



магілу гетмана Жалкеўскага, або Жулкеўскага, які загінуў у 1620 годзе ў бітве з туркамі на тэрыторыі сённяшняй Румыніі і пахаваны на беразе Днястра (дарэчы, ім цікавіўся па матэрыялах пецярбургскай Публічнай бібліятэкі брат Кастуся Каліноўскага Віктар).

У вершы сустракаюцца ўкраінскія словы, хутчэй за ўсё падхопленыя ў Галіцыі, якая ўваходзіла ў той час у склад Аўстрыі. Паэт сам бачыў гэтую магілу, што відаць з наступнай заўвагі: «Ёсць месца на помніку, якое сведчыць, што там быў надпіс, цяпер надпісу ўжо няма». Словам, паэту давялося прайсці цяжкія эмігранцкія пуцявіны: Галіцыя? Румынія? Харватыя? (трымаем у памяці як «запасны варыянт»), Лондан (тут ужо без пытальніка), Познань? Нездарма ў адным з вершаў ён успамінаў «гэтыя вандроўкі і прыгоды, што зламалі век мой малады» («Мая ўява», 1858).

Дарэчы, у Лондане ён павінен быў зблізіцца са сваім земляком Аляксандрам Рыпінскім, з якога мы пачыналі гэтыя свае нататкі. У іх шмат агульнага — любоў да літаратуры, да паэзіі, замілаванне беларускім фальклорам, туга па Беларусі. Так што Рыпінскі, трэба думаць, ведаў Ляскоўскага не толькі па зборніку «Беларускі бандурыста», але і асабіста. (Пра іх магчымыя сувязі пісаў і Адам Мальдзіс у сваім «Англійскім дзённіку».)

Вярнуўся з эміграцыі Ляскоўскі (як і Рыпінскі) паводле агульнай амністыі, абвешчанай царскім урадам у 1856 годзе. Рыпінскі, як вядома, прыехаў у край у 1859 годзе. Ляскоўскі выкарыстаў гэтую амністыю, трэба думаць, толькі ў 1860-м. Яго імя значыцца ў архіўным спісе «польскіх выхадцаў», што жывуць у Віленскай губерні і знаходзяцца пад наглядам паліцыі (ДГА Літвы. Ф. 422. Воп. 1. Спр. 8. Арк. 9 адв.). У дакуменце сказана, што нагляд за Ляскоўскім устаноўлены паводле прадпісання начальніка 4-й акругі корпуса жандараў (Вільня) ад 15 красавіка 1860 года. Спіс рээмігрантаў Паўночна-Заходняга краю быў надрукаваны і ў «Памятной книжке Виленской губернии на 1861 год» (усяго 354 прозвішчы, сярод іх Ляскоўскі). Цікава, што, нават знаходзячыся пад паліцэйскім наглядам, паэт не цураўся ўдзелу ў палітычных дэманстрацыях: улетку 1861 года ён быў заўважаны паліцыяй пры спяванні ў Вільні патрыятычнага гімна (Сборник документов музея графа М. Н. Муравьева. Т. 1. Вильно, 1906. С. 87).

Потым Ляскоўскі з далягляду знікаў. Але хутка даследчыцкія шляхі-дарогі зусім нечакана зноў вывелі на яго.

Я працаваў над каментарыямі для артыкула А. Ельскага «Пра беларускую гаворку», уключанага ў зборнік «Пачынальнікі». Артыкул быў змешчаны ў 1885 годзе ў польскім пецярбургскім часопісе «Kraj». У прадмове рэдакцыя пісала, што пытанне пра лёс беларускай мовы

разглядаецца таксама ў атрыманым рэдакцыяй артыкуле маладога паэта Юзафа Кучынскага «Слова пра гаворку і народную паэзію беларусаў». «Твор гэты палемічнага зместу, — гаварылася ў прадмове. — Аўтар некалькі гадоў назад змяшчаў у “Gazecie Polskiej” беларускія народныя песні разам з іх даслоўным перакладам. Выклікала гэта ў адным з фельетонаў “Nowin”, рэдагаваных у той час Баляславам Прусам, падрабязныя заўвагі п. Карабіча пад назвай “Слоўца пра песню”, у якіх крытык зрабіў п. Кучынскаму папрок у скажэнні беларускай мовы шляхам увядзення ў яе чужых слоў і зваротаў, што не адпавядаюць прыродзе беларускай гаворкі…»

Так у маё поле зроку трапіла новае імя — нейкі цаніцель і абаронца беларускай мовы Карабіч. Успомнілася, што гэтае імя ўжо прыгадваў выдатны наш даследчык Сцяпан Александровіч у артыкуле «Два невядомыя вершы» (Літ. і мастацтва. 1965. 16 лют.). С. Александровіч натрапіў тады якраз на згаданы артыкул Карабіча ў газеце «Nowiny» і быў уражаны дасведчанасцю аўтара, яго рашучым непрыманнем песімістычнага погляду Кучынскага на будучыню беларускай мовы. Карабіч пісаў пра слабое знаёмства свайго апанента з народнай паэзіяй беларусаў: «Бачыў ён народ, чуў штосьці з яго песень, але чалавека і яго словы не зразумеў, а яшчэ горш — не ўмеў услухацца ў тыя словы. Чаму? На гэта ёсць просты адказ: вучыўся ён, відавочна, на тых кніжных узорах, якія беларускую мову лічаць пабочным рэхам свае (польскай. — *Г. К.*) мовы. З такога памылковага пункту гледжання вынікае, што прынцып не дазваляе гаварыць пры самабытнасць мовы нейкай там гаворкі з-пад сялянскай страхі». Беларуская мова, рашуча сцвярджаў Карабіч, старадаўняя, у яе свае непаўторныя рысы, самабытны характар мае таксама і народная песня беларусаў, у якой ёсць свае кола тэм і свая мелодыя. Усё гэта былі слушныя і вельмі актуальныя на той час (ды ці толькі на той час?) думкі. Ужо аднаго гэтага было б дастаткова, каб зацікавіцца артыкулам «Nowin». Але яшчэ больш быў уражаны Сцяпан Хусейнавіч дзвюма прыведзенымі там песнямі. Першую песню Карабіч запісаў нібыта ў 1879 годзе ад паштовага фурмана:

Зямелька мая,
Мая родная,
Запала ж ты, залягла ў душы!
І бор твой шуміць,
І гоман гудзіць
Да там ён, далёка… ой там!
Ох ды там!
Туман над сялом,
Хатка за лугом,
Хатачка, родная ты мне!
Гутарка ідзе:
«Гдзе ж ён, ой да гдзе?» —
Так бацька, так маці галосіць.
Ох, за мной!
А я тут, я ваш,
Далёк дамок наш.

Не, гэта ні ў якім разе не фальклорны твор, — падумалася вопытнаму, пранікліваму даследчыку. «Своеасаблівая форма… унутраны маналог аўтара, у якім гучыць шчыры смутак па радзіме, лірычная настраёвасць і глыбокі падтэкст твора — усё гэта бясспрэчнае сведчанне таго, што перад намі не звычайная народная песня, а верш нейкага невядомага песняра», — слушна заўважыў С. Александровіч.

Другі верш — «Пад дуду» з выразным сацыяльным пафасам і пратэстам супраць прыгнёту аўтар артыкула запісаў нібыта ў 1863 годзе. І той жа вывад — перад намі рука літаратара, не толькі знаёмага з правіламі версіфікацыі, але са значным вопытам і дастатковай кніжнай культурай. Мяркуйце самі:

Дудка мая, дудка! Зайграй ты людзям,
Зайграй братцам родным, грай сваёй сям’і,
Лягчэй будзе сэрцу, лягчэй плыць слязам,
Ой, цяжкія ж слёзы на душы ляглі!

І гора і плачу чалавек зазнае
Ад самай калыскі, ой ды цэлы век!
Калі лепей будзе, ніхто не згадае,
Не згадае долі сваёй чалавек.

Хоць бы шчасце з горам папалам ішло,
А то плывуць слёзы, як даўней плылі;
Сямейка расла, дзетак падрасло,
Сяло апусцела — мужыком мужык;
Засталіся дома дзеткі адзінокі,
Дзетачкі сіроты, раздзел іх вялік!

Дудка мая, дудка! Дай ты сэрцу льготу,
Дай душы заплакаць, згані з воч слязу.
А я за табою, ды пад тваю ноту
Мужыцкую долю людзям раскажу.

С. Александровіч нават адчуў у гэтых вершах пераклічку з шэдэўрам Паўлюка Багрыма «Зайграй, зайграй, хлопча малы...» і дапускаў, што новыя адшуканыя вершы таксама належаць яму.

Няхай сабе так, але хто ж такі сам Карабіч, такі выдатны знаўца беларускай мовы і фальклору, які на працягу дзесяцігоддзяў захоўваў цікавасць да Беларусі (адна ж з песень запісана ім ажно ў 1863 годзе). Да таго ж С. Александровіч дапускаў, што аўтар артыкула ў «Nowinach» «хто-небудзь з вядомых беларускіх паэтаў другой палавіны XIX стагоддзя», які схаваўся за псеўданімам Карабіч і «знайшоў дыпламатычную форму пад выглядам народных твораў апублікаваць свае ўласныя творы».

Звяртаюся да польскіх бібліяграфій і слоўнікаў псеўданімаў (Бар, Эстрайхер) і раптам знаходжу: Карабіч — псеўданім Юльяна Ляскоўскага. Іншыя яго псеўданімы: Бандурыста Карабіч, Марцін Мізэра. Аўтар брашур па пытаннях сельскай эканомікі («Як прыбавіць зямлі і хлеба», Варшава, 1883), аповесці «У Амерыку па золата» (Варшава — Кракаў, 1888, пад псеўд. Мізэра).

Што за Юльян Ляскоўскі (прозвішча, як і імя, не з рэдкіх), у даведніках не ўдакладнялася, але наўрад ці можна сумнявацца, што гэта якраз «наш» Ляскоўскі: псеўданім «Бандурыста Карабіч» перараканаўча працягвае нітачку якраз да таго зборніка 1861 года «Беларускі бандурыста».

Разам з тым добра помню свае ваганні і сумненні: занадта непадобны быў «новы» Ю. Ляскоўскі на «старога» (здаецца, яны з розных эпох). І тым не менш усё гаварыла, што гэта так.

Удаецца нават высветліць і паходжанне псеўданіма «Карабіч». Аказалася, у аснову яго паэт паклаў назву старадаўняга родавага герба Кораб (Карабель). Апісанне гэтага герба даюць многія польскія даведнікі. Напрыклад, у энцыклапедыі Аргельбранта (1864) чытаем: *«Кораб* (герб). На шчыце жоўты карабель, або воднае судна з шэрай мачтай на чырвоным полі. На шлеме такі ж карабель. Геральдыкі нашы адносяць гэты герб да самых даўніх, як і род Карабітаў». «Вялікая агульная ілюстраваная энцыклапедыя» канца XIX стагоддзя прысвячае гэтаму гербу падрабязны артыкул, называе ўсе роды, якія ім карысталіся, у тым ліку Ляскоўскіх. З другога боку, з «Гербоўніка» Банецкага (т. 13, 1909) даведваемся аб існаванні розных родаў-ліній Ляскоўскіх, якія карысталіся рознымі гербамі (Дамброва, Даліва, Драгаслаў, Дружына, Корніч, Ляліва, Лешчыц, Пулкозіч, Тшаска). Сваім псеўданімам Карабіч засведчыў лучнасць з зусім пэўным родам Ляскоўскіх.

Высвятляецца яшчэ адна надзвычай цікавая акалічнасць. Ёсць нямала агульнага ў тэмах, інтанацыях і г. д. паміж беларускімі вершамі, выяўленымі ў свой час С. Александровічам, і польскімі творамі зборніка



«Беларускі бандурыста». А верш «Зямелька мая» можна разглядаць як узнаўленне сродкамі беларускай мовы і народнай паэтыкі першых радкоў паэмы «У чужой старане»:

Ziemio moja!.. o! daleko!..
Ztąd nie dojrzę twoich tanów,
Ni mogilisk, ni kurganów.
Ni tych borów, co nad rzeką
Szumią pieśnią w dziwne tony!
Obszar pól twych, dalą sćmiony,
Znikł mi z oczu!., zda się, wieki
Przedzielają mnie od ciebie!
A wędrówki kres daleki!..
Może grobu w twojej glebie
Bratnie ręce mnie nie zryją…

Такім чынам, пераконваемся яшчэ болей, што вершы «Зямелька мая» і «Пад дуду», змешчаныя ў 1882 годзе ў газеце «Nowiny», належаць самому Ляскоўскаму — Карабічу, аўтару зборніка «Беларускі бандурыста». Не, не падманула інтуіцыя выпрабаванага шукальніка Сцяпана Александровіча.

Пасля паўстання 1863 года наш зямляк жыў у Польшчы, займаўся журналістыкай. Але нарадалюбцам, асветнікам застаўся. У гэтых адносінах цікавая яго сувязь з другім выхадцам з Беларусі, Конрадам Прушынскім, знакамітым педагогам, выдаўцом надзвычай папулярнага ў свой час выдання для народа — «Gazety świątecznej» (выходзіла ў Варшаве з 1881 года). Аўтар артыкула пра гісторыю гэтага выдання Зянон Кмецік («Rocznik historii czasopiśmiennictwa polskiego» за 1966 год) паведамляе: «Кіраваў рэдакцыяй "Газэты свёнтэчнэй" з пачатку яе існавання амаль выключна Прушынскі. Яго артыкулы і нататкі займалі значную частку газеты. На пачатку выдання пэўны час памагаў Прушынскаму Юльян Ляскоўскі (пс. Карабіч), пазнейшы рэдактар "Echa Łomżyńskiego". Пісаў ён на сельскагаспадарчыя тэмы, праводзіў акцыі супраць эміграцыі сялян у Амерыку». Наводзім бібліяграфічную даведку: «Echo Łomżyńskie» выходзіла ў 1882 і 1884 гадах. У правінцыяльную ў параўнанні з Варшавай Ломжу над ракой Нараў наш зямляк перабраўся, магчыма, для таго, каб быць бліжэй да роднай Беларусі.

Над жыццяпісам Ляскоўскага, яго ўдакладненнем, наперадзе яшчэ нямала працы. Але і цяпер відаць, што зробленыя вывады былі досыць карысныя, увайшлі ў шырокі ўжытак. Адпаведны артыкул пра Ляскоўскага-Карабіча са спасылкамі на артыкул С. Александровіча і зборнік «Пачынальнікі» з'явіўся ў «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва

Беларусі». У 1988 годзе выйшла другое выданне хрэстаматыі беларускай літаратуры XIX стагоддзя. Вершы «Зямелька мая» і «Пад дуду» падаюцца на яе старонках як творы беларускага паэта Юльяна Ляскоўскага. Паэтычны Парнас Беларусі мінулага стагоддзя дапоўніўся яшчэ адным імем.

Так закончылася першая спроба неяк сістэматызаваць і падагульніць скупыя звесткі пра паэта. Потым была паездка ў Вільнюс, пошукі ў гістарычным архіве. Удача. Вось, аказваецца, якую дэпешу атрымаў віленскі паліцмайстар у самым пачатку 1858 года[107]. Сёння радкі гэтага старога дакумента могуць успрымацца як пасланне нам, нашчадкам, з далёкай мінуўшчыны. Тут адказы на многія нашы пытанні:

«В III отделение собственной его императорского величества канцелярии поступила просьба находящегося в Пруссии выходца Юлияна Лясковского о дозволении ему возвратиться на родину.

В просьбе этой он объясняет следующее.

Родился он в 1826 году в д. Новая Жосна Вилейского уезда, принадлежащей родственникам его Городенским, и окрещен 20 августа того же года в тамошней приходской униатской церкви. Проживал потом в селе Законовске Дисненского уезда, состоящем в наследственном владении его родителей. Оставив по окончании своего воспитания родительский дом, он имел частные занятия, а в 1846 году прибыл в Вильно, где состоял на службе сперва в Губернском правлении, а потом в Земском суде. Затем, познакомившись с Невяровичем, был завлечен им в тайное злоумышленное общество, открытое в Вильне, и, боясь наказания, скрылся оттуда 11 апреля 1849 года, а вскоре после того удалился за границу…».

На запытанне паліцмайстра прыстаў адной з часцей горада Вільні пацвердзіў: «…находившийся в Пруссии выходец Юлиян Лясковский, коего отец в настоящее время жительствует Вилейского уезда 3-го стана Ситского округа в имении помещика Петкевича и состоит управителем того ж имения, — между 1846 и 1849-м годами действительно служил сперва в Виленском губернском правлении, а потом, по вольному найму, при делах виленского земского исправника. И во время жительства его, Лясковского, в последнем году, то есть 1849-м, ведомства 1-й части, в доме Марциновского, при Полицейском переулке, он из города скрылся…»

Вось і ўсе новыя звесткі. Для нас яны вельмі важныя. Сапраўды, як і меркавалася, Ляскоўскі быў у эміграцыі ў Прусіі. А вось наконт месца нараджэння мы ўгадалі толькі часткова. Паводле старых даведнікаў, Новая Жосна, дзе Ляскоўскі нарадзіўся (цяпер такога паселішча няма), знаходзілася каля вёскі Слабада сённяшняга Мядзельскага раёна. З-пад гэтай Слабады родам і паэт-рэвалюцыянер Адам Гурыновіч. Будслаў сапраўды тут паблізу, а Беразіно далей, хаця, па сутнасці, усё гэта адзін рэгіён. Згаданы ў дакуменце Законаўск трэба атаясамліваць з цяперашняй Заканоўшчынай у Казлоўшчынскім сельсавеце Пастаўскага раёна. А зрэшты, мяркуючы па ўсім, сям'я не жыла доўга на адным месцы і магла на нейкі час трапіць і ў раён Бярэзінскага канала, дзе, дарэчы, у 1833–1839 гадах працаваў і Ян Чачот. Тым не менш вучыўся Ляскоўскі, хутчэй, у будслаўскіх бернардзінцаў, бо бярэзінскі кляштар быў закрыты ў 1832 годзе, калі Юльян, як цяпер відаць, не дасягнуў яшчэ школьнага ўзросту.

Цікава, што паэт хрышчоны ва ўніяцкай царкве. Да ўніятаў належала тады пераважная большасць беларусаў.

Уцёкі нашага паэта за мяжу, несумненна, звязаны з выкрыццём царскімі ўладамі падпольнага «Братняга саюза літоўскай моладзі» і масавымі арыштамі яго членаў. Арышты адбываліся якраз у канцы сакавіка — пачатку красавіка 1849 года. Цікава, што, як высветлілася ў 1858 годзе, пры разборы яго заявы з Прусіі, Ляскоўскага на следстве па справе «Братняга союза…» ніхто не выдаў, яго імя не было нават названа, і ён мог бы спакойна адседзецца дома (хаця хто ведае — сцеражонага і Бог сцеражэ).

Між іншым, з прыведзеных паліцэйскіх дакументаў 1858 года відаць, што бацька яго быў тады яшчэ жывы, а з паэмы «На чужой старане» (1855) мы зразумелі іншае. Гэта гаворыць аб няпоўнай адпаведнасці аўтара і яго лірычнага героя. А магчыма і такое, што Ляскоўскі не меў у эміграцыі дакладных звестак пра лёс сваёй сям'і, якая заставалася на далёкай радзіме.

Як мы помнім, зборнік «Беларускі бандурыста» быў выдадзены Кіркорам. Я шукаў пісьмы Ляскоўскага сярод багатай карэспандэнцыі Кіркора ў віленскім гістарычным архіве. Знайшлася толькі адна кароткая запіска (Ф. 1135. Воп. 11. Спр. 7). Ні даты, ні месца. Нехта J. Laskowski (Юльян?), спасылаючыся на даўняе віленскае знаёмства, просіць Кіркора аб спатканні дзе-небудзь у горадзе, бо сам з-за хворых ног не можа падняцца да адрасата на высокі паверх. Мабыць, адбывалася гэта ў Кракаве, дзе Кіркор жыў у 1871–1886 гадах.

Вядома ж, землякі — руплівцы беларускай культуры — знайшлі аб чым пагаварыць.

[107] Справа пра намер Ляскоўскага вярнуцца з-за мяжы: ДГА Літвы. Ф. 421. Воп. 2. Спр. 1191.

# ЧОРНЫ ЛЕЎ У ЦЁМНЫМ ПОЛІ
## Нашы землякі
## Ястржэмбскія-Ястрэбскія

Што з табой, мая крэўная нацыя?
Я гляджу, як з каўчэга Ноева:
Заштрыхована радыяцыяй
Зона Брагіна,
Зона Лоева…

*П. Макаль*

Са школы ведаем: важнае месца ў гісторыі вызваленчага руху XIX стагоддзя займалі петрашэўцы. Тэма петрашэўцаў на самых розных узроўнях судакранаецца з Беларуссю. Ужо даводзілася пісаць пра пашырэнне ў нашым краі крамольнай кнігі Буташэвіча-Петрашэўскага і яго сяброў «Кішэнны слоўнік замежных слоў». Петрашэўцы бывалі ў Беларусі — стала хрэстаматыйным гнеўнае выказванне Мамбелі пра жахлівы хлеб віцебскіх сялян. Пад Віцебскам у Цеханавецкіх выхоўваліся дзеці петрашэўца Спешнева. Пра Петрашэўскага напісаў нататку ў «Русской старине» віцяблянін М. Маркс. Да петрашэўцаў належаў Дастаеўскі, радаводныя карані якога вядуць у Беларусь (Дастоева на Піншчыне). Сярод петрашэўцаў быў і яшчэ адзін наш зямляк. БелСЭ паведамляе: «Ястржэмбскі Іван (Іван Фердынанд) Львовіч (1814, былая Мінская губерня — пасля 1883), рэвалюцыянер-петрашэвец. Скончыў Харкаўскі ўніверсітэт (1841). Выкладаў палітэканомію і статыстыку ў Інстытуце корпуса інжынераў шляхоў зносін і Тэхналагічным інстытуце ў Пецярбургу. Крытыкаваў антынавуковую тэорыю народанасельніцтва Т. Р. Мальтуса, прапагандаваў ідэі перадавых заходнееўрапейскіх эканамістаў (Ш. Фур'е і інш.). На фарміраванне яго філасофскіх поглядаў уплываў А. І. Герцэн. З 1848 года актыўны член рэвалюцыйнага гуртка М. В. Петрашэўскага. 2.5.1848 года (у сапраўднасці 23.4.1849 або 4.5.1849 новага стылю. — *Г. К.*) арыштаваны і зняволены ў Петрапаўлаўскую крэпасць. 3.1.1850 года прыгавораны да расстрэлу. У той жа дзень на Сямёнаўскім пляцы прыгатаваны паводле абраду да смяротнай кары, якая па канфірмацыі заменена 6 гадамі катаргі. Сасланы ў Табольскую губерню. У 1857 годзе яму дазволена



вярнуцца ва ўнутраныя губерні Расіі, дзе да 1872 года быў пад наглядам паліцыі. У 2-й палове 1850-х гадоў як інжынер удзельнічаў у будаўніцтве шашы Масква — Варшава на тэрыторыі Магілёўскай губерні. Аўтар мемуараў».

Як бачым, аўтарытэтны даведнік не ўдакладняе ні даты, ні месца нараджэння нашага земляка-рэвалюцыянера. Велізарная па плошчы «Мінская губерня» занадта неканкрэтна, даўно ўжо хацелася неяк лакалізаваць гэтыя звесткі. Таму я вельмі ўсцешыўся, сустрэўшы сярод папер Беларускай уніяцкай кансісторыі (ЦДГА ў Мінску. Ф. 3245. Воп. 2. Спр. 113) такі старадаўні дакумент, напісаны нешта сто шэсцьдзесят гадоў таму назад:

«В Белорусскую Греко-Унитскую Духовную Консисторию Минской губернии Речицкого уезда помещика Леона Францова сына Зарембы Ястржембского бывшего Речицкого Заседателя нижеподписавшегося

ПРОШЕНИЕ

Сыновья мои Фердынанд Иван в 1814-м сентября 11 и 2-й Симон Франц 1815 годов июня 2 дня Ястрж[ем]бские от Законной уже ныне покойной жены моей Яньели из Вольских рожденные окрещены в Селецком Викарном Василиянском Монастыре. Как же мне тех же сыновей моих нужны урадовые из крестительных метрык выписи, то и прошу покорнейше Белорусской Греко-Уницкой Духовной Консистории из книг метрических для сыновей моих вышереченных выдать мне урадовые выписи и таковые на имя мое Минской губернии в город Речицу выслать на почту же и гербовую бумагу, нужные деньги при сем приложить честь имею.

Июля 1 дня 1832 года
*Leon Jastrzębski*».

Несумненна, прашэнне гэтае, якое зацікавіла б лінгвіста сваёй мяшанай, з мноствам разнастайных уплываў мовай, напісана бацькам нашага земляка-петрашэўца. Такім чынам, даведваемся дакладную дату нараджэння і прыблізнае месца — недзе пад Брагінам, паколькі ў суседнім дакуменце кляштар, дзе хрысцілі Івана Фердынанда і яго брата, называўся Сялецка-Брагінскім. Радзіма петрашэўца — паўднёва-ўсходняя ўскраіна Беларусі, старажытная зямля, апаленая сёння атрутным дыханнем Чарнобыля (дарэчы, у польскім «Слоўніку геаграфічным» XIX стагоддзя пра Брагін так і сказана — «па дарозе з Лоева ў Чарнобыль»;

згадваюцца там і два базыльянскія кляштары — мужчынскі і жаночы). Навіною для мяне было і тое, што Ястржэмбскія мелі і другое прозвішча — Зарэмба (як высветлілася пазней — ад назвы радавога герба).

Быў сэнс у тым жа мінскім гістарычным архіве зазірнуць у радаводную справу Ястржэмбскіх. Вось яна перада мной (Ф. 319. Воп. 2. Спр. 3801). Там знайшлася і сама хросная метрыка, з якой відаць, што будучы рэвалюцыянер-петрашэвец нарадзіўся ў маёнтку (фальварку) Тэклінава і, хоць хрышчоны ўніяцкім святаром, належаў (гэта спецыяльна адзначана) да «рымскага абраду» (Астраглядавіцкай парафіі). Характэрнае для Беларусі няпростае, вельмі няпростае перапляценне розных канфесій, у якім ой як нялёгка разабрацца. Пра Тэклінава той жа «Слоўнік геаграфічны» паведамляе, што гэта фальварак Брагінскага ключа памешчыкаў Ракіцкіх («Глеба адмысловая, ураджайная», — не забываецца адзначыць нязменны аўтар слоўніка — наш пісьменнік і краязнавец Аляксандр Ельскі).

У радаводнай справе яшчэ некалькі дакументаў Івана Львовіча і яго бліжэйшых сваякоў. У верасні 1832 года бацька Леон[108] Францавіч звяртаецца ў губернскую дваранскую дэпутацкую зборню з просьбай прылічыць да шляхецкага роду яго сыноў Івана ды Францa, бо надыходзіла пара ім паступаць ужо на службу. Прашэнне напісана на польскай мове. Праз два гады — прашэнне па-руску брата Франца, «дворянина Брагинского ключа, в фольварке Теклиново при отце своем проживающего». Ён скончыў курс навук і хоча паступіць на вайсковую службу «по артиллерии». Такія ж намеры былі і ў будучага петрашэўца.

6 лістапада 1834 года начальнік 4-й пяхотнай дывізіі генерал Свечын (дывізіённы штаб у Мінску) пісаў у дэпутацкую зборню: «Минской губернии Речицкого уезда дворянин Фернанд [так!] Иван Львов Ястржембский имеет желание определиться в военную его императорского величества службу». Але ў рэшце рэшт ён выбраў ніву цывільную. У 1842 годзе дырэктар вучылішчаў Харкаўскай губерні паведаміў у Мінск: «Дворянин Минской губернии Речицкого уезда Иван Львов сын Ястржембский, окончивший ныне курс в императорском Харьковском университете и получивший степень кандидата, вошел ко мне с прошением об исходатайствовании выдачи ему свидетельства на звание домашнего наставника». (Між іншым, ён павінен быў ведаць свайго земляка з Магілёўскай губерні мастака Міхаіла Башылава, які таксама вучыўся ў Харкаве ў гэты час, — я пісаў пра яго ў кнізе «Героі і музы», 1982.)

Потым была паўночная сталіца. Іван Ястржэмбскі з Брагіншчыны — бліскучы пецярбургскі выкладчык, сейбіт смелых думак, прыняты як роўны сярод перадавых людзей часу. Яго вучань па Дваранскім палку[109] пісьменнік М. Венюкоў з захапленнем успамінаў: «Гэта быў арыгінал, бадай, нават эксцэнтрык, але ён умеў выклікаць у маладых галовах ідэі самага шырокага гуманізму. Ён чытаў статыстыку і пачаткі палітычнай эканоміі. Праграма апошняй, зразумела, была самая непрываблівая, у духу Ж. Ф. Сэя, г. зн. тэорыі своекарыслівай нажывы нямногіх, моцных, за кошт большасці слабых; але Ястржэмбскі, выконваючы яе, умеў навучыць нас глядзець на рэчы з іншага пункту погляду, больш сучаснага і чалавечнага…» (Русская старина. 1890. № 4. С. 245).

Паводле слоў таго ж Венюкова, выкладчык выклікаў у іх сэрцах «глыбокае абурэнне грамадскімі парадкамі, пры якіх бедны і слабы цалкам прынесены ў ахвяру моцнаму і багатаму» (Голос минувшего. 1917. № 2. С. 139). Нездарма вядомы дарэвалюцыйны гісторык, адзін з першых даследчыкаў феномена петрашэўцаў В. І. Сямеўскі лічыў: «З ліку петрашэўцаў найбольш энергічным выкладчыкам-прапагандыстам быў Іван Фердынанд Львовіч Ястржэмбскі…» (тамсама. С. 138).

На вечарах у Петрашэўскага, дзе горача абмяркоўваліся шляхі Расіі і чалавецтва, Ястржэмбскі таксама прачытаў некалькі лекцый па палітэканоміі і статыстыцы, апошнюю ён разумеў, хутчэй, як сацыялогію. Многія знаходзілі яго лектарскі талент «истинно замечательным». З увагай яго слухаў Дастаеўскі. Сучасны даследчык Б. Ф. Ягораў піша: «Трымаўся Ястржэмбскі надзіва свабодна, раскавана, зусім не стрымліваючыся ў сацыяльна-палітычных характарыстыках»[110]. Царскі агент даносіў: «Речь Ястржембского была усеяна солью на здешнее чиномание, на тайных советников, на государя, по его словам — богдыхана, и вообще на все административное»[111]. Перадавалі, што замест слова «дурань» Іван Львовіч ужываў высокі тагачасны тытул «сапраўдны стацкі саветнік». Падзяляючы сацыялістычныя ідэалы, Ястржэмбскі ў той жа час выказваў цвярозыя думкі, цікавыя і для сённяшніх нашых роздумаў. Напрыклад: «Уласнасць ёсць назапашаная праца, і выходзіць, ніяк нельга гаварыць, што можа не быць прыватнай уласнасці»[112]. Успаміналася на гэтых сходах і Беларусь. Паводле агентурнага данясення, Ястржэмбскі гаварыў, «што ён быў у зносінах з польскімі, маларасійскімі і беларускімі мужыкамі, што ва ўсіх іх адзін і той жа погляд, г. зн. што прынцып зла яны бачаць у цару»[113]. Праўда, на допытах

[108] Зваўся таксама Львом.

[109] Была такая навучальная ўстанова ў Пецярбургу.

[110] Егоров Б. Ф. Петрашевцы. Л., 1988. С. 105.

[111] Дело петрашевцев. Т. 3. М.; Л., 1951. С. 418.

[112] Семевский В. И. М. В. Буташевич-Петрашевский и петрашевцы. М., 1922. Ч. 1. С. 121.

[113] Дело петрашевцев. Т. 2. М.; Л., 1941. С. 213.

Ястржэмбскі зрабіў папраўку, змякчыўшы фармулёўку: «Я мушу заўважыць, што ў Польшчы не быў, а пра Беларусь і Маларосію я гаварыў, што просты народ не разумее сутнасці вярхоўнай улады…»[114].

Яму давялося прайсці праз турмы і ссылкі, праз самыя цяжкія выпрабаванні. Да высылкі ён сядзеў у славутым Аляксееўскім равеліне Петрапаўлаўскай крэпасці. Цікава, што генерал-аўдытарыят даў яму спачатку чатыры гады катаргі, а Мікалай I уласнаручна дабавіў яшчэ два гадкі — не мог дараваць яму «багдыхана».

У Сібір Ястржэмбскаму выпала ехаць у адной партыі з Дастаеўскім. Камендант Петрапаўлаўкі генерал-ад'ютант Набокаў (родны брат дзеда вядомага пісьменніка рускага замежжа) 24 снежня 1849 года паведаміў ваеннаму міністру: «Содержавшиеся в Санкт-петербургской крепости преступники, во исполнение высочайшей его императорского величества конфирмации, по исключении из списков об арестантах сего числа вечером отправлены: Дуров, Достоевский и Ястржембский в Тобольск, закованные с поручиком фельдъегерского корпуса Прокопьевым при трех жандармах…»[115].

Трэцім у гэтай партыі быў паэт-петрашэвец Сяргей Фёдаравіч Дураў. Праз чатыры гады пра тужлівы момант адпраўкі ўспамінаў Дастаеўскі ў пісьме да брата, таксама петрашэўца: «Помнишь ли, как мы расстались с тобой, милый мой, дорогой, возлюбленный мой? Только что ты оставил меня, нас повели, троих: Дурова, Ястржембского и меня, заковывать. Ровно в 12 часов, то есть ровно в рождество, я первый раз надел кандалы. В них было фунтов 10 и ходить чрезвычайно неудобно. Затем нас посадили в открытые сани, каждого особо, с жандармом, и на 4-х санях, фельдъегер впереди, мы отправились из Петербурга… Нас везли на Ярославль, и потому к утру, после трех или 4-х станций, мы остановились чем свет в Шлиссельбурге в трактире. Мы налегли на чай, как будто целую неделю не ели. После 8-ми месяцев заключения мы так проголодались на 60 верстах зимней езды, что любо вспомнить. Мне было весело, Дуров болтал без умолку, а Ястржембскому виделись какие-то необыкновенные страхи в будущем»[116]. Вось такія неаднолькавыя характары і зусім розная рэакцыя на журботную сітуацыю.

За Уралам у Табольску шляхі таварышаў па няшчасці разышліся. У гэтым жа пісьме (Омск, 1854) ёсць і яшчэ адна згадка пра нашага земляка. «Ястржембский в Таре кончает», — не забыўся паведаміць Дастаеўскі брату. Тара — горад на Іртышы, цяпер Омскай вобласці, а тады Табольскай губерні. Размова ідзе пра заканчэнне Ястржэмбскім

[114] Тамсама. С. 221.

[115] Литературное наследство. Т. 22–24. М., 1935. С. 703.

[116] Достоевский Ф. М. Полн. собр. соч.: в 30 т. Т. 28. Кн. 1. Л., 1958. С. 167.



тэрміну катаржных работ і пераход на пасяленне. Праўда, адбылося гэта, відаць, крыху пазней. Паводле даведніка «Деятели революционного движения в России» (т. 1, 1927), Ястржэмбскі адбываў пакаранне на Екацярынінскім вінакурным заводзе Тарскай акругі і «выйшаў з катаргі» (так гэта называлася) па маніфесце 26 жніўня 1856 года. З 1857 года Іван Львовіч ужо на радзіме. Зноў унікальныя, не чапаныя даследчыкамі матэрыялы Цэнтральнага гістарычнага архіва Беларусі. У спісе паднаглядных па Мінскай губерні за 1861 год (Ф. 295. Воп. 1. Спр. 1424) пад № 6 чытаем: тытулярны саветнік Іван Ястржэмбскі, 47 гадоў. Як трапіў пад нагляд: «По высочайшему повелению, объявленному в отношении Тобольского губернского управления от 17 января 1857 г. за № 45 за участие в преступных замыслах и чтение на собрании у Петрашевского речи, доказывающей отсутствие религиозных убеждений». Пад наглядам з 27 лютага 1857 года (трэба думаць, гэта дата вяртання на радзіму). Нагляд адкрыты (гласный) без тэрміну. Жыве ў вёсцы Крыўча Рэчыцкага павета (такая вёска і цяпер ёсць на Брагіншчыне). Халасцяк. «Поведения хорошего».

Вернемся да радаводнай справы. У Мінску, у дваранскай дэпутацкай зборні, на пачатку 60-х гадоў рыпяць пёры, вядзецца перапіска пра вяртанне штрафніку-петрашэўцу шляхецкіх правоў. Вось характэрны фрагмент аднаго з дакументаў (у радаводнай схеме Іван Львовіч па нейкай выпадковасці таксама лічыўся пад № 6): «…хотя (6) Иван Львов Ястржембский был лишен прав состояния по высочайшей конфирмации решения генерал-аудиториата от 19 декабря 1849 года, но впоследствии высочайшим указом за собственноручным его императорского величества подписанием правительствующему сенату по 1-му Департаменту 17 апреля 1857 года данным и в Минское губернское правление того ж года за № 18189 последовавшим, все права потомственного дворянства (6) Ивану Ястржембскому возвращены…».

Здаецца, усё вярнулася на кругі свая. І ўсё ж нядаўняму ссыльнаму давялося сутыкнуцца з немалымі цяжкасцямі, праглынуць не адну крыўду. Былы катаржнік і на радзіме адчуваў сябе ізгоем. Пастаянна патрабаваліся пацвярджэнні сваякоў — што ты не абы-хто, а патомны дваранін Ястржэмбскі герба Зарэмба. Вось адно з іх, якое можна бачыць у мінскім архіве:

«Свидетельство

Дворянин Фердинанд Иван Ястржембский есть сын Льва Ястржембского, внук Францишка или Франца; Франц же Ястржембский был родным братом деда моего Ивана Ястржембского. Упомянутый Фердинанд Иван Ястржембский поэтому

принадлежит к роду нашему Зарембов-Ястржембских, утвержденному в дворянском достоинстве Герольдиею и внесенному в родословную книгу Минской губернии; в чем и выдано ему настоящее свидетельство за собственноручным подписом и с приложением герба моего печати. 1866 г. июля 22 д. Минской губернии, Речицкого уезда, 2 стана, имение Борисовщизна.

*Дворянин Иосиф Люциян Ястржембский»*.

Апошняя згадка пра нашага героя ў радаводнай справе — пісьмо ў Мінск рэчыцкага павятовага маршалка шляхты ад 16 сакавіка 1881 года. Зноў нейкія няўвязкі, зноў цягнецца за ім крамольнае мінулае:

«Иван Леонович Ястржембский обратился ко мне с просьбою о выдаче ему удостоверения о том, что состоит в числе дворян Речицкого уезда, для представления этого удостоверения местному исправнику как сведения, требующегося при выдаче дворянам паспортов.

Из дел канцелярии моей видно, что Иван Леонов Ястржембский, состоявший по дворянскому списку 1835 г. в семье отца Леона Францевича Ястржембского под № 111, высочайшею конфирмациею, последовавшею 19 декабря 1849 года… за политические преступления лишен всех прав состояния и сослан в каторжную работу; поэтому из списков дворян исключен. Затем из последующей переписки видно, что… 26 марта 1863 года… он был обязан подпискою представить Депутатскому Собранию доказательства о том, что он действительно принадлежал к дворянской семье, утвержденной в дворянском достоинстве Правительствующим сенатом, и затем никаких следов о признании за ним дворянского достоинства в делах нет.

А потому имею честь покорнейше просить ваше превосходительство приказать канцелярии Дворянского депутатского собрания сообщить мне сведения: признан ли в дворянском достоинстве Иван Леонов Ястржембский и не перечислен ли он в дворяне другой губернии по месту жительства, так как он земельной собственности в Речицком уезде не имеет».

Адсюль вынікала нібыта, што Іван Львовіч тады на радзіме ўжо не жыў. Але дзе?

Пасля смерці Ястржэмбскага ў часопісе «Минувшие годы» (1908, № 1) былі апублікаваны яго ўспаміны, дарэчы вельмі жыва напісаныя, пра арышт і следства. У рэдакцыйнай заўвазе сказана, што памёр ён у 80-я гады. Пасля тэксту ўспамінаў аўтарская паметка: 1883 г., 6 мая, Пецярбург. Выходзіць, вось дзе ён зноў апынуўся — яго паклікаў горад, дзе ён зазнаў некалі высокае гарэнне далучанасці да вызваленчых ідэй. Ва ўспамінах праводзіцца думка, што царскія ўлады помсцілі яму за



тое, што не схіліў на следстве галаву, не прызнаў сябе вінаватым. Між іншым, ёсць там такая фраза: «Ды і пасля вяртання з Сібіры, калі ўжо ўсе мае таварышы па справе Петрашэўскага былі ў Пецярбургу, я блукаў у правінцыі пад наглядам паліцыі 18 гадоў». З гэтага можна заключыць, што паліцэйскі нагляд над Ястржэмбскім спыніўся ў 1875 годзе (1857+18) і ён атрымаў магчымасць прыехаць у сталіцу. Ужо цытаваны даведнік «Деятели революционного движения…» удакладняе: нагляд зняты ў 1872 годзе, а жыхць «у сталіцах» дазволена ў лютым 1874 года.

Як бачым, знойдзены матэрыял пра петрашэўца Ястржэмбскага дазваляе дапоўніць і ўдакладніць энцыклапедычныя звесткі аб ім. Ды і ўвогуле навука не стаіць на месцы. Па звестках Б. Ягорава, наш зямляк-петрашэвец памёр у 1886 годзе. Некаторыя ўдакладненні ў разуменні поглядаў Ястржэмбскага, у прыватнасці яго адносін да тэорыі Мальтуса, прапануюцца ў кнізе В. Бусько «Экономическая мысль Белоруссии середины XIX — начала XX в.» (Мінск, 1990). Ёсць, мабыць, у энцыклапедычнай даведцы, прыведзенай намі напачатку, і яшчэ адна недакладнасць. Фраза: «У 2-й палове 1850-х гадоў як інжынер удзельнічаў у будаўніцтве шашы Масква — Варшава на тэрыторыі Магілёўскай губерні», хутчэй, стасуецца да другога Ястржэмбскага, інжынера, даволі блізкага сваяка нашага петрашэўца. Блытаніна магла атрымацца тым лягчэй, што ў іх нават ініцыялы нечым сугучныя. Петрашэвец Іван Фердынанд Львовіч, а інжынер Мікалай Іван Феліксавіч (было там агульнае імя «Іван» і ініцыял «Ф»). Дый жыццёвыя дарогі іх не раз перакрыжоўваліся: абодва нейкі час выкладалі ў адным і тым жа Інстытуце інжынераў шляхоў зносін і Тэхналагічным інстытуце. Так што аднаго лёгка прыняць за другога. Перад намі як бы «двайнікі», але адзін пайшоў у рэвалюцыю[117] і спазнаў пакуты рэпрэсій і адрынутасці (можна сказаць, нейкім чынам спраўдзілася своеасаблівая змрачнаватая сімволіка радавога герба Зарэмба — чорны леў у цёмным полі), другі пражыў больш спакойнае, рэспектабельнае жыццё. І калі былі ў яго жыццёвыя хваляванні, то зусім іншага парадку.

Зрэшты, інжынер Мікалай Іван Феліксавіч Ястржэмбскі таксама надзвычай цікавая асоба і варты быць адзначаным у беларускай энцыклапедыі. Пра яго ёсць вялікі артыкул у дарэвалюцыйным «Рускім біяграфічным слоўніку», а ў нас выйшла спецыяльная папулярная кніжка ў серыі «Нашы славутыя землякі»[118]. Кніжка добрая, насычаная матэрыялам, толькі чамусьці выдаўцы палічылі «непісьменнай»

[117] Дарэчы, польскія даследчыкі не выключаюць, што Іван Львовіч меў дачыненне да паўстання 1831 г. і змовы Ш. Канарскага.

[118] Гусак А. А. Практычная механіка і «Мёртвыя душы»: Мікалай Ястрэбскі. Мінск, 1992.

прынятую форму прозвішча Ястржэмбскі і адвольна сканструявалі сваю — Ястрэбскі. Здаецца, так лягчэй і больш па-беларуску. Ды вось бяда — гэта, мабыць, усё-такі іншае прозвішча. Сам інжынер пісаў сябе Ястржэмбскім. І петрашэвец так сябе называў. Так у той час было прынята ў іхнім родзе. Іншага напісання ў шматлікіх аўтэнтычных дакументах проста няма.

Пройдземся трохі жыццёвымі сцежкамі інжынера Мікалая Ястржэмбскага. Звесткі знаходзім у той жа агульнай радаводнай справе Ястржэмбскіх.

Мікалай Феліксавіч старэйшы за петрашэўца. Ён акурат равеснік Дуніна-Марцінкевіча, нарадзіўся ў 1808 годзе. Паводле радаводнай справы ўдакладняем: 11 ліпеня хрышчоны ў тым жа Сялецка-Брагінскім кляштары. Найбольш верагоднае месца нараджэння — маёнтак Барысаўшчына, які належаў гэтай галіне Ястржэмбскіх. Забяспечанае матэрыяльнае становішча давала немалы выйгрыш у жыцці. І Мікалай Феліксавіч гэтую перавагу рэалізуе.

Бліскуча скончыў матэматычны факультэт Віленскага ўніверсітэта (1829) і Інстытут шляхоў зносін у Пецярбургу (1832). Пакінуты пры інстытуце, чытаў таксама лекцыі ў Тэхналагічным інстытуце і іншых сталічных навучальных установах. Быў, як кажуць, нарасхват. За двухтомны «Курс практычнай механікі» (1838) уганараваны надзвычай прэстыжнай Дзямідаўскай прэміяй Акадэміі навук. Справы ў яго ішлі як найлепш, але раптам у 1848 годзе ён кідае сталіцу і перабіраецца на радзіму ў Магілёў, дзе служыць ва ўпраўленні XI акругі шляхоў зносін. Тут адрабіў ажно чатырнаццаць гадоў і пасля кароткай службы ў Кастраме выйшаў у 1863 годзе ў адстаўку ў чыне інжынер-палкоўніка. Зрабіў нямала карыснага. «Русский биографический словарь» паведамляе: за час службы ў Магілёве пад яго кіраўніцтвам была пракладзена Кіеўская шаша да Магілёва і ад Магілёва да Бабруйска, праведзена шаша з Магілёва ў Доўск і перабудавана Бабруйская плаціна. Ім распрацаваны праекты мастоў праз Дзвіну ў Віцебску і праз Днепр у Магілёве, пабудаваны ў Магілёве адмысловы паравы млын. Пасля выхаду ў адстаўку ён жыў зноў жа ў Магілёве, загадваў гэтым млынам, выдаў дапаможнік па двайной бухгалтэрыі, працаваў над асабістымі запіскамі. Памёр у Магілёве ў 1874 годзе.

«Ястржэмбскі, безумоўна, меў буйны літаратурны талент», — гаворыцца ва ўсё тым жа біяграфічным слоўніку.

У сувязі з гэтым нагадаем тут вельмі цікавую літаратурна-дэтэктыўную гісторыю, якая ўзбударажыла ў свой час усю інтэлігентную Расію.

У студзені 1872 года, праз дваццаць гадоў пасля смерці Гогаля, у салідным пецярбургскім часопісе «Русская старина» з'явілася сенсацыйная публікацыя — новыя ўрыўкі і варыянты трох першых раздзелаў другога тома «Мёртвых душ». Ва ўступнай нататцы рэдакцыя пісала: «Урыўкі гэтыя захаваліся ў рукапісе, які належаў сябру і таварышу Гогаля па выхаванні ў Нежынскім ліцэі Мікалаю Якаўлевічу Пракаповічу (памёр у 1857 г.). Рукапіс (у 4-ю долю) падораны быў Пракаповічам на памяць яго саслужыўцу па выкладанні ў 1-м кадэцкім корпусе палкоўніку М. Ф. Я-му[119]. Палкоўнік, жывучы пасля ў губернскім горадзе Магілёве, пазнаёміўся з дырэктарам вучылішчаў Магілёўскай губерні Міхаілам Максімавічам Багаяўленскім і, па яго просьбе, ахвотна дазволіў зняць дакладную копію са свайго манускрыпта.

Гэтую копію М. М. Багаяўленскі — цяпер дырэктар С.-Пецярбургскага камерцыйнага вучылішча — вельмі ласкава перадаў нам для публікацыі…»

Дваццаць восем друкаваных старонак з новымі тэкстамі і варыянтамі Гогаля — гэта была сенсацыя. Ды яшчэ якіх старонак! Вось, напрыклад, Чычыкаў гасцюе ў занадта хлебасольнага памешчыка Петуха і ніяк не можа хоць на хвілінку забыцца сном, бо той цэлымі гадзінамі дае бясконцыя падрабязныя інструкцыі кухару на заўтра.

«Много еще Петух заказывал блюд.

— Пропал совершенно сон! — сказал Чичиков, перевертываясь, и закутал голову в подушки, и закрыл себя всего одеялами, чтобы не слышать проклятого Петуха. Но и сквозь подушки и одеяла раздавалось беспрестанно: “Да поджарь! да подпеки, да дай взойтись хорошенько!..”

— Поджарить бы тебя да подпечь хорошенько твой язык, — сказал про себя Чичиков и решился ждать окончания заказывания обеда. Заснул наш Чичиков уже на каком-то индюке. И грезился ему во сне Петр Петрович Петух откормленным огромным индюком без перьев. И видел он, как повар поймал индюка, посадил живого на вертел и стал припекать, обливая горячим маслом. И, странное дело, показалось еще, что Петр Петрович, в виде индюка сидя на вертеле, приговаривал беспрестанно: “Поджарь, поджарь, припеки хорошенько!..”

Всю ночь грезились эти бредни Павлу Ивановичу».

Ну чым вам не Гогаль?

Ці трэба здзіўляцца, што рэдакцыя «Русской старины» надзвычай высока ацэньвала новыя ўрыўкі: «…у іх іскрыцца непараўнаны гумар, які памёр з Гогалем, цудоўная трапнасць выражэння і мастацкае ўзнаўленне асоб, мясцовасцей, усяго, да чаго дакранаўся пэндзаль геніяльнага майстра».

---

119 Пасля Ястржэмбскі ўдакладніў: з Пракаповічам «быў знаёмы ў саракавыя гады па 2-м кадэцкім корпусе, дзе я выкладаў механіку, а ён, здаецца, рускую славеснасць».

Пасля публікацыі былі прыхільныя водгукі спецыялістаў. Рэдакцыя святкавала ўдачу.

І раптам у лістападзе 1872 года азваўся сам палкоўнік М. Ф. Я-скі — Ястржэмбскі з Магілёва. Ён прыслаў для публікацыі ў «Русской старине» рукапіс сваіх «Успамінаў» і ў прыпісцы да суправаджальнага пісьма выказаў здзіўленне, чаму Багаяўленскі без яго ведама і згоды надрукаваў звязаныя з гогалеўскім шэдэўрам матэрыялы: «А што, калі ўрыўкі падробка? А ў гэтым я амаль не сумняваюся. М. Я.».

Першы цьмяны намёк яшчэ не прадвяшчаў памераў калі не катастрофы, то вельмі непрыемнага публічнага канфузу. Аднак, само сабой, рэдакцыя папрасіла тлумачэнняў і атрымала наступны ліст, які прыводзім тут амаль цалкам, бо ён змяшчае цікавыя факты аб культурным жыцці Магілёва ў XIX стагоддзі, аб літаратурных густах і спрэчках тагачаснай інтэлігенцыі Беларусі і дае добрае ўяўленне аб самім Ястржэмбскім. Дарэчы, перад намі цікавы ўзор эпісталярнага жанру, таксама своеасаблівы літаратурны твор. Уяўляем, з якім пачуццём чыталі гэтыя радкі ў рэдакцыі «Русской старины». Нібыта выбухнула бомба:

«Магілёў (губернскі) 13-га лютага 1873 г.

Ваша міласць, пане рэдактар!

На пісьмо ваша ад 5-га лютага за № 47-м лічу абавязкам неадкладна адказаць.

Вы жадаеце ведаць, на чым заснавана маё меркаванне пра тое, што варыянты 2-й часткі “Мёртвых душ”, надрукаваныя ў “Русской старине”, не належаць Гогалю.

Адказваю шчыра: варыянты гэтыя напісаны мною трынаццаць гадоў таму назад, ніколі не прызначаліся для друку і напісаны з асаблівай нагоды, пра якую лічу абавязкам расказаць вам з усёй падрабязнасцю.

У 1859 годзе, жывучы ў Магілёве, я быў блізка знаёмы з М. М. Багаяўленскім. У сяброўскіх гутарках мы з ім часта спрачаліся аб нашых літаратурных славутасцях. У адной з падобных гутарак зайшла размова пра Гогаля. Абодва мы, і М. М., і я, належым да ліку заўзятых прыхільнікаў Гогаля, але М. М. захапляўся ім безумоўна, а я, прызнаючы Гогаля вялікім пісьменнікам за першыя яго літаратурныя творы і асабліва за 1-ю частку “Мёртвых душ”, абураўся за яго “Перапіску з сябрамі” і за 2-ю частку “Мёртвых душ”. Помніцца, што раз у ажыўленай спрэчцы я сказаў, што знаходжу 2-ю частку “Мёртвых душ” надзвычай няўдалым працягам першай. Я дадаў, што ў мяне ёсць пераробка трох першых раздзелаў 2-й часткі, куды больш удалая за твор Гогаля, і што М. М. не пазнае, Гогаль гэта пісаў або хто іншы. М. М. пажадаў бачыць гэтую пераробку, і я абяцаў яму адшукаць яе ў хламе старых папер.

У мяне быў рукапіс 2-й часткі “Мёртвых душ” у тым выглядзе, у якім потым ён надрукаваны, і я, незадаволены гэтай 2-ю часткай, перарабіў тры першыя раздзелы яе і перадаў М. М. Ён прачытаў і аб’явіў, “што гэта не падробка пад Гогаля, а сам Гогаль”. Я запэўніваў яго ў адваротным, ён стаяў на сваім і сказаў, што я грашу тым, што, маючы ў сябе такі скарб, не перадаю яго ў друк. Я адказваў, што даражу імем Гогаля і не адважуся ніколі выдаць за гогалеўскае тое, што належыць чыемусьці пустому пяру.

— Так падарыце мне гэты рукапіс, я яго надрукую.

— Падарыць не магу, а спісаць копію можаце, але з умовай ніколі не друкаваць.

Абяцанне дадзена, і копія знята. Арыгінал застаўся ў мяне, і па жаданні вашым, пане рэдактар, пасылаю яго вам у тым выглядзе, у якім ён быў напісаны, з памаркамі і папраўкамі, якія даводзяць, што артыкул быў напісаны спехам і зусім не прызначаўся для друку.

Гэтым справа і скончылася. Я не палічыў патрэбным сказаць М. М., што варыянты зроблены мною, але станоўча запэўніваў яго, што іх пісаў не Гогаль.

Прайшло 13 гадоў, і я забыўся пра існаванне майго рукапісу. Якое ж было маё здзіўленне, калі ў студзеньскай кнізе “Русской старины” за 1872 год я сустрэў мой артыкул, надрукаваны слова ў слова <...> У справядлівым абурэнні на М. М., які забыўся аб сваім абяцанні не друкаваць артыкул, я хацеў адразу ж напісаць у рэдакцыю “Русской старины” і растлумачыць усю справу, але ўтрымаўся, разлічваючы, што чытацкая публіка сама ўбачыць нялоўкасць падробкі пад Гогаля і пакіне яе без увагі. Я памыліўся... Знайшліся людзі, якія, падобна М. М., не ўсумніліся ў тым, што варыянты належаць Гогалю. У ліпеньскай кнізе “Вестника Европы” за 1872 год з’явіўся артыкул п. Чыжова з вельмі сур’ёзным заключэннем. П. Чыжоў бачыць у гэтых варыянтах поўнае адмаўленне Гогаля ад дзікіх ідэй, выказаных ім у “Перапісцы з сябрамі”, і мяркуе, што гэтая рэзкая перамена ў Гогалю адбылася з прычыны вядомага пісьма да яго Бялінскага. Ён думае, што Гогаль пад уплывам гэтага пісьма перарабіў тры першыя раздзелы 2-й часткі “Мёртвых душ” і што, верагодна, перарабіў бы ў тым жа духу і астатнія.

Ён бачыць у гэтых варыянтах майстэрскія эскізы, вартыя пяра вялікага мастака, і дзякуе шчасліваму выпадку, які даў магчымасць зазірнуць у душу Гогаля...

Жарт зайшоў занадта далёка, і пара з ім пакончыць.

Я мог бы дазволіць сабе жарт у сяброўскім коле, жадаючы праверыць літаратурнае чуццё чалавека, які вывучаў Гогаля, але я не магу ўводзіць у зман чытацкую публіку і выдаваць за гогалеўскае тое, што не належыць яму. Я раскайваюся ў сваім неасцярожным жарце і апраўдваю сябе толькі тым, што я станоўча запэўніваў М. М., што варыянты не належаць Гогалю.

Мне здаецца, што М. М-чу не варта было друкаваць перададзены мною артыкул без майго ведама і згоды і што, друкуючы яго ў "Русской старине", ён дзейнічаў неразважліва.

Вось вам, ваша міласць, уся ісціна. Мяркуйце, хто з нас дваіх больш вінаваты ў гэтай справе: я або М. М.

Прыміце і інш.

*Мікалай Ястржэмбскі*».

Прыдзірліва разгледзелі ў рэдакцыі прысланы з Магілёва рукапіс гогалеўскага твора. Той жа почырк, што і пісьма. Здаецца, рукапіс сапраўды пацвярджаў, што пераробка зроблена Ястржэмбскім.

Звярнуліся за тлумачэннямі да Багаяўленскага, які, на шчасце для сябе, адшукаў у сваім архіве (вось вам карысць прыватных архіваў) пісьмо Ястржэмбскага больш як дзесяцігадовай даўнасці, якое супярэчыла некаторым новым сцвярджэнням нашага земляка. Вось гэтае колішняе сяброўскае пасланне. Яно ўводзіць нас у культурна-грамадскую атмасферу Магілёва напярэдадні сялянскай рэформы, калі Багаяўленскі, відаць, у сувязі з інтрыгамі нядобразычліўцаў, быў вымушаны пакінуць горад. Зноў перад намі і гісторыя, і псіхалогія разам:

«14-га лютага 1861 г., Магілёў

Дарагі мой Міхайла Максімавіч!

Дзякую вам за пісьмо. Вы не памыліліся, лічачы мяне сярод лепшых вашых сяброў. Не я адзін душэўна шкадую аб тым, што вы пакінулі Магілёў: многія падзяляюць са мною гэтае шкадаванне, а дзеці мае, якія вам столькі абавязаны, успамінаюць пра вас з сардэчнаю ўдзячнасцю. Я чытаў пісьмо ваша да гімназістаў. Хто можа сказаць былым сваім падначаленым тое, што вы сказалі ў вашым пісьме, той мае права ганарыцца сваім мінулым.

Рукапіс я атрымаў. Надрукаванне варыянтаў "Мёртвых душ" пакідаю на ваша вырашэнне, але прашу вас пры выданні не згадваць аба мне. Хаця я і атрымаў гэты спісак ад нябожчыка Пракаповіча ў саракавых гадах, але не зусім упэўнены, што гэта твор самога Гогаля, а ўводзіць публіку ў зман быў бы грэх.

Нядобразычліўцы вашы замоўклі. Ім сорамна сказаць штонебудзь пра вас, калі грамадская думка ўся за вас. Не адкідайце існавання гэтай думкі на Русі і інш. Любіце мяне, колькі я вас люблю.

Душэўна адданы вам

*Мікалай Ястржэмбскі*».

Такім чынам, выявілася непаслядоўнасць Ястржэмбскага і нейкая — што там ні кажы — яго віна перад грамадскасцю і персанальна перад Багаяўленскім. (Апошні з пакрыўджанай іроніяй, якую можна зразумець, пісаў у тую ж «Русскую старину»: «...я адкрыў болей, чым думаў — я адкрыў Гогаля 2-га. Шкада толькі, што гэты выдатны талент выявіўся крыху позна».) Справа заблытвалася. Паўстала пытанне, ці можна наогул верыць Ястржэмбскаму. Можа, усё-такі ён скапіраваў свой тэкст са спіса, які належаў самому Гогалю? Ястржэмбскі вымушаны быў звярнуцца з тлумачэннямі ў «С.-Петербургские ведомости» (1873. № 184), закранаючы ў новым пісьме самыя розныя бакі таго, што адбылося. Хочаш не хочаш, а даводзілася прызнацца, што мела месца містыфікацыя. Прыводзіліся ўсё новыя доказы і аргументы. Штосьці праясніць магло, у прыватнасці, пытанне аб крыніцах надрукаваных варыянтаў: аказалася, яны заснаваны на сцэнах, якія можна было назіраць у Магілёве і Віцебску пасля смерці Гогаля. Але зноў лепш дамо слова самому Ястржэмбскаму:

«Могуць запытацца, чаму я ў свой час не сазнаўся перад М. М. у містыфікацыі? На гэта я адкажу, што падобнае прызнанне магло б здацца крыўдным чалавеку, які сцвярджаў, што ён вывучыў Гогаля да таго, што адразу пазнае падробку пад яго. Зрэшты, я раскайваюся ў тым, што не зрабіў гэтага прызнання; яно скончыла б містыфікацыю і не павяло б да вынікаў, выкліканых надрукаваннем варыянтаў.

...Нарэшце, калі б артыкул мой быў спісаны з чыйго-небудзь рукапісу, няўжо на працягу 13 гадоў не знайшоўся б другі спіс гэтага рукапісу? Ды і ці мог бы я адважыцца выдаваць за сваё тое, што магло быць у іншых руках і ў чым мяне можна было б лёгка выкрыць?

Я не шукаю літаратурнай вядомасці, не надаю ніякага значэння напісаным мною варыянтам; здзіўляюся, што ў іх не пазнана адразу нялоўкая падробка пад Гогаля. Паўтараю ўжо сказанае

раз: я мог дазволіць сабе жарт з чалавекам, які сцвярджаў, што ён цалкам вывучыў Гогаля, але не магу дазволіць містыфікаваць публіку. Я магу заслужыць папрок за тое, што не сазнаўся цалкам перад М. М. Багаяўленскім у містыфікацыі, але вырашыў лепш перанесці гэты справядлівы папрок, чымся пакідаць публіку ў змане наконт Гогаля.

Мяне могуць пытаць, якім чынам я мог падрабіцца пад Гогаля да таго, што многія не пазналі падробкі? На гэта я адкажу: Гогаль быў мой любімы пісьменнік, я доўга вывучаў яго, я ведаў амаль на памяць усе ягоныя тварэнні і асабліва першую частку "Мёртвых душ", я захапляўся гэтаю першаю часткаю і ў той жа час страшэнна абураўся на Гогаля за яго "Перапіску з сябрамі" і за другую частку "Мёртвых душ". Пад уплывам вядомага пісьма Бялінскага я часта абдумваў, як бы трэба было перарабіць другую частку "Мёртвых душ", каб яна зрабілася годным працягам першай. Яшчэ да сумнай містыфікацыі з М. М. у мяне былі накіды ўставак і пераробак другой часткі, і я выкарыстаў іх, калі ўзнікла патрэба праверыць, да якой ступені М. М. вывучыў любімага ім і мною аўтара. Мне не каштавала вялікіх намаганняў перарабіць тры першыя раздзелы другой часткі, і я гэта зрабіў на працягу некалькіх дзён. Калі б я меў тады больш часу, я перарабіў бы і астатнія раздзелы. Я ўставіў вядомы ў свой час усяму Пецярбургу анекдот пра графа Сідара Андрэевіча, які здарыўся ў 1854 годзе, г. зн. пасля смерці Гогаля. Я прымусіў генерала Бятрышчава сказаць пра Міхайлоўскага-Данілеўскага[120] тое, што разам са многімі чуў у Віцебску за абедам у 1856 годзе ад аднаго генерала, удзельніка айчыннай вайны, таксама неяк забытага Данілеўскім. Я апісаў сняданак у Пятра Пятровіча Петуха са сцэны, сведкам якой разам з іншымі быў тут у Магілёве ў аднаго барына-сібарыта, што любіў сытна пад'есці і пачаставаць і хваліўся тым, што ён не ведае, што такое нуда. Я дапоўніў недаконачанае ў Гогаля прымірэнне Тантэтнікава з Бятрышчавым і сватанне Чычыкава. Адным словам, я, а не хто іншы напісаў варыянты, надрукаваныя ў "Русской старине". На гэтым я стаю цвёрда – і застануся назаўжды.

Магілёў, 2 ліпеня 1873 г.
*Мікалай Ястржэмбскі*».

Да ўсіх гэтых тлумачэнняў дададзім яшчэ адно, вельмі, на наш погляд, істотнае: Ястржэмбскі паходзіў з сумежжа Беларусі і Украіны (дарэчы, вучыўся спачатку ў базыльянскім кляштары ў Оўручы на Валыні),

[120] Вядомы гісторык вайны 1812 г.



і яму асабліва блізкія былі стылістыка Гогаля, сам гогалеўскі генатып. І сваю містыфікацыю ён выканаў бліскуча.

Нягледзячы на шчырае прызнанне «віноўніка», тагачасная прэса ніяк не магла пагадзіцца, што гэта падробка. Паважны крытык «Вестника Европы» з'едліва пісаў: «Калі б мы верылі ў спірытызм, мы падумалі б, што калі п. Я-і "спехам" рабіў свае ўстаўкі, ён, відаць, гутарыў з духам Гогаля… Мы паўтараем п. Я-му просьбу падзяліцца з публікай гэтым дзіўным спосабам вывучэння вялікіх пісьменнікаў…»

Вядомы тагачасны рускі і ўкраінскі пісьменнік Рыгор Пятровіч Данілеўскі, які па самім сваім паходжанні таксама павінен быў вельмі блізка адчуваць феномен Гогаля, яго своеасаблівую стылістыку, сцвярджаў у «С.-Петербургских ведомостях»: «…нягледзячы на катэгарычную заяву п. Ястржэмбскага, я дазваляю сабе быць той думкі, што ўрыўкі, пра якія ідзе размова, належаць нікому іншаму, як Гогалю».

Уплывовыя «Биржевые ведомости» выказвалі згоду са здагадкай «Вестника Европы», «што п. Я-і не падрабіў варыянтаў, а стараецца прысвоіць сабе напісанае Гогалем».

Газета «Гражданин», якую рэдагаваў Дастаеўскі, адзначыла стылістычную адрознасць урыўкаў Ястржэмбскага ад гогалеўскіх твораў, аднак свой фельетон завяршала словамі: «А цуд усё-такі застаецца цудам!».

Сітуацыя вельмі арыгінальная: звычайна ўсе выкрываюць падробшчыка, а ён усяляк упіраецца, а тут наадварот — містыфікатар шчыра прызнаецца ў падробцы, а яму не вераць. Ястржэмбскаму давялося пісаць усё новыя пісьмы, заявы, тлумачэнні.

У рэшце рэшт рэдакцыя «Русской старины» вымушана была, хоць і неахвотна, прызнаць апублікаваныя фрагменты за падробку. «Мы, зрэшты, — пісала рэдакцыя, — ніколькі не шкадуем, што яны выдадзены, наадварот, як па-майстэрску, нават па-мастацку накіданыя нарысы яны вельмі цікавыя, але іх месца не ў першым аддзеле нашага часопіса, а ў Лістках з запісной кніжкі "Русской старины", у аддзеле кур'ёзаў, куды б мы іх змясцілі, калі б толькі хаця б цень сумнення ў тым, што яны належаць не Гогалю, быў бы нам своечасова заяўлены».

Па сутнасці, усё гэта было прызнаннем літаратурнага таленту Ястржэмбскага (пра гэта ж сведчаць яго лісты ды і знойдзеныя А. Гусак у архіве «Русской старины» ўспаміны пра пецярбургскі перыяд жыцця, Інстытут шляхоў зносін[121]).

[121] Фрагменты з успамінаў М. Ястржэмбскага пра дзейнасць у якасці інжынера шляхоў зносін у Магілёве прыведзены ў публікацыі невядомага аўтара. Гл.: Б. Н. Отрывки из записок бывшего инженера // Русская старина. 1900. № 1. Рэдакцыя слоўніка «Деятели революционного движения…» аднесла гэты матэрыял да петрашэўца І. Ястржэмбскага, мабыць не ведаючы пра існаванне яго сваяка-інжынера.

Такая цікавая і павучальная выйшла гісторыя.

Вучоныя любяць прыводзіць гэты, можна сказаць, класічны выпадак, гаворачы пра літаратурныя містыфікацыі і цяжкасці вызначэння аўтарства літаратурных твораў.

Такім чынам, перад намі таленавіты вучоны-механік, здольны інжынер з літаратурным дарам. У радаводнай справе Ястржэмбскіх у мінскім гістарычным архіве нямала слядоў гэтага цікавага прадстаўніка роду. Вось яго ўласнаручнае прашэнне на польскай мове ад 19 кастрычніка 1829 года. Ян Мікалай сын Фелікса Ястржэмбскі жыў тады ў маёнтку Барысаўшчына і меў намер паступіць на вайсковую службу. Бацька Фелікс Іванавіч лічыўся былым межавым суддзёй Рэчыцкага павета. У Івана (Яна) Мікалая было некалькі братоў, у тым ліку той самы Іосіф Люцыян, які ручаўся ў 1866 годзе за петрашэўца Ястржэмбскага. Ступень іх сваяцтва зручней за ўсё можна паказаць наступнай радаводнай схемай:




Такім чынам, бацькі петрашэўца і інжынера былі дваюраднымі братамі, а самі яны траюрадныя браты (А. Гусак недакладна называе іх стрыечнымі братамі). Трэба думаць, Мікалай Феліксавіч, які даўно трывала стаяў на нагах, апекаваўся — прынамсі, на першым этапе — маладзейшым сваяком у паўночнай сталіцы.

Яшчэ дакументы радаводнай справы. 1847 год. Інжынер-маёр Мікалай Іван Феліксавіч Ястржэмбскі, які служыць у Пецярбургу пры Інстытуце шляхоў зносін, звяртаецца ў Мінск з просьбай далучыць да дваранскага роду чатырох сваіх сыноў. У наступным годзе, як ужо мы пісалі, ён перабраўся ў Магілёў. З восені 1848 года падпалкоўнік корпуса інжынераў шляхоў зносін Ястржэмбскі вядзе перапіску з Мінскам ужо з дняпроўскіх берагоў («…по жительству моему в губернском городе Могилеве»). Чаму ўсё-такі ён пакінуў прэстыжны Пецярбург? І якраз у 1848 годзе? З'яўляецца думка, ці не было гэта ўцёкамі ў сувязі з тым, што яго безразважны сваяк сышоўся ў сталіцы з небяспечнымі петрашэўцамі. Магло быць і такое.

Ён зведаў творчыя азарэнні і ўзлёты, цаніў будні, напоўненыя працай. І калі што і азмрочыла яго жыццё, то гэта гісторыя з містыфікацыяй (можна сказаць, падвёў, шукаючы выйсця, нерэалізаваны літаратурны талент). Ён увязаўся ў непрыемныя публічныя спрэчкі. Яму не верылі. Быў закрануты яго гонар. Трэба думаць, яна, гэтая няшчасная падзея, нават падбіла яго здароўе (як мы ўжо гаварылі, у 1874 годзе ён памёр).

Дзеці Мікалая Феліксавіча, мяркуючы па радаводнай справе, таксама людзі рэспектабельныя і абачлівыя — своечасоваканчаюць універсітэты, ходзяць у дэпартаменты, спраўна атрымліваюць чыны. У 80-я гады запісваюцца ў дваранства ўжо ягоныя ўнукі.

Петрашэвец Іван Львовіч памёр, мяркуючы па ўсім, беспатомным. Яго спадчыннік — увесь наш народ.

Імёны абодвух Ястржэмбскіх належаць сёння гісторыі.

# ГАРМОНІЯ СВАБОДЫ: З МАСТАЦКАГА І МУЗЫЧНАГА ЖЫЦЦЯ XIX СТАГОДДЗЯ

Дзе ж вы сёння, музыкі?
…Слухачы засталіся.

*Л. Галубовіч*

## ХТО ІЛЮСТРАВАЎ «ГАПОНА»?

Другая кніжка Дуніна-Марцінкевіча — знакаміты «Гапон» — выдадзена ў 1855 годзе мінскімі кнігарамі Бейлінымі. Друкавала яе мясцовая друкарня Дворца. Выглядае кніжка досыць прыстойна: зручны невялікі фармат, якасная папера, выразны друк. Ёсць і ілюстрацыі, выкананыя ў мінскай жа літаграфіі Фалька. Іх чатыры, адпаведна з чатырма песнямі-часткамі паэмы: скокі ў карчме, бойка, сцэна прыёму рэкрутаў і, урэшце, высакародная гуманная пані бласлаўляе шчаслівую пару — Гапона і Кацярыну. Наяўнасць ілюстрацый спецыяльна адзначана на тытуле: «Упрыгожана 4 гравюрамі [rycinami]». У малюнках адчуваецца ўплыў тагачаснага народнага лубка, свядомая арыентацыя на пэўныя ўзоры, а можа, і недахоп прафесіяналізму.

У прыхільнай увогуле рэцэнзіі на «Гапона» У. Сыракомля крытыкаваў якасць літаграфска-гравёрных работ, лічыў, што майстар не выкарыстаў усіх сваіх магчымасцей. «Віншуем горад Мінск з тым, што ў ім абуджаецца літаратурны рух, — пісаў Вясковы лірнік. — Браты Бейлінавы [Бейліны] і Е. Дворац варушацца над выданнем кніг; увогуле някепская друкарня апошняга адпавядае мясцовым літаратурным патрэбам, а літаграфія Фалька мае магчымасць нават ілюстраваць кнігі. Калі б мы не бачылі іншых работ пана Фалька, не адважыліся б сказаць слова пра чатыры малюнкі, якімі ўпрыгожаны "Гапон", але ведаем яго карту Мінскай губерні, ведаем ілюстраваны буквар і ўзоры каліграфіі. У тых работах відаць гладкі разец і правільны малюнак, таму мы з добрым намерам рэкамендавалі віленскім выдаўцам звяртацца да пана Фалька з рознымі сваімі патрэбамі. Ілюстрацыі да "Гапона" не апраўдалі нашага ўражання. Добры малюнак сцэны ў карчме скрэслены нейкімі штрыхамі, якія зрабілі агіднымі твары постацей; як нядбала выглядаюць рукі, як паламаны ногі! Нейкую карыкатуру ўяўляе сцэна набору! Чаму такая пачварная постаць пані ў апошняй сцэне? Рабіць прыгожыя рэчы, якія разыходзяцца ў межах аднаго горада, і выступаць з няўдалымі ілюстрацыямі ў кніжцы, якая разыдзецца па ўсім краі, — гэта вялікае расчараванне для выдаўцоў, абраза для мастакоў і абыякавасць да грамадскасці. Для карысці будучых выданняў, якія, вядома, з'явяцца ў Мінску, выгаварваем свае заўвагі літаграфіі пана Фалька, тым болей упэўнены мы, што ён мог даручаную работу выканаць лепей»[122].

Словам, ацэнка ілюстрацый крытычная, адмоўная. Але Сыракомля гаворыць найперш пра якасць літаграфскіх работ. У адным выпадку ён падкрэслівае, што «добры малюнак» папсаваны літографам.

Хто ж быў аўтарам малюнкаў?

Рамуальд Зямкевіч, які шмат ведаў пра мінулае беларускай літаратуры, меў у сваім распараджэнні рэдкія крыніцы, што да нас не дайшлі, дае нечаканы адказ. Сам Дунін-Марцінкевіч! «Кніжка выйшла лацінскімі літарамі з малюнкамі работы самога Марцінкевіча, каторыя рабіў менскі літограф Фальк», — паведамляецца ў вядомым артыкуле гэтага слыннага даследчыка і калекцыянера «Стары Менск у беларускіх успамінах» (1919).

Інфармаванаму, дасведчанаму Зямкевічу можна было б паверыць, калі б не подпісы лацінскімі літарамі, якія выразна чытаюцца на ілюстрацыях.

На адной паметка-крыптанім К. В.

На другой некалькі паметак: rys. K. Brz., grav. E. S., Lith. F. Falka. Гэта значыць: «Маляваў К. Брж., гравіраваў Э. С. у літаграфіі Ф. Фалька».

Подпіс на трэцяй гаворыць пра мастака ўжо «адкрытым тэкстам»: K. Brzeski.

Такім чынам, на ілюстрацыях ёсць не толькі фірменныя знакі літаграфіі Фалька, прачытваюцца і ініцыялы нейкага мясцовага майстра-гравёра (Э. С.), які непасрэдна выконваў заказ, а самае галоўнае — разбіраецца подпіс аўтара малюнкаў — К. Бржэскі (часам ён хаваўся пад крыптанімам К. Б., К. Брж.).

Звестак пра такога мастака ў даведачнай літаратуры не захавалася. Перад намі беларускае прозвішча (відаць, ад назвы Брэста) з польскім гукавым напластаваннем, з пэўнай, так сказаць, арыстакратычнай афарбоўкай, якой любіла ў свой час бліснуць наша шляхта.

Прозвішча гэтае сустракаецца ў гісторыі культуры. З Бржэскімі, напрыклад, сябраваў выдатны рускі паэт А. Фет (дарэчы, адзін з паэтычных

122 Цыт па кн.: Александровіч С. Х., Александровіч В. С. Беларуская літаратура XIX — пачатку XX ст. С. 65–66.

настаўнікаў нашага Максіма Багдановіча). У біяграфіі Фета чытаем, што гэтае сяброўства пачалося ў 1845 годзе, калі Фет служыў афіцэрам у Херсонскай губерні. Тут ён пазнаёміўся з мясцовым памешчыкам, паэтам-дылетантам Аляксеем Фёдаравічам Бржэскім (1818–1868) і яго жонкай Аляксандрай Львоўнай (1821—?), якая стала адной з самых дарагіх Фету жанчын. Пакінуўшы Херсонскую губерню ў 1853 годзе, Фет захаваў з Бржэскімі сяброўскія сувязі. У 1855 годзе ў часопісе «Современник» з'явілася некалькі вершаў Бржэскага за подпісам «А. Бр-ий». Лічыцца, што гэтай публікацыі садзейнічаў Фет. У творчай спадчыне паэта ёсць нямала цудоўных твораў, прысвечаных херсонскім сябрам: «Бржэскім пры атрыманні кветак і нот» (1847), «А. Ф. Бржэскаму» (1866), «А. Л. Бржэскай» («Далёкий друг, пойми мои рыданья…», 1879). І яшчэ, і яшчэ… Вершаў столькі, што хапіла б на цэлы зборнік. Нас у дадзенай сітуацыі (Фет — Бржэскія; Бржэскі — Дунін-Марцінкевіч) асабліва магло б зацікавіць, што А. Бржэскі надрукаваў свае вершы ў «Современнике» акурат у той час, калі ў Мінску выйшаў «Гапон» з ілюстрацыямі К. Бржэскага, аднак ніякіх непасрэдных выхадаў Бржэскіх з фетаўскага акружэння на Беларусь не праглядваецца. Хутчэй, тут выпадковае супадзенне. Хоць нейкае сваяцтва з цягам часу можа і адкрыцца.

Але вось новы след: у «Польскім біяграфічным слоўніку» знайшоўся артыкул пра вядомага расійскага эканаміста канца XIX — пачатку XX стагоддзя, нашага земляка: «Бржэскі Мікалай (1860–1910)… Нарадзіўся ў Мінску Літоўскім, сын Карнеля і Марыі з Захаравых, скончыў тамсама гімназію…». Ёсць пра яго запіс і ў «Биографическом словаре профессоров и преподавателей С.-Петербургского университета…» (т. 1, 1896): Бржэскі Мікалай Карнілавіч, нарадзіўся ў 1860 годзе, з дваран Мінскай губерні… Зацікавіў мяне ў дадзеным выпадку не столькі сам эканаміст (хаця нельга не радавацца талентам і поспехам нашых землякоў на самых розных нівах), колькі яго бацька. Выходзіць, у часы Дуніна-Марцінкевіча ў Мінску, які даўней часам называўся Мінскам Літоўскім, жыў Карнель (Карнелій) Бржэскі, К. Бржэскі, які і мог быць ілюстратарам «Гапона».

Гэта дало падставы звярнуцца да матэрыялаў Мінскай дваранскай дэпутацкай зборні ў Цэнтральным гістарычным архіве Беларусі. Там адшукалася ёмістая радаводная справа мясцовых дваран Бржэскіх (часам называліся Жэготамі-Бржэскімі) са звесткамі (няхай і няпоўнымі) пра Карнеля Бржэскага.

Вось яго «анкетныя дадзеныя», якія ўдалося вылавіць, гартаючы справу (Ф. 319. Воп. 2. Спр. 281).

Каталік, як гэта часцей і было ў тагачаснай беларускай шляхты. Поўнае імя Карнель Сямён, сын Мікалая Амброзія. Нарадзіўся 23 мая



1833 года. Далёкія продкі мелі маёнткі на Валыні і Мсціслаўшчыне, потым род збяднеў. У 1853 годзе сям'я жыла ў Нясвіжы, хоць і была прылічана да дваран Мінскага павета. Паводле пазнейшых дакументаў, у бацькоў быў у Нясвіжы драўляны дом з валокаю ворнай зямлі. У пасямейным спісе 1853 года пра бацьку сказана: «Имеет 3-х сыновей: Гектора 27, Корнелия 20 и Станислава 14 лет и дочь Софию 10 лет. Из них Гектор находится в частной должности надзирателя при шоссейных работах, Корнелий в Слуцкой гимназии учеником в III классе, а Станислав и София при родителях».

З Мінскам Бржэскія былі звязаны, відаць, і раней, яшчэ больш умацавалася гэтая сувязь з красавіка 1854 года, калі старэйшы сын Гектар паступіў на службу ў губернскую паштовую кантору. Неўзабаве да яго, кінуўшы гімназію, прыехаў і малодшы брат Карнель, у кастрычніку гэтага ж года ён звярнуўся ў дваранскую дэпутацкую зборню з просьбай выдаць шляхецкае пасведчанне для паступлення ў цывільную службу. У лістападзе 1855 года Карнель служыў у Бабруйскім павятовым казначэйстве і ў мясцовым Мікалаеўскім саборы ўзяў шлюб з Марыяй Фамінічнай Захаравай, праваслаўнага веравызнання. Апошнюю акалічнасць хацелася б падкрэсліць спецыяльна. Гэта гаворыць аб пэўнай шырыні поглядаў Карнеля ці аб незвычайным каханні. Карнель і Марыя якраз бацькі будучага пецярбургскага эканаміста.

У 1860 годзе, калі нарадзіўся Мікалай, яго бацька Карнель Бржэскі лічыўся старшым сартавальнікам мінскай паштовай канторы, калежскім рэгістратарам. Звязаны з Бабруйскам (родны горад Дуніна-Марцінкевіча) і Мінскам, ён, несумненна, уваходзіў у кола знаёмых нашага песняра. Напісанае ім прашэнне 1854 года ў радаводнай справе сведчыць, што ён валодаў каліграфіяй, меў, такім чынам, нейкія мастацкія здольнасці. У дакуменце спецыяльна адзначана: «Сие прошение сочинял и переписывал сам проситель Дворянин Корнелий Николая сын Бржеский…». Гэты К. Бржэскі, трэба думаць, і выканаў малюнкі для «Гапона» і стаіць такім чынам ля вытокаў беларускай кніжнай графікі новага часу.

Як і сам Дунін-Марцінкевіч, К. Бржэскі быў звязаны з удзельнікамі вызваленчага руху і паўстання 1863 года. Ды, па сутнасці, хто з карэнных мінчан тады не спачуваў паўстанцам?.. Сям'ю Бржэскіх гэтыя падзеі зачапілі асабліва моцна. Брат жонкі Павел Захараў — малады змагар-інтэрнацыяналіст — быў паўстанцам атрада Трусава. У брашуры Янкі Лучыны «З крывавых дзён» пра паўстанне на Міншчыне чытаем: «Вельмі многа рускіх, напрыклад, Захараў, Кукін і іншыя, прынялі чынны ўдзел у прадпаўстанцкім руху. Дзякуючы свайму паходжанню, яны лягчэй маглі даступіцца да ўлад і ўстаноў, даведваліся аб розных патрэбных дэталях і перадавалі іх сваім прыяцелям-палякам. Усе яны

пасля прынялі дзейсны ўдзел у партызанскай вайне і пагінулі ў снягах Сібіры»[123].

Вайскова-судная справа Паўла Фаміча Захарава захоўваецца ў Вільнюсе. У снежні 1863 года ён даў аб сабе наступныя паказанні: 21 год, дваранін Мінскай губерні, нацыянальнасць (рускі? беларус?) не пазначана, веравызнанне праваслаўнае, «имею одну только сестру, движимого и недвижимого имущества не имею». Вучыўся ў V класе Мінскага высакароднага пансіёна. Кватараваў у доме Басі Мішкіндавай у сваёй сястры Марыі Бржэскай. Сястры 22 гады, яна жонка службоўца (старшага сартавальніка) Мінскай губернскай пошты (у канторы служыў і бацька Антона Трусава). І тут мы робім маленькае нечаканае адкрыццё. Калі ў канцы 1863 года Марыі 22 гады, то ў 1855 годзе (дата замужжа) ёй было не больш за… 14 год. А ў Бабруйску, дзе маладых, відаць, мала ведалі, у шлюбным пасведчанні ёй праставілі 20 гадоў. Ці не было тут наўмысных уцёкаў з Мінска ў Бабруйск? Як вядома, падобная рамантычная гісторыя жаніцьбы была і ў самога Дуніна-Марцінкевіча, што яшчэ больш збліжае аўтара і ілюстратара «Гапона». Ужо немалады паэт мусіў у такім выпадку апекавацца юнымі рамантыкамі.

Вось такая намячаецца біяграфія. Выходзіць, К. Бржэскі (калі мы вылічылі ўсё правільна) быў мастаком-аматарам, што, зрэшты, сказалася і на малюнках.

Пра іншыя яго мастацкія работы звестак пакуль няма. Хутчэй за ўсё, яму не ўдалося развіць свой талент. Яго дзеці былі людзьмі здольнымі, паспяхова працавалі на самых розных нівах. Як ужо гаварылася, адзін з сыноў стаў вядомым эканамістам. Бліскуча скончыў Пецярбургскі ўніверсітэт[124], атрымаўшы за студэнцкую навуковую працу залаты медаль і прэстыжную прэмію. Паспяхова абараніў магістарскую і доктарскую дысертацыі, займаў высокія пасады ў міністэрстве фінансаў. Асноўныя яго працы адносяцца да тэорыі і практыкі падатковага абкладання, юрыдычнага побыту сялян. У прысвечаным яму вялікім артыкуле ў «Новым энцыклапедычным слоўніку» Бракгаўза і Эфрона апошняя праца Бржэскага «Нарысы аграрнага побыту сялян» (1908) называецца яго «эканамічным запаветам». Паказваючы надзвычай складаную сітуацыю ў тагачаснай вёсцы, няўдачу ўрадавых рэформ, Бржэскі бачыў выйсце ў абнаўленні народнага жыцця. «Аграрнае пытанне ўсё яшчэ стаіць ва ўсёй сваёй грознай веліччы», — перасцерагаў эканаміст.

Мікалай Карнелевіч Бржэскі захаваў сантымент да роднага Беларуска-Літоўскага краю, быў цесна звязаны з Віленскім таварыствам

[123] Лучына Я. Творы. Мінск, 1988. С. 152.

[124] Дарэчы, адначасова з М. Бржэскім, толькі на іншым факультэце, у Пецярбургскім універсітэце вучыўся вядомы беларускі дзеяч Б. Эпімах-Шыпіла.



сяброў навукі, утвораным у 1907 годзе, падарыў яму сваю бібліятэку і некаторыя рукапісы. Лічыўся членам-апекуном гэтага таварыства. У Вільні Бржэскі і пахаваны.

Малодшы сын Карнеля і Марыі Бржэскіх Уладзімір перад Першай сусветнай вайной працаваў інжынерам-пуцейцам ва Украіне ў Ковелі. Сын апошняга (унук Карнеля) быў тады студэнтам Пецярбургскай кансерваторыі. Так што ў родзе зноў праявіліся мастацкія здольнасці…

Архіўныя дакументы, іх уважлівае супастаўленне даюць нам шанс здабыць новыя звесткі пра акружэнне Дуніна-Марцінкевіча, пра культурнае жыццё Мінска XIX стагоддзя.

## «МУЗЫКАНТ З-НАД ДЗВІНЫ…»

3 лютага 1862 года ў вядомым альбоме А. Вярыгі-Дарэўскага з'явіўся невялікі нотны запіс з наступным тэкстам, звернутым да ўладальніка альбома:

«Добры Арцёме! Некалькі мілых хвілін, праведзеных у тваім доме, засталіся вечнай памяццю ў маім сэрцы; прашу ўспомніць некалі і мяне, і прымі на развітанне гэтыя некалькі нотак з маёй душы; хай гэта мелодыя будзе тлумачэннем маёй шчырай да цябе прыязні.

Музыкант з-над Дзвіны
Леапольд Кандыба».

Імя гэтае, колькі ні шукаў, не значыцца ні ў водным музычным даведніку. Толькі нядаўна ўдалося напаткаць архіўныя звесткі пра дачыненне Кандыбы да падзей 1863 года. Вось як малюецца гэтая постаць па матэрыялах адпаведнай следчай справы (ДГА Літвы. Ф. 1248. Воп. 1. Спр. 670).

Леапольд Адамавіч Кандыба, 27 гадоў, дваранін Дзісенскага павета Віленскай губерні, католік, нежанаты, маёнтка не мае. Мяркуючы па ўсім, яго радзіма — дзісенскае Падзвінне, г. зн. паўночна-заходняя частка сённяшняй Віцебскай вобласці. Больш дакладных звестак аб паходжанні Кандыбы, на жаль, пакуль няма. Характэрнае гэтае прозвішча часам сустракаецца ў метрычных дакументах па Віцебскай губерні. Нейкая Канстанцыя Кандыба, жонка генерал-маёра, пахавана ў сярэдзіне XIX стагоддзя на Ваганькаўскіх могілках у Маскве. Магчыма, гэта сваякі нашага Кандыбы — чамусьці, як мы пераканаемся, яго цягнула ў Маскву.

Згодна з уласнымі паказаннямі, «он в 1862 году, занимаясь артистическими делами, давал концерты в губерниях Витебской и Могилевской и прочих городах и после того в начале 1863 года прибыл в город Вильно, а потом отправился в город Россиены, где давал концерт и оттуда

прибыл в Ковенский уезд в им. Пернарово к помещику Михаилу Песляку (ныне умершему), у которого пробыл до самого выезда в Москву, то есть до декабря месяца 1863 года; во время пребывания его у Песляка он, Кандыба, давал внуке (унучцы. — *Г. К.*) его уроки…».

Згаданыя тут Расіены (па-літоўску Расейняй) — невялікі старажытны павятовы горад у Літве. Вядома і вёска Пернарова, тут некалі, у язычніцкія часы, быў святы гай, яшчэ ў XIV стагоддзі ішлі крывавыя баі з крыжакамі. У 1863 годзе зноў было неспакойна — бушавала народнае паўстанне.

Такім чынам, Кандыба апынуўся ці не ў самым цэнтры, або, як любяць цяпер гаварыць, — эпіцэнтры, моцнага паўстанцкага руху. Вакол дзейнічалі буйныя паўстанцкія атрады, у тым ліку нашага земляка Баляслава Калышкі. І вось улады атрымалі звесткі, што Кандыбу разам з сынам уладальніка маёнтка Пятром Песляком бачылі ў лесе ў паўстанцкім лагеры, нібыта ён вазіў інсургентам харчы. Музыкант адказаў на гэта выкрутліва: «бывали там несколько раз мятежники, насильно брали продовольствие и заставляли его, показателя, идти в шайку, от чего он отказывался под видом своей болезни и в конце декабря того же года уехал в город Москву, не принимая никакого участия в мятеже». Іншым разам Кандыба заявіў нават: «Помещик Михаил Песляк сношения с мятежниками не имел и всегда о приходе их в имение Пернарово давал знать; что же касается до продовольствия, которое будто бы доставлялось помещиком Песляком в шайку, то это неправда, ибо помещик Песляк был для мятежников враг и за это мятежники несколько раз покушались его повесить».

З гісторыі вядома, што прамая канфрантацыя памешчыкаў-палякаў з паўстанцамі ў 1863 годзе была нячастай. А ўжо маладое пакаленне, як правіла, шчыра кантактавала з інсургентамі.

Для нас сёння ясна, што Кандыба спачуваў паўстанцам. Пра гэта гаворыць і яго несумненная духоўная сувязь з Вярыгам-Дарэўскім, адлюстраваная ў прыведзеным альбомным запісе. Уладальнік альбома Вярыга быў не толькі пісьменнікам, але і падпольшчыкам-канспіратарам. Аднак пра альбом следчыя не ведалі. Юрыдычных доказаў удзелу гаспадароў Пернарова і музыканта Кандыбы ў паўстанні было недастаткова. Тым не менш памешчыцкі сын Пётр Песляк, згодна з рашэннем улад, быў высланы ў Томскую губерню. Над Кандыбам у Маскве ўстанавілі сакрэтны нагляд паліцыі.

Далейшы лёс маладога «музыканта з-над Дзвіны» пакуль не высветлены.



# МУЗЫКАНТ, КАНСПІРАТАР, ПІЯНЕР ФАТАГРАФІІ

І яшчэ аднаго музыканта няма ў нашых даведніках, у тым ліку ў грунтоўнай «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі». Ігнат Доўнар, або Доўнар-Запольскі, паходзіў з таго ж самага роду, што і вядомы беларускі гісторык Мітрафан Віктаравіч Доўнар-Запольскі. Упершыню яго імя сустрэлася мне ў старым варшаўскім часопісе «Ruch muzyczny», у карэспандэнцыях А. Вярыгі-Дарэўскага з Віцебска. У прыватнасці, 29 лютага 1859 года Вярыга дзяліўся мясцовымі артыстычнымі навінамі: «Некалькі тыдняў назад слухала наша сталіца (Віцебск. — *Г. К.*) у час [дваранскіх] выбараў фартэпіяніста Тэранову, скрыпача Валентэці, спевака Банольдзі, гітарыста Ігната Доўнара, што нас і Вільню ўзяў за сэрца чуллівай мелодыяй сваёй вернай спадарожніцы арэнбургскага жыцця…» 11 сакавіка віцебскі карэспандэнт зноў прыгадаў: «Надоўга застануцца ўражанні ад артыстычнай чуллівасці гітары вядомага ўжо вам п. Ігната Доўнара і музычнага вечара п. А. Концкага». Ужо ў словах Вярыгі быў выразны намёк на рэвалюцыйнае мінулае гітарыста — Арэнбург у тыя часы быў месцам палітычнай высылкі і, адпаведна (як і Сібір), пэўным сімвалам пакутніцтва за агульную справу.

Трэба было пашукаць Доўнара ў спісах рэвалюцыйных арганізацый папярэдніх гадоў. У кнізе А. П. Смірнова «Революционные связи народов России и Польши» (1962) чытаем пра канспірацыйны «Братні саюз літоўскай моладзі» 1849 года: «Асабліва настойліва рыхтавала паўстанне група віленскай моладзі на чале з канцылярыстам Ігнатам Доўнарам, якога таварышы называлі душой змовы. Яго любімым героем быў правадыр варшаўскіх рамеснікаў 1794 года Кілінскі. Як і апошні, Доўнар лічыў неабходным не абмяжоўвацца барацьбой з царызмам за нацыянальную незалежнасць, а змагацца таксама і супраць польскіх і літоўскіх арыстакратаў, прыгнятальнікаў народа. Дзейным памочнікам Доўнара быў яго сябра Антон Янкоўскі». Смірнова істотна дапаўняе і папраўляе польскі гісторык Давід Файнгаўз у кнізе «Канспірацыйны рух у Літве і на Беларусі: 1846–1848» (1965): «У сапраўднасці ж Доўнар быў радавым загаворшчыкам, да кіраўніцтва змовы ніколі не належаў і прытым стала жыў у Мінску. Адным жа з галоўных кіраўнікоў змовы быў якраз Янкоўскі. Падзеі, якія адбываліся ў Мінску, былі тут, выходзіць, памылкова перанесены на тэрыторыю Вільні».

Файнгаўз прыводзіць наступныя звесткі пра прысуд нашаму земляку, у нечым карэктуючы свае ўласныя папярэднія словы: «Доўнар Ігнат,

шляхціц без маёнтка, чыноўнік Мінскай палаты дзяржаўных маёмасцей. Прымаў удзел у змове ў Мінску, яшчэ перад уваходам у Братні саюз утварыў з Бокім уласную змову. У салдаты». Выходзіць, усё ж была і «ўласная змова», роля Доўнара не такая і малая. Н. М. Махнач у кнізе «Идейная борьба в Белоруссии в 30–40-е годы XIX века» (1971) увогуле падкрэслівае вялікую самастойнасць мінчан: «Тайная арганізацыя ў Мінску ўзнікла незалежна ад “Братняга саюза”, большасць яе членаў не былі членамі гэтага саюза і не прыводзіліся да прысягі, прынятай саюзам».

Але вернемся да жыццёвай канвы нашага героя. Даведку пра салдацкую службу Доўнара дае У. Дзьякаў у сваім біябібліяграфічным слоўніку «Деятели русского и польского освободительного движения в царской армии…» (1967): радавы 2-га Арэнбургскага лінейнага батальёна, нарадзіўся каля 1829 года, з дваран Мінскай губерні, аддадзены на вайсковую службу ў 1851 годзе за тое, што «присоединился к заговору, существовавшему в 1849 году в Вильне, увлекал к тому и других…» (зноў адзначаецца актыўная роля), у лістападзе 1856 года са службы звольнены і атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму. Вось такія звесткі можна адшукаць у кнігах гісторыкаў. Праўда, гісторыкі — цікавая рэч — нідзе не гавораць, што Доўнар быў яшчэ музыкантам, якога сучаснікі параўноўвалі з надзвычай папулярным у той час віртуозам гітары Маркам Сакалоўскім.

Насуперак чаканням амаль нічога не даў і зварот да даступнай польскай музыказнаўчай літаратуры. У прадстаўнічым «Слоўніку польскіх музыкантаў» гэтае імя, як ні дзіўна, адсутнічае. Вядомы сучасны музыказнаўца Вітальд Рудзінскі ў прадмове да поўнага збору пісьмаў С. Манюшкі (Кракаў, 1969) згадвае (на жаль, у вельмі агульнай форме) запіс кампазітара ў альбоме Ігната Доўнар-Запольскага, але ў паказальніку імёнаў называе Доўнара чамусьці спеваком.

І ўсё ж матэрыял паступова збіраўся, постаць акрэслівалася. Знайшліся звесткі пра гэтага самабытнага чалавека ў мінскім гістарычным архіве. У ведамасці паднаглядных па Мінскай губерні 1861 года (Ф. 295. Спр. 1424) дваранін Ігнат Гілярыевіч Доўнар лічыцца пад № 8. Пад наглядам на радзіме знаходзіўся з 6 чэрвеня 1857 года. «По паспорту выбыл для дачи концертов в губернии Виленскую, Гродненскую, Ковенскую, Могилевскую, Витебскую, Смоленскую, Волынскую, Киевскую, Черниговскую, Харьковскую, Тульскую и Царство Польское. О продолжении за ним надзора сообщено по принадлежности». Такім чынам, усюды, дзе ён ні з’яўляўся са сваёй вернай спадарожніцай гітарай, за ім пільна сачыла жандарска-паліцэйскае вока. Адпаведная справа 1861 года аб арганізацыі за ім назірання, праўда, вельмі скупая на новыя



факты, захавалася, напрыклад, у архіве канцылярыі віцебскага губернатара (Ф. 1430. Воп. 1. Спр. 31009).

У снежні 1858 года Ігнат Доўнар з поспехам выступіў у сталіцы Беларуска-Літоўскага краю Вільні. Пра гэта пісаў «Kurier Wileński» 19 снежня. Асабліва пахваліў рэцэнзент выкананне серэнады з «Севільскага цырульніка» і створанай самім канцэртантам фантазіі на тэмы «Лючыі». «Многосторонность таланта г. Довнара вполне выказалась в этих двух пьесах, — адзначалася ў рэцэнзіі. — Искусное сочетание свежих и звучных мелодий обнаруживает в нем богатый дар творчества, художественное, энергическое и одушевленное исполнение рекомендует его как прекрасного исполнителя…» Трэба думаць, тады гітарыст пазнаёміўся са славутым Сыракомлем, які прысвяціў музыканту чуллівы і ўзнёслы верш. Прыводзім поўны тэкст гэтага малавядомага твора паводле архіўнага рукапісу, знойдзенага сярод папер Яна Карловіча (ДГА Літвы. Ф. 1135. Воп. 10. Спр. 69). З верша відаць, што сучаснікі чулі ў выступленнях Доўнара водгукі вызваленчай барацьбы і перанесеных народам пакут. Яго гітара даносіла да слухачоў звон сібірскіх кайданоў, свіст шпіцрутэнаў, стогны пакрыўджаных братоў. Сыракомля, як, мабыць, і Доўнар, традыцыйна глядзеў на Літву-Беларусь як на інтэгральную частку гістарычнай Рэчы Паспалітай, якая, у сваю чаргу (нярэдка дзеля сцісласці), асацыявалася з Польшчай, хаця ў гэты час, не без удзелу таго ж Сыракомлі, выпрацоўваўся ўжо і іншы падыход да вырашэння гэтых складаных нацыянальна-палітычных пытанняў. Ды і ў гэтым вершы радок «Гэй, Запольскі, едзь да Польскі…» сведчыць: паэт ясна бачыў, што ўласна Польшча недзе там, далёка. Сыракомля падзяляў мары гітарыста аб’ехаць самыя розныя куткі былой Рэчы Паспалітай, сустрэцца за мяжою з прадстаўнікамі дэмакратычнай эміграцыі, пабываць у вядомым эмігранцкім асяродку ў Батыньёлі (Парыж). Калі-небудзь нашы майстры перакладуць гэты верш на родную мову, але і ў арыгінале паэзія Сыракомлі вельмі простая, зразумелая, блізкая да беларускай. Перад намі цікавы дакумент часу:

**Do Downara Zapolskiego**

Serce nasze to gitara,
Rwij nam stróny, dziarsko graj, —
A twoj temat przeszłość stara
I rodzinny polski kraj!

Zbierz nam w akord Polskę całą
Litwę, Halicz, Poznań, Ruś, —

I pierś ziomka zardzawiałą
Do rzewnego płaczu wzrusz.

Znasz sibirski brzęk łańcucha,
Na gitarze zawtórz doń —
Niech uśpione jęki ducha
Wydobywa twoja dłoń.

Zrusz sołdackich pałek świsty,
Komandera szabli brzęk —
Zbierz że w akord uroczysty
Wszystkich braci bitych jęk!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Hej, Zapolski, jedź do Polski
I mazurskim piosnkóm wtórz;
— Dana, dana — proszę pana, —
A ojczyzny niema już!

Potem zawróć do Poznania
I wyśpiawaj kmiotka ból,
Kiedy niemiec do wygania
Z pradziadowskich chat i pól.

Tak zwiedziwszy całą Polskę
Do Paryża ruszaj zdrów —
I tam z bracią batynjolską
Za ojczyznę pacierz zmów[125].

Пасля тэксту ці не самы тады папулярны ў краі подпіс — Wł. Syrokomla.

Новы этап сяброўства паэта і музыканта адносіцца да красавіка 1861 года, калі Сыракомля падчас сваёй знакамітай паездкі ў Польшчу сустрэўся з Доўнарам у Сувалках[126]. У гэтай паездцы, як вядома, удзельнічаў і Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, які таксама, несумненна, быў знаёмы, а магчыма, і сябраваў са сваім земляком-мінчанінам Доўнарам.

Было ў Ігната Доўнара яшчэ адно захапленне — фатаграфія, якая лічылася тады справай артыстычнай (фатографам быў, напрыклад, і згаданы ў карэспандэнцыі Вярыгі спявак Ахілес Банольдзі, паплечнік К. Каліноўскага). Доўнар прафесійна займаецца фатаграфіяй у Гродне і Сувалках, спрабуе дабіцца афіцыйнага дазволу на ўтрыманне фотаатэлье ў Гродне, але гэта яму не ўдаецца[127]. На жаль, ён вельмі рана памёр. Праз некалькі гадоў сябры змясцілі пра яго нататку ў папулярнай энцыклапедыі Аргельбранта. Том на літару D ужо даўно прайшоў, таму нататка трапіла ў завяршальны том энцыклапедыі на літару Z (выкарысталі дадатковае прозвішча музыкі — Запольскі). Тэкст нататкі наступны (па цэнзурных меркаваннях некаторыя істотныя моманты тут прыглушаны, згладжаны, зашыфраваны): «Запольскі (Ігнат Доўнар), музыкант, нарадзіўся ў 1829 годзе ў вёсцы Таўкачэвічы Мінскай губерні, скончыў школу ў Мінску, прабыў на вайсковай службе восем гадоў і на працягу гэтага часу вучыўся адмыслова іграць на гітары. Упершыню выступіў публічна ў Арэнбургу. Вяртаючыся ў 1856 годзе ў родныя мясціны, даваў канцэрты ў Маскве, Віцебску, Вільні (1858 год), Гародні, Коўне, Сувалках, Беластоку, Любліне, Плоцку, Буску, Сольцу (курортныя мясціны ў Польшчы на Келеччыне. — *Г. К.*) і, нарэшце, у Варшаве ў 1860 годзе. Спосаб падыходу да гітары дастасоўваў да методы Сакалоўскага, з якім амаль зраўноўваўся ў дасканаласці выканання. Аддаўшыся потым фатаграфіі, пасяліўся ў Сувалках і тут памёр у 1865 годзе (Gazeta Polska. 1865. № 62). З яго майстэрні выйшлі віды Сувалкаў, Даўспуды (надзвычай багатая рэзідэнцыя Пацаў пад Сувалкамі. — *Г. К.*) і г. д.». Перад намі ключ да жыццяпісу, выдатны канспект асноўных фактаў жыцця, творчай біяграфіі.

Паводле радаводных матэрыялаў мінскага гістарычнага архіва (Ф. 319. Воп. 2. Спр. 948), удаецца ўдакладніць дату нараджэння гітарыста — 23 жніўня 1829 года. Як нярэдка бывае ў католікаў, меў і другое імя — Дамінік, але ў жыцці карыстаўся, бадай што, толькі першым. Хрышчоны ва ўздзенскім касцёле. Выходзіць, радзіма Доўнара — сённяшняя вёска Таўкачэвічы Уздзенскага раёна. Тады вёска належала графам Грабоўскім. Тут быў стары панскі дом з адметным паркам. Бацька

[125] Пасля надрукавання артыкула (1992) мне ўдалося пазнаёміцца з публікацыяй верша ў газеце «Kurier Litewski» за 1906 г. Там верш датуецца 24 снежня 1858 г. Ён значна даўжэйшы — 11 чатырохрадкоўяў. У апошнім радку першай страфы ёсць характэрная папраўка: I rodzinny ojców kraj (было — «польскі край»). Сярод новых строф такая сацыяльна завостраная:

Potem wjeżdżaj w kraj rodzinny
Z nuty w nutę — z tropu w trop
Jęcz w gitarze, lecz w ton inny,
Jak pod rózgą jęczy chłop.

Так што верш бытаваў у розных рэдакцыях, пад уплывам тагачасных грамадскіх павеваў рэдагаваўся, набываў новыя рысы.

[126] Гл.: Мархель У. Крыніцы памяці. Мінск, 1990. С. 53.

[127] ДГА Літвы. Ф. 378. Агульн. аддз. 1863 г. Спр. 58.

гітарыста Гілярый Доўнар шмат гадоў кіраваў маёнткамі Грабоўскіх. Але рана памёр. Нялёгкія клопаты аб дзецях, іх выхаванні леглі на плечы маці. У радаводных матэрыялах захаваўся наступны цікавы дакумент, які фіксуе важны момант у жыцці сям'і (надышла пара аддаваць сыноў у школу):

«Его высокоблагородию исправляющему должность губернского, господину минскому уездному предводителю дворянства и кавалеру Рудольфу Станиславовичу Пищалло[128]

Дворянки Игуменского уезда Уршули Антоновой дочери Довнаровой, жительствующей того же уезда в имении Толкачевичах

ПРОШЕНИЕ

При отдаче сыновей моих и покойного мужа моего Гилярия Доминикова сына Довнара Игнатия и Цезария Довнаров для наук в Минское Училище встречаю надобность представить документы о дворянском происхождении. Почему честь имею просить Ваше высокоблагородие, дабы благоволили снабдить упоминаемых сыновей моих узаконенным о дворянстве свидетельством с показанием лет их рождения и какого они вероисповедания.

Августа [1] дня 1838 года.
*Urszula Downarowa*».

У той жа дзень (зайздросная аператыўнасць) ёй выдалі ўрачыстага гучання пасведчанне, «…что род Запольских Довнаров определением Минского Дворянского Депутатского Собрания 17 декабря 1834 года состоявшимся на основании такового ж первоначального 10 марта 1802 года последовавшего в дворянском достоинстве признан с назначением на внесение в шестую часть родословной книги по Минской губернии — в числе лиц сего Рода и покойный муж просительницы Гилярий Домиников, а также сыновья его Игнатий и Цезарий Довнары помещенными состоят — равно что документы о сем Роде, а в числе оных и метрические выписи о рождении и крещении на упомянутых сыновей просительницы именно 1829 августа 23 на Игнатия и 1831 годов августа 28 числа на Цезария в Узденском приходском костеле состоявшиеся и в справедливости Минскою римско-католическою духовною консисториею заверенные, при рапорте оного Собрания от 26 генваря 1835 года за № 173 на рассмотрение Правительствующего Сената в герольдию представлены — в удостоверение чего и выдано сказанным сыновьям просительницы Игнатию и Цезарию Довнарам сие свидетельство за подписом моим с приложением Минского Дворянского Собрания печати. Августа [1] дня 1838 года. Город Минск».

[128] Прозвішча вядомае ў аналах Мінска: стары будынак гарадской турмы па імені будаўніка называлі даўней Пішчалаўскім замкам.



Без сталай падтрымкі з дому вучыцца ў гімназіі было нясоладка. У верасні 1845 года, як толькі споўнілася шаснаццаць гадоў, Ігнат ужо асабіста звярнуўся ў дваранскую зборню па новае пасведчанне — для паступлення «в статскую Его Императорского Величества службу». Штодзённыя малацікавыя заняткі ў адной з губернскіх устаноў (палаце дзяржаўных маёмасцей) чаргаваліся з небяспечнымі канспірацыйнымі сходкамі. Пасля арышту Ігната сям'я зноў засталася без кармільца. У жніўні 1849 года афармляліся дакументы для паступлення на службу малодшага брата Цэзарыя. Маці тады жыла ў Мінску.

І яшчэ адзін цікавы для нас акт у радаводных матэрыялах (Спр. 974). Хросная метрыка. У лютым 1863 года, калі ўжо пачалося паўстанне, у Сувалках ахрышчаны Адам Стэфан Іосіф Ігнатавіч Доўнар. Бацька — «фотограф, жительствующий в Сувалках, 34 года имеющий». Дзіця нарадзілася ў канцы 1862 года. Метрычны запіс быў зроблены з некаторым спазненнем у сувязі з хваробай бацькі (гэта спецыяльна адзначана ў педантычным дакуменце). Выходзіць, Ігнат Доўнар ужо тады хварэў — даліся, мабыць, у знакі выпрабаванні жыцця, арэнбургская ссылка, салдатчына (а можа, міжволі прыходзіць у галаву, музыкант паспеў далучыцца да паўстанцаў і атрымаў рану?..). Неўзабаве ён памёр, пакінуўшы маладую ўдаву і сына-немаўля…

Пра многае могуць нагадаць, здавалася б, маўклівыя архіўныя дакументы, радаводныя акты, скупыя радкі рэдкіх выданняў.

# БЯСЯДСКІЯ РЭМІНІСЦЭНЦЫІ
## Каліноўскі — Чаховіч — Купала

Вы зноў са мною, дарагія здані…

*І. В. Гётэ*

З бліжэйшай нашай літаратурнай гістарычнасці, нібы два пракокі на біблейскіх воблаках, выступаюць перада мной Купала і Колас.

*У. Паўлаў*

У суровым, не шчодрым на радасныя ўражанні юнацтве Янкі Купалы было некалькі сустрэч, што мелі асноватворнае значэнне для яго духоўнага станаўлення. Скажам, сяброўства з Уладзімірам Самойлам, літаратурныя густы якога высока цаніў Блок. Або знаёмства з пісьменнікам Ядвігіным Ш.

Такім жа блаславёным дарам лёсу, інакш не скажаш, былі сустрэчы з Зыгмунтам Чаховічам, паплечнікам Каліноўскага.

Калі б мы ведалі толькі, што такія сустрэчы адбыліся, так бы мовіць, мелі месца, і нічога больш, то нават і тады гэта было б цікавым і прыцягальным. Як пэўны сімвал, ці што. Чаховіч паўстае тут як бы сувязным звяном паміж дзвюма вялікімі постацямі беларускай гісторыі.

Усе мы нясём штосьці ад сяброў, што назаўсёды пайшлі ад нас. Так і Каліноўскі, рана загінуўшы, якімісьці рысамі працягваў жыць ва Урублеўскім на барыкадах Парыжскай камуны, нейкую часцінку душы пакаранага смерцю таварыша панёс з сабой у сібірскія снягі Чаховіч, які блізка ведаў яго. Таму наступная, праз дзесяцігоддзі, сустрэча Чаховіча з Купалам — не толькі рэальная сустрэча гэтых двух людзей. Яшчэ важнейшы гэты факт у плане гістарычнай перспектывы. Гэта ж нібы сам Каліноўскі аднекуль з нябыту адклікнуўся юнаму Купалу, які шукаў сваіх дарог, нібы сам Каліноўскі благаславіў свайго ідэйнага наступніка. Перад намі, можна сказаць, бачны вобраз перадачы духоўнай эстафеты.

Але і незалежна ад сімвалічнага боку пытання гэтыя сустрэчы заслугоўваюць належнай увагі, таму што Чаховіч і сам па сабе быў неабыякім чалавекам, здолеў пакінуць глыбокі след у памяці Купалы.



Што да непасрэдных акалічнасцей іх знаёмства, то памяць Купалы — калі не адзіная, то галоўная крыніца для нас. Іншых вельмі мала, амаль няма.

Янка Купала ўспамінаў пра Чаховіча не адзін раз. Найбольш падрабязна ў аўтабіяграфічным пісьме да Л. М. Клейнбарта ад 21 верасня 1928 года. Літаратуразнавец Леў Максімавіч Клейнбарт, родам з Капыля, знаёмы Купалу яшчэ па дарэвалюцыйным Пецярбургу, задумаў манаграфію пра беларускага паэта, і вось у 1927 годзе Купала пачаў высылаць яму «кавалкі сваёй храналогіі». Пісаць лісты паэт не любіў, эпісталярная, мемуарная ды, відаць, і любая іншая проза яму не давалася. Справа пасоўвалася марудна, ад выпадку да выпадку. У верасні 1928 года Купала быў у Кіславодску і — хоць адцягвалі яго паўднёвае сонца, прагулкі ў горы, а можа, і дзякуючы ім, засеў нарэшце за пісьмо, каб адказаць на пытанні Клейнбарта аб сваёй вучобе, коле чытання, уплыве на яго розных аўтараў, сустрэчах з людзьмі, прычыненымі да яго пісьменніцкага лёсу.

З рускіх пісьменнікаў ён назваў Някрасава, Кальцова, Лермантава, Надсана, Пушкіна, Горкага, адзначыў таксама Андрэева, Салагуба («отдал дань времени и увлекся, что называется, символистами»), з польскіх — Сыракомлю (які быў таксама беларускім паэтам), Канапніцкую, Ажэшку, Выспянскага, Славацкага, Міцкевіча, Крашэўскага, Пшыбышэўскага і далей пісаў (з Клейнбартам Купала перапісваўся па-руску — пакінем мову арыгінала):

«Если вы спросите, какая литература, польская или русская, больше была мне по душе, то я сказал бы, что — первая. А это потому. В польской литературе после упадка Польши больше выражалось стремление к политическому, а иногда и социальному вызволению, нежели, как мне казалось, в русской. Кстати, я вспомню здесь одно обстоятельство: когда мы жили в Селище, я познакомился с одним польским помещиком Сигизмундом Чеховичем в им. Бесядка Вилейск. у. Помещик этот был в свое время сослан Муравьевым в Сибирь, но впоследствии вернулся и жил безвыездно в своем имении Бесядах. У него была громадная библиотека, в большинстве из польских книг. Вот тут-то мне и открылся, что называется, клад. Помещик был идеалист, мечтатель. Этому способствовала, во-первых, ссылка, во-вторых, жил он как будто полулегально, притом жена у него была настоящая ведьма. Она его держала впроголодь и не давала ему вмешиваться абсолютно в никакие дела. Так что он даже с женой не встречался. Жил отдельно, куда ему посылалась кое-какая пища, ни с кем не встречался, всегда поглощенный книгами. И вот его библиотека открыла мне глаза на многое, что доселе было неизвестно. Бывал у него я часто, принося ему в благодарность за книги то

масла, то сыру, т. к. того, что доставалось ему от жены, на пропитание не хватало. Беседовали с ним много о чем, о чем — трудно вспомнить, но больше всего, кажется, о польском восстании 63 года. Часто он мне выбирал книги для чтения, а иногда я сам просил таких или других авторов. Кроме всякого рода поэзии, которой я больше всего увлекался, беллетристики, истории и т. п., у него первого я познакомился с нелегальной литературой, больше всего относящейся к польскому восстанию. Были это издания краковские, лондонские, парижские и т. д.

Встречалась ли мне тогда у него социалистическая литература — не помню. Но помню хорошо, что читаемая тогда мною нелегальная литература была проникнута вся ненавистью к царизму и любовью к свободе и независимости»[129].

Такім чынам, дзіўны і загадкавы чалавек, інтрыгоўны фон, кнігі, прасякнутыя любоўю да свабоды, — вось што захавала ўдзячная памяць Купалы. Дзякуй Клейнбарту, што здолеў падахвоціць паэта на гэтыя падрабязнасці, без якіх яго біяграфія выглядала б для нас значна бяднейшай.

Нават у апошняй, вельмі кароткай паэтавай аўтабіяграфіі, напісанай за два гады да гібелі, знайшлося месцейка для Чаховіча і яго кнігазбору: «На мое счастье, у соседа-помещика Чеховича, участника восстания 1863 года, была большая библиотека, к которой я получил доступ. В библиотеке было много прогрессивных книг, которые помогли мне осмыслить политический строй тогдашней царской России и пробуждали недовольство этим строем»[130].

Ці варта гаварыць, як важна для нас сабраць па крупінках усё, што адносіцца да Чаховіча і акалічнасцей яго сустрэчы з Купалам.

Зоймемся найперш Чаховічам.

Колькі-небудзь падрабязнай біяграфіі яго няма, і мы робім цяпер, па сутнасці, першую падобную спробу, абапіраючыся на даўняе знаёмства з матэрыяламі паўстання 1863 года.

Першыя больш-менш сістэматычныя друкаваныя звесткі пра Чаховіча, калі не лічыць невялікага некралога ў «Dzienniku Wileńskim», з’явіліся ў 1913 годзе ў апублікаваных у Вільні мемуарах вядомага дзеяча паўстання Якуба Гейштара.

Характарызуючы членаў віленскага Камітэта руху на чале з Каліноўскім, Гейштар пісаў, што добра ведаў Зыгмунта Чаховіча. Паводле яго слоў, гэта быў чалавек «высакародны, узнёслы, але пры гэтым непаслядоўны і без цвёрдых перакананняў, лёгка даваў сабой кіраваць».

[129] Купала Я. Зб. тв.: у 7 т. Т. 7. Мінск, 1976. С. 423–424.
[130] Пуцявінамі Янкі Купалы. Мінск, 1981. С. 7.



Або яшчэ: «…непрактычны, часта схільны да захаплення летуценнік»[131]. Вядома, характарыстыка гэтая вымагае крытычнага ўзважвання. Гейштар і Чаховіч належалі да розных паўстанцкіх лагераў, але, відавочна, мемуарыст — чалавек значнага жыццёвага вопыту — здолеў заўважыць і некаторыя сапраўдныя, істотныя рысы. Успомнім купалаўскае: «идеалист, мечтатель». У мемуарах Гейштара ёсць яшчэ некалькі згадак пра Чаховіча, апошняя іх сустрэча адбылася ў турме. Да гэтых сведчанняў мы яшчэ вернемся, а пакуль адзначым, што да мемуараў прыкладзена, у шэрагу іншых шматлікіх біяграфічных даведак, даведка пра Чаховіча, падрыхтаваная выдаўцамі ўспамінаў. Нягледзячы на сціпласць (літаральна няпоўная старонка), яна дае ўсё-такі біёграфу нейкую асноўную канву, кіроўную нітку.

З гэтай даведкі, а таксама з іншых прыцягнутых намі матэрыялаў жыццёвы шлях Чаховіча вымалёўваецца наступным чынам.

Поўнае імя — Зыгмунт (Сігізмунд Бярнардавіч) Чаховіч-Ляхавіцкі. Дадатак да асноўнага прозвішча — Ляхавіцкі, як было прынята ў шляхты, ужываўся ў рэдкіх, больш урачыстых або цырыманіяльных, ці што, выпадках, у паўсядзённым побыце абыходзіліся без яго.

На пяцьдзясят адзін год старэйшы за Купалу, ён мог бы па ўзросце быць яму не толькі бацькам, але і дзедам. Нарадзіўся ў 1831 годзе ў Сурвілішках Свянцянскага павета Віленскай губерні. Адразу ж пытанне: дзе гэта цяпер? Былы Свянцянскі павет падзяліўся паміж Літвой і Беларуссю. Назва Сурвілішкі досыць пашыраная і там, і тут. Вядома, напрыклад, старадаўняе мястэчка, цяпер пасёлак Сурвілішкіс у Кедайнскім раёне Літвы. Так і вырашылі гэтае пытанне нашы энцыклапедысты пры пераводзе месца нараджэння Чаховіча са старога адміністрацыйна-тэрытарыяльнага падзелу на новы (гл.: Беларуская ССР. Кароткая энцыклапедыя. Т. 5. Мінск, 1981. С. 651). Але гэта, вядома, памылка. Як слушна піша С. Акуліч у артыкуле «Бібліятэка, якую наведваў пясняр» (Мінская праўда. 1980. 22 жн.), Сурвілішкі Чаховіча — гэта Беларусь, сённяшняя Пастаўшчына.

Дакументы сведчаць, што Чаховічы з 1741 года валодалі ў былым Свянцянскім павеце, недалёка ад Камаяў, даволі вялікім маёнткам Мацковічы, атрыманым імі ад Сулістроўскіх, з якімі яны тады парадніліся. Сурвілішкі, над аднайменным возерам, — фальварак гэтага маёнтка.

Са знойдзенай у вільнюскім гістарычным архіве метрычнай кнігі камайскага касцёла за 1831 год[132] відаць, што Зыгмунт прыйшоў на свет 7 жніўня, пры хрышчэнні мясцовы настаяцель Раманоўскі даў яму яшчэ

[131] Gieysztor J. Pamiętniki z lat 1857–1865. T. 1. Wilno, 1913. S. 221, 233.
[132] ДГА Літвы. Ф. 604. Воп. 37. Спр. 31.

імёны Баніфат і Рох. Бацькі Бярнард і Юзэфа мелі тытул падкаморыяў[133] Завілейскага павета (так даўней называўся Свянцянскі павет). Кумамі і сведкамі былі пісар Браслаўскага павета Квінта з жонкай, нейкі высакародны Нарвойш (якія характэрныя ўсё прозвішчы!) і дачка завілейскага падкаморыя Тэкля Чахавічанка, мабыць, старэйшая сястра Зыгмунта.

Вучыўся Зыгмунт у Віленскім дваранскім інстытуце — так называлася адна з прывілеяваных сярэдніх навучальных устаноў тагачаснай Вільні.

З таго далёкага часу да нас дайшоў дакумент, які паказвае, што ў гэты перыяд ім апекаваўся старэйшы брат Ігнат (бацькі, мабыць, ужо не было ў жывых). Дырэктар інстытута піша папячыцелю Беларускай навучальнай акругі ў кастрычніку 1849 года: «Помещик Свенцянского уезда Игнатий Чехович подал мне прошение, в коем прописывает, что брат его Сигизмунд Чехович, бывший воспитанник 5 класса Виленского дворянского института, в начале прошедшего учебного года, по выдержании испытания для перевода из 5 в 6 класс, по расстроенному здоровью, должен был отправиться в деревню и в продолжение сего времени обучался всем предметам по программам шестого класса, ныне по выздоровлении его, Сигизмунда, просит меня о принятии его обратно в институт воспитанником шестого класса…»[134]. Магчыма, перапынак у вучобе быў звязаны з арыштамі ў 1849 годзе шматлікіх удзельнікаў рэвалюцыйнага таварыства літоўскай моладзі. Браты, мабыць, вырашылі перачакаць гэты неспакойны час у вёсцы. У Ігната і Зыгмунта, трэба думаць, было нямала агульнага. Яны цікавіліся беларускай літаратурай і фальклорам. Прынамсі, вядома, што ў 1870 годзе Ігнат Чаховіч абяцаў прыслаць Яну Карловічу (ведаў, чым дагадзіць заўзятаму этнографу) «простанародную размову сялянскай бяседы на беларускім дыялекце вельмі рэдкага характару — з мінулага стагоддзя — паэтычную і досыць доўгую»[135]. Што канкрэтна мелася на ўвазе, на жаль, невядома.

Не так даўно ў Польшчы надрукаваны падрабязны артыкул пра Віленскі дваранскі інстытут[136], ёсць там спіс выкладчыкаў і выпускнікоў, з якога відаць, што Чаховіч скончыў інстытут у 1851 годзе.

Далей згаданая вышэй біяграфічная даведка да кнігі Гейштара паведамляе: завяршыў адукацыю ў Пецярбургу на камеральным аддзяленні, нават удакладняецца, што скончыў вучобу з адзнакай. Маецца на ўвазе камеральны разрад юрыдычнага факультэта, дзе вучыўся і Кастусь Каліноўскі, хоць наўрад ці, насуперак сцвярджэнням некаторых

133 Згодна з тагачаснымі звычаямі тытул мужа аўтаматычна пераходзіў і на жонку.

134 ДГА Літвы. Ф. 567. Воп. 2. Спр. 6122.

135 ДГА Літвы. Ф. 1135. Воп. 10. Спр. 94. Арк. 203.

136 Rozprawy z dziejów oświaty. Wrocław, 1985. T. 28.



даследчыкаў, яны маглі быць таварышамі студэнцкіх гадоў, у іх даволі значная розніца ва ўзросце (Чаховіч старэйшы за Каліноўскага прыкладна на сем гадоў).

Каб удакладніць час вучобы Чаховіча ў Пецярбургу, бяру вядомую спецыялістам кнігу В. В. Грыгор'ева «Императорский С.-Петербургский университет в течение первых пятидесяти лет его существования», надрукаваную больш за стагоддзе назад, у 1870 годзе. У гэтым цікавым выданні ёсць поўны спіс выпускнікоў універсітэта па ўсіх факультэтах. Ніякіх купюр не рабілася. Змяшчалі ўсіх — нават пакараных смерцю «дзяржаўных злачынцаў». Высвятляецца, што Чаховіча ў гэтым спісе няма. Ёсць Каліноўскі, які скончыў універсітэт у 1860 годзе. Выходзіць, можна без асаблівай рызыкі паспрачацца з біяграфічнай даведкай: наш герой універсітэта, мяркуючы па ўсім, не скончыў. Хутчэй за ўсё, як і многія іншыя заможныя людзі, ён правучыўся ў прэстыжным сталічным універсітэце пэўны час, а завяршаць адукацыю не стаў, не было асаблівай патрэбы — будучыня і без таго была забяспечана радавітасцю і маёнткамі. Некаторыя мае архіўныя выпіскі, зробленыя некалі ў Ленінградзе падчас адной з камандзіровак, дазваляюць вывесці, што Чаховіч паступіў ва ўніверсітэт у 1852 годзе, за чатыры гады да Каліноўскага.

У 1859 годзе Чаховіч узяў шлюб з Анэляй Арамовіч, уладальніцай някепскага маёнтка Бясяды ў Вілейскім павеце, але, як паказваюць дакументы, у маладыя гады жыў з жонкай часцей у матчыных Мацковічах. Не абмінаў, вядома, і Вільню — цэнтр губерні і сталіцу ўсяго краю. Ён быў сваім чалавекам сярод віленскай інтэлігенцыі, меў трывалыя культурныя інтарэсы, сабраў багатую бібліятэку, калекцыю старадаўняй зброі. Нейкі час разам з іншымі грашавітымі пайшчыкамі быў кампаньёнам Кіркоравай друкарні ў Вільні. Таму нас не здзіўляе знойдзенае ў вільнюскім архіве (Ф. 1135) пісьмо Кіркору, напісанае ім 15 верасня 1860 года ў Мацковічах, — ён рэкамендуе для работы ў друкарні нейкага Леапольда Чаховіча з Віцебска, дзякуе адрасату за іншыя паслугі. Адчуваецца, што з Кіркорам ён у досыць блізкіх адносінах. А галоўнае, мы ведаем, што Чаховіч быў сябрам па дваранскім інстытуце і ўніверсітэце віленскага паэта і крытыка Ежы Ляскарыса. Збяднелы нашчадак старажытнага арыстакратычнага роду, які паходзіў нібыта ажно ад саміх грэчаскіх Палеалогаў і ганарыўся візантыйскім арлом у сваім гербе, Ляскарыс жыў у свеце літаратуры і мастацтва. Выхоўваўся Чаховічаў прыяцель у доме Залескіх, яго неразлучнымі сябрамі-пабрацімамі былі Антон Залескі, мастак-графік, і брат апошняга Ігнат, кампазітар. Да гэтага ж асяроддзя належаў вядомы мастак Эльвіра Андрыёлі і іншыя прадстаўнікі мастацкай інтэлігенцыі краю. У той або іншай меры

Чаховіч мусіў зблізіцца з Сыракомлем, Каратынскім, Манюшкам — сябрамі Ляскарыса. Усё гэта, як правіла, дэмакраты, не чужыя вызваленчаму руху, а потым і паўстанню Кастуся Каліноўскага.

Не застаўся ў баку ад рэвалюцыйных памкненняў эпохі і сам Чаховіч. Ужо ў чэрвені 1861 года ён быў заўважаны ўладамі як ініцыятар антыўрадавых дэманстрацый у сябе на радзіме, у Камаях. Дэманстрацыі праяўляліся, у прыватнасці, у спяванні патрыятычнага гімна, забароненага ўладамі. З данясення генерал-губернатара: «В комайском костеле (існуе і цяпер. — *Г. К.*) по окончании литургии и по выходе из костела настоятеля пропет был возмутительный гимн женщинами, по большей части помещичьего и дворянского сословия. Тамошний уездный предводитель дворянства, узнав, что возбудителями сказанного пения были молодые помещики Игнатий и Сигизмунд Чеховичи, поставил им на вид с строгим внушением, что сделанный ими поступок ведет к дурным последствиям; после чего Чеховичи, сознав свою вину, обязались впредь не возбуждать нигде подобных пений»[137]. Хутчэй за ўсё, у гэтым спяванні ўдзельнічала і маладая жонка Зыгмунта Чаховіча Анэля. Яна таксама, мабыць, прычынілася (час быў такі, што не магла не прычыніцца) да святых ідэалаў эпохі, але пройдуць гады, і ўсё гэта спадзе з яе, як непатрэбнае шалупінне.

Што да Зыгмунта, то ён не даваў больш падстаў падазраваць яго ў дачыненні да патрыятычных спеваў. Яму ўжо нельга было дражніць паліцыю па дробязях. Ён пайшоў у глыбокае падполле. Буйны дзеяч партыі «чырвоных», ён стаў неўзабаве бліжэйшым паплечнікам Каліноўскага і апынуўся ў самым цэнтры падрыхтоўкі паўстання ў Беларусі і Літве. Дзіўна: па паходжанні ён мусіў быць «белым». Варта адзначыць разам з тым, што, прытрымліваючыся дэмакратычных перакананняў, Чаховіч не падзяляў у той жа час, мяркуючы па ўсім, «крайніх» рэвалюцыйных тэорый Кастуся Каліноўскага. Ён быў чалавекам крыху іншага складу.

1862 год. Удзельнік тых падзей Е. Кучэўскі-Порай, малюючы ў сваіх успамінах карціну нелегальнага пасяджэння віленскага Камітэта руху (Літоўскага правінцыяльнага камітэта), членамі якога былі Каліноўскі, Чаховіч, згаданы Антон Залескі і інш., не ўтойвае глыбокіх ідэйных разыходжанняў, тактычных рознагалоссяў у асяроддзі тагачасных «чырвоных» канспіратараў. Вось што ён піша з гэтай нагоды:

«Канстанцін Каліноўскі, маючы за плячыма вопыт зносін з народам, шукаў у пакутах паднявольнага рабства тую сілу, якая зможа ўзняць народ на паўстанне, зрабіўшы яго рыцарам, што змагаецца ў імя патаптаных чалавечых правоў. Ён адчуваў біццё гэтага пульсу ў сялянах усёй Польшчы (маюцца на ўвазе Беларусь, Літва, Польшча. — *Г. К.*)…

Эдмунд Вярыга, гараджанін, лічыў, што гэты пласт народа (г. зн. гараджане. — *Г. К.*), з'яднаны са шляхтай, з'яўляецца дастатковай сілай, а Антон Залескі, шляхціц, верыў у тое, што шляхта прыме гарачы ўдзел у паўстанні. Зыгмунт Чаховіч, у сваю чаргу, не верыў у якое б то ні было кіраўніцтва або ў работу, заснаваную на праграме, ён пакідаў гэта на волю сляпога выпадку. "Мы знаходзімся ў маленькай лодцы сярод велізарнай буры, — сказаў ён, — розныя элементы не змогуць прымірыцца адзін з адным…"»[138]. Цікавая характарыстыка, якая ў чымсьці пераклікаецца з прыведзенымі вышэй меркаваннямі Купалы і Гейштара.

У іншым месцы Кучэўскі ў гэтым жа духу заяўляе: «Чаховіч быў фаталістам». Ёсць у Кучэўскага і кароткая паметка пра далейшы лёс Чаховіча і пра яго знешні воблік: «Umarł pędzony do katorg. Lat 30, fizjonomii bardzo łagodnej, lecz nie bystrej». Укладальнікі зборніка «Революционный подъем…», дзе апублікаваны ўспаміны Кучэўскага, перакладаюць гэтую фразу наступным чынам: «Умер по пути на каторгу, 30 лет; лицо очень мягкое, но не умное», аднак канец можна зразумець і так: «…твар вельмі лагодны, але не жывы». Вядома ж, хутчэй, мемуарыст меў на ўвазе недахоп жывасці, а не розуму. Што да паведамлення пра смерць Чаховіча па дарозе на катаргу, то тут аўтар успамінаў паддаўся неправераным чуткам. Лёс прызначыў Чаховічу іншае. Ён павінен быў вынесці ўсе мукі катаргі і церні выгнання, вярнуцца на радзіму і аднойчы дачакацца прыходу юнака з душой вялікага паэта, каб расказаць яму і ўсёй маладой Беларусі, як усё было тады, у 1863 годзе…

А было так.

Яны не пагадзіліся тады з Каліноўскім, папрасілі яго пайсці з пасяджэння, каб дамовіцца спярша паміж сабой, а потым ужо з ім. Тым не менш усе бачылі, што Каліноўскі — першы сярод іх — па страснасці і ўнутранай сіле, па адданасці народнай справе, па таленце канспіратара, і калі размова зайшла пра старшынства, усе аддалі галасы за яго.

Да рэвалюцыйнага выбуху заставаліся лічаныя месяцы. Літоўскі камітэт на чале з Каліноўскім, пераадольваючы ўнутраныя супярэчнасці, вёў узмоцненую падрыхтоўку паўстання, адначасова ў спрэчках з варшаўскім Цэнтральным нацыянальным камітэтам адстойваючы сваю самастойнасць. «Летуценны» Чаховіч выказаў неабыякую практычную кемнасць. Ён быў экспедытарам камітэта, у яго руках сыходзіліся ўсе канспіратыўныя ніці — сувязі з правінцыяй, адрасы, яўкі.

---

137 Революционный подъем в Литве и Белоруссии в 1861–1862 гг. М., 1964. С. 34.

138 Тамсама. С. 198.

У студзені 1863 года паўстанне сталася фактам. Камітэт абвясціў сябе Часовым урадам Літвы і Беларусі. Робяцца намаганні ўзняць на барацьбу народныя, сялянскія масы. Мабыць, менавіта Чаховіч як экспедытар рассылае на месцы вядомую інструкцыю аб рэвалюцыйным судзе над прыгнятальнікамі народа — на шыбеніцу найбольш лютых памешчыкаў!

І ў гэты момант генерал-губернатар Назімаў даведваецца імёны дзеячаў віленскага паўстанцкага цэнтра. Як гэта адбылося, застаецца вялікай гістарычнай загадкай. Даследчыкі з поўнай падставай бачаць у гэтым прошукі памешчыцкай партыі, гатовай на ўсё, каб адстаяць свае прывілеі. Не абышлося, трэба думаць, без пасрэдніцтва «белых» — правай памешчыцкай групоўкі ў вызваленчым руху. Якраз ім вядомыя былі імёны многіх «чырвоных», іх кіраўнічага ядра. Над Літоўскім камітэтам, над усёй справай паўстання ў Літве і Беларусі навісла пагроза. Балазе Каліноўскі ўжо з восені 1862 года перайшоў на нелегальнае становішча, хаваўся пад чужымі імёнамі. Член камітэта Баляслаў Длускі пад псеўданімам Ябланоўскага фарміраваў у гэты час паўстанцкія атрады ў Жэмайціі, у недасягальнасці быў і Ян Козел, які выехаў з Вільні з адказным даручэннем Каліноўскага. У астатніх членаў камітэта ў канцы студзеня — лютым былі зроблены вобыскі. Пачалося з Ахілеса Банольдзі, які адразу ж пасля вобыску быў высланы (па іншых звестках, уцёк) за мяжу. У сваім маёнтку ў Трокскім павеце арыштаваны, а потым высланы Антон Залескі. У Вільні арыштоўваецца Эдмунд Вярыга. У звышсакрэтным праскрыпцыйным спісе апынуўся і герой нашага нарыса.

У вільнюскім гістарычным архіве (Ф. 378. Паліт. аддз. 1863 г. Спр. 11) захоўваецца невялікая папка з прозвішчам Чаховіча на вокладцы. Са справы відаць, што 28 студзеня 1863 года Назімаў камандзіраваў капітана фон Бока «для арестования помещика Свенцянского уезда Сигизмунда Чеховича и сделания у него строжайшего обыска». Чаховіч «доставлен к виленскому коменданту» (такая была формула арышту). Прывезеныя з Мацковічаў паперы разгледзелі чыноўнік генерал-губернатара для асобых даручэнняў камер-юнкер граф Ажароўскі і ад’ютант граф Ілінскі. Нічога падазронага тытулаванымі следчымі не знойдзена, апрача пісьма нейкага Сулістроўскага (Сулістроўскія — сваякі Чаховічаў) ад жніўня 1862 года, у якім згадвалася пра беспарадкі ў Варшаве. Ды, уласна, хто ў той час не пісаў пра гэта. 2 лютага паліцмайстру было загадана вярнуць Чаховічу ўсе паперы, толькі пісьмо Сулістроўскага засталося пры справе.

На гэты раз пранесла. Чаховіч зноў на волі, зноў памагае Каліноўскаму шырыць паўстанне, толькі становіцца яшчэ больш асцярожным.



З ранейшага камітэта ў Вільні іх засталося толькі двое. Мы можам сабе ўявіць, як пасябравалі яны, нягледзячы на розніцу паходжання, поглядаў і тэмпераментаў, у гэты перыяд самага цеснага супрацоўніцтва. Яны добра дапаўнялі адзін аднаго: імпульсіўны, рашучы, заўсёды гатовы да дзеяння Кастусь і спакойны, нібыта запаволены Зыгмунт.

Захопленыя справамі, яны не адразу заўважылі новую небяспеку. Зусім не з боку ўлад. У канцы лютага 1863 года «белыя» ўвайшлі ў змову з камісарам варшаўскага паўстанцкага ўрада Дзюлеранам і зрабілі ў рэвалюцыйнай арганізацыі пераварот. Замест распушчанага Літоўскага правінцыяльнага камітэта (Часовага ўрада Літвы і Беларусі) створаны безаблічны Аддзел кіравання правінцыямі Літвы на чале з Якубам Гейштарам. «Здавалі нам справы і паперы Каліноўскі і Зыгмунт Чаховіч. Абодва былі пакрыўджаны на Дзюлерана. Каліноўскі напісаў нават пратэст…» — успамінае Гейштар. Справа была нават не ў асабістых амбіцыях, хоць і яны адыгрываюць сваю, часам вельмі вялікую ролю ў жыцці людзей. Каліноўскі і Чаховіч справядліва лічылі, што камбінатарам-«белым», заўсёдным абаронцам дваранскіх інтарэсаў, не месца ў кіраўніцтве паўстаннем.

Гейштар папракаў камітэтчыкаў, што яны мала зрабілі. Яму «патэтычна» (як сказана ва ўспамінах) пярэчыў Чаховіч. Камітэт, сцвярджаў верны паплечнік Каліноўскага, карыстаўся падтрымкай краю, людзі без шкадавання былі гатовыя аддаць і аддавалі паўстанню «мільён рук і ўсю маёмасць». Якраз «белыя» з’явіліся фатальнай перашкодай.

Тым не менш у той абстаноўцы часовы кампраміс быў непазбежны. Каліноўскі некаторы час працаваў у Вільні памочнікам начальніка горада, потым атрымаў прызначэнне рэвалюцыйным камісарам на родную Гродзеншчыну. Чаховіч стаў выконваць у аддзеле тыя ж функцыі, што і ў былым камітэце — у яго руках была па-ранейшаму перасылка карэспандэнцыі, сувязь з месцамі. У той жа час ён быў як бы захавальнікам традыцый. Бадай што, гэты спакойны, летуценны чалавек як ніхто іншы ведаў усе перыпетыі паўстання, яго пад’ёмы і спады.

Гейштар ва ўспамінах напіша: «З усёй адданасцю, адказнасцю і беззапаветнасцю ён выконваў свой абавязак, пазней у следчых камісіях, па дарозе ў Сібір і ў выгнанні заўжды аказваўся чалавекам сумленным…»

На вачах Чаховіча выявілася на практыцы няздольнасць «белых» кіраваць барацьбой. Усё большую сілу ў справах паўстанцкай арганізацыі зноў сталі забіраць «чырвоныя», энергічныя, смелыя, ахвярныя (У. Малахоўскі, Ц. Далеўскі і інш.). У чэрвені вярнуўся з Гродна Кастусь Каліноўскі, які нібы набыў другое дыханне ад дотыку да роднай зямлі. Наспяваў новы пераварот, які прывёў да стварэння ў Вільні «Чырвонага жонда».

Адной з праяў, прыкмет новага радыкальнага і энергічнага кірунку быў смяротны прысуд, вынесены арганізацыяй віленскаму губернскаму маршалку шляхты Дамейку за супрацьдзеянне паўстанню. Падумаць толькі — паўстанцы, сярод якіх пераважалі шляхціцы, узнялі руку на шаноўнага шляхецкага лідара. 30 ліпеня на Дамейку быў зроблены няўдалы замах, пайшлі арышты.

На кватэру Зыгмунта Чаховіча ў доме Граткоўскага на Скапуўцы паліцыя заявілася назаўтра пасля замаху. Зразумела, ён даўно падрыхтаваўся не толькі да вобыскаў, але і да любых іншых паваротаў лёсу. З «крыміналаў» знайшлі толькі жалобны малітоўнік з пераломленым каталіцкім крыжам (падобныя сімвалы ў тыя часы строга забараняліся). 5 жніўня Мураўёў загадаў адправіць зламысніка ў Перм, але распараджэнне гэтае не паспелі выканаць, таму што якраз у гэты час у следчай камісіі пачала разблытвацца вялікая агульная справа віленскай рэвалюцыйнай арганізацыі. Вядома, напрыклад, што Гейштар, арыштаваны ў адзін дзень з Чаховічам і высланы ва Уфу, неўзабаве быў зноў вернуты ў Вільню па запатрабаванні следчай камісіі.

7 жніўня Чаховіча апазнаў у турме рэзчык пячатак, што працаваў у арганізацыі, Штэйнман.

Гартаем матэрыялы следства.

14 жніўня ў будынку № 14 віленскай цытадэлі Чаховіч даў паказанні ад'ютанту Мураўёва маёру Паўлаву — сказаў, што мае ў Свянцянскім павеце маёнтак Крашоны, але жыў больш у матчыным маёнтку Мацковічы. Надзвычай цікавая дэталь у паказаннях — у сакавіку, пасля вобыску ў вёсцы і на віленскай кватэры, нібыта быў арыштаваны, а потым па просьбе дзядзькі — старшыні губернскай палаты цывільнага суда Івана Чаховіча — выпушчаны на парукі. Што гэта? Ці сапраўды быў новы арышт у сакавіку або Чаховіч зблытаў храналогію і недакладна датаваў усё той жа ўжо вядомы нам арышт канца студзеня — пачатку лютага?..

Чытаем наступныя паказанні ад 27 верасня. Яму 33 гады (у сапраўднасці толькі што споўнілася 32). Маці Юзэфа ў Мацковічах. Там жа жонка і двое сыноў — Мечыслаў і Вітальд. У Мацковічах і Крашонах 100 валок зямлі (г. зн. 2000 дзесяцін). Унушальныя памеры маёнтка названы, трэба думаць, спецыяльна. Ён нібыта гаварыў следчым — мяркуйце самі — навошта чалавеку забяспечанаму ісці ў паўстанне? З рэвалюцыянерамі не знаўся. З маёнтка прыязджаў у Вільню даволі часта, спыняўся ў гасцініцы Ніяшкоўскага. Часам ездзіў у жончын маёнтак Бясяды ў Вілейскім павеце. І зноў пра тое сакавіцкае здарэнне: вытрабаваны ў Вільню па распараджэнні Назімава і аддадзены на паручыцельства Івану Чаховічу. Можа, усё-такі быў яшчэ адзін арышт?



Новыя допыты, вочныя стаўкі. Чаховіч трымаецца цвёрда, ад усяго адмаўляецца. Але яго роля ў канспіратыўнай арганізацыі, шматлікія сувязі з рэвалюцыянерамі — хоць, зразумела, і не ў поўным памеры — устаноўлены.

У канцы лістапада следства па справе віленскай арганізацыі скончылася, пухлы том перададзены ў палявы ваенны суд пры штабе расквартараванай тут 27-й пяхотнай дывізіі. 12 снежня 1863 года падпісваецца прыгавор, трыццаці двум падсудным выносяцца розныя меры пакарання — ад расстрэлу («казнить смертью — расстрелянием») да высылкі. Чаховічу выпала па прыгаворы 10 гадоў катаргі з канфіскацыяй маёмасці, аднак Палявы аўдытарыят палічыў гэтую меру занадта мяккай і прысудзіў яго да расстрэлу. І раптам жыццёвыя шалі зноў схіліліся на карысць нашага героя. Мураўёў — чаго ніколі не рабіў або рабіў вельмі рэдка — замяніў пакаранне смерцю 12-гадовай катаргай. Як здарылася немагчымае? Адказ знаходзім ва ўспамінах пра кампазітара Мечыслава Карловіча: Ірэна Сулістроўская, будучая жонка Яна Карловіча і маці кампазітара, звярнулася да свайго сіяцельнага і ўплывовага сваяка князя Канстанціна Радзівіла і той літаральна вымаліў у Мураўёва жыццё, як сказана ва ўспамінах, «аднаго з самых высакародных тагачасных людзей, члена Нацыянальнага ўрада Зыгмунта Чаховіча». Дарэчы, у гэтых жа ўспамінах гаворыцца, што Ірэна Сулістроўская схавала і выратавала яшчэ і мастака Эльвіра Андрыёлі, пра што ён з удзячнасцю расказваў потым, бываючы ў Карловічаў у Варшаве. А самому Яну Карловічу, як мы ведаем, быў да магілы ўдзячны за выратавальную дапамогу ў грозным 1863 годзе беларускі пісьменнік Францішак Багушэвіч. Тугія вузельчыкі завязвае часам гісторыя.

Карловічы і далей працягвалі апекавацца Чаховічам. У студзені 1870 года яго брат Ігнат паведаміў Яну Карловічу балючы сібірскі адрас — «Сигизмунду Бернардовичу Чеховичу в г. Иркутске. На Большой улице дом Доржеева».

Але мы забеглі-такі наперад. Вернемся на некалькі гадоў назад.

Сярод матэрыялаў канцылярыі віленскага генерал-губернатара выпадкова захаваўся дакумент, цікавы не столькі зместам, колькі ў храналагічных адносінах: генерал-губернатар Заходняй Сібіры піша ў жніўні 1864 года Мураўёву, што Юзэфа Чаховіч, маці Зыгмунта, прыслала ў Омск пасылку. Сын размеркаваны ў Іркуцкую губерню. Каб даставіць пасылку адрасату, патрабаваліся грошы. Хоць і невялікія, а ўсё ж. Таму і распачалі перапіску омскі правіцель з правіцелем віленскім, якая для нас з'яўляецца карыснай храналагічнай меткай. Мы даведваемся, што да жніўня 1864 года Зыгмунт Чаховіч ужо прарабіў свой пакутніцкі шлях у Сібір. Туды ішлі па этапе месяцамі, і пра геройскую смерць

Каліноўскага (сакавік 1864 года) ён даведаўся, магчыма, у дарозе або пасля прыбыцця на месца.

У кароткай біяграфічнай даведцы, якая ўжо не раз служыла нам у лабірынтах даследавання арыяднінай ніткай, паведамляецца, што катаргу Зыгмунт адбываў у Нерчынскіх капальнях, дзе на працягу дзевяці гадоў быў прыкуты да тачкі. Потым жыў на пасяленні ў Іркуцку, дзе займаўся, між іншым, вырабам мыла (вось вам і летуценнік — не кожны заўзяты практык скеміць). Далей былі Перм, Смаленск і, нарэшце, Варшава. Праз шаснаццаць гадоў (гэта значыць каля 1880 года) ён змог пасяліцца ў Бясядах.

Дакументы ўносяць у гэтыя падлікі невялікія карэктывы.

Перапіска, прыкладзеная да справы віленскай рэвалюцыйнай арганізацыі (ДГА Літвы. Ф. 1248. Воп. 1. Спр. 468. Ч. 1), застае Чаховіча ў Варшаве. З яе відаць, што ён прыбыў сюды ў студзені 1873 года па пашпарце, выдадзеным пермскім паліцмайстрам на свабоднае пражыванне, дзе пажадае, за выключэннем сталіц і дзевяці заходніх губерняў (г. зн. Беларусі, Літвы і Украіны). Пашпарт датуецца снежнем 1872 года, выходзіць, Чаховіч прабыў у Сібіры не больш за восем гадоў, яшчэ меней, натуральна, працягвалася яго знаходжанне непасрэдна на катарзе. Няхай даруецца нам гэтае міжвольнае ўдакладненне, якое, зразумела, зусім не прыніжае рэвалюцыйных заслуг нашага героя.

Такім чынам, у 1873 годзе Чаховіч ужо ў Варшаве, побач з радзімай. Тым нясцерпней жаданне ўбачыць родныя нябёсы, набраць у збалелыя грудзі гаючага паветра Беларусі. Ён яшчэ не стары. І жонка Анэля, здаецца, яшчэ не такая «ўражына», як у купалаўскія часы. Вось дакументы. Анэля Чаховіч (яна называецца ў паперах уладальніцай маёнткаў Бясяды і Гяльвянуў у Вілейскім павеце) просіць аб выдачы мужу пашпарта на паўгода для прывядзення ў парадак спраў па гэтых маёнтках. Просіць узахлёб, не саромеючыся моцна згусціць фарбы: маёнткі ў поўным занпадзе, муж продажам або аддачай у арэнду можа выратаваць яе ад гібелі. Тым не менш у просьбе адмоўлена.

Прыкладна праз год, 11 красавіка 1874 года, сам Чаховіч, які жыў тады па-ранейшаму ў Варшаве па вуліцы Вспульнай, 6, звяртаецца да генерал-губернатара Паўночна-Заходняга краю з яўна нерэальнай просьбай вярнуць яму маёнтак у Свянцянскім павеце, які складаецца з двух фальваркаў — Мацковічы і Крашоны, а таксама дазволіць яму пабываць на радзіме. Адмоўлена.

У ліпені гэтага ж года Чаховічу, па хадайніцтве варшаўскага генерал-губернатара (відаць, былі зноў пушчаны ў ход сваяцкія сувязі), усё ж дазваляецца прыехаць на радзіму на два месяцы. Падоўжыць гэты тэрмін улады не згадзіліся.



На гэтым дадзеныя выяўленых дагэтуль архіўных дакументаў вычэрпваюцца. Як удалося зламіць упартае нежаданне царскіх улад дапусціць нядаўняга паўстанца-канспіратара на радзіму — мы не ведаем. Але ў цэлым гэта не адзінкавы выпадак. Паступова гэтага дабіваліся многія. Дарэчы, успамінаецца ўражанне маладога Купалы, што «жил он как будто полулегально». Можа быць, законнага дазволу так і не ўдалося дабіцца, і ўлады проста закрылі вочы на тое, што яго знаходжанне ў Бясядах падзацягнулася?..

Дабавім толькі, што на пачатку 1875 года ў «Минских губернских ведомостях» (трэба думаць, што і ў газетах іншых беларускіх і літоўскіх губерняў) друкуецца аб'ява Віленскага губернскага праўлення аб запланаваным продажы з таргоў за даўгі канфіскаваных у «политического преступника» Сігізмунда Чаховіча маёнткаў Мацковічы і Крашоны. У Мацковічах тады (пасля нядаўняга размежавання з сялянамі) налічвалася 1144 дзесяціны, ацэньваўся маёнтак на 30 тысяч рублёў. У Крашонах, ацэненых на 5 тысяч рублёў, лічылася ўсяго 187 дзесяцін. Публікуецца даўжэзны спіс крэдытораў з указаннем пазычаных сум, часам па некалькі тысяч рублёў. Чым скончыліся таргі, мы пакуль не ведаем, вядома толькі, што Мацковічамі потым валодаў генерал Маўрос. Чаховіч застаўся, такім чынам, без «недвижимости», у поўнай матэрыяльнай залежнасці ад жонкі, якой належалі Бясяды і яшчэ, як мы бачылі, маёнтак Гяльвянуў, праўда, невялікі.

Умовы жыцця Чаховіча ў Бясядах красамоўна апісаны Янкам Купалам у прыведзеным аўтабіяграфічным пісьме. Відаць, за час разлукі Зыгмунт і Анэля канчаткова сталі чужымі людзьмі. Можна меркаваць, што жонка вызнавала, мякка кажучы, цвярозы практыцызм, а муж так і не вылечыўся ад рамантычных ідэалаў маладосці. Вось і вымушана жонка ратаваць свой набытак ад філантрапічных парыванняў неразважлівага спадарожніка жыцця.

Чужакамі выраслі і дзеці. У 1910 годзе, пасля смерці Зыгмунта, «Наша ніва» ў карэспандэнцыі з Бясяд выкрыла драпежніцтва яго сына, які размахам сваіх аперацый з лесам і адначасова сваёй нялюдскай меркантыльнасцю і бояззю пераплаціць лішнюю капейку батракам здзівіў усю акругу. Магчыма, нататка раззлавала бясядскага пана. У 1914 годзе, калі рэдактарам «Нашай нівы» быў Купала, газета змясціла новы допіс: пан Вітальд Чаховіч з Бясяд, здаючы ў арэнду свае фальваркі, браў з арандатараў слова, што яны не будуць выпісваць і чытаць беларускія газеты. «А яшчэ сын ідэйнага бацькі», — заключала карэспандэнцыю газета. Тут чуецца не толькі папрок сыну, але і прызнанне высокіх якасцей бацькі. Вядома ж, Янка Купала помніў старога пана Зыгмунта і ў 1914 годзе, калі рэдагаваў «Нашу ніву».

Але мы зноў адхіліліся. Пан Зыгмунт яшчэ жывы і туліцца на птушыных правах у Бясядах. Не заўсёды сыты і дагледжаны, ён не адчувае сваёй самоты, абкружаны вернымі сябрамі і суразмоўцамі — кнігамі. Уладзімір Караткевіч, які самую буяную фантазію спалучаў з дзівоснай інтуіцыяй і дакладнасцю, у п'есе «Калыска чатырох чараўніц» пра юнацтва Янкі Купалы ўбачыў гэта так: «Бібліятэка ў флігелі Зыгмунта Чаховіча ў Бясядах. Простыя беленыя сцены, паўкруглыя зверху вокны, канапа, пацёрты дыван, столік, крэслы. Адзіная раскоша — мноства кніг і патрапаных, і ў старадаўніх скураных, і ў цісненых золатам вокладках. Астатняе — пацёртае і нібы прыцярушанае пылам… У фатэлі, накрыты пледам, сам Зыгмунт Чаховіч. Яму каля сямідзесяці год…». Калі і выпадалі ў жыцці Чаховіча нейкія грошы, ён, зразумела, траціў іх на кнігі, а то і раздаваў беднякам.

Толькі пасля смерці жонкі Чаховіч зноў адчуў сябе нарэшце паўнапраўным чалавекам і пераехаў у Вільню. У кароткай біяграфічнай даведцы, на якую мы не раз ужо абапіраліся, ёсць фраза, літаральна некалькі слоў, яны праліваюць яркае святло на асобу нашага героя: «Першым яго дзеяннем была выплата з атрыманай спадчыны даўгоў і пазык, зробленых на паўстанцкія мэты». Даўгі паўстання! Вось адкуль, трэба думаць, вялікі спіс крэдытораў па маёнтку Мацковічы! Сярод «чырвоных» заможныя людзі з «недвижимостями», з маёнткамі былі рэдкія. А толькі такім людзям быў адкрыты крэдыт, толькі такім па тых часах даваліся напавер буйныя сумы. Напаўпралетарыям-«чырвоным» заўсёды востра нетавала сродкаў на сваю арганізацыю, на справу паўстання. У цяжкія хвіліны арганізацыю, аказваецца, выручаў Чаховіч, сам залазячы па вушы ў даўгі.

З архіўных дакументаў даведваемся, што маёмасныя справы бацькі Чаховіча, а потым і самога Зыгмунта вёў адстаўны віленскі чыноўнік Выганоўскі. Чаховічу даводзілася часта бываць у яго доме. Сын Выганоўскага Вацлаў, арыштаваны ў 1866 годзе ў Пецярбургу па справе Каракозава, расказваў, паводле агентурных звестак, пра вытрымку і канспірацыйную абачлівасць паўстанцаў 1863 года Здановіча і Чаховіча, паплечнікаў Каліноўскага: «…он [Здановіч] был с нами приятель… также и Чехович был нашим приятелем, они оба были осуждены по одному делу, а пред тем однажды вместе были у нас, то показали вид, как будто один другого вовсе не знают и мать моя рекомендовала их одного другому: это пан Зданович, а это пан Чехович, — вот как умные люди должны поступать в этих случаях»[139]. Для нас гэта асабліва важны след. Паколькі Здановіч быў касірам паўстання, а Выганоўскі — паверааным і крэдыторам Чаховіча, то можна без вялікай рызыкі меркаваць, што намаляваная ў гэтым фрагменце сцэна, магчыма, мае прамыя адносіны да даўгоў паўстання.

[139] ДГА Літвы. Ф. 494. Воп. 1. Спр. 686. Арк. 77.



Гістарычна «чырвоныя» аплацілі гэтыя даўгі сваімі гераічнымі намаганнямі, сваімі ахвярамі, сваёй крывёй. Сам Чаховіч, здавалася б, тройчы аплаціў іх, страціўшы маёнткі, удыхаючы свінцовы пыл у Нерчынскіх капальнях. Гэта, так сказаць, гістарычна. А калі па-чалавечы, то займаў ён у канкрэтных людзей і хацеў быць сумленным перад імі. Каб і цень не ўпаў на паўстанне і яго людзей. Дый проста таму, што не мог іначай.

Тэму сплачвання даўгоў, рыцарскую далікатнасць Чаховіча да маштабаў высокага мастацкага абагульнення ўзняў У. Караткевіч у сваёй п'есе.

Зыгмунт Чаховіч дачакаўся яшчэ рэвалюцыйнага выбуху 1905–1907 гадоў, дачакаўся — храналагічна — яскравага літаратурнага дэбюту Купалы, хоць мы і не ведаем, на жаль, яго рэакцыю на першыя выступленні паэта ў друку. Ці ведаў, ці здагадваўся ён, што магутны звонкагалосы Купала, светлая надзея новай Беларусі, — той самы сарамяжлівы малады чалавек, сын арандатараў Луцэвічаў, што прыходзіў да яго ў Бясяды? Невядома. Хаця ўжо даволі рана (артыкул Е. Янкоўскага 1909 года) сучаснікі адзначылі «выхаваўчы ўплыў» на Купалу «палкоўніка 1863 года Зыгмунта Чаховіча». Цікава, адкуль ішлі гэтыя звесткі — ад Купалы ці Чаховіча? Хутчэй, зноў ад Купалы, бо Янкоўскі называецца ў ліку віленскіх знаёмых паэта[140]. Ва ўсякім разе несумненна, што перад намі яшчэ адна — вельмі ранняя, хоць і мімалётная — згадка-крыніца пра сувязі Купалы з Чаховічам.

Сам Чаховіч памёр у Вільні на спадзе рэвалюцыі, 15 кастрычніка 1907 года. 23 кастрычніка ў мясцовай польскай газеце «Dziennik Wileński» з'явіўся некралог, у якім адзначалася, што Чаховіч да канца жыцця захоўваў бадзёры настрой і ў дзень смерці збіраўся на паседжанне віленскага Таварыства сяброў навукі, членам якога быў. Пахаваны на могілках у Радашковічах побач з жонкай і сынам. Біяграфічных звестак у некралогу амаль не было, але гаварылася, што ў 1863 годзе ён «кінуў маладую жонку і дваіх дзяцей, кінуў дом родны, поўны каштоўных збораў, і пайшоў служыць народнай справе. Якую ў ёй ролю адыграў, якія заслугі заслужыў — цяжка цяпер сказаць. Павінны быць яны не малыя, калі ён апынуўся ў Нерчынскіх капальнях, дзе прабыў 9 гадоў, прыкуты да тачкі».

І далей: «Вусны старога, звязаныя прысягай, заўсёды маўчалі, калі размова ішла пра цывільную арганізацыю нацыянальнага ўрада і пра

[140] Гл.: Ластоўскі В. Успаміны аб Янку Купалу // Шляхам гадоў. Мінск, 1993. С. 157.

асабісты ўдзел у ёй. Аднак з кароткіх згадак сучаснікаў падзей 1863 года, а таксама з намёкаў нябожчыка, якія рабіліся ў сямейным коле, калі большасць таварышаў па тых падзеях паўмірала, ведаем, што ён прымаў актыўны ўдзел у партыі Ябланоўскага. Яшчэ большае значэнне мелі яго працы ў народнай арганізацыі, у якой займаў выдатнае становішча. Ведаем, што дастаўляў зброю для паўстанцкіх атрадаў, якую правозіў кантрабандай з Аўстрыі і хаваў ва ўласным доме ў Мацковічах».

Дэталяў пра сувязь Чаховіча з атрадам Длускага-Ябланоўскага, пра правоз зброі з Аўстрыі ў іншых крыніцах мы не сустракалі. Тым большая іх вартасць. Цікавыя таксама радкі ў некралогу пра тое, што яго каштоўную бібліятэку, калекцыю старадаўняй зброі, сабраныя ў маладыя гады, расцягалі пасля арышту і асуджэння.

Паўтараюцца звесткі, вядомыя нам з біяграфічнай даведкі да мемуараў Гейштара, што праз 16 гадоў вярнуўся ў Літву, што пасля смерці жонкі аддаў даўгі паўстання. «Сярод сваіх кніжак, сярод перыядычных выданняў розных адценняў, якія ўважліва чытаў, гаворачы: “Трэба ведаць, што пра нас думаюць і ворагі”, бавіў жыццё ціха і спакойна, несучы дапамогу і падтрымку ўсюды, дзе гэта патрабавалася».

Некралог падпісаны літарамі Z. K. Загадкі тут няма. Гэта ініцыялы Соф’і (Зоф’і) Кавалеўскай (1853–1918), краязнаўцы, даследчыцы беларускага фальклору. Яна жыла з мужам Яўгенам Кавалеўскім, удзельнікам паўстання 1863 года, у вёсцы Малыя Бакшты (цяпер Маладзечанскі раён). Кавалеўскія, несумненна, ведалі Чаховіча. А самае галоўнае, у Бакштах у іх, як устаноўлена Генадзем Каханоўскім, бываў і Янка Купала. Так што ўсё звязваецца ў цікавы вузел.

Вернемся яшчэ раз да таго моманту, калі Чаховіч, пасля многіх пакут і нягод, пасяляецца нарэшце ў Бясядах. Якраз у 1880 годзе выйшаў першы том «Геаграфічнага слоўніка Каралеўства Польскага і іншых славянскіх зямель», у якім гэтая мясцовасць апісваецца даволі падрабязна. Паглыбімся ў своеасаблівую лапідарную паэтыку слоўніка. Перакладаем з польскай:

*«Бясяды,* вёска і маёнтак, Вілейскі павет, Хаценчыцкая валасць, за пяць міль (35 вёрстаў. — *Г. К.*) ад Мінска, 18 вёрстаў ад Радашковічаў (тут прыход і паштовая станцыя), ад Лібава-Роменскай чыгункі (станцыя Красная, або Уша) $3^{1}/_{2}$ мілі. Гэты маёнтак мяжуе з аднаго боку з Барысаўскім паветам Мінскай губерні. Плошча 6000 моргаў (звыш 3000 дзесяцін. — *Г. К.*), з іх 1200 прыдатных, астатняе лес. Жыхароў абодвух полаў на гэтым абшары 600–650 чалавек, пераважна праваслаўных. За паўвярсты ад сядзібы знаходзіцца прыходская царква, з 1840 года праваслаўная, пабудаваная 200 гадоў таму назад, рэдкай архітэктуры, у форме трохкутніка з усечанымі вугламі, які ўтварае няправільны шасцікутнік. Мясцовасць гарыстая і маляўнічая. На невялікай адлегласці ля падножжа гары, на якой пабудавана царква, цячэ рака Удра, прыток Іліі, па другім баку ракі гара са слядамі замка. Да Бясяд належыць гута, знаходзіцца яна ў фальварку Жабічах, існуе 80 гадоў, абарот мае 10 000 рублёў серабром. Лясы велізарныя, добрай якасці, пераважна сасновыя і яловыя, ёсць таксама ўперамежку з хвойнымі дуб, клён, ясень, ліпа і альха. Глеба часткова пад жыта і пшаніцу, ёсць торф, вапна, кварц, а нядаўна адкрыты паклады мергелю, які ўжываюць і на вытворчасць шкла. У рацэ Удры вядзецца стронга. На тэрыторыі Бясяд ёсць на гэтай рацэ тры млыны аб адным і двух колах, або затворах. Да маёнтка Бясяды адносяцца фальваркі Трусевічы, Калдукоўка, Трускаўшчына, Паўлінента, Селішча, Жабічы, Лоша, Сідараўка, Канатопа, з вадзяным млынам аб двух затворах. Маёнтак Бясяды належыць Анэлі Чаховічавай. У бясядскіх лясах ёсць курганы, або валатоўкі, здаецца, шведскіх часоў» (артыкул падпісаны ініцыяламі M. G. — як высвятляецца з матэрыялаў слоўніка, гэта ксёндз Максіміліян Гапінскі з Наўры).

Такая, можна сказаць, агульная экспазіцыя Бясяд, месца, дзе сустрэліся Чаховіч і Купала. Сама мясцовасць тут, як бачым, цікавая, чыста купалаўская, з багатай, разнастайнай прыродай, курганамі, гістарычнымі помнікамі і паданнямі, незлічонымі слядамі дзейнасці ўвішных чалавечых рук.

Прыблізна праз два гады пасля таго, як Чаховіч пасяліўся ў Бясядах, Дамінік Ануфрыевіч Луцэвіч і яго маладая жонка Бянігна Іванаўна ахрысцілі ў радашковіцкім касцёле свайго першынца Івана, будучага Янку Купалу. Хоць Вязынка, дзе арандавалі зямлю Луцэвічы, ад Бясяд і далекавата, але Чаховічы былі прыхаджанамі таго ж радашковіцкага касцёла і ў прынцыпе, хаця б здалёк, маглі ведаць Луцэвічаў і нават чуць пра нараджэнне ў іх сына. Неўзабаве суровы лёс пачынае кідаць Луцэвічаў з месца на месца, яны кружаць вакол Мінска, то набліжаючыся да Бясяд, то зноў аддаляючыся, пакуль нарэшце не знайшлі амаль на дзясятак гадоў прыстанак у Селішчы. У летапісе жыцця і творчасці Янкі Купалы пра гэта запісана так:

«1895–1904. Сям’я Луцэвічаў жыве ў Селішчы Гайна-Слабадской воласці Барысаўскага павета».

Храналагічны пералік фальваркаў, дзе ў розныя часы былі арандатарамі Луцэвічы, некалі склаў сам Купала для Клейнбарта. І вось якая акалічнасць. Усюды ён указваў уладальнікаў-памешчыкаў, а адносна Селішча чамусьці гэтага не зрабіў. Цікава, што ў ліку дзевяці фальваркаў, якія адносіліся да Бясяд, геаграфічны слоўнік, як мы бачылі, называе і Селішча. І ўсё-такі думаецца, што купалаўскае Селішча — іншае. Вось

нават і павет з губерняй розняцца: Бясяды Вілейскага павета Віленскай губерні, а Селішча Барысаўскага павета Мінскай. Купалаўская энцыклапедыя адзначае, што гэтае паэтава Селішча належала памешчыцы Манюшцы. А Чаховічаў зямляк Ф. Гінтаўт называе ў гэтай сувязі імя памешчыка Вайцяхоўскага.

Няцяжка падлічыць, што Ясю Луцэвічу было ў 1895 годзе 13 гадоў, пакінуў жа ён Селішча ўжо маладым сфарміраваным чалавекам. Селішча вельмі важны перыяд у жыцці паэта. Ён прагна прыслухоўваўся да народа, што і як гавораць і спяваюць, чым жывуць, пра што марацць навокал людзі. Тут жыў якраз цікавы апавядальнік-парабак, які спрыяў абуджэнню ў будучага паэта творчай фантазіі. За адну зіму (1897–1898) Купала скончыў двухкласнае народнае вучылішча ў Бяларучах і атрымаў адзіны ў сваім жыцці дакумент аб адукацыі. У Селішчы паспрабаваў скласці першыя вершы, спачатку на польскай мове. Тут перажыў надзвычай цяжкую сямейную трагедыю — смерць бацькі, а праз паўгода ненажэрная шкарлятына знесла ў магілу малодшага брата Казіка і дзвюх сястрычак — Сабіну і Гэлю.

Нарэшце, тут ён пазнаёміўся з паплечнікам Каліноўскага Зыгмунтам Чаховічам.

Іх знаёмства і сустрэча ў агульным плане датуюцца тымі ж 1895–1904 гадамі. Для больш дакладнага датавання матэрыялу нестае. Магчыма, варта адкінуць пару апошніх гадоў, калі пасля смерці бацькі на Купалу звалілася маса дадатковых клопатаў і яму было, відаць, не да кніг і сустрэч нават з самымі цікавымі і патрэбнымі людзьмі. Але, з другога боку, якраз у гэты час яму так патрэбна была духоўная падтрымка.

М. Гарэцкі ў сваёй «Гісторыі беларускае літаратуры» (1924) пісаў: «Маючы гадоў 16–17, паэта браў чытаць кніжкі ў суседняга пана Чаховіча…», г. зн. адносіў сустрэчы да 1898–1899 гадоў, але, магчыма, гэта ўсяго толькі меркаванне. Гэтаксама ж не зусім карэктна датаваць знаёмства Купалы з Чаховічам менавіта 1895 годам (Купалаўская энцыклапедыя. С. 703). Яны маглі (хутчэй, так яно і было) пазнаёміцца і крыху пазней, калі Луцэвічы ўжо абжыліся і агледзеліся на новым месцы, ды і сам Ясь Луцэўчык падрос.

Па падліках заўзятага падарожніка па роднай Беларусі Леаніда Пракопчыка, ад Селішча да Бясяд нацянькі, палявымі ды ляснымі дарожкамі, кіламетраў 5–6, па гасцінцы болей. Суседства, як бачым, адноснае. І ўсё ж будучы паэт, пры ўсёй сваёй сціпласці, знайшоў дарогу да Чаховіча. І шмат разоў («Бывал у него часто…») прайшоў па ёй туды і назад, каб выбраць патрэбную кнігу, пагаварыць аб прачытаным, пра тое, чаму сведкам за сваё доўгае, вельмі цяжкое жыццё быў Чаховіч.



Калі Луцэвічы пасяліліся ў Селішчы, былому паўстанцу-катаржаніну было 64 гады. Харошы, мудры ўзрост падсумоўвання. Хоць досыць мудрым, мы пераканаліся, ён быў «от младых ногтей».

Дом Чаховічаў да нашых дзён не захаваўся. Паводле расказаў бясядскіх старажылаў, запісаных Л. Пракопчыкам, дом быў цікавы, са своеасаблівай аранжарэяй на першым паверсе, з вежай над дахам, адкуль далёка праглядваліся ваколіцы. Бібліятэка была на трэцім паверсе. Яшчэ ў гады рэвалюцыі і грамадзянскай вайны ў апусцелым доме можна было бачыць скінутыя на падлогу кнігі, геаграфічныя карты, нейкія старыя папкі, карціны ў залатых рамах, статуі.

Які ж «скарб» адкрыўся тут прагнаму да кніг і ўсякіх ведаў Купалу? Сёння пра склад бясядскай бібліятэкі, на жаль, можна толькі меркаваць. У прыватнасці, усе пералічаныя Янкам Купалам польскія аўтары — Міцкевіч, Славацкі, Крашэўскі, Сыракомля, Ажэшка, Канапніцкая, Выспянскі, Пшыбышэўскі, — іншым разам Купала дадаў да іх Сянкевіча, — вядома ж, былі ў кнігазборы Чаховічаў. Варта таксама добра падумаць над словамі Купалы: «…у него первого я познакомился с нелегальной литературой, больше всего относящейся к польскому восстанию. Были это издания краковские, лондонские, парижские и т. д.». За мяжою сапраўды выходзіла шмат кніг з гісторыі 1863 года, і сем’і паўстанцаў, а тым больш самі ўцалелыя ветэраны паўстання імі жыва цікавіліся (сястра Каліноўскіх піша ў 1905 годзе: «Чытала ў нейкім замежным творы з часоў паўстання, дзе зблыталі нябожчыка Віктара з Канстанцінам…»).

У бібліятэцы Чаховіча, хутчэй за ўсё, былі наступныя польскія выданні, якія карысталіся ў той час асаблівa шырокай вядомасцю:

Агатон Гілер, «Гісторыя паўстання польскага народа ў 1861–1864 гадах», у 4 тамах, Парыж, 1867–1871. Выданне цікавае тым, што якраз у ім, у першым томе, надрукаваны на мове арыгінала, па-беларуску, славутыя «Пісьмы з-пад шыбеніцы» Кастуся Каліноўскага, у тым ліку яго развітальны верш да Марысі.

Зыгмунт Калюмна, «Памятка для польскіх сем’яў», Кракаў, 1868. Біяграфічныя даведкі пра многіх ахвяр — удзельнікаў паўстання, у тым ліку пра Каліноўскага.

Валерый Пшыбароўскі (гэты скрупулёзны, хоць і кансерватыўны гісторык схаваўся пад крыптанімам Z. L. S.), «Гісторыя двух гадоў», у 5 тамах, Кракаў, 1892–1896. Расказ пра гады, што папярэднічалі паўстанню, у тым ліку ў Літве і Беларусі. З 1897 года ў тым жа Кракаве пачала выходзіць шматтомная «Гісторыя 1863 года» Пшыбароўскага, які атрымаў цяпер магчымасць выступіць пад новым псеўданімам — Аўтар «Гісторыі двух гадоў».

У Лондане яшчэ напярэдадні паўстання, у 1862 годзе, выйшла на польскай мове (было і рускае выданне) брашура «Цэнтральны Народны Польскі Камітэт у Варшаве і выдаўцы “Колокола” ў Лондане», выдадзеная вольнай рускай друкарняй А. І. Герцэна і М. П. Агарова. У ёй абвяшчаўся руска-польскі рэвалюцыйны саюз, да якога далучыліся і рэвалюцыянеры Беларусі і Літвы.

У 1863–1870 гадах у Лондане выходзіла польская газета «Głos wolny», дзе змяшчаліся шматлікія матэрыялы пра паўстанне, быў перадрукаваны адзін з нумароў «Мужыцкай праўды».

Папулярныя кнігі прагрэсіўнага грамадскага дзеяча і гісторыка, аднаго з першых польскіх сацыялістаў Баляслава Ліманоўскага выйшлі ў Львове (тады Аўстра-Венгрыя): «Гісторыя нацыянальнага руху з 1861 па 1864 год», у 2 тамах, 1882; аднатомная «Гісторыя паўстання 1863 і 1864 года», 1888.

Цалкам магчыма, што ў Чаховіча, як гэта паказана ў п’есе У. Караткевіча, захаваліся палымяныя лісткі «Мужыцкай праўды», а таксама іншыя беларускія пракламацыйныя выданні таго часу: «Гутарка старога дзеда», «Гутарка двух суседаў». Усё гэта было (было?) бясконца цікава юнаму Купалу.

Зямляк паўстанца Ф. Гінтаўт успамінае: «Бібліятэка Чаховіча сапраўды была багатай, яе ў час рэвалюцыі разабралі сяляне з бліжэйшых вёсак і, як мне давялося бачыць, скарысталі кнігі даволі “практычна”: частка пайшла на самакруткі, а рэшта на аклейванне сцен. Некалькі кніг з гэтае бібліятэкі — творы Г. Сянкевіча, Ю. Крашэўскага — падараваў мне адзін хлопец з Карпілаўкі, але яны, на жаль, не захаваліся, немцы пастараліся спаліць бацькаву хату разам з тымі кніжкамі. У адной кніжцы знаходзілася паштоўка з малюнкам царскай кароны, акручанай двума бізунамі, нібы вужакамі, над каронай надпіс: “В Росії сон не байкі, по-над правом ест нагайкі”. Мабыць, гэтая паштоўка паходзіла з часоў паўстання»[141].

Высвятляецца, што ў шафах у Чаховіча змяшчаліся не толькі кнігі, але і рукапісы. У некралогу яго гаварылася: «Сябра Ляскарыса і Карловіча, ён заўсёды ажыўляўся, успамінаючы іх». З біяграфіі не раз згаданага вышэй паэта і ўдзельніка паўстання 1863 года Ежыя Ляскарыса, які памёр у 1888 годзе, напрыклад, даведваемся, што яго рукапісы зберагаліся пасля смерці ў Бясядах. Вярнуўшыся з эміграцыі, Ляскарыс пражыў

[141] Полымя. 1984. № 5. С. 172. У іншым месцы Ф. Гінтаўт піша: «Па сутнасці, Чаховіч быў неафіцыйным настаўнікам, які пеставаў талент прышлага паэта на працягу амаль сямі гадоў» (Полымя. 1992. № 7. С. 208). Ад Купалавай сястры Гінтаўт чуў нават, што Янка цераз Чаховіча пасылаў у друк першыя (відаць, яшчэ польскія) вершы і быццам бы неяк атрымаў ганарар за нешта надрукаванае.



апошнія гады ў Даўбарове (Дамброве) пад Радашковічамі (відаць, сённяшняя вёска Дубрава, або Дуброва, у Маладзечанскім раёне). Хутчэй за ўсё, пасяліўся ён там не без садзеяння Чаховіча. Яго апошні верш, напісаны за некалькі тыдняў да смерці, прысвечаны старому сябру Зыгмунту Чаховічу. Сярод рукапісаў Ляскарыса, што захоўваліся ў Чаховіча, біёграфы адзначаюць паэму «Ёнтэк» пра франка-прускую вайну 1870–1871 гадоў. Пра гэта згадвае, у прыватнасці, адзін з пачынальнікаў нашай літаратуры Вінцэсь Каратынскі ў некралогу Ляскарыса, апублікаваным у варшаўскім часопісе «Tygodnik ilustrowany». Адкуль Каратынскі мог пра гэта ведаць? Не інакш Чаховіч падтрымліваў сувязі з Каратынскім, які перасяліўся пасля паўстання ў Варшаву.

У бясядскай бібліятэцы, зразумела ж, былі кнігі Ляскарыса, у тым ліку зробленыя ім апрацоўкі для маладога чытача «Мемуараў» Паска і «Успамінаў Сапліцы» Жавускага (Варшава, 1882–1883).

Магло здарыцца, бясядскі самотнік паказваў юнаму Купалу не толькі рэдкія замежныя выданні, але і рукапісы неапублікаваных твораў. З кніг пра паўстанне 1863 года, з расказаў Чаховіча Купала мусіў даведацца пра жыццёвы подзвіг Каліноўскага, запомніць яго імя, а магчыма, і пазнаёміцца з яго творамі («Пісьма з-пад шыбеніцы», «Мужыцкая праўда»). Фігуральна кажучы, у час сустрэч і гутарак Чаховіча і Купалы над імі лунаў цень Каліноўскага.

Ідэалогія, гераічная барацьба за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне народа, рэвалюцыйная публіцыстыка і паэзія Каліноўскага былі надзвычай блізкія Купалу, які разам са сваімі паплечнікамі, па сутнасці, прадоўжыў справу Каліноўскага на новым гістарычным этапе. Аднак усвядомлена гэта было пакаленнем Купалы не адразу. У купалаўскіх матэрыялах няма ранніх згадак пра Каліноўскага. Як быццам не помняць пра родапачынальніка беларускай рэвалюцыйнай дэмакратыі і многія іншыя дзеячы нашаніўскай пары. Рэдкае выключэнне — нарыс М. Багдановіча «Белорусское возрождение» (1915). На поўны голас загаварыў пра Каліноўскага «Гоман» В. Ластоўскага (1916).

Новае, сапраўднае адкрыццё Каліноўскага для Купалы, як і для ўсяго беларускага народа, адбылося ўжо ў паслярэвалюцыйны час, а менавіта ў 20-я гады, калі вобраз «атамана мужыцкай праўды» ўвасабляецца ў яскравых творах літаратуры і мастацтва, ставіцца п’еса Е. Міровіча, здымаецца фільм пра Каліноўскага. У Зборы твораў Купалы апублікавана рэцэнзія на спектакль па п’есе Е. Міровіча «Кастусь Каліноўскі» (упершыню надрукавана ў газеце «Савецкая Беларусь» 10 лістапада 1923 года за подпісам «К-а»). У рэцэнзіі падкрэслівалася, што «выведзены на сцэне герой — не надуманая аўтарам асоба, а гістарычна рэальная, баец-рэвалюцыянер Беларусі 60-х гадоў». «Мы патрабуем, —

гаварыў аўтар, — каб у дні спектакля не толькі вывешваўся партрэт Каліноўскага, але тут жа, на картцы, кароткі, але выразны (у звязку з п'есай) жыццеапіс.

Моладзь павінна знаць тых, хто складаў галовы за волю працоўных Беларусі».

Апошнім часам нашы вучоныя ўслед за Янкам Саламевічам схіляюцца да высновы, што гэты цікавы водгук на спектакль Міровіча належыць усё-такі не Купалу, а знанаму беларускаму літаратару і грамадскаму дзеячу Я. Дылу (Т. Кулешы), які гэтаксама ж, як Купала, карыстаўся крыптанімам «К-а».

Тым не менш вядома, што Купала даражыў памяццю беларускага нацыянальнага героя — кіраўніка паўстання 1863 года. Імя Каліноўскага неаднойчы згадваецца ў публіцыстыцы Купалы часоў Вялікай Айчыннай вайны. У артыкуле «Народ-мститель» народны паэт пісаў:

«Народ помнит своего бесстрашного революционера Кастуся Калиновского, возглавившего в 1863 году “Чырвоны жонд” (красное правительство). С горсткой храбрецов он дрался за свободу и землю для белорусского крестьянина, издавал для него “Мужицкую правду” и погиб за него в неравной борьбе.

Славные традиции Калиновского живы в белорусском народе».

У дакладзе на сакавіцкай сесіі Акадэміі навук БССР 1942 года «Айчынная вайна і беларуская інтэлігенцыя» Янка Купала ўспомніў імя «слаўнага рэвалюцыянера Кастуся Каліноўскага» побач з імёнамі самых дарагіх беларускаму народу гістарычных дзеячаў — Францыска Скарыны, народных паўстанцаў Гаркушы і Нябабы, пісьменнікаў Дуніна-Марцінкевіча і Багушэвіча, Цёткі і Багдановіча.

Досыць глыбокае знаёмства з падзеямі паўстання 1863 года стала неад'емнай часткай гістарычных ведаў паэта, уплывала на фарміраванне яго поглядаў на гісторыю роднай Беларусі, яго агульнай гістарычнай канцэпцыі. У вершы «Касцу» (1907) ён нагадае, што самая звычайная сялянская каса можа стаць грознай зброяй у руках народа, калі той паўстане.

Быў даўней народ хітрэй,
Не знаў стрэльбаў, дык аей!
Коскі шаблямі былі,
Ваяваць з імі ішлі.

Паэт да тонкасці ведаў тэхніку пераўтварэння касы-працаўніцы ў касу-зброю.

Касу ў шыйцы адагне,
І насадзіць, і махне…



Зразумела ж, гэтыя вобразы навеяны славутымі касінерамі 1863 года.

Слаўнае мінулае давала падпору для аптымістычных спадзяванняў на будучае. У вершы «За касой» (1911, зб. «Шляхам жыцця») Купала марыў-пытаўся:

Ці даждуся калі кос і песень касцоў
На другой на вялікай касьбе?..

Тое ж і ў вершы «Касьба» (1905–1907) са зборніка «Жалейка»:

Дружна йдзі, бедны люд, і з зары да зары
Працуй, біся, не гніся пад лямкай цяжкой
І за праўду сваю, дачакаўшы пары,
З касой вострай сваёй дружна, смела пастой!

Нярэдка ў сваёй паэзіі і публіцыстыцы Купала звяртаўся да злавеснага вобраза Мураўёва-вешальніка, душыцеля паўстання 1863 года, духоўнага антыпода Каліноўскага. «Мураўёва цень» як увасабленне царызму, які карыстаецца нязгодай паміж народамі, паўстае ў байцы Купалы «Лякарства» (1909). Часы, «калі Мураўёў гаспадарыў у Беларусі», успамінаюцца ў яго артыкуле «За “А ўсё ж такі мы жывём!..”» (1914), накіраваным супраць шавіністычных выступленняў чарнасоценнай прэсы. Мураўёўшчыну Купала разумеў вельмі глыбока, паказваючы пазней духоўную роднасць царскага сатрапа з польскімі шавіністамі-пілсудчыкамі. У вершы «Суд ідзе. Браніславу Тарашкевічу» (1932) «цень Мураўёва» вітае памагатых Пілсудскага, што чыняць расправу над лепшымі прадстаўнікамі працоўнага беларускага народа.

…Бясяды. Невялікая кропка на карце Беларусі, якая выклікае шмат гістарычных, літаратурных успамінаў і асацыяцый.

# ЦІ БЫЛО ТАКОЕ ВЫДАННЕ? Даследчыцкі сюжэт з Багдановічам, Каліноўскім і бібліяграфічнымі рэбусамі

З Багдановічам нам стала далёка
відаць ва ўсе канцы свету.

*М. Стральцоў*

Кастусю Каліноўскаму і Максіму
Багдановічу было па 26…

*Алена Ціхановіч*

Нашы энцыклапедысты, якія працуюць над энцыклапедычным даведнікам «Максім Багдановіч», папрасілі напісаць некалькі радкоў пра адносіны выдатнага паэта да Каліноўскага — ці ведаў Максім пра Кастуся, што і дзе аб ім пісаў, што можна сказаць пра іхнія духоўныя сувязі і г. д. Прыйшлося задумацца над гэтымі пытаннямі і нават зрабіць сякія-такія дадатковыя расследаванні.

У агульным плане несумненна: гераічная барацьба, радыкальная ідэалогія, палымянае слова Кастуся Каліноўскага па сваёй сутнасці былі надзвычай блізкія дзеячам беларускага адраджэння пачатку ХХ стагоддзя, у тым ліку Максіму Багдановічу. Аднак па шэрагу прычын (перарывістасць традыцый, аднабаковая на працягу доўгага часу трактоўка падзей 1863 года як паўстання выключна польскага, далёкага ад інтарэсаў беларускага народа) само імя Каліноўскага толькі паступова адкрывалася маладой беларускай інтэлігенцыяй. У «Нашай ніве» згадак пра Каліноўскага, здаецца, няма. Вялікую публікацыю з адчуваннем маштабу яго дзейнасці, яго нацыянальнай значымасці прысвяціў яму ў 1916 годзе Вацлаў Ластоўскі ў «Гомане». Але яшчэ раней у нарысе-даследаванні «Белорусское возрождение» пранiклівы Багдановіч, па сутнасці, першы з нашаніўцаў прыгадаў Каліноўскага ў аспекце нацыянальна-культурнай гісторыі. Напомнім, што праца пісалася Багдановічам у ліпені 1914 года (якраз на парозе сусветнай вайны), у наступным годзе друкавалася ў маскоўскім часопісе «Украинская жизнь», былі і асобныя адбіткі (Масква, 1916). Цяпер нас цікавіць наступнае месца з яе, прачытаем гэтыя радкі ўважліва.

«Польские повстанцы 1863 г., — адзначаў Багдановіч, — в свою очередь выпустили ряд изданий на белорусском языке. Таковы “Мужыцкая праўда”, “Гутарка старога дзеда”, “Перэдсьмертный разгавор пустэльника Петра” и т. д. К. Калиновский издавал в Белостоке даже белорусскую газетку “Hutorka” (стихотворную), подписываясь псевдонимом “Ясько гаспадар с пад Вільні”»[142].

Звесткі Багдановіча яшчэ не ва ўсім дакладныя. «Беларускай газеткай» Каліноўскага была, вядома, найперш «Мужыцкая праўда», якая прыпісваецца тут па традыцыі нейкім неакрэсленым, безаблічным «польскім паўстанцам». Гэта не выключае і адзначанага Багдановічам хаця б ускоснага дачынення правадыра беларускай рэвалюцыйнай дэмакратыі і да іншых выданняў, скажам, да даволі радыкальнай вершаванай «Гутаркі двух суседаў», якая сапраўды выходзіла ў Беластоку (выйшла 4 нумары) і пераклікалася некаторымі важнымі прынцыповымі палажэннямі з «Мужыцкай праўдай». Як бы там ні было, але сам факт звароту Багдановіча да імя Каліноўскага ў працы аб беларускім нацыянальна-культурным адраджэнні досыць паказальны. У гэтым сэнсе заслуга Багдановіча ў засваенні беларускай інтэлігенцыяй духоўнай спадчыны, традыцый Каліноўскага несумненная.

Паўстае пытанне, адкуль Багдановіч узяў гэтыя звесткі. Якімі наогул матэрыяламі карыстаўся засяроджаны ў сваім высокім прызванні яраслаўскі ліцэіст, калі са шчымлівай любоўю да далёкай бацькаўшчыны, з душэўным клопатам аб яе будучыні рыхтаваў свой гістарычны нарыс адраджэння роднай культуры, у першую чаргу роднай літаратуры? Па сутнасці, гэта першы зводны курс гісторыі беларускага пісьменства. «Гісторыя…» яго магутнага цёзкі Максіма Гарэцкага выйдзе ў 1920 годзе, найбольш важны з гэтага пункту погляду, завяршальны выпуск «Белорусов» Карскага з’явіцца яшчэ пазней. Праўда, у 1903 годзе, у першым томе «Белорусов», Карскі даў беглую зводку літаратурна-лінгвістычных крыніц за ўвесь перыяд існавання нашага пісьменства, коратка прыгадаў там і «Мужыцкую праўду» (не раскрываючы аўтарства), але ацаніў яе ў афіцыёзным духу («Прокламация написана очень зло»). Што яшчэ ляжала або магло ляжаць на рабочым стале вялікага працаўніка Максіма? Багдановіч перачытаў, несумненна, «Живописную Россию» (том, прысвечаны Беларусі), ведаў артыкул Ластоўскага «Памажыця!» (Наша ніва. 1913) пра пісьменнікаў XIX стагоддзя, іншыя гісторыка-літаратурныя публікацыі «Нашай нівы», працы Р. Зямкевіча, але пра

[142] Богданович М. Белорусское возрождение. М., 1916 (репринтное изд. — Минск, 1991). С. 13.

Каліноўскага там нічога не было. На чым жа ён грунтаваўся ў дадзеным выпадку?

Удаецца адшукаць даволі блізкую крыніцу — кнігу польскага сацыяліста (дзеяча ППС) Леана Васілеўскага (1870–1936) «Літва і Беларусь», якая выйшла ў Кракаве ў 1912 годзе. Прагрэсіўны публіцыст і гісторык, Васілеўскі, нягледзячы на зразумелую ў цэлым у яго становішчы тэндэнцыю да перабольшання польскіх уплываў на культуру беларускага і літоўскага народаў, здолеў прывесці ў сваёй кнізе шэраг аб'ектыўных звестак з гісторыі беларускага нацыянальна-культурнага руху, адзначыў арыгінальнасць таленту Я. Купалы і Я. Коласа, паспрабаваў у кароткай форме акрэсліць іх творчыя індывідуальнасці, высока ацаніў «Нашу ніву», у прыватнасці, за яе надзіва далікатныя адносіны да іншых народаў і цесную сувязь з працоўнымі масамі.

Якраз у Васілеўскага на старонцы 274 і знаходзім шуканыя радочкі, якія можна, бадай што, беспамылкова суаднесці з прыведзеным фрагментам Багдановіча. Вось яны (у перакладзе з польскай):

«Пачатак 7-га дзесяцігоддзя прынёс новую з'яву — агітацыйную палітычную літаратуру на беларускай мове. З'яўляюцца адозвы і брашуры (“Мужыцкая праўда”, “Гутарка старога дзеда”, “Добрыя весьці”, “Перэдсьмертный разгавор пустэльніка Петра”), вытрыманыя ў антыўрадавым і антырускім духу. Выходзіць беларускае вершаванае перыядычнае выданне [pisemko] “Hutorka”, якая выдавалася ў Беластоку Канстанцінам Каліноўскім (што ўжываў псеўданім “Ясько гаспадар с пад Вільні”). Пашыраліся песні аналагічнай тэндэнцыі».

Адпаведнасць, можна сказаць, поўная. Здаецца, Багдановіч ці не цалкам перанёс гэты фрагмент у сваю працу, надаўшы яму сваю рэдакцыю. Зразумела ж, ён уставіў гэтыя звесткі ў высокую раму сваёй патрыятычнай канцэпцыі, свайго праніклівага бачання нацыянальнай гісторыі. Чужое ў яго, як і ў іншых значных творцаў, адразу станавілася сваім. Але гэта не здымае пытання пра крыніцы. Моц літаратурнага крыніцазнаўства, уважлівага прачытання даступных крыніц у тым, што нават пры адсутнасці чарнавікоў і іншых падрыхтоўчых матэрыялаў мы атрымліваем рэдкую магчымасць кінуць погляд у творчую лабараторыю нашага паэта, як бы зірнуць з-за пляча пісьменніка. Можна было б яшчэ думаць, што ў Багдановіча і Васілеўскага ёсць нейкая агульная крыніца, але вядома, што наш паэт уважліва чытаў кніжку Васілеўскага, нават вывучаў з яе дапамогай польскую мову.

Звесткі пра гэта захаваліся ў перапісцы. 23 мая 1914 года (успомнім — у ліпені ён будзе працаваць над артыкулам «Белорусское возрождение») Багдановіч пісаў з Яраслаўля ў рэдакцыю «Нашай нівы» (Вацлаву Ластоўскаму — так трэба расшыфроўваць абсечаны ўкладальнікамі



Збору твораў зварот «Пане В.!» — яшчэ зусім нядаўна імя гэтага выдатнага працаўніка беларускай культуры было пад забаронай), дык вось Багдановіч пісаў: «Скончыўшы вясеннія экзамены, адразу хачу прыступіць да свайго даўняга жадання, — а ўласне хачу выўчыць польскую мову. Дзеля таго надашліце мне накладной платай вось якія кнігі: 1) Leon Wasilewski. “Litwa i Białoruś”, 2) Слоўнік польска-рускі, не надта вялікі, па вашаму выбару. Па Васілеўскаму я і хачу вучыцца. Маю надзею, што за лета здолею-такі яго прачытаць»[143].

Чаму для практыкаванняў у польскай мове Багдановіч выбраў менавіта кніжку Васілеўскага, якая мела падзагаловак «Мінуўшчына — сучаснасць — тэндэнцыі развіцця» і побач з грунтоўнымі, а цяпер для нас як бы класічнымі беларусазнаўчымі працамі Карскага, Нікіфароўскага, Раманава, Сержпутоўскага прыхільна рэкламавалася тагачаснай беларускай прэсай, няцяжка здагадацца: паэта надзвычай цікавіла ўсё, звязанае з культурным рухам і гісторыяй яго радзімы, — можна ўявіць, колькі трапяткіх водгукаў — дзе станоўчых, удзячных, а дзе і больш стрыманых, а то і крытычных — знайшла пры павольным, удумлівым чытанні гэтая кніжка ў душы Максіма.

Цяпер мы ведаем, што Ластоўскі ўважліва паставіўся да просьбы з Яраслаўля, прыслаў і кнігу, і слоўнік (дапытлівыя музейшчыкі павінны высветліць, якімі польска-рускімі слоўнікамі ён карыстаўся), і ўлетку 1914 года, калі Максімавы сябры цэлымі днямі прападалі на Волзе, Багдановіч сіднем сядзеў над прысланымі матэрыяламі. Для яго гэта было неверагодна цікава. Блізкая польская мова, на якую, дарэчы, ужо пачалі перакладаць яго творы, дапамагала паўней і вастрэй адчуць многія нюансы роднай. За канікулы Багдановіч не толькі адужаў польскую мову, не толькі прачытаў даволі ёмістую, насычаную разнастайным матэрыялам кніжку Васілеўскага, як было абяцана ў цытаваным пісьме, але і напісаў (прынамсі, завяршыў) выдатную, наватарскую працу аб культурным адраджэнні свайго народа. Тыя адзначаныя намі вышэй недакладнасці ў тэксце Багдановіча трэба аднесці на рахунак Васілеўскага. Ды, калі разабрацца, што можна было патрабаваць ад папулярных, па сутнасці, прац Багдановіча і Васілеўскага? Трэба ўлічыць таксама, што гісторыя беларускіх агітацыйных выданняў 1860-х гадоў была тады яшчэ зусім не распрацаваная — з гэтым блыталіся нават спецыялісты, якія, што называецца, сабаку з'елі на гісторыі паўстання 1863 года.

На гэтым можна было б і скончыць нашы нататкі, але сюжэт гэты раптам атрымаў свой арыгінальны працяг.

---

143 Багдановіч М. Зб. тв.: у 2 т. Т. 2. Мінск, 1968. С. 508–509.

У 1986 годзе выйшла з друку выдатная абагульняльная праца нашых бібліёграфаў і кнігазнаўцаў — зводны рэтраспектыўны каталог «Кніга Беларусі: 1517–1917». З зайздроснай скрупулёзнасцю спецыялісты зафіксавалі ў ім усе (ці амаль усе) вядомыя навуцы друкаваныя выданні на беларускай мове (таксама і на рускай, калі яны выходзілі ў Беларусі) ад таго самага часу, як славуты палачанін Скарына запусціў у Празе свой першы друкарскі станок, і ажно да Кастрычніцкай рэвалюцыі. Улічана літаральна ўсё: кожная кніга, найменшая брашура, каляндар, газета, кожны часопіс, зборнік, альманах. Прыкрыя пропускі звязаны галоўным чынам з нядаўнімі занадта строгімі патрабаваннямі Галоўліта. Але здараюцца, наадварот, і «мёртвыя душы» — бібліяграфічныя апісанні, за якімі не стаіць рэальнай друкаванай прадукцыі.

Пад № 432 тут апісана наступная бібліяграфічная пазіцыя:

*Hutorka*. [Газета вершам. Падпольнае выданне К. Каліноўскага]. Białastok, 1863–1864 гг. (?)

Падпісана: «Jaśko Haspadar z pad Wilni».

І далей спасылка на адпаведнае месца ўжо знаёмай нам працы Багдановіча «Белорусское возрождение». І яшчэ адна спасылка, якая гучыць так: «У кнізе Ігнатоўскага У. “Гісторыя Беларусі XIX–XX стст.” (Мінск, 1926) на 122 старонцы змешчаны фотаздымак гэтай газеты».

Вось і ўсё. Звычайна бібліёграфы больш падрабязна апісваюць выданне, прынамсі, указваюць, дзе яго можна паглядзець у натуры. А тут толькі спасылкі на працы, у якіх гэтае выданне згадваецца.

Мяне гэта паведамленне каталога надзвычай зацікавіла, бо такога выдання я не ведаў, хоць у свой час давялося падняць мноства самых разнастайных матэрыялаў, звязаных з Каліноўскім і паўстаннем.

Можа, падумалася, маецца на ўвазе «Гутарка двух суседаў»? Не, яна апісана ў каталогу (і апісана вельмі грунтоўна) крыху вышэй — пад № 431. Ды «Гутарка двух суседаў» ніколі псеўданімам Яська-гаспадар не пазначалася і выходзіла напярэдадні, а не ў час паўстання.

Трэба зазірнуць ва ўказаныя ўкладальнікамі каталога крыніцы. Як выглядае справа з артыкулам Багдановіча, нам ужо вядома. Знаходзім надзвычай папулярную ў свой час кнігу Ігнатоўскага (што, як ні дзіўна, цяпер нялёгка зрабіць — яе няма нават у даволі багатай Цэнтральнай навуковай бібліятэцы нашай Акадэміі, першым прэзідэнтам якой быў Ігнатоўскі) і адкрываем на старонцы 122. Факсіміле «Гутаркі» ў поўным сэнсе, як уяўлялася, там няма, а ёсць агульны здымак пад назвай «Нелегальныя газеты ў 1863–64 гг. (Беларуская газета “Hutorka” — “Гутарка”)». На ім пара дзясяткаў падпольных лісткоў і газет таго часу, згрупаваных, магчыма, на нейкім стэндзе. Найбольш на польскай мове. Чытаюцца назвы: «Niepodległość», «Naprzód!», «Dziennik narodowy», «Głos z Litwy», «Ruch», «Prawda», «Ojczyzna», «Polska» і інш. (некаторыя назвы неразборлівыя). Сярод іх віднеецца брашурка з надрукаванай зверху назвай: паўкругам буйнымі літарамі «HUTORKA» і ніжэй яшчэ гарызантальны радок з двух слоў, якія на дробнамаштабным здымку нельга прачытаць. Але па размяшчэнні шрыфтоў я ведаю, што так (невялікай брашуркай) афармлялася «Гутарка двух суседаў». Яе першы нумар мне давялося ўласнаручна скапіраваць у аспіранцкія гады ў Маскве (тады гэта быў Цэнтральны гістарычны архіў СССР, цяпер Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі. Ф. III аддз. 1 эксп. 1861 г. Спр. 531. Арк. 2–3). Я нават спецыяльна старанна перамаляваў тады ў свой сшытак адмысловае размяшчэнне шрыфтоў у загалоўку, якое мяне чамусьці зацікавіла. Ды, зрэшты, факсіміле першай старонкі (з загалоўкам) гэтай «Гутаркі…» надрукавана ў кнізе «Падпольная прэса 1861–1864 гг.» (ч. 1), якая выйшла ў Польшчы ў 1966 годзе (з вядомай сумеснай савецка-польскай юбілейнай дакументальнай серыі «Паўстанне 1863 года. Матэрыялы і дакументы»). І кожны пры жаданні можа пераканацца, што размяшчэнне шрыфтоў тут абсалютна такое ж, як і на здымку ў кнізе Ігнатоўскага. Тое ж самае клішэ для загалоўка (у слове «HUTORKA» вуглавата абсечанае «O») ужывалася неаднаразова. Яго выразна відаць на фотакопіі трэцяга нумара «Гутаркі двух суседаў», якая ёсць у мяне (арыгінал — у ДГА Літвы. Ф. 378. Паліт. аддз. 1863 г. Спр. 1027. Арк. 8–9).

А зусім нядаўна ўдалося дашукацца нават, адкуль Ігнатоўскі ўзяў сваю ілюстрацыю. Як аказалася — з кнігі польскага гісторыка Ю. Грабца «Год 1863» (Познань, 1922. 2-е выд. С. 291). У Грабца сказана, што гэта калекцыя Польскага нацыянальнага музея ў Раперсвілі (Швейцарыя), вядомага якраз сваімі багатымі зборамі памятак 1863 года. Назва беларускай брашуры чытаецца там цалкам.

Такім чынам, хочаш не хочаш, трэба прызнаць — на здымку ў кнізе Ігнатоўскага пададзена добра вядомая «Гутарка двух суседаў». Трэба думаць, што гэтую «Гутарку…» меў на ўвазе Васілеўскі (і ўслед за ім Багдановіч), бо ніякай іншай вершаванай «Гутаркі», якая выходзіла б як перыядычнае выданне асобнымі нумараванымі выпускамі, не было. (Папулярная ў свой час «Гутарка старога дзеда» не мела працягу і слушна падаецца ўкладальнікамі каталога ў раздзеле кніг, а не перыядычных выданняў.) З поўным правам сцвярджае ў адной з сваіх прац У. Казбярук: «Мы ведаем толькі адну беларускую перыядычную вершаваную газету гэтага перыяду — “Гутарку двух суседаў”»[144].

А хіба не паказальна, што бібліёграф 20-х гадоў Юлія Іосіфаўна Бібіла, якая, безумоўна, выдатна ведала кнігу Ігнатоўскага, падала

[144] Старонкі літаратурных сувязей. Мінск, 1970. С. 143.

ў сваёй бібліяграфіі беларускіх выданняў «Гутарку двух суседаў» (тады, дарэчы, былі вядомыя толькі тры яе нумары), а проста «Гутарка» ёю не адзначана.

Укладальнікі каталога 1986 года зрабілі інакш, але ці ёсць гэта крок наперад? Уключэнне ўяўнай «Гутаркі» (побач з «Гутаркай двух суседаў») у каталог рэальных выданняў наўрад ці можна лічыць апраўданым. Нездарма самі ўкладальнікі пры гэтым бібліяграфічным апісанні паставілі пытальнік. Пры перавыданні каталога гэтую пазіцыю трэба выключыць.

…Вось такое нечаканае бібліяграфічнае расследаванне вырасла з даручэння энцыклапедыстаў напісаць некалькі радкоў пра адносіны Багдановіча да Каліноўскага.

З апублікаванага В. Рагойшам пісьма В. Савіча-Заблоцкага М. Драгаманаву 1886 года высветлілася даўняя традыцыя прыпісваць Каліноўскаму ўсе беларускія гутаркі і праклямацыі 1863 года. Вось гэты надзвычай цікавы фрагмент (захоўваем арыгінальную стылістыку аўтара): «Калі Каліноўскі пан пісаць яў [пачаў] паўстанскую “Беларускую гутарку”, “Гутарку старога дзеда”, Граматы, Граматкі, Праклямацыі і т. д., люд яў не верыць гэтым, што да яго па-мужыцку гукалі…»[145]. Назвы тут, за выключэннем «Гутаркі старога дзеда», як бачым, не канкрэтызаваныя, прыблізныя, не рэальныя, як не зусім адпавядае (або нават зусім не адпавядае) праўдзе і агульнае адмаўленне ўздзеяння праклямацый на народ. Апраўданае толькі само збліжэнне Каліноўскага з Беларуссю, з нацыянальнай культурай. У гэтым сэнсе Савіч-Заблоцкі быў папярэднікам Багдановіча.

[145] Беларуская літаратура XIX ст.: хрэстаматыя. Выд. 2. Мінск, 1988. С. 316.



# БЫЎ І ТАКІ ПОШУК…

І да матчынага дому
Я прынёс снапок аўса.
*У. Хадыка*

## ФРАНЦІШАК РЫСІНСКІ — ПАЭТ І ПАМЕШЧЫК

У 1843 годзе на Віцебшчыне пабываў Рамуальд Падбярэскі, які занатаваў свае ўражанні ад творчасці папулярнага мясцовага паэта. Вось што ён сказаў: «Францішак Рысінскі, аўтар мноства напісаных з нагоды і лёткіх вершыкаў, лёгкіх, вясёлых, дасціпных, у якіх звяртае ўвагу і міжвольна прымушае задумацца філасофская, часам знянацку кінутая думка, заснаваная на глыбокім веданні свету і людзей, выяўляе і рэдкі талент, і розум, падтрыманы навукай і роздумам»[146]. З напісанага тады артыкула Падбярэскага «Беларусь і Ян Баршчэўскі» відаць, што Рысінскі быў мясцовым памешчыкам і чыноўнікам, служыў апошнім часам старшынёй губернскай палаты цывільнага суда ў Віцебску. Падбярэскі дапускаў, што паэт паходзіў з Украіны. Наўрад ці. Хутчэй за ўсё, гэта старадаўні беларускі род, прозвішча якога паходзіць ад вёскі Рысін былой Віцебскай губерні (цяпер Себежскі раён Пскоўскай вобласці; адсюль і вядомы паэт-лацініст, збіральнік прыказак XVI–XVII стагоддзяў Саламон Рысінскі). Публікуючы некаторыя вершы Ф. Рысінскага ў другім томе «Rocznika literackiego» (1844), Падбярэскі адзначыў, што аўтар памёр дзясятак з лішнім (kilkunaście) гадоў назад, таму за ўмоўную дату яго смерці можна прыняць 1830 год (або каля 1830 года). Вось у асноўным і ўсё, што было вядома пра жыццё Францішка Рысінскага.

У свой час шмат ведаў пра Рысінскага яго зямляк А. Рыпінскі, напісаў нават яго біяграфію для сваёй гісторыі беларускай літаратуры, але да нас яна, на вялікі жаль, не дайшла. Новых біяграфічных звестак не паведамляецца і ў «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі», дзе пра Рысінскага ёсць невялікі артыкул У. Мархеля. У другім выпуску гісторыка-літаратурнага зборніка «Шляхам гадоў» (1990) У. Мархель

[146] Пачынальнікі. С. 57.

надрукаваў пераклад даволі тыповага для Рысінскага верша «Роздум пасля страты закладзенага маёнтка» і дадаў ва ўступнай нататцы пра яго аўтара: «Не рабілася ніякай спробы адказаць на пытанне, чаму ў пачатку XIX стагоддзя надзвычайную папулярнасць на Віцебшчыне мелі іранічна-філасофскія творы Францішка Рысінскага (канец XVIII ст. — не пазней 1830 г.), старшыні цывільнага суда ў Віцебску, які пісаў на польскай, беларускай і, можа, на рускай мове…» Словам, і ў жыцці, і ў творчасці Рысінскага шмат пытальнікаў.

Таму мне падаліся вартымі ўвагі кароткія звесткі, прыведзеныя ў справе канцылярыі Полацкага намесніцтва 1783 года аб службе мясцовых чыноўнікаў (ЦДГА ў Мінску. Ф. 2567. Воп. 1. Спр. 65). Згадваецца там і Рысінскі. Аказваецца, яму было тады 34 гады. Выходзіць, нарадзіўся ён у 1749 годзе. Такім чынам, перад намі равеснік Гётэ, чалавек, які сфарміраваўся і пражыў значную частку жыцця яшчэ ў XVIII стагоддзі. Калі ўсходняя Беларусь была далучана да Расіі, ён увайшоў ужо ў пару маладосці. У 1778 годзе ўтварылася Полацкае намесніцтва, узнікла мноства новых устаноў, і Рысінскі атрымаў у Полацку месца засядацеля ад дваранства ў Другім дэпартаменце Верхняга земскага суда, потым быў выбраны дваранскім засядацелем у Полацкі совесны суд, з 1780 года ён надворны саветнік (гэта немалы чын). Друкаваны агульнарасійскі «Месяцеслов» на 1796 год паведамляе, што калежскі саветнік (новая прыступка ў кар'еры) Франц Пятровіч Рысінскі быў на той час старшынёй таго самага дэпартамента Верхняга земскага суда, у якім пачынаў некалі службу засядацелем.

Словам, яго кар'ера складвалася даволі паспяхова. Гэтаму садзейнічала тое, што Рысінскі належаў да асяроддзя досыць багатых памешчыкаў. У той жа справе 1783 года паведамлялася, што ў яго былі маёнткі ў Віцебскім і Полацкім паветах. На жаль, назвы іх не прыводзіліся, падаецца толькі колькасць сялян ва ўладаннях памешчыка: у Віцебскім павеце прыгонных 268 душ (відаць, мужчынскага полу), у старостве (у часовым валоданні) 39, у Полацкім павеце 748 прыгонных, у Веліжскім старостве ажно 1162 душы. У спісе памешчыкаў Віцебскага павета, апублікаваным у цікавым краязнаўчым зборніку «Віцебшчына» (т. 2, 1928), адзначана, што Франц Пятровіч Рысінскі меў маёнткі Паўцаво, Казімерава і іншыя (назвы не падаюцца), усяго 12 вёсак. У 1772 годзе за ім па павеце лічылася 518 душ абодвух полаў, праз 10 гадоў — 540. Мабыць, ён не вылучаўся з масы памешчыкаў асаблівым лібералізмам у адносінах да сялян. У кожным разе ў кнізе М. Клачкова «Очерки правительственной деятельности времен Павла I» (Пг., 1916) адзначана незадавальненне сялян памешчыкам Беларускай губерні (утворана ў 1797 годзе з Полацкага і Магілёўскага намесніцтваў) калежскім



саветнікам Рысінскім. Сяляне прыслалі нават у Пецярбург хадакоў са скаргамі на свайго памешчыка «в отягощении их несносными работами и налогами». Так што перад намі постаць супярэчлівая, дваістая: таленавіты вастраслоў, які дасціпна высмейваў агульначалавечыя заганы і слабасці, і сын свайго часу, які не толькі не саромеўся прыгонніцтва, але, па ўсім відаць, лічыў яго нармальнай з'явай і выціскаў з бедных паднявольных мужыкоў усё, што толькі можна.

Францішак Рысінскі пісаў пераважна на польскай мове, але ёсць падставы думаць, што ён не грэбаваў і беларускай музай. Вядома, што яго творчасцю цікавіўся ксёндз-месіянер і вялікі кнігалюб Антон Карніловіч (1805–1856). У свой час Адам Мальдзіс прывёў наступны цікавы для нас фрагмент з артыкула пра Карніловіча ў «Польскім біяграфічным слоўніку»: А. Карніловіч, гаворыцца ў артыкуле, «цікавіўся таксама беларускай паэзіяй, асабліва паэтам Францішкам Русінскім [!], вершы якога збіраў і меркаваў выдаць». Як бачым, Рысінскі, магчыма, праз памылку друку трансфармаваўся тут у Русінскага. Не выключана, што мы ўвогуле маем тут справу з крыху перайначанымі звесткамі, якія ідуць яшчэ ад Падбярэскага, але хто ведае, можа, рэдакцыя слоўніка мела і якія дадатковыя матэрыялы.

У. Мархель звязвае з Ф. Рысінскім аўтарства вядомых макаранічных беларуска-польскіх мініяцюр «Плач пакінутага каханай» і «За пенкнай паненкай аж душа сумуе…». Сваіх аргументаў даследчык не раскрывае. Хутчэй за ўсё, гэта чыста інтуітыўнае меркаванне. Між тым пытанне мае сваю цікавую гісторыю, адносна паходжання гэтых твораў выказваліся самыя розныя погляды. Як вядома, яны апублікаваны А. Рыпінскім паўтара стагоддзя назад у кнізе «Беларусь» (1840). У хрэстаматыі беларускай літаратуры XIX стагоддзя (1971) яны падаюцца як уласныя творы А. Рыпінскага. Праўда, у другім выданні хрэстаматыі (1988) у каментарыях з'явілася істотная агаворка са спасылкай на адзін з артыкулаў Р. Зямкевіча, што «Плач пакінутага каханай», магчыма, належыць Яну Аношку, а «За пенкнай паненкай…» напісана невядомым аўтарам з Дзісеншчыны не пазней 1820 года.

У другім выпуску зборніка «Шляхам гадоў» Я. Янушкевіч апублікаваў варыянт «Плачу…» пад арыгінальнай назвай «Канкурэнцыя пэўнага гайдука да прачкі». Верш выяўлены даследчыкам у рукапісным зборніку XVIII стагоддзя, які захоўваецца ў Галоўным архіве старажытных актаў у Варшаве. Гэтая знаходка яшчэ раз даводзіць, што аўтарам верша не мог быць Аляксандр Рыпінскі. Не мог па ўзросце, бо нарадзіўся ў 1811 годзе, калі верш ужо добра ведалі ва ўсіх кутках Беларусі. Што да аўтарства Францішка Рысінскага (храналагічна цалкам магчымага) і меркаванняў Зямкевіча, то тут патрэбны дадатковыя росшукі.

# ПАДЗОРНАЯ ТРУБА ЭМІЛІІ ПЛЯТЭР

Нашы даследчыкі (А. Мальдзіс, Г. Каханоўскі) пісалі пра беларускую фальклярыстку, легендарную гераіню паўстання 1831 года Эмілію Плятэр (1806–1831), пра яе незвычайны, яскравы лёс.

Паходзіла яна са старадаўняга графскага роду, які меў маёнткі і сваяцкія сувязі на сумежжы Беларусі, Латвіі і Літвы. На тагачасных імперскіх картах гэта Віцебская і Віленская губерні. Паводле ўспамінаў віцябляніна М. Маркса, у другой палове 20-х гадоў Эмілія не адзін раз прыязджала ў Віцебск, бывала ў іх доме, сябравала з ягонай маці. А Марксы ж былі вельмі сціплымі, небагатымі гараджанамі. Так што для магнацкай дачкі сяброўства з Марксамі — вельмі паказальная рыска. Эмілія наогул вылучалася выключным нарадалюбствам. Смела спускалася з наканаваных ёй самім паходжаннем арыстакратычных нябёс на грэшную зямлю. М. Маркс, які сам надзвычай цікавіўся беларускай культурай, ставіў Эмілію Плятэр у першы рад культурных дзеячаў на занядбанай ніве нашага народа, лічыў яе як бы прадвесніцай беларускага Адраджэння XIX стагоддзя. У сваіх успамінах ён з пашанай і здзіўленнем раздумваў аб таямнічай духоўнай повязі, якая ўзнікла раптам паміж арыстакраткай і гаротным народам. Самым верным компасам для Эміліі было яе чуйнае сэрца.

Вось сведчанне-роздум Маркса (часопіс «Lud» за 1906 год): «Першая яна, — бадай, я не памыляюся, — з запалам, уласцівым чулым і высакародным сэрцам, аддалася душою беларускаму люду, вывучала яго біду і спачувала ёй, стараючыся па магчымасці аблегчыць яе; збірала і спявала яго песні, шчодра плаціла за іх дастаўку і спрабавала пяро ў іх наследаванні. На фартэпіяна яна ўмела найвыразней перадаць і зухаватасць, і тугу народных матываў і нават тэмбр сапрана-жалейкі і баса-дуды». Віртуозна валодала Эмілія жанрам галашэнняў, захаплялася беларускай харэаграфіяй, сама па-майстэрску танцавала народныя танцы, надзвычай любіла «Лепятуху». Асабліва цікавае для нас паведамленне пра тое, што Эмілія і сама спрабавала пісаць па-беларуску. Выходзіць, гэта ці не першая наша паэтка. Гэтым ды і ўсім сваім энергічным характарам і тэмпераментам яна надзвычай нагадвае пазнейшую Цётку — Алаізу Пашкевіч. Як і Цётка, Эмілія Плятэр не стаяла ўбаку ад вызваленчага руху. Наадварот — смела ішла насустрач жыццёвым і палітычным бурам. Калі пачалося паўстанне 1831 года, адважная дзяўчына кінула ўсё — багацце, прывольнае жыццё, адразу ж арганізавала паўстанцкі атрад у паўночна-ўсходняй Літве, сумежнай з Беларуссю, удзельнічала ў многіх бітвах.

Ігнат Дамейка, паўстанец, знакаміты філамат, сябар Міцкевіча і Чачота, убачыў яе ўпершыню, калі яна са сваім атрадам далучылася ў Трокскім павеце да корпуса генерала Хлапоўскага. Як, мабыць, і іншым, незвычайная дзяўчына-паўстанка добра ўрэзалася яму ў памяць. Вось яго апісанне: «Плятаранцы можна было даць не болей за 24 гады. Невялічкая ростам, бледная, не прыгажуня, але з акруглым, прыемным, сімпатычным тварам, блакітнымі вачыма, стройнага, хоць і не моцнага складу. Была паважная, хутчэй суровая, чым свойская ў абыходжанні, малагаваркая і поглядам нібыта патрабавала да сябе належных адносін і прыстойнасці. Дый ніхто ў лагеры не дазволіў у яе прысутнасці кінуць якое недарэчнае слова, жарт або пагрушыць у ветлівым абыходжанні. На ёй быў шарачковы сурдут з чырвоным каўняром, а каля шыі карункавы каўнерык, што вельмі ёй пасавала. Невялікі мужчынскі ківер на галаве, валасы падрэзаны, шырокія, да зямлі шаравары, на поясе кінжал і невялікая шабля, сярэбраныя шпоры на боціках. Сціплая, без усякай ненатуральнай прэтэнзіі, зграбна трымалася на кані…»[147].

Ішла вайна, і ў Эміліі, як бачым, з'явіліся новыя рысы — стрыманасць, яна ўжо не кідалася, як колісь, танцаваць «Лепятуху». Яе прызналі. Нечуваная рэч — маладая жанчына была афіцыйна пастаўлена над бывалымі салдатамі, прызначана ганаровым камандзірам 1-й роты 25-га лінейнага палка паўстанцкай арміі, атрымала званне капітана. На жаль, яе яскравае жыццё вельмі рана абарвалася. Знясіленая няспыннымі паходамі, нялёгкімі і для загартаваных мужчын, яна цяжка захварэла і памерла ў снежні 1831 года, як бы сімвалізуючы сваёй смерцю і канец усяго паўстання. Яе імя ўвайшло ў легенды, па свежых слядах яна апета ў вядомым вершы А. Міцкевіча «Смерць палкоўніка» (як бачым, узнёслы паэт ад душы павысіў яе рангам), у шматлікіх творах іншых польскіх пісьменнікаў. У яе гонар названа адна з цэнтральных вуліц Варшавы.

Першую паэтку-гераіню ўспомніла-заўважыла сучасная беларуская муза (праз вякі-дзесяцігоддзі адбылася як бы зваротная сувязь). Свой верш Эміліі прысвяціла паэтэса Валянціна Аколава. Вобраз Плятэр збліжаецца тут з гераічным вобразам Каліноўскага:

Паўстанка піша вершы пры свячы:  
У плачах-галашэннях боль народа.  
О, як табе, сястра, дапамагчы,  
Калі ты з веку Каліноўскіх родам?

Паўстанка піша вершы пры свячы.  
Спіць маладзік на хвалях сініх Нёмна.  
І Беларусь прыгонная ўначы  
У белай світцы шлях праходзіць цёмны.

---

[147] Domeyko I. Moje podróże. T. 1. Wrocław — Warszawa — Kraków, 1962. S. 64.

У эпіграфе сумна інтрыгуе інфармацыя: «Ад яе твораў, на жаль, да нашчадкаў дайшлі толькі радкі…». У часопісным варыянце нават удакладнялася — «два радкі». Гэтыя радкі паводле тых жа ўспамінаў М. Маркса прывёў у свой час А. Мальдзіс у кнізе «Таямніцы старажытных сховішчаў» (1974).

А ці ўсё намі зроблена, каб адшукаць рукапісную спадчыну паэткі-змагаркі, дакументальна прасачыць лёс яе рукапісаў і кніг? Законнае пытанне.

Так або інакш мяне не маглі не зацікавіць архіўныя дакументы аб ёй, што трапляюцца час ад часу ў мінскім гістарычным архіве.

У 1833 годзе разбітыя паўстанцы, як вядома, зрабілі спробу вярнуцца з-за мяжы ў Польшчу, Літву, Беларусь, каб зноўку ўзняць сцяг паўстання супраць царызму (успомнім знакамітыя справы Заліўскага, Валовіча, жыццёвыя перыпетыі нашага земляка скульптара Генрыха Дмахоўскага). Тады ў перапісцы прадстаўнікоў царскай адміністрацыі зноў мільганула імя нашай гераіні (бо не ўсе ведалі яшчэ толкам пра яе лёс, улады па-ранейшаму лічылі яе небяспечнай). У жніўні таго ж 1833 года віленскі генерал-губернатар князь Далгарукаў паведаміў свайму калегу ў Віцебску князю Хаванскаму чутку, нібыта Эмілія Плятэр, жывая і здаровая, тайна прывезена з-за мяжы ў маёнтак графа Плятэра на Ковеншчыне Талюны. Казалі, што прывёз яе ў сваім экіпажы хітрамудры графскі ўпраўляючы дваранін Мінхгаўзен. Нягледзячы на пэўную літаратурнасць прозвішча (нібы саскочыў з кніжных старонак нястрымны нямецкі фантазёр), высветлілася, што такі ўпраўляючы сапраўды ёсць, але прывёз ён усяго толькі зямлячку Эміліі, юную дачку нейкага двараніна Нямчынскага з Дынабургскага павета. Адносна ж лёсу нашай гераіні той жа Далгарукаў паведаміў сабраныя звесткі, што да ўзяцця Варшавы (8 верасня 1831 г.) яна знаходзілася ў раёне Сейненскага абвода (акругі), «в разных местах у помещиков под названием Щавинской и потом в деревне Юстиново у г. Абломовича, будучи больна, объявила перед кончиною настоящее имя и умерла» (Ф. 1297. Воп. 1. Спр. 6873).

Перапіска аб ёй вялася віцебскімі ўстановамі і пасля не адзін дзясятак гадоў, бо царскія ўлады старанна расшуквалі яе маёмасць для канфіскацыі і перадачы ў казну. Гартаем справу Віцебскага губернскага праўлення 1849–1850 гадоў «О уроженцах здешней губернии, прикосновенных к б. Польскому мятежу» (Ф. 1416. Воп. 1. Спр. 821). На адпаведнае запытанне шэфа жандараў з Пецярбурга адзін з чыноўнікаў-столаначальнікаў губернскага праўлення паведаміў:

«Из имеющихся в 3 столе 1 отделения дел видно, что из уроженцев Витебской губернии оказались прикосновенными к бывшему Польскому Мятежу следующие лица: дочь графа Ксаверия Платера девица Эмилия Платер, унтер-офицер Александр Зброжко, граф Людвиг Платер и помещик Казимир Корсак, из коих лиц Эмилия Платер (умершая) за участие в мятеже по постановлению Виленского губернского правления, состоявшемуся в 24 день октября 1835 года, утвержденному виленским военным губернатором генерал-адъютантом князем Долгоруким, причислена ко второму разряду государственных преступников, а принадлежащие ей всякого рода имения и денежные капиталы конфисковать в казну, о которых производится в настоящее время в правлении переписка, самого же наказания для девицы Платер не определено, ибо до вынесения о ней приговора умерла…»

Справа «Об имуществе мятежницы помещицы Емилии Платер и о притязании на него Дионисия Молля, дяди мятежницы, в пользу его детей» (Воп. 2. Спр. 8983) цягнулася з 1839 да 1849 года.

З яе дакументаў даведваемся, што Эміліна маці Ганна паходзіла са знатнага роду Моляў, памерла яшчэ напярэдадні паўстання. Бацька Ксаверый Плятэр памёр у 1840-я гады. Бацькі ўвесь час паміж сабой не ладзілі і жылі асобна. Гэта давала Эміліі пэўную свабоду. Блізкімі для Эміліі людзьмі, калі браць, прынамсі, чыста сваяцкія адносіны, быў дзядзька Дыянісій Моль, уладальнік маёнткаў Падгур'е і Літоўнікі ў Дынабургскім павеце Віцебскай губерні і Імброды ў Новааляксандраўскім павеце Ковенскай (да 1843 года Віленскай) губерні, а таксама ўладальніца маёнтка Антузава ў тым жа Новааляксандраўскім павеце графіня Плятэр.

Маёмасныя справы вельмі заблытаныя. З дакументаў можна зразумець, што частка Літоўнікаў — праз маці — лічылася Эмілінай спадчынай і на гэтую долю прэтэндавала казна. Да таго ж дзядзька Дыянісій узяў на захаванне частку асабістай маёмасці бунтаркі-пляменніцы. Асабліва нас цікавяць цяпер кнігі і рукапісы, што належалі Эміліі. Усе тыя рэчы, якія памагаюць узнавіць духоўны воблік гераіні. У справе гаворыцца: «…помянутой мятежнице Эмилии Платер принадлежала значительная движимость и библиотека, которая оценена в 2009 р. 91 к. ас[сигнациями] и по описи отдана в сохранение 8 октября 1833 года под расписку Дионисию Моллю, который обязался на всякое востребование доставить таковые вещи в целости, а в противном случае вознаградить за убыток из собственного имущества».

Віцебская казённая палата прасіла губернскае праўленне, каб «вещи и книги мятежницы Платер, находящиеся у Молля… первые распорядилось продать, а деньги обратить в казну, а последние передать училищному ведомству».

Апрача таго, свае ўласныя росшукі, як нейкі сапраўдны сышчык-дэтэктыў, вёў бацька, які склаў рэестр рэчаў Эміліі, пакінутых ёю ў розных

месцах перад тым, як пайсці ў паўстанне. У прыватнасці, на мызе Антузава ў Новааляксандраўскім павеце павінны былі захоўвацца алмазныя завушніцы маці Эміліі — бацькаў падарунак да вяселля ў 1804 годзе коштам 180 залатых чырвонцаў. Тамсама ж, лічыў Ксаверый Плятэр, трэба шукаць і набытае адначасова серабро да туалету — люстэрка, «секретер с чернильницей, песочником и подсвечником». Уладальніца маёнтка сцвярджала, што ўсё гэта ў свой час было схавана пад вадой у мясцовым возеры і пасля не знойдзена. У Антузаве захоўваўся таксама партрэт Эмілінай маці Ганны. І яшчэ, што асабліва цікава для нас: «Большое количество книг и музыческих нот важных, драгоценных…».

У Імбродах, паводле гэтага рэестра, знаходзіўся «магониевый флигель» (раяль чырвонага дрэва) і багатая нотная калекцыя Эміліі: «Самоважнейшие музычные бумаги к игранию, равно пению, из коих я ничего не принял, а на 33-й странице описи показано под заглавием Итог к игранию и пению нот а) Книг переплетенных NB: выскоблено сколько. b) Писанных тетрадей 9. с) Печатных таковых выскоблено сколько. d) Нот на 4 и 3 руки 60. е) Акомпанементов к тому 5 штук, а всего 81 штука. Следовательно, оказывается, что переплетенных книг и печатных было 7, под заглавием же Итог — нот к пению 30 штук». Шкада — апісанне занадта сумарнае. Трэба думаць, што сярод гэтых матэрыялаў былі і беларускія музычныя запісы.

Цытуем далей скрупулёзны бацькаў рэестр:

«В местечке Краславке Витебской губернии на квартире у дворянки Марии Молль:

Портрет дочери моей Емилии масляною краскою выписан и при том, вероятно, множество других предметов, мне неизвестных.

В городе Динабурге у состоящего в тамошней городской полиции канцеляристы Августина Богдановского. Находится у него неизвестно по какому поводу:

1-е. Новое женское седло и к тому принадлежащая старая попона с вышитым на оной гербом фамилии Платеров.

2-е. Большая подзорная с желтой меди труба».

Падзорная труба, сядло… Здаецца, не самыя жаночыя рэчы… Мы нібыта вяртаемся ў той час, калі свавольніца Эмілія нястомна і мэтанакіравана рыхтавала сябе да подзвігаў у гонар свабоды і айчыны.

З дакументаў відаць, што дзяўчына пачала свой нялёгкі шлях паўстанкі вясной 1831 года. Перад гэтым яна даволі доўга жыла ў двары Дусятах непадалёк ад Антузава і Імбродаў. Бацька лічыў, што там таксама захоўваюцца яе рэчы.

Праўда, людзі, якіх згадваў Ксаверый Плятэр, як маглі адгаворваліся, выкручваліся. Прычыны маглі быць самыя розныя: хто не сімпатызаваў бацьку і яго вышукным захадам, а хто (на жаль, бывае на свеце і такое) не супраць быў пагрэць рукі каля чужой бяды. Ужо ўспомнены дынабургскі канцылярыст Адольф (так!) Багданоўскі, напрыклад, рашуча заявіў, што ніякіх рэчаў Эміліі Плятэр у яго няма і ніколі не было, «да и самую мятежницу Платер от роду моей жизни не видал и с нею никакого сношения не имел». Партрэт Эміліі з Краслаўкі нібыта быў адасланы бацьку ў 1839 годзе.

Частка рэчаў, мяркуючы па дакументах, была рэалізавана ў інтарэсах казны. Напрыклад, «панталион» (фартэпіяна) з Імбродаў у 1840 годзе прададзены з публічных таргоў памешчыку Бутлеру за 40 рублёў 74 $^{1}/_{2}$ капеек серабром, грошы адасланы ў казну. Карэту і сані, якія засталіся ў бацькі, прадалі ў Дынабургу ўсяго за 11 рублёў 39 капеек.

Пралятаў год за годам. Справа то зусім замірала, то атрымлівала новыя імпульсы. У 1858 годзе перапіска ажывілася зноў (Спр. 11186) — сенат крыху знізіў суму, якую належала спагнаць з Моля за маёмасць Эміліі Плятэр…

Праз старыя дакументы мы дакранаемся да вытокаў нашай літаратуры і фалькларыстыкі.

## «ПАНАМАНІЯ, альбо ХВАРОБА НА ПАНСТВА...»

У Санкт-Пецярбургу, у Цэнтральным гістарычным архіве, сярод мноства іншых неацэнных пісьмовых скарбаў мінулага захоўваецца цікавы дакумент — водзыў прафесара Ізмаіла Іванавіча Сразнеўскага ад 14 лютага 1858 года на некаторыя выданні і творы, накіраваныя яму на прагляд Пецярбургскім цэнзурным камітэтам. Як шырокавядомы лінгвіст, знаўца моў, асабліва славянскіх, ён нярэдка прыцягваўся цэнзурай для адпаведных кансультацый. Яго важкае слова вельмі высока цанілася не толькі ў навуковых, але ў бюракратычных сферах. Тым больш што чыноўную субардынацыю ён куды як прызнаваў і сварыцца з моцнымі свету гэтага пазбягаў.

Гэты раз ён адным заходам разгледзеў чэшскі часопіс «Кругагляд», рукапіс на беларускай гаворцы (так у дакуменце) «Панаманія» і венгерскі «Спеўнік».

Добрапрыстойны часопіс сумненняў не выклікаў. На думку Сразнеўскага, гэта «зборнік вельмі добрых вучона-літаратурных артыкулаў, высакародна сціплых па накірунку». Адчуваецца, з якой прыемнасцю гэта сказана. Часопіс адпавядаў ліберальнаму настрою самога прафесара. Не меў ён нічога і супраць выдадзенага ў далёкім Пешце «Спеўніка»,

хоць і прызнаўся, што ў венгерскай не дужа моцны. А вось беларускі рукапіс прымусіў прызадумацца. Па-першае, сама мова. Ён прызнаваў вялікую каштоўнасць беларускай мовы для навукі, але ў адрозненне ад іншых вучоных, сваіх сучаснікаў (Шафарыка, Бадзянскага), лічыў яе ўсяго толькі дыялектам, няхай самабытным, каларытным, але дыялектам, гаворкай. Дый пішуць на ёй, гэтай мове-гаворцы, усё нешта злое, калючае. Вось і ў гэтай «Панаманіі» зноў моцна даставалася панам. Няхай сабе і польскім, а ўсё-такі. Прафесар ніяк не мог гэтага прапусціць. Хоць, з іншага боку, як вучонаму гартаць рукапіс, успамінаць даўнія спрэчкі з калегамі-славістамі яму было цікава…

Нарэшце водзыў атрымаўся такі:

«Беларускі сатырычны верш “Панаманія” пісаны з мэтаю паказаць з кепскага боку польскіх паноў, асабліва ў адносінах да шляхціцаў і мужыкоў, і прыніжанае, вартае жалю становішча гэтых апошніх. Нельга нават, здаецца, сказаць, што аўтар кіраваўся любоўю да праўды: сям-там як быццам пракідаецца злосць. Пана вучаць быццам бы, “каб умеў добра мужыка кадучыць” (катаваць. — *Г. К.*); дзецям увесь час паўтараюць, што і мужыкі і шляхціцы — адрынутай пароды і г. д., а між тым паны падобныя на чарцей, гаворыць аўтар: бязбожнікі, распуснікі. Рэзкія мясціны я пазначыў алоўкам».

Камітэт належным чынам зразумеў шаноўнага прафесара. Насупраць гэтага абзаца на дакладной запісцы Сразнеўскага з’явілася паметка: «Вярнуць без ухвалы». Унізе праект рэзалюцыі: «Рукапіс выдаць, без ухвалы, падаўцу».

Дакумент гэты быў вядомы беларускаму літаратуразнаўству досыць даўно. Ён цытаваўся ў акадэмічнай «Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры» (1969), а пасля ў поўным выглядзе публікаваўся ў зборніку «Пачынальнікі». Да апошняга часу гэта было адзінае сведчанне пра існаванне беларускага сатырычнага верша «Панаманія». Лёс сатыры быў вырашаны цэнзурай безагаворачна, у друк яна не трапіла, а сам рукапіс, відаць, недзе загінуў. У кожным разе ніякіх дадатковых звестак пра верш, а тым больш якіх-небудзь дадзеных пра яго аўтара нідзе не сустракалася. А адшукаць такія звесткі пажадана, таму што твораў беларускай літаратуры за гэты перыяд наогул нямнога, а тут мы да таго ж маем справу, відавочна, з вершам-сатырай дэмакратычнага, антыпрыгонніцкага напрамку.

Будучы ў Санкт-Пецярбургу, я паставіў перад сабой задачу высветліць, прынамсі, хто падаў гэты рукапіс у цэнзуру. Дакладней, паспрабаваць гэта зрабіць. Быць не можа, каб не засталося нейкіх слядоў. Цэнзурны ж камітэт — сур’ёзная дзяржаўная ўстанова, дзе павінны былі весціся розныя рэгістрацыйныя кнігі, канцылярскія журналы і г. д.



Сапраўды, удалося знайсці ў архіве ладны па памерах справаводчы фаліянт — так званы рэестр рукапісаў і кніг, што паступілі ў Пецярбургскі цэнзурны камітэт у 1858 годзе (Ф. 777. Воп. 27. Спр. 218). Хуценька яго праглядваю. На адвароце ліста 20-га і 21-м лісце мільганула знаёмая назва. Запіс за нумарам 111 ад 29 студзеня канстатаваў: паступіў рукапіс (далей загаловак лацінкай) «Панаманія, альбо Хвароба на Панства і Праграма на пана. Гутарка праз Апанаса» (у рэестры нават напісана «праз Ананаса», але гэта, відавочна, памылка канцылярыста, які не ведаў беларускай мовы). Далей адзнакі, ад каго атрымана і пра далейшы шлях рукапісу: «Ад п. Пшыбароўскага. Студзеня 29 (выходзіць, у той жа дзень. — *Г. К.*) да прафесара Сразнеўскага. Вернута [Сразнеўскім] без ухвалы 20 лютага». Нарэшце, паметка пра выдачу: «Сакавіка 11. Атрымаў Пшыбароўскі».

Цяпер мы ведаем, такім чынам, поўную назву згубленай вершаванай гутаркі мінулага стагоддзя, псеўданім аўтара (калі «Апанас» лічыць псеўданімам), ведаем, што рукапіс пададзены ў цэнзуру нейкім Пшыбароўскім. Такое прозвішча ў гісторыі беларускай літаратуры невядомае[148]. Няўжо адкрыта новае імя?.. А можа, перад намі не аўтар, толькі пасрэднік, які занёс твор у цэнзуру па просьбе аўтара? У адным з артыкулаў, звязаным з атрыбуцыяй (вызначэннем аўтарства) літаратурных твораў (Рус. литература. 1984. № 3. С. 153), чытаем: «…у той час вельмі часта рукапісы твораў падаваліся ў цэнзуру не самімі аўтарамі, а пабочнымі асобамі (карэктарамі, кнігарамі, купцамі, мяшчанамі, камісіянерамі, капіістамі, канцылярыстамі, фактарамі, г. зн. утрымальнікамі друкарняў і г. д.). І гэта рабілася галоўным чынам таму, што так было па нейкіх прычынах аўтару зручней (напрыклад, або аўтару не было калі, або ён знаходзіўся ў ад’ездзе, або наогул жыў у іншым горадзе і прыслаў рукапіс твора даверанай асобе для перадачы ў цэнзурны камітэт)». З біяграфіі Л. Талстога вядома, што ў 1851 годзе, ад’язджаючы на Каўказ, ён прасіў знаёмага Ферзена падаць у цэнзуру першую сваю аповесць «Гісторыя майго дзяцінства». Нейкае пасрэдніцтва магло быць і ў нашым выпадку. Не выключана, аднак, што сам аўтар-беларус пры рэгістрацыі рукапісу назваўся іншым, не сваім імем у сувязі з вострым характарам твора. Так або інакш, але гэта ўжо нітачка для далейшых пошукаў.

Псеўданім Апанас сярэдзіны XIX стагоддзя ў слоўніку Янкі Саламевіча не адзначаны, хоць там ёсць такі псеўданім нашаніўскага перыяду. У 1861 годзе выдаў у Магілёве сваю добранамерную «Бяседу старога вольніка з новымі пра іхняе дзела» нейкі Апанас Кісель

[148] Нейкі Юзаф Пшыбароўскі надрукаваў у 1859 г. вучоны артыкул у віленскім зборніку А. Кіркора.

(магчыма, таксама псеўданім), але, відаць, яго не варта атаясамліваць з аўтарам «Панаманіі», бо апошні карыстаўся лацінкай і належаў да іншага грамадскага лагера.

У 1858 годзе ў Пецярбургу жыў і вучыўся, рыхтаваўся да свайго імклівага ўзлёту беларускі рэвалюцыянер і пісьменнік Кастусь Каліноўскі. Магчыма, «Панаманія» выйшла са студэнцкага асяроддзя, блізкага да Каліноўскага.

Загадку «Панаманіі» раскрыюць далейшыя пошукі.

## РЭПРЭСАВАНЫ «ПАН ТАДЭВУШ» — КОЛЬКІ ЗАСТАЛОСЯ ЭКЗЭМПЛЯРАЎ?

У цікавай кніжцы польскай даследчыцы Малгажаты Штольцман «Ніколі ад цябе, горад…»[149] (1987) пра культуру Вільні ў перыяд паміж паўстаннямі 1831 і 1863 гадоў пара старонак адведзена і Дуніну-Марцінкевічу. І не дзіўна: Вільня заўжды была асяродкам беларускай культуры, вельмі рухавы Навум Прыгаворка часта наязджаў у горад Гедзіміна, выдаваў там свае творы, сустракаўся з сябрамі. У 1859 годзе тут павінен быў выйсці яго пераклад міцкевічаўскага «Пана Тадэвуша», кніга была ўжо набрана і зброшуравана, але ў апошні момант цэнзура забараніла яе, і ўвесь тыраж пайшоў пад нож. І ўсё ж некалькі экзэмпляраў удалося вынесці і выратаваць. Але колькі менавіта? І колькі з іх дайшло да нашага часу? Штольцман у сваёй кнізе сцвярджае: «Адзіны ацалелы паасобнік знішчанага выдання мае цяпер Ягелонская бібліятэка ў Кракаве…» Такая ж думка сустракаецца часам і ў нашых даследчыкаў.

Сапраўды, беларускі «Пан Тадэвуш» у Кракаве ёсць. Дарэчы, не лепшы экзэмпляр — без тытульнага ліста.

У свой час звесткі аб ім падаў нястомны працаўнік польскай кнігі, славуты бібліёграф К. Эстрайхер, які якраз быў дырэктарам Ягелонскай бібліятэкі. У 1893 годзе гэты паасобнік (дарэчы, у адным канвалюце з «Люцынкай» Дуніна-Марцінкевіча) зрабіў падарожжа з Кракава ў Пецярбург. Сталася гэта па просьбе Б. Эпімах-Шыпілы, які надзвычай акуратна скапіраваў (сваёй рукой перапісаў літара ў літару) рэдкае выданне і з падзякай вярнуў арыгінал у Кракаў.

Паводле гэтай копіі пераклад Дуніна-Марцінкевіча быў перавыдадзены ў 1907–1908 гадах выдавецтвам «Загляне сонца і ў наша ваконца», адным з кіраўнікоў якога быў Эпімах-Шыпіла. У характэрнай кароценькай прадмове выдаўцы пісалі:

[149] У загалоўку скарыстаны словы паэта Ч. Мілаша, нобелеўскага лаўрэата, ураджэнца Віленшчыны.



«Вось пускаем у свет шырокі дзве першыя былiцы “Пана Тадэвуша”, пераложаныя на нашу мову. Цяжкая выпала доля гэтай кнізе. Убачыла яна свет божы ў 1859 гаду. На грошы, што шмат людзёў зложылі, а паміж іх былі і мужычкі, пачалі яе друкаваць у Вільні з дазвалення тагдышняга цэнзара Кукальніка. Трэба ж, што акуратне, як толькі скончылі друкаваць дзве першыя былiцы, на месца Кукальніка назначылі новага — некага Мухіна. Той вельмі строгі ўдаўся і зразу прысудзіў “Пана Тадэвуша” ў свет не пусціць. Так і не паспелі гэтыя былiцы ўзірнуцца на свет той ясны: іх арыштавалі і спалілі. Асталіся цэлымі толькі дзветры кніжкі. З аднае, што хаваецца ў кніжніцы Кракаўскага ўніверсітэту, мы і перадрукавалі гэтае выданне.

Няхай жа ідзе гэта кніга прамеж людзёў, няхай пакажа, што і ў нашай мове можна выгаварыць вялікія думкі, даці прыгожыя і слаўныя абразы».

Можна ўдакладняць акалічнасці забароны «Пана Тадэвуша» 1859 года (галоўнае тут усё ж, мабыць, не персанальныя якасці цэнзараў, а зігзагі імперскай цэнзурнай палітыкі), але перавыданне 1907–1908 гадоў замацавала славу менавіта кракаўскага паасобніка.

Між тым існаваў пецярбургскі экзэмпляр першавыдання беларускага «Пана Тадэвуша» — у знакамітай Публічнай бібліятэцы, дзе працавалі ў свой час над старымі рукапісамі браты Каліноўскія. У 1940 годзе яго апісаў малады даследчык І. Кузьмін у лімаўскай публікацыі пад характэрным загалоўкам «Выключна рэдкая кніга». (Дарэчы, тады ж Кузьмін надрукаваў і цікавы артыкул пра Ф. Багушэвіча; іншых яго прац я не ведаю — мабыць, загінуў у вайну.)

Пасля вайны кракаўскі экзэмпляр зноў патрымаў у руках і сфатаграфаваў для ілюстрацыі беларускі даследчык у Польшчы Мацей Канапацкі, змясціўшы адпаведную інфармацыю ў беластоцкай «Ніве» (1962).

Кракаў, Пецярбург… Паважныя, але далёкія асяродкі. А што ж Вільня, дзе гэтае выданне рыхтавалася? Хіба кніжкі няма на радзіме? Як аказалася, беларускі «Пан Тадэвуш» 1859 года ёсць і ў Вільнюсе, у аддзеле рэдкай кнігі Цэнтральнай бібліятэкі АН Літвы. Мяркуючы па штампе, у 1930-я гады гэты паасобнік знаходзіўся ў бібліятэцы Беларускага навуковага таварыства ў Вільні і, відаць, трапіў у акадэмічную бібліятэку пасля вайны пры расфарміраванні Беларускага музея. Паводле вільнюскага экзэмпляра ахарактарызаваў гэтае выданне І. Крамко ў «Гісторыі беларускай літаратурнай мовы» (1968), праўда, не назваўшы яго адрас. Гэтым жа паасобнікам карыстаўся Я. Янушкевіч пры падрыхтоўцы «Твораў» Дуніна-Марцінкевіча 1984 года, адпаведныя звесткі прыведзены ў артыкуле даследчыка «Прыбраны ў мужыцкую сярмягу» (Маладосць. 1984. № 12).

Гісторыю выратаваных ад знішчэння экзэмпляраў беларускага «Пана Тадэвуша» я паспрабаваў раскрыць у кнізе «Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча» (1988). Я налічыў тады тры ацалелыя паасобнікі.

І раптам высветлілася, што гэтыя звесткі няпоўныя.

Неяк пераглядаў бібліяграфічную картатэку Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы, створаную пад кіраўніцтвам А. Мальдзіса для капітальнага біябібліяграфічнага слоўніка беларускіх пісьменнікаў, і нечакана натрапіў на звесткі пра яшчэ адзін экзэмпляр славутага перакладу. Звычайная, можна сказаць, несамавітая бібліяграфічная картка, запоўненая характэрным ломкім хуткім почыркам самога Адама Іосіфавіча, засведчыла, што беларускі «Пан Тадэвуш» прытаіўся таксама ў Рэспубліканскай бібліятэцы Літвы. Паколькі заняты іншымі клопатамі Мальдзіс неяк не надаў гэтай сенсацыі значэння (мабыць, такіх бібліяграфічных сенсацый падчас падрыхтоўкі слоўніка было шмат), я з яго блаславення ў першую ж камандзіроўку ў Вільнюс агледзеў гэтае выданне.

Манументальны, урачысты будынак былой Рэспубліканскай бібліятэкі ў цэнтры горада якраз побач з парламентам, месцам нядаўніх палітычных бураў. Цяпер гэта Нацыянальная бібліятэка імя Марцінаса Мажвідаса, названая ў гонар выдаўца першай літоўскай кнігі, малодшага сучасніка Ф. Скарыны. Аддзел літуаністыкі збірае не толькі чыста літоўскія выданні, але і наогул усе старыя друкі, якія з'ўляліся на тэрыторыі Літвы.

У каталогу ёсць спецыяльная скрыня для беларускіх выданняў. Наш «Тадэвуш» значыцца там пад № $\frac{\text{B balt. 1}}{859}$.

Кніжка добра захавалася, калі не лічыць амаль адарванага пераплёту, але гэта для бібліяфілаў не праблема. Галоўнае — тэкст.

Па ўсім відаць, кніга карысталася папулярнасцю, не заставалася без чытачоў. На форзацы, пільна прыгледзеўшыся, можна разабраць напаўсцёрты, яшчэ дарэвалюцыйны надпіс алоўкам: «Какъ прочитаешь, то прошу обратно». Чатыры дзесяцігоддзі (1859–1899), здаецца, не пакінулі на кніжцы іншых бачных слядоў. Датаваная гісторыя кніжкі, яе бытавання пачынаецца з дарчага надпісу чорным чарнілам на шмуцтытуле па-польску: «У бібліятэку Ковенскага (?) рымска-каталіцкага семінарыума ў 1899 годзе ахвяруе кс. Паўлоўскі». Хто гэты святар, сучаснік Багушэвіча, мы пакуль не ведаем. Але кніжка заняла тады сваё месца ў кніжніцы Ковенскай (Жамойцкай) семінарыі.

На тытуле ліловая авальная пячатка бібліятэкі Самагіцкай семінарыі (Самагіція — лацінская назва Жамойці-Жэмайціі). Аб такой жа прыналежнасці сведчыць і друкаваная наклейка на адвароце пераплёту з тэкстам на латыні:



E. BIBLIOTHEKA
SEMINARII SAMOGITIENSIS
ARMAR[150] 29B
№ 65

На адвароце тытульнага ліста вялікая прамавугольная пячатка больш позняга часу з надпісам па-літоўску: «Інвентар метрапольнай духоўнай семінарыі (літаральна — семінарыі ксяндзоў. — *Г. К.*), № 10904» і круглая — Рэспубліканскай бібліятэкі.

Такім чынам, у канцы XIX стагоддзя кніга належала асвечанаму ксяндзу, які падарыў яе ў семінарскую бібліятэку. Кніжка захоўвалася ў бібліятэцы Каўнаскай каталіцкай семінарыі, потым разам з іншымі яе рарытэтамі трапіла ў Рэспубліканскую бібліятэку Літвы, якая да 1963 года знаходзілася ў Каўнасе.

Выходзіць, кніга мела сваіх шанавальнікаў і ў літоўскім асяроддзі. Гэта для нас не навіна. Нагадаем, што яшчэ ў 1861 годзе з перакладам Дуніна-Марцінкевіча пазнаёміўся літоўскі пісьменнік-асветнік Мікалоюс Акялайціс, напісаў прыхільную рэцэнзію, якая таксама не здолела прабіцца ў друк. Дарэчы, не выключана, што мы маем якраз справу з экзэмплярам Акялайціса. Хаця не — на тым паасобніку, бадай, штонебудзь накрэсліў бы, пакінуў бы свой прыязны аўтограф сам перакладчык, які досыць блізка ведаў Акялайціса.

…На развітанне яшчэ раз гартаю рэдкую кнігу — калі яшчэ прыйдзецца ўзяць яе ў рукі. Што прыцягвае асаблівую ўвагу? Несумненныя поспехі беларускага кнігадрукавання. Беларуская кніжка ўсё больш упэўнена патрабавала сабе месца пад сонцам. Нават тытульны ліст у яе аформлены па-беларуску. І «талкаванні» — дарэчы, надзвычай цікавыя — таксама беларускія. Як зазначыў яшчэ І. Крамко, гэта ці не першы такі выпадак у XIX стагоддзі. Праўда, невялікая прадмова і зусім маленькая — у некалькі сказаў — інструкцыя, як чытаць, — усё ж пакуль што па-польску. Цікавая графічная сістэма: для «ў» ужывалася курсіўнае «у», расстаўлены націскі, не абыдзена нават імя аўтара — Ада́м (не А́дам, як вымаўлялася па-польску) Міцке́віч. У канцы на чатырох старонках — спіс падпісчыкаў (сапраўды, ёсць і сяляне-«мужычкі»), які завяршаецца нечакана шматзначнымі словамі — абяцанкай: «Dalszy ciąg nastąpi» (працяг будзе). Вялікім аптымістам быў наш Навум Прыгаворка! Гэтага працягу Беларусі давялося чакаць паўстагоддзя — да другога выдання кнігі. Дзве першыя песні-быліцы нарэшце дайшлі да чытача. А пераклад астатніх песень так і прапаў.

Такім чынам, сёння вядомы ўжо чатыры (хочацца сказаць — ажно чатыры) паасобнікі рэпрэсаванага ў 1859 годзе «Пана Тадэвуша».

[150] Шафа.

І ўсё ж гэта на сённяшні дзень адна з самых рэдкіх беларускіх кніг. Нават многіх выданняў вялікага першадрукара Скарыны — праз усю неймаверную далячынь часу — дайшло болей.

## ПЕРШЫ ПЕРАКЛАДЧЫК КРЫЛОВА

Вельмі карысна даследчыку знаёміцца з разнастайнымі даведнікамі, якія выпускаюцца раз-пораз навуковымі бібліятэкамі і архівамі. Часам гэта ратапрынтныя выданні з вельмі абмежаваным тыражом.

У 1978–1979 гг. супрацоўнікі рукапіснага аддзела Публічнай бібліятэкі імя Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе (тады яшчэ — Ленінградзе) выдалі анатаваны каталог «Описание архива Литературного фонда». Галоўная яго частка — паказальнік асоб, што ў розныя часы звярталіся ў Літфонд па дапамогу. Праглядаючы яго, знайшоў такія радкі: «Монкевич Иван Осипович, переводчик басни Крылова “Демьянова уха” на белорусский язык». Далей ішла спасылка на адпаведныя старонкі журнала паседжанняў камітэта Літфонду 1859–1864 гадоў. Манкевіч?.. Гэта ж зусім новае імя забытага беларускага пісьменніка-перакладчыка часоў Дуніна-Марцінкевіча і загадкавага «Тараса на Парнасе». Вядома, што Крылова на беларускую мову перакладалі ў канцы мінулага стагоддзя А. Абуховіч, Ф. Багушэвіч, услед за імі М. Косіч. І вось, аказваецца, пераўвасабленні рабіліся ўжо значна раней. Захацелася пайсці па гэтым следзе.

Найперш два словы пра сам Літфонд. Яго мэты раскрывае поўная назва — «Таварыства для дапамогі бедным літаратарам і вучоным». Утварылася гэтая культурна-дабрачынная арганізацыя ў 1859 годзе па ініцыятыве перадавой грамадскасці. Вядома фатаграфія гэтага часу, на ёй — першы камітэт Літфонду. У цэнтры — у залатых эпалетах — сядзіць старшыня — бравы генерал Ягор Пятровіч Кавалеўскі, брат тагачаснага міністра народнай асветы, прагрэсіўны дзеяч (Цютчаў сказаў пра яго: «Он на Руси был светлый человек»). Пазнаём каларытную масіўную постаць Тургенева, за ім — нібыта ў цяні — Чарнышэўскі. Злева ў профіль — рукі за спіной — стаіць наш зямляк з Віцебска, уплывовы крытык Сцяпан Сямёнавіч Дудышкін, справа — сакратар камітэта гісторык літаратуры Аляксей Дзмітрыевіч Галахаў. І яшчэ многія іншыя вядомыя тагачасныя літаратары і грамадскія дзеячы.

Па нашай просьбе Публічная бібліятэка прыслала фотакопію старонак з архіва Літфонду, дзе размова ідзе пра Манкевіча. Тэкст вельмі кароткі. 23 снежня 1860 года камітэт разгледзеў:

«Письмо к А. Д. Галахову от Ивана Осиповича Монкевича (в Старом Быхове, Могилевской губернии) с приложением перевода басни Крылова “Демьянова уха” на белорусское наречие. Г. Монкевич просит выслать ему 25 рублей на напечатание этого перевода».



За земляка мог заступіцца, падтрымаць Дудышкін, але як там было ў сапраўднасці, мы не ведаем (працэс абгаварэння не фіксаваўся). Вынікі ж аказаліся для Манкевіча неспрыяльныя. Пастанавілі: «Отказать на основании того, что средства Общества не дозволяют ему приступить к изданию сочинений».

Выходзіць, не знайшлося гэты раз у Літфондзе «четвертной» на добрую справу. (Дарэчы, як уяўляў сабе Манкевіч надрукаванне перакладу? Відаць, асобнай брашурай, бо інакш навошта грошы?)

Само пісьмо Манкевіча і тэкст перакладу пакуль што не выяўлены.

Мы паспрабавалі ўстанавіць асобу перакладчыка Івана Восіпавіча Манкевіча, які жыў у 1860 годзе ў Старым Быхаве (так называўся некалі сённяшні Быхаў). Не вельмі гэта проста. Спачатку высветлілася толькі, што Манкевічы даволі пашыранае шляхецкае прозвішча на Магілёўшчыне, у тым ліку ў былым Быхаўскім павеце. У «Памятной книжке Могилевской губернии» на 1863 год ёсць два Манкевічы, абодва з Быхаўшчыны. Штабс-капітан Канстанцін Пятровіч Манкевіч лічыўся засядацелем ад дваранства ў Быхаўскім павятовым судзе, Манкевіч Аўгуст Фаміч — калежскі рэгістратар — быў дэпутатам ад быхаўскага дваранства ў губернскай дэпутацкай зборні. З архіўных спраў мінскага гістарычнага архіва даведваемся, што згаданы Канстанцін Манкевіч разам з братам Аляксандрам валодаў паблізу Быхава адносна невялікім маёнткам Камарычы, закладзеным у Пецярбургскай «сохранной казне». Аўгуст Фаміч Манкевіч быў, відаць, багацейшы, меў маёнткі ў Быхаўскім і Чэрыкаўскім паветах. У 1863 годзе падазраваўся ў сувязях з паўстанцамі мясцовага атрада Анцыпы, знаходзіўся пад арыштам, праўда, у даволі лагодных умовах — ва ўласнай кватэры ў Магілёве. Пры вобыску ў яго маёнтку Закупленне (паблізу ад Чачэвічаў) знайшлі шмат замежных бесцэнзурных кніг, «вершы і гімны бунтоўнага зместу» (ні саміх твораў, ні іх спісаў няма). Беларускі пісьменнік-перакладчык Іван Восіпавіч Манкевіч мог быць нейкім бедным сваяком уладальнікаў Камарычаў і Закуплення.

Гісторык Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі Сяргей Цытовіч у сваім вядомым грунтоўным даследаванні «1863 год у Горы-Горках» (1929; яго варта было б перавыдаць) называе яшчэ аднаго ўдзельніка паўстання 1863 года — Манкевіча — нават з ліку кіраўнікоў. Цытуем працу вучонага: «Папярэдняй падрыхтоўкай і арганізацыяй магілёўскіх паўстанцаў, якія далучыліся да паўстання ў Горках, ведалі: член Магілёўскага камітэта М. Аскерка (доктар, пасля расстраляны. — *Г. К.*), сакратар Магілёўскай крымінальнай палаты Галіноўскі і Манкевіч. Апошні, паходзячы з Рагачоўскага павета Магілёўскай губерні,

у 1861 годзе пачаў службу ў Вільні ў кнігарні Аргельбранта, а потым служыў у рэдакцыі “Виленского вестника”. У пачатку паўстання 1863 года ён прыбыў у Магілёў, дзе 2 мая арыштаваны як агент Цэнтральнага Камітэта. У паследку Манкевіч на судзе адважна бараніў ідэі паўстання»[151]. Звесткі, як бачым, вельмі цікавыя. Вось толькі Цытовіч, на вялікі жаль, не называе імя гэтага Манкевіча. Спасылаецца ён на дакументы былога магілёўскага гістарычнага архіва, якія, хутчэй за ўсё, не захаваліся. Некаторыя дэталі — служба ў кнігарні і рэдакцыі газеты Кіркора — наводзілі на думку, што гэта якраз мог быць наш перакладчык.

Яшчэ больш упэўніўся я ў гэтым, звярнуўшыся ў тэматычны каталог архіва. Аказалася, архівісты зафіксавалі ў сваёй картатэцы ўдзельніка паўстання 1863 года Івана Іосіфавіча Манкевіча. Гэтае прозвішча трапіла ў даведачную картатэку з вельмі цікавага дакумента — спіса магілёўскіх палітычных вязняў перыяду паўстання (Ф. 3255. Воп. 1. Спр. 2). Назва ў яго доўгая: «Список всем вообще политическим преступникам, доставленным из разных мест и содержащимся под арестом в казармах Могилевского батальона внутренней стражи, богоугодных заведениях и тюремном замке от 14 июня 1863 года». Спіс у свой час быў размножаны царскімі ўладамі друкарскім спосабам і разасланы ўсім «зацікаўленым установам», у першую чаргу шматлікім мясцовым следчым камісіям, якія вышуквалі паўстанцаў. Усяго ў ім 454 асобы. У канцы, пад № 419 і 424, значацца вязні турэмнага замка Іван Іосіфавіч Манкевіч і Юльян Аўгусцінавіч Галіноўскі — трэба думаць, тыя самыя, пра якіх пісаў гісторык С. Цытовіч. Такім чынам, імя і імя па бацьку Манкевіча-перакладчыка і Манкевіча-паўстанца супадаюць. У спісе сказана, што ён дваранін Мінскай губерні, маёнтка не мае.

Справаводства Мінскай дваранскай дэпутацкай зборні, якое не раз выручала ў біяграфічных пошуках, на гэты раз надзей не апраўдала. Я прагледзеў ажно шэсць спраў пра Манкевічаў герба Ліс і Любіч, але Івана Восіпавіча (Іосіфавіча) з патрэбнымі тэрытарыяльна-храналагічнымі каардынатамі не знайшоў (відаць, не ўсе справы да нас дайшлі). Хаця пераканаўся, што прадстаўнікі разгалінаванага роду Манкевічаў у роўнай ступені жылі як у Мінскай, так і ў Магілёўскай губерні, у тым ліку ў Быхаўскім і Рагачоўскім паветах (на Рагачоўшчыне была нават цэлая шляхецкая ваколіца Церцеж, населеная Манкевічамі). У адной справе мільгануў Восіп Васілевіч Манкевіч, які мог быць бацькам нашаму перакладчыку. Той Восіп Васілевіч быў родам з Рагачова (прынамсі, там хрышчоны), дробны канцылярыст са значным жыццёвым вопытам (працаваў і на Украіне), у 1828 годзе пайшоў у адстаўку, часова жыў у маёнтку Хатоўня Быхаўскага павета, у 1831 годзе — акурат у Старым Быхаве…

[151] Запіскі Аддзелу гуманітарных навук. Кн. 8. Мінск, 1929.



Нарэшце ў Вільнюсе, у гістарычным архіве, трымаю ў руках саму ваенна-судную справу ўдзельніка падзей 1863 года Івана Восіпавіча Манкевіча (Ф. 1248. Воп. 2. Спр. 198). Вось што з яе можна даведацца.

Як вядома, узброенае выступленне на Магілёўшчыне пачалося 24 красавіка, але яшчэ за некалькі дзён губернатар атрымаў звесткі, што ў маёнтку Ляхаўка магілёўскага павятовага маршалка шляхты Стахоўскага з’явіўся нейкі «агент Літоўска-Беларускага Цэнтральнага Камітэта», якога 20 красавіка[152] тут арыштавалі і са знойдзенымі паперамі даставілі ў Магілёў.

Гэта і быў Манкевіч, як аказалася, зусім малады чалавек, які даў пра сябе наступныя паказанні: 18 гадоў, дваранін Рагачоўскага павета, бацькоў няма, сваякі пражываюць у Старым Быхаве (Віктар Аляксандравіч Корзун) і ў Стара-Быхаўскім павеце, у вёсцы Камарычы (тыя самыя Аляксандр і Канстанцін Манкевічы, на якіх мы выйшлі ўжо раней). Выхоўваўся ў Рагачоўскім дваранскім вучылішчы. У снежні 1861 года паехаў у Вільню, працаваў у кнігарні Маўрыкія Аргельбранта «и перешел в редакцию Виленского Вестника, где отчасти занимался литературою — жил у А. К. Киркора». Пасля выбуху паўстання намерваўся ехаць у Пінскі павет, каб далучыцца да тамашніх мяцежнікаў, але не адважыўся, паехаў у Магілёў «с целью найти занятие, которое бы соответствовало моей программе в будущем — наукам и литературе», звярнуўся да Стахоўскага, які абяцаў яму занятак пры сваёй бібліятэцы і канцылярыі. «Господин же Киркор обязал меня ездить в Могил. губ. именно потому, что здесь находятся мои родственники и что Белоруссия моя родина».

У справе ёсць пісьмо-пацвярджэнне Кіркора, што Манкевіч «в начале 1862 года поступил ко мне и состоял для занятий при редакции». Ёсць пасямейны спіс бацькі 1839 года. Гэта той самы адстаўны дробны чыноўнік Іосіф Васілевіч, якога мы вылічылі раней. Сям’я жыла тады, у 1839 годзе, у мястэчку Новы Быхаў. Бацьку было ў той час 43 гады, маці — Элеанора Іванаўна Корзун — на дваццаць гадоў маладзейшая. Вось у такой сям’і і з’явіўся на свет наш будучы літаратар — было гэта прыблізна каля 1845 года, магчыма, у гэтым жа Новым Быхаве.

У запісной кніжцы Манкевіча і на паасобных узятых у яго лістах паперы — розныя накіды на рускай і польскай мовах, хутчэй за ўсё, для «Виленского вестника», спісы кніг і перыядычных выданняў, кулінарныя рэцэпты, выпіскі са слыннага тагачаснага французскага гісторыка і палітыка Гізо, адозва Гарыбальдзі да народа Абедзвюх Сіцылій і нават асобныя графічныя замалёўкі алоўкам (быў у яго, відаць, і нейкі мастакоўскі дар).

[152] У С. Цытовіча дата новага стылю — 2 мая.

Праглядаючы паперы, я шукаў якога-небудзь тэксту па-беларуску. І такі тэкст знайшоўся. Вось нейкі накід лацінкай:

«Анодысь поп наш казав, што настала канчэнне света, што антыхрыст нарадзівся якісь Галібарды, вельмі страшэнны, — з хвастом і рагамі… Казав, што ён есць народ, сто чалавек адразу, — а часам по двесця і болей. Нашы бабы пауцікалі ў лес… бо то кажуць, што антыхрыст ужо блізко!.. Найболій баітца поп — бо тэй Галібарды папоў не любя. Ест за што!.. Колісь то ён толькі папамі кармівся, а народу не трогав — мы б [неразборлівае слова] — а то бач і народ тлумя…

Кажуць, што гэты антыхрыст дабіраетца да самага цара… Губернатар піша — штоб мы ваявалі… а тым часам і малы і стары до лесу а ні на вайну сабіраютца. Дый трасца яго ведае, чы не брэша толькі поп. Напішыця нам паночкі праўду [адно-два словы выкрэслены], бо народ пагіне не столькі ад антыхрыста, сколькі ад набору… а то мы падурэім — тэй брэша, тэй брэша, а хто ж на паследак праўду скажа?..».

Тут накід, на жаль, абрываецца. Як бачым, пачаўшыся з казачных інтанацый, тэкст гэты пераклікаецца потым са шмат якімі іншымі беларускімі адозвамі таго часу, нават нейкім чынам з «Мужыцкай праўдай», якая аддавала вялікую ўвагу пытанню рэкруцкага набору, абяцала казаць народу шчырую праўду.

Галоўнае ж — мы пераканаліся — перад намі сапраўды беларускі пісьменнік са сваёй арганічнай мовай, творчымі планамі, жыццёвай «праграмай». Ён быў цікавы Кіркору як зямляк (абодва з Магілёўшчыны) і як літаратар, прадстаўнік нешматлікага тады беларускага Парнаса.

На радзіму, як высветлілася, Манкевіч прыехаў у сакавіку 1863 года («в четверг на вербной неделе минувшего великого поста»). У яго былі з сабой адрасы Т. Чудоўскага і І. Цеханавецкага, якія даў яму Кіркор. Абодва яны вядомыя тагачасныя культурныя дзеячы Магілёўшчыны, звязаныя з рэдакцыяй «Виленского вестника» (Чудоўскі да таго ж прыяцель Дуніна-Марцінкевіча), і абодва прычыніліся да падзей 1863 года, і Кіркору давялося даваць новыя тлумачэнні: «Пом[ещика] Игн. Цехановецкого я знал очень мало. Посещая Вильно, он был у меня раза два, не больше. Чудовского я знал, когда он был здесь лет 20 тому воспитанником института…».

Вось такія адкрыліся дэталі. Перад намі бедны таленавіты юнак, які марыў пра літаратуру, які вельмі рана развіўся і абудзіўся да творчасці. Выходзіць, напрыклад, свой пераклад байкі Крылова ён зрабіў у пятнаццацігадовым узросце і тады ж са сваёй правінцыі адважыўся паслаць яго ў Літфонд у Пецярбург. Потым на сваю рызыку едзе ў Вільню, уладкоўваецца ў вядомую кнігарню Аргельбранта, працуе ў рэдакцыі свайго земляка Кіркора, які блізка стаяў да ўсіх тагачасных беларускіх



літаратараў. (Тыповы шлях разначынца ў літаратуру: прыблізна так ішоў пазней і Янка Купала, маладой марай якога было ўладкавацца ў якую бібліятэку. Ды і ў ранняй біяграфіі Вацлава Ластоўскага была праца ў студэнцкай бібліятэцы.)

Усе гэтыя планы былі перакрэслены паўстаннем. Важнай птушкай у палітычным сэнсе — «агентам Літоўска-Беларускага ЦК» — наш Манкевіч, можа, і не быў, але сімпатый да паўстанцаў не хаваў. Вось жа чамусьці расказаў пра свой намер далучыцца да пінскіх паўстанцаў (можа, усё ж замятаў іншыя сляды?..). А 11 ліпеня 1863 года ў справе з'явіўся такі неардынарны запіс: камісія «убедилась, что этот молодой человек, при непобедимом упорстве в показаниях истины, до того проникнут мятежническими замыслами, что по собственному его объявлению в присутствии комиссии не намерен от них отречься даже и на будущее время». Хлопец зазнаў у сувязі з гэтай заявай нямала непрыемнасцей, быў ізаляваны ў камеры-адзіночцы.

Ваенны суд у Магілёве асудзіў яго на катаргу. Палявы аўдытарыят у Вільні ў сакавіку 1864 года ўсё ж змякчыў кару — саслаць на пасяленне ў менш аддаленыя месцы Сібіры.

Апошні след Манкевіча: у 1875 годзе ён звяртаўся да магілёўскага губернатара (адкуль — невядома) з просьбай выслаць асабістыя дакументы, узятыя ў яго пры арышце.

Словам, ужо цяпер, бадай, можна сказаць, што пералік беларускіх літаратараў — удзельнікаў паўстання Кастуся Каліноўскага папоўніўся новым імем — Іван Манкевіч.

Нагадаем яшчэ раз гэты важны для гісторыі спіс з неабходнай агаворкай пра розную ступень удзелу або далучанасці да паўстання: найперш сам Каліноўскі, далей Дунін-Марцінкевіч, Вярыга-Дарэўскі, Вуль, Багушэвіч, Ражанскі, Каратынскі, Тапчэўскі, Абуховіч — ці не ўвесь наш тагачасны Парнас. І вось нарэшце — Манкевіч.

## СЛОНІМСКІЯ ІНСУРГЕНТЫ

Біёграфам Кастуся Каліноўскага добра вядомы такі яскравы факт з яго багатага на падзеі жыццяпісу: у кастрычніку 1862 года, едучы на паштовых конях са Слоніма ў Ваўкавыск, ён дзёрзка раскідваў па дарозе пякучыя лісткі сваёй «Мужыцкай праўды». Чаму ён ехаў у Ваўкавыск — зразумела: там паблізу яго родная Якушоўка, у тым баку і Вялікая Бераставіца, дзе дзейнічалі яго паплечнікі па рэвалюцыйнай арганізацыі Фелікс Ражанскі і Ігнат Казлоўскі. А што звязвала яго са Слонімам? Уважлівае вывучэнне, аналіз даступных крыніц паказваюць,

што старажытны горад на Шчары быў таксама адным з апорных пунктаў створанай Каліноўскім у 1861–1862 гадах гродзенскай падпольнай арганізацыі. Нездарма ў самым пачатку паўстання Слонім яшчэ раз мільгануў у дакументах Каліноўскага. У лютым 1863 года ён раіў Людвіку Нарбуту, камандзіру лідскіх паўстанцаў, «звязацца з паўстанцамі ў Слонімскім павеце». Тут напярэдадні і ў перыяд паўстання вёў рэвалюцыйную працу яшчэ адзін паплечнік Каліноўскага — Францішак Юндзіл. Яшчэ не зусім раскрытае гісторыкамі імя. Што пра яго вядома?

Юндзіл паходзіў са старадаўняга беларуска-літоўскага шляхецкага роду. Адзін з Юндзілаў згадваецца яшчэ пад 1256 годам у Іпацьеўскім летапісе: «На утрие же приеха от Ятвязь Юндил». Глыбокія, вельмі глыбокія, як бачым, карані. Францішак нарадзіўся ў 1825 годзе ў Ёгаліне Слонімскага павета. Служыў у арміі, у кавалерыі. У 1858 годзе прыехаў пасля службы на радзіму, схаваў у куфар свой дыплом на чын ротмістра і атэстат аб адстаўцы, спрабаваў заняцца гаспадаркай (быў у яго невялікі маёнтак або частка маёнтка, дакладна невядома), але хутка, падхоплены моцнымі павевамі ідэй вызваленчай барацьбы, апынуўся ў коле прыхільнікаў і аднадумцаў Каліноўскага.

Дакументы архіваў царскага часу малююць яго энергічную дзейнасць напярэдадні паўстання, паказваюць, што ён часта бываў на канспірацыйных пасяджэннях рэвалюцыянераў не толькі ў Слоніме і Гродне, але нават у Вільні, сталіцы краю. У Маскве, у Гістарычным музеі, захоўваецца запіска алоўкам без даты і подпісу — таропкае агентурнае данясенне царскага віжа, відаць, з Гродна: «Сего дня в Вильне заседание революционной партии, из Гродно вчера поехали Юндзил и Заблоцкий; прикажите строго следить, где и с кем будут сношения…» (архіў віленскага губернатара М. М. Пахвіснева). Згаданы тут Эразм Заблоцкі — адзін з бліжэйшых паплечнікаў Каліноўскага па гродзенскай арганізацыі, у 1863 годзе паўстанцкі кіраўнік Гродзенскага ваяводства. І побач з ім у запісцы — нават насуперак алфавіту наперадзе — наш слонімскі Юндзіл. Вось як далёка сягалі кантакты і сувязі слонімскіх канспіратараў.

Надзвычай цікава, што ў тагачасных праграмных спрэчках рэвалюцыянераў-падпольшчыкаў Юндзіл адстойваў палітычную суверэннасць нашага краю. Яму, як і іншым дальнабачным дэмакратам, не падабалася, што варшаўскія канспірацыйныя дзеячы імкнуліся непасрэдна падначаліць сабе Гродзеншчыну. У гэтых адносінах ён уплываў нават на такога стойкага рэвалюцыянера, як Валерый Урублеўскі. Польскі рэвалюцыянер Б. Шварцэ, які дзейнічаў у Беластоку пад кіраўніцтвам варшаўскага камітэта, успамінае: «Нават Валерый Урублеўскі, ад якога я сам прыняў прысягу ў Саколцы, а дакладней у егерскай школе пад Саколкай, дазволіў адцягнуць сябе гродзенскаму (слонімска-гродзенскаму. — *Г. К.*) Юндзілу і перастаў падпарадкоўвацца Варшаве, зусім як у часы Яна Хрызастома Паска»[153]. Спасылкай на вядомага мемуарыста XVII стагоддзя Паска Б. Шварцэ хацеў адзначыць, што ў дзеяннях Юндзіла і яго таварышаў праявіўся традыцыйны літоўска-беларускі шляхецкі сепаратызм, але няма сумнення, што так званы сепаратызм Каліноўскага і яго аднадумцаў грунтаваўся на прынцыпова новай аснове — на разуменні нацыянальнай самабытнасці Літвы і Беларусі, на прызнанні права беларускага і літоўскага народаў на самавызначэнне. Гэтага патрабаваў час.

Да пачатку паўстання ў Слоніме склалася досыць моцная падпольная арганізацыя. Важную ролю ў ёй (гэта відаць з цікавай кнігі В. Грыцкевіча «С факелом Гиппократа: Из истории белорусской медицины», 1987) адыгрывалі медыкі, як правіла, выхаванцы сталічных універсітэтаў і акадэмій. Павятовым цывільным начальнікам у Слонімскай арганізацыі быў, напрыклад, доктар Уладзіслаў Сымановіч, сасланы потым у Сібір на катаргу (памёр у Чэлябінску ў 1880 годзе). Начальнік горада — яго калега доктар Валяр'ян Вільчэўскі (таксама сасланы). Цікава, што для прыкрыцця падпольных сходаў і згуртавання прыхільнікаў у Слоніме выкарыстоўваліся грамадская публічная бібліятэка (бібліятэкарам быў будучы паўстанец Цэзар Казігродскі) і самадзейны тэатр пад кіраўніцтвам гарадскога доктара Антона Макржэцкага.

І вось паўстанне сталася фактам. Камандавацць паўстанцкімі ўзброенымі сіламі ў павеце даручылі Юндзілу. Як самаму аўтарытэтнаму канспіратару і былому вайскоўцу. Праўда, у крыніцах гаворыцца, што ён прыняў гэты абавязак часова. Чаму — не ведаем. Можа, адчуваў набліжэнне хворасці, якая вельмі хутка звяла яго ў магілу.

У красавіку па ўсёй Гродзеншчыне пачалося агульнае ўзброенае выступленне. Актыўна фарміруюць свае баявыя групы і слонімцы. У данясенні губернатара ад 7 мая 1863 года з немалой трывогай паведамлялася: «В Слонимском уезде мятежники являлись в разных местах партиями от 18 до 150 человек… С 20 по 26 апреля из города Слонима выбыло чиновников до 10 человек и другого звания — тоже до 10 — неизвестно куда. В ночь с 25 на 26 число со двора имения Жировицы помещика Микульского вновь ушло к мятежникам 10 человек, так что во дворе никого не осталось…»[154].

Шмат прычыніўся да фарміравання баявых груп увішны Леон Чарняўскі, як і Юндзіл, былы кавалерыст, штаб-ротмістр. Правай рукой Юндзіла быў яшчэ адзін адстаўны вайсковец — Ісідар Лукашэвіч (псеўданім Галоска), які стварыў ядро галоўнага атрада Слонімскага

153 W czterdziestą rocznicę powstania styczniowego. Lwów, 1903. S. 447.

154 Восстание в Литве и Белоруссии 1863–1864 гг. С. 356.

павета пад Мілавідамі. Спачатку ў атрадзе было ўсяго нейкіх 60 чалавек. Неўзабаве сюды прыбыў сам Юндзіл, узяў на сябе агульную каманду, даў справе належны рэвалюцыйны кірунак. З самага першага дня быў узяты прыцэл на масавасць, на сувязь з сялянствам. Дзень і ноч завіхаліся каля кавадлаў лепшыя кавалі, рыхтуючы для байцоў вострыя, як брытва, косы. Вакол рассылаюцца мабільныя групы — чытаць паўстанцкія маніфесты, бунтаваць народ, склікаць пад сцяг свабоды дабравольцаў. У вёсках складаюцца акты аб перадачы зямлі сялянам. Ці ж дзіўна, што вельмі хутка атрад вырас да 300 байцоў. Удзельнік тых падзей успамінае, што слонімскі атрад складаўся пераважна з сялян, «якія ведалі, што яны ўзяліся за зброю не толькі для таго, каб адстойваць незалежнасць айчыны, але і роўнасць усіх саслоўяў…»[155].

Унікальны, без перабольшання, вопыт слонімскіх паўстанцаў заслужыў агульнае прызнанне таварышаў па барацьбе. На нейкі час Мілавіды, дзе базіраваліся слонімцы, сталі адным з галоўных цэнтраў паўстання ў маштабах усёй Беларусі. Сюды, паводле рашэння паўстанцкіх кіраўнікоў, пачалі сцягвацца многія атрады — гродзенскі, ваўкавыскі, пружанскі, навагрудскі. 21 мая ў аб'яднаны паўстанцкі лагер з далёкіх сваіх таямнічых дарог завітаў Каліноўскі, зрабіў агляд паўстанцкіх сіл, падбадзёрыў, даў парады і ўказанні. Трэба думаць, ён быў задаволены сваім старым паплечнікам Францішкам Юндзілам.

Назаўтра быў бой з буйнымі сіламі карнікаў, кінутымі са Слоніма і Нясвіжа. Паўстанцы выдатна трымаліся, адбілі ўсе атакі ўрадавых войск, нанеслі ім значныя страты. Словам, выйшлі з гэтага сур'ёзнага выпрабавання з гонарам. Францішак Юндзіл — адзін з герояў Мілавідскай бітвы — яшчэ некалькі месяцаў рабіў са слонімцамі цяжкія партызанскія паходы па Слонімскім і суседніх паветах. Дзе ён толькі ні пабываў! Ля Агінскага канала, у пінскіх лясах і балотах, у лагеры Урублеўскага на краі Белавежскай пушчы. Ад яго аддзяліўся смелы Лукашэвіч і 6(18) ліпеня загінуў у баі ля мызы Харабровічы (іншыя арыенціры — вёска Дзераўная, Львоўшчына) непадалёк ад Слоніма, там і пахаваны. Царскія ўлады не дазвалялі нават нікому падысці да магілы паўстанца, завялі карную справу на лекара Антона Макржэцкага, які з жонкай ездзіў пакланіцца на гэтую магілу.

Які ж далейшы лёс Юндзіла? Паўстанне згасала. Царскім уладам удалося перацягнуць частку сялян на свой бок (у тым няшчасным баі супраць Лукашэвіча ўдзельнічалі і збітыя з панталыку сяляне). Дэмакрату Юндзілу гэта было надзвычай балюча. Ён не мог ваяваць супраць народа. Гэта рыса была заўважана нават царскімі ўладамі, якія

[155] К столетию героической борьбы «за нашу и вашу свободу». М., 1964.



характарызавалі яго так (прыводзім тэкст архіўнай даведкі): «Дворянин Франц Юндзил, помещик Слонимского уезда, от начала до конца беспорядков в уезде предводительствовал шайкою, не делая, впрочем, никаких неистовств, как удостоверяют добровольно явившиеся из шайки мятежников»[156]. Заставалася чакаць і хавацца. Бясконцыя блуканні па лясах і балотах былі горш за баі. Пачаліся нараканні і звады. Сёй-той з нядобразычлівцаў нават пачаў гаварыць, што Юндзіл наўмысна пазбягае сустрэч з карнікамі, Юндзіл баіцца. Абураны камандзір запатрабаваў таварыскага суда, які цалкам абараніў яго годнасць.

Ці засталася крыўда — не ведаем. Але стопудовым грузам навалілася на плечы стома.

У жніўні 1863 года Юндзіл перадаў каманду над слонімцамі Яну Калупайлу, а сам праз некаторы час выехаў за мяжу. У кастрычніку ён быў ужо ў старажытным Кракаве, прыняў у паўстанцкай арганізацыі адказную пасаду каменданта старадаўняй польскай сталіцы. У крыніцах называюць яго таксама арганізатарам паўстанцкіх узброеных сіл усёй Кракаўскай акругі. Яму надалі званне падпалкоўніка паўстанцкага войска. Так высока былі ацэнены вопыт і заслугі рэвалюцыянера-слонімца. Але даліся ў знакі сухоты. Хворы, аслабелы Юндзіл выехаў у Парыж, дзе 14 лютага 1865 года памёр у шпіталі. «Учора пахавалі сухотніка Юндзіла, правадыра паўстання на Слонімшчыне», — паведаміў у адным з пісьмаў паэт-рамантык Б. Залескі, глава «ўкраінскай школы» ў польскай паэзіі. Расказваюць, што пасля Юндзіла застаўся кішэнны каляндар, куды ён старанна заносіў усе даты і факты сваёй баявой паўстанцкай адысеі, нават усе загады і прызначэнні з самага пачатку паўстання. Ці захаваўся да нашых дзён гэты каштоўны гістарычны дакумент і дзе яго цяпер шукаць, на вялікі жаль, невядома.

Вось бы нам зараз такі каляндарык!.. Як магічны крышталь, ён памог бы раскрыць многія таямніцы слонімскага паўстання, дазволіў бы паўней уявіць этапы жыцця і барацьбы Францішка Юндзіла, аднаго з паплечнікаў Каліноўскага.

## АДЗІН З ХАРАШЭЙШЫХ СЫНОЎ БЕЛАРУСІ ЯЗЭП КАРАЛЬКЕВІЧ

Пасля смерці Сыракомлі (1862) яго сям'я засталася зусім без сродкаў. Было вырашана ёй памагчы, звярнуцца з адпаведным заклікам да публікі, або, як цяпер кажуць, грамадскасці. Узначалілі гэтую справу

[156] Виленский временник. 1915. Т. 6. Кн. 2. С. 397.

Якуб Гейштар і наш зямляк Аляксандр Аскерка, абодва вядомыя сваім удзелам у паўстанні 1863 года, дзеячы партыі «белых», палітычныя апаненты Кастуся Каліноўскага (нам трэба прыглядацца і да лібералаў). Некалі ў багатым рукапісным аддзеле Публічнай бібліятэкі імя Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе (цяпер Расійская нацыянальная бібліятэка ў Санкт-Пецярбургу) мне давялося бачыць пісьмо з Маладзечна ад 14 кастрычніка 1862 года. Аўтограф на паштовай паперы па-польску. Нейкі доктар Юзаф Каралькевіч паведамляў пра высылку грошай, сабраных «з маладзечанскай аколіцы на карысць асірацелай сям'і святой памяці Людвіка Кандратовіча». Усяго было паслана 32 рублі. Невялікія, здаецца, грошы, але важылі яны шмат. «Высланая сума, — гаварылася ў пісьме, — гэта грош удовін, грош убогі, грош беднай дзятвы нашых школ, якая з радасцю нясе лепту паводле магчымасці кожнага, настаўнікаў і толькі некалькіх іншых прыхаджан, з даверам мне аддадзены».

Каралькевіч надоўга захаваў сваю прывязанасць да памяці паэта. Гэтае ж прозвішча знаходзім у спісе падпісчыкаў 10-томніка Сыракомлі, выдадзенага ў 1871–1872 гадах В. Каратынскім «на карысць удавы і сірот» паэта. Словам, выданне ў пэўным сэнсе таксама было дабрачынннай акцыяй.

Хто ж гэты доктар, аматар літаратуры, сардэчны і спагадлівы чалавек?

З няясным адчуваннем нечага значнага, адметнага я ўзяў гэтага Каралькевіча на заметку, але доўгі час пра яго больш нічога не мог давёдацца, пакуль не натрапіў у «Нашай ніве» за 1912 год на вялікі, прачулы, хоць і крыху спознены некралог.

«У першых днях мая 1910 года памёр у Валаміне пад Варшавай адзін з лепшых сыноў зямлі нашай — доктар Язэп Каралькевіч», — пісаў аўтар некралога ці, можна сказаць, успаміну, нехта В. Віслаух (Выслоух)[157], які, відаць, блізка ведаў нябожчыка. Аказалася, Каралькевіч быў даволі рэдкім для XIX стагоддзя прыкладам інтэлігента — выхадца з народных нізоў, якому ўдалося атрымаць адукацыю. Зноў цытуем: «…радзіўся ў 1835 гаду ў Барысаўскім павеце Мінск[ай] губ[ерні] недалёка ад Зембіна. Бацька яго служыў тады ў двары Манюшкаў (відаць, сваякі кампазітара. — *Г. К.*), і там, у нізкай сялянскай хаце, ён першы раз пабачыў свет і ў першы раз пачуў родную беларускую мову. Там ён правёў дзіцячыя свае гады, бегаючы па зялёных лугох і палёх, і там навучыўся кахаць гэту бедную, а так дарагую зямлю, каторай да магілы забыць не мог. Яшчэ маладым хлопцам праявуляў ён вялікую ахвоту да навукі. Бацька яго сабраў апошнія грошы, крыху памог пан са двара, і паслалі малога Язэпа ў Мінск на новае жыццё і барацьбу».

[157] Удзельнік варшаўскага беларускага гуртка. Карэспандаваў з «Нашай нівай».



Вось толькі некаторыя этапы, вехі гэтага неардынарнага жыцця. Скончыў з залатым медалём Мінскую гімназію, дзе, як вядома, атрымалі адукацыю і многія іншыя выдатныя дзеячы культуры, навукі, грамадскага руху (мемарыяльная дошка на колішнім будынку гімназіі на плошчы Свабоды называе толькі некаторыя славутыя імёны). Паступіў у Харкаўскі ўніверсітэт на медыцынскі факультэт — «з думкаю служыць усяму чалавечаству, а болей усяго сваім братом-беларусам». Пасля заканчэння ў 1857 годзе ўніверсітэта атрымаў месца настаўніка і лекара ў Маладзечне, дзе працаваў да 1863 года. «Замешаны ў паўстанне, быў паліцыяй адвезен у Вілейку, дзе доўгі час сядзеў пад ключом». «Здолеўшы апраўдацца», паехаў у Харкаў, дзе паступіў у хірургічную клініку прафесара Грубэ і там дактарызаваўся. Не раўнуючы, як Францішак Багушэвіч, таксама пасля паўстання знайшоў выратавальны прытулак на Украіне. Трыццаць доўгіх гадоў пасля харкаўскай клінікі Каралькевіч працаваў доктарам у Новачаркаску, на зямлі данскіх казакаў, але ўвесь час сумаваў па роднай Беларусі і стараўся памагчы яе народу. Ён помніў свой нялёгкі шлях у навуку. «Сваім коштам вучыў ён 16 бедных маладых людзей — беларусаў, з каторых двое цяпер прафесарамі ўніверсітэту, колькі лекарамі, адвакатамі і т. д.». Ужо за адно гэта Каралькевіч заслугоўвае ўдзячнай памяці.

На шасцідзясятым годзе жыцця наш гуманіст-філантроп пайшоў на пенсію, марачы набыць які кавалак зямлі ў Беларусі. Але католікам купляць там зямлю пасля паўстання 1863 года было забаронена, і давялося пасяліцца пад Варшавай (ці ж не іронія гэта лёсу?). І вось падыходзім ужо да завяршэння каларытнага і годнага жыцця, да заключных радкоў некралога. Да канца дзён сваіх служыў Каралькевіч людзям: «Дарма лячыў, вучыў гаспадарцы, шырыў граматнасць, знаёміў людзей з гігіенай, этыкай і т. д.; дзе мог і сколькі мог памагаў грашыма. Аб усіх думаў, апрача сябе. Хадзіў заўсёды бедна адзеты, часта адказываў сабе ў самых патрэбнейшых рэчах, думаючы, што другія і таго не маюць. Хай жа беларусы згадаюць калі-небудзь аднаго з лепшых… братоў сваіх, аднаго з харашэйшых дзяцей зямлі Беларускай».

Згадваецца гэтае імя ў грунтоўнай кнізе В. Грыцкевіча «С факелом Гиппократа», у якую заўсёды карысна зазірнуць дзеля даведкі. Гісторык спасылаецца на артыкул «Удзел лекараў у арганізацыі і кіраўнічых органах паўстання 1863 года», надрукаваны ў польскім спецыяльным часопісе «Wiadomości lekarskie» (1963). Між іншым, там падаецца крыху іншая дата смерці Каралькевіча — 1909 год.

Карцела знайсці канкрэтныя матэрыялы пра ўдзел Каралькевіча ў паўстанні. У каментарыях да ўспамінаў Я. Гейштара (1913) гаворыцца: згодна з інфармацыяй, дадзенай рэдакцыі Зоф'яй Кавалеўскай

(апублікавала шмат цікавых матэрыялаў з гісторыі Мінска і паўстання 1863 года ў Беларусі) і яе мужам Яўгенам Кавалеўскім, аўтарам каштоўных «Успамінаў з мінулага» (Вільня, 1907), паўстанцкім начальнікам Вілейскага павета быў Людвік Кавалеўскі (бацька Яўгена), яго памочнікам — Канстанцін Тукала, камісарам — Зыгмунт Палітоўскі, настаўнік матэматыкі ў пяцікласнай прагімназіі ў Маладзечне, памочнікам камісара мясцовы памешчык Ігнат Куроўскі, потым яшчэ дабавіліся памочнікі: Смагаржэўскі, настаўнік прагімназіі ў Маладзечне, і доктар Юзаф Каралькевіч. Паўстанцкія ўзброеныя сілы павета ўзначальваў спачатку Ян Козел, пасля ягоны брат Вінцэнт. Апрача нашага Каралькевіча тут названы многія вядомыя людзі: Ян Козел — адзін з заснавальнікаў арганізацыі «чырвоных» у Мінску, паплечнік Каліноўскага па Літоўскім камітэце; яго брат Вінцэнт — па-геройску загінуў у 1863 годзе ў жорсткім баі пад Уладыкамі; Куроўскім належала вёска Свечкі каля Краснага, дзе ў 1863 годзе быў разбіты атрад ветэрана вызваленчага руху Бакшанскага.

Удалося адшукаць у Вільнюсе і малавядомыя ў нас мемуары Я. Кавалеўскага «Успаміны з мінулага: Да гісторыі паўстання 1863 года на Літве», якія друкаваліся ў 1907 годзе ў «Dzienniku Wileńskim» і выйшлі асобным адбіткам. Там безліч цікавай інфармацыі. На старонцы 12 чытаем: «Камісарам Ашмянскага павета стаў нябожчык ужо доктар Віткоўскі, а Вілейскага — настаўнік матэматыкі ў маладзечанскіх школах Палітоўскі, чалавек вялікай энергіі і моцы духу, да таго ж вельмі мілы і сімпатычны.

Адразу ж яму быў прызначаны памочнік у асобе святой памяці Ігната Куроўскага, потым дабавілі яшчэ двух таварышаў, настаўнікаў той жа школы ў Маладзечне — Смагаржэўскага і доктара Юзафа К.». Гэты Юзаф К. (успаміны пісаліся яшчэ пры жыцці Каралькевіча і маглі яму пашкодзіць) мільгануў яшчэ раз у мемуарах Кавалеўскага на старонцы 18. Высвятляецца, Каралькевіч памагаў ратаваць ад небяспекі самога Яна Козела. Вось гэты тэкст: «Быў ужо люты [1863 года], калі, вяртаючыся з адной паездкі, я знайшоў у майго бацькі вельмі змрочнага і засмучанага Яна Козела. Аказалася, што ўлады ўжо напалі на след ягонай дзейнасці і, хаця нічога дагэтуль не раскрылі, мусіў ён дзеля асцярожнасці знікнуць з іхніх вачэй на нейкі час. Камітэт [Каліноўскага] высылаў яго ў Царства [Польскае] у дзеючыя партыі, куды кружнымі дарогамі, праз Налібокі і Наваградак, перавозіў яго доктар Юзаф К.».

І гэты пошук, які пачаўся з напісанага некалі, вельмі даўно, у Маладзечне ліста пра дапамогу Сыракомлевай сям'і, вывеў нас на цікавыя эпізоды паўстання Кастуся Каліноўскага.



# ЧУЖБІНСКІ — ЧУБІНСКІ

У вільнюскім гістарычным архіве, сярод матэрыялаў генерал-губернатарскай канцылярыі, зацікавіла папка 1869 года пад такім загалоўкам: «О литераторе Чужбинском, собиравшем в Кобринском уезде местные народные песни» (Ф. 378. Паліт. аддз. Спр. 273). Пра што там гаворка?

Справа пачынаецца ўстрывожаным сакрэтным пісьмом з Пецярбурга ад 6 лістапада 1869 года. Шэф жандараў граф Шувалаў паведамляў віленскаму генерал-губернатару, які кіраваў тады чатырма беларуска-літоўскімі губернямі — Віленскай, Гродзенскай, Ковенскай і Мінскай, невядома якім шляхам атрыманыя ў III аддзяленні (нехта данёс?) звесткі з Беларусі. А менавіта, «что 12 октября прибыл из Брестского уезда на почтовую станцию Мокраны Кобринского уезда литератор Чужбинский, который на другой день, пригласив чрез мокранского волостного старшину несколько крестьян и крестьянок из села Мокраны, расспрашивал их об употребляемых ими на свадьбах и при погребении обрядах и просил пропеть несколько местных песен; затем, записав все это, выехал из Мокран».

Словам, размова ішла пра самае звычайнае збіранне фальклорных матэрыялаў. Занятак у палітычных адносінах, здаецца, досыць нявінны. Чаму ж так занепакоілася III аддзяленне? Пра гэта даведваемся з другой часткі дакумента: «Имея в виду, что в 1860 году, когда сделалось известно, что в некоторых местностях являлись в селах разного звания лица под предлогом собирания сведений о быте крестьян и разговорами возбуждали вредные толки — состоялось особое по сему предмету Высочайшее повеление (объявленное в циркуляре Министерства внутренних дел 4-го января того года № 3), на основании которого право собирания означенных сведений предоставлено только ученым обществам, частным же лицам сие воспрещено, я считаю долгом о вышеизложенном сообщить Вашему превосходительству в том предположении, что Вы, милостивый государь, изволите, может быть, признать за нужное сделать распоряжение о наблюдении за неуклонным исполнением означенного Высочайшего повеления».

На пісьме рэзалюцыя алоўкам: «Полит. отд. (мелася на ўвазе Палітычнае аддзяленне генерал-губернатарскай канцылярыі. — *Г. К.*). Сообщить циркулярно всем гг. губернаторам к неуклонному исполнению, предложив сделать распоряжение о недопущении г-на Чужбинского к собиранию сведений, и если где-либо он окажется, то наблюсти за немедленным выездом его из края. 7/XI».

17 лістапада 1869 года з Вільні быў адпраўлены адпаведны сакрэтны цыркуляр усім чатыром падначаленым губернатарам. Дакумент,

гэта відаць са справы, рэдагаваўся. Чыноўнікі генерал-губернатарскага ўпраўлення вырашылі пахваліцца сваёй дасведчанасцю, далучанасцю да культуры. Да прозвішча Чужбінскі ў другім, канчатковым варыянце зроблена рэмарка ў дужках: «Настоящая фамилия Афанасьев». Заключная частка ўзмоцнена: «…сделать распоряжение о недопущении как в настоящее время Чужбинского, так и на будущее подобных частных путешественников к собиранию таковых сведений и если бы они такому распоряжению не подчинялись, то наблюдать за немедленным выездом их из края; и меня о том уведомлять».

Вось у такіх, мякка кажучы, своеасаблівых умовах працавалі ў тыя часы збіральнікі народнай мудрасці. Гэтая перапіска, апрача ўсяго іншага, цікавая яшчэ кур'ёзнай памылкай. Улады думалі, што ў Беларусі з'явіўся добра вядомы тады рускі і ўкраінскі пісьменнік і этнограф Аляксандр Сцяпанавіч Афанасьеў-Чужбінскі (1817–1875), які жыў у тыя часы ў Пецярбургу, актыўна займаючыся журналістыкай. У сапраўднасці ж у дакументах гаворка ідзе пра яго маладзейшага сучасніка — украінскага і рускага этнографа і фальклармста Паўла Платонавіча Чубінскага (1839–1884). Чубінскі яшчэ не паспеў праславіцца, таму і зблыталі яго з шырокавядомым Афанасьевым, які насіў блізкі псеўданім. Вядома, што акурат у 1869–1870 гадах Павел Чубінскі зрабіў этнаграфічную экспедыцыю ва Украіну, Беларусь і Малдавію, у прыватнасці, аб'ездзіў Мазырскі, Пінскі, Кобрынскі, Слонімскі, Брэсцкі паветы. У «Трудах этнографическо-статистической экспедиции в Западно-Русский край» (т. 1–7, 1872–1879) ён змясціў каштоўныя фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы з Мінскай і Гродзенскай губерняў — песні, казкі, апісанні вяселля. Запісы Чубінскага высока ацэньваюцца даследчыкамі беларускай этнаграфіі і фальклору. На іх думку, апублікаваныя Чубінскім творы маюць асабліва важнае значэнне для параўнальнага вывучэння паэтычнай творчасці беларускага і ўкраінскага народаў.

## СЛЯДАМІ ШЭМЕТА-ПАЛАЧАНСКАГА

Раздумваю над лёсам беларускага паэта XIX стагоддзя Яна Шэмета-Палачанскага, шукаю звесткі пра яго. Якая трагічная выпала яму доля! Творы не захаваліся, прынамсі, дагэтуль не адшуканы, амаль не дайшло да нас і біяграфічных звестак.

Яшчэ Вацлаў Ластоўскі ў артыкуле «Памажыця!» (Наша ніва. 1913. № 37) звяртаўся да беларускай грамадскасці з просьбай прыслаць жыццяпіс і рукапісы Шэмета-Палачанскага. Па звестках Ластоўскага, паэт «жыў каля Даўгінава, пісаў многа вершаў па-беларуску, яму прыпісваюць верш "Панскае ігрышча"» (у сапраўднасці, як мяркуюць сучасныя даследчыкі, аўтар «Панскага ігрышча», хутчэй за ўсё, Ф. Тапчэўскі. — *Г. К.*). Паводле паведамлення газеты Ластоўскага «Гоман» (1916, № 12), Шэмету-Палачанскаму належалі беларускія паэмы «Даўгінаўскі пагром», «Вяселле ў Беляка», «Барысаў камень», вершы «Да братоў у пакоях», «За чаркай», «На дзяды», «Думы ў полі» і інш. Як бачым, гэта быў вельмі пладавіты літаратар. Частка яго рукапісаў нібыта захоўвалася тады ў дачкі паэта ў Цюмені. Характэрна, што Ластоўскі ведаў дакладныя даты жыцця Шэмета-Палачанскага: 20 чэрвеня 1826 — 9 жніўня 1905 года. Не іначай падобныя звесткі былі атрыманы ад блізкіх асоб. Відаць, яны ж падалі і назвы твораў.

Шэметам-Палачанскім цікавіліся таксама Р. Зямкевіч і Я. Карскі. Апошні ў сваіх «Белорусах» (1922) на падставе звестак Зямкевіча называў творы Шэмета-Палачанскага «Пагром у Даўгінаве» (той жа «Даўгінаўскі пагром») і «Ашмянская рэзь».

У 1968 годзе Адам Мальдзіс спрабаваў адшукаць сляды яго рукапісаў праз цюменскую абласную газету, але мясцовыя краязнаўцы адказалі, што прамыя нашчадкі нашага земляка памерлі некалькі гадоў назад, а далёкія сваякі нічога канкрэтнага пра паэта і яго рукапісы не ведаюць. У беларускіх энцыклапедыях выказвалася меркаванне, што паэт быў родам з былога фальварка Палачаны (колішні Вілейскі павет, цяпер Маладзечанскі раён). Другая частка прозвішча выглядала, такім чынам, як псеўданім, утвораны ад назвы роднага паселішча ці мясцовасці. Янка Саламевіч прыводзіць нямала падобных псеўданімаў: Алесь Случанскі — С. Ліхадзіеўскі, С. Койданаўскі — С. Шушкевіч. Як паведамлялася ў нашым друку (Літ. і мастацтва. 1991. 8 ліст.), Алесь Гарун карыстаўся таксама псеўданімам А. Навадворскі (паэт быў родам з Новага Двара пад Мінскам). Словам, і спалучэнне Ян Шэмет-Палачанскі магло азначаць: Ян Шэмет з Палачан.

Так думалася і мне, пакуль не сустрэў у мінскім гістарычным архіве справу аб дваранскім паходжанні Шэметаў-Палачанскіх (Ф. 319. Воп. 2. Спр. 3512а). Не адзін раз перагарнуў у роздуме гэты важкі, салідны том. Аказалася, быў цэлы такі шляхецкі род герба Лебедзь (гэтым жа гербам, як вядома, карыстаўся і род Марцінкевічаў, які даў беларускай літаратуры двух пісьменнікаў — Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і Гераніма Марцінкевіча, аўтара п'есы «Адвячорак. Аказія ў карчме пад Фальковічамі»).

Як сведчаць дакументы, у XVIII стагоддзі Шэметы-Палачанскія сапраўды валодалі маёнткам Палачаны, які адносіўся, аднак, не да Вілейскага, а да Ашмянскага павета (цяпер у Маладзечанскім раёне на мяжы з Валожынскім). Але маёнтак быў даўно страчаны, пра яго застаўся толькі напамінак у гучным спадчынным прозвішчы, напярэдадні XIX стагоддзя

гэта была ўжо дробная чыншавая шляхта, якая сваёй зямлі не мела. Шматлікія Шэметы-Палачанскія жылі на чыншавым праве ў шляхецкіх засценках на памешчыцкай зямлі. Галоўнае іх гняздо было вакол мястэчка Іжа на мяжы Свянцянскага і Вілейскага паветаў, аднак яны даволі шырока рассяліліся па свеце. Некаторыя жылі і каля Даўгінава, хрысцілі там сваіх дзяцей.

Царскія ўлады грэбліва спіхвалі гэтую шляхецкую галоту ў аднадворцы і нават сяляне, і толькі ў 1862 годзе Палачанскім удалося канчаткова давесці дваранскае паходжанне. Адшукаць сярод іх Яна (Івана) Шэмета-Палачанскага, які б нарадзіўся дакладна 20 чэрвеня 1826 года (імя па бацьку, на жаль, невядомае), не ўдалося. Няма такога. Увогуле ніхто 1826 года нараджэння ў «густанаселеных» радаводных схемах не значыцца. Так што ў дакладнасці даты 20 чэрвеня 1826 года можна сумнявацца. Нічога дзіўнага ў гэтым няма. Доўгі час лічылася, што Дунін-Марцінкевіч нарадзіўся ў 1807 годзе, нават сваякі так меркавалі, цяпер выяўлена, што ён на год маладзейшы.

Найбліжэй да шуканай даты нараджэння Іван Міхайлавіч Шэмет-Палачанскі, ахрышчаны ў іжанскай уніяцкай царкве. Ён нарадзіўся 24 чэрвеня 1827 года ў засценку Утак (Уткі) Свянцянскага павета (цяпер гэта павінен быць Вілейскі раён). У 1855 годзе жыў у засценку Руднікі Ашмянскага павета (недзе на Валожыншчыне), прымаў дзейсны ўдзел у збіранні доказаў на дваранскае паходжанне роду, напісаў адпаведнае, вельмі аргументаванае прашэнне ў Мінскую дваранскую дэпутацкую зборню.

Быў і яшчэ адзін Іван Міхайлавіч Шэмет-Палачанскі, стрыечны дзядзька першага, але па гадах амаль яму равеснік. Гэты нарадзіўся 14 лютага 1823 года ў засценку Грэлікі (або Грылікі), недзе зусім па суседстве з Уткамі, хрышчоны ў той жа іжанскай уніяцкай царкве. Сям'я была вялікая, і сыны вымушаны былі самі шукаць сабе дарог. Брат Антон (1799 года нараджэння) прыбіўся ажно да нясвіжскіх манахаў-бернардзінцаў (пад імем Францішка). Малодшы Іван таксама вырваўся са звыклага жыццёвага кола шляхціцаў-земляробаў. У 1841 годзе, здароўем не зломак, ледзь дасягнуўшы паўналецця, паступіў на вайсковую службу ў Алексапольскі егерскі полк. Як сказана ў дакументах — «з аднадворцаў Мінскай губерні» (у дваранстве род яшчэ не быў зацверджаны). Неўзабаве стаў фельдфебелем, неяк (відаць, быў чалавекам талковым, кампанейскім) увайшоў у поўны давер да начальства. Полк з вайсковай метадычнасцю пачаў бамбардзіраваць Мінскую зборню пісьмамі — хутчэй афармляйце дваранскія дакументы, без гэтага нельга надаць афіцэрскае званне. Справа разбухала ад патрабавальных вайсковых запытаў (пры выпадку падключалі нават камандзіра дывізіі).



Па паметках на пісьмах з палка можам меркаваць пра баявы шлях нашага бойкага фельдфебеля, пра мясціны, дзе ён служыў: 1849 — «аўстрыйскія ўладанні», «на маршы ў Галіцыі», Венгрыя (тады Расія, як вядома, ратавала Еўропу ад паўстанняў-рэвалюцый); 1850 — «лагер пры горадзе Варшаве», крэпасць Бабруйск, Гомель; 1852 — Кіеў; 1854 — «прыдунайскія княствы»; 1855 — «пазіцыя ля Мекензевай гары Таўрычаскай губерні». Гэта ўжо подступы да Севастопаля. Крымская вайна ўзмацніла патрэбу ў афіцэрскіх кадрах. І наш Шэмет-Палачанскі надзеў прапаршчыцкія пагоны, так сказаць, авансам, нават без пацвярджэння дваранскіх правоў. У 1858 годзе палкавая канцылярыя піша з Казельска (Калужская губерня). Нарэшце ў 1862 годзе сам «уволенный за ранами из Алексопольского пехотного полка подпоручик Иван Михайлов Шемиот Полочанский» звяртаецца ў дваранскую зборню ўжо са Смаргоні: род толькі што нарэшце быў зацверджаны ў дваранстве, і адстаўны афіцэр, удзельнік гераічнай абароны Севастопаля, хоча мець адпаведнае пасведчанне.

Больш ні пра першага, ні пра другога Івана Міхайлавіча, ні пра іх прамых нашчадкаў згадак у радаводнай справе, на жаль, няма. Нейкі «дваранін Іван Міхайлавіч Шэмет-Палачанскі» мільгануў толькі як кум у адной з хросных метрык Шэметаў-Палачанскіх 1881 года па ўзлянскай царкве Вілейскага павета. Які з Іванаў Міхайлавічаў маецца тут на ўвазе, цяжка сказаць — мабыць, першы, таму што другога, хутчэй, назвалі б «адстаўны падпаручнік». Але катэгарычна сцвярджаць нічога нельга. Няясна да канца — хто з іх быў паэтам: першы больш падыходзіць па даце нараджэння, другі імпануе біяграфіяй, багатым жыццёвым вопытам. Доўгая разлука з родным краем магла абвастрыць сыноўскае пачуццё да радзімы. Так было, напрыклад, з Вікенціем Равінскім, аўтарам «Энеіды навыварат».

Між іншым, як відаць са справы, родны пляменнік нашага севастопальскага героя Іосіф Ануфрыевіч жыў у 1889 годзе ва ўрочышчы Агаротніца Даўгінаўскай воласці. Праз пляменніка Даўгінаўшчына была, трэба думаць, блізкая і адстаўному вайскоўцу Івану Міхайлавічу. Другі пляменнік — Андрэй Пётр (сын старэйшага брата Міхаіла Фелікса) за ўдзел у паўстанні 1863 года быў высланы ў Сібір і ў канцы XIX стагоддзя жыў у горадзе Тара Табольскай губерні, адкуль вёў актыўную перапіску з Мінскай зборняй, просячы прылічыць да дваранства сваіх сыноў, народжаных у Сібіры. Ён пусціў моцныя карані ў тых краях, быў членам Тарскай гарадской управы і іншых мясцовых устаноў. З яго дапамогай маглі перабрацца ў Сібір і іншыя атожылкі роду Шэметаў-Палачанскіх, у тым ліку дачка паэта.

У заключэнне некалькі слоў пра творчасць Шэмета-Палачанскага. Паспрабуем акрэсліць яе хаця б тэматычна. Яго творы «Ашмянская

рэзь» і «Даўгінаўскі пагром» — пра што яны? У аснову першага, несумненна, пакладзены гістарычны выпадак, які меў месца падчас паўстання 1831 года на Беларусі: тады, 11 красавіка, царскія карнікі жорстка расправіліся з паўстанцамі, а заадно і з жыхарамі ў Ашмянах. Падзея гэта адлюстравана і ў літаратуры. Ёй прысвечаны, напрыклад, верш польскага паэта К. Гашынскага (1809–1866), які так і называецца «Rzeź oszmiańska». Згадваецца «Ашмянская рэзь» і ва ўспамінах філамата Ігната Дамейкі, іншы раз у публіцыстыцы часоў Каліноўскага. Ёсць гэты балючы напамінак нават у маніфесце ЦНК ад 22 студзеня 1863 года аб пачатку паўстання. Для Шэмета-Палачанскага, які нарадзіўся ў 20-я гады, твор «Ашмянская рэзь» ва многім гістарычны. Ён апісаў падзеі ў Ашмянах 1831 года, мабыць, па расказах відавочцаў. Цікавасць да гістарычнай тэматыкі і пэўная адукаванасць відаць і ў назве яго верша «Барысаў камень». Тут адгукаецца зусім ужо далёкае мінулае, часы летапісных палачан. (Дарэчы, нават у прозвішчы Палачанскіх чуецца сівая беларуская гісторыя.)

А пра што «Даўгінаўскі пагром», або «Пагром у Даўгінаве»? У гутарцы з А. Мальдзісам мы адназначна вырашылі, што размова ідзе пра нейкае антысеміцкае выступленне, якія нярэдка бывалі ў Расійскай імперыі ў канцы мінулага — пачатку нашага стагоддзя. Толькі як даведацца, калі гэта канкрэтна было? Аказваецца, вельмі проста. Выходзіла да рэвалюцыі ў Пецярбургу такая «Еврейская энциклопедия. Свод знаний о еврействе и его культуре в прошлом и настоящем». Там усё сабрана, падлічана, зафіксавана. У 7-м томе на літару «Д» нататка:

*«Долгинов* — мест. Вилейск. уезд. Вил. губ. В 1847 г. “Долгин. еврейск. общество” составляли 1194 души; в 1897 г. жит. 3551, из коих евр. 2559. В 1886 г. здесь произошли антиеврейские беспорядки».

Такім чынам, верш «Даўгінаўскі пагром» напісаны на актуальную мясцовую тэму не раней за 1886 год, калі паэт быў ужо ў вельмі сталым узросце. І тут адчуваецца пэўны гістарызм, імкненне зафіксаваць, захаваць для сучаснікаў і нашчадкаў канкрэтную рэальную падзею, магчыма, здабыць маральныя ўрокі.

## ПРА ПАЎСТАНЦА ПАЛАЧАНСКАГА І ПАЎСТАНЦА... ГУРЫНОВІЧА

У кнізе літоўскай даследчыцы Оны Максімайтэне «Баявыя дзеянні паўстанцаў Літвы 1863–1864 гадоў» (1969) натрапіў на звесткі, што ў маі 1863 года паўстанцы пабывалі і ў Даўгінаве, разграмілі там канцылярыю мясцовага паліцэйскага начальніка — станавога пристава, знішчылі ўсе казённыя паперы. Таксама, як бачым, свайго роду «даўгінаўскі пагром».

Захацелася болей даведацца пра паўстанца Шэмета-Палачанскага. А можа, была думка, праз яго зноў удасца выйсці на сваяка-паэта. У вільнюскім гістарычным архіве гартаю папку пра дачыненне да паўстання шляхціца Віленскай губерні Андрэя Палачанскага (так ён для сцісласці называўся ў дакументах) і пяці яго аднаспраўцаў, захопленых падчас карнай экспедыцыі маёра Бярнацкага ў Свянцянскім павеце (ДГА Літвы. Ф. 1248. Воп. 2. Спр. 204). Справа была зборная — як кажуць, з бору па сасонцы.

Дакументы пераносяць нас у ваколіцы Іжы, дзе 24 мая 1863 года каля вёскі Любкі адбылася вядомая бітва паўстанцаў з карнікамі (я пісаў пра гэтыя падзеі ў брашуры «На пераломе дзвюх эпох», 1990). Інсургентаў узначальваў былы афіцэр рускай арміі Густаў Чаховіч (псеўданім Астоя), які фарміраваў свой атрад на Свянцяншчыне (маем на ўвазе колішні павет). Начальнікам штаба ў Чаховіча быў яго малодшы брат Леон, таксама афіцэр, удзельнік пецярбургскай ваенна-рэвалюцыйнай арганізацыі. Хутчэй за ўсё, іх нейкім сваяком (няхай далёкім) быў і Зыгмунт Чаховіч, паплечнік Каліноўскага і духоўны настаўнік Купалы. Чаховічы-Ляхавіцкія, з якіх выйшаў Зыгмунт, якраз карысталіся гербам Астоя (на чырвоным полі залаты крыж або крыжападобны меч паміж двума паўмесяцамі). Але вернемся да атрада Чаховіча-Астоі. Нейкі час паўстанцы базіраваліся ў лясах каля возера Нарач, а потым накіраваліся на поўдзень у Любанскія лясы. 24 мая на досвітку ў адкрытым полі каля вёскі Любкі іх сустрэлі царскія войскі. Завязаўся бой. Нягледзячы на стомленасць пасля маршу і нязручную пазіцыю, байцы ўпарта трымаліся некалькі гадзін. Не раз даходзіла да рукапашнай. Дзве атакі адбілі касінеры пад кіраўніцтвам Канстанціна Касцялецкага, які загінуў у баі. Густаў Чаховіч з рэшткамі атрада вярнуўся ўглыб Свянцянскага павета, адкуль перайшоў у Віленскі, а потым і ў Ашмянскі павет. Частку людзей, што адарваліся ад асноўных сіл, павёў на поўнач, у Дзісенскі павет, Леон Чаховіч.

Раз'юшаныя карнікі шнырылі па ўсёй ваколіцы, хапаючы асобных паўстанцаў і ўсіх, хто ім спачуваў і садзейнічаў.

Так апынуўся за кратамі і Андрэй Палачанскі, які характарызуецца ў паказаннях і іншых матэрыялах справы наступным чынам: дваранін Свянцянскага павета, веры праваслаўнай, 28 гадоў, аканом, а таксама лоўчы ў маёнтку Чурлёны памешчыцы Бачкоўскай (у маёнтак, між іншым, уваходзіла і ваколіца Уткі — старадаўняе гняздо Палачанскіх). Арыштаваны за забеспячэнне мяцежнікаў харчамі і падмаўленне сялян да паўстання. Пры праходзе інсургентаў праз адну з вёсак маёнтка

Палачанскі стаяў на варце разам з паўстанцкімі вартавымі. Мяцежнікі, пабыўшы ў маёнтку каля трох гадзін і падсілкаваўшыся, накіраваліся ў Вішнеўскі лес, а Палачанскі быў у іх за праваднікá. Каля гэтага часу суседні селянін, які рамантаваў у Чырлёнах млын, прывёз у Вілейскую следчую камісію новую чамарку (паўстанцкую світку), нібыта пашытую Бачкоўскай спецыяльна для свайго лоўчага Палачанскага. Гэта таксама быў немалаважны крымінал.

У красавіку 1864 года Часовы палявы аўдытарыят у Вільні вынес адносна Палачанскага свой прысуд — саслаць на жыхарства ў Табольскую губерню, пазбавіўшы ўсіх правоў стану. Як мы ведаем, наш зямляк не прапаў і ў непрытульнай Сібіры, дасягнуў там годнага становішча.

Пра паэта Шмета-Палачанскага і пра «даўгінаўскі пагром» у справе, на жаль, нічога не было, а ўвогуле цікавага адкрылася шмат.

Вось хаця б назва маёнтка — Чырлёны. Ці няма тут нейкай сувязі з радаводам літоўскага мастака і кампазітара Чурлёніса. А што, калі яго далёкія вытокі-карані — таксама з беларускай зямлі? Трэба будзе гэтым пацікавіцца. Тым больш што пра дачыненне Чурлёніса да Беларусі, пра сувязі яго з Купалам ужо пісаў наш друк…

А самае нечаканае — па гэтай жа справе праходзіў блізкі зямляк Палачанскага дваранін Калікст Гурыновіч, які таксама ў маі 1863 года трапіў пад арышт за садзеянне паўстанцам. Перад намі, несумненна, бацька Адама Гурыновіча, хоць у біяграфіях паэта мне такога важнага факта з сямейных хронік сустракаць не даводзілася.

На допытах Гурыновіч назваў сябе дваранінам Полацкага павета Віцебскай губерні (маецца на ўвазе паходжанне, а не месца жыхарства). 31 год. Выхавання хатняга. Жыве ў Крыстынопалі Свянцянскага павета, які належаў яму разам з братам Абдонам. Апошні служыў тады камісарам у маёнтку генерала Хамінскага тут жа ў павеце і ў Крыстынопалі бываў, відаць, толькі наездамі. Але тут жылі яго жонка і жончын брат Юхневіч.

Аказваецца, што Крыстынопаль знаходзіўся за нейкія пяць-шэсць вёрстаў ад вёскі Любкі, дзе паўстанцы па-геройску біліся з карнікамі. Паводле паказанняў сялян з суседняй вёскі Золькі (успамінаецца верш Адама Гурыновіча «Раз у Зольках, у дзярэўні…»), Калікст Гурыновіч прымаў у сваім доме мяцежнікаў і збіраў для іх у вяскоўцаў хлеб. А швагер Юхневіч перад боем пад Любкамі вазіў паўстанцам хлеб і малако. Да таго ж потым — па другой справе — адкрылася, што той жа Юхневіч хаваў у сябе цэлы невялікі хатні арсенал — дзве стрэльбы. Навошта яны яму ў такі неспакойны час, калі даўно ўжо загадана ўсю зброю здаць у царскія цэйхгаўзы?..

Крыстынопальскага пана Калікста разам з Андрэем Палачанскім судзіў ваенны суд у Вільні. Але вось жа неяк пашчасціла — адпусцілі на парукі.



Прайшло некалькі гадоў, і недзе па суседстве падрасла Элеанора з слаўнага (казалі нават — гетманскага) роду Сяняўскіх. Ды і Гурыновічы радавітасцю не падкачалі. Іх род (была там нейкая татарская крывінка) вядомы з часоў Скарыны, пячатаваўся гербам Праўдзіц. Пасля шлюбу зажылі ў пасажных Кавальках каля Слабады. Тут услед за першынцам Юзюком нарадзіўся на пачатку 1869 года будучы паэт Адам Гілярый. Потым перабраліся на сталае жыццё ў Крыстынопаль. Сям'я расла. У 1876 годзе вельмі заўчасна (відома, не дадаў здароўя і арышт часоў паўстання) бацька перайшоў у лепшы свет, пакінуўшы маладую (28 гадоў) удаву з кучай малечы (чатыры хлопцы і дзве дзяўчынкі). Усім ім давялося прайсці нялёгкую жыццёвую школу. Не ўсім пашанцавала. Вялікага дастатку не было. Гэта ж факт, што Адам падчас вучобы ў сырым, дажджыстым Пецярбургу хадзіў у дзіравых ботах. У 1903 годзе дабравольна пайшоў з жыцця малодшы брат Станіслаў. Але першай балючай стратай сям'і быў Адам. Ён стаў беларускім паэтам, збіральнікам народнай мудрасці, свядомым змагаром за сацыяльную справядлівасць, за разняволенне народаў. І яго вельмі рана скасіла злая хвароба. Вельмі рана — у 1894 годзе — у Крыстынопалі побач з магілай бацькі вырас свежы грудок зямлі — апошні прытулак сына-паэта.

Лічбы — як у нейкім люстэрку: 1863 — арышт бацькі, 1893 — сына.

Пры арышце ў Адама Гурыновіча разам з вершамі знайшлі нататкі пра паўстанне Кастуся Каліноўскага. Цяпер мы ведаем, што традыцыі 1863 года былі для яго вельмі канкрэтнымі, глыбока асабістымі, выраталі непасрэдна са звыклых сямейных хронік і апавяданняў.

## У КУШЛЯНАХ

Старадаўняе, апетае нашымі паэтамі сямейнае гняздо Багушэвічаў. Як сведчаць дакументы, далёкія продкі паэта валодалі Кушлянамі яшчэ ў першай палове XVIII стагоддзя, бацька Францішка Казіміравіча быў афіцыйна ўведзены ва ўладанне гэтым маёнткам у 1837 годзе. Жыла сям'я Казіміра Восіпавіча тады бліжэй да Вільні — у Свіранах. Паводле архіўных метрычных запісаў аб хрышчэнні дзяцей Казіміра Восіпавіча можна меркаваць пра час пераезду ў Кушляны. Для даследчыкаў гэта своеасаблівая «жывая храналогія». У Свіранах нарадзіліся сыны-блізняты Анастас і Нарцыз (1836, відаць, хутка памерлі), дачка Ганна (1838), сыны Францішак (1840) і Валяр'ян (1841). А вось малодшы брат Францішка Апалінар нарадзіўся ўжо ў Кушлянах у 1846 годзе. Выходзіць, у гэтае пяцігоддзе паміж 1841 і 1846 гадамі сям'я і перабралася ў Кушляны. Тут прайшло дзяцінства Францішка, адбылося

станаўленне яго як асобы. Паступова ўсё шырэй адкрываўся яму свет, але пачаткам усіх пачаткаў заставаліся Кушляны. Тут ад бацькоў ды хатніх настаўнікаў навучыўся першым азам граматы.

Адсюль у 1852 годзе ён разам з братам Валяр'янам паехаў у Вільню, паступаць у таямнічую для вясковых хлапчукоў гімназію. Сюды, у родны дом, прыязджаў на святы і канікулы, каб уволю пагойсаць з сябрукамі па ўсім наваколлі, сцішыцца ў запаветных мясцінках. Тут паступова зараджаліся сур'ёзныя інтарэсы, думкі пра гісторыю роднага краю, лёс народа. Як высветліў Генадзь Каханоўскі, у 1856 годзе гімназіст Францішак Багушэвіч перадаў у Віленскі музей старажытнасцей розныя цікавыя рэдкасці — нейкі старажытны гадальнік, акамянелую ракавіну, выкапанае недзе гарматнае ядро бог ведае якіх часоў, пазелянелыя манеты. Быў сярод гэтых прадметаў і крыж са славянскім надпісам, знойдзены ў Ашмянскім павеце, трэба думаць, у кушлянскіх ваколіцах.

З Кушлян у 1861 годзе Багушэвіч выбіраўся ў сталічны ўніверсітэт. І неўзабаве вярнуўся перапоўнены пецярбургскімі навінамі. Яго апавяданняў пра студэнцкія хваляванні хапіла надоўга. Галоўнае ж — ён прывёз пераканананасць, што ўся краіна ўздымаецца на барацьбу з самаўладствам. На нейкі час паэт уладкаваўся настаўнікам у суседнім Лідскім павеце, каб несці ў народ слова навукі і праўды. Вялікія падзеі, звязаныя з імем Кастуся Каліноўскага, не абмінулі і Кушляны. Сюды патаемнымі канспіратыўнымі каналамі трапляла «Мужыцкая праўда». У 1863 годзе Кушляны сталі своеасаблівым апорным пунктам паўстанцаў. «У Кушляны ідзіце смела», — цвёрда ведалі знясіленыя і згаладалыя байцы паўстання, што туляліся па восеньскіх золкіх навакольных лясах. Яны ведалі: тут не выдадуць, накормяць, прытуляць і падбадзёраць. Улады арыштавалі старога Казіміра, Ганну і Апалінара, расшуквалі Францішка і яго брата Валяр'яна, таксама паўстанца. Маёнтак на нейкі час быў секвестраваны. Існуе легенда, што ў памяць аб гэтых падзеях Францішак са сваімі блізкімі пабудаваў тут капліцу.

Толькі праз дваццаць гадоў вярнуўся Францішак Казіміравіч на радзіму. Уладкаваўся адвакатам у Вільні і зноў пачаў наведвацца ў родныя Кушляны. Якраз у лістападзе 1884 года памёр бацька, равеснік бурлівага (а зрэшты, якое стагоддзе небурлівае?) стагоддзя. Да моманту смерці Казіміра Восіпавіча ў маёнтку заставалася зямлі ворнай, лясной, сенакоснай і непрыдатнай — 170 дзесяцін. Акрамя таго, каля 69 дзесяцін было ў агульным валоданні з суседнімі дробнымі памешчыкамі — Маркоўскімі, Ясевічамі і Кулешамі. У адпаведнасці з законамі, Віленскі акруговы суд пастановай ад 17 сакавіка 1886 года размеркаваў спадчыну: 1/14 частка — Ганне і па 13/28 — Францішку і Апалінару. Доўгі час спадчыннікі валодалі Кушлянамі супольна. Для Францішка Кушляны былі любімым



месцам адпачынку пасля ўсіх адвакацкіх і іншых віленскіх клопатаў. Тут ахвотней за ўсё яго наведвала паэтычная муза.

У 1896 годзе пісьменнік атрымаў някепскую суму грошай пасля нейкага сваяка. Гэта, успамінае сябар, дазволіла яму здзейсніць мары ўсяго жыцця. «Гэта значыць кінуць занятак дзеля хлеба, асесці на айчынным загоне і цалкам аддацца працы для сваёй зямлі і сваіх суайчыннікаў. Неўзабаве ён ачышчае спадчынны маёнтак Кушляны… разлічваецца з братамі і сястрой і аднаўляе гаспадарку, на працягу шэрагу гадоў знішчаную арандатарамі. Будуе сваю хату…»[158]. Гэта тая самая хата, якая цудам захавалася да нашых дзён. Выходзіць, ёй зараз пад сто гадоў. Яна тым больш дарагая нам, што пабудавана пад наглядам самога пісьменніка, адлюстроўвае яго ўяўленні пра тое, якім павінен быць дом вясковага інтэлігента.

«Ачысціць» спадчыну — значыць разлічыцца з іншымі спадкаемцамі або прэтэндэнтамі. Па дакументах вядома, што акт аб падзеле маёнтка быў складзены ў лютым 1898 года. Згодна з гэтым актам да Ганны, якая жыла сваёй сям'ёй, адышло каля 19 дзесяцін. Францішак выплаціў Апалінару больш за 2 з паловай тысячы рублёў гатоўкай і атрымаў усю астатнюю частку Кушлян — 151 дзесяціну бясспрэчнай зямлі і 69 спрэчнай. Незадоўга перад гэтым (трэба ж такому здарыцца) пісьменнік цяжка захварэў, што паскорыла яго ад'езд у Кушляны. Адпаведная заява ў камісію адвакатаў пры Віленскім акруговым судзе датавана 20 мая 1898 года. У заяве ён паведаміў свой новы сталы адрас: «Ст. Солы (Віленскай) праз м. Жупраны ў маёнт. Кушляны». Захаваліся рэдкія здымкі Багушэвіча ў Кушлянах. Дайшлі да нас цёплыя ўспаміны аб ім кушлянскіх сялян. Аб яго дабрыні, прастаце і даступнасці хадзілі легенды. Яго вершы ведалі на памяць многія кушлянцы. Яшчэ нядаўна руплівы Уладзімір Содаль запісаў у Кушлянах зусім невядомы сатырычны верш Багушэвіча «Пан і блыха».

У Кушлянах пісьменнік нарэшце змог аддацца працы над беларускім слоўнікам. Ён заўсёды насіў з сабой чыстыя карткі, куды заносіў пачутыя новыя словы і формы. Паводле ўспамінаў Зыгмунта Нагродскага, у гасцях у пісьменніка бываў вялікі сябар беларускай культуры Ян Карловіч. І яшчэ адно прозвішча сярод кушлянскіх гасцей называе Нагродскі — сынаў настаўнік з Вільні Панамароў. Да апошняга часу пра яго нічога не было вядома, нават ініцыялаў. У архіве (ДГА Літвы. Ф. 567. Воп. 12. Спр. 1700а) удалося высветліць: Іосіф Мікалаевіч Панамароў. Маладзейшы за Багушэвіча. Нарадзіўся каля 1852 года. Паходзіў з разначынцаў — сын святара. Здольны матэматык. У свой час з сярэбраным медалём скончыў Харкаўскі ўніверсітэт. Выкладаў у Свіслацкай настаўніцкай

---

158 Пачынальнікі. С. 425.

семінарыі, а з 1879 года ў Віленскім рэальным вучылішчы, дзе вучыўся сын Багушэвіча Тамаш. Быў да таго ж класным настаўнікам і бібліятэкарам вучылішча. Меў па службе даволі высокі чын стацкага саветніка. Як вядома, сам Багушэвіч такога чыну за ўсю шматгадовую службу не атрымаў. У той жа час рэдкае абаянне прыцягвала да яго самых розных людзей. З Панамаровым пісьменніка маглі звязваць успаміны пра Украіну, любоў да літаратуры. Нават тая ж матэматыка была чымсьці цікавая Багушэвічу — пасля гімназіі ён, як мы помнім, выбраў спачатку матэматычны факультэт і толькі потым спыніўся на юрыспрудэнцыі. Галоўнае ж, што звязвала з Панамаровым, — клопат пра позняга сына Тамаша, які акурат у 90-я гады дасягнуў школьнага ўзросту. Цікава, што Панамароў быў некалі таксама настаўнікам Адама Гурыновіча, які скончыў вучылішча ў 1887 годзе, яшчэ да паступлення туды Тамаша. «Дзякуй табе, Бурачок Мацею…» — напісаў у свой час Гурыновіч. Цяпер мы ведаем, што пра Гурыновіча Багушэвіч мог успамінаць у размовах з настаўнікам Панамаровым.

…Між тым хвароба абвастралася. Багушэвіч не выходзіў ужо з дому, не здымаў са сцяны выпрабаваную паляўнічую стрэльбу. Сябру Адаму Карповічу ён пісаў у кастрычніку 1899 года: «Вось другі месяц ляжу ў ложку, апух, баляць ныркі. Сумна мне, што не маю ніякіх звестак пра тое, што робіцца ў Вільні…» Другому віленскаму сябру — Зыгмунту Нагродскаму — прыслаў з Кушлян журботны верш:

Дагарае рэшта вецця
У пячурцы ў хаце.
І гаворыць нешта ў сэрцы:
Так і з табой, браце…

15 красавіка 1900 года Багушэвіча не стала. Дом у Кушлянах помніць яго радасці і пакуты, яго жывы голас, цеплыню яго рук.

## ДЫК ДЗЕ Ж ХРЫСЦІЛІ КУПАЛУ?

У № 5 «Беларусі» за 1991 год апублікаваны матэрыял Віктара Шніпа «Тут хрысцілі Янку Купалу». У маленькім эсэ прыведзена мясцовае паданне, нібыта Купала хрышчоны ў дубраўскім касцёле непадалёк ад Вязынкі. Між тым месца хрышчэння вялікага беларускага паэта дакументальна вядома. Яно зафіксавана ў метрычным запісе.

Найперш два словы пра метрыкацыю (метрычныя запісы) наогул.

Жыццё кожнага чалавека, яго прысутнасць на зямлі так або інакш дакументуецца. У розныя эпохі і ў розных выпадках па-рознаму, але дакументуецца абавязкова. Першы дакумент кожнай жывой душы — метрычны запіс аб нараджэнні. Сучаснае міжнароднае права патрабуе: «Кожнае дзіця павінна быць зарэгістравана адразу пасля яго нараджэння і павінна мець імя» (Беларусь. 1991. № 3. С. 5). Бачыце, як сур'ёзна (успамінаецца сакраментальнае: «І каго не знаходзілі запісанага ў кнізе жыцця…»). Нашы продкі ведалі гэта даўно. Спрадвеку ў царквах і касцёлах адбывалася таінства хрышчэння, рабіліся адпаведныя запісы ў метрычных кнігах. Цяпер метрыкацыя ўскладзена на органы ЗАГСа. Кожны мае метрыку. Гэты звычайны юрыдычны дакумент набывае гістарычнае, а то і агульнанацыянальнае значэнне, калі фіксуе нараджэнне чалавека выдатнага.

Доўгі час метрыка Янкі Купалы не была вядомая купалазнаўцам. Помню, яшчэ ў 60-я гады, калі я жыў і працаваў у Вільнюсе, да мяне звярталася Ж. Дапкюнас (пазней стала дырэктарам Літаратурнага музея Купалы) з просьбай параіць, як адшукаць Купалаву метрыку. Але тады мы так і не змаглі даць рады. Ішоў час. Да стагоддзя паэта ў Інстытуце літаратуры АН Беларусі рыхтаваўся зборнік дакументаў і матэрыялаў пра Купалу. Дужа хацелася ўключыць у зборнік і метрыку. Як тут было падступіцца?

Я падоўгу займаўся тады ў чытальнай зале нашага гістарычнага архіва па вуліцы Казлова, штудзіраваў ёмістую радаводную справу Луцэвічаў, старанна вывучаў і супастаўляў біяграфічныя звесткі. Паступова складваўся план аперацыі «Метрыка».

Паэт нарадзіўся ў Вязынцы колішняга Мінскага павета. Матэрыялы былой Мінскай каталіцкай епархіі зберагаюцца ў архіве на вуліцы Казлова, але метрычных кніг 1880-х гадоў па Мінскім павеце там не было. Можа, яны яшчэ не перададзены ў Дзяржаўны гістарычны архіў? Заходжу ў спецыяльны архіў ЗАГСа на плошчы Свабоды ў старадаўнім доме з мемарыяльным знакам у гонар нямецкага антыфашыста Шменкеля. Загадчык паведамляе, што метрычная дакументацыя ўказанага перыяду не захавалася — згарэла разам з даваенным архівам ЗАГСа ў першыя дні вайны. Сэрца ў мяне ўпала — відаць, шукаць паэтаву метрыку безнадзейна.

Але звяртала на сябе ўвагу адна цікавая, надзвычай цікавая памылка або недакладнасць, якая ўпарта паўтаралася ў аўтабіяграфіях Купалы: ён пісаў звычайна, што нарадзіўся ў Вілейскім павеце. А гэта ўжо іншая губерня і нават епархія — Віленская. Справа ў тым, што Вязынка належала да Мінскага павета, але знаходзілася на самай мяжы — скажам, зусім недалёкія Радашковічы былі ўжо Вілейскага павета. А што, калі малога Янку зарэгістравалі ў адным з касцёлаў суседняга Вілейскага павета?

Даведаўся, што метрычная дакументацыя беларускіх паветаў былой Віленскай епархіі захоўваецца ў Цэнтральным гістарычным архіве ў Гродне. (Яна зберaглася таму, што ў вайну знаходзілася ў Вільнюсе і толькі ў пасляваенны час перададзена ў Беларусь.) Інстытут

літаратуры па маёй просьбе напісаў туды афіцыйную адносіну, каб архівісты пашукалі запіс пра нараджэнне паэта ў метрычных кнігах Радашковіцкага і суседніх касцёлаў.

І вось жа — вельмі хутка гродзенскія архівісты прыслалі копію метрыкі наступнага зместу:

| Фамилия окрещенного | № | Счет родившихся | | Числа | | Когда, где, кто и кем, одною ли водою или со всеми обрядами таинства окрещен | Какого сословия и общества, каких родителей, когда и где, т. е. в каком приходе родился крещенный | Кто были по имени и прозванию восприемники при св. крещении и кто присутствовал | Рукоприкладство свидетелей записи по желанию |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | мужеска пола | женска пола | рождения | крещения | | | | |
| Луцевичей | Месяц июль[159] | | | | | Тысяча восемьсот восемьдесят второго года июля двенадцатого дня в Радашковичском р[имско]-к[атолическом] приходском костеле окрещен младенец по имени Иван кс. Станиславом Сульжинским, вилейским деканом, с совершением всех обрядов таинства. | Дворян Доминика и Богумилы с Волосевичей Луцевичей за[конных] супр[угов], сын, родившийся 25 июня сего года в имении Вязынке. | Восприемниками были Иосиф Банцаревич с Олимпиею Замбржицкою. | |
| | 68 | 38 | — | 25 [июня] | 12 | | | | |

Вось так цікава выглядаў у тыя часы метрычны запіс. Такім чынам, аказалася, што Купалу сапраўды хрысцілі ў Радашковічах. Паэт заўсёды помніў пра гэта, таму і гаварыў пра сваё нараджэнне ў Вілейскім павеце.

Упершыню метрыка паэта надрукавана ў зборніку дакументаў і матэрыялаў «Пуцявінамі Янкі Купалы» (1981). Сёння мы палічылі не лішнім зноў падаць поўны яе тэкст на мове арыгінала для агульнага азнаямлення.

Цяпер на касцёл у Радашковічах мы глядзім ужо іншымі вачыма, яго гістарычная, мемарыяльная каштоўнасць нязмерна вырасла — тут хрысцілі самога Купалу.

Давайце ўсяляк павернем яшчэ паэтаву метрыку, прыгледзімся да яе з розных бакоў. Апрача дакументальнага пацвярджэння важных фактаў жыцця паэта (нарадзіўся 25 чэрвеня старога стылю 1882 года

[159] Месяц, калі рабіўся запіс.



ў Вязынцы, хрышчоны 12 ліпеня ў Радашковічах ксяндзом Станіславам Сульжынскім), яна дае нямала іншага матэрыялу для роздуму. Вось, напрыклад, бацькі Купалы запісаны ў гэтым дакуменце дваранамі, хоць Луцэвічы яшчэ ў 60-я гады XIX стагоддзя былі вымушаны запісацца ў мяшчане, а ў 70-я гады, яшчэ да нараджэння Купалы, спынілі барацьбу за прызнанне іхняга роду ў дваранстве. Бо ведалі: тут нічога не дакажаш. Але метрыка сведчыць, што бацькі паэта ўнутрана былі нязгодныя з гэтым рашэннем царскага ўрада, па-ранейшаму лічылі сябе дваранамі. І што самае галоўнае — іхнія суседзі таксама так лічылі (вось і ксёндз так запісаў, і кумы не пярэчылі). Гэта гаворыць аб пэўнай апазіцыйнасці асяроддзя Луцэвічаў да царскага ўрада. Прынамсі, урадавую палітыку ў адносінах да дробнай шляхты Беларусі гэтае асяроддзе лічыла несправядлівай. Цікава, што кумою запісана Алімпія Замбржыцкая, жонка ўладальніка Вязынкі. Гэта таксама сведчыць аб пэўным псіхалагічна-культурным клімаце таго асяроддзя. Пэўна, меў рацыю Генадзь Каханоўскі, гаворачы, што ўладальнік Вязынкі Станіслаў Замбржыцкі быў неабыякім чалавекам, цікавіўся краязнаўствам, збіраў фальклор, здаралася, нават вершы па-беларуску пісаў.

Ёсць у метрыцы свае загадкі. Кум Іосіф Банцарэвіч — хто ён? Такой даведкі мы, на жаль, не знаходзім у Купалаўскай энцыклапедыі. Або маці паэта Бянігна Іванаўна запісана ў метрыцы Багумілай. Памылка гэта або прыведзена яе другое, не вядомае па іншых крыніцах імя?..

Дый чаму ўсё-такі бацькі Купалы, жывучы ў губерні Мінскай, павезлі хрысціць свайго першынца ў суседнюю Віленскую губерню? Магчыма, з'яўляецца думка, межы губерняў і епархій не супадалі і жыхары Вязынкі былі прыпісаны да Радашковіцкай парафіі. Але ж гэтаму супярэчыць добра вядомы даследчыкам і краязнаўцам польскі «Слоўнік геаграфічны» канца XIX стагоддзя, амаль равеснік нашага Купалы. Там сцвярджаецца, што жыхары Вязынкі належалі тады да Ракаўскай парафіі. Так што, мабыць, тут крыецца нешта іншае…

Ва ўсім гэтым трэба разабрацца.

А што да падання, нібыта Купалу хрысцілі ў дубраўскім касцёле, — нечым яно мне сімпатычнае. Спрачаліся ж сем, ці колькі там, гарадоў старажытнай Грэцыі за гонар называцца радзімай Гамера[160].

[160] Трэба дадаць яшчэ: нейкія сумненні наконт месца нараджэння былі, відаць, і ў самога Купалы. Бо як жа інакш разумець яго загадкавую «Эпіграму на самога сябе» (зб. «Спадчына», 1922):

Завуць мяне Янук Купала,
З бяды я песенькі складаю,
Пазнаў людзей і свет ці мала,
Вось дзе радзіўся, дык не знаю!

# АЛЬБЕРТ ПАЎЛОВІЧ — СЛУЖАЧЫ ЧЫГУНКІ

А чаму б нам не зазірнуць у асабістую справу паэта-нашаніўца Альберта Паўловіча ў архіве Лібава-Роменскай чыгункі? Ляжыць яна нягледжаная, нечапаная ў гістарычным архіве на вуліцы Казлова (Ф. 2414. Воп. 1. Спр. 42). На чатырох старонках запоўненага друкаванага бланка ў кароткай форме змясцілася ўся яго службовая кар'ера за дваццаць з нечым гадоў, адлюстраваліся некаторыя важныя бакі сямейнага жыцця.

Першая старонка — «Прыёмны ліст» — эканомна аб'ядноўвае заяву аб прыняцці на службу і асноўныя анкетныя звесткі. 13 ліпеня 1894 года дваранін Альберт Іосіф Францавіч Паўловіч афармляецца на чыгунку канторшчыкам галоўнай бухгалтэрыі. Гэта першая яго служба, яму ўсяго 18 гадоў, каталік (пра гэта сведчыць і набор імёнаў), скончыў Мінскае гарадское чатырохкласнае вучылішча. Вялікая, не тое што ў нашы часы, сям'я: бацька, маці, тры сястры, два браты.

Вось гэтая сям'я, якая ледзь-ледзь зводзіла канцы з канцамі, і падвяла хлопца, закрыла яму дарогі. Ён быў надзвычай здольны, выдатна маляваў, і ўжо была дамоўленасць з вельмі прэстыжным Строганаўскім вучылішчам, што возьмуць туды на казённы кошт. Але давялося пайсці на службу, каб памагаць сям'і. Усё гэта засталося за рамкамі асабістай справы, як і тая акалічнасць, што Альбертаў бацька быў таксама чыгуначнікам, так што выбар юнака (а хутчэй, усёй сям'і) як бы загадзя прадвызначаўся.

І вось хлопец зрабіўся маленькай шрубкай агромністай адладжанай машыны, каля якой кармілася мноства людзей. Дарэчы, у гэты самы час ва ўпраўленні Лібава-Роменскай чыгункі, праўда ў іншым структурным падраздзяленні — у службе цягі, працаваў другі беларускі паэт, адзін з пачынальнікаў нацыянальнай літаратуры XIX стагоддзя Янка Лучына, у жыцці — інжынер-пуцеец Іван Люцыянавіч Неслухоўскі, не надта здаровы чалавек, які пры хадзьбе карыстаўся кіямі. Паўловіч мусіў яго хаця б здалёку ведаць, магчыма, па-каляжанску ўдзельнічаць у яго пахаванні ў ліпені 1897 года.

Але вернемся да асабістай справы. На другой і трэцяй старонках — фармулярны спіс, які зафіксаваў усе змены-перамены па службе за два дзесяцігоддзі. Паціху, але няўхільна Паўловіч пасоўваўся наверх. Чатыры гады быў простым канторшчыкам, праўда, яго аклад за гэты час вырас з 240 да 480 рублёў у год. Далей рахункавод з акладам 540, а потым 960 рублёў. У 1911 годзе зрабіўся старшым рахункаводам. Гэта па тым часе даволі вялікая пасада з гадавым акладам 1200 рублёў (столькі, як мы бачылі, атрымлівалі разам пяцёра маладых канторшчыкаў-пачаткоўцаў). Нарэшце, з наступнага года ён справавод галоўнай бухгалтэрыі з акладам



1500 рублёў. Службовыя поспехі Паўловіча былі адзначаны таксама сярэбраным медалём на станіслаўскай стужцы і ордэнам Святога Станіслава, якім узнагароджваліся за выслугу гадоў цывільныя чыноўнікі. З фармулярнага спіса са здзіўленнем даведваемся, што Паўловіч усяго толькі тройчы за ўвесь гэты час быў у адпачынку. У куточку алоўкам пазначана, як змянялася яго сямейнае становішча, як хутка расла яго сям'я (і ў гэтым сэнсе Паўловіч не ганіў сямейных традыцый). Усё ішло сваім парадкам:

Шлюб 8/1 1898 г. (успамінаецца — у 1923 годзе на сярэбраным вяселлі Паўловічаў быў Купала з жонкай, падарыў сярэбраныя чаркі, якія цяпер можна бачыць у Купалаўскім музеі).

Уладзя 24/X 1898 г. (дачка Уладзіслава).

Сева 23/VI 1900 г. (сын Севярын).

Муся 13/V 1906 г. (дачка Тамара, аўтар цікавых успамінаў пра бацьку і Купалу).

Яня 2/III 1908 г. (любіміца Купалы, які прысвяціў ёй верш «Для Янінкі»).

І яшчэ мільганула Кася (1907 год?), згадкі пра якую потым не сустракаюцца…

Абмінаем ардынарныя вынікі медычнага агляду 1898 года (4-я старонка). Зазначым толькі, што ў справе акуратна фіксаваўся кожны зварот да доктара (відаць, чыгуначнага) — яе вялікасць Дарога пільна (і, вядома ж, небескарыслівa) сачыла за здароўем сваіх людзей. У справе ёсць яшчэ некалькі ўласнаручных прашэнняў (дакладных запісак), якія паказваюць, як цяжка паэту даводзілася працаваць, як умела Дарога выціскаць сілы са сваіх работнікаў. Некаторыя аўтографы Паўловіча, дарэчы, могуць служыць узорам каліграфіі. Тут рэалізоўваліся, знаходзілі выйсце немалыя мастацкія здольнасці. У гэтых адносінах ён мог бы смела спаборнічаць з другім выдатным беларускім дзеячам — Браніславам Эпімах-Шыпілам, які любоўна, літарка за літаркай, як той Багдановічаў перапісчык, заносіў на паперу недрукаваныя творы роднай літаратуры, нястомна папаўняючы сваю неацэнную «Беларускую хрэстаматыю». Гэта ўспомнілася мне, калі гартаў справу Паўловіча. Ну і, зразумела, бачыцца цяжкая чыноўніцкая праца, кожны дзень з ранку да вечара адно і тое ж. Узяць хаця б дакладную запіску ад 24 ліпеня 1906 года:

> «Начиная с 10 ноября 1905 г., когда мне приходилось выполнять некоторые поручения б. Начальника дороги С. В. Мошкова, касающиеся составления сметы на 1906 г., вплоть до настоящего времени я занимался работою по смете, одновременно в урочные часы занятий исполняя свою текущую работу и подготовляя материал для заключения годового отчета, т. к. моя работа никому не была поручена. Почти беспрестанная, напряженная и постоянно

спешная работа, в продолжение почти 8 месяцев, сильно изнурила меня, и я чувствую крайнее преутомление. Ввиду вышеизложенного имею честь покорнейше просить ваше высокородие не отказать в исходатайствовании пред г. Начальником дороги мне месячного отпуска с сохранением содержания, присовокупляя при этом, что я служу на дороге ровно 12 лет и за все это время (месячным) отпуском воспользовался только один раз в 1903 году.

*Счетовод А. Павлович*».

Або яшчэ — 1908 года:

«В течение целого ряда лет, начиная с 1899 г., и по настоящее время я выполняю все работы по делопроизводству г. Члена Совета от М[инистерст]ва Финансов инженера Датиева (переписка и ведение корреспонденции); при этом во избежание ущерба моим прямым служебным обязанностям эти работы приходится исполнять исключительно в неурочное время».

І яшчэ, і яшчэ. Міжволі пытаешся ў самога сябе: адкуль браліся ў яго сілы, як выкройваў ён час на працу душы, на творчасць, на вершы, мастацтва?..

Пачалася вайна. Мінск зрабіўся прыфрантавым горадам. У снежні 1915 года справавод А. Ф. Паўловіч (почырк ужо не такі каліграфічны, хоць і выпрацаваны, па-свойму прыгожы) просіць дзесяцідзённы водпуск «для свидания с семьею, эвакуированною в г. Тамбов с 30 августа с. г.». Успамінаецца з гэтай нагоды, што тады ж, у жніўні 1915 года, эвакуіравалася і Вільня, падаўся ў сумную дарогу Янка Купала, у сувязі з чым перастала выходзіць «Наша ніва». Нейкі час у вайну Паўловіч, апрача асноўнай працы на чыгунцы, загадваў яшчэ канцылярыяй асобаўпаўнаважанага Расійскага таварыства Чырвонага Крыжа (тады, як грыбы пасля спорага дажджу, раслі ўсялякія напаўвайсковыя грамадскія арганізацыі, камітэты, саюзы)…

І яшчэ, хоць непасрэдна да Паўловіча гэта ўжо не мае адносін, уразіў надпіс архівіста 20-х гадоў у канцы строгай, стэрыльна аднастайнай што да мовы папкі. Па-беларуску:

«Усяго ў гэтай справе пранумераваных шэстнадцать лістоў. Алесь Шаподскі. 24 чэрвеня 1923. г. Менск».

Арфаграфія нявытрыманая, беларусізацыя яшчэ толькі пачыналася.



# ВЛАСТ
## Першае набліжэнне

О, Крыўская зямля!
О, волатаў нашчадкі!..

*В. Ластоўскі*

Зараз
Амаль кожны дзень
Вяртаюцца ў свой Пантэон Беларусі
Васкрослыя цені герояў…

*М. Танк*

Сярод высокіх імёнаў, вернутых Часам нашай гісторыі і культуры, — Вацлаў Ластоўскі. Калі я вырашыў пазнаёміцца з яго жыццяпісам, высветлілася, што зрабіць гэта не так і лёгка. У нас імя Ластоўскага ўспаміналася зрэдчасу толькі хіба ў адмоўным сэнсе, каб лішні раз аблаяць. Дзе можна, стараліся выкінуць зусім. Славуты верш Багдановіча «Ліст Ластоўскаму» (адчуваецца, адрасат натхніў паэта на вельмі высокія думкі) ператварыўся проста ў «Ліст…», але ў самім тэксце характэрнае імя заставалася (відаць, усё ж праўду гавораць — з песні слова не выкінеш):

Хоць значыць гэтае несць у Афіны совы,
Усё ж такі пішу да вас, Вацлаве, словы
Нясмелага ліста.

Зазірнуў я і ў эмігранцкую прэсу. Там таксама было нягуста — даволі павярхоўныя юбілейныя артыкулы. Усё ж такі па кропельцы, па каліўцу сабраўся матэрыял для першага знаёмства.

Перадусім здзівілі шматграннасць інтарэсаў і дзейнасці, нязбыўная энергія. На ўсё яго хапала, усюды сказаў важкае слова. Вядомы гісторык, таленавіты публіцыст, адметны пісьменнік, літаратуразнавец. А яшчэ кнігазнавец, лексікограф, журналіст, грамадска-палітычны дзеяч, арганізатар навукі. Усяго так многа — можа, што я незнарок і прапусціў.

Дзеяч Нашаніўскай Пары (хочацца пазначыць гэтую эпоху вялікімі літарамі), ён належаў да таго пакалення волатаў, што вырвалі Беларусь з гістарычнага небыцця і ўзнялі на сваіх плячах, да пакалення Купалы і Коласа — ён амаль іхні равеснік. Нарадзіўся 20 кастрычніка (1 лістапада)

1883 года ў былым засценку Калеснікі Дзісенскага павета Віленскай губерні. Цяпер гэта Міёрскі раён Віцебскай вобласці. Бацькі Юстын і Ганна Ластоўскія (гэтае прозвішча сустракаецца і сярод удзельнікаў паўстання Каліноўскага) паходзілі з дробнай беззямельнай шляхты, усё жыццё рвалі жылы на арандаванай зямлі. «Мой бацька — земляроб, дзед — каваль, а прадзед — бортнік», — вызначаў Вацлаў Юстынавіч свой радавод (пісьмо да А. Багдановіча ад 22 мая 1934 года)[161].

І вось на якое дзіва адразу мімаволі звяртаеш увагу — закончанай адукацыі будучаму нашаму акадэміку атрымаць не ўдалося. Першай граматай авалодаў дома. Скончыў на радзіме Пагосцкую пачатковую школу. Ёсць звесткі, што нейкі час вучыўся ў Дзісенскім павятовым вучылішчы, працаваў хлопчыкам на паслугах у віннай краме ў Вільні, канцылярыстам-пісарчуком у Шаўлях (Шаўляй, Літва). Потым, нібы ў казцы, трапіў у тлумны стольны Пецярбург, уладкаваўся там бібліятэкарам у студэнцкую бібліятэку і адначасова, як успамінаў у адным з аўтабіяграфічных лістоў, «зайцам» наведваў лекцыі ва ўніверсітэце[162]. Быў чуйны ён і да грамадска-палітычных павеваў эпохі. Дзевятнаццацігадовым юнаком уступіў у Польскую сацыялістычную партыю ў Літве (ППС у Літве), якая праводзіла сваю работу і ў заходняй частцы Беларусі. Неўзабаве ажаніўся з літоўкай Марыяй Іваноўскай (Іванаўскайтэ; 1872–1957), якая працавала тады ў Пецярбургу швачкай, а рэшту часу прысвячала чытальні польскіх сацыялістаў, дзе, відаць, Вацлаў яе і згледзеў. Парадкам старэйшая за нашага хлопца дзяўчына мела літаратурны талент, выступала ў польскім друку, пазней пісала па-літоўску пад агульным са старэйшай сястрой Соф’яй псеўданімам Лаздзіну Пяледа, досыць у Літве шанаваным. Пасля жаніцьбы Вацлаў жыў то на жончынай радзіме ў Парагяй на поўначы Літвы (цяпер Акмянскі раён), то ў Рызе, дзе здабываў нялёгкую капейчыну самай празаічнай працай канторшчыка на таварнай чыгуначнай станцыі. У 1906 годзе спрабаваў у Рызе здаць экзамены на атэстат сталасці, але, паводле ўласных слоў, «зрэзаўся» на рускай мове, што прымусіла яго махнуць рукой на ўсе атэстаты і дыпломы і заняцца самаадукацыяй.

У гэты ж час ён, скажам Купалавымі словамі, «паслухаўся сэрца» і далучыўся да беларускага нацыянальнага грамадскага і культурнага руху, захапіўся ідэямі адраджэння роднай культуры. У 1906–1908 гадах уваходзіў у Беларускую сацыялістычную грамаду (БСГ). Яго хутка

[161] Пісьмы Ластоўскага да А. Багдановіча (бацькі паэта) захоўваліся ў Інстытуце літаратуры АН Беларусі, у 1992 г. перададзены ў Літаратурны музей М. Багдановіча.

[162] Гл.: Дварчанін І. Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры. Вільня, 1927. С. 293.



аценілі. З вясны 1909 года ён у Вільні, сакратар рэдакцыі «Нашай нівы» і загадчык першай беларускай кнігарні. Змяшчаў у «Нашай ніве» і іншых беларускіх выданнях шматлікія публіцыстычныя і крытычныя артыкулы, артыкулы пра мінуўшчыну, апавяданні, пазней — вершы. Збіраў і публікаваў матэрыялы па гісторыі беларускай літаратуры (хочацца вылучыць надзвычай багаты на факты артыкул «Памажыця!», 1913), этнаграфічныя і гістарычныя матэрыялы. У 1910 годзе выдаў «Кароткую гісторыю Беларусі» — першую папулярную абагульняльную працу па нацыянальнай гісторыі на беларускай мове. «Гісторыя — гэта фундамент, на каторым будуецца жыццё народа. І нам, каб адбудаваць сваё жыццё, трэба пачаць з фундамента, каб будынак быў моцны. А фундамент у нас важны, гісторыя наша багата…» — пранікліва пісаў ён у прадмове. Гэтыя словы надзвычай актуальныя і сёння.

Праз жонку Ластоўскі пазнаёміўся з многімі прадстаўнікамі літоўскага культурнага руху, што садзейнічала збліжэнню беларускай і літоўскай інтэлігенцыі. Кватэра Ластоўскіх на вуліцы Завальнай, 7 (цяпер № 5, там жа змяшчалася і беларуская кнігарня) стала своеасаблівым клубам, дзе збіраліся беларускія і літоўскія пісьменнікі, у тым ліку Я. Купала, Л. Гіра, Цётка, З. Бядуля, Ядвігін Ш. і многія іншыя. Утульна адчувала сябе тут, напрыклад, юная Канстанцыя Буйла і доўга помніла смачную каву з булачкамі, якімі заўсёды частавала яе гасцінная пані Марыя.

Жыццё падаравала Ластоўскаму сяброўства з Максімам Багдановічам, яны былі аднадумцамі. Вацлаў актыўна перапісваўся з выдатным паэтам і крытыкам, адарваным ад роднага краю, знаёміў яго з Вільняй падчас прыезду з Яраслаўля ў 1911 годзе, дапамог укласці і выдаць знакаміты «Вянок». Багдановіч, у сваю чаргу, высока цаніў Ластоўскага і яго творчасць, як ужо адзначалася, аднойчы прыслаў яму свой цудоўны верш «Ліст Ластоўскаму», напоўнены светлымі думкамі аб мастацтве. (Багдановіч узнімаўся ў ім у такія горнія сферы духу, тут было так многа мудрага і тонкага, што ў сваёй нізцы «Пяць вершаў для А.» Л. Дранько-Майсюк паэтычна пераасэнсаваў сітуацыю:

…Не ў Вільню — пісаў у Афіны
Да Вацлава нясмелы ліст.)

У Максімавай крытычнай спадчыне нямала згадак пра Власта (псеўданім Ластоўскага). Найчасцей гэта захапленне. У артыкуле «За тры гады» (1913) Максім Багдановіч пісаў: «Власт надрукаваў 3–4 рэчы, але кожную можна ўзяць за прыклад, як трэба пісаць»[163]. Адначасова Багдановіч адзначаў уплыў на Ластоўскага моднага тады мадэрнізму, не

[163] Багдановіч М. Поўн. зб. тв.: у 3 т. Т. 2. Мінск, 1993. С. 227.

даравaў і слабасцей. Працытуем артыкул «Глыбы і слаі» (1911): «Адзін толькі Власт здалеў даць у сваіх абразках нешта цэннае. На жаль, ён іншы раз даволі моцна нагадуе польскіх мадэрністаў (гл. “Мары”), у бытавых жа апавяданнях губіць лепшы бок свайго таленту — сумную паэтычнасць. Але бывае, што на апісаннях нашага шэрага жыцця адбіваецца лірычны пад’ём душы пісьменніка і ўплятае ў вянок нашай літаратуры свежы яркі цвяток…»[164].

Янка Купала прысвяціў Вацлаву і Марыі Ластоўскім верш «Песня званара» (1909) высокага патрыятычнага гучання, а выхад «Кароткай гісторыі…» паэт вітаў вершам «Дудар» (1910). Гісторык паўстае тут самавітым музыкам, цудоўная дуда якога, уваскрашаючы мінулае, яго вялікія і трагічныя старонкі, спявае пра

Гоман-славу, чорнай хваляй
Што збіралі курганы,
Белы косці, што гублялі
Беларускія сыны,

Што сабе кавалі путы,
Ў бітвах мручы за другіх…

Гісторыя павінна была падказаць, як сярод многіх магчымых шляхоў адшукаць свой — беларускі.

У літаратурных дыскусіях таго часу Ластоўскі заняў адметную эстэтычную пазіцыю, заклікаючы пісьменнікаў не забывацца пра красу жыцця. Крытыкай паслядоўнага рэвалюцыйна-дэмакратычнага кірунку (Я. Купала, Л. Гмырак) гэта было расцэнена як спроба прыглушыць сацыяльнае гучанне маладой беларускай літаратуры, хаця цяпер мы бачым у пазіцыі Ластоўскага і пэўную рацыю. Спрэчнымі былі некаторыя гістарычныя погляды Ластоўскага, адзначалася, у прыватнасці, што ён недаацэньваў тое агульнае, што было ў паходжанні і гісторыі беларускага і рускага народаў, а часам без пэўных рэальных і навуковых падстаў перабольшваў адрозненні паміж двума братнімі народамі. У нейкай меры гэта можна тлумачыць самой сітуацыяй, тымі задачамі, што стаялі перад Беларуссю. Спашлёмся на аўтарытэт вядомага спецыяліста ў галіне этнагенезу Льва Гумілёва, які адзначаў у адным з інтэрв’ю: «…самабытнае існаванне этнасу ў тым і заключаецца, што ён адрознівае сябе ад усіх астатніх. Так што супрацьпастаўленне — натуральнае. Трэба толькі, каб яно не ператваралася ў варожасць»[165]. Апошняя агаворка вельмі важная, прынцыповая.

[164] Тамсама. С. 191.
[165] Гумилев Л. Человечность превыше всего // Известия. 1989. 23 июня.



…На календары Гісторыі выстройваліся сваім парадкам гады — 1914-ы, 1915-ы… Сараеўскі стрэл парушыў хісткую гармонію свету. Паводле слоў паэта, «впервые за сто лет», з часоў Банапарта і Метэрніха, пачала змяняцца «таинственная карта» Еўропы. Наступіла вельмі суровая часіна выпрабаванняў, сацыяльна-палітычных і нацыянальных узрушэнняў, рэвалюцый, сусветнай і грамадзянскай войнаў. Для Ластоўскага гэта быў час напружаных шуканняў, адказных рашэнняў. Выпісваю звесткі пра яго крокі з розных, якія трапляліся, выданняў — неаднолькавых па сваім кірунку. Пасля акупацыі Вільні кайзераўскімі войскамі (1915) Ластоўскі падтрымліваў праект дзяржаўнай «Канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага» (Беларусі і Літвы) у саюзе з Германіяй. У 1915 годзе спрабаваў стварыць партыю «Хрысціянская злучнасць». У 1916 годзе быў адным з аўтараў «Меморыі прадстаўнікоў Беларусі», у якой даводзіліся правы беларускага народа на нацыянальна-дзяржаўнае развіццё і якая была прадстаўлена на міжнародную канферэнцыю ў Лазане (Швейцарыя). У гэты ж час выдаў шэраг беларускіх школьных падручнікаў і хрэстаматый. У 1916–1917 гадах — рэдактар газеты «Гоман» (своеасаблівы працяг «Нашай нівы»), у 1918 годзе выдаваў у Вільні часопіс «Крывічанін».

Адным з першых зразумеў Ластоўскі ўсё значэнне для беларусаў забытай спадчыны Кастуся Каліноўскага і змясціў у «Гомане» (1916) адпаведны матэрыял пра выдаўца «Мужыцкай праўды» і аўтара «Пісьмаў з-пад шыбеніцы»[166]. «Многа гадоў, — пісаў Ластоўскі, — праляжала ў мяне ў скрытнай схоўцы пачка папераў, з каторых адрыўкамі хачу цяпер падзяліцца са сваім грамадзянствам. Паперы гэтыя — ніклая памятка па згінуўшым барцу за беларускае адраджэнне с[вятой] п[амяці] Касцюку Каліноўскім…» Прыводзіліся біяграфічныя звесткі, публікаваліся другая (верш) і трэцяя часткі «Пісьмаў…». Публікацыя названа вельмі дакладна — «Памяці Справядлівага», — узята ці не самая характэрная рыса вялікага змагара. Дарэчы, і ідэя канфедэрацыі — сумеснай дзяржавы Літвы і Беларусі, несумненна, была блізкая Каліноўскаму. Але стырно Гісторыі тарганулася ў іншы бок. Перад Беларуссю адкрыліся-заззялі новыя далягляды.

Ластоўскі ўдзельнічаў у гістарычным акце 25 сакавіка 1918 года, калі ў надзвычай складаных і своеасаблівых умовах кайзераўскай акупацыі была абвешчана незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР), уваходзіў у яе ўрад. Куды яго толькі не кідала, дзе толькі не мільгала на гэтым гістарычным раздарожжы яго прозвішча! У канцы 1918 года ўзначаліў Беларускае прадстаўніцтва пры літоўскай Тарыбе, потым быў

[166] Гл.: Шалькевіч В. Ля вытокаў: Пра першы артыкул на беларускай мове, прысвечаны К. Каліноўскаму // Літ. і мастацтва. 1990. 12 кастр.

беларускім аташэ пры літоўскім пасольстве ў Берліне. Пасля абвяшчэння Савецкай Беларусі (1 студзеня 1919 года) шукаў у Берліне падтрымкі сваіх палітычных планаў. З 1919 года — у партыі беларускіх эсэраў, са снежня гэтага ж года ўзначальваў Народную раду (эсэраўскую) БНР, якая адмовілася супрацоўнічаць з белапалякамі (калі карыстацца вельмі пашыраным да нядаўняга часу словам). Ластоўскі быў кінуты польскімі ўладамі ў астрог. У лютым 1920 года яму дазволілі выехаць у Літву. Знаходзячыся ў эміграцыі, Ластоўскі ўдзельнічаў у арганізацыі ў заходняй частцы Беларусі партызанскага руху супраць польскіх легіянераў. У верасні 1920 года пад уплывам часовага поспеху польскіх войск на Заходнім фронце кіраўніцтва партыі эсэраў паспрабавала наладзіць кантакт з польскімі ўладамі. Як кіраўнік урада БНР Ластоўскі афіцыйна звярнуўся да Ю. Пілсудскага з прапановай выступіць аб'яднанымі сіламі супраць Чырвонай арміі. За гэтую паслугу ён патрабаваў стварэння беларускай дзяржавы на федэратыўных пачатках з Польшчай. Пасля падпісання папярэдніх умоў міру паміж савецкімі рэспублікамі і Польшчай (кастрычнік 1920 года) Ластоўскі ў афіцыйным пасланні мірнай канферэнцыі ў Парыжы прасіў краіны Антанты аказаць дапамогу ўраду БНР «у яго барацьбе за вызваленне Беларусі». Тады ж на беларускай канферэнцыі ў Рызе вакол урада Ластоўскага быў створаны блок беларускіх партый для барацьбы за незалежную Беларусь. У сувязі з гэтым Ластоўскі быў выключаны (фармальна) з партыі эсэраў, якія ў гэты перыяд падтрымлівалі савецкую ўладу.

Між тым за савецкім кардонам не толькі падавала прыкметы жыцця, але ўсё мацней станавілася на ногі няхай тэрытарыяльна яшчэ невялікая і не да канца зразумелая рэспубліка рабочых і сялян — БССР, быў узяты курс на беларусізацыю, на адраджэнне нацыянальнай культуры. Бачачы поспехі Савецкай Беларусі і відавочную безвыніковасць далейшага супрацьстаяння, у красавіку 1923 года Ластоўскі выйшаў з урада БНР і неўзабаве адышоў ад актыўнай палітычнай дзейнасці. Затое моцна ўзрасла яго навукова-выдавецкая актыўнасць. У 1923–1927 гадах выдаваў у Каўнасе літаратурна-навуковы часопіс «Крывіч», надрукаваў некалькі падручнікаў. У 1924 годзе выдаў капітальны для свайго часу руска-беларускі слоўнік (матэрыялы збіраў больш за два дзесяцігоддзі), у 1926 годзе друкуе сваю самую буйную навуковую працу — «Гісторыя крыўскай (беларускай) кнігі» — грунтоўны агляд усяго беларускага пісьменства да XVIII стагоддзя ўключна. На думку спецыялістаў, гэта і да сённяшняга часу «адна з найбольш салідных кніг ва ўсёй гісторыі беларускага літаратуразнаўства»[167]. Тады ж Ластоўскі напісаў для

[167] Казбярук У. З клопатам пра спадчыну // Літ. і мастацтва. 1988. 24 чэрв.



Інбелкульта і пераслаў у Мінск каштоўныя ўспаміны пра Багдановіча і іншыя матэрыялы, выкарыстаныя Інбелкультам пры падрыхтоўцы першага акадэмічнага выдання твораў Багдановіча.

Вялікае значэнне мела для яго паездка ў Мінск на акадэмічную канферэнцыю па пытаннях правапісу (1926). Канферэнцыя атрымалася вельмі прадстаўнічая — прыехаў Ян Райніс з Рыгі, удзельнічалі навуковыя аўтарытэты з Літвы і Польшчы. Для Ластоўскага гэта была як бы разведка. Наспявала важнае жыццёвае рашэнне.

У красавіку 1927 года ўрад Савецкай Беларусі дазволіў Ластоўскаму назусім вярнуцца ў Мінск, дзе яму былі створаны ўмовы для навуковай работы. Ён стаў дырэктарам Беларускага дзяржаўнага музея, працаваў у Інбелкульце. 15 ліпеня 1927 года з прыемнасцю пісаў А. Багдановічу ў Яраслаўль: «З павароту да родных палёў я вельмі рад. Скончылася ўрэшце цяжкая эміграншчына. Маю працу, якую я заўсёды смакаваў і да якой імкнуўся. Праца гэта дае мне здавальненне». Як акадэмік і неадменны сакратар створанай у 1928 годзе Беларускай АН садзейнічаў развіццю навукі ў Беларусі, у прыватнасці шмат займаўся пытаннямі этнаграфіі. І не толькі. Напісаў каларытныя ўспаміны пра нашаніўскі перыяд, пра Я. Купалу (1928, да апошняга часу заставаліся ў рукапісе), уваходзіў у камісію па рэформе беларускага правапісу (1927–1929).

Але ўжо насоўваліся чорныя хмары. У «год вялікага пералому» (1929-ы; што ні кажы — назва вельмі дакладная) пачаўся наступ на беларускую творчую інтэлігенцыю. У таямнічых нетрах карных органаў фабрыкуецца сумна вядомая справа «Саюза вызвалення Беларусі». Адна з першых ахвяр — Ластоўскі. З яго бурным, супярэчлівым мінулым ён стаў лёгкай здабычай палітычных артадоксаў і кар'ерыстаў. У кастрычніку 1929 года, яшчэ да арышту, Ластоўскага звальняюць з пасады неадменнага сакратара акадэміі, а 6 снежня 1930 года, ужо знаходзячыся ў турме, ён быў пазбаўлены звання акадэміка. У красавіку 1931 года яго выслалі на 5 гадоў за межы Беларусі. Былі высланы (пакуль толькі высланы) і многія іншыя. Нібыта Беларусі сталі непатрэбныя сыны і дочкі, якіх яшчэ зусім нядаўна яна склікала на ўсенародную талаку. Ластоўскі працаваў у Саратаве, ва ўніверсітэцкай бібліятэцы загадчыкам аддзела рэдкай кнігі і рукапісаў. Што здзіўляе — нават у высылцы працягваў займацца навуковай работай. У прыватнасці, у 1934 годзе пісаў у Яраслаўль А. Багдановічу, што знайшоў у саратаўскай бібліятэцы невядомыя пушкінскія дакументы (Неман. 1987. № 6). Але чаша цярпення яшчэ не была выпіта да дна. У 1937 годзе ва ўмовах тагачаснай рэпрэсійнай вакханаліі Ластоўскі зноў арыштаваны і 23 студзеня 1938 года прыгавораны да вышэйшай меры пакарання. Ёсць звесткі (можа, легендарныя?), што прысуд не быў прыведзены адразу ў выкананне.

Па словах другога пакутніка за Беларусь — Я. Дылы, Вацлаў Юсцінавіч загінуў у тым жа 1938 годзе пры выбуху ў Магадане. Яго імя на некалькі дзесяцігоддзяў канула ў нябыт. Поўнасцю рэабілітаваны ён толькі ў 1988 годзе (па саратаўскай справе яшчэ ў 1958-м). У 1990 годзе беларускі ўрад аднавіў Ластоўскага ў званні акадэміка.

Нібы спраўдзілася глыбокае прароцтва Купалы, выказанае некалі вельмі даўно ў «Песні званара»:

Буду ўсё званаром, хоць даўно пад дзярном
Спіць мая галава маладая.
Эх, бо ведае свет, што вялікіх дум цвет
Адно толькі на зломе ўзрастае!

Ластоўскі загінуў нельга сказаць каб зусім маладым, але 55 гадоў (калі лічыць ад арышту і высылкі, і таго меней) — таксама не ўзрост. Толькі б жыць і працаваць, шчыраваць для любай Беларусі.

Таленавіты сын народа Вацлаў Ластоўскі быў living рознабакова адораным чалавекам, у маладыя гады ўдзельнічаў нават у мастацкім афармленні беларускіх кніг, пра што сведчыць наступная, напрыклад, паметка, надрукаваная ў альманаху «Маладая Беларусь» (1913. Сш. 3. С. 145): «Застаўкі (віньеткі) рысунку Власта з узораў слуцкіх паясоў з калекцыі Власта і “Нашае нівы”».

Багатая літаратурная і навуковая спадчына Ластоўскага паступова вяртаецца народу і яшчэ чакае аб’ектыўнай усебаковай ацэнкі[168].

[168] Інтэнсіўна вывучаецца цяпер і жыццяпіс Ластоўскага. На падставе знойдзенай у архіве метрыкі ўдакладнена, што нарадзіўся ён 27 кастрычніка (8 лістапада) 1883 г. у засценку Калеснікава. Гэта Дзісенскі павет, як лічылася і раней. А вось раён зусім іншы — не Міёрскі, а Глыбоцкі. Гл.: Хмяльніцкая Л. Новыя звесткі да біяграфіі Вацлава Ластоўскага // Голас Радзімы. 1994. 6 студз.



# СМАК БЕЛАРУШЧЫНЫ

## Мае раскопкі-кверэнды



# ШТО ТАКОЕ КВЕРЭНДЫ?

Генералы хваляцца выйгранымі бітвамі, даследчыкі вядуць рахунак знаходкам, радуюцца адкрыццям, калі яны здараюцца, плённым думкам, гіпотэзам.

Ці не самы прыцягальны для мяне жанр — пошук. Тут пачуваюся найбольш упэўнена. Калі расказваю пра перыпетыі пошукаў, пра шлях да знаходкі, адчуваю, як мае ветразі напаўняюцца спрыяльным спадарожным ветрам.

Гучнае, як заўсёды, загадкава ўзнёслае лацінскае слова «quaerenda» азначае «рэч, якую шукаюць». Так ці амаль так (kwerenda) нашы бліжэйшыя суседзі і партнёры па гісторыі палякі называюць вучоныя пошукі ў архівах і бібліятэках. Здаецца, ці не ўсё жыццё захапляюся такімі раскопкамі-расследаваннямі, але доўга не ведаў, што займаюся «кверэндамі».

Хачу, каб гэтае ўпадабанае адметнае слова прагучала і па-беларуску. Тым больш што нашы адукаваныя продкі з імпэтам (часам аж залішнім — на шкоду ўласным родным караням) грызлі і лаціну, і пальшчыну.

А што да «шуканай рэчы», мэты пошукаў, то для мяне, як і для ўсіх нас, гэта заўсёды наша Беларусь, яе гісторыя, культура і літаратура, яе вызвольны і нацыянальны рух і стасункі з суседзямі. Любімы перыяд — XIX стагоддзе, але, вядома ж, даводзіцца зазіраць і ў век дваццаты. А то раптам са сваёй далечы неадольна пакліча Скарына…

Шалёныя хвалі гісторыі б'юць у раз'едзеную часам і нягодамі Выспу Беларушчыны. Мацуйма яе берагі.



# ПРА ВЕШЧЫХ ПЕСНЯРОЎ, ФАРТУНУ РАДЗІВІЛАЎ І САКРЭТЫ СТАРЫХ РАДАВОДАЎ

Князь у хораме жыў,
слаўны свету ўсяму…

*Я. Купала*

Як ішоў Напалеон —
Вымудраў што хочаш ён.

*С. Гаўрусёў*

Помню, як Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі, нястомны рыцар і працаўнік Беларусі, вучоны энцыклапедычнага даравання, мудраму позірку якога, здаецца, было адкрыта ўсё да каліўка на зямлі і пад зямлёю, выказваў сваё захапленне тым, што даўнія карані Купалы і Коласа сыходзяцца, амаль пераплятаюцца на невялікім кавалку беларускай зямлі (Верхняе Панямонне). Гэтая зямля ў самым сэрцы Беларусі, цікавая і ў геалагічных адносінах, належала калісь магнатам Радзівілам. Таму не дзіўна, што і радаводы нашых нацыянальных геніяў, жыццёвыя пуціны іх продкаў, маюць кропкі судакранання з радзівілаўскімі сямейнымі хронікамі. Яшчэ са школы або са спецыяльных даследаванняў ведаем: продкі Якуба Коласа — спрадвечныя ратаі-земляробы — былі да 1861 года прыгоннымі сялянамі князёў Радзівілаў, пазней бацька песняра служыў у Радзівілаў леснікам; як і іншыя палясоўшчыкі, насіў кукарду з княжацкім вензелем. «На шапках "R" было з каронай…» — чытаем у «Новай зямлі» (раздзел «Смерць ляснічага»). Так запомнілася Коласу з дзяцінства. Ды і ў архіўных дакументах ёсць поўны адпаведнік: «Знак из желтой меди, вызолоченный к фуражке с буквою R, а вверху с короною его сиятельства князя Радзивилла» ўваходзіў у лік абавязковых атрыбутаў кожнага лесніка. У «Новай зямлі» (раздзел «На першай гаспадарцы») ёсць згадка, што герою паэмы Міхалу (бацьку песняра) давялося і асабіста сустракацца з самім князем-ардынатам:

Міхал… вы лепш спытайце самі
Пра палясоўшчыка Міхала.

Яго ўся воласць наша знала,
Ён быў вядомы між панамі!
Ды што паны?! сам князь Антоні,
Я памятаю, як сягоння,
Не раз з Міхалам меў размову.

Зразумела, размаўляць з князем ды знацца з моцнымі гэтага свету — вялікі гонар, але мы ведаем — праз усё сваё жыццё Міхал (літаратурны герой і рэальная асоба) пранёс неадступную мару аб уласным кавалку зямлі, каб не кланяцца нікому, ні ад каго не залежаць. Адвечная сялянская мара. Такая ж мара і ў дзядоў-прадзедаў Купалы, хоць іх сацыяльны статус трохі (а можа, і не трохі — як паглядзець) іншы.

Далёкія продкі Купалы былі земляробчай чыншавай шляхтай у той самай Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў. У 1927 годзе Купала пісаў літаратуразнаўцу Л. Клейнбарту: «Отец мой родился в застенке (хуторе) Пески Игуменск[ого] у[езда] Могилянск[ой] вол[ости] Минск[ой] губ[ернии]. Эти Пески были подарены предкам отца за какие-то заслуги, но потом оказались во владении кн[язей] Радзивиллов. Эти последние выбросили весною от посевов всю семью Луцевичей на улицу (как говорится)». Зробім удакладненне: Луцэвічаў сагналі з зямлі ў 1870-я гады (незадоўга да нараджэння Купалы) не Радзівілы, а Вітгенштэйны, да якіх перайшла гэтая частка радзівілаўскіх уладанняў. Засценак Пяскі, як сведчаць дакументы, даўней меў і іншыя назвы: Луцэвічы (паводле прозвішча жыхароў), Лазараўшчына. Зямля тут знаходзілася ў працяглым (з канца XVII стагоддзя) карыстанні Луцэвічаў, але іх уласнасцю ў поўным сэнсе — юрыдычна — не была. Уласнікамі лічыліся Радзівілы, а потым Вітгенштэйны. Цяпер гэта заходні ўскраек Уздзенскага раёна, сумежны з Коласавай Стаўбцоўшчынай.

Некалі ў зборніку «Пуцявінамі Янкі Купалы» (1981) мы апублікавалі надзвычай цікавы старадаўні архіўны дакумент — выпіс з ведамасці 1795 года пад назвай «Несвижского повета владения князя Доминика Радзивилла в застенке Луцевичах чиншевая шляхта». Гэта пайменны пералік засцянкоўцаў ад малога да вялікага з зазначэннем узросту і сваяцкіх сувязяў. Дык прапрадзед Купалы Іван Ягоравіч (Юр'евіч) Луцэвіч меў тады 40 гадоў, а яго сыны Францішак, Язэп, Дамінік (прадзед Купалы) і Станіслаў — адпаведна 11, 9, 6 і 4 гады.

Праз 21 год складаецца новы спіс гэтай сям'і — «Список дворянский 1816-го года генваря 31 дня Минской губернии Игуменского повета о шляхте, на земле по праву арендовному от князя ордината несвижского Антония Радзивилы живущей в застенке Лазаровщизна». Засценак той самы. Праўда, прыводзіцца яго другая назва, ды і павет змяніўся — Нясвіжскі быў скасаваны. Узрост зазначаны ў дакуменце паводле рэвізіі (перапісу) 1811 года і на час складання дваранскага спіса (1816). Скажам, прадзеду Купалы Дамініку ў першым выпадку 22, а ў другім — 27 гадоў. Сыноў у сям'і прыбавілася: пасля 1795 года ў Івана Юр'евіча нарадзіліся Казімір і Антон. Ды і ўнукі з'явіліся. У Дамініка адзначаны нованароджаны сын Ануфрый (дзед Купалы), якому ў тым далёкім 1816 годзе было ўсяго 2 годзікі. Але за пяцігадовы перыяд (1811–1816) былі і страты. Адносна галавы сям'і пазначана: «Умре 1813-го», побач з імем яго сына Станіслава (у 1811 годзе яму 20 гадоў) таксама паметка: «Умре 1813 год».

Што гэта за фатальны для сям'і 1813 год? Выказваем гіпотэзу, што гэта страты ў сувязі з вайной 1812 года.

Успомнім, што ў гэты перыяд нясвіжскім ардынатам быў Дамінік Радзівіл, пляменнік знакамітага Караля Станіслава Радзівіла, празванага «Пане Каханку». Дамінік Радзівіл быў актыўным удзельнікам вайны 1812 года на баку Напалеона.

Нагадаем коратка яго жыццёвую гісторыю. Нарадзіўся князь Дамінік у 1786 годзе ў Бяле на Падляшшы, дзе таксама былі радзівілаўскія маёнткі. Бацькі паміж сабой не ладзілі. Маці — княжацкага нямецкага роду — нават збягала з дому з нейкім музыкаю. Бацька — падкаморы літоўскі — памёр раптоўна маладым неўзабаве пасля нараджэння князя Дамініка, які рос у цяжкой атмасферы спрэчак маці з апекунамі і апекуноў паміж сабой. Некаторы час яго настаўнікам быў паэт Францішак Карпінскі. Некалькі гадоў Дамінік выхоўваўся ў знакамітых Пулавах Адама Чартарыскага. У 1804–1805 гадах жыў у Пецярбургу, дзе быў ласкава прыняты Аляксандрам І. У 1805 годзе з'явіўся ў сталіцы Радзівілаў Нясвіжы, заснаваў там масонскую ложу. Ажаніўся, заплаціў 2 мільёны злотых за развод і неўзабаве ажаніўся зноў. У гісторыі Нясвіжа памятны тым, што ліквідаваў слынны балет і аркестр-капэлу, якія існавалі там з часоў Францішкі Уршулі Радзівіл, вядомай літаратаркі і мецэнаткі. Сам Дамінік, як сцвярджае «Польскі слоўнік біяграфічны», цікавіўся толькі стайняй.

Зрэшты, У. Сыракомля ў краязнаўчых «Вандроўках па маіх былых ваколіцах» малюе справу трохі інакш (карыстаемся перакладам з польскай, змешчаным у кнізе: Сыракомля У. Добрыя весці. Мінск, 1993): «Пляменнік і нашчадак Караля Радзівіла ўзяў у спадчыну таксама і яго адкрытае ўсім людзям сэрца, і яго схільнасць да раскошы, жаданне быць аб'ектам захаплення, раскідваць направа і налева грошы, паказваючы тым самым, што радзівілаўская скарбніца — невычэрпная. Але часы ўжо змяніліся: польскі магнат не мог ужо ў такім шырокім маштабе выстаўляць сваю пыху і раскошу. Мода і звычаі часу, а таксама

строгія айчынныя законы абумовілі фантастычныя выбрыкі багатага дзецюка. Зрэшты, Дамінік Радзівіл, не шкадуючы на раскошу свае нязмерныя багацці, гэтак жа як і дзядзька, шчодра надзяляў бліжніх, ажывіў грамадскім рухам муры свайго замка і горада, так што Нясвіж у яго часы развіваўся і квітнеў, займеўшы назву малой Варшавы. Пасярод рынку ўзнесліся мураваныя і добра забяспечаныя неабходнымі прыстасаваннямі купецкія крамы. Тут пасялілася многа выдатных рамеснікаў. У палацы аднавіўся тэатр. У другім княскім гмаху, які называўся Абержай і які сёння (у 1853 г. — *Г. К.*) у руінах, месціліся гандлёвыя ўстановы, рэстаран і пошта. Былая езуіцкая гімназія была перададзена дамініканцам, для яе забеспячэння Дамінік Радзівіл аддаў вёску Скарбін. Нават вольнамулярскае (масонскае. — *Г. К.*) таварыства мела тут, у спустошаных цяпер мурах дома Мікуця, былога сакратара князя Кароля, сваю ложу». Выходзіць, гэта не быў перыяд нейкага суцэльнага заняпаду. Не верыць Вясковаму лірніку не маем права. Сыракомля выдатна разбіраўся ў нясвіжскіх рэаліях, бо там вучыўся і нейкі час у маладосці працаваў.

Прыблізна ў такіх самых словах характарызуе гэты перыяд у артыкуле «Нясвіж», напісаным для польскага «Слоўніка геаграфічнага» (т. 7, 1886), другі жывы носьбіт традыцый і памяці краю — вядомы наш пісьменнік і краязнавец Аляксандр Ельскі. Філантрапічную дзейнасць Д. Радзівіла прыхільнай рыскай згадваў у канцы стагоддзя і Ф. Багушэвіч.

Але працягнем. Зіму 1809–1810 гадоў князь Дамінік правёў з другой жонкай за мяжой (Берлін, Парыж, Вена). Дамоў вярнуўся перакананым напалеаністам, прыхільнікам ідэі, што толькі Напалеон верне незалежнасць Рэчы Паспалітай, распаласаванай суседнімі тыранамі. Мроіліся яму, пэўна, і залатыя часы ВКЛ, калі Радзівілы цвёрдай рукой вялі рэй у самай высокай палітыцы.

Быў ён чалавекам актыўным. Больш вабілі яго сядло і ружжо, посвіст ветру ў чыстым полі, чымся мудрая кніга, пяро ды засяроджаная цішыня кабінета. У снежні 1810 года малады князь, кінуўшы на волю лёсу свае беларускія маёнткі, выехаў за мяжу і паступіў на службу ў войска Варшаўскага герцагства, створанага Напалеонам. Вядома, і тут наш князь не скнарнічаў, паказаў шырокую натуру. Унёс буйную суму на патрэбы войска і вайсковай адукацыі герцагства, за што атрымаў чын палкоўніка і прызначэнне камандзірам 8-га ўланскага палка. У выніку царскі ўрад секвестраваў яго маёнткі.

Расказваюць, што сам польскі глаўком князь Панятоўскі адгаворваў Дамініка ад такога непрадуманага, паспешлівага кроку, але інтрыганы нашапталі маладому прастадушнаму Радзівілу, нібыта Панятоўскі баіцца



суперніцтва. І наш ганарлівы арыстакрат не перамяніў свайго рашэння. У свіце князя Панятоўскага ён ездзіў у Парыж, потым знаходзіўся са штабам свайго палка ў Плоцку. У 1812 годзе адзін з першых падпісаў патрыятычную петыцыю палякаў з расійскай часткі земляў былой Рэчы Паспалітай, адрасаваную сейму Варшаўскага герцагства. З энтузіязмам прыняў удзел у напалеонаўскім паходзе на Расію, першым на чале сваіх уланаў урачыста ўступіў у Вільню, пакінутую рускімі войскамі. Біўся пад Астроўнай, Смаленскам, Барадзіном. Польскія палкі і эскадроны, якіх Напалеон зусім не збіраўся шкадаваць, неслі велізарныя страты. Толькі пры штурме Смаленска корпус Панятоўскага страціў паўтары тысячы чалавек забітымі. (Цікава, што абараняў горад у складзе рускай арміі равеснік Радзівіла Вікенцій Равінскі, адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры. Шляхі Равінскага і Радзівіла не раз перакрыжоўваліся на «марсавых палях» і потым.) Пры адступленні Вялікай арміі князь Дамінік быў залічаны маёрам у полк лёгкай кавалерыі напалеонаўскай гвардыі, захаваўшы і ранейшы чын палкоўніка (па арміі). У снежні з цяжкасцю дабраўся да Вільні, адтуль у Варшаву і далей — на захад. Траскучыя маразы страшнай зімы не астудзілі яго ваяўнічы запал. У зорку Напалеона верыў па-ранейшаму. Вызначыўся ў бітве пад Лютцэнам (2.5.1813), біўся пад Рэйхенбахам (22.5.1813), Дрэздэнам (27.8.1813), Лейпцыгам (18–19.10.1813). Выказваўся за тое, каб рэшткі польскіх войскаў адступілі з Напалеонам за Рэйн. Там і знайшоў, калі ўжыць слова Ф. Багушэвіча, свой крэс. 30 кастрычніка 1813 года ў адчайнай шабельнай атацы на баварскія гарматы пад Ганаў ён быў смяротна паранены карцеччу ў галаву і праз колькі дзён сканаў. Яму толькі-толькі стукнула 27 гадоў (раўнютка ў такім жа ўзросце памёр у свой час і бацька). Напалеон і «кароль кавалерыі» Мюрат цанілі Дамініка Радзівіла як маладзецкага, таленавітага кавалерыста. Ён быў ушанаваны ордэнам Ганаровага легіёна і іншымі баявымі рэгаліямі. Але ў генералы, дададзім, не выйшаў.

Вядома ж, напалеанісцкія ідэі магната павінны былі закрануць і яго падданых. Ды і без таго напалеонаўскі культ быў досыць пашыраны сярод тагачаснай беларускай шляхты, у значнай ступені паланізаванай. Пра гэта чытаем у «Пане Тадэвушу». Яшчэ перад вайной, як відаць з паэмы, здаралася, найбольш спрытныя і нецярплівыя дзецюкі са шляхецкіх засценкаў (асабліва калі хто чымсьці правініўся перад уладамі) уцякалі за Нёман, каб далучыцца да палякаў у войсках Напалеона.

Такія то гаворкі па краі хадзілі,
Яны з палацаў дый з хат дзецюкоў манілі,
Не адзін, то пачуўшы, сваіх адчураўся,

Штоб маскаль не угледзеў, па лесе бадзяўся;
Дабег к Немну, даў нурка — палядзь! — даплывае
На другую старонку, землякоў вітае;
А пасля, зняўшы шапку, маскалям з прыгора
Кажа: «Будзьце здаровы! пабачымся скора!»

(Пераклад *В. Дуніна-Марцінкевіча*)

Ды і ў «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» можна прачытаць: «З часоў аўстра-франка-польскай вайны 1809 года вялікая колькасць шляхецкай моладзі, нягледзячы на забарону і рэпрэсіўныя меры (секвестры і канфіскацыі маёнткаў), эміграваў ў герцагства і паступіла служыць у польскае войска»[1]. Пра захапленне Напалеонам і масавыя ўцёкі за мяжу патрыятычнай моладзі пішуць або згадваюць і многія іншыя сучасныя даследчыкі — гісторыкі і літаратуразнаўцы.

І вось — вайна, якая, вядома ж, па-рознаму ўспрымалася ў Расіі, Польшчы, Беларусі. Вялікая армія Напалеона прынесла ў край не толькі модныя спакуслівыя ідэі, але і самыя празаічныя рабункі і гвалты. Незлічонае шматмоўнае войска хацела есці, да таго ж па дарозе на Маскву — легендарную сталіцу паўночных варвараў — не прапускала выпадку разжыцца сякім-такім дабром. Захапляльныя дэкларацыі разыходзіліся з рэчаіснасцю. Гэта выклікала насцярожанасць, а то і варожасць насельніцтва. Польскі генерал Касецкі пісаў з Нясвіжа: «Папраўдзе, мы не сустракаем у тутэйшых жыхароў прыхільнасці, на якую маглі б спадзявацца…»[2]. З прыходам французаў у Літве-Беларусі пачаліся арганізаваныя мабілізацыі і вярбункі, молах вайны патрабаваў усё новых ахвяр. Польскі даследчык М. Кукель лічыў, што на захадзе былога ВКЛ «былі варункі развіцця шырокага збройнага руху на напалеонаўскім баку пры кіраўніцтве пераважнай часткі шляхты-ўладальнікаў з мабілізацыяй усёй дробнай шляхты». Падкрэслім — «усёй дробнай шляхты». На стары, яшчэ феадальны манер: бацька-сеньёр на чале сваіх паслухмяных, адданых «васалаў» з шляхецкіх засценкаў. Аднак той жа Кукель прызнае, што разлікі Напалеона на сур'ёзныя падмацаванні з Літвы ў поўнай меры не спраўдзіліся. «Разам з тым, — піша сур'ёзны, аб'ектыўны гісторык, — ішлі ў Вільню з Дзвіны і пазней з Дняпра ўсё больш горкія і нецярплівыя запытанні Напалеона: што робяць ліцвіны? Паступова імператар мусіў усвядоміць сабе прыкрую рэчаіснасць: Літва падвяла».

Сітуацыя, як бачым, складаная, неадназначная. Частка арыстакратаў Літвы-Беларусі (Міхал Клеафас Агінскі, колішні касцюшковец, аўтар

[1] Антонаў В. Айчынная вайна 1812 // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. Т. 1. Мінск, 1993. С. 74.

[2] Kukiel M. Wojna 1812 roku. T. 1. Kraków, 1937. S. 382.



«Паланэза») не верыла ў Напалеона і свядома арыентавалася на саюз з Расіяй.

З другога боку, зразумела, у магната Дамініка Радзівіла, які ўпарта ішоў да сваёй мэты, былі ўсе неабходныя рычагі, каб націснуць у адпаведным кірунку на цалкам залежную ад яго чыншавую шляхту. Проста немагчыма ўявіць сабе, каб усё гэта неяк не закранула сям'ю Івана Юр'евіча Луцэвіча, у якога перад вайной былі чатыры сыны, скажам па-сучаснаму, прызыўнога ўзросту (Францішку 27, Язэпу 25, Дамініку 22, Станіславу 20 гадоў). Гэта ж хлопцы як на падбор. Што называецца, маладзец к малайцу. Нехта з іх у тых умовах абавязкова мусіў трапіць хоць на кароткі тэрмін у войска Дамініка Радзівіла ці іншыя падраздзяленні, якія фарміраваліся пад сцягам дэклараванага Напалеонам Часовага ўрада Літвы. Нехта не паспеў скінуць мундзір з прыходам рускіх войскаў. Прынамсі, малодшы (з пералічаных) Стась, можна думаць, адступіў разам з Радзівілам і яго хаўруснікамі ў Еўропу і загінуў там у адной з бітваў («умрэ 1813 год»). Або памёр далёка ад дому ад хвароб-нягодаў. Гэта, паўтараем, пакуль што ўсяго толькі рабочая гіпотэза, заснаваная на аналізе агульнай сітуацыі. Стася, які не пакінуў патомства, пазней не змяшчалі нават у радаводах Луцэвічаў — можа, каб не было лішніх роспытаў.

Галава сям'і Іван Юр'евіч таксама, як мы бачылі, «умрэ 1813-го». Узрост у яго быў вельмі немалады, але хто ведае — можа, пайшоў за якога сына або каб падстрахаваць таго ж Стася. Куды ні завядзе бацькоўская любоў, страх за родную крывінку. У свой час Віталь Вольскі пісаў у «Матэрыялах да біяграфіі Янкі Купалы» (зб. «Любімы паэт беларускага народа», 1960), што да 1823 года Іван Юр'евіч правіў службу дазорцы ў радзівілаўскім маёнтку Святы Двор, але, з другога боку, мы маем афіцыйны, ужо прыведзены намі, запіс аб яго сконе ў 1813 годзе. Адным словам, ёсць падставы думаць, што і продкаў Купалы не абмінуў характэрны для польскай і часткова беларускай шляхты культ Напалеона. Памятаеце ў паэта: «А на свеце шырокім ліліся ракамі і слёзы, і кроў, калі муж той, прызваны што богам вайны, цэлай цьмою палкоў спамаганы, гарматамі збройны, арлы залатыя і срэбны (французскія і польскія. — *Г. К.*) запрогшы ў сваю калясніцу, пад Альпы пад небы аж з-пад пірамідаў ляцеў і грымеў перунамі ў Табар, Марэнго, у Ульм, Аўстэрліц» (пераклад Б. Тарашкевіча). Што калі і продкаў Купалы зачапіў, падхапіў магутны віхор 1812 года, як і гадоў папярэдніх, час надзей і ілюзій, вялікім пяром увасобленых у «Пане Тадэвушу»…

Магчымасць такога прачытання літаратурных і гістарычных першакрыніц яшчэ больш збліжае паэтычны шэдэўр Міцкевіча з Беларуссю. Дарэчы, у «Пане Тадэвушу» прынамсі двойчы згадваецца непасрэдна сам Дамінік Радзівіл.

У канцы другой кнігі-быліцы адзін з персанажаў — Асэсар — расказвае пра сваё паляванне з Дамінікам Радзівілам, пра шырокую, шчодрую і дзівацкую натуру маладога князя. Дамінік прыйшоў у сапраўднае захапленне з той нагоды, што паляўнічая сука Асэсара загнала за раз ажно шэсць зайцоў. Вернемся зноў да архаічнага, але дакладнага перакладу Дуніна-Марцінкевіча (далібог, пераклад гэты яшчэ нам паслужыць):

Справа та на Купіскай дзеялась даліне;
Князь Радзівіл даседзець не мог на каніне.
Ссеўшы абняў ён шчыра харціну ту лоўку
І пацалаваў трэйчы ў саму галоўку,
Пасля трэйчы ўдарыў каля морды блізка
Дый сказаў: «Будзь вялікай княгіняй з Купіска!»
Так Напалён князямі анаралаў ставіў
Ад мест тых, на каторых сябе хто праславіў...

Словам, усёмагутны Радзівіл шырокім (відаць, усё ж жартоўным) жэстам узвёў псіну-чэмпіёна ў рыцарскі стан і нават параўнаў з самай высокай арыстакратыяй (цікавая тут і травесційная, па сутнасці, паралель з Напалеонам, які ў выпадку ўдачы гэтаксама ж ганараваў сваіх паплечнікаў высокімі тытуламі). У дадатак уладальнік сабакі Асэсар атрымаў ад Дамініка шчодры дарунак, якім потым любіў ад душы пахваліцца пры ўсякай нагодзе.

А. Міцкевіч у сваёй паэме зрабіў да гэтага месца заўвагу: «Князь Дамінік Радзівіл, вялікі аматар палявання — эмігрыраваў у Варшаўскае герцагства і выставіў уласным коштам конны полк, якім камандаваў. Памёр у Францыі. На ім згасла мужчынская лінія князёў на Алыку і Нясвіжы, найвялікшых паноў у Польшчы і напэўна ў Еўропе».

Па-свойму — беларускай прозай — выклаў гэтую заўвагу Дунін-Марцінкевіч: «Князь Дамінік Радзівіл вельмі багаты пан літоўскі (нашаму пісьменніку, відаць, было важна падкрэсліць гэтую акалічнасць. — *Г. К.*), любіў ён мысліўства. Як французы і палякі біліся з маскоўскай сілай, то ён сваім коштам паставіў полк уланаў. Памёр у французскай зямлі».

У дзясятай быліцы, у размове персанажаў, князь Дамінік паўстае ўзорам нацыянальнай ахвярнасці:

…Уладзімер Патоцкі здзівіў і французаў шчадротай,
аддаўшы на скарб міліён, тож сваею ахвотай
і князь Дамінік Радзівіл два палкі там паставіў
адборнае конніцы, хоць і маёнткі заставіў.

(Пераклад *Б. Тарашкевіча*)



Раскажам яшчэ трохі пра далейшы лёс гэтых радзівілаўскіх маёнткаў, пра галавакружныя павароты сямейных хронік. У зусім юным узросце на Дамініка Радзівіла звалілася казачнае багацце — фартуна, як даўней казалі. Толькі маёнткі ў Віленскай, Гродзенскай, Мінскай і Валынскай губернях, дзе ў 1804 годзе налічвалася 120 тысяч душ мужчынскага полу, ацэньваліся на 200 мільёнаў злотых. Аднак з самага пачатку на гэтай спадчыне вісеў велізарны пяцідзесяцімільённы доўг, які нястрымна рос і далей — разаралі драпежнікі-пленіпатэнты (буйныя арандатары) ды і сам няўмелы і непрадказальны гаспадар. Літаральна за бесцань прадаюцца Тышкевічам біржанскія маёнткі на поўначы Літвы (на мяжы з Курляндыяй). Такім жа шляхам у чужыя рукі перайшлі ўладанні на Валыні. Вялікія страты радзівілаўскім скарбам нанёс той жа самы 1812 год. А. Кіркор піша ў «Живописной России»: «Несвиж принадлежал Доминику Радзивиллу, который, на свой счет, поставил целый полк Наполеону. Полк этот почти весь был истреблен. Адмирал Чичагов доносил императору, что уцелевших воинов князь Радзивилл отправил в Несвиж, с обозом из пятидесяти возов с награбленною в Москве добычею. Обоз этот попал в руки русских. Адмирал Чичагов присовокупляет в своем донесении, “что князь Радзивилл позволил себе по этому случаю оскорбительные для русских войск намеки. За это, пишет Чичагов, я позволил порыться в подвалах его дома. Там нашли сокровища: жемчуг, бриллианты и т. д. Я увез все, что мог; это будет сложено в Бобруйске (там была крэпасць. — *Г. К.*) или другом месте, и Вы изволите решить, что с этим делать. Я не видал, но говорят, есть вещи достойные музеев. Все оценивают более, нежели на миллион рублей”».

Кіркор не быў бы Кіркорам, вялікім патрыётам краю, калі б пасля цытаты з адміральскай дэпешы не дадаў ад сябе: «Сокровища, накопленные Радзивиллами в Несвиже целыми столетиями, ценились не на один миллион рублей. Там были предметы искусств, древности, достопамятности. Любопытно, куда все это девалось? Но адмирал Чичагов не упоминает, что при этом даже фамильный склеп Радзивиллов не был пощажен, кости выброшены из гробниц и многие гробницы разрушены». Сёння пра лёс нясвіжскіх скарбаў шмат піша наша прэса, дык пойдзем далей.

У 1813 годзе недзе ў цэнтры Еўропы памёр ад раны, атрыманай у баі, не проста палкоўнік польскіх уланаў або маёр напалеонаўскай гвардыі, а апошні прадстаўнік нясвіжскай лініі бліскучых магнатаў Радзівілаў. Прамых нашчадкаў «па мячы» не было (у князя Дамініка быў толькі пазашлюбны сын). Інтрыгоўны момант для тонкіх, пасівелых над мудрымі кодэксамі юрыстаў-законнікаў і знаўцаў арыстакратычнай генеалогіі. Хто ж будзе спадчыннікам? Каму пашанцуе? Каму дастанецца велізарнае багацце? У рэшце рэшт галоўным юрыстам і знаўцам усяго на

свеце быў цар. Багацейшая Нясвіжская ардынацыя царскім загадам перадаецца Антону Радзівілу, заснавальніку прускай лініі гэтага магнацкага роду. Пазнанска-прускаму саноўніку (будзем справядлівымі — і кампазітару, чалавеку выдатнаму), які, відаць, з маленства не бачыў той Літвы-Беларусі. Маёнткі, што не ўваходзілі непасрэдна ў ардынацыю (так званыя аладыяльныя), атрымала адзіная дачка Дамініка Стафанія[3], якая, ледзь-ледзь увайшоўшы ва ўзрост, з благаславення таго ж цара выйшла замуж за сына расійскага фельдмаршала князя Вітгенштэйна. Неўзабаве — чамусьці вельмі-вельмі рана — яе княжацкая светласць пані Стафанія закончыла свой зямны шлях, а велізарныя маёнткі так і засталіся за Вітгенштэйнамі (дарэчы, таксама нямецкі род, прынамсі, з зусім пэўнымі каранямі і сувязямі). У сярэдзіне мінулага стагоддзя спадчына Стафаніі ацэньвалася на 13 мільёнаў рублёў срэбрам (пад 100 мільёнаў злотых). Нейкі час, на падставе сямейных дамоўленасцяў, маёнткамі Вітгенштэйнаў у Беларусі валодаў іх сваяк князь Хлодвіг Гагенлоэ, будучы канцлер Германіі. Польскі гісторык Ш. Аскеназі пісаў на пачатку мінулага стагоддзя на падставе аналізу дзённіка Гагенлоэ: «Асаблівае ўражанне робіць стаўленне гэтага баварца да вялікіх літоўскіх уладанняў, што такім чынам дасталіся яму. Гэты Гагенлоэ, які ўссеў на радзівілаўскім гаспадарстве, застаецца відавочна наскрозь чужаземцам ва ўласным сваім замку; прыязджае ён у Літву не раўнуючы нібы ў якую афрыканскую калонію; запісвае ў дзённіку пра зуброў і ласёў, не бачыць людзей, ні шляхты, ні сялянства; толькі раз выказвае здзіўленне з егераў, што рабілі аблаву ў палатняных нагавіцах і "сандалях", замест пекна абмундзіраванай паляўнічай службы, якая красуецца на панскіх паляваннях у цывілізаваных нямецкіх барах. Не спыняўся таксама на тым, што мог сабе думаць такі загоншчык-паляшук у лапцях, гледзячы на дзедзіча-немца, які паразумяваўся на мігі і без аніякага права ўладарыў на старой Літве».

Як бачым, выдатны польскі гісторык львоўскай школы змог хоць збольшага паставіць сябе на месца простага палешука, якога ва ўпор не бачыў князь-баварац. Сваё захапленне талентам, прафесійным спрытам, чалавечымі якасцямі беларуса-палясоўшчыка «ў лапцях» выказаў трохі раней за Аскеназі ў цудоўнай паэме «Паляўнічыя акварэлькі з Палесся» наш паэт Янка Лучына, бацька якога, заўважым, таксама служыў у Радзівілаў (паверанымі). Ад Лучынавага твора адзін крок да паэтычнага шэдэўра Якуба Коласа, дзе, між іншым, пазначана і тэма «чужынства» Радзівілаў, якія ўсё далей адыходзілі ад родных каранёў (у часы лесніка Міхала — галоўнага героя «Новай зямлі» — нясвіжскім

[3] Цікава, што партрэты Дамініка і Стафаніі Радзівілаў, як сведчаць захаваныя інвентарныя кнігі, знаходзіліся ў свой час у Беларускім музеі ў Вільні.



ардынатам быў Антон Вільгельмавіч Радзівіл, генерал прускай службы, ад'ютант і любімец кайзера Вільгельма):

…Ўсё гэта — скарбы чужаніцы,
Магната князя Радзівіла,
А ты, пакуль ёсць рух і сіла,
Служы панам, збірай іх крошкі
І ведай цьмяныя дарожкі
Батрацкай долі да магілы,
Служы, пакорны і пахілы,
Служы з-за панскага агрызка
І заўжды гніся нізка-нізка!

Калі для патрыярха беларускай літаратуры Дуніна-Марцінкевіча Радзівіл, як мы бачылі, — «багаты літоўскі пан», то Коласавым героям у хвіліну цяжкага жыццёвага роздуму нясвіжскі ардынат уяўляецца ўжо «чужаніцай». Сёння беларуская культура зноў шукае кропкі судакранання з былымі магнатамі, збіральнікамі культурных скарбаў. Такая логіка гісторыі.

Маёмасныя справы Радзівілаў пасля гібелі князя Дамініка былі настолькі заблытаныя (іскі-прэтэнзіі шматлікіх крэдытораў, адмежаванне ардынацкіх земляў ад аладыяльных, межавыя спрэчкі паміж Радзівіламі і Вітгенштэйнамі), што спецыяльна створанай так званай Радзівілаўскай камісіі (яна ж — маса, або пракураторыя) з цэлым штатам пісарчукоў-службоўцаў хапіла працы на шмат-шмат гадоў. У гэтай камісіі, між іншым, працаваў, рыпеў пёркам сардэчны сябра Міцкевіча, выдатны беларускі паэт і фальклярыст Ян Чачот. (Дзякуй табе, пракураторыя — год за годам да самага арышту, да знакамітага следства над філаматамі, ты давала хлеб, карміла нашага паэта.) У працэсе ўдакладнення тэрыторыі ардынацыі, размежавання ардынацкіх і аладыяльных земляў засценак Пяскі Луцэвічаў, як і ўвесь маёнтак Святы Двор, перайшоў да Вітгенштэйнаў, і тыя ўжо ў паслярэформенны час без лішніх сантыментаў распраўіліся з Луцэвічамі, як і з астатняй шматлікай чыншавай шляхтай. Гістарычны парадокс: ганарлівая шляхта апынулася ў прынцыпова горшым становішчы, чымся былыя прыгонныя. Тыя атрымалі надзелы (няхай недастатковыя, бядняцкія, абрэзаныя), а шляхта — дулю пад нос. Абураныя засцянкоўцы шукалі-даходзілі праўды ў судах, ды дзе там. Як усё гэта было, красамоўна расказвае надзвычай характэрны архіўны дакумент, здаецца не ўлічаны ў купалазнаўстве.

Гэта данясенне ад 21 сакавіка 1876 года мінскага губернатара міністру ўнутраных спраў аб адмове арандатараў у маёнтку памешчыка

Вітгенштэйна Святы Двор Ігуменскага павета вызваліць займаныя імі землі і іх супраціўленні мясцовым уладам, якія спрабавалі прывесці ў выкананне судовы прысуд.

«Секретно.

При приведении судебным приставом Игуменского мирового округа в исполнение решения мирового судьи 4-го участка о восстановлении прав владения землевладельца кн. Витгенштейна для выселения из его имения вольных съемщиков-арендаторов, с назначением срока для очистки земель и домов владельца к 26 марта, жители застенков имения Святый двор Игуменского уезда, дворяне и мещане, в числе 828 душ обоего пола, оказали явное неповиновение насилием. В застенке Андруши жители, нахлынув толпою, не пустили судебного пристава в дом. Даже женщины бросились на него, изорвав повестку, и кидали в лицо грязью. Причем мужчины били бывшего с приставом волостного старшину палками, бросали камнями и, наконец, выгнали обоих, кидая в них грязью, кольями, палками и камнями, сопровождая ругательствами и криками: "Сволочи, грабители нашей земли" и тому подобное, "бить их, стрелять" и тому подобное.

То же сопротивление оказали жители Андруши и других застенков при становом приставе, которому также нанесли разные оскорбления и объявили, что если бы даже пришло войско, то все застенки соединятся и готовы пожертвовать собою. Несмотря на увещание прибывшего на место происшествия исправника, съемщики остались при своем упорстве, и дело доходит до необходимости выслать военную силу для восстановления должного порядка, хотя предварительно принятия решительных к тому мер я поручил исправнику произвести дознание о подстрекателях и о самих беспорядках и, кроме того, пригласил уездного предводителя дворянства отправиться на место происшествия, где съемщики в большинстве дворяне, убедить их в бесплодности и противозаконности такого рода действий и склонить обе стороны к полюбовному соглашению.

Представляя о сем до сведения вашего высокопревосходительства, поставляю долгом положить вместе с сим: 1) если в крайнем случае действительно придется для исполнения судебного решения употребить военную силу, то является неизбежным 828 душ, обжившихся семействами и хозяйством, совершенно разорить, выселив их неизвестно куда; 2) кроме этих 828 душ, в Минской губернии находится еще таких же съемщиков-арендаторов, поселившихся на таких же условиях из мелкопоместных дворян, мещан и бывшей польской шляхты, в имениях князей Витгенштейнов и Радзивилла до 20 000, следовательно, пока выяснится вопрос о правовых отношениях на земле владельца и арендаторов, могут быть постоянные смуты и мера выселения будет еще тягостнее и разорительнее; а потому 3) является совершенно необходимым ясно и положительно решить вопрос по отношению прав проживающих в имениях съемщиков-арендаторов на земли владельцев или дать им надел, или указать казенные земли для поселения выселяемых, без чего изгнание такой массы народа из их оседлости неизвестно куда будет, по моему мнению, несоответственно с заботою правительства о благосостоянии народа и скорее поведет еще к большим беспорядкам.

Губернатор Чарыков»[4].

На дакуменце рэзалюцыя міністра: «Дело это весьма важно. Доложить со справкой и соображениями. 25 марта». Але Вітгенштэйны былі мацнейшыя за губернатараў і міністраў. Магнаты абапіраліся на сваё непахіснае права ўласнасці, шляхта магла спаслацца хіба на традыцыю, на шанаваную ў народзе даўнасць. Роднае гняздо Луцэвічаў было назаўсёды страчана. Ужо цытаванае пісьмо Купалы Клейнбарту сведчыць, што ўсіх акалічнасцяў выгнання «з раю», перажытага старэйшым пакаленнем, паэт не памятаў, але пачуццё вялікай крыўды перадалося ад бацькоў і яму. Адну яскравую рэальную дэталь выхапіла з бацькоўскіх нараканняў і аповедаў пераборлівая паэтычная памяць — выганялі «вясной ад пасеваў». Як мы пераканаліся, гэта адпавядае дакументу.

Луцэвічы выйшлі з гэтай нялюдскай «працэдуры», можна сказаць, зусім голымі, сталіся перакаці-полем. Вось чаму наш нацыянальны прарок прыйшоў на свет божы не ў Пясках, дзе яго продкі жылі, палівалі салёным потам скупую ды ўсё ж хлебадайную раллю амаль два стагоддзі, а ў Вязынцы, у якой Луцэвічы затрымаліся ненадоўга ў сваіх беспрытульных блуканнях па Міншчыне ў пошуках лепшай долі. Тэма страчанай радзімы, «чужой бацькаўшчыны», «раскіданага гнязда» сталася адной з вядучых у творчасці паэта.

І калі Купала гаварыў: «О так! Я — пралетар!» — ён, па вялікім рахунку, не надта крывіў душою.

[4] Крестьянское движение в России в 1870–1880 гг.: сб. док. М., 1968. С. 239–240.

# ЯН БАРШЧЭЎСКІ — СПРЭЧКІ БІЁГРАФАЎ

## I

У жыццяпісе Баршчэўскага, аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры, аўтара «Шляхціца Завальні», поўна загадак. У прыватнасці, несціханыя спрэчкі вось ужо паўтара стагоддзя ідуць наконт года яго нараджэння.

Трэба сказаць, што гэта агульная праблема біяграфікі, і датычыць яна не толькі гісторыі беларускай літаратуры. Рускія літаратуразнаўцы не менш заўзята спрачаюцца наконт даты нараджэння А. С. Грыбаедава, І. А. Крылова і г. д. Адкуль гэта? У чым тут прычына? Справа не толькі ў тым, што не ўсе дакументы захаваліся. У старыя часы ў афіцыйных дакументах зазначаўся ўзрост — колькасць гадоў, а не дата нараджэння. Узрост — як вядома, велічыня не пастаянная, пераменлівая, гэта і спараджала блытаніну. Ды і стаўленне да ўзросту было даўней больш лёгкае, не такое педантычнае, як цяпер. Напрыклад, сучаснік і, можна сказаць, зямляк Баршчэўскага паэт-дзекабрыст Фёдар Глінка, родам з беларуска-рускага сумежжа, адмахваўся ад пытанняў пра няяснасці ягонай біяграфічнай храналогіі словамі: «Бог стварыў час, а людзі прыдумалі гады». Маўляў, галоўнае — само жыццё, плынь часу, а не штучныя, умоўныя адрэзкі, уведзеныя людзьмі для яго вымярэння.

Баршчэўскі шчасліва вылучаецца з масы беларускіх пісьменнікаў XIX стагоддзя тым, што меў свайго паплечніка-біёграфа Рамуальда Падбярэскага, які ў выдатным, грунтоўным, сёння можна сказаць — хрэстаматыйным, класічным артыкуле «Беларусь і Ян Баршчэўскі» (1844) разгледзеў свайго героя як у вельмі буйным агульнанацыянальным і гістарычным плане, так і ў плане самым канкрэтным, жыццёвым, нават бытавым. Другой не менш важнай крыніцай з'яўляецца артыкул Юльяна Барташэвіча «Ян Баршчэўскі» (1851). Абодва аўтары асабіста ведалі Баршчэўскага. Барташэвіч, вядома ж, быў добра знаёмы з артыкулам Падбярэскага, нават паўтараў яго ў многіх месцах свайго нарыса, тым не менш падаў зусім іншы год нараджэння пісьменніка. У Падбярэскага — 1794, у Барташэвіча — 1790.



Гэтая акалічнасць давала ў далейшым падставу для спрэчак. Р. Зямкевіч у брашуры «Ян Баршчэўскі — першы беларускі пісьменнік XIX сталецця» (1911) і Н. Перкін у працы «Літаратурная спадчына Яна Баршчэўскага і Яна Чачота» (напісана ў 1946, апублікавана ў 1980 годзе) прымаюць 1790 год. Іншай думкі прытрымліваўся А. Мальдзіс. «Каму ж аддаць перавагу? — пытаецца ён у кнізе "Падарожжа ў XIX стагоддзе". — Відаць, усё-такі Падбярэскаму: ён чэрпаў інфармацыю з першых вуснаў — ад самога пісьменніка. Апрача таго, ёсць і ўскосны доказ. Вядома, што ў 1809 годзе, будучы вучнем Полацкай езуіцкай калегіі, Баршчэўскі напісаў свой першы вершаваны твор — псеўдакласічную паэму на польскай мове "Пояс Венеры". А наўрад ці мог быць вучнем калегіі дзевятнаццацігадовы юнак…»

На гэта можна было б запярэчыць, што і Барташэвіч быў асабіста знаёмы з Баршчэўскім, але несумненна, што дата 1794 год пастаўлена Падбярэскім з ведама Баршчэўскага: не забудземся, што артыкул Падбярэскага — гэта прадмова да кнігі Баршчэўскага, і Баршчэўскі павінен быў бы ім пацікавіцца, «аўтарызаваць» змешчаныя там звесткі. Аднак, нягледзячы на гэта, 1790 год здаецца нам больш верагодным. Зробім невялікую папраўку да слоў А. Мальдзіса: мы не знайшлі ў крыніцах сведчання таго, што паэма «Пояс Венеры» напісана Баршчэўскім у 1809 годзе. Падобная згадка ў Падбярэскага ёсць, але датычыцца яна беларускага верша «Да чым жа твая, дзеванька, галоўка занята?» і гучыць наступным чынам: «…склаў песеньку… напісаную ў Марогах з нагоды залётаў да маладой панны Максімавічанкі, калі яшчэ будучы студэнтам, каля 1809 г., меў не больш за 18 гадоў». Такім чынам, у артыкуле Падбярэскага была храналагічная няўвязка, супярэчнасць, заўважаная, дарэчы, у свой час акадэмікам Я. Карскім: нарадзіўся пісьменнік нібыта ў 1794 годзе, а каля 1809 года меў 18 гадоў. Так што другое зазначэнне ўзросту ў артыкуле Падбярэскага гаворыць, хутчэй, на карысць 1790 года нараджэння. Звернем увагу: 1794 год у якасці даты нараджэння Падбярэскі падаў у кнізе 1844 года, магчыма, каб не вельмі «старыць» яе аўтара, каб аўтар не пераступіў пяцідзесяцігадовы рубеж жыцця. Цікава, што 1790 год нараджэння падаваўся па свежых слядах у вядомай тагачаснай польскай Энцыклапедыі Аргельбранда (1860). Улічваючы ўсё сказанае, у кнізе «Пачынальнікі» мы прынялі 1790 год за асноўны, 1794 даецца там як дадатковы. У дванаццацітомніку БелСЭ (артыкул А. Мальдзіса), наадварот, 1794 год бярэцца за асноўны, 1790 год — дадатковы. У пяцітомнай «Кароткай энцыклапедыі» захаваны толькі адзін 1794 год.

Ды ў наш дынамічны час не стаіць на месцы і навука. На пачатку 1980-х гадоў клопатамі незабыўнага Генадзя Каханоўскага і ўкраінскіх

архівістаў у Житомірскім абласным архіве была знойдзена пахавальная метрыка Баршчэўскага. У гэтым дакуменце адзначана, што Баршчэўскі памёр 28 лютага 1851 года, маючы з роду каля 54 гадоў. «Калі верыць у дакладнасць лічбы “54”, то выходзіць, што Ян Баршчэўскі нарадзіўся ў 1797 годзе, а верагодней — 1796. Гэта ўжо новая дата нараджэння, аб якой дасюль нідзе не ўпаміналася», — справядліва разважае Г. Кахаnoўскі. Новы атрыманы факт гаварыў на карысць даты Падбярэскага, але, з другога боку, у Чуднаве на Валыні, дзе памёр Баршчэўскі, яго сапраўднага ўзросту маглі і не ведаць і вызначаць узрост вельмі прыблізна[5]. Нездарма пра ўзрост у метрыцы было сказана не зусім пэўна: «каля 54 гадоў». Тым не менш у кнізе «Беларуская фальклярыстыка: Эпоха феадалізму» (1989), напісанай Г. Кахаnoўскім сумесна з Л. Малаш і К. Цвіркам, 1797 год ужо без агаворак прапаноўваўся як год нараджэння Баршчэўскага. Сваю нязгоду з гэтым мы выказалі ў кнізе «Ад Чачота да Багушэвіча: Праблемы крыніцазнаўства і атрыбуцыі беларускай літаратуры XIX ст.» (1993), нагадаўшы даўнія спрэчкі па гэтым пытанні і навуковую важнасць сведчанняў Р. Падбярэскага і Ю. Барташэвіча.

У. Мархель у адным з артыкулаў пра Баршчэўскага (Роднае слова. 1994. № 9) гаворыць пра час нараджэння пісьменніка так: «Адбылося гэта, напэўна, не ў 1790 і не ў 1796 г., пра што спрабуюць здагадацца раннія і познія біёграфы паэта, а, як сведчыць Рамуальд Падбярэскі, прыяцель Баршчэўскага, у 1794 г., і, хутчэй за ўсё, летам, напярэдадні або ў часе купальскіх святаў, калі ўважаць, што імя Ян яму павінны былі даць у адпаведнасці са святцамі». Што датычыць лета, прымем тут удакладненне даследчыка, а з годам — складаней.

У 1994 годзе Беларусь адзначыла двухсотгадовы юбілей аўтара «Шляхціца Завальні», хаця поўнай упэўненасці, што юбілей прыпадае менавіта на гэты год, не было. Выказвалася думка, што сапраўдны юбілей — калі мець на ўвазе 1790 год нараджэння — мы ўжо прапусцілі. Былі галасы, што юбілей яшчэ наперадзе.

У артыкулах «Лічу, што святкавалі рана...» (ЛіМ. 1994. 20 мая) і «Ля вытокаў беларускае ідэі» (Полымя. 1994. № 11) Мікола Хаўстовіч пазнаёміў нашу грамадскасць з цікавым дакументам — выпіскай з хросных метрычных кніг Заборскай грэка-ўніяцкай царквы. Выпіска знойдзена даследчыкам сярод матэрыялаў пецярбургскай Герольдыі, якая кантралявала па ўсёй імперыі зацвярджэнне «фамілій» і асобаў у дваранстве (Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў у Санкт-Пецярбургу). З гэтага дакумента, заверанага ў 1832 годзе ў Полацку Беларускай грэка-ўніяцкай духоўнай кансісторыяй, відаць, што 16 снежня 1799 года заборскім пробашчам ксяндзом Юрыем Хруцкім ахрышчаны Ян, сын «вяльможных іх мосцяў паноў Яна і Канстанцыі Баршчэўскіх, рот[містраў] аршанскіх, шлюбных малжонкаў, ад вяльможнага яго мосці пана Здраеўскага і вяльможнае яе мосці пані Корсакавае да святога хросту трыманы».

Даследчыка ўразілі (і гэта цалкам зразумела) шмат якія акалічнасці: Забор’е з уніяцкай царквою размешчана якраз побач з Мурагамі — радзімай нашага пісьменніка. Прозвішча Корсакаў і раней называлася ў біяграфіі аўтара «Шляхціца Завальні». Як вядома, пісьменнік меў цёплыя пачуцці да Юліі Корсак, пісаў ёй з Пецярбурга доўгія прачулыя лісты, дзе называў «шаноўнаю сястрою». Выходзіла, што гэта дачка яго хроснай маці. «Дык думаецца, — мяркуе даследчык, — ёсць падставы лічыць 1799 год годам нараджэння (ва ўсякім выпадку — хросту) Яна Баршчэўскага».

Калі прызнаць, што мы сапраўды маем справу з метрыкай пісьменніка, становіцца вядомым імя яго бацькі, якога, выходзіць, таксама звалі Янам.

У падмацаванне аргументацыі Хаўстовіча прывядзём такі факт. Некалі нам давялося пазнаёміцца з цікавым старадаўнім даведачным выданнем (Нистрем К. Адрес-календарь санкт-петербургских жителей. СПб., 1844). Гэта адрасы пецярбуржцаў акурат таго перыяду, калі ў паўночнай сталіцы жыў наш Баршчэўскі (праўда, наколькі поўная гэтая кніга, мы не ведаем). У трэцім томе («Календарь частных лиц») змяшчаецца «Алфавит гг. неслужащих чиновников, купечества, артистов и ремесленников». У гэтым раздзеле, відаць, і трэба шукаць нашага пісьменніка, які не быў звязаны ў гэты час з казённай службай, займаючыся рэпетытарствам, выдавецкай і літаратурнай працай. Дык вось, Баршчэўскі там толькі адзін — Іван Іванавіч, чыноўнік (трэба думаць — адстаўны) 10-га класа, жыве ў 4-м квартале III Адміралцейскай часці, Пад’ячаская вуліца, дом Тацішчавай. Вельмі падобна, што гэта якраз наш пісьменнік, з жыццяпісу якога вядома, што ён крыху служыў некалі па марскім ведамстве і як добра падрыхтаваны чалавек мог даволі хутка дaслужыцца да невялікага ў прынцыпе чыну 10-га класа (калежскі сакратар). Дык я хацеў бы падкрэсліць поўнае супадзенне імёнаў і імёнаў па бацьку Баршчэўскага «заборскага» і Баршчэўскага «пецярбургскага» — з кнігі Ністрэма. Такім чынам, версія Хаўстовіча з гэтага боку падмацоўваецца, хаця поўнай упэўненасці, што ў даведнік Ністрэма трапіў менавіта наш Баршчэўскі, зноў жа няма.

[5] Пра вялікую памылку ў вызначэнні ўзросту чэшскага кампазітара XVIII ст. І. Мыслівечка ў пахавальнай метрыцы піша М. Шагінян у надзвычай цікавай дакументальнай аповесці «Уваскрашэнне з мёртвых». А між тым Еўропа была вельмі ўважлівая да афіцыйных дакументаў, тым больш метрычных.

Але могуць быць і пярэчанні супраць таго, каб аднесці знойдзеную Хаўстовічам метрыку да пісьменніка Баршчэўскага. З прыведзенага ім дакумента відаць, што хрышчоны ў 1799 годзе ў Забор'і Ян Баршчэўскі быў сынам самавітых бацькоў — «ротмістраў аршанскіх»[6]. Іншыя ж крыніцы, якія знаходзіліся дагэтуль у полі зроку даследчыкаў, звязваюць паходжанне пісьменніка з дробнай, шарачковай шляхтай. «Pochodził z biednej, ale poczciwej i zacnej zagrodowej szlachty…»[7] — чытаем у Энцыклапедыі Аргельбранда. «Гэты бедны клас шляхты, які мае такія блізкія сувязі з класам сельскага народа, што амаль зліваецца з ім у адно…»[8] — пісаў Р. Падбярэскі.

І другое. Уніяцкая царква, як сведчаць гістарычныя крыніцы, была і ў саміх Мурагах. У кнізе «Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов» знаходзім, напрыклад, такі тэкст, які адносіцца да 1833 года, калі царскія ўлады яшчэ не скасавалі канчаткова, але ўжо вялі актыўны наступ на унію, адваёўваючы ва ўніятаў прыход за прыходам: «Мороговской приходской церкви (падкрэслена намі. — *Г. К.*) помещицы Полоцкого уезда маиорши Софии Бошняковой крестьяне в имении Шнитовок униты, равно все дворовые люди по воли ее и их согласию 19 августа приняли благочестие, филиальная церковь, находящаяся при ее господском дворе, отдана со всей утварью в ведение греко-российского духовного начальства навсегда и уже отправляется в оной богослужение»[9]. Усё гэта родныя мясціны нашага пісьменніка. Нагадаем, што ў знакамітым творы Баршчэўскага «Рабункі мужыкоў» паводле заўвагі ў першапублікацыі адлюстраваны падзеі, якія адбываліся «ў Шнітаўках, за 50 вёрст ад Полацка, у 1812 годзе»[10]. Прыходская ўніяцкая царква ў Мурагах, засведчаная прыведзеным дакументам 1833 года, трэба думаць, існавала і ў канцы XVIII стагоддзя. Паўстае законнае пытанне, навошта ж у такім выпадку дзіця, народжанае ў Мурагах, везлі хрысціць у Забор'е, за добры дзясятак вёрстаў (паводле сённяшняй карты ад Мурагоў да Забор'я напрасткі 11 кіламетраў). Ды яшчэ зімой.

[6] Ротмістрам віцебскага замка быў, да прыкладу, знакаміты гісторык XVI ст. А. Гваньіні. Спецыялісты тлумачаць: «Ротмістр — абраны ад ваяводства на час народнага апалчэння начальнік вайсковага атрада (роты), які ён мусіў набраць і забяспечыць рыштункам на выдадзеныя яму грошы» (Нарбут А. Генеалогия Белоруссии. Вып. 2. М., 1994. С. 40).

[7] Encyklopedia Powszechna Orgelbranda. T. 2. Warszawa, 1860. S. 943.

[8] Падбярэскі Р. Беларусь і Ян Баршчэўскі // Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст. Мінск, 2003. С. 65.

[9] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. СПб., 1907. С. 935–936.

[10] Падбярэскі Р. Беларусь і Ян Баршчэўскі. С. 72.



Так што ў Забор'і ў 1799 годзе, можна думаць, атрымаў святы хрост усё-такі не наш знакаміты пісьменнік, а ўсяго толькі яго цёзка. Думаецца, што спалучэнне Ян (Іван) Баршчэўскі і нават Ян Янавіч (Іван Іванавіч) Баршчэўскі было нярэдкім.

Дадатковы матэрыял для роздумаў на гэты конт дае мінскі гістарычны архіў.

Аказваецца, поўны цёзка і да таго ж равеснік «заборскага» Баршчэўскага лічыўся ў гэты час сярод дваран Віцебскага павета. Кажам «лічыўся», таму што фактычна ён жыў (прынамсі ў 1832 годзе) за межамі роднай губерні. Вось яго асабовая картка ў кнізе ўліку дваран Віцебскага павета:

> «Список 5 октября 1832 года. Обывателя Ивана Иванова сына Барщевского, жительствующего Могилевской губернии Чаусовского уезда на службе у помещика Станислава Цехановецкого в имении Дрибине.
>
> Имя, отчество и прозвание — Иван Иванов Барщевский.
>
> Лета — 33.
>
> Утвержден Витебским дворянским собранием 1792 года ноября 26 дня».

І асабісты подпіс: «Иван Иванов Барщевский» (НГА ў Мінску. Ф. 1416. Воп. 2. Спр. 7077. Арк. 126). Мяркуючы па ўзросце, нарадзіўся гэты Баршчэўскі таксама ў 1799 годзе. Відаць, з беднай шляхты, бо наняўся на прыватную службу (магчыма, аканомам ці гувернёрам) да памешчыка (Цеханавецкія — вядомая ва ўсходняй Беларусі «фамілія» буйных землеўласнікаў) на Магілёўшчыне.

Побач у справе картка дваццаціпяцігадовага Луцыя Іванавіча Баршчэўскага, які распісаўся не надта пісьменна па-польску: «Lucii Jana syn Barszczewski». Пра яго сказана, што жыве ў Лепелі. Мабыць, гэта брат папярэдняга — імя па бацьку супадае, род зацверджаны ў дваранстве таго ж 26 лістапада 1792 года.

У архіве ёсць яшчэ дзве справы пра выдачу дваранін у Віцебскага павета Івану Іванавічу Баршчэўскаму гадавых пашпартоў на «следование... в разные города и уезды Российской империи» і пражыванне там (Ф. 1430. Воп. 1. Спр. 14805, 16245). На жаль, гарады гэтыя не называюцца. Па ўзросце і па прыналежнасці да Віцебскага павета, гэта той самы Баршчэўскі, ахарактарызаваны ўліковай карткай 1832 года. У пашпарце 1846 года, падпісаным, дарэчы, сынам знакамітага Радзішчава, у той час віцебскім губернатарам, — 48 гадоў.

Даследчыка могуць зацікавіць названыя ў пашпартах прыкметы: «…росту 2 аршин 5 вершков. Волосы, брови темнорусые. Глаза серые.

Нос, рот умеренные. Лицо смуглое. Подбородок обыкновенный. Особых примет не имеет».

Ёсць спакуса параўнаць гэтыя прыкметы з вядомымі партрэтнымі выявамі пісьменніка. На алейным партрэце мастака К. Рыпінскага[11] выразна відаць светлыя вочы. На літаграфаваным партрэце, выкананым К. Жукоўскім і змешчаным ў «Roczniku literackim» (т. 2, 1844), Я. Баршчэўскі выглядае смуглявым, хаця паводле рэпрадукцый першага партрэта гэтага, як быццам, не скажаш.

Прозвішча Баршчэўскіх знаходзім у друкаваных спісах зацверджаных дваранскіх родаў па Віцебскай губерні. Але архіўныя матэрыялы Віцебскага дваранскага дэпутацкага сходу захаваліся, на жаль, толькі фрагментарна. Ёсць сярод іх пастанова ад 26 лістапада 1792 года (НГА ў Мінску. Ф. 2512. Воп. 1. Спр. 3), на якую спасылаецца цытаваная вышэй уліковая картка 1832 года, але пастанова змяшчае толькі агульную формулу аб прызнанні роду Баршчэўскіх у дваранскай годнасці. Выяўленыя дадаткова пастановы па Баршчэўскіх 1803 і 1841 гадоў (Спр. 50 і 275), запіс у радаводнай кнізе Віцебскай губерні 1836 года (Воп. 2. Спр. 11. Ч. 1) таксама не даюць выхадаў ні на Яна Янавіча (Івана Іванавіча) Баршчэўскага 1799 года нараджэння, ні тым больш непасрэдна на нашага пісьменніка.

Нечаканы паварот ва ўсім гэтым даследаванні ўносіць «Біябібліяграфічны слоўнік даўняга Віленскага ўніверсітэта» Л. Яноўскага (1939), дзе гаворыцца, што Баршчэўскі быў сынам уніяцкага святара («папа») і нібыта хаваў сваё сапраўднае паходжанне, пры гэтым даецца спасылка на працу вядомага царкоўнага дзеяча — архіепіскапа Антонія (А. Зубко) «О греко-уницкой церкви в Западном крае», апублікаваную ў свой час у маскоўскім часопісе «Русский вестник» (1864, № 9). Знаходзім гэты часопіс у нашай нябеднай Нацыянальнай бібліятэцы. І там такі надзвычай цікавы тэкст:

«Иезуиты учили, что священнические дети суть незаконнорожденные, так как по каноническому праву священники должны быть безбрачные. Поэтому священнические дети, во избежание насмешек, скрывали свое происхождение и переходили в латинство; в числе таковых был и родной мой брат. Один дальний мой родственник, сын священника Муроговской церкви Иван Барщевский, воспитанник иезуитский, сделавшись после польским литератором и описывая свою жизнь и отношения свои к отцу, ни одним словом не намекнул, что отец его был священником унитским, а назвал его шляхтичем из околицы Муроговской».

[11] Гл.: Пачынальнікі. С. 41.



Далібог, гэта цэлы пераварот у нашых уяўленнях пра паходжанне Баршчэўскага!

Як бы мы ні ацэньвалі асобу А. Зубко, паплечніка мітрапаліта І. Сямашкі ў справе скасавання уніі (праблема уніі — увогуле адна з самых складаных у гісторыі Беларусі), трэба з увагай паставіцца да яго сведчання аб каранях Баршчэўскага, якое да самага апошняга часу не заўважалася нашымі літаратуразнаўцамі. Выдумляць уладыку не было ніякай падставы, тым больш што тады яшчэ жылі людзі, якія ведалі Баршчэўскага, і фантазіраваць было б небяспечна. Антоній Зубко (1797–1884) — і сам сын уніяцкага святара — вучыўся ў Полацкай семінарыі, адкуль у 1816 годзе перайшоў у Полацкую езуіцкую акадэмію, якую праз два гады скончыў кандыдатам філасофіі. Вядома ж, полацкую навучэнскую моладзь, у тым ліку і будучага пісьменніка (да таго ж нейкага сваяка), як і ўсе іншыя тагачасныя рэаліі паўночна-ўсходняй Беларусі, ён ведаў вельмі блізка[12].

Так што вельмі магчыма, што Баршчэўскі сапраўды быў сынам святара і толькі пазней прыпісаўся ці зрабіў спробу прыпісацца да дваранства. Фабрыкацыя падробленых шляхецкіх дакументаў, як вядома, у Беларусі ў той час квітнела і не лічылася ў грамадстве вялікай заганай[13]. Тым больш што царскія ўлады насуперак мясцовым звычаям і традыцыям імкнуліся звузіць рамкі дваранства, не дапусціць у яго склад шматлікую дробную шляхту. Вось і беларускі пісьменнік А. Рыпінскі хваліўся ў 1883 годзе ў лісце да А. Плуга, што прыпісаў да свайго роду аднафамільца-мастака: «Карла Рыпінскага, віленскага мастака… я не маю шчасця ведаць асабіста, ён прасіў мяне толькі, каб я прыняў яго ў нашу фамілію і выправіў яму шляхецтва ў герольдыі, якую паслугу я найахвотней для яго зрабіў, бо ён заслужыў гэтага сваім выхаваннем і талентам»[14]. Гэтаксама ж і наш пісьменнік «сваім выхаваннем і талентам» мог выклікаць прыхільнасць дваран Баршчэўскіх, якія далучылі яго да свайго роду. Аперацыя гэтая была незаконная і грунтавалася на падробленых дакументах (найперш метрычных) і няшчырых сведчаннях. Сапраўдныя звесткі пра бацькоў, час і месца нараджэння ў такім выпадку ўтойваліся, адкрываліся толькі самым блізкім. Таму і магла з'явіцца няяснасць з годам нараджэння Баршчэўскага.

[12] Меў нейкія дачыненні А. Зубко і да беларускай літаратуры. Я. Карскі, са спасылкай на Р. Зямкевіча і А. Марціноўскага, звязвае з ім аўтарства вядомай кніжнай стылізацыі пад народную песню «Быв на Русі Черный бог…» (першая трэць XIX ст.).

[13] Гл. пра гэта: Касмылёў В. Шляхецкая годнасць — за тры рублі серабром // Беларуская мінуўшчына. 1998. № 1.

[14] Рыпінскі А. Пісьмо да Адама Плуга // Пачынальнікі. С. 176.

Што характэрна падробнікі, праўда крыху іншага кшталту, былі нават у тым самым Забор'і, дзе, паводле Хаўстовіча, у 1799 годзе зафіксаваны хрост Яна Янавіча Баршчэўскага. У 1825 годзе ў полацкіх і віцебскіх судовых установах слухалася справа «о бывшем Полоцкого повета в Заборском приходе дьячком именовавшемся дворянином Игнатии Леонове Сивицком, судящемся за составление беглым крестьянам подложных видов» (НГА ў Мінску. Ф. 1297. Воп. 1. Спр. 629; «від» — па-тагачаснаму пашпарт).

Хацелася б праверыць, ці быў у канцы XVIII стагоддзя ў Мурагах святар Баршчэўскі, зазірнуць у так званыя кліравыя ведамасці — своеасаблівыя паслужныя спісы святароў, дзе адзначаўся і склад сям'і (акурат такім шляхам у свой час удалося вызначыць, дзе і калі нарадзіўся знакаміты беларускі этнограф і літаратар Павел Шпілеўскі). Аднак матэрыялы Беларускай уніяцкай кансісторыі ў мінскім гістарычным архіве, на вялікі жаль, захаваліся недастаткова поўна, па сутнасці толькі асобнымі фрагментамі, і пакуль што версію Зубко пацвердзіць дакументальна не ўдаецца. Ва ўжо цытаванай кнізе «Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов» згадваюцца асобныя святары Баршчэўскія, звязаныя з паўночнай Беларуссю, але за 30-я гады XIX стагоддзя.

А, у прынцыпе, гэтая версія можа быць перспектыўнай. Нагадаем у сувязі з гэтым, што ў пахавальнай метрыцы пра сацыяльны статус Баршчэўскага сказана — «вольнага стану». Такая сціплая формула дваранам звычайна не стасавалася, а вось разначынцу — сыну святара — яна якраз вельмі пасуе.

У пацвярджэнне версіі, што Баршчэўскі нарадзіўся ў 1799 годзе, Хаўстовіч прыцягвае назіранні над тэкстам «Шляхціца Завальні» (раздзел «Успаміны пра наведанне роднага краю»): падзеі вайны 1812 года паказаны там нібыта вачыма падлетка. Але пры гэтым як быццам забываецца спецыфіка мастацкага твора, права пісьменніка на пэўную карэкцыю, трансфармацыю рэчаіснасці. Сапраўды, герой-апавядальнік у згаданым раздзеле, здаецца, паводзіць сябе як падлетак: захапляецца рыбкай, вавёркай. Але ж не забудземся, што перад намі паэт, творчы чалавек, якому ўласціва хлапечае захапленне жыццём у розных яго праявах. З другога боку, мы ведаем, што недзе тады ж, у 1812 годзе, па свежых слядах падзей Баршчэўскі напісаў сваю беларускую паэму «Рабункі мужыкоў», і гэта твор далёка не хлапечы, а створаны досыць сталым чалавекам.

Яшчэ адзін аргумент Хаўстовіча: тагачасны літаратар і педагог Гаўдэнты Шапялевіч называецца ў крыніцах сябрам Баршчэўскага, «таварышам па вучобе ў Полацку». А ёсць жа звесткі, што ён, Шапялевіч, скончыў Полацкую акадэмію ў 1820 годзе ў дваццацігадовым узросце.



Аднак выраз «таварыш па вучобе» не абавязкова абазначае аднакласніка, размова магла ісці проста пра тое, што яны вучыліся ў адной установе, скажам, Баршчэўскі ў старэйшых класах, а Шапялевіч — у малодшых. Тым больш што на чужыне (а размова ў крыніцах ідзе пра пецярбургскі перыяд жыццяпісу Баршчэўскага) паняцце зямляцтва і каляжанства куды шырэйшае, чым дома.

Я ўпэўнены ў адным: па-таварыску пішучы прадмову да «Шляхціца Завальні», Падбярэскі ніяк не мог прыбаўляць яму гадоў, а толькі ўбаўляць. Нагадаем, што Баршчэўскі так і не стварыў сям'і і як кожны стары кавалер, трэба думаць, раўніва ставіўся да свайго ўзросту, як мог маладзіўся. Падбярэскі мусіў вагацца паміж жаданнем дагадзіць Баршчэўскаму і натуральным імкненнем да дакладнасці. Трохі падкарэктаваўшы лічбу на пачатку жыццяпісу (1794 замест 1790), ён потым у тэксце ўсё ж няўзнак прагаварыўся, выдаў сапраўдны ўзрост свайго героя — каля 1809 года яму васямнаццаць. Канчаткова ўсё паставіў на месца не менш інфармаваны Барташэвіч, калі Баршчэўскі ўжо спачыў вечным сном на чуднаўскіх могілках: нарадзіўся ў 1790 годзе, памёр у 1851-м ва ўзросце 61 года.

Падмацоўваючы самымі рознымі аргументамі сваю версію, Хаўстовіч неяк пакідае без увагі адно месца з вельмі каштоўнага ліста Падбярэскага да Ю. І. Крашэўскага. Нагадаем, што ліст знойдзены самім Хаўстовічам у Кракаве, даследчык цытуе яго ў артыкуле «Ля вытокаў беларускай нацыянальнай ідэі»[15]. Дык вось, на пачатку 1842 года Падбярэскі паведамляе свайму карэспандэнту пра Баршчэўскага: «Для мяне ён піша "Нарысы Беларусі", бо не ведаю, ці ёсць дзе другі чалавек, каторы б са шмат якіх бакоў знаў так Беларусь. Калі ёсць, дык гультай які, не здольны да пяра. Адкрыўшы гэтую якасць у Баршчэўскім, я стараўся адвесці гэтага 50-гадовага дзядульку ад віршавання» (падкрэслена мною. — *Г. К.*). Ці мог трыццацігадовы Падбярэскі гаварыць так пра Баршчэўскага, калі б таму было (паводле заборскай метрыкі) усяго 42 гады? Думаецца, не. Як Падбярэскі, так і іншыя давераныя, абазнаныя людзі з атачэння Баршчэўскага ведалі, што пісьменнік нарадзіўся за дзясятак гадоў да новага стагоддзя.

Баршчэўскі не быў чалавекам філаматскага пакалення, як аказалася б, калі б мы прынялі версію Хаўстовіча. Ён старэйшы. Па ўзросце ён нібы папярэднік філаматаў. І адначасова ў нечым самым істотным — у творчых адносінах, у намацванні плённага шляху да рамантызму — іх вучань.

[15] Хаўстовіч М. Ля вытокаў беларускай нацыянальнай ідэі // Полымя. 1994. № 11. С. 169.

Калі Баршчэўскі сустракаўся ў Пецярбургу з Адамам Міцкевічам і той рабіў заўвагі на яго вершы, гэта не былі размовы равеснікаў. Здарылася так, што маладзейшы вучыў старэйшага.

Некаму спрэчкі і выкладкі пра год нараджэння Баршчэўскага могуць падацца малаістотнымі. Між тым усё гэта досыць важна. Бо літаратура складаецца з твораў і творцаў. Узрост пачынальнікаў — узрост літаратуры.

## II

У канцы 1995 года мой артыкул друкуецца ў часопісе «Полымя». У адказ атрымаў ліст ад М. Хаўстовіча. Па сутнасці, гэта не толькі таварыскі водзыў, але і дадатковае каштоўнае невялікае даследаванне з новымі звесткамі і меркаваннямі. Хочацца пазнаёміць чытача з поўным тэкстам гэтага паслання, якое добра перадае клопаты пашукоўцаў, нястомных следапытаў мінулага. Сям-там я зрабіў толькі асобныя заўвагі і тлумачэнні.

«Паважаны Генадзь Васільевіч!

Я вельмі ўважліва чытаў Ваш артыкул у "Полымі" і знайшоў шмат цікавага для сябе. Вы канчаткова пераканалі мяне, што 16.12.1799 г. не можа з'яўляцца датай нараджэння нашага Я. Баршчэўскага. Зрэшты, я ніколі і не быў на 100 % упэўнены, што "заборская метрыка" — гэта метрыка нашага пісьменніка, але лічыў, што дзеля актывізацыі пошуку можна ўвесці яе ва ўжытак. (Бо ж і Вы колісь раілі мне надрукаваць маю дысертацыю[16].) У Ленінградзе (яшчэ Ленінградзе) я пазнаёміўся з усімі, здаецца, матэрыяламі Герольдыі, якія датычылі роду Баршчэўскіх. (Працавалі мы тады з Я. Янушкевічам, які на свае вочы бачыў копію тае "заборскае метрыкі".) З усіх Баршчэўскіх, якія нарадзіліся напрыканцы XVIII ст., толькі заборскі "падыходзіў". Тым больш што Забор'е, як высветлілася, знаходзіцца побач з Марогамі (Мурагамі). Тады я яшчэ не ведаў, што і ў саміх Марогах была ўніяцкая царква, а калі (па Вашай парадзе) звярнуўся да ўспамінаў А. Зубко, ужо было позна ўносіць змены ў свой артыкул у "Полымі". Так, той факт, што ў Марогах была царква, з'яўляецца пераканаўчым аргументам, што "заборская метрыка" не ўяўляе каштоўнасці для нашага літаратуразнаўства. Але ў Вашым артыкуле я знайшоў яшчэ адно пацверджанне гэтае думкі. Тут маецца на ўвазе прыведзены Вамі дакумент з Мінскага гістарычнага архіва пра І. І. Баршчэўскага, які быў на службе ў С. Цеханавецкага ў Дрыбіне. Гэта якраз той, заборскі Баршчэўскі! Той, бо ў заборскага Баршчэўскага быў брат Люцый 1807 г. н[араджэння]. (У дысертацыі я пісаў пра Люцыя як пра брата пісьменніка, але ў "Полымі" рэдактары скасавалі той радок.) І, нягледзячы на тое што бацькі заборскага Баршчэўскага былі "рот. аршанскія", ён служыў у Цеханавецкіх; на службе, пэўна, быў у Лепелі і Люцый. Г. зн. у XIX ст. дзеці нават "самавітых" бацькоў маглі быць аканомамі ды гувернёрамі.

Такім чынам, я мушу прызнаць сваю памылку, мушу прызнаць, што паспяшаўся публікаваць "заборскую метрыку". Адно суцяшае: без майго артыкула, пэўна б, і Вы не закранулі гэтую тэму ў бліжэйшы час ды не пазнаёмілі нас з шэрагам цікавых дакументаў эпохі Я. Баршчэўскага.

Вось, скажам, звесткі з кнігі К. Ністрэма пра яшчэ аднаго І. І. Баршчэўскага, адстаўнога чыноўніка 10-га класа, што жыў на Пад'ячаскай вуліцы ў доме Тацішчавай. На жаль, я не ведаю, звесткі за які год (ці не 1844?) зафіксаваны ў календары[17]. Бо наш Я. Баршчэўскі ў лісце да Юлі Шапялевіч ад 3. 12.1837 г. пісаў: "Цяпер я пераехаў на новую кватэру, наблізіўся да цэнтра горада, да тых мясцін, дзе маю сваіх вучняў", — а напрыканцы 30-х гг. жыў на вуліцы Кананерскай, 14 у доме Касаткінай (пра гэта ён паведамляе ў абвестках пра падпіску на "Незабудку" — "Tygodnik Petersburski". 1839. № 84). Зусім верагодна, што наш Я. Баршчэўскі мог даволі часта мяняць кватэры, тым больш што ў тым жа лісце да пані Юлі ён выказваў незадавальненне сваім новым гаспадаром.

Трэба згадзіцца з Вамі, што Я. Баршчэўскага трэба "шукаць" у кліравых ведамасцях уніяцкае царквы. На жаль, пяць гадоў таму я не ведаў гэтага, а таму, калі працаваў з архівам канцылярыі мітрапаліта грэка-ўніяцкіх цэркваў (ЦГАЛ — РДГА у С-П[18]), не надаў належнае ўвагі ўніяцкаму паходжанню Я. Баршчэўскага, тым больш нічога не ведаў пра ягонага бацьку-святара. Вось бы цяпер у Пецярбург!

[16] Грунтоўная, з прыцягненнем многіх невядомых першакрыніц, дысертацыя М. Хаўстовіча «Беларускі літаратурна-грамадскі рух у 30–40-я гады XIX ст.» абаронена ў 1993 г. (*Г. К.*).

[17] Кніга 1844 г., але звесткі маглі быць і крыху запозненыя (*Г. К.*).

[18] Цэнтральны гістарычны архіў у Ленінградзе — цяпер Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў у Санкт-Пецярбургу (*Г. К.*).

Згадзіўшыся з Вамі, што 1799 год — гэта не год нараджэння (ці хросту) нашага Я. Баршчэўскага, я не магу згадзіцца з шэрагам іншых Вашых сцвярджэнняў. Дык дазвольце паспрачацца.

Не магу прыняць 1790 год як год нараджэння Я. Баршчэўскага. Бо, па-першае, Ю. Барташэвіч, які ўвёў ва ўжытак гэты год (да гэтага ён дадумаўся, працуючы з артыкулам Р. Падбярэскага), крыху пазней у сваёй "Гісторыі польскае літаратуры" адмовіўся ад свае версіі і паўтарыў дату Р. Падбярэскага. Па-другое, падставу для спрэчкі з Вамі дае тэкст "Шляхціца Завальні". І не толькі раздзел "Успаміны пра наведанне роднага краю" (хоць тут варта звярнуць увагу не на вавёрку і рыбку, а на тое, што 22-гадовы чалавек не ведае, чаго людзі сабраліся на беразе Дрысы, і не можа адрозніць навальніцу ад вайны). Справа ў тым, што ў творы Я. Баршчэўскі часта згадвае сваіх сяброў па Акадэміі (не калегіі!). А Акадэмія, як вядома, заснавана ў 1812 г. Г. зн. пісьменнік вучыўся і ў Акадэміі, бо ён быў яшчэ студэнтам пасля 1812 г., маючы (калі лічыць яго з 1790 г.) больш за 22 гады. На маю думку, такога быць не магло. Бо нават студэнт-гультай з заможнае сям'і рэдка "сядзеў" на школьнай лаўцы ў Полацку пасля 22 гадоў[19]! Вядома, Вы тут можаце запярэчыць, што Я. Баршчэўскі называе сваю "alma mater" у адпаведнасці з яе новым статусам. Маўляў, вучыўся ў калегіі, а калі яе перайменавалі ў Акадэмію, дык цяпер яе трэба так і называць. Што ж, на гэта я магу адно толькі звярнуцца яшчэ раз да тэксту "Шляхціца Завальні". У раздзеле "Арганісты з Расонаў" чытаем (гл. па арыгінале, бо, перакладаючы твор у студэнцкія гады і не маючы добрага слоўніка, я не разабраўся, дапусціў памылку): "— І Янка — філосаф езуіцкае акадэміі — ужо, мусіць, шмат расказаў гісторый. Ведаю, што калі ён быў яшчэ ў калегіуме, дык вельмі любіў чытаць кніжкі". Ці выпадкова гэта — Янка вучыўся спачатку ў калегіі, а закончыў вучобу ў шостым, перадапошнім класе Акадэміі, класе філасофіі? Думаецца, не! Думаецца, менавіта сябе мае на ўвазе тут аўтар. А ён жа добра памятаў свае маладыя гады.

Вашу інтэрпрэтацыю выразу "таварыш па вучобе ў Полацку" можна, вядома, прыняць, але толькі з праўкаю, што розніца ва ўзросце Г. Шапялевіча і Я. Баршчэўскага не дзесяць, а крыху менш гадоў. Ёсць падставы гаварыць, што яны пазнаёміліся яшчэ ў Полацку. (Гл. артыкул Р. Падбярэскага: "...адзіная жывая

[19] Думаю, што зусім дарослыя вучні — і тым больш студэнты — былі ў тыя гады нярэдкай з'явай. Пра гэта скажам яшчэ напрыканцы (*Г. К.*).



душа, якую ён ведаў у велізарнай сталіцы", і Ю. Барташэвіча: "...ва ўсім велізарным горадзе ён спаткаў аднаго толькі знаёмага, гэта быў пан Г. Шапялевіч".) Думаецца, 10-гадовая розніца ва ўзросце перашкодзіла б Я. Баршчэўскаму сярод 5–6 соцень полацкіх студэнтаў "ведаць" Г. Шапялевіча. Зрэшты, магло быць і інакш. Той жа Я. Баршчэўскі мог быць нават гувернёрам у сям'і Шапялевічаў. Невыпадкова ў 30-я гг. ён будзе штолета прыязджаць да іх у Рудню, дасылаць лісты Юлі (дарэчы, не жонцы, а сястры Гаўдэнтыя).

Мне здаецца, Вашыя разважанні пра адносіны Р. Падбярэскага і Я. Баршчэўскага ідэалізаваныя, не грунтуюцца на нейкіх пэўных фактах. "Дагаджаў" Р. Падбярэскі пісьменніку зместам свайго артыкула, а не тым, што "падмаладжваў" яго на нейкія там 4 гады. Увогуле, як сведчыць карэспандэнцыя Р. Падбярэскага, а таксама ліст Я. Баршчэўскага да Ю. І. Крашэўскага, Р. Падбярэскі не быў блізкім сябрам Я. Баршчэўскага. Бо апошні даволі хутка паверыў чуткам пра Р. Падбярэскага, а гэтыя чуткі-плёткі кружылі ў асяроддзі пецярбургскіх беларусаў, ліцвінаў, палякаў.

Р. Падбярэскі разам з Р. Жукоўскім вясною — летам 1844 г. рыхтавалі І томік "Шляхціца Завальні" да выдання, але, не маючы грошай, ужо ў ліпені мусілі аддаць рукапіс Я. Эйнерлінгу. Аднак, як мы памятаем, "Колькі слоў ад аўтара" і артыкул Р. Падбярэскага пазначаны 8 верасня 1844 г. Цэнзар таксама І томік падпісаў у друк 8 верасня. Летам 1844 г. Я. Баршчэўскага не было ў Пецярбурзе, дык, трэба думаць, Р. Падбярэскі мог атрымаць звесткі пра пісьменніка толькі ад некага з ягоных блізкіх сяброў (скажам, Штырмераў, І. Галавінскага ды інш.).

А вось называючы ў лісце да Ю. І. Крашэўскага Я. Баршчэўскага "дзядулькаю", Р. Падбярэскі проста "падмаладжваў" сябе: у сваіх лістах ён вельмі часта называе сябе "маладым літаратарам" (хоць яны з Ю. І. Крашэўскім аднагодкі). А. Л. Штырмер нават верш напісаў "Да маладога літаратара", В. Кажынскі паклаў яго на музыку, сам жа "малады літаратар" змясціў яго ў сваім "Рочніку".

А ці выпадковы той факт, што і ў 1842, і ў 1844 гг. Р. Падбярэскі называе пісьменніка 50-гадовым? Думаецца, калі б ён ведаў дакладны ўзрост Я. Баршчэўскага, дык у прыватным лісце так бы і напісаў: "54-гадовы дзядулька"![20].

[20] Якраз такая залішняя дакладнасць, скрупулёзнасць і супярэчылі б вольнай, размашыстай стылістыцы прыватнага ліста (*Г. К.*).

Зрэшты, навошта было яму "падмалоджваць" пісьменніка спачатку на 2, а пасля на 4 гады? Дазвольце выказаць думку, што Р. Падбярэскі пісаў свой артыкул, грунтуючыся на паведамленнях не пісьменніка, а ягоных сяброў. Вусныя апавяданні Я. Баршчэўскага, якія ён любіў расказваць пра сваю маладосць, і сталі асноваю біяграфічных звестак. Цікава і тое, што ў 1843 г. Р. Падбярэскі не ведаў, што "Дзеванька" і "Гарэліца" — гэта вершы Я. Баршчэўскага. Дапусціўшы такую недакладнасць, ён імкнецца не толькі выправіць яе, але і паказаць сваю дасведчанасць у літаратурнай працы Я. Баршчэўскага: ён прыводзіць строфы з паэмы "Рабункі мужыкоў". І робіць гэта без дазволу. (Падобнае Р. Падбярэскі практыкаваў. Скажам, без дазволу аўтара надрукаваў аповесць "Фрэнафагіюш і Фрэналесты" Л. Штырмера.) Я. Баршчэўскі меў, пэўна, прычыны не друкаваць гэтыя творы.

Невыпадковае таму і адмоўнае стаўленне тагачаснае крытыкі да артыкула Р. Падбярэскага. (Па ўскосных звестках, дарэчы, артыкул "Беларусь і Ян Баршчэўскі" Р. Падбярэскі нібыта выдаў і асобна!) Невыпадковы і той факт, што Я. Баршчэўскі перапыніў сваё супрацоўніцтва з Р. Падбярэскім. Апошні пасля 1843 г. нічога не атрымаў ад Я. Баршчэўскага ў свае пецярбургскія ды і віленскія выданні. Я. Баршчэўскаму было, відаць, за што крыўдзіцца: спрытны Р. Падбярэскі выкарыстоўваў усё, што меў магчымасць прачытаць у рукапісе. Параўнайце артыкул "Беларусь і Ян Баршчэўскі" і артыкул І. Храпавіцкага "Погляд на паэзію беларускага народа". Колькі там "супадзенняў"! Так было і з Я. Баршчэўскім. Р. Падбярэскі з уласцівай яму цэпкасцю хапаўся за любую свежую думку, пачутую ці вычытаную ў рукапісе, ды выкарыстоўваў яе ў сваіх публіцыстычных артыкулах (асабліва расійскамоўных).

Я не маю на мэце ачарніць дзейнасць Р. Падбярэскага. Бо зробленае ім шматкроць пераважае асобныя непрывабныя якасці ягонае натуры. Але так было. Я мог бы прывесці цэлы шэраг дакументаў, якія гавораць часам нават пра непрыстойныя ўчынкі Р. Падбярэскага — і ў Маскве, і ў Пецярбурзе, і ў Вільні. Ды не гэта галоўнае. Галоўнае тое, што Р. Падбярэскі біяграфічныя звесткі пра Я. Баршчэўскага атрымаў не ад самога пісьменніка, бо ў 1844 г. між імі ўжо проста не існавала ніякіх адносінаў. "Аўтарызаваць" артыкул Р. Падбярэскага Я. Баршчэўскі, відаць, не мог. Не мог ён умяшацца ў працэс выдання "Шляхціца Завальні" Я. Эйнерлінгам. І, пэўна, нейкія непаразуменні прымусілі Я. Баршчэўскага выдаваць IV томік самому і ў іншай друкарні.

На маю думку, нарадзіўся Я. Баршчэўскі не раней як у 1794 г. А больш праўдападобна — каля 1796 г. Г. зн. у 1812 г. ён меў каля 16 гадоў. Г. зн., у Цуднаве (Чуднаве) ведалі ўзрост свайго "сямейніка". Як-ніяк, а нейкі пашпарт Я. Баршчэўскі мусіў мець пры сабе. Ці ж мог ён жыць у Пецярбурзе, ці мог пераязджаць з места ў места без дакументаў? І яшчэ. Пачынаючы з 1837 г. Я. Баршчэўскі піша інтымныя лісты пані Юлі ў Рудню. Непадобна, каб столькі цеплыні і пяшчоты зыходзіла з душы амаль 50-гадовага чалавека. А ён жа, заўважце, быў яшчэ шчырым вернікам. Хочацца думаць, што напісаны гэтыя лісты ўсё ж крыху маладзейшым чалавекам.

Зусім нядаўна трапілася мне невялічкая аповесць А. Грозы. На маю думку, гэта твор пра юнацтва Я. Баршчэўскага. (Салагубаўка А. Грозы, Цуднаў, а таксама Янушполь (прыстанак Ф. Савіча) знаходзяцца побач. Я. Баршчэўскі, відаць, наведваўся да іх абодвух, ва ўсякім выпадку, да А. Грозы, які меў у сябе "Успаміны" Ф. Савіча.)

Цікава было б пачуць Вашую думку пра гэты твор А. Грозы. Я зрабіў пераклад, і, калі Вы не маеце нічога супраць, затэлефануйце мне на працу, лабарантка мне перадасць. І я дам Вам пераклад.

18.01.1996 г. М. Хаўстовіч»

Вось такое атрымаў я адметнае, сімпатычнае і, як цяпер любяць гаварыць, канструктыўнае пісьмо.

Яно падкупляе багаццем назіранняў і падыходаў, шчырай зацікаўленасцю ў высвятленні навуковай ісціны. І гатоўнасцю пагадзіцца з думкай апанента, калі яна дастаткова аргументавана.

Вось жа палічыў магчымым шаноўны калега пагадзіцца, што «заборская метрыка» 1799 года, па ўсім, датычыцца нейкага іншага Баршчэўскага, а не нашага пісьменніка.

А між тым наша навуковая і культурная грамадскасць ужо гатовая была прызнаць за гэтай датай не толькі «правы грамадзянства», але і яе прыярытэтнасць.

Возьмем, напрыклад, найаўтарытэтнейшы шасцітомны даведнік «Беларускія пісьменнікі», які ў пэўнай ступені мае нарматыўны характар, у кожным разе падсумоўвае апошнія дасягненні навукі. Артыкул пра Баршчэўскага — у першым томе, які выйшаў у 1992 годзе, яшчэ да публікацыі «заборскай метрыкі». Пра нараджэнне пісьменніка слоўнік

«выстрэльвае» з тэлеграфічнай або, цяпер скажам, камп'ютарнай дзелавітасцю: «1794, паводле інш. крыніц 1790 ці 1796» (тры даты, перавага за сярэдняй). Але ў канцы апошняга, шостага тома (1995) змешчаны «Удакладненні і змены, якія датычаць персаналій у т. 1–6». Размова пра самыя істотныя біяграфічныя ўдакладненні, якія палічыла неабходным зрабіць рэдакцыя. Прапануецца ўдакладненне і наконт Баршчэўскага: «Паводле новых звестак, нарадзіўся 16.12.1799».

Як мы пераканаліся, сёння гэтую папраўку можна, бадай што, зняць (прынамсі адправіць у далёкія або блізкія запаснікі памяці) і вярнуцца на «кругі свая» да трох папярэдніх дат. Што ж — і гэта ў навуковым пошуку ўжо нямала.

У той жа час з ліста М. Хаўстовіча відаць, што мой шаноўны калега і апанент па-ранейшаму адпрэчвае 1790 год як магчымую дату нараджэння пісьменніка. Мне ж гэтая дата і цяпер — пры ўсёй павазе да меркаванняў апанента — здаецца найбольш перспектыўнай.

Дадаткова спашлюся на кнігу польскага гісторыка Яна Гіжыцкага «Матэрыялы да гісторыі Полацкай Акадэміі і залежных ад яе школ» (Кракаў, 1905), якую напаткаў ужо пасля апублікавання свайго артыкула ў «Полымі» (між іншым, уладальніцкая пячатка і выразны асабісты подпіс сінім алоўкам на авантытуле сведчаць, што экзэмпляр кнігі ў нашай акадэмічнай бібліятэцы паходзіць з кнігазбору знакамітага святара і даследчыка Адама Станкевіча). Аўтар Я. Гіжыцкі (псеўданім Валыняк) — спецыяліст па гісторыі асветы і каталіцкіх ордэнскіх структур на нашых землях — выкарыстаў дакументы архіва езуітаў у Кракаве, так што ён вельмі канкрэтна, па першакрыніцах уяўляў сабе гісторыю Полацкай акадэміі і яе навучэнскі кантынгент.

Між іншым, насуперак меркаванням М. Хаўстовіча, знаходзім там звесткі і пра наяўнасць у езуіцкіх школах (калегіумах) вельмі немаладых вучняў-пераросткаў. Напрыклад, у Полацку ў 1802 годзе ў VI класе побач з 14-гадовымі адзначаны і 28-гадовыя вучні (узроставая разбежка вельмі вялікая); па матэрыялах візітацыі Севергіна 1803 года, у Аршанскай езуіцкай школе «ўзрост вучняў у V і IV класе ад 13 да 32 гадоў». Нішто сабе вучаняткі!..

Але галоўную ўвагу звяртаем на персаналіі. На жаль, поўных спісаў навучэнцаў за ўсе гады няма, але вучнёўска-студэнцкіх імёнаў з рознай нагоды называецца процьма.

Раз-пораз у кнізе трапляюцца знаёмыя прозвішчы. Напрыклад, у матэрыялах за 1814 год адзначаны поспехі вучняў IV класа Гаўдэнтыя Шапялевіча і Валентыя Ваньковіча (будучы славуты мастак, равеснік Шапялевіча). У 1817 годзе паспяхова адказваў па грэчаскай літаратуры той жа Шапялевіч (ужо студэнт акадэміі), а па логіцы, метафізіцы, этыцы і расійскай літаратуры — яго аднакашнік Ваньковіч. Тады ж заслужыў узнагароду вучань IV класа Маўрыцый Корбут (бацька беларускага паэта Вуля). Яна Баршчэўскага нідзе няма, толькі на адной са старонак называецца вучань V класа Казімір Баршчэўскі, магчыма сваяк пісьменніка. Але ў кнізе ёсць яшчэ заключны раздзел «Слаўнейшыя і больш вядомыя выхаванцы беларускіх езуітаў». Пералік пачынаецца якраз з аўтара «Шляхціца Завальні»: «Ян Баршчэўскі прыйшоў на свет у 1790 годзе (!) у Марогах, на Полаччыне; вучыўся ў полацкіх езуітаў, дзе скончыў школы…». Школы, г. зн. калегіум, а не акадэмію.

Праўда, спасылаецца Гіжыцкі ў дадзеным выпадку ўсяго толькі на Энцыклапедыю Аргельбранда.

Патрэбны новыя пошукі як у адпаведнай царкоўнай дакументацыі, так і ў матэрыялах полацкіх навучальных устаноў канца XVIII — пачатку XIX стагоддзя[21].

Як заўсёды, апошняе слова будзе за новымі важкімі фактамі і аргументамі.

У любым выпадку пошук узнагароджваецца ўзбагачэннем і канкрэтызацыяй нашых ведаў пра мінуўшчыну, пра гісторыю і культуру роднай краіны.

[21] У 2012 г. М. Хаўстовіч выявіў у архівах спісы студэнтаў Полацкай езуіцкай акадэміі за 1813–1816 гг., дзе фігуруе Я. Баршчэўскі. У спісах пазначаўся ўзрост студэнтаў. У верасні 1813 г. Я. Баршчэўскаму 21 год, у верасні 1814 г. — 22, у верасні 1815 г. — 23. Такім чынам, паводле гэтых дакументаў, Я. Баршчэўскі нарадзіўся каля 1792 г. Гл.: Хаўстовіч М. Ян Баршчэўскі і ягоны «Шляхціц завальня» // Баршчэўскі Я. Шляхціц завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях. Warszawa, 2012. — *Заўв. рэд.*

# ЗАЛАТАЯ ПАДКОВА,
# альбо РАДАВОД КАМПАЗІТАРА

Я горды быў, што род мой ад ліцвіна,
Што шляхціц я і маю герб з пячаткай.

*У. Сыракомля*

Беларускі дзяржаўны гістарычны архіў у Мінску — сапраўдная скарбніца разнастайных звестак з гісторыі Беларусі дарэвалюцыйнага перыяду, у першую чаргу яе цэнтральнай і ўсходняй частак (былыя Мінская, Віцебская, Магілёўская губерні). Мільёны архіўных спраў і дакументаў — нібы спрасаваны, сканцэнтраваны досвед пакаленняў, блокі-ячэйкі нацыянальнай памяці. Без гэтых матэрыялаў ані не абысціся ў біяграфічных, генеалагічных даследаваннях. Адкрыцці і знаходкі тут чакаюць літаральна на кожным кроку. Трэба помніць толькі пра саслоўную структуру тагачаснага грамадства і адпаведны характар дакументацыі. Найбольш рупіліся пра захаванне фамільных дакументаў (і мелі для гэтага ўмовы) вышэйшыя класы.

Зазірнём, напрыклад, у «Радаслоўную кнігу» шляхты-дваран Віцебскай губерні за 1836 год. Уражвае ўжо сама дата — часы Міцкевіча, Пушкіна. Наш Дунін-Марцінкевіч яшчэ не надрукаваў, здаецца, аніводнага радка, а Кастусь Каліноўскі нават не паспеў нарадзіцца. Грувасткі вялікафарматны рукапісны фаліянт у разгорнутым выглядзе з цяжкасцю змяшчаецца на рабочым стале. Выдатная бялюткая, нявыцвілая і дагэтуль папера. Надзвычай акуратны почырк — нібы на свае вочы бачыш, як стараліся-шчыравалі колішнія ўвішныя пісары. Каляровыя выявы шляхецкіх гербаў (пры афармленні радаслоўных-радаводных кніг і мастак быў не лішні). Мудрагелістыя генеалагічныя схемы.

Трапіць у дваранскую радаводную кнігу было вялікім гонарам. Кожнаму роду, якому гэты гонар выпаў, адведзена колькі старонак. На лістах 86–87 радавод нейкіх Абрамовічаў.

Старэйшым у родзе на той час лічыўся Іосіф Васілевіч Абрамовіч, 74-гадовы ўдавец, жыхар Полацкага павета. Пры ім дачка Багуміла на выданні. Ніякай маёмасці за Іосіфам Васільевічам не адзначана. Дзе канкрэтна жыў — не сказана.

Потым ідзе яго брат Іван Васілевіч, 65 гадоў. Жыве ў Віцебскім павеце. Маёнтка ніякага таксама не мае. Затое ёсць жонка Настазія



Мацкевічанка, 51 год. Сыны Антон 25 гадоў, Іван 21 года. Дочкам Ганне і Іаанне адпаведна 20 і 18 гадоў.

Яшчэ называюцца пяць дачок іх брата-нябожчыка Ігната Васілевіча ва ўзросце ад 20 да 31 гадоў. Толькі адна замужам, астатнія — «девицы».

Вось такі нічым, здаецца, не выдатны род беспамеснай беларускай шляхты. Са сваімі відавочнымі клопатамі-праблемамі і, мабыць, без асаблівых перспектыў.

Вядома ж, гэты рукапісны фаліянт гарталі многія архівісты-даследчыкі і да мяне. Я б таксама прапусціў гэтыя звесткі без асаблівай увагі, калі б не займаўся ў свой час трохі біяграфіяй вядомага беларускага кампазітара першай паловы XIX стагоддзя Антона Абрамовіча і не трымаў у руках архіўных дакументаў пра яго. У іх ліку быў пасямейны спіс дваран Віцебскага павета 1832 года, дзе распісана акурат гэтая ж самая сямейка: Іван Васілевіч з жонкай Настазіяй, сынамі (Антону там 21 год) і дочкамі. У адрозненне ад радаводнай кнігі 1836 года ў пасямейным спісе 1832 года зазначалася, што Іван Васілевіч і яго сыны Антон і Іван — музыканты. Выходзіць, і ў складзенай праз чатыры гады радаводнай кнізе зафіксаваны неацэнныя, дужа патрэбныя нам звесткі пра кампазітара і яго род.

У свой час у артыкуле «Радок у энцыклапедыю» (гл. маю кнігу «Героі і музы», 1982) на падставе ўзросту, зазначанага ў згаданым спісе 1832 года, я выказаў меркаванне, што кампазітар нарадзіўся каля 1811 года (1832 – 21 = 1811; на гэтым годзе можна было б і спыніцца, але практыка паказвае, што за абсалютную дакладнасць у такіх выпадках ручацца нельга, таму пішам «каля»). Дата была прынята гісторыкамі музыкі.

Радавод 1836 года пацвярджае гэтыя падлікі: ад 1836 адняць 25 — зноў выходзіць 1811 год. Але матэрыял радаводнай кнігі цалкам апраўдаў папярэднюю асцярожлівую агаворку «каля». Таму што ў радаводную кнігу ў адпаведным месцы, дзе пералічваюцца дакументы роду, упісана поўная дата нараджэння кампазітара, узятая складальнікамі радаводу з метрыкі: 24 чэрвеня 1810 года. Цяпер гэтая дата (па новым стылі 6 ліпеня) увойдзе, відаць, у нашы даведнікі і біяграфіі кампазітара.

Месца нараджэння, на жаль, не згадана. Метрычныя кнігі па Віцебскім павеце за 1810 год не захаваліся. Так што пакуль гэтае пытанне (пра канкрэтнае месца нараджэння) у жыццяпісе кампазітара застаецца адкрытым. (У будучым трэба адшукаць радаводную справу Абрамовічаў у пецярбургскай Герольдыі. Там павінна быць і поўная копія метрыкі.)

Гартаючы выпіскі з фамільных папераў Абрамовічаў, параўнаем над сямейнай храналогіяй, параўнаем звесткі 1832 і 1836 гадоў. Аказваецца,

апрача брата Івана, таксама музыканта, у кампазітара быў яшчэ брат Аляксандр, якому ў 1832 годзе было 8 гадоў. У звестках 1836 года (радаводная кніга) яго няма. Ды і потым — у даступных нам (праўда, пакуль нешматлікіх) дакументах — ён нідзе не згадваецца. Значыць, цалкам магчыма, што ў гэты перыяд (1832–1836) сям'я перажыла балючую трагедыю — страту хлопчыка-паскрэбка. Калі б нават, дапусцім, Алесь паступіў кудысьці ў кадэцкі корпус (у незаможных беларускіх дваран-шляхціцаў была тады такая завядзёнка), дык усё-такі, мабыць, быў адзначаны ў радавых паперах. Да гэтага тады ставіліся вельмі сур'ёзна.

І яшчэ адно назіранне, ужо трохі іншага характару. З узростам кампазітара і яго брата Івана ў падзеленых чатырохгадовым інтэрвалам дакументах калі не поўны, дык адносны парадак: у 1832 годзе ім 21 і 18 гадоў, у 1836-м — 25 і 21. А вось з сёстрамі сітуацыя блытаная. У 1832 годзе ім запісаны ўзрост 20 і 17 гадоў, у 1836-м — 20 і 18. Для іх час нібыта спыніўся. Што за гэтым стаіць? Трэба думаць, не просты недагляд, што таксама часам здаралася. Хутчэй, тут іншае. Адчуваем трывогу сям'і: дочкі «заседзеліся ў дзеўках», і гады іх сталі ўтойваць. Мабыць, ніхто не хацеў браць беспасажніц.

І пазней сёстры, наколькі можна меркаваць, жылі ў Пецярбургу пры браце-кампазітары. А былі ж адукаваныя, з шырокімі культурнымі інтарэсамі. Іх імёны знаходзім у спісах падпісчыкаў на «Незабудку» Баршчэўскага. І, як і ўсе Абрамовічы, яны мелі музычныя здольнасці, музіцыравалі, нават спрабавалі ствараць кампазіцыі. У пятым томе той жа «Незабудкі» за 1844 год, апрача мазуркі Антона Абрамовіча, апублікаваны мазуркі яго сёстраў. Дарэчы, адной з сясцёр прысвяціў узнёслы верш сам Ян Баршчэўскі: «Dla Johanny A…..wicz» — шыфр зусім лёгка разгадваецца, гэта той выпадак, калі тайнапіс не хавае, а, хутчэй, наадварот — прыцягвае ўвагу да адрасата.

З радаводнай кнігі 1836 года, з якой мы пачалі размову (пара паведаміць ужо яе архіўны адрас: Ф. 2512. Воп. 2. Спр. 11. Ч. 1), відаць, што род Абрамовічаў ведаў і лепшыя часы. Карысталіся Абрамовічы шаноўным старадаўнім гербам Ястрабец (у радаводнай кнізе напісанне на польскі кшталт: «Ястржембец»), які апісаны ў радаводзе так (захоўваем своеасаблівую стылістыку, дапісваем толькі знакі прыпынку, якія ў арыгінале чамусьці начыста адсутнічаюць, не раўнуючы як у некаторых супермодных вершах сённяшняга часу): «В голубом поле золотая подкова хребтом вниз, в средине оной крест. На шлеме под короною ястреб с поднятыми к полету крыльями, в правую сторону обращенный. На ногах две цепочки, в правой ноге (у кіпцюрах. — *Г. К.*) держит такову ж подкову, как в щите».



Гэтым жа гербам карыстаўся заможны, уплывовы род Абрамовічаў, які валодаў мястэчкам Варняны ў Віленскім павеце (цяпер Астравецкі раён Гродзенскай вобласці). Прадстаўнікі гэтага роду (варнянскіх Абрамовічаў) з XVI стагоддзя займалі высокія дзяржаўныя і вайсковыя пасады ў Вялікім Княстве Літоўскім, былі ваяводамі, кашталянамі, генераламі (гл. артыкул «Абрамовічы» ў першым томе «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі»).

Але ў Абрамовічаў з віцебскай радаводнай кнігі 1836 года, нягледзячы на агульны герб, здаецца, няма прэтэнзій на сваяцтва з гэтым, па сутнасці, магнацкім родам. Прынамсі гэтыя прэтэнзіі ніяк дакументальна не выявіліся.

Гісторыя віцебскіх Абрамовічаў, паводле радаводу, пачынаецца з 1752 года і налічвала да сярэдзіны XIX стагоддзя ўсяго чатыры пакаленні. Продкам-пачынальнікам гэтай галіны лічыўся Іван Абрамовіч (прадзед кампазітара), які ў радаводнай кнізе характарызуецца так: «За оказанные республике Польской (Рэчы Паспалітай. — *Г. К.*) услуги привилегиею короля польского Августа III 1752 октября 7 возведен в звание крайчего Полоцкого воеводства и владел в том же воеводстве вотчинным недвижимым имением, Бобылино прозываемым, с крестьянами, которое впоследствии поступило в закладное владение оршанскому ротмистру[22] Иосифу Яковицкому за 400 талеров».

У Івана-родапачынальніка было тры сыны. Двое — Іосіф і Аўгуст (Аўгусцін) — беспатомныя, трэці — Васіль (дзед кампазітара) меў у сваю чаргу чатырох сыноў: Ігната, Фадзея, Іосіфа і Івана (бацьку кампазітара). Дзед Васіль яшчэ недзе ў апошняй трэці XVIII стагоддзя канчаткова прадаў Бабыліна згаданаму Якавіцкаму, атрымаўшы дадаткова яшчэ 200 талераў. Род стаўся беспамесным.

Як мы бачылі, у 1836 годзе, калі складалася радаводная кніга, з усяго роду заставаліся ў жывых Іосіф і Іван Васілевічы з дзецьмі і шматлікія дочкі Ігната Васілевіча.

Вядома, што пасля паўстання 1831 года царскі ўрад павёў наступ на беларускую незаможную шляхту. Быў наладжаны строгі перагляд шляхецкіх дакументаў. Старэйшыны роду Абрамовічаў парупіліся сабраць адпаведную дакументацыю і падаць на зацвярджэнне ў губернскі дваранскі дэпутацкі сход. Звесткі радаводнай кнігі завяршаюцца такім абагульняльным, па-юрыдычнаму закавырыстым запісам:

«Определениями Витебского Дворянского Депутатского Собрания, 1807 января 3 и 1835 лет сентября 11 числ (так у дакуменце. — *Г. К.*) состоявшимися, заключено: как представленные на дворянское

---

[22] Гэты шляхецкі тытул толькі што згадваўся ў нарысе-расследаванні пра Я. Баршчэўскага.

происхождение рода Абрамовичев документы при рассмотрении общим собранием гг. исправляющего должность губернского [предводителя] и депутатов дворянства оказались достаточными, то на основании жалованной дворянству грамоты 82 статьи весь род Абрамовичев внесть (и внесен) в родословную Витебской губернии книгу в 6-ю ее часть и копии с протоколов обще с документами и поколенною росписью на рассмотрение в Герольдию (у Пецярбург. — *Г. К.*) представить (и представлены) при рапорте от 13 октября 1835 года за № 2022.

Выше изъясненное происхождение рода Абрамовичев извлечено из подлинных документов и судебных выписей, от просителя (бiдаць, бацька кампазiтара або дзядзька Iосiф Васiлевiч. — *Г. К.*) представленных, а именно: привилегии короля польского Августа III Ивану Абрамовичу на должность крайчия Полоцкого воеводства пожалованной, купчей крепости от Василия Абрамовича и по доверенности родных братьев Иосифа и Августина оршанскому ротмистру Иосифу Яковицкому на наследственное имение Бобылино с крестьянами, в Полоцком воеводстве лежащее, крестоприводных метрик о рождении и крещении Антона (кампазiтар — *Г. К.*) и Ивана Ивановых Абрамовичев, свидетельств Витебского уездного предводителя дворянства, Витебской казенной палаты, помещиков, дворян и чиновников Витебской губернии о состоянии рода Абрамовичев по дворянским спискам, неподлежании подушному окладу и о принадлежности сему роду и просителю прописанных документов».

Як бачым, давесцi высакароднае паходжанне было справай няпростай. Але род кампазiтара ў рэшце рэшт гэтага паспяхова дамогся.

Сямейныя хронiкi, неаддзельныя ад усёй гiсторыi бацькаўшчыны, несумненна, займалi важнае месца ў свядомасцi Антона Абрамовiча. Залатая падкова роду ззяла-свяцiла i нашаму кампазiтару.



# СЫРАКОМЛЯ ЦI ДУНIН-МАРЦIНКЕВIЧ?
## Беларуская паэма пра варшаўскiя падзеi 1861 года

Стыль — як i почырк — нiчога не пакiдае схаваным.

*О. Шпенглер*

У Вiльнi-Вiльнюсе, у Дзяржаўным гiстарычным архiве, у адной з вайскова-судовых спраў колiшняга Палявога аўдытарыята, што дзейнiчаў у свой час пры штабе Вiленскай ваеннай акругi (Ф. 1248. Воп. 1. Спр. 13), захоўваюцца паперы ўдзельнiка паўстання 1863 года Леапольда Кульчыцкага. У лёсе Кульчыцкага няма нiчога незвычайнага: наш зямляк, навучэнец Пецярбургскага будаўнiчага вучылiшча, як i многiя яго аднагодкi, стаў у 1863 годзе пад сцяг паўстання, каб са зброяй у руках заваяваць дэмакратычныя правы, свабоду i незалежнасць для Польшчы, Лiтвы, Беларусi. Згадку пра далучэнне Кульчыцкага i яго таварышаў па вучылiшчы да паўстанцаў знаходзiм у грунтоўнай, надзвычай багатай на прозвiшчы i факты працы гiсторыка Т. Сныткi аб удзеле студэнтаў у паўстаннi 1863 года[23]. I з'ява гэтая для таго часу, паўторым, самая звычайная, нават тыповая — паўстанцкiя шэрагi лiтаральна поўнiлiся студэнтамi i навучэнцамi-старшакласнiкамi. Але вiленская справа № 13 прыцягвае ўвагу дадатковымi цiкавымi акалiчнасцямi. У рукi следчых трапiў дзённiк Кульчыцкага студэнцкай пары, запiсы ў якiм яскрава малююць юнака — узнёслага патрыёта i не меншага фантазёра-летуценнiка. Вось, напрыклад, падкрэслены следчымi запiс ад 25 снежня 1858 года, недзе якраз на Каляды («крэсовая» пальшчызна Кульчыцкага вельмi лёгка кладзецца па-беларуску):

«Усе святы пiў, спаў, еў i чытаў кнiжкi. Пасля прачытання Багдана Зiновiя Хмяльнiцкага[24] нарадзiлася думка быць вызвалiцелем айчыны.

[23] Гл.: Снытко Т. Г. Студенческое движение в русских университетах в начале 60-х годов и восстание 1863 г. // Восстание 1863 г. и русско-польские революционные связи 60-х годов. М., 1960.

[24] Магчыма, твор пiсьменнiка-дзекабрыста Ф. Глiнкi «Зiновiй Багдан Хмяльнiцкi, або Вызваленая Маларосiя».

Але як, якім спосабам? Доўга думаў, нарэшце даверыў гэты сакрэт Вішнеўскаму, ён быў такой жа думкі, і мы вырашылі дзейнічаць разам. Найперш трэба разбурыць міны, падкладзеныя пад усёй Вільняй, таму што ў часе паўстання міны могуць быць падпаленыя і ўвесь горад разам з яго абаронцамі без усякай патрэбы ўзляціць у паветра. Аднак якім чынам адкрыць гэтыя лёхі. Вядома, што ад кафедры (кафедральны касцёл у цэнтры Вільні пад гарой Гедзіміна. — *Г. К.*) да Трокаў ёсць лёх, па якім хадзіла працэсія нават зусім нядаўна; вядома, што пад Вяллёй ёсць лёх. У іх, пэўна, ёсць порах, але дабрацца да іх цяжка. Аднак, пэўна, ёсць лёхі, якія злучаюцца з гэтымі лёхамі, напрыклад, лёхі, што вядуць у кляштар езуітаў у Закрэце, пэўна, злучаюцца не толькі з гэтымі галоўнымі лёхамі, але, апрача таго, маюць сувязь і з крапаснымі падзямеллямі, прынамсі мне так здаецца. Да лёхаў у Закрэце дабрацца ніяк нельга, таму што муры ўвесь час абвальваюцца, і, каб у іх забрацца, трэба рызыкаваць галавой, але дом Вішнеўскага насупраць касцёла Св. Катарыны ўвесь на лёхах, і ў садзе ёсць уваход у адзін з іх, але паколькі гэта склеп, бо, будуючы склепы, рабочыя адкопваюць які-небудзь лёх, адгароджваюць патрэбны пад склеп кавалак і ставяць сцяну, дык трэба прабіць сцяну і яшчэ невядома якую, дык вельмі шмат трэба будзе на гэта ўжыць часу і працы, але калі адкрыем лёхі, то, пэўна, дабяромся да закрэцкіх, а можа, і далей. Карысць ад пазнання лёхаў яшчэ ў тым, што ў часе аблогі горада альбо ў часе гарадскіх сутычак войска, хаваючыся там, можна зайсці ў тыл непрыяцелю. Нарэшце, можа быць дасканалае месца для тайнай нарады змоўшчыкаў, для перахоўвання фінансаў, рыштунку і ці мала для чаго. Цяпер пытанне, якім чынам дабрацца да Вільні, як даехаць, не маючы ні капейкі ў кішэні? Я сказаў гэта Вішнеўскаму і атрымаў на гэта адказ. Рада такая, каб напісаць да сваякоў, просячы грошы». Вось такія ў юнакоў клопаты.

Але неўзабаве ў нашых хлопцаў ужо новая фантазія (запіс ад 11 лютага 1859 года): яны замышляюць ні больш ні менш як зрабіць падкоп у Пецярбургу і ў пэўны момант «высадзіць у паветра», узарваць царскі палац з усёй імператарскай фаміліяй. Зноў робяцца падлікі-калькуляцыі — колькі на гэта патрэбна грошай. Аказваецца, на неабцяжараны жыццёвым досведам хлапечы розум усё гэта вельмі проста — наняць дом на Мільённай паблізу палаца, купіць 500 пудоў пораху і г. д. Само сабой зразумела, што і гэтым разам усё скончылася фантазійна-летуценным дзённікавым запісам. Цікава, што і сам Кульчыцкі лічыў гэты план «страшным і жахлівым».

Аўтар дзённіка прагна ловіць чуткі (не заўсёды рэальныя) пра апазіцыйныя настроі ў рускім грамадстве: высылка ў Сібір літаратара Безабразава, раскрыццё нейкай «змовы супраць імператара, складзенай з 300 асоб» (запісы ад 24 лістапада і 6 снежня 1859 года). У суботу 7 красавіка 1860 года запісаў: «Чуваць, што ў Літве і Польшчы ходзяць спіскі ("спісак" па-польску "змова", але тут, хутчэй, слова ўжыта ў рускім або беларускім сэнсе — "рукапісы". — *Г. К.*) па руках супраць маскалёў; дай жа Божа, каб штосьці разумнага зрабілі, але мне здаецца, што ўзняць рокаш без пэўных сталых сукурсаў (дапамогі. — *Г. К.*) з боку іншых дзяржаў будзе справай згубнай для Польшчы». 2 красавіка 1861 года ў лісце да маці (копія — у дзённіку) піша, што не застанецца ўбаку, «калі айчына пакліча мяне пад свае штандары». Так яно праз два гады і здарылася.

Не чужыя Кульчыцкаму былі ідэі рэвалюцыйнага саюзу народаў супраць самадзяржаўя. Даследчыкамі ўжо цытаваўся яго дзённікавы запіс пачатку 1862 года, прысвечаны рускаму народу: «Можа, і ён калі-небудзь прачнецца, вызваліцца ад гэтага мангольска-царскага ўплыву, падасць нам братнюю руку, і тады разам будзем складаць Богу ахвяры, але замест свойскіх жывёлаў мы ўскладзем на алтар драпежных звяроў — змяінае племя Готарпаў»[25]. Сказана, як бачым, моцна.

Побач з дзённікам у вайскова-судовай справе і некаторыя іншыя рукапісы Кульчыцкага. З лонданскай газеты «Demokrata Polski» ад 2 лістапада 1861 года (тайнымі каналамі нумары эміграцыйнага выдання траплялі ў Пецярбург) юнак скапіраваў цікавы варыянт тагачаснага гімна «Божа, што Польшчу…». Трэба сказаць, што версій-пераробак гэтага характэрнага папулярнага твора існавала безліч (былі і беларускія варыянты). Тут «руская версія», напісаная, паводле газетнай заўвагі, нібыта нейкім «вальнадумным расіянінам» і перакладзеная потым на польскую. Верш пачынаўся зваротам «Божа, што Расію…», у ім выказвалася надзея, што з цягам часу ў Расіі прыбудзе Пестэляў і Герцэнаў.

Але найбольшую цікавасць выклікае акуратна перапісаная Кульчыцкім няскончаная беларуская паэма пра варшаўскія падзеі 1861 года (арк. 216–218 адв. справы). Твор без назвы, назавём яго паводле першага радка «Плынуць вятры ат паўночы…», або нават карацей — «Плынуць вятры…». Кульчыцкі перапісаў першую частку і пачатак другой, усяго 168 радкоў.

Частка першая складаецца з невялічкага энергічнага запеву і разгорнутага апісання крывавай, раз'юшанай расправы царскіх войскаў з жыхарамі Варшавы. Гэты аповед напісаны шматскладовымі сілабічнымі вершамі, блізкімі да верша «Пана Тадэвуша». Асобныя сюжэты-эпізоды агульнай карціны вылучаны ў невялікія раздзельчыкі,

[25] Бикулич В. Б. О русско-польско-литовско-белорусских революционных связях периода восстания 1863–1864 гг. (Материалы ЦГИА Литовской ССР) // Революционная ситуация в России в 1859–1861 гг. М., 1965. С. 303.

пазначаныя рымскімі лічбамі. Такіх раздзельчыкаў восем, у кожным ад 10 да 28 радкоў.

Другой частцы папярэднічае эпіграф з двух народных прыслоўяў: «Як паслаўся, так праспаўся! — Круці ня вярці, а трэба ўмярці!». Апошняе, у трохі іншай рэдакцыі («Круці не вярці, а памерці трэба»), за некалькі гадоў перад гэтым ужо апрабавалася ў беларускай літаратуры («Вечарніцы» Дуніна-Марцінкевіча)[26].

Аўтар абяцае расказаць у гэтай нясконачанай частцы пра прычыны варшаўскай драмы, пра гістарычныя карані такога лютавання царскіх апрычнікаў і пачынае здалёк — ад паразы царызму ў Крымскай вайне. Пераможцы — французы і «брытаны» — нібыта запатрабавалі ад рускага цара даць свабоду народу. Сваёй агульнай танальнасцю ды часткова і самім у пэўнай меры легендарным сюжэтам гэтая частка нагадвае звычайныя тагачасныя беларускія «Гутаркі», хаця строга вытрыманыя шасцірадковыя страфы з рыфмоўкай *аабввб* сведчаць пра дастатковую версіфікатарскую культуру аўтара. Такую страфу вельмі любіў Дунін-Марцінкевіч («Гапон», «Купала», «Шчароўскія дажынкі», «Халімон на каранацыі»). Традыцыйны сюжэт распрацоўваецца тут вельмі дэталёва, з прамовамі выступоўцаў на мірным кангрэсе, часам даюцца нават партрэтныя характарыстыкі ў стылі народнага гратэску (уласцівага і Дуніну-Марцінкевічу):

Найперш стаў казаць пранцуз,
Надуўшыся, як гарбуз —
Рукой грозіць, кулаком…

На жаль, працягу гэтай часткі, як і ўсёй паэмы, мы не маем.

У аснову паэмы — маем на ўвазе перадусім яе першую, цэнтральную для ўсяго твора частку — пакладзена зусім пэўная рэальная падзея — расстрэл бяззбройнай маніфестацыі на Замкавай плошчы ў Варшаве 8 красавіка 1861 года (27 сакавіка паводле старога стылю). Гэта была адна са стыхійных народных маніфестацый у сувязі з закрыццём у Варшаве ўладамі Аграрнамічнага таварыства, якое рыхтавала сацыяльна-эканамічныя рэформы на вёсцы. Паводле апісанняў гісторыкаў, маніфестантаў каля Замка чакала войска — пяць рот пяхоты, на флангах кавалерыя, якая складалася з кубанскіх казакоў і конных жандараў. Камандаваў войскамі баявы генерал (удзельнік севастопальскай абароны) Хрулёў, які загадаў разагнаць «зборышча» спачатку жандарам. Працытуем папулярную кнігу «Студзеньскае паўстанне» польскага гісторыка А. Сакалоўскага, якая выйшла ў свет у 1911 годзе ў Вене:

«Пасля беспаспяховага націску конніцы, якая, сустрэўшы працэсію, што вярталася з Павонзак, параніла бернардзіна, які ішоў наперадзе з крыжам, надышла чарга пяхоты. Але і яна таксама, нягледзячы на тое што раз'юшаныя салдаты наўслеп білі прыкладамі і калолі штыкамі, не здолела разагнаць шчыльнага натоўпу.

Тады Хрулёў загадаў зарадзіць зброю і пасля кароткага чакання закамандаваў агонь. Усяго дадзена адзінаццаць залпаў, 484 стрэлы (афіцыйныя звесткі. — *Г. К.*). Кулі, трапляючы ў шчыльную масу, рабілі страшэннае спусташэнне. Колькасць забітых вызначыць можна прыблізна ў 200 чалавек[27], параненых як мінімум удвая болей.

Люд стаяў або кленчыў, са спяваннем набожных і патрыятычных песняў адкрываў грудзі для куль і штыкоў, але не адступаў ні на крок»[28].

Дапоўнім гэтую амаль апакаліпсічную ў сваім трагізме карціну характэрнымі ўрыўкамі з вядомых «Запісак» паўстанцкага дзеяча А. Авейдэ: «При этом рассказывают еще, что после первых выстрелов взбешенные и разгоряченные ремесленники и работники вырывались из рук людей, удерживавших их и старавшихся уговорить разойтись, и с непонятным слепым фанатизмом бросались вперед с воплем: “Пусть и мы погибнем за Польшчу” (niechaj i mnie dla Polski zabiją). (Я слышал это от достойных доверия очевидцев.)

Рассказывают также, что студенты медицинской академии составили из себя цепь и всеми силами старались удержать народ, напиравший от Старого Места, что ксендз, выбежавший с крестом, кажется, из монастыря Бернардинов, выбежал уже после первых выстрелов (паводле іншых звестак, бернардзін ішоў на чале працэсіі раней. — *Г. К.*) и единственно с целью удержать и успокоить толпу; что Карл Новаковский (студэнт школы мастацтваў, удзельнік маладзёжных канспіратыўных арганізацый. — *Г. К.*), принявший крест из рук сраженного пулей монаха, шел впереди толпы, одушевленной слепым фанатизмом, с единственной целью отобрать от войска тела убитых и раненых, что, наконец, толпа была без всякого оружия, дралась с войском кулаками, палками, и только немногие бросали камнями»[29].

Новае злачынства царызму ашаламіла Еўропу і перадавую Расію. 1 мая 1861 года ў «Колоколе» друкуецца гнеўнае пісьмо Дж. Гарыбальдзі.

---

26 У свой час смакаваў гэты выраз і Я. Чачот, прывёўшы ў падборцы «Крывіцкія прыказкі і прымаўкі» (Выбр. тв. Мінск, 1996. С. 257), а Ф. Аляхновіч вынес пазней у загаловак сваёй вядомай п'есы.

27 Сучасныя гісторыкі вызначаюць колькасць забітых 8 красавіка ў 100–200 чалавек (Миско М. В. Польское восстание 1863 года. М., 1962. С. 63).

28 Sokołowski A. Powstanie styczniowe (1863–1864). Wiedeń, [1911]. S. 89.

29 Авейде О. Показания и записки о польском восстании 1863 года. М., 1961. С. 317–318.

Герцэн у артыкуле «Mater dolorosa» працытаваў англійскую газету з жахлівымі падрабязнасцямі злачынства:

«…В семь часов взвились три ракеты и раздались три пушечных выстрела; проскакали во всех направлениях казаки и конница, занимая вперед назначенные места; затем раздались ружейные выстрелы… безоружных граждан пристреливали, как собак, like dogs (это говорит корреспондент “Теймса”)… Женщины подняли детей, мужчины стояли твердо перед дулами, повторяя слова команды и читая “Святый Боже, святый крепкий”!.. После залпа толпа отступила, но войско заперло улицы; пойманные люди опустились на колени и запели молитвы… солдаты сделали по ним еще несколько выстрелов… потом схватили мертвых и раненых»[30].

І далей Герцэн працягваў, звяртаючыся да цара Аляксандра II, з якім яшчэ зусім нядаўна гатовы быў прымірыцца за вялікі гістарычны акт вызвалення сялян:

«Читали вы это, Александр Николаевич? Таких ужасов вы не найдете в балладах Жуковского. Если все это сделано помимо вашей воли, обличите виновных, укажите злодеев, отдайте их на казнь, или — снимите вашу корону и ступайте в монастырь на покаяние; для вас нет больше ни чистой славы, ни спокойной совести. Вам достаточно было сорока дней, чтоб из величайшего царя России, из освободителя крестьян сделаться простым убийцей, убийцей из-за угла!»

Ганебную акцыю самадзяржаўя Герцэн заклеймаваў таксама ў артыкуле «10 красавіка 1861[31] і забойствы ў Варшаве» і іншых сваіх творах.

Крывавыя падзеі ў Варшаве выклікалі новы ўздым вызвольнага руху як у Польшчы, так і ў Літве-Беларусі. Выява паламанага крыжа стала з таго часу для палякаў, літоўцаў, беларусаў-католікаў сімвалам нанесеных царызмам крыўдаў, знакам-сімвалам змагання. У кароткай форме гэтыя падзеі адлюстраваны ў першым нумары падпольнай беларускай «Гутаркі двух суседаў», які выйшаў якраз недзе ў гэты час:

…А ў Варшаве Боскай Маткі
Образ подралі на шматкі,
Крыж з Хрыстусам парубалі,
А што люду настралялі,
Як шатані, одпусць віны,
А ўсё без жаднэй прычыны…[32].

[30] Герцен А. И. Собр. соч.: в 30 т. Т. 15. М., 1958. С. 81.

[31] 10 красавіка 1861 г. (н. ст.) Герцэн збіраўся святкаваць у Лондане пачатак вызвалення сялян, і акурат раніцай гэтага дня было атрымана паведамленне пра разню ў Варшаве.

[32] Каліноўскі К. За нашую вольнасць: творы, дакументы. Мінск, 1999. С. 227.



Але асабліва яркае адлюстраванне гэтыя жахлівыя падзеі знайшлі ў паэме «Плынуць вятры…». Беларуская паэма, як і артыкулы Герцэна або ліст Гарыбальдзі, — таксама абвінавачанне царызму. Цікава, што падзеі апісаны ў паэме вельмі канкрэтна, нібы дакументальна. Гэта гаворыць за тое, што аўтар паэмы быў сведкам гэтых падзей або апісаў іх па свежых слядах на падставе шматлікіх сведчанняў непасрэдных удзельнікаў і відавочцаў таго, што адбылося ў Варшаве 8 красавіка. Характэрна, што гісторыкі яшчэ праз паўстагоддзя пасля гэтых падзей спрачаліся наконт некаторых дэталяў расправы, у прыватнасці, былі разыходжанні адносна таго, хто падняў крыж, які выпаў з рук манаха-бернардзіна. Ужо цытаваны намі А. Сакалоўскі піша: «Крыж, выпушчаны бернардзінам, меўся падняць малады габрэй, па імені Ляндаў. Паводле паведамлення, атрыманага намі з Парыжа ад аднаго з відавочцаў і ўдзельнікаў катастрофы п. Юзафа Зямацкага, гэтае паданне цалкам памылковае, бо крыж падняў Кароль Навакоўскі». А наш беларускі паэт дакладна ведае, што крыж, які выпаў з рук манаха-бернардзіна, падняў спачатку Навакоўскі, а потым малады габрэй (студэнт) — «Ляндэ яму прозвішча», — прычым варта адзначыць, што форма прозвішча ў паэме больш дакладная, чым у гісторыка А. Сакалоўскага[33].

Некаторыя дэталі даюць магчымасць меркаваць, што аўтар паэмы быў знаёмы з цытаваным вышэй артыкулам Герцэна «Mater dolorosa», апублікаваным у «Колоколе» 1 мая (19 красавіка) 1861 года. Возьмем хаця б такі фрагмент:

…А маскаль, вось з завугла да ўрага, стрэляе,
Рубіць, коле грамадку — кроў ракою льецца,
Там казак на каню с петлею нясецца.
Гдзе ўпадне чалавек, як сабаку трочыць…

«Из-за угла», «как собак» — усё гэта было — у падкрэсленым выглядзе — у артыкуле Герцэна. Магчыма, перад намі свядомыя або несвядомыя рэмінісцэнцыі, пераклічка з яскравым творам тагачаснай мастацкай публіцыстыкі (як вядома, герцэнаўскі «Колокол» шырока распаўсюджваўся, прагна чытаўся напярэдадні паўстання на ўсёй тэрыторыі Польшчы, Беларусі, Літвы).

Хто ж аўтар паэмы «Плынуць вятры…»? Кульчыцкі толькі перапісчык, а не аўтар, у яго дзённіку толькі польская і — радзей — руская мовы. Ды і па дыхтоўнай фактуры твора відаць, што ён напісаны вельмі вопытным беларускім пісьменнікам. Такімі ў той час былі Дунін-Марцінкевіч, Вярыга-Дарэўскі, Каратынскі, Сыракомля, Вуль,

[33] Параўн.: Kieniewicz S.Warszawa w powstaniu styczniowym. Wyd. 2. Warszawa, 1956. S. 91.

Г. Марцінкевіч. Віцябляне Вярыга-Дарэўскі, Вуль, Г. Марцінкевіч адпадаюць, бо арыентаваліся ў сваёй творчасці на паўночна-ўсходнія гаворкі. Такіх прыкметаў у мове паэмы няма. Кола магчымых аўтараў звужаецца. Застаюцца, па сутнасці, Дунін-Марцінкевіч, Сыракомля, Каратынскі. Хто з іх быў у 1861 годзе ў Варшаве?

Пра паездку Сыракомлі ў Польшчу вясной 1861 года вядома даўно. Яе храналогію ўзнаўляе У. Мархель у папулярным нарысе пра Вясковага лірніка: «Гадавы пашпарт, які адкрываў дарогу за межы імперыі, паэту ўдалося нейкім чынам раздабыць у ковенскага губернатара падчас знаходжання ў Коўне. 7 красавіка 1861 года паэт выступіў у мясцовым шляхецкім клубе з патрыятычнай імправізацыяй “У Коўне, дзе Адам спяваў вешчую песню…”, 8 красавіка прачытаў на адкрыцці Таварыства аграрнікаў антыцарскі верш “Нас усіх, сабраных разам, цар не хоча бачыць…”, а ў наступны дзень атрымаў пашпарт і тут жа выехаў з Коўны на Варшаву. Запісы, зробленыя ў пасведчанні асобы паэта, дазваляюць узнавіць увесь маршрут гэтай яго апошняй паездкі ў Польшчу. 13 красавіка ён знаходзіўся ў Сувалках, 22 — у Ломжы, 26 — у Варшаве, а 30 красавіка, на зваротным шляху, у Сувалках, яго арыштавалі»[34].

Спачатку можа падацца, што паэт паімчаўся ў Варшаву якраз на вестку пра страшныя падзеі 27 сакавіка (8 красавіка). Так можна зразумець і Я. Гейштара, які сустракаў Сыракомлю ў Коўне: «У тым самым часе сардэчны наш лірнік вясковы зажадаў наведаць выкупаную ў крыві Варшаву…»[35]. Але прыгледзімся больш уважліва да прыведзеных У. Мархелем датаў. Яны — новага стылю. Сыракомля з’явіўся ў Коўне — па дарозе ў Варшаву — яшчэ да красавіцкай разні (тым больш што весткі з Варшавы, нягледзячы на існаванне тэлеграфа, даходзілі да Вільні і Коўна з некаторым інтэрвалам). Штуршком для паэта паслужылі лютаўскія падзеі 1861 года, калі ў Варшаве царскія войскі таксама стралялі ў дэманстрантаў, было забіта 5 чалавек, што дало магутны імпульс вызваленчаму руху на землях Польшчы, Літвы, Беларусі. Паэт усім сваім чуйным сэрцам адчуў, што эпіцэнтр вызваленчага руху цяпер у Варшаве.

Сэнс (і першапачатковы імпульс) паездкі Сыракомлі вельмі дакладна перадае Уладзіслаў Каратынскі, сын беларускага пісьменніка Вінцэся Каратынскага, бліжэйшага сябра Сыракомлі. Два гады, піша ён, Вясковы лірнік нікуды не ездзіў. «Толькі на вестку аб пяці ахвярах страпянуўся і абудзіўся да чыну. У першых днях красавіка 1861 года ён паспяшаўся з чужым пашпартам у Варшаву, каб прыняць удзел у гістарычных падзеях. Па дарозе, у Коўне, Сувалках, Ломжы, гаварыў палымяныя прамовы, удзельнічаў у жалобных малебнах»[36]. Удакладнім толькі адну дэталь. Выехаў Сыракомля не з «чужым пашпартам», а з пашпартам, атрыманым на сваё імя, але не зусім законна ў Коўне. Паводле закону ён мусіў атрымліваць пашпарт па месцы жыхарства ў Вільні, аднак там пра пашпарт для апальнага паэта не хацелі і гаварыць, таму ён і накіраваўся спачатку ў Коўна.

У Коўне паэт даведаўся пра закрыццё ў Варшаве (6 красавіка) Аграномічнага таварыства, што паўсюдна і адназначна расцэньвалася перадавой грамадскасцю як наступ на апошнія элементы дэмакратыі (няхай у дадзеным выпадку шляхецкай). Абурэнне паэта імгненна вылілася ў антыцарысцкі верш «Нас усіх, сабраных разам, цар не хоча бачыць…» (у У. Мархеля фактычная аснова верша пададзена недакладна — закрыццё таварыства, магчыма праз нейкую памылку друку, сталася «адкрыццём»). Неўзабаве паэт атрымлівае пашпарт і выязджае ў Варшаву, але мы не ведаем, калі У. Сыракомлю дагнала вестка пра новую, яшчэ больш страшную разню ў польскай сталіцы — у Коўне ці ўжо пасля Коўна ў дарозе (пабоішча адбылося праз два дні пасля закрыцця Аграномічнага таварыства). Мы толькі ясна бачым, што паэт нібы прадчуваў навальніцу і свядома ішоў на яе.

Вядома таксама, што ў гэтай паездцы ўдзельнічаў і Дунін-Марцінкевіч. І гэта не дзіўна. Даўняе сяброўства двух паэтаў толькі што падмацавалася апублікаваннем у газеце «Kurier Wileński» надзвычай грунтоўнага і прыязнага артыкула Сыракомлі пра творчасць Беларускага дудара (сакавік 1861 года). Гэта яшчэ больш зблізіла іх. І ў Варшаве яны з’явіліся разам. «У Варшаву [Сыракомля] прыбыў у суправаджэнні беларускага паэта Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча…»[37] — паведамляе ўжо цытаваны У. Каратынскі. Але тут ёсць адна цікавая дэталь. Са знойдзенага У. Мархелем ліста віленскага акцёра Баляслава Навінскага да Сыракомлі відаць, што спачатку Сыракомля выехаў адзін, а Дунін-Марцінкевіч дагнаў яго ўжо па дарозе. У сувязі з гэтым У. Мархель разважае: «…Сыракомля пакінуў Коўна 9 красавіка, а Дунін-Марцінкевіч выехаў з Вільні аж но 15 красавіка. Але калі паміж імі была папярэдняя дамоўленасць, дык затрымкі вясковага лірніка ў Сувалках і Ломжы былі звязаныя не так з хваробамі (паводле тлумачэнняў следчаму), як з чаканнем аўтара “Гапона”»[38]. Вельмі цікавыя і важныя для нас назіранні.

---

34 Мархель У. І. Вяшчун славы і волі: Уладзіслаў Сыракомля. Мінск, 1989. С. 55–56.

35 Gieysztor J. Pamiętniki z lat 1857–1865. T. 1. Wilno, 1913. S. 97.

36 Kondratowicz L. (Syrokomla W.) Podróż swojaka po swojszczyźnie. Z rękopisu ogłosił Władysław Korotyński. Warszawa, 1914. S. XX.

37 Тамсама; Кісялёў Г. В. Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча: Спроба навуковай сістэматызацыі дакументаў і матэрыялаў. Мінск, 1988. С. 123.

38 Мархель У. І. Вяшчун славы і волі: Уладзіслаў Сыракомля. С. 56.

Пісьмо Навінскага, перададзенае Сыракомлю праз Дуніна-Марцінкевіча, датуецца 3 (15) красавіка 1861 года. Прайшоў роўна тыдзень пасля варшаўскай разні. І калі Сыракомля выехаў з Вільні яшчэ да гэтай новай бяды і, магчыма, не ведаў пра яе, нават выязджаючы з Коўна, то Дунін-Марцінкевіч кінуўся наўздагон, ужо ведаючы пра гэта. У лісце Навінскага адлюстравалася нейкая маладая нецярплівасць далёка не маладога ўжо пісьменніка: «Прабач, што я кепска пісаў, але п. Марцінкевіч спяшаецца…»[39].

Сёння нам зразумела, што Сыракомля і Дунін-Марцінкевіч паспяшаліся ў Варшаву на весткі аб драматычных падзеях, што там адбываліся пачынаючы з лютага 1861 года, і трапілі туды акурат у іх кульмінацыю. Вынікам гэтай паездкі была паэма «Плынуць вятры…». Напісана яна Дунінам-Марцінкевічам. За гэта гаворыць уся стылістыка паэмы — у асноўнай частцы твора вельмі бытавая, канкрэтная, характэрная для Дуніна-Марцінкевіча — эпіка па прыродзе свайго таленту. Паэт выкарыстаў досвед сваёй нядаўняй працы як над перакладам «Пана Тадэвуша», так і над арыгінальнымі творамі эпічнага характару (асабліва ў дадзеным выпадку трэба адзначыць цыкл «Быліцы, расказы Навума» з вершаванай аповесцю «Халімон на каранацыі»). Зварот у пачатку «варшаўскай» паэмы

Аршава! маці наша! ты польская сонца!
Лучы твае, палацы і сельскі аконца,
Вось матчына грудзь, дзетак роўна ўсіх грэюць,
Кароне, Літве, Русі светлосьць роўну сеюць —

стылістычна вельмі падобны на высокія звароты з «Пана Тадэвуша» да Літвы і Панны Марыі:

Ты, панна! што сцеражэш яснай Чанстаховы,
Што свеціш у Вострай Браме, што горад замковы
Навагародскі бароніш, яго народ жылы,
Як мяне ты падняла, маўляў із магілы…[40].

Ды і ў «Быліцах…» ёсць падобныя ўзнёслыя звароты, дзе пафас спалучаецца з канкрэтнымі штрыхамі:

Ой нямаш зямелькі, як Беларусь радзона!
На лугах дыванам сцелецца зялёна
Травіца па пояс, кветкамі мігае!
А лес, вось тычынка, неба падпірае![41].

[39] Мархель У. Крыніцы памяці: Старонкі беларуска-польскага літаратурнага сумежжа. Мінск, 1990. С. 55.

[40] Дунін-Марцінкевіч В. Творы. Мінск, 1984. С. 429.

[41] Тамсама. С. 346.



Бачым у прыведзеным чатырохрадкоўі спецыфічнае ўжыванне слова «вось» у значэнні «нібы». Гэтая ж з'ява шырока прадстаўлена ў паэме «Плынуць вятры…». Перад намі нібы адметны лексічны «аўтограф» Беларускага дудара. Можна сказаць, з галавой выдае Дуніна-Марцінкевіча і надзвычай рэдкая форма «палядзь» (знаходзім яе ў перакладзе «Пана Тадэвуша» — гэтае месца ўжо цытавалася намі ў нарысе «Пра вешчых песняроў…»).

Для паэмы «Плынуць вятры…» характэрны такі мастацкі прыём, як паралелізм (нярэдка ў форме адмоўнай паралелі):

Чы распаролісь тучы і гразу крававу
Хлынулі с перунамі на бедну Аршаву,
Чы маланка грамадзе вочы выпякае,
Не… то маскаль па своему у месце гуляе…

Ці яшчэ:

Ня марская то ваўна зямлю націскае,
Ня саранча дар божы на полі змятае,
Гэта маскоўскі заступ на конях гарачых,
Усе ў сініх мундзірах у шапках блісьцячых…

Гэты ж прыём сустракаем і ў вядомых творах Дуніна-Марцінкевіча:

Якое ж там войска, маўляў туча чорна,
З сяла проста суне ў двор шырокім шляхам?
Рассыпалась па ўсёй дарозе прасторна,
Наперадзе старшы, дый з блісцяшчым знакам.
Не войска то, дзеткі, не туча нябесна, —
Паніч сяло цэла спрасіў на дажынкі…

(«Шчароўскія дажынкі»)

Не так страшна ўвосень бурны ветры дуюць
І дняпроўскія воўны на вясну бушуюць,
Як Мсціслаў у Барыса землях гаспадарыць,
Ліхога ж там піва крывічанам варыць!

(«Травіца брат-сястрыца»)

Нягледзячы на трагізм калізіі, у варшаўскай паэме адчуваецца характэрны для Дуніна-Марцінкевіча налёт сентыменталізму (памяншальна-ласкальныя эпітэты, захоплена-перабольшаныя параўнанні). Элементы сатыры ў другой частцы паэмы таксама прымушаюць успомніць знакамітага нашага камедыёграфа, стваральніка «Пінскай шляхты». Вось нават французскага міністра ці каго там, прамоўцу на мірным кангрэсе, якому, у прынцыпе, мусіў сімпатызаваць, не ўтрымаўся, мазнуў з'едлівай фарбай, параўнаў з надзьмутым гарбузом.

Уся стылістыка паэмы «Плынуць вятры…», выяўленчыя сродкі, мова твора гавораць за аўтарства Дуніна-Марцінкевіча. Але задумваўся твор, можна думаць, сумесна з Сыракомлем, магчыма, апошнім падказаны лірычны запеў:

Плынуць вятры ат паўночы,
Засыпаюць снегам вочы;
Гоняць тучы алавяны,
Наносяць азноб паганы.
Тож ня ветры буравые,
Тож ня тучы снегавые…

Тут нібы адчуваецца іншы — шырэйшы — паэтычны «кругагляд», іншы ўзровень мастацкага сінтэзу, чым гэта было звычайна ўласціва Дуніну-Марцінкевічу. У якасці пэўнай стылістычнай паралелі, хутчэй, напрошваецца пачатак «Добрых весцяў» Сыракомлі:

Заходзіць сонца пагодняга лета,
Веіць вецер з заходніх нябёс.
Здароў будзь, вецер…

Ва ўсякім разе нашы паэты напярэдадні паўстання Кастуся Каліноўскага выдатна арыентаваліся ў тагачаснай «ружы вятроў» і мелі свой погляд на палітычны клімат рэгіёна.

Дарэчы, словы «азноб паганы» маглі перадаваць цяжкі стан здароўя Сыракомлі ў Варшаве. Паэт хварэў. Ю. І. Крашэўскі ўспамінаў: «У малой цёмнай каморцы Саксонскага гатэля мы ўбачылі яго змізарнелага, жоўтага, хворага целам і душой, узбударажанага падарожжам. Трэба было неадкладна выклікаць дактароў, якія раілі спакой, дыету, рэгулярнае жыццё, перапынак у працы…»[42]. У. Каратынскі дадае: «Наслухаўшыся падобных парадаў, выканаць якія ён быў не ў сілах, Кандратовіч праз колькі дзён вырушыў назад і апынуўся на прымусовым жыцці ў Барэйкаўшчыне, як “Авідзій на Палессі”» (мелася на ўвазе высылка Сыракомлі ўладамі ў падвіленскую вёску).

Знойдзены тэкст паэмы «Плынуць вятры…» істотна ўзбагачае наша ўяўленне пра беларускую літаратуру XIX стагоддзя, пра творчасць і грамадскія погляды Дуніна-Марцінкевіча, пра яго сумесную з Сыракомлем паездку ў Варшаву ў красавіку 1861 года.

Гэтая паездка пакінула шматлікія сляды ў жыцці і творчасці Беларускага дудара. Аб ёй успаміналася на допытах пасля арышту пісьменніка ў 1864 годзе. Праўда, Дунін-Марцінкевіч, натуральна, выказваўся пра гэта ў выгадным для сябе святле: «Кроме того, в 1861 году он ездил два

[42] Korotyński W. R. Syrokomla o sobie. Warszawa, 1896. S. 100.



раза на короткое время в Варшаву: в первый раз с целью навестить обучающегося в музыкальном институте сына своего Мирослава и обязать его клятвою не участвовать в мятеже и вскоре затем для встречи и сопровождения возвращавшейся из-за границы графини Грабовской…»[43]. Думаецца, што трывога за сына сапраўды была важным дадатковым стымулам, каб кінуцца стрымгалоў у бунтоўную Варшаву.

Але засталіся памяткі і іншага, творчага плана. Якраз 20 красавіка (2 мая) 1861 года Ю. І. Крашэўскі апублікаваў у сваёй «Gazecie Polskiej» адкрыты ліст Навума Прыгаворкі, у якім наш пісьменнік спрабаваў растлумачыць высокі грамадскі сэнс сваёй творчасці, накіраванай на асвету беларускага народа.

У польскай сталіцы Дунін-Марцінкевіч сустракаўся таксама з літоўскім пісьменнікам М. Акялайцісам. Не даводзіцца сумнявацца, што і Акялайціс быў падхоплены той жа віхурай, што і беларускія пісьменнікі. Пад яго рэцэнзіяй на марцінкевічаўскі пераклад «Пана Тадэвуша» стаіць паметка: «У Варшаве, 27 красавіка 1861 г.»[44]. Рэцэнзія таксама, па ўсім відаць, прызначалася для «Gazety Polskiej», але ў друк прабіцца тады не здолела, магчыма, якраз з прычыны пэўных палітычных акцэнтаў.

Несумненна, у красавіцкай, «выкупанай у крыві» Варшаве 1861 года адбылося шмат іншых важных для Беларускага дудара сустрэч, кантактаў, ён атрымаў багата моцных разнастайных імпульсаў.

Цяпер мы ведаем, што варшаўская паездка натхніла Дуніна-Марцінкевіча на твор высокага грамадскага гучання — паэму «Плынуць вятры…». Невядома толькі, ці паспеў пісьменнік скончыць яе. Узнёслы мастацкі пратэст супраць злачынстваў царызму ў рукапісным выглядзе быў знаёмы тагачаснай грамадскасці. Паэма трапіла да пецярбургскага студэнта Л. Кульчыцкага, які акуратна і ўпэўнена, амаль без памылак (ведаў-такі беларускую мову) перапісаў і тым самым захаваў для нас яе вялікія фрагменты.

Шляхоў, якімі трапіла паэма да Кульчыцкага, мы не ведаем. Магчыма, праз яго прыяцеля і калегу Вішнеўскага, які паходзіў з Вільні (згадваецца ў дзённіку Кульчыцкага). А з выяўленага Я. Янушкевічам ліста Дуніна-Марцінкевіча да Я. Карловіча стала вядома, што Беларускі дудар меў у Вільні блізкага сябра Аляксея Вішнеўскага («які жыве ў доме біскупа Красінскага»), наш пісьменнік давяраў яму рукапісы сваіх недрукаваных твораў і вельмі даражыў ягонай думкай[45]. Яшчэ

[43] Пачынальнікі. С. 148.

[44] Тамсама. С. 141.

[45] Лісты В. Дуніна-Марцінкевіча да Я. Карловіча // Янушкевіч Я. Беларускі дудар. Мінск,1991. С. 121–125.

ў 1859 годзе «Алексы Вішнеўскі» падпісаўся на марцінкевічаўскі пераклад «Пана Тадэвуша»[46]. Адзін з Вішнеўскіх (ці не той самы?) прымаў дзейсны ўдзел у пахаванні Сыракомлі[47]. Можна спадзявацца, што з цягам часу мы больш даведаемся пра шчырага аматара беларушчыны Вішнеўскага, сябру Дуніна-Марцінкевіча. Не выключана, што ў выніку гісторыка-літаратурных пошукаў будуць выяўлены і іншыя — магчыма, больш поўныя — спісы паэмы «Плынуць вятры…».

Новая знаходка прымушае ўспомніць таксама даўнюю спрэчку пра аўтарства брашуры таго часу «Гутарка старога дзеда». Адны, як вядома, прыпісваюць яе Дуніну-Марцінкевічу, другія — В. Каратынскаму, кожны бок прыводзіць важкія аргументы. Версію пра аўтарства Дуніна-Марцінкевіча падтрымаў у свой час польскі даследчык У. Вільчынскі. Якраз адным з дадатковых аргументаў для яго была сумесная паездка Сыракомлі і Дуніна-Марцінкевіча ў Варшаву, што сведчыла пра далучанасць Беларускага дудара да тагачасных палітычных бураў[48]. Думаецца, што ўвядзенне ў навуковы ўжытак і атрыбуцыі новага твора, звязанага з гэтай паездкай, — твора вельмі, так бы мовіць, «марцінкевічаўскага» і ў той жа час адкрыта палітычнага — яшчэ больш узмацняе аргументацыю Вільчынскага.

Вось, бадай, і ўсе нашы папярэднія заўвагі. Упэўнены, што пра новы, невядомы дагэтуль твор Дуніна-Марцінкевіча яшчэ скажуць сваё слова даследчыкі многіх гуманітарных спецыяльнасцей, найперш гісторыкі літаратуры і мовазнаўцы. Галоўную нашу задачу мы бачым цяпер у самой публікацыі твора.

Тэкст паэмы друкуецца кірыліцай з захаваннем асаблівасцей мовы і арфаграфіі арыгінала, там-сям папраўлены толькі яўныя апіскі, і ўпарадкавана пунктуацыя.

*Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч*

**[Плынуць вятры…]**

[Паэма]

Часьць 1-я

Плынуць вятры ат паўночы,
Засыпаюць снегам вочы;
Гоняць тучы алавяны,
Наносяць азноб паганы.

[46] Спіс падпісчыкаў // Дунін-Марцінкевіч В. Творы. С. 522.

[47] Гл.: Кісялёў Г. Рэдкі дакумент: Развітанне з Сыракомлем // Шляхам гадоў. Мінск, 1994. [Вып. 4]. С. 182–183.

[48] Гл.: Wilczyński W. Syrokomla a literatury wschodniosłowiańskie // Studia polonoslavika-orientalia. Acta literaria III. Wrocław etc., 1976. S. 87.



Тож ня ветры буравые,
Тож ня тучы снегавые —
Маскоўска то сіла валіць,
Марозом, вось прыском, смаліць.
Чаго ж яна закіпела?
— У Аршаву поляцела,
С гарматамі, со стрэльбамі,
Чы ваёваць с палякамі?

I

Аршава! маці наша! ты польская сонца!
Лучы твае, палацы і сельскі аконца,
Вось матчына грудзь, дзетак роўно ўсіх грэюць,
Кароне, Літве, Русі светлосьць роўну сеюць.
Як зорачка ясненька, вось краска прыгожа!
Што з табою зрабілі? на што ты пахожа?
Гдзе твой гоман вясёлы? гдзе голас пявучы?
Над табою стаўпілісь грамавые тучы…
Глянеш цяпер на цябе — вось у пекле чорна,
Цёмна ў душы — на сэрцу кажнаму ня здорна,
Маўляў сажай, пакрыта бедна твая ніва,
Чагож ты дажылася, маці няшчасліва!

II

На Кракоўскім прэдмесці[49] лік Божыя маці
У краскі, агні стройны — вось образ у хаці;
Цудоўная то пані, кажуць добры людзе,
Хто яе шчыра просіў, той ласкі дабудзе.
Пад хвігуру стаўпяцца, маўляў куранята,
Пад крылля чуткай маткі: жыды і панята,
Мужычкі, дзеці, старцы, панны і кабеты,
Усі смешалісь і чыняць святые абеты:
Кажыся, сабраліся дзеткі ў грамадцэ
Памаліцца і дабраноц родненькай даць матцэ.

III

Чы распаролісь тучы і гразу крававу
Хлынулі с пярунамі на бедну Аршаву,
Чы маланка грамадзе вочы выпекае,
Не… то маскаль па своему у месце гуляе —

[49] Кракаўскае прадмесце — адзін з цэнтральных раёнаў Варшавы.

Бывала ў старыну (дзяды так казалі),
Калі нехрысты зямлю нашу ваявалі,
Усяк бывала, — с дабыткам, хлопцаў і дзяўчаты
Палонілі, штоб выкуп браць за ніх багаты,
Да людзей пры малітве стрэльбой не глумілі,
Вобразы шанавалі, крыжоў не рубілі,
Глядзь жэ маскаль што робіць!.. а ён хрысьціянін
Горш здзекуецца ў Польшчы, як ліхі паганін.

IV

Палядзь, чалядка божа, стоя на каленах
Без ружніцы ў атласах, чы ў ліхіх пяленах,
Жыды, паны, мужычкі — ўсі смяшаліся разам,
У адзін голас прэд Маткі гасподняй абразэм,
Спеваюць «Сьвяты Божэ, Сьвяты нясмяртэльны!» —
На перадзе Дабрадзей дзержыць крыж касцельны —
Ні каменчыка ў руках нікто не трымае —
А маскаль, вось з завугла да ўрага, стрэляе,
Рубіць, коле грамадку — кроў ракою льецца,
Там казак на каню с петлею нясецца,
Гдзе ўпадне чалавек, як сабаку трочыць,
Жыў, чы мёртвы, беднага на замак[50] валочыць,
Голова па каменях гудзе, вось у рогу,
Мазгі брызжуць на палацы, кроў значыць дарогу.

V

Там ідзе бацька з дочкай — то краска прыгожа!
Ледзь пачала расцветаць — вось у пучку рожа —
Куля яе трапіла ў руку — бедна млее,
Бацька з жаласці дочкі падняць не паспее,
Аж чатырох казакоў стралой прыскакалі,
Бедненькую дзіцятку на петлю узялі.
Бацька да ног паганьцам — крый Бог як галосіць!
Кінуў мяшок з грашыма, дый — «нярушце» — просіць.
Гдзе там! мяшок паднялі, а бацьку забілі,
Пасьля абоіх разам у замак паташчылі —
Тут дзетачак маленькіх колюць, там страляюць
Кабет, тутка адзежу чорную[51] здзіраюць,

[50] У той час галоўная рэзідэнцыя царскіх уладаў у Варшаве.

[51] Відаць, маецца на ўвазе жалобнае адзенне. Нашэнне жалобы ў Польшчы ў той час лічылася формай пратэсту супраць злачынстваў царызму і таму ўладамі забаранялася.



Далей чысцяць кяшэні — мяшочкі, загаркі,
Вось сваі, на гарэлку грабяць для шынкаркі.

VI

На перадзе грамадкі, што малілась Богу,
У серэдзіне ксёндз с крыжам загачыў дарогу,
Ня чураецца смерці — к небу падняў зрэнкі,
Слёзы бараздзяць шчокі, а голас старэнькі
Зноўку вядзе малітву, як абычай кажэ,
Ня зважае на стрэльбы і пікі ўражэ.
Толька як у суседзтве хто ўпадзе з грамады,
Ляўшою крыж моцна іме, правай дае рады,
Штоб на той свет дарогу ўпратаць шчасьліву
На разгрэшэня руку ўжыме літасьціва.

VII

Ня марская то ваўна зямлю нацiскае,
Ня саранча дар божы на полі змятае,
Гэта маскоўскі заступ на канях гарачых,
Усе ў сініх мундзірах у шапках блісьцячых,
С верху шапкі хвост коньскі вецяр развеваець[52] —
Кажон страшэнну шаблю у руцэ трымаець —
Рэжэць, каго папала, наносіць травогу
Меж людзей, што пакойна молюцца там Богу.
Каго ня сваліць шабля, таго топчуць коні.
Найперш ксяндза срубілі, што крыж у д[а]лоні
Трымаў сільной рукою — ўвесь кроўю абліўся,
Як срублена таполя, к зямлі пахіліўся,
І крыж с нім пахінуўся. Тут падскочыў смелы
Навакоўскі, хваціў крыж — глядзь! — у рубцах цэлы,
Грэшны рукі пасмелі на Бога падняцца:
І той Хрыстом не паспеў доўго любавацца,
Яго на зем свалілі — палядзь!.. цуд гатовы:
У абароне крыжа стаў чалавек новы,
Жыдок — чуліж вы гэта, добры хрысціяне?
Тож маскалі горшые ад жыдоў пагане?
Ляндэ яму прозвішча — у страшэнну пору
Хваціў крыж у обе рукі, падняў яго ў гору,
Каліб добрые людзе бачылі то дзіва,
Богу хіба прыці магла мысль така шчасліва;
Відаць, хацеў, штоб цэлы с[в]ят падзіваваўся,

[52] Так, мабыць, выглядалі конныя жандары.

Што маскаль ат нехрыста горшым паказаўся.
Застрэлілі і яго — упаў — да лік Божы
Накрыў сабой — па сьмерці штоб быць на старожы.

VIII

Так маскалі гулялі па беднай Аршаве.
За штож яны рэзалі людзей — у якой справе
Народ ім правініўся? за што хрысціянскі
Цар вялеў здзекавацца, вось турак паганьскі?
Паляк то першы сільна пачаў наклікацца,
Што, бач, пара мужычку з вольнасцю спазнацца,
І як Гасподзь за людзей на крыж атдаў рукі,
Паляк за нас ахвотно прыняў страшны мукі,
За нас церпіць крыж паньскі — за веру, свабоду,
Разказаць папытаю вам таку прыгоду.

Часьць 2-я

*Як паслаўся*
*Так праспаўся!*

*— Круці ня вярці,*
*А трэба ўмярці!*

Назад таму дзесяць лет,
Загневаўся цэлы свет
На Маскоўскага Цара[53],
Што ён вельмі пышны стаў,
Усім паднос панам ківаў,
Тож уняць яго пара!
Французоў Цар Напалён[54]
Крыкнуў на сваіх «гулён»!
Машыр Турку памагаць!
С німжэ замарскі паны,
Што іх клічуць брытаны —
Пашлі Маскву ваюваць[55]. —
Цар Маскоўскі аж пацеў,
Сваго войска ня жалеў.
Гдзеж дурному вясці бой?
Ідзі лепш лапці пляці,
За дур жыццём заплаці,

[53] Мікалай I.
[54] Французскі імператар Напалеон III.
[55] Пачатак Крымскай вайны ў 1853 г.



Потрасі, брат, мяшок свой!
По нім сын головорэз
На трон маскоўскі узлез[56],
Стаў кланяцца французу.
«Муй лебедзька дарагі!
Прабач бацькавы грэхі,
Што хочэш, усё зраблю!»
І сабраліся стары
Са ўсіх земель пісары,
Пашлі міру вясьці лад[57];
Нуж маскалю дапякаць,
Нуж пальцамі пад нос ківаць.
Ой не вельмі быў ён рад!
Найперш стаў казаць француз,
Надуўшыся, як гарбуз —
Рукой грозіць, кулаком,
Аж затросся маскалёк,
Вось асінавы лісток,
Валасы аж сталі дыбом. —
«Уся ваша чыноўна знаць,
Звыкла народ абдзіраць,
Які ваш закон да суд?
Хто мае грошы, той праў,
Хоць абдзіраў, хаця краў,
Чэсьць ваша — то гной, то бруд».

[56] Пасля смерці Мікалая I (1855) на расійскі прастол уступіў яго сын Аляксандр II.
[57] У 1856 г. у Парыжы на кангрэсе прадстаўнікоў Расіі, Францыі, Англіі, Турцыі і некаторых іншых краін былі выпрацаваны ўмовы міру пасля Крымскай вайны.

# У ДАБРАЎЛЯНАХ, ПРЫСТАНКУ МУЗ, У 1863 ГОДЗЕ...

У жыцці нашага класіка Дуніна-Марцінкевіча шмат нявысветленага, часам дзіўнага, парадаксальнага. Вядома, напрыклад, што перад паўстаннем 1863 года ўлады падазравалі яго ў напісанні антыўрадавых пракламацый. Ды ён і сапраўды быў блізкі да вызваленчага руху (з новымі звесткамі пра яго палітычную заангажаванасць мы толькі што пазнаёміліся ў папярэднім артыкуле «Сыракомля ці Дунін-Марцінкевіч?»). Аддаюцца загады аб яго арышце. Пісьменніка ўзмоцнена шукалі-расшуквалі па ўсёй Беларусі, пакуль не арыштавалі ў кастрычніку 1864 года ў мястэчку Свір Свянцянскага павета (цяпер Мядзельскі раён). На следстве высветлілася, што ён пакінуў Люцынку ў красавіку 1863 года, калі ў Беларусі пачалося агульнае ўзброенае паўстанне, але да паўстанцаў — па ўсім відаць — не далучыўся, а ўзяў у арэнду маёнтак Дабраўляны нейкай памешчыцы Бучынскай і ціха пражыў там да пачатку наступнага года. Пасля секвестру Дабраўлянаў перабраўся ў Свір, дзе жыў да самага арышту.

Усе гэтыя падрабязнасці сталі вядомыя са следчай справы пісьменніка, знойдзенай у свой час у гістарычным архіве ў Вільні. Пра гэта мы пісалі ў кнізе «Сейбіты вечнага» (1963), матэрыялы следчай справы ў даволі поўным выглядзе апублікаваны ў зборніку «Пачынальнікі» (1977).

І была тут нейкая загадка. Чаму Дунін-Марцінкевіч выбраў для свайго прыстанку (у пэўным сэнсе можна сказаць і — сховішча) у гэты трывожны час менавіта Свір — Дабраўляны? Што пацягнула туды пісьменніка?

Тады мы не ведалі, што Дабраўляны не які-небудзь ардынарны памешчыцкі маёнтак, а надзвычай цікавы культурны асяродак, звязаны з многімі выдатнымі людзьмі той эпохі. Прынамсі не ведаў гэтага я, бо асобныя згадкі Дабраўлянаў у гэтым аспекце ўсё-такі былі, як цяпер відаць, у А. Мальдзіса, Л. Дробава, трымалі гэты куток навідавоку і гісторыкі садова-паркавага мастацтва.

А ўвогуле ў асвятленні гісторыі Беларусі — краіны высокай старадаўняй цывілізацыі — былі перакосы, многія пласты не былі толкам узняты, асноўная ўвага аддавалася апошнім дзесяцігоддзям. Не адразу ў належнай меры была засвоена нашымі даследчыкамі даволі багатая польская краязнаўчая літаратура старых часоў. Укладальнікаў «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» па Гродзенскай вобласці (1986) Дабраўляны (вёска ў Сыраваткінскім сельсавеце Смаргонскага раёна) зацікавілі толькі абеліскам, пастаўленым у нашы дні ў памяць аднавяскоўцаў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, — як быццам нічога вартага ўвагі ў іншыя эпохі там не было.

А між тым ужо ў 1984 годзе выйшла, можна сказаць, адкрывальніцкая кніга Генадзя Каханоўскага «Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI–XIX стагоддзях», у якой — няхай адным, але надзвычай ёмістым абзацам — на агульным выдатна распрацаваным фоне пазначана і вельмі цікавая, багатая гісторыя Дабраўлянаў. Вось тады я і адкрыў для сябе, што сувязь Марцінкевіча з Дабраўлянамі не была выпадковай, што за гэтым хаваўся новы, невядомы, шматабяцальны пласт яго біяграфіі.

Праўда, у Каханоўскага гаварылася пра Дабраўляны Гюнтэраў, а не Бучынскай, і тым не менш прыведзеныя даследчыкам звесткі не маглі не зацікавіць гісторыкаў літаратуры. Трэба было абавязкова правесці адпаведную разведку.

І вось што выявілася.

Гэты маёнтак, непадалёк ад Вішнеўскага возера, вядомы з XVI стагоддзя. Валодалі ім у розныя часы Зяновічы, Сангушкі, Абрамовічы і інш. Ды мы ў самую глыбокую прорву часу сёння не палезем. Пачнём з таго, што Дабраўляны набыў у 1818 годзе багаты адукаваны памешчык Адам Гюнтэр (1782–1854). Яго поўнае прозвішча — Гюнтэр фон Гейдэльсгейм — нагадвала пра далёкага продка, выхадца з Рэйна, які служыў яшчэ каралю Яну Сабескаму і тады ж прыблукаў аднекуль з-пад Вены ў Літву-Беларусь. У 1808 годзе Адам Гюнтэр атрымаў пацвярджэнне графскага тытула ў Расіі. Яго жонка таксама паходзіла з арыстакратычнага роду Тызенгаўзаў. І прытым добра малявала, была *artystka* (мастачка; у дачыненні да Аляксандры Тызенгаўз-Гюнтэр нашы даследчыкі часта перакладаюць гэтае слова літаральна — артыстка).

Адам Гюнтэр меў маёнткі на Міншчыне, у 1812 годзе ўваходзіў у мясцовую напалеонаўскую адміністрацыю[58], быў наглядчыкам вайсковага шпіталя ў Мінску. Пасля вайны старшынстваваў у мінскім Галоўным судзе, адначасова быў членам модных тады масонскіх ложаў «Шчаслівае вызваленне» і «Шчыры ліцвін», кавалерам Мальтыйскага ордэна. Эмблемай ложы «Шчаслівае вызваленне» служыў разарваны ланцуг. Сапраўды, матэрыяльна і духоўна Гюнтэр быў чалавекам досыць незалежным, свабодным. І дэмакратычным, наколькі гэта

[58] Разам з іншымі падпісаў і адозву пра набор валанцёраў у войска абвешчанага ВКЛ.

магчыма было для арыстакрата. Ён атрымаў добры зарад духоўнасці ў Віленскім універсітэце, цаніў раскаванае, дасціпнае слова, быў сябрам-заснавальнікам асветніцкага Віленскага друкарскага таварыства, не цураўся шубраўцаў — заўзятых тагачасных забіякаў-«нефармалаў».

Дабраўляны — колішнюю рэзідэнцыю князёў Сангушкаў — Адам і Аляксандра Гюнтэры ператварылі ў куток высокай культуры. Па праекце архітэктара Барэцці, запрошанага з Вільні, перабудоўваўся стары палац, атрыманы ад ранейшых уладальнікаў у надзвычай запушчаным, напаўразбураным выглядзе. Дом напоўніўся рэдкімі кнігамі і рукапісамі, выдатнымі палотнамі айчынных (Арлоўскі, Дамель, Норблін, Рустэм, Смуглевіч, Чаховіч) і замежных майстроў. Сярод палотнаў вылучаўся, да прыкладу, напісаны Смуглевічам партрэт кашталяншы Агінскай, якая «ў трубачку» сагнула пальцамі сярэбраны талер, калі ўласныя дзеці, каб забраць у яе маёнткі, абвінавацілі ў нямогласці. Твор яшчэ раз нагадваў, што і ў магнацкім жыцці не ўсё ішло гладка. З іншых рэдкасцяў гаспадары асабліва ганарыліся рукапісам «Гражыны» з байкай «Сабака і воўк» у канцы (аўтограф самога Адама Міцкевіча).

У ніжнім паверсе палаца месцілася адмысловая капліца, якая адначасова была своеасаблівым гістарычным музеем. Ля ўвахода ў яе застылі закутыя ў жалеза сярэднявечныя рыцары. Распісваў капліцу вядомы мастак Казімір Бахматовіч, вучань Рустэма. Ёсць звесткі, што і паходзіў Бахматовіч з дабраўлянскіх сялян. На жаль, мастак рана, у 1837 годзе, памёр (пахаваны на могілках у Свіры). Ад яго, між іншым, засталася серыя літаграфій «Дабраўляны» — мастакоўская падзяка гэтаму кутку беларускай зямлі.

Уладальнік Дабраўлянаў быў заўзятым калекцыянерам, збіраў аўтографы знакамітасцей, малюнкі, тэатральныя праграмы і іншыя культурныя памяткі, якія складалі так званыя «Тэкі Гюнтэра». Усяго было шаснаццаць гюнтараўскіх «Тэкаў», якія інакш — паводле звычаю таго часу — з прычыны сваёй стракатасці, разнастайнасці, багацця зместу называліся па латыні «Silva rerum» («Лес рэчаў»).

Запушчаны старадаўні французскі парк у Дабраўлянах Гюнтэры перарабілі ў рамантычным гусце. Як і належала, там было мноства дзівосаў: гроты, альтанкі, статуі — усяго не пералічыць. Асабліва славіўся парк старымі, надзвычай тоўстымі ліпамі, якія фігуравалі яшчэ, як і палац, у інвентары 1700 года. У маёнтку былі экзатычная аранжарэя, адмысловы бровар, вадзяны млын.

І да сялян тут ставіліся лепш, як у суседніх маёнтках, — не выдзіралі апошнюю капейчыну, лячылі, вучылі грамаце і рамёствам. Гаварылі нават, што тут ці не ў кожнай сялянскай хаце знойдзеш бібліятэчку з некалькіх узорных твораў. А гэта ж часы прыгону!



Слава Дабраўлянаў разнеслася далёка. Тут любілі бываць знакамітыя сучаснікі І. Ходзька, А. Адынец, Я. Рустэм, Т. Зан, А. Кіркор, Э. Жалігоўскі, А. Банольдзі і многія-многія іншыя. Дабраўляны сталі сапраўдным прыстанкам муз, аазісам высокай духоўнасці і мастацкай культуры. Пра дабраўлянскія зборы рэдкасцей прыхільна, а то і з захапленнем пісалі А. Пшэздзецкі ў віленскім часопісе «Athenaeum» (1842), А. Кіркор у «Bibliotece Warszawskiej» (1855).

Знакаміты пісьменнік і гісторык Ю. І. Крашэўскі, гаворачы ў альманаху «Teka Wileńska» за 1858 год пра мастака Бахматовіча, не забываўся дадаць, што памёр той «у Дабраўлянах, у графаў Гюнтэраў, у месцы, якое славіцца на Літве выкшталцоным густам яго насельнікаў, іх любоўю да мастацтва і зборамі мастацкіх твораў і памятак».

Адам Гюнтэр не дажыў да адкрыцця Археалагічнай камісіі і Музея старажытнасцей у Вільні. Але ў «Записках Виленской археологической комиссии» за 1856 год адзначаны яго ўнёсак у археалогію і музейную справу краю: «…в Дубровлянах покойный гр. Гинтер целую часовню украсил старинными латами, древним оружием и другими предметами». Тут ужыта старая форма назвы маёнтка (ад «дубровы»), але паступова яна ўсё больш набывала новае гучанне, у якім нібы падкрэсліваўся, высвечваўся высокі маральны сэнс, — Дабраўляны. Перад намі цікавы прыклад пераасэнсавання назвы. Зрэшты, трэба сказаць, і зыходная назва гучала няблага, хоць, можа, і больш ардынарна.

У Адама і Аляксандры Гюнтэраў былі тры дочкі: Мацільда, Іда і Габрыеля. Сыноў Бог не даў, але дочкі раслі на славу.

Пачнём з малодшай, вядомай у свой час паэткі і мемуарысткі. Гады яе жыцця — 1815–1869. Між іншым, чамусьці лічыцца, што Габрыеля Пузына (такое яе прозвішча па мужу) у Дабраўлянах і нарадзілася. «Urodzona 24 września 1815 r. w Dobrowlanach», — чытаем у анталогіі польскай паэзіі. У 1995 годзе, калі адзначалася 180-годдзе пісьменніцы, наш «ЛіМ» таксама пісаў: «А родам яна з вёскі Дабраўляны, гэта цяперашні Смаргонскі раён». Паўтораны гэтыя звесткі і ў выдатным зборніку беларускай польскамоўнай паэзіі «Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай» (1998). Між тым у сваіх мемуарах Габрыеля зазначыла, маючы на ўвазе сябе — малую: «Зіму 1816 года чатырохмесячная ўжо Альбіна Габрыелька бавіла з бацькамі ў Вільні. Народжаная тамсама 24 верасня 1815 года, ахрышчаная вадой святаянскай…» — гэта значыць, хрышчоная ў вядомым віленскім касцёле Св. Яна (універсітэцкім). Ды і не магла яна аніяк нарадзіцца ў Дабраўлянах з той простай прычыны, што гэты маёнтак Гюнтэры набылі толькі праз тры гады пасля яе з’яўлення на свет. Гэтая памылка або недакладнасць узнікла не так сабе, а выклікана тым, што жыццё паэтэсы сапраўды цесна звязана з Дабраўлянамі. Тут

расла, гадавалася, сюды з прыемнасцю вярталася ў сталыя гады. Яшчэ ў ранняй маладосці яна, як згадвала ў мемуарах, з захапленнем працавала над вялікай «Паэмай пра Дабраўляны» ў чатырох частках адпаведна з чатырма порамі года. Як бачым, гэта была маштабная творчая задума ў духу тагачаснай літаратурнай моды. Дабраўлянамі пазначаны вершы Габрыелі «Развітвайцеся!» (1838) і «Фіялкі ўзімку» (1841), перадрукаваныя ў анталогіі польскай паэзіі XIX стагоддзя (1961). У гэтай жа анталогіі — яе верш «Адаму Міцкевічу» (1842). Гэта — верш-учынак. Пасылаючы вялікаму паэту за мяжу флакон вады з Нёмана і букецік айчынных кветак, Габрыеля ўзнёсла называла свайго адрасата і духоўнага настаўніка «ліцвінам», а сябе — «ліцвінкай». Гэтыя словы заўсёды гучалі ў яе па-асабліваму, напаўнялі яе сэрца гордасцю.

У свой час з гэтымі вершамі ў перакладах Уладзіміра Мархеля пазнаёміўся беларускі чытач. Канцоўка прынцыпова важнага для паэткі паслання да Міцкевіча ў беларускай версіі гучыць так:

Не цячы вадзе назад у плыні —
Засмучае параўнанне гэта!
Лепш будзь ластаўкай для нас, Ліцвіне,
Каб вярнуцца мог сюды з-за свету!..
Песняю, дарункам свайго краю
Выказаць табе хачу павагу,
Я Ліцвінка, да цябе спяваю,
Бо зямляцтва мне дае адвагу.

Зрэшты, у першым сваім паэтычным зборніку (1843) Габрыеля прызналася, што не ставіць перад сабой глабальных мэтаў: «Ведаю свае сілы — мая думка ў далёкае падарожжа, у край незнаёмы не выбіраецца ніколі. Выходзіць на праходку ў поле або гай па снапок, па кветкі, па ягаду, па кубак крынічнай вады і вяртаецца дамоў яшчэ да стомы, перад ночай, перад бурай. Вось і ўсё яе падарожжа».

Апрача вершаў, Габрыеля пісала прозу і драматургічныя творы, якія ставіліся на віленскай сцэне, стварыла арыгінальную кніжку «Літоўскія дзеці, іх слоўцы, адказы, назіранні» (1847), дзе, як зазначыў А. Пяткевіч, «выявіла паэтычны свет дзяцей беларускай вёскі». Г. Пузына здолела заняць хоць і сціплае, але годнае месца сярод паэтаў і пісьменнікаў Беларуска-Літоўскага краю той эпохі. Сын вялікага паэта Уладзіслаў Міцкевіч, знаўца свету і літаратуры, які сустракаўся з Габрыеляй у 1861 годзе падчас падарожжа на радзіму, зрабіў у сваіх мемуарах шматзначную паралель: «Французскі паэт Мюсэ так вызначыў сваю творчасць: “Мая шклянка малая, ды п’ю з уласнай шклянкі”. Шклянка княгіні Габрыелі была таксама невялікая, але цалкам ёй належала». Гэта



было прызнаннем арыгінальнасці творчага даробку паэткі, яе адметнага голасу, самабытнага месца калі не ў вялікай літаратуры, дык на мясцовым, досыць высокім, Парнасе.

В. Каратынскі ў некралогу адзначыў, што яна «вялікай пані быць не ўмела».

Адзін з адукаваных віленцаў узгадваў у 1884 годзе ў часопісе «Kraj»: «Арыстакратка паводле імя, багацця і прыяцельскіх сувязяў, сэрцам і розумам пані Габрыеля была самай гарачай дэмакраткай, прыхільніцай літоўскага люду, яго паданняў і звычаяў — Сыракомля жаночага роду». Зноў трапнае параўнанне. І яна сапраўды сябравала з Сыракомлем, перапісвалася, сустракалася з ім. У прыватнасці, іх збліжала захапленне беларускім фальклорам, мудрай прастатой народнай песні. У кнізе Г. Каханоўскага, Л. Малаш, К. Цвіркі «Беларуская фалькларыстыка» (1989) прыведзены фрагменты перапіскі двух паэтаў. У лісце да Габрыелі Сыракомля гаварыў пра мастацкую дасканаласць беларускай песні. І паэтка пагаджалася, «што без гэтай песні, без народнай творчасці пісьменнік абысціся не можа». Пра цікавасць Габрыелі і яе акружэння да тагачаснай маладой беларускай літаратуры і, у прыватнасці, да творчасці Дуніна-Марцінкевіча сведчыць спіс падпісчыкаў на марцінкевічаўскі пераклад «Пана Тадэвуша» (1859). У спісе знаходзім: «Пузына Тадэвуш, князь». Гэта муж Габрыелі.

Вялікі ўнёсак Г. Гюнтэр-Пузына зрабіла ў мемуарыстыку краю. Яна пакінула два велізарныя тамы рукапісных мемуараў, у якіх вытанчаным пяром год за годам, як руплівы летапісец, апісала сваё ўласнае жыццё, а яшчэ больш — жыццё свайго акружэння за 1815–1867 гады (адносна сваіх асабістых сакрэтаў, самых-самых вялікіх таямніцаў сваёй душы, як мне падалося, яна ў нечым і скрытная). Называўся рукапіс пані пісьменніцку сцісла і вобразна — «Мая памяць». Гэта не толькі хроніка вузкасямейных падзей, а выдатная панарама культурнага жыцця краю за згаданы перыяд. У 1928 годзе першы том мемуараў быў выдадзены вядомай віленскай выдавецкай фірмай Завадскага пад назвай «У Вільні і ў літоўскіх дварах» (1815–1843). Там шмат расказана і пра Дабраўляны, пра добраўпарадкаванне гэтага цудоўнага беларускага кутка пры Гюнтэрах, пра шматлікіх гасцей, у тым ліку пілігрымаў з далёкіх краёў, якія шукалі гармоніі і натхнення пад славутымі дабраўлянскімі ліпамі. У нашы дні (1990) было рэпрынтнае перавыданне гэтага тома ў Кракаве. Гэта зноў жа гаворыць пра даўгавечную культуралагічную каштоўнасць і актуальнасць мемуарных сведчанняў Габрыелі. На жаль, другі том так і не выйшаў, а сам рукапіс загінуў у Варшаве ў гады Другой сусветнай вайны. Балазе, што ў рукапіс мемуараў, як і ў іншыя матэрыялы Габрыелі, паспеў зазірнуць вядомы краязнавец Чэслаў Янкоўскі, які прысвяціў паэтцы і Дабраўлянам

шмат цудоўных старонак у сваёй унікальнай манаграфіі «Ашмянскі павет» (т. 2, 1896). Да гэтай кнігі мы будзем сяды-тады звяртацца.

Габрыеля ўнаследавала калекцыянерскія схільнасці бацькі, як і ён, рупліва — «зярно да зярняці» — збірала ўсялякія гістарычныя памяткі. Чэслаў Янкоўскі пісаў: «Не менш цікавыя, чым Silva rerum графа Гюнтэра, — разнастайныя альбомы-штамбухі Габрыелі Пузыны, у якіх пакідалі свае подпісы, крэслілі прозу і вершы самыя размаітыя асобы, з якімі паэтку лучылі цеснае сяброўства або мімалётнае знаёмства. Дабраўлянскія госці — а колькі ж іх было! — віленскія знаёмыя, гаспадары і гаспадыні наведаных двароў, свае і чужыя, сустрэтыя ў паездках у Варшаву, у Кракаў, за мяжу — усе прыносілі сваю даніну на лісты штамбуха, а як толькі адзін запаўняўся да краёў, адразу ж у руках Габрыелі з'яўляўся новы, яшчэ больш значны паводле памераў, каб панове мастакі маглі ў ім з большым размахам разгарнуць малюнкі і накіды, а спадары музыкі мелі магчымасць накрэсліць у ім працяг памятных тактаў. Чыйго толькі прозвішча няма ў гэтых штамбухах! Сухадольскі і Арлоўскі, Манюшка, Вяняўскія, Концкі Антон, Сыракомля, Ходзька, Дэатыма… сапраўдны пантэон сучасных знакамітасцяў на полі літаратуры і мастацтва. А побач з імі імёны ўсіх дзядуляў і бабуль мноства літоўскіх панскіх і шляхецкіх сем'яў».

Старэйшая сястра Габрыелі Мацільда (1811–1867) таксама вылучалася выхаваннем і культурнымі інтарэсамі. У 1834 годзе яна выйшла замуж за Маўрыцыя Бучынскага, сына ўдзельніка касцюшкоўскага паўстання, уладальніка недалёкага ад Дабраўлянаў маёнтка Болькава. Сядзіба Бучынскіх маляўніча месцілася на гары над Свірскім возерам паміж Свірам і Засвірам. Назва маёнтка паходзіла ад імя аднаго з князёў Свірскіх, старадаўніх уладароў гэтых мясцінаў. Усё тут дыхала сівой мінуўшчынай, пераклікалася з моднымі рамантычнымі павевамі новага часу.

У 1846 годзе пакінула Дабраўляны, выйшла замуж сястра Іда. Яшчэ раней памерла маці. У Дабраўлянах засталіся стары Гюнтэр з Габрыеляй. Ч. Янкоўскі сведчыць: «Аднак Дабраўляны і віленскі салон дабраўлянскага дзедзіча зусім не страцілі звыклага ажыўлення, па-гаспадарску прымаць гасцей дапамагала сястры заўжды вынаходлівая, вясёлая, энергічная Бучынская». Пасля смерці мужа (1848) Мацільда і зусім вярнулася ў родныя Дабраўляны. У 1851 годзе бацька, як той кароль Лір, але з лепшым вынікам, яшчэ пры жыцці падзяліў сваё немалое «каралеўства» паміж дочкамі. Дабраўляны дасталіся Мацільдзе. Габрыеля зрабіла сабе асобную рэзідэнцыю непадалёку ў Нестанішках (назвала сваю новую сядзібу Патуліна[59]). У сясцёр бывалі агульныя госці. Так

[59] Ад слова «патульны» — лагодны, рахманы. Слова вядомае ў беларускай паэзіі: «Натуру меў ён залатую, / Як бы ягнём, патульны быў» (Я. Купала. «Магіла льва»).



было, напрыклад, з Сыракомлем. Ч. Янкоўскі цікава апісвае гасцяванне тут знакамітага паэта: «…у Патуліне прымала Габрыеля Сыракомлю. Прывёз яго туды з Вільні пасля сеймікаў Тадэвуш Пузына ўвосень 1855 года. Лірнік вясковы быў тады ў зеніце папулярнасці і поспеху, але нясмелы, нават дзікі пясняр літоўскі ледзьве паддаўся ўгаворам прыехаць. У Дабраўлянах вітала паэта Бучынская хлебам-соллю са словамі, што гэта за "Акраец хлеба", вітала пад дубам, упрыгожаным у гонар "Дэмбарога" аленевымі рагамі і шчытом з гербам Сыракомлі. Чакаў таксама падрыхтаваны для пасадкі малады клён; папрасілі госця, каб ён сам, уласнай рукой укапаў яго ў зямлю. Паэт у сваёй збянтэжанасці замест таго, каб узяцца за рыдлёўку, хапаў зямлю рукамі, кідаючы яе ў яму, але праз гэта дабраўлянскі клён стаўся яшчэ больш памятным». (Гэты шчымлівы, псіхалагічна дакладны эпізод, які можа сказаць пра чалавека болей, чым цэлыя старонкі, па ўсім, узяты Янкоўскім з другой — не друкаванай — часткі мемуараў Габрыелі.)

Дзейнасць і вядомасць Мацільды, зразумела, ніяк не абмяжоўваліся дабраўлянскімі ваколіцамі. У кнізе польскага даследчыка А. Мілера «Тэатр і музыка на Літве» (1936) салон Мацільды з графаў Гюнтэраў Бучынскай называецца ў ліку першарадных віленскіх тэатральна-мастацкіх асяродкаў сярэдзіны XIX стагоддзя. Але найбольш пані Мацільда праславілася як філантропка і ўдзельніца патрыятычнага руху пачатку 60-х гадоў.

«В конце 1859 года возвратилась в Вильну из Парижа виленская помещица Матильда Бучинская, имевшая в Вильне большой каменный дом напротив костела Малых Бусачек (Босачек. — *Г. К.*)» — так пачынае ў сваіх успамінах аповед пра адметную старонку жыцця, можна сказаць, духоўны ўзлёт немаладой ужо пані Мацільды інфармаваны (хоць і аднабакова) мясцовы чыноўнік Іван Акімавіч Нікоцін. Гэты сюжэт няшчадна эксплуатаваўся ці не ўсімі тагачаснымі рускімі мемуарыстамі, звязанымі з Вільняй, афіцыёзнымі гісторыкамі паўстання 1863 года, закрануты ён нават у запісках самога Мураўёва-вешальніка.

Аніяк не можам абмінуць гэты сюжэт і мы, паспрабуем асвятліць яго па даступных крыніцах, па магчымасці ачысціўшы ад пэўнага налёту тэндэнцыйнасці.

Дык вось, падчас свайго замежнага падарожжа, у Парыжы, Бучынская захапілася філантрапічнымі ідэямі, вешчуном якіх у XVII стагоддзі быў вядомы французскі дабрачынец Вінцэнт дэ Поль (1576 або 1581–1660). Сын бедных гасконскіх сялян, ён яшчэ ў маладыя гады стаў святаром, трапіў у рукі марскіх піратаў і быў прададзены ў рабства. Пасля многіх нягодаў яму ўдалося вырвацца з няволі, уцячы на радзіму. Нейкі час ён быў духоўнікам і сакратаром Маргарыты Валуа (тая самая

знакамітая каралева Марго). Сам удосталь хапіўшы ў жыцці ліха, дэ Поль горача прапаведаваў міласэрнасць па ўсёй Францыі, звярнуўшы асаблівую ўвагу на лёс катаржнікаў. Кароль Людовік XIII увогуле прызначыў яго духоўнікам каралеўскіх галер, апекуном самых няшчасных парыяў грамадства. Неўзабаве дэ Поль паклаў пачатак кангрэгацыі місіянераў (лазарыстаў). Паводле статута кожны сябра кангрэгацыі мусіў весці місіянерска-філантрапічную працу ў вёсцы, навучаючы сялян, апякуючыся хворымі і рыхтуючы будучых вясковых святароў. Праз некалькі гадоў пры садзейнічанні ўдавы Луізы Легра нястомны ў сваім філантрапічным, чалавекалюбным імпэце Вінцэнт дэ Поль заснаваў абшчыну сёстраў міласэрнасці, працаваў над рэфармаваннем жаночых кляштарных школ, зімой у сцюжу падбіраў на вуліцах Парыжа кінутых дзяцей, завёў прытулак для такіх знайдзёнаў, прыстанак-багадзельню для старых і бальніцу для беднякоў. У спустошанай, здратаванай рэлігійнымі войнамі, а потым зацяжной Трыццацігадовай вайной Францыі бяды і гора хапала, і дэ Поль як мог стараўся дапамагчы шматлікім беднякам. Пра яго хадзілі легенды. За вялікае, поўнае спагадлівасці сэрца яго называлі «Упаўнаважаным Боскай волі». Дзіва што, народ пакланяўся яму, як нікому, а пасля смерці ён быў нават кананізаваны Царквой, далучаны да ліку святых. Вось такі гэта быў чалавек. Справа яго жыцця не прапала, засталася ў вяках. У XIX стагоддзі пад яго імем сталі ўзнікаць новыя таварыствы міласэрнасці. Такія вось ідэі прывезла з Парыжа пані Мацільда. Адпаведныя памкненні жылі ў яе душы і раней. Нездарма ў творчасці Сыракомлі яна вылучыла шчымлівы «Акраец». І вось цяпер на ўзор француженкі Луізы Легра яна ўтварыла ў Вільні таварыства вінцэнцінак для дапамогі ўсім абяздоленым. Цікава, што ўлады, нягледзячы на атрыманае бласлаўленне касцёла, чамусьці не спяшаліся зацвярджаць статут таварыства, знаходзілі ўсё новыя і новыя бюракратычныя перашкоды, і Бучынская са сваімі паплечнікамі і паплечніцамі стала дзейнічаць на свой страх і рызыку: «…решилась самовольно открыть действия сказанного общества, причем принят был в руководство устав общества св. Викентия, напечатанный в Варшаве. В открытии общества не только принял самое деятельное участие виленский римско-католический епископ Красинский, но впоследствии жертвовал на него деньгами, участвовал в собраниях общества…» (Нікоцін). Факты падаюцца так, нібыта размова ідзе пра бог ведае якую вялікую крамолу. (Дарэчы, і з біскупам Красінскім — чалавекам памяркоўным і вучоным — улады пасля моцна пасварыліся, і ён надоўга апынуўся ажно ў далёкай і глухой Вятцы.)

Тут якраз надышоў гістарычны 1861 год, і дзейнасць Бучынскай сапраўды набыла палітычнае адценне, хаця яе апазіцыйнасць аніяк нельга, відаць, перабольшваць.



Як вядома, моцным штуршком для тагачаснага ўздыму вызваленча-патрыятычнага руху паслужыў расстрэл царскімі ўладамі бяззбройнай дэманстрацыі варшавян у лютым 1861 года. Польшча, Літва, Беларусь апрануліся ў жалобу.

У вядомых запісках Масалова (там — і хрэстаматыйнае апісанне пакарання смерцю Каліноўскага) Бучынская характарызуецца як галоўная «распорядительница» нашэння жалобы ў Вільні. Не супярэчаць гэтаму і архіўныя дакументы. У свой час мне давялося гартаць у маскоўскім архіве ніштаватую па памерах жандарскую справу пра графа Тышкевіча. У ёй цікавы матэрыял пра сітуацыю ў Вільні ў гэты перыяд, як яна бачылася царскім уладам.

Дык вось, 15 лютага прагучалі тыя трагічныя стрэлы ў Варшаве, а ўжо 6 сакавіка віленскі генерал-губернатар Назімаў паведамляў у Пецярбург шэфу жандараў: «Варшавские происшествия отозвались и в Вильне заметным брожением умов, особенно между молодыми людьми и дамами высшего здешнего общества, которые, прекратив увеселения, заменили их трауром и перестали посещать театр и другие общественные собрания. В голове этих ажитаторов стал виленский уездный предводитель дворянства граф Иван Тышкевич, молодой человек весьма ограниченного ума, исполненный фанатизма, руководимый молодою своею женою и монахом бернардинского ордена, давним духовником покойной его матери, а ныне его самого. По предложению жены графа Тышкевича в прошлую среду 2 марта (у каталікаў, як можна зразумець з перапіскі, быў акурат дзень памінання памерлых. — *Г. К.*) большая часть этого общества съехалась в церковь (касцёл. — *Г. К.*) св. Иоанна (бывшую университетскую), где и совершена была заказанная оным заупокойная литургия и панихида по убиенным в Варшаве».

Вельмі хутка ў данясеннях з Вільні побач з Тышкевічамі стала мільгаць імя Бучынскай. Арыстакраты — як заўсёды ў крытычныя моманты — шукалі збліжэння з народам. «Тышкевич, — паведамляў жандарскі падпалкоўнік Адамовіч, — намеревался для разговин в пасху здешних бедных и ремесленников устроить у себя стол на 1500 человек, подобно тому, как это имело место в последнюю пасху в Варшаве, о чем для совещания будто бы привозил в карете в свой дом старшину портных мещанина Каравая, представляя его своей жене, говорил о потребности уже сближения корпораций народа в одно целое и об отмене существовавшей до сего и вредящей этому делу прежней между классами народа церемонной этикеты». Улады насцярожыліся. Задуманы арыстакратамі дзеля братання з народам грандыёзны абед не быў дазволены.

У гэтым самым аспекце разглядалася ўладамі і філантрапічная дзейнасць Бучынскай. Уплывовыя чынушы, выпрабаваныя майстры

бюракратычных пасьянсаў бачылі і тут палітычную падкладку. 22 красавіка 1861 года Назімаў паведамляў у Пецярбург: «Помещица Матильда Бучинская раздавала денежные вспомоществования и продукты в низших классах народа, обязывая всех носить траур и отказывая тем, которые сего не делали». Тышкевічы і Бучынская высылаюцца з Вільні ў свае маёнткі пад сакрэтны нагляд паліцыі. У спісе высланых па Віленскай губерні значыцца пад № 3 граф Іван Тышкевіч (маёнтак Вака пад Вільняй). Пад № 4: «Матильда Бучинская. Помещица. Свенцянского уезда в собственное им. Дубровляны».

Цікава, што высакародныя філантрапічныя мэты таварыства вінцэнцінак прываблівалі і рускіх дам, жонак высокіх чыноўнікаў. Пазней Мураўёў-вешальнік зласловіў у сваіх запісках, што следам за жонкаю генерал-губернатара Назімава (яго больш людскі, ліберальны папярэднік) у таварыства запісалася большасць рускіх дам, а між тым пад гэтым прыкрыццём збіраліся грошы на мяцеж.

Мацільда Бучынская была першым і апошнім прэзідэнтам таварыства. З прыбыццём у Вільню Мураўёва (май 1863 года) таварыства было разагнана, а яго кіраўніцтва арыштавана. За краты трапілі Мацільда Бучынская (прэзідэнт), Валерыя Вейсенгоф (віцэ-прэзідэнт), Ідалія Лапацінская (сакратар), Марыя Кастравіцкая (скарбнік), Багуміла Душакевіч (кантралёр).

Вялося дробязнае, прыдзірлівае, абразлівае следства. Пра чалавекалюбства — высокія мэты вінцэнцінак — начыста забыліся. «В 1863 году открылось, что учрежденное Бучинскою общество St. Vincent de Paul принимало в деле мятежа самое живейшее участие. На средства этого общества содержались целые толпы уличных певцов и певуний революционных гимнов и наблюдателей за ношением траура» (Нікоцін).

Другі мураўёўскі чыноўнік Масалоў, маладзён, не тое што іншыя, адукаваны, дапытлівы і не без свецкага глянцу, бачыў Бучынскую ў Францішканскай турме (на Троцкай вуліцы) недзе ўвосень (або пад восень) 1863 года. Ён суправаджаў англійскага карэспандэнта О'Браена, які пажадаў на ўласныя вочы пазнаёміцца з віленскімі вязніцамі, з умовамі ўтрымання палітычных арыштантаў. Прывядзём следам за Масаловым цікавае апісанне візіту ў былы кляштар, прыстасаваны пад астрог: «После обзора некоторых арестантских [камер], мы были приведены в комнату, где содержалась богатая виленская помещица Матильда Бучинская, урожденная Гинтер. Высокого роста, величественная, уже пожилая (ёй 52 гады, а мемуарысту — 20. — *Г. К.*), г-жа Бучинская приняла нас весьма любезно, как великосветская женщина принимает в своей гостиной. Она поразила нас своим умом, познаниями и живостью. В какие-нибудь десять минут речь зашла даже о Данте; она говорила, что вовсе не сетует, а благодарит судьбу за это небольшое испытание, так [как] она до сих пор не знала в жизни превратностей и теперь только в этом уединении лучше научилась понимать некоторые вещи и думать о том, на что прежде не обращала внимания. У постели ее висел на стене ковер, на столике перед диваном стояли следы домашнего обеда, на окне в горшке под стеклом она выращивала какую-то травку. Г-жа Бучинская содержалась не как подсудимая, но в виде административного взыскания за прежние ее подвиги и руковождения в демонстрациях всякого рода; а месяца через три она отправлена была в Нижегородскую губернию. Вообще, содержание в Францисканской тюрьме считалось самым легким по сравнению с остальными тюрьмами. Прощаясь с англичанином, она смеясь сказала ему: "И так передайте в вашем отечестве, что вы видели в виленских тюрьмах женщину веселую и совершенно довольную своим положением", а мне она выразила надежду увидеться где-нибудь со временем при более счастливых обстоятельствах». Як бачым, у памяці Масалова застаўся вобраз жанчыны неардынарнай, духоўна багатай. Своеасаблівы філасофскі падыход да жыцця дапамагаў ёй стойка пераносіць нягоды (зрэшты, у яе выпадку даволі адносныя).

З даведкі пра Бучынскую ў «Польскім біяграфічным слоўніку» (аўтар — вядомы віленскі краязнавец даваеннага часу М. Бранштэйн[60] — меў магчымасць пазнаёміцца з архівам таварыства вінцэнцінак) відаць, што пані Мацільду саслалі ў адміністрацыйным парадку ў Ніжагародскую губерню ў сакавіку 1864 года. Дарагія яе сэрцу Дабраўляны былі секвестраваны (узяты ў казну), а потым перайшлі ў чужыя рукі. Некалькі гадоў пражыла наша філантропка ў заволжскай глухамані сярод суровых раскольнікаў і лыжачнікаў-саматужнікаў (мясціны, апісаныя потым Мельнікавым-Пячэрскім). Толькі ў 1867 годзе змагла Бучынская вярнуцца з выгнання ў блізкую ёй Варшаву, дзе неўзабаве і памерла.

Дык вось, выходзіць, які маёнтак арандаваў у 1863 годзе аўтар «Гапона» і будучы творца «Пінскай шляхты». Прыведзены матэрыял досыць пераканаўча сведчыць пра сувязь нашага пісьменніка з бліскучай арыстакратычнай сям'ёй Гюнтэраў. Пазнаёміцца з імі ён мог праз Сыракомлю, які сябраваў як з Габрыеляй Пузынай, так і з Мацільдай Бучынскай. Ды і ўвогуле нейкія сувязі з арыстакратыяй у Дуніна-Марцінкевіча былі. Вядома, што ў 1858–1863 гадах ён быў даверанай асобай уладальніцы маёнтка Нарова Ковенскага павета графіні С. Грабоўскай па справе аб раздзеле маёнтка з братамі Пржаленцкімі (між іншым, апошнія таксама

[60] Ён напісаў для гэтага слоўніка і грунтоўны артыкул пра Ф. Багушэвіча.

падпісаліся на марцінкевічаўскі пераклад «Пана Тадэвуша»). У 1861 годзе «для встречи и сопровождения возвращавшейся из-за границы графини Грабовской» пісьменнік ездзіў у Варшаву.

Трэба думаць, яму блізкая была патрыятычна-філантрапічная дзейнасць Мацільды Бучынскай, як і ідэі класавай гармоніі і салідарызму. Усёй сваёй творчасцю пісьменнік «милость к падшим призывал». А ў адкрытым лісце ў рэдакцыю «Gazety Polskiej» (1861) ён наўпрост — без хітрыкаў — заклікаў: «Яшчэ ёсць час, каб нашы грамадзяне спахапіліся і, утвараючы школкі, прытулкі і прыносячы іншыя магчымыя ахвяры, імкнуліся гэтую малодшую брацію сваю, якая ўмее быць удзячнай, прытуліць да сэрца і для ўсеагульнага дабра з ёй моцна аб'яднацца». «Малодшыя браты» — у тагачаснай публіцыстыцы гэта народ, сяляне. Хіба не ў гэтым самым рэчышчы дзейнічала і пані Мацільда? Апошняй Дунін-Марцінкевіч у нялёгкія часы патрэбны быў да таго ж як чалавек з вялікім жыццёвым і юрыдычным досведам. Тым больш што яна ўмела цаніць таленавітых людзей, а як прэзідэнту таварыства віцэнцінак ёй імпанавала, напэўна, і само імя нашага пісьменніка.

Вядома, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч — чалавек вельмі незаможны — сам вось так раптам на арэнду буйнога маёнтка ўзбіцца не мог. Паводле польскага «Слоўніка геаграфічнага», у перыяд правядзення рэформы 1861 года да маёнтка Дабраўляны належала 300 сялянскіх двароў у вёсках Завідзіненты, Зяновішкі, Лылойці, Крываносы, Супраненты, Пазборцы, Хвядзевічы (Хвядкевічы?), Хаціловічы, Хацілкі, Хаяцкоўшчына і г. д. Гэта ж падумаць толькі — цэлы свет! Такая буйная арэнда нашаму пісьменніку была не пад сілу. Думаецца, што арэнда гэтая была фармальнай, можна сказаць, пэўнай фікцыяй. Хутчэй, яна прыкрывала прыяцельскія, у кожным разе больш-менш блізкія стасункі Дуніна-Марцінкевіча з Бучынскай. Мабыць, Марцінкевіч у сваім немаладым веку не хацеў прымаць непасрэднага ўдзелу ва ўзброеным паўстанні, не бачыў перспектыў для яго поспеху, і Бучынская дала яму магчымасць адседзецца ў зацішным месцы (мы ж памятаем, што пісьменніку пагражаў арышт). Ды і ёй самой у гэты трывожны час быў патрэбны надзейны чалавек, які апекаваўся б каласальнымі культурнымі (ды і проста матэрыяльнымі) багаццямі выдатнага маёнтка.

І вось здарылася так, што, калі навокал грымела паўстанне, наш пісьменнік бавіў час сярод гаспадарчых клопатаў у высокакультурным асяродку Дабраўлянаў.

Праўда, спакой гэты быў ілюзорным. Можам уявіць сабе, як балела яго сэрца, з якой прагнасцю лавіў ён звесткі пра дзеянні паўстанцаў і царскія рэпрэсіі. Да зразумелай трывогі не толькі за сябе, але за блізкіх і землякоў дадавалася неадступная думка, што і як будзе з Беларуссю.



Відаць, ён мог бы сказаць пра 1863 год у сваім жыцці тое ж самае, што сказаў пазней Янка Купала пра смаленскі перыяд сваіх жыццёвых блуканняў: «Там, жывучы праз увесь цяжкі і жудкі 1918 г., я папраўдзе быў як непрытомны» (Купала Я. Зб. тв.: у 7 т. Мінск, 1976. Т. 7. С. 452).

Пасля секвестру Дабраўлянаў з маёнтка быў выгнаны і арандатар (відаць, можна ўзяць гэтае слова і ў двукоссе) Марцінкевіч. Ён знайшоў новы прытулак у недалёкім мястэчку Свір. Думаецца, што і гэта невыпадкова. Калі не ўсё мястэчка, то яго частка належала ў тыя часы (прынамсі перад рэформай) да маёнтка мужа Бучынскай Болькава. У кожным выпадку ў Бучынскіх, як і ў Гюнтэраў, у Свіры былі моцныя традыцыйныя сувязі.

У святле атрыманых звестак перачытаем яшчэ матэрыялы следчай справы Марцінкевіча, задумаемся над некаторымі дэталямі. Паказанні пісьменніка дайшлі толькі ў аўдытарскім пераказе: «…в первых числах апреля 1863 г. он взял в аренду Свенцянского уезда имение Дубровляны (помещицы Бучинской), но впоследствии имение это было секвестровано, и он с 22 января 1864 года переехал на жительство в соседнее м. Свирь, где и находился безотлучно до своего ареста и никакого участия в мятеже не принимал, в доказательство чего имеет свидетельство от местного начальства».

Яшчэ выпіска, цяпер ужо з паказаннямі сведкаў (допыты вяліся як у Дабраўлянах, так і ў Свіры):

«Четверо крестьян, соседних с имением помещицы Бучинской Дубровляны, под присягою показали, что Марцинкевич приезжал (прыехаў. — *Г. К.*) в это имение весною 1863 года в апреле или мае месяце и занимался хозяйством по март месяц 1864 года, никуда не отлучаясь, а затем имение было секвестровано, и он переехал в соседнее местечко Свирь и проживал в нем безвыездно до арестования его по настоящему делу, знакомство он ни с кем не вел и ни в чем предосудительном не был замечен.

Согласно сему показали под присягою 6 крестьян домохозяев м. Свирь, а также и военный начальник 4-го участка Свенцянского уезда поручик Харламов в выданном от 22 июня 1864 года свидетельстве удостоверил, что Марцинкевич во все время пребывания своего в дер. Дубровлянах и м. Свири с апреля 1863 года вел себя тихо и не только не участвовал в мятеже, но, напротив, замечен был в сочувствии законному правительству».

У прыведзеных фрагментах ёсць храналагічная супярэчнасць. У першым выпадку сказана, што пісьменнік знаходзіўся ў Дабраўлянах да студзеня 1864 года, у другім — да сакавіка. Хутчэй за ўсё, секвестр на маёнтак быў накладзены адначасова з высылкай Бучынскай, так што

гэтую няўвязку можна вырашыць на карысць другой даты і зрабіць меркаванне, што пярэбары Марцінкевіча з Дабраўлянаў у Свір адбываліся ў сакавіку 1864 года.

Цікава таксама, што яшчэ за некалькі месяцаў да арышту пісьменнік дальнабачна абзавёўся пасведчаннем участковага ваеннага начальніка паручніка Харламава, канцылярыя якога знаходзілася тут жа ў Свіры, аб палітычнай добранадзейнасці.

Дакумент гэты зноў выклікае пытанні. Перш за ўсё нагадаем, што гэта за пасада такая — участковы ваенны начальнік. Участак раўняўся ранейшаму паліцэйскаму стану. Паліцэйскіх станавых прыставаў у 1863 годзе змянілі ваенныя начальнікі з падначаленымі ім вайсковымі камандамі і досыць вялікімі правамі. Вось і ў Свіры быў такі начальнік, які і выдаў Дуніну-Марцінкевічу патрэбны атэстат. З'яўляецца думка: што ж гэта за паручнік Харламаў — так даў сябе аблапошыць. Ну не падтрымліваў пісьменнік адкрыта паўстанцаў, ну стаяў убаку ад непасрэднага разлютаванага змагання, а каб спачуваць у гэты момант «законнаму ўраду» — гэта ўжо выбачайце! У такое нельга паверыць. Мабыць, Навуму Прыгаворку давялося прыкласці ўсе свае немалыя акцёрскія здольнасці ды не адзін тузін пляшак адмысловай старкі перацягаць з дабраўлянскіх склепаў, каб улагодзіць Харламава… Ды і ці толькі пляшкамі абышлося? Мемуарыст (з Беласточчыны) так характарызуе гэтую публіку: «Увялі ваенных станавых па ўсім павеце. Паліцэйскія станавыя былі рвачы. Ваенных выбралі найгоршай рэпутацыі. Піякі, грабежнікі і тыраны»[61]. Мемуарыст намаляваў тыповую карціну. Так было не толькі на Беласточчыне, а і на Смаргоншчыне, Мядзельшчыне — дзе заўгодна. Хаця ў выпадку з Харламавым нічога канкрэтнага мы не ведаем. Так што, у прынцыпе, не выключаны і іншыя варыянты. Траплялiся сярод ваякаў і прыстойныя людзі. Гэта добра паказаў У. Караткевіч у пралогу да рамана «Нельга забыць».

На вялікі жаль, другая частка мемуараў Габрыелі Пузыны за самы цікавы для нас перыяд (1844–1867), як мы ўжо гаварылі, не захавалася. Мабыць, там знайшліся б адказы на многія нашы пытанні. Хоць з 50-х гадоў Габрыеля больш жыла ў маёнтку князёў Пузынаў Гарадзілава (цяпер Ашмянскі раён), але, думаецца, і Дабраўляны, як і лёс сястры Мацільды, былі ў яе заўсёды навідавоку.

І вось жа гэты неацэнны рукапіс — з такімі, як можна меркаваць, важнымі для нас сведчаннямі — знік. Ды і лёс усяго дабраўлянскага архіва (а там былі, мусілі быць і аўтографы Марцінкевіча) досыць складаны. Вядома, што архіў гэты ў свой час быў перададзены сярэдняй сястрой Гюнтэранкай сваякам Пшэздзецкім і захоўваўся да вайны ў знакамітай

[61] Biłgorajski F. Pamiętniki w sprawie chłopskiej w 1863 roku. Wrocław, 1956. S. 84.



Бібліятэцы Пшэздзецкіх у Варшаве. У вайну бібліятэка страшэнна пацярпела (вялікі пажар ад гітлераўскіх бомбаў быў у палацы Пшэздзецкіх, дзе месцілася бібліятэка, ужо ў верасні 1939 года), ад яе мала што ацалела. Можна было думаць, што і дабраўлянскі архіў загінуў. Але пачакайце. Польскія архівісты ў свой час уважліва і канкрэтна падлічылі і праааналізавалі страты, нанесеныя дакументальным скарбам вайной (чаго дагэтуль толкам не зрабілі мы). У 1955 годзе ў Варшаве выйшаў важкі том «Страты варшаўскіх бібліятэк і архіваў у галіне рукапісных гістарычных крыніц». Зазірнём туды. Там ёсць аналітычны артыкул былога дырэктара Бібліятэкі Пшэздзецкіх Зыгмунта Удавішэўскага пра ваенныя страты гэтага сховішча кніг і рукапісаў. Шаноўны аўтар паведамляе, што архіў Пшэздзецкіх складаўся з некалькіх частак. Першая — архіў маёнтка Шамятоўшчына Ашмянскага павета. Далей чытаем: «Другім фондам, які складаў важкую састаўную частку архіва Пшэздзецкіх, быў дубраўлянскі архіў, звязаны з маёнткам Дубраўляны (такога напісання прытрымліваецца Удавішэўскі. — *Г. К.*). Ён таксама складаўся з гаспадарчых актаў XVI — пачатку XIX стагоддзя. Дубраўляны набыў у 1818 годзе граф Адам Гюнтэр, бацька паэткі і мемуарысткі Габрыелі Пузыны, на імя сваёй жонкі Аляксандры з Тызенгаўзаў, дачкі Ігната — шэфа літоўскай гвардыі — і Марыі Пшэздзецкай — падканцлеранкі…» Падканцлеранка — дачка падканцлера (намесніка канцлера). Адчуваем глыбокую цікавасць аўтара да ўсіх тонкасцяў шляхецкіх радаводаў. Генеалогія ў Польшчы заўсёды стаяла на вышыні. Гэтаму трэба вучыцца і нам. Але чытаем далей — там самае для нас галоўнае: «Апрача ўласна дубраўлянскага архіва тут знаходзіліся яшчэ паперы Гюнтэра, як, напрыклад, намінацыі (прызначэнні на службу. — *Г. К.*), лісты, шляхецкія доказы, метрыкі і г. д. (ці не пра тыя знакамітыя "Тэкі Гюнтэра" размова? — *Г. К.*). Пасля смерці адной з дачок Адама Гюнтэра Ідаліі Мастоўскай як дубраўлянскі архіў, так і гюнтэраўскія паперы трапілі ў выглядзе спадчыны перад 1887 годам у Бібліятэку Пшэздзецкіх. Гэты архіў часткова ацалеў і налічвае цяпер 34 пераплеценыя кнігі. Ахвярай вайны сталі наступныя тамы: 1, 2, 8, 10, 16, 18, 19, 20, 22, 32, 33 і 34». Выходзіць, усяго перад вайной было 46 падшывак з дабраўлянскімі дакументамі, загінула 12 — прыблізна чацвёртая частка. Можна сказаць, дабраўлянскаму архіву ў той глабальнай катастрофе яшчэ пашанцавала.

Тое, што засталося ад рукапісных збораў Бібліятэкі Пшэздзецкіх, пасля вайны перададзена ў той жа Варшаве ў Галоўны архіў даўніх (перакладаюць і — старажытных) актаў. Наяўнасць там дабраўлянскага фонду пацвярджаецца і кароткім даведнікам па фондах архіва «Archiwum główne akt dawnych w Warszawie. Informator o zasobie», выдадзеным у 1992 годзе. Пра гэта, дарэчы, згадваў Г. Семянчук у артыкуле

«Беларусіка» ў фондах Галоўнага архіва старажытных актаў у Варшаве» (Спадчына. 1996. № 2). У AGAD (польская абрэвіятура архіва), паводле згаданага «Informatora», ёсць цяпер 34 адзінкі захавання з Дабраўлянаў за 1518–1874 гады (па ўсім, якраз тыя пераплеценыя тамы, пра якія гаварыў Удавішэўскі). Недзе сярод іх могуць быць і матэрыялы, так або інакш звязаныя з Дуніным-Марцінкевічам. Хаця б пра тую ж загадкавую арэнду і секвестр маёнтка.

Частка дабраўлянскіх рукапісных збораў, матэрыялаў Габрыелі, як сведчыць Ч. Янкоўскі, яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя захоўвалася ў Беніцы (цяпер Маладзечанскі раён) у Швыкоўскіх, сваякоў уладальнікаў Дабраўлянаў. Далейшы лёс гэтай часткі дакументальна пакуль не прасочваецца. Тут таксама маглі б быць свае цікавыя знаходкі.

Марна было б шукаць сёння слядоў Дуніна-Марцінкевіча непасрэдна ў саміх Дабраўлянах. Бязлітасны час, грандыёзныя палітычныя катаклізмы не спрыялі захаванню тут культурных помнікаў. У Першую сусветную вайну паблізу якраз праходзіў фронт. Да 1939 года мясцовасць знаходзілася пад Польшчай. Тым не менш належнага гаспадарскага вока ўжо тады не адчувалася. Паводле кнігі Р. Афтаназы «Гісторыя рэзідэнцый (буйных панскіх сядзіб. — *Г. К.*) на даўніх крэсах Рэчы Паспалітай» (т. 4, 1993), знішчальны пажар тут быў і ў мірны час ужо пасля 1920 года. У краязнаўчай кнізе С. Лорэнтца «Экскурсіі па Віленскім ваяводстве» (1932), якая ёсць у нашай Нацыянальнай бібліятэцы, чытаем: «У часе сусветнай вайны палац быў разбураны, сёння стаіць без даху, інтэр'ер цалкам знішчаны, толькі ў партэры (ніжні паверх. — *Г. К.*) яшчэ захаваліся рэшткі псеўдагатычных дэкарацый адной з залаў (мабыць, згаданыя намі каштоўныя роспісы К. Бахматовіча ў капліцы ніжняга паверха. — *Г. К.*), у якую вядуць таксама псеўдагатычныя парталы». Цуду ўваскрашэння, на жаль, не адбылося і ў наступныя гады. Хутчэй, наадварот. Працэс разбурэння няўмольна працягваўся і быў даведзены, можна сказаць, да лагічнага канца. Прынамсі гэта датычыць самога палаца. У кнізе А. Федарука «Садова-паркавае мастацтва Беларусі» (1989) канстатуецца: «Дабраўлянскі палац быў разбураны ў гады першай імперыялістычнай вайны і больш не адбудоўваўся… Захаваўся будынак былой лядоўні, гаспадарчыя пабудовы і часткова парк»; «Тут ёсць адзіная на Беларусі біягрупа ліяны арысталохіі буйналістай, якая ўзнімаецца па асінах на вышыню да 10,5 м. У абсадцы гаспадарчай зоны (цяпер жывёлагадоўчая ферма), размешчанай з паўночнага боку ад цэнтральнай алеі сядзібы, выкарыстана тапаля канадская позняя».

Як бачым, захавалася няшмат. Тым не менш Дабраўляны назаўсёды звязаны для нас з многімі выдатнымі людзьмі мінулага стагоддзя. І, вядома ж, не ў апошнюю чаргу з нашым класікам Дуніным-Марцінкевічам, які перажыў тут цяжкі крызісны час. На першы выпадак тут быў бы патрэбны адпаведны памятны знак, пра які, пэўна, парупяцца мясцовыя краязнаўцы, кіраўнікі і грамадскасць раёна. Надпіс мог бы быць прыкладна такі:

*«У першай палове — сярэдзіне XIX стагоддзя сядзіба Гюнтэраў у Дабраўлянах была вядомым культурным асяродкам.*

*Дачка Гюнтэраў Габрыеля Пузына (1815–1869) праславілася як пісьменніца і мемуарыстка.*

*Другая дачка Мацільда Бучынская (1811–1867) саслана царызмам за патрыятычна-філантрапічную дзейнасць.*

*Тут гасцявалі многія выдатныя сучаснікі: мастакі, літаратары, артысты.*

*У 1855 г. паэт Уладзіслаў Сыракомля пасадзіў тут клён.*

*У 1863–1864 гг. у Дабраўлянах жыў класік беларускай літаратуры Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч».*

Цікава, што паўночны куток Смаргонскага раёна, як і сумежныя часткі Мядзельскага і Вілейскага раёнаў, наогул мае, скажам так, шчыльную літаратурную гісторыю. Бліжэйшымі суседзямі Гюнтэраў былі Суліструўскія, якія валодалі маёнткам Вішнева. Праз жонку — Ірэну Суліструўскую — гэты маёнтак атрымаў у свой час выдатны культурны дзеяч Ян Карловіч, і тут напрыканцы стагоддзя часта бываў яго сябра і давераная асоба Францішак Багушэвіч. Зусім побач Адам Гурыновіч збіраў фальклорныя матэрыялы для вядомай сваёй публікацыі «Збор беларускіх твораў (з Вішнеўскай воласці, Жодзішскай парафіі, Свянцянскага павета, Віленскай губерні)» (1893).

Дарэчы, не зусім дакладная інфармацыя на тэму, якая нас сёння цікавіць, змешчана ў артыкуле І. Драўніцкага «Шчодрая на таленты зямля» пра «літаратурную карту» Мядзельшчыны (Роднае слова. 1994. № 7–8). У цэлым артыкул вельмі змястоўны, аўтар сабраў надзвычай багаты матэрыял пра літаратараў мінулага і сучаснасці, звязаных з Мядзельшчынай. Але ў вялікай працы не абышлося і без асобных агрэхаў. Там падаецца наступны тэкст (гаворка ідзе пра Болькава, вёску ў Свірскім пасялковым савеце Мядзельскага раёна): «З пачатку 1934 г. [1834] Болькаўскім маёнткам валодала Мацільда Бучынская, філантропка, заступніца бедных. Яна была цесна звязана з патрыятычна-вызваленчым рухам на Беларусі ў 1830–1831 і 1863–1864 гг. У яе маёнтку некаторы час пасля задушэння паўстання пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага хаваўся паэт-дэмакрат Францішак Багушэвіч. За сувязь з паўстанцамі М. Бучынская была арыштавана. Да М. Бучынскай часта наведвалася яе сястра Габрыеля Пузына (1815–1869), вядомая паэтка і мемуарыстка, якая жыла ў Дабраўлянах (цяпер Смаргонскі р-н) — маёнтку, што на той час быў правінцыйным

цэнтрам з унікальным музеем, аформленым беларускім мастаком-жывапісцам К. Бахматовічам».

Тэкст гэты патрабуе сур'ёзных карэктываў. У чытача можа скласціся ўражанне пра нейкі штучны падзел: Болькава звязана з Бучынскай, Дабраўляны — з яе сястрой Пузынай. А між тым, як відаць з матэрыялаў нашага нарыса, Бучынскай належала не толькі Болькава, але (з 1851 года) і Дабраўляны. Яе сястра Г. Пузына, зразумела, у Болькаве бывала. З гэтым нельга не пагадзіцца. А вось што тут — у Болькаве (так вынікае з тэксту) — хаваўся пасля паўстання 1863 года Францішак Багушэвіч, — такога навука не ведае. Дзе канкрэтна хаваўся паўстанец Багушэвіч да свайго выезду ў Нежын, біёграфам пакуль невядома. Магчыма, аўтар артыкула І. Драўніцкі меў на ўвазе ўсё таго ж Дуніна-Марцінкевіча, які ў 1863–1864 гадах жыў (можна сказаць, і хаваўся) у Дабраўлянах, Свіры. Улічваючы яго блізкія сувязі з Бучынскай, можна было б меркаваць, што ён бываў у гэты перыяд і ў яе недалёкім маёнтку Болькава, але гэтаму супярэчыць наступнае паведамленне ўжо згаданага знаўцы гісторыі панскіх сядзібаў Р. Афтаназы: «У 1863 годзе, перад самым выбухам Паўстання, непасрэдна ад Бучынскіх ці праз аўкцыён спадчыны пасля Маўрыцыя Бучынскага набыў Лынтупы, а таксама недалёкае, размешчанае над возерам Свір Болькава пецярбургскі адвакат Ежы Бішэўскі на грошы сваёй жонкі з роду Гарэцкіх, удавы пасля вельмі багатага першага мужа».

Выходзіць, калі верыць гэтай інфармацыі, у Болькаве ў 1863 годзе ўжо гаспадарылі іншыя людзі. Але, вядома ж, і паведамленне шаноўнага Р. Афтаназы, як і ўсякае іншае, яшчэ патрабуе дакументальнага пацвярджэння. Звычайна паны, далучаныя да вызваленчага руху, мусілі прадаваць свае маёнткі пасля паўстання пад націскам улад. Так было — мы ўжо бачылі — з Дабраўлянамі. Ці была патрэба пазбаўляцца Болькава перад паўстаннем? Хіба што Бучынскай тэрмінова спатрэбіліся грошы на тыя ж патрыятычна-філантрапічныя мэты? Нешта не зусім зразумелае гаворыць Афтаназы пра «аўкцыён спадчыны пасля Маўрыцыя Бучынскага», які памёр за пятнаццаць гадоў перад гэтым. Зноў даводзіцца шкадаваць аб страце другой часткі мемуараў Габрыелі.

Так што пытанні застаюцца, наша даследаванне ніяк не можа лічыцца завершаным. З цягам часу яно будзе ўдакладняцца.

* * *

Водгукам на наш нарыс быў артыкул Леакадзіі Мілаш «Дабраўляны сёння» (Голас Радзімы. 1998. 17 вер.). Таго, хто хоча даведацца, як выглядае цяпер гэты куток Беларусі, адсылаем да згаданага артыкула.



# ЧАЦВЁРА СА СТАРОГА ЗДЫМКА

Каб павучыцца нам чытаць
партрэты…

*М. Стральцоў*

У 1964 годзе ў самавітым дакументальным зборніку «Революционный подъем в Литве и Белоруссии в 1861–1862 гг.» была апублікавана надзвычай рэдкая, проста ўнікальная фатаграфія, зробленая ў Мінску, як можна меркаваць, на пачатку 1863 года ці не першым айчынным фатографам Антонам Прушынскім. На ёй — кампактнай маляўнічай групай — 19 чалавек. Адны сядзяць, іншыя (ззаду) стаяць. На пярэднім плане ўласнай персонай наш класік Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, яго дачка, вядомая бунтарка-«нефармалка» Каміла і паважаны мінскі педагог і вучоны філолаг Фларыян Чапялінскі. Побач размясціліся астатнія, пераважна моладзь. На некаторых як сімвал далучэння да святых ідэалаў патрыятызму і вызвалення — шэрыя паўстанцкія чамаркі з традыцыйнымі гарызантальнымі палоскамі-галунамі на грудзях.

Здымак невыпадковы. Зроблены ён яшчэ да пачатку ўзброенага выступлення на Міншчыне, так што чамаркі на ім — усяго толькі дэманстрацыйны антураж (вядома, што некалькі такіх апранах трымаў у сябе ў атэлье фатограф Прушынскі). Ды і ўвогуле выпадковых, кшталту аматарскіх, здымкаў тады, уласна кажучы, і не рабілі. Кожны здымак быў, без перабольшання, падзеяй, да якой старанна рыхтаваліся. І людзі тут не выпадковыя, як і іх размяшчэнне. Усё загадзя прадумана і, можа, у пэўным сэнсе прарэпеціравана.

Хто ж гэтыя людзі, што сабраліся ў прызначаны дзень і час у атэлье Прушынскага ў цэнтры горада на Францышканскай вуліцы (цяпер вул. Леніна)?

У названым зборніку знятыя асобы пералічаны вельмі сцісла, глуха: хто пазначаны прозвішчам і імем, хто — адным толькі прозвішчам. Ды яны, гэтыя імёны, мала што цяпер гавораць — прайшло ж столькі часу. Адпаведныя, зноў жа кароткія, нібы праз зубы, тлумачэнні даваў падчас следства і фатограф Прушынскі (ён таксама прычыніўся да вызваленчага руху і пасля адседкі ў мінскіх вязніцах апынуўся ў Табольску, куды, дарэчы, перанёс і сваю майстэрню).

Некаторыя асобы ўсё ж пазнаюцца, інакш кажучы, ідэнтыфікуюцца. Вось, напрыклад, маладзенькі студэнцік Вітальд Парфяновіч, актыўны ўдзельнік паўстання, сумна вядомы тым, што пасля свайго арышту не ўтрымаўся — выдаў Кастуся Каліноўскага, назваў яго апошні псеўданім і месца, дзе шукаць героя[62]. У паўстанцкай чамарцы ў верхнім правым рагу стаіць Аўрэлій Бардскі (у зборніку недакладна — «Барский»), маладзейшы калега Каліноўскага з Пецярбургскага ўніверсітэта…

У выніку мэтанакіраваных пошукаў удалося высветліць грамадскі статус і нават жыццёвыя пуцявіны яшчэ некаторых асоб са здымка.

Першы злева ў другім радзе — невысокі бландзін у студэнцкай, здаецца, тужурцы. Светлыя вочы праменяцца. Пад ледзь прыкметнымі вусікамі лёгкая ўсмешка. У зборніку «Революционный подъем…» ён пазначаны як «Битов». Тыпова руская форма прозвішча. У паказальніку імёнаў у канцы зборніка чамусьці дадалася яшчэ адна літарка — «Битовт», прозвішча загучала неяк па-мясцоваму, нібы нават з нейкім старадаўнім літоўскім, або ліцвінскім, адценнем. Але фатограф Прушынскі назваў яго зусім інакш — па-замежнаму: «Бишоф».

Мы правялі адпаведную разведку ў архівах Вільні і Мінска і цяпер можам зусім пэўна сказаць, што больш дакладным у дадзеным выпадку быў сам фатограф.

Не будзем гаварыць, што давялося нямала пакорпацца ў старых паперах, перагарнуць не адзін дзясятак пыльных падшывак, сотні старонак, спісаных часам не лепшымі пісарскімі почыркамі. Падмогай была ранейшая «загартоўка» ў такой працы.

Першую падказку даў, вывеў на след архіўны «Алфавіт асоб, датычных (прикосновенных) да спраў Палітычнага аддзялення канцылярыі віленскага генерал-губернатара». Некалі напрактыкаваныя ў такіх рэчах чыноўнікі зрабілі гэты адмысловы штрафны кандуіт для зручнасці. Цяпер, калі прайшло ўжо шмат гадоў, ім карыстаюцца следапыты мінуўшчыны — гісторыкі. Ёсць там і патрэбнае нам прозвішча: 23-гадовы Карл Бішаф, прускі падданы, евангеліка-рэфармацкага веравызнання, былы студэнт Пецярбургскага ўніверсітэта, вінаваты «в нахождении в шайке мятежников в Минской губернии и в давних враждебных чувствах [к] правительству, выраженных в перехваченных письмах». Адседзеў, як сказана ў адпаведнай графе, 6 месяцаў у Дынабургскай крэпасці[63]. І спасылка на справу № 712 за 1863 год. Іншых Бішафаў або асоб з блізкімі прозвішчамі ў «Алфавіце...», ды і ўвогуле ў прагледжаных разнастайных архіўных лоцыях, не знайшлося.

62 Гл. у гэтай кнізе спецыяльнае расследаванне «Фантомы тайных архіваў».

63 Дынабург — тагачасная назва Даўгаўпілса (цяпер у Латвіі).



Звернемся да самой справы № 712, балазе яна захавалася, зберагласся ў поўным выглядзе да нашага часу. Там ёсць паказанні Карла Бішафа. Яму, паводле ўласных слоў, 21 год. Нарадзіўся ў Мінску. Бацька Эдуард Бішаф, сталы мінскі жыхар, прыбыў у Расію 27 гадоў таму. Карл скончыў вядомую ў Беларусі і не толькі ў Беларусі Слуцкую кальвінскую гімназію, вучыўся ў Пецярбургскім універсітэце, навучанне не завяршыў з прычыны закрыцця ўніверсітэта (як мы ведаем, універсітэт закрываўся ўвосень 1861 года ў сувязі са студэнцкімі хваляваннямі). Апынуўшыся за парогам альма-матар, Бішаф без справы не бадзяўся — служыў гувернёрам у памешчыкаў у Сенненскім павеце. У «мяцежніцкай шайцы» знаходзіўся з 28 красавіка да 7 мая 1863 года. Быў гвалтоўна (гэтая акалічнасць у паказаннях акцэнтавалася) узяты ў паўстанцы кіраўніком сенненскіх інсургентаў Жаброўскім і добраахвотна (зноў сэнсавы акцэнт) здаўся ўладам пасля разбіцця пад Падбярэззем аб'яднанага атрада барысаўскіх і магілёўска-сенненскіх паўстанцаў.

Просценькая па сутнасці справа ўскладнялася хіба замежным падданствам вязня. Абвастраць стасункі з Прусіяй ніяк не выпадала. Прусакі ўжо насцярожана заварушыліся, гатовыя, калі што якое, заступіцца за свайго суродзіча. У жніўні 1863 года да царскіх уладаў звярнуўся прускі паверaны ў Пецярбургу з просьбай паскорыць справу Бішафа (Bischoff), які знаходзіўся тады ў барысаўскай турме.

У снежні часовы ваенны губернатар Мінскай губерні пераслаў гэтую справу, атрыманую з Барысава, у Вільню вышэйшаму начальству. Мураўёў-вешальнік адразу ж загадаў даставіць у сталіцу краю Вільню і самога Бішафа. Ім мусіў заняцца віленскі губернатар Панюцін, якому «дадзена асаблівае распараджэнне». Мураўёў разлічваў, відаць, на замежны досвед Панюціна, набыты ім падчас паходу ў Аўстрыю ў 1849 годзе, пра што нагадвалі яго экзатычныя габсбургскія ўзнагароды. 16 студзеня 1864 года Панюцін асабіста дапытаў Бішафа. Уражанне ў яго склалася на карысць хлопца. Той ужо адседзеў 8 месяцаў за кратамі ў Барысаве і Вільні, таму меркавалася выпусціць яго на волю, аддаўшы на парукі бацьку і пастару горада Мінска, і з гэтым пакончыць.

Тут якраз у выніку энергічных дзеянняў знакамітага жандара Лосева была раскрыта мінская рэвалюцыйная арганізацыя, рабіліся шматлікія арышты ў яе структурах, перарасаліся сямейныя архівы. Пры вобысках знайшліся лісты, якія кампраметавалі Бішафа, давалі ў рукі ўлад дадатковы матэрыял супраць яго. Лісты адносіліся да пярэдадня паўстання, калі праз Мінск везлі некуды далёка, часцей за Урал, палітычных арыштантаў — удзельнікаў вызваленчага руху ў Польшчы. Мінчане шчыра спачувалі пакутнікам, як маглі апекаваліся імі. Вядома,

шмат энергіі аддавала гэтаму дачка Дуніна-Марцінкевіча Каміла, таксама знятая на гэтым здымку (між іншым, адзіная на ім жанчына).

Вось ліст ад 25 чэрвеня 1862 года, пасланы Бішафам з Гапонавічаў. Цяпер гэта Крупскі раён, а тады — Сенненскі павет. Дарэчы, тут непадалёку і Шчаўры, дзе жылі блізкія сябры Дуніна-Марцінкевіча. Не выключана, пісьменнік і дапамог Бішафу ўладкавацца гувернёрам на Сенненшчыне. Хаця, зрэшты, былі ў таго і іншыя сувязі. Тэкст ліста на рускай мове — не лепшы канцылярскі пераклад царскіх чыноўнікаў. Размова ў ім пра зняволеных, якіх правозілі на ўсход трактам Мінск — Барысаў — Крупкі — Талачын — Орша і гэтак далей. Дык вось Бішаф паведамляў: «Здесь напротив всё везут и везут, в последней партии их было 11 и между ними помещик (у арыгінале, відаць, слова “obywatel”, якое можна чытаць як “грамадзянін”) Адольф Малиновский, женатый на дочери генерала Дембинского, который говорил, что генерал недавно умер. О! ежели это правда, то как же мы должны сильно над собой трудиться, чтобы отвагой и мужеством хотя бы отчасти заменить недостаток способных и благородных наших полководцев. Был здесь присланный из Минска жандарм Шатлев для взятия Константина Роговского, но это ему не удалось. В Борисове искал он также и меня. Один борисовский офицер Беляев донес, что я переодевался, носил пищу (вязням. — *Г. К.*) и какие-то письма…»

Тут патрэбны невялікі каментарый. У лісце згадваецца знакаміты генерал Генрык Дэмбінскі, герой паўстання 1831 года і венгерскай рэвалюцыі. Звесткі пра яго смерць не пацвердзіліся. Памёр генерал трохі пазней — у 1864 годзе ў эміграцыі. Кастуся Рагоўскага, які згадваецца ў лісце, таксама бачым на нашым здымку. Гэта студэнт, у 1863 годзе, як і Бішаф, быў паўстанцам, спецыяльная гаворка пра яго яшчэ наперадзе.

Другі ліст Бішафа без даты зноў жа адлюстроўвае клопаты, звязаныя з апекаваннем над палітычнымі вязнямі, якіх усё везлі і везлі, і ў тагачасных «беларусінаў» ставала мужнасці, каб кожнага неяк прывеціць, не пакінуць у цяжкую хвіліну без увагі і дапамогі. Вось і ў дадзеным выпадку Бішаф заклапочана пісаў: «Полчаса тому назад прислал нам Стоцкий своего мальчика, уведомляя, что сего числа утром привезли почтовыми (коньмі. — *Г. К.*) арестантов, их было пятеро, т. е. по одному на повозке, а при каждом по бокам по одному жандарму, при том мальчик сказал, что он сам вместе с своим барином видели это своими глазами, сообщил я об этом Семирадскому, — узнайте, действительно ли это правда, чтобы мы не ездили даром». Доктар Багуслаў Семірадскі — постаць у гісторыі паўстання вядомая і, трэба сказаць, трагічная: член рэвалюцыйнага Камітэта руху ў Мінску, у 1863 годзе



паўстанцкі начальнік горада, сасланы пасля арышту ў Ніжні Ноўгарад, ён не вытрымаў разлукі з радзімай, прыняў атруту (дыпламаваны медык ведаў, як пайсці з жыцця, якое зрабілася невыносным).

Нарэшце, трэці ліст, які трапіў у рукі царскіх улад, самому Бішафу не належаў, але змяшчаў яго характарыстыку, надзвычай цікавую для следчых. Удзельніца патрыятычнага руху Роза Галаўня пісала ў 1861 годзе, «что весьма с хорошей стороны знала Бишофа и что он целым сердцем предан интересу Польши и что его никакой другой предмет не может занимать и интересовать».

Такія выявіліся факты.

Улады прызадумаліся, што рабіць з гэтым незразумелым прусаком (па крыві і грамадзянстве), які так шчыра звязаў сябе з вызваленчым рухам Польшчы і Беларусі. Запраторыць куды да белых мядзведзяў — потым не абярэшся клопату з непадатлівым прускім урадам. З’явілася саламонава рашэнне — зняволіць у Дынабургскай крэпасці яшчэ на паўгода і адправіць на жыхарства куды-небудзь у Магілёў, вядома ж, не так сабе, а пад самы пільны нагляд паліцыі.

Пакуль Бішаф абжываў турэмную камеру ў Дынабургу, следства па інерцыі працягвалася, бюракратычная машына круцілася, удакладняліся асобныя факты, пункты абвінавачання. Новую неспрыяльную для вязня звестку падкінуў міністр народнай асветы Галаўнін, які 24 жніўня 1864 года паведаміў віленскаму губернатару: «…Карл Бишоф не кончил курса в С.-Петербургском университете не вследствие закрытия оного, последовавшего 20 декабря 1861 года, а по неприятию им матрикулы, вследствие чего и был уволен из числа студентов С.-Петербургского университета еще до закрытия университета, именно в октябре месяце 1861 года». Бішаф, які быў тады на другім курсе, паўставаў такім чынам актыўным удзельнікам хваляванняў студэнтаў, што пратэставалі супраць увядзення новых, больш строгіх правіл, зафіксаваных у матрыкулах (заліковых кніжках). Як мы ведаем, не прыняў матрыкулы і мусіў пакінуць універсітэцкія сцены наш паэт Францішак Багушэвіч. З таго самага пакалення бунтароў-шасцідзясятнікаў, равеснікам ці амаль равеснікам Багушэвіча быў Бішаф, што пацвярджаецца прысланай міністрам метрыкай мінскай лютэранскай царквы ад 26 лютага 1841 года са студэнцкай справы Бішафа.

У рэшце рэшт Мураўёў-вешальнік прыняў канчатковае рашэнне. 1 верасня 1864 года ў Пецярбург шэфу жандараў і міністру ўнутраных спраў паведамляецца:

«В мае месяце прошлого года возвратился добровольно из разбитой шайки мятежников содержащийся ныне под арестом в Динабургской крепости бывший студент С.-Петербургского университета, прусский

подданный, сын переплетчика, проживающего в Минске, Карл Бишоф, который, по произведенному расследованию, независимо от упадающего на него подозрения в добровольном присоединении к мятежу, оказался виновным в враждебных действиях против правительства как агент по распространению революционного движения в крае и в участии в политических беспорядках, происходивших между студентами С.-Петербургского университета». Мною загадана, — паведамляў Мураўёў, — выслаць Бішафа за мяжу з забаронаю ўезду ў «пределы империи».

Пачалі лічыць пажыткі, збіраць звесткі пра маёмаснае становішча Бішафа. У 1865 годзе мінскі паліцмайстар палкоўнік Шміт данёс, што маёмасці ў Бішафа ў Мінску ніякай няма, «отец его занимается ремеслом переплетчика и находится совершенно в бедном состоянии». Выходзіць, Бішаф быў тыповы разначынец, уласнай працай мусіў прабіваць сабе дарогу.

Завяршаецца перапіска яшчэ двума дакументамі. У 1876 годзе памочнік начальніка Арлоўскага губернскага жандарскага ўпраўлення па Бранскім павеце чамусьці запатрабаваў звесткі пра былога студэнта Пецярбургскага ўніверсітэта Карла Бішафа, які ўцёк у Амерыку (так у дакуменце). Што за ўсім гэтым хаваецца — невядома. Праз год Бішаф цераз пасольства пачаў прасіцца, намацваць — ці нельга вярнуцца ў Мінск, каб падтрымаць старых бацькоў. Ці ўдалося — зноў не ведаем.

У прыведзеных матэрыялах пра Бішафа ўжо прагучала прозвішча студэнта Кастуся Рагоўскага. На нашым здымку двое Рагоўскіх — Канстанцін і Рамуальд. Яны сядзяць побач — крайнія злева ў першым радзе. Абодва ў паходных ботах, нібы гатовыя для далёкай дарогі. Рамуальд якраз прытуліўся да Дуніна-Марцінкевіча. За імі ў другім радзе стаіць ужо знаёмы нам Бішаф, даверліва, па-таварыску паклаўшы руку на плячук Рамуальду.

Як відаць з дакументальных матэрыялаў зборніка «Русско-польские революционные связи» (М., 1963), студэнты Рагоўскія (асабліва Кастусь) напярэдадні паўстання Каліноўскага былі завадатарамі рэвалюцыйнага студэнцтва, польска-беларускіх студэнцкіх зямляцтваў у Маскве і Пецярбургу, аднаго з іх таварышы называлі нават «апосталам» (далёка не кожнаму собіла ўзбіцца на такую пашану).

Канстанцін Рагоўскі ўшанаваны кароткай згадкай у вядомай кнізе паўстанцкіх некралогаў З. Калюмны (Кракаў, 1868). Кніга называецца «Памятка для польскіх сем'яў». Але гэта і беларускі мартыралог (дастаткова сказаць, што тут ёсць звесткі пра Каліноўскага, пра дзясяткі іншых беларусаў і ўраджэнцаў Беларусі — пакутнікаў свабоды; між іншым трапіў туды і Валерый Урублеўскі — лічылі, што ён падчас



паўстання загінуў). Пра Рагоўскага літаральна некалькі неацэнных для нас радкоў (аўтар кнігі зафіксаваў, відаць, нейкую вусную інфармацыю): нарадзіўся ў Мінску, студэнт Маскоўскага ўніверсітэта, пасля 9-месячнага турэмнага зняволення яго хворым саслалі ў Сібір, у капальні. Памёр у Цюмені ў першай чвэрці 1864 года.

А што скажуць архіўныя крыніцы, якія столькі разоў нас выручалі, былі заўсёды добрай падмогай?

У віленскім архіве захоўваецца судова-следчая справа 11 паўстанцаў, якія здаліся сялянам у вёсцы Свяды (цяпер Лепельскі раён) пасля разбіцця пад Падбярэззем таго ж атрада, у якім знаходзіўся і Бішаф. Гэта маладыя разначынцы — некалькі сялянаў, а больш дробных дваран. Цікавая постаць у ліку іншых — выпускнік Маскоўскага ўніверсітэта, барысаўскі павятовы доктар Канстанцін Акуліч, дарэчы, праваслаўнага вызнання, што яшчэ раз сведчыць пра досыць актыўную падтрымку паўстання беларускай інтэлігенцыяй рознай канфесійнай прыналежнасці.

Сярод гэтых адзінаццаці быў і Канстанцін Рагоўскі, які 14 чэрвеня 1863 года даў наступныя паказанні: 23 гады, ураджэнец Ашмянскага павета, студэнт С.-Пецярбургскага ўніверсітэта (у некралогу З. Калюмны было — Маскоўскага. — *Г. К.*). Жыў у фальварку Янова Сенненскага павета, дзе бацька быў аканомам. 23 красавіка (гэта дата пачатку паўстання на Магілёўшчыне) паехаў за 20 вёрстаў да сястры ў маёнтак Абчуг. Па дарозе ноччу быў спынены мяцежнікамі, якія прывялі ў паўстанцкі лагер каля Валосавічаў, дзе камандавалі Кучэўскі і Жултка. (Гэта адметны асяродак паўстання ў паўночна-ўсходнім кутку былога Барысаўскага павета, цяпер Лепельскі раён. Сюды пасля няўдач на Магілёўшчыне прывялі магілёўска-сенненскіх паўстанцаў Жаброўскі і Алендскі. — *Г. К.*) Прызначаны ў абоз без зброі. З Валосавічаў пайшлі да маленькай вёскі Падбярэззе. Мы, 11 чалавек, месціліся ў крайняй хаце. Пры набліжэнні войскаў уцяклі ў Свяды (маёнтак графа Плятэра), дзе здаліся сялянам. Сельскі старшына прывёў нас у Лепель. Адтуль — у Барысаў.

Падобнай версіі трымаліся і астатнія. За выключэннем відавочнага — з моманту здачы сялянам — усё ці амаль усё было прыдуманай легендай. Са зразумелых прычын вязні ўтойвалі свой актыўны ўдзел у паўстанні. У першапачатковым спісе паўстанцаў сказана, што Акуліч меў уласную дубальтоўку і рэвальвер, браты Уладзіслаў і Баляслаў Дамбровы са Свядаў былі ў атрадзе першы капітанам, а другі падпаручнікам, і нават узяты з Акулічам 17-гадовы Георгій Мароз лічыўся ў паўстанцаў за унтэр-афіцэра.

У кастрычніку 1863 года Мураўёў-вешальнік вызначыў меру пакарання: каго ў Сібір, каго ў салдаты, а малалетку 15-гадоваму сыну

фельчара са Слабодкі Вішнеўскаму «прапісаны» элементарныя розгі. Канстанціну Рагоўскаму выпала ісці на жыхарства ў Томскую губерню. Ды, як мы ўжо ведаем, дайшоў ён толькі да Цюмені, дзе прытуліла яго навек сібірская зямелька.

Рамуальд Рагоўскі праходзіць па іншай паўстанцкай справе (у тым самым віленскім архіве) — «О называющем себя дворянином жителе Тобольской губернии Петре Ивановском 19 лет, дворянине Минской губернии Викторе Оземблoвском 22-х и дворянине Могилевской губернии Ромуальде Роговском 23 лет».

Гэтая тройца разам з паўстанцкім камандзірам Косткам-Жаброўскім была затрымана 13 мая лясным аб'ездчыкам Жылінскім. На следстве паказалі, што знаходзіліся ў «шайцы», разбітай 7 мая каля вёскі Падбярэззе (усё тая ж нешчаслівая для паўстанцаў бітва). Кінуліся ў лес, дзе іх сустрэў Жылінскі, гасцінна запрасіў да сябе, напаіў гарай і, калі здарожаныя тулягі пазасыналі, згроб зброю, паведаміў у суседнюю вёску і пры дапамозе падаспелых сялянаў усіх перавязаў і даставіў у Барысаў. Так што Жылінскі таксама быў своеасаблівым «героем», толькі з урадавага боку. Тым больш што сярод захопленых ім паўстанцаў былі, як высветлілася, важныя птахі.

Збеглага з часці афіцэра рускай службы Жаброўскага адразу аддзялілі ад астатніх, завялі на яго асобную справу і пасля нядоўгага следства і суда публічна расстралялі ў Барысаве 24 чэрвеня 1863 года. Размова з вайскоўцамі — парушальнікамі воінскай прысягі — была кароткая.

Што да астатніх, то яны заявілі, што былі ўзяты ў шайку гвалтам (звычайная легенда). У ліпені 1863 года Мураўёў зрабіў рэзалюцыю: Азямблоўскага і Рагоўскага пазбавіць дваранскіх правоў і саслаць на катаргу на заводы на 6 гадоў. Наконт Іваноўскага, які называў сябе сынам табольскай мяшчанкі Звалінскай, рашэнне было прытрымана. Улады западозрылі, што тут нешта не так. І, як потым высветлілася, — не без падстаў.

12 жніўня 1863 года ваенны начальнік Барысаўскага павета палкоўнік Дамброўскі (з такім прозвішчам яму больш пасавала б быць сярод паўстанцаў) данёс наверх па інстанцыі: «Конфирмация его высокопревосходительства генерала-от-инфантерии Муравьева от 31 прошлого июля за № 1464 бывшим дворянам Оземблoвскому и Роговскому сего числа на торговой площади объявлена, — и оба они вместе с сим препровождены к командиру Минского батальона внутренней стражи за конвоем и в наручнях для отправления по назначению этапным порядком».

Сухая, строгая казённая папера даносіць да нас шчымлівую працэдуру расстання з бацькаўшчынай. На гэтым след Рамуальда Рагоўскага



губляецца. Чакаць добрага не даводзіцца: Сібір — не маці родная. Але ўлады на радзіме яшчэ мелі нагоду яго ўспомніць.

У верасні раскалоўся супольнік сасланых Іваноўскі, адкрыў, нарэшце, што ён паўстанцкі камандзір, былы рускі афіцэр, які ўцёк са службы, Антон Алендскі, родам з Люблiншчыны. Пачалося новае следства, ужо індывідуальна над Алендскім.

У справе Алендскага шмат цікавых падрабязнасцей пра паўстанне ў Сенненскім і Барысаўскім паветах. Народ не вельмі верыў паўстанцам. «Везде по дороге Жебровский читал манифесты, но его голос был глас вопиющего в пустыне, крестьяне оставались верными правительству… Содержание манифеста можно выразить в двух словах: “земля и воля”», — з горыччу распавядаў вязень. Хаця, зрэшты, бывалі і выключэнні, добрыя сувязі з народам здолеў наладзіць мясцовы завадатар Кучэўскі ў Валосавічах, дзе даволі працяглы час быў паўстанцкі лагер. «Кучевский имел сильное влияние на волосовичских крестьян. Человек 13 из них были в партии (атрадзе. — *Г. К.*)… При приближении войск [мужики] бежали с топорами, вилами, дубинами в лес к нам и уверяли нас, что будут добивать солдат». Рэдкі, трэба сказаць, выпадак на ўсходзе Беларусі. Часцей тут было наадварот.

Заціснуты акалічнасцямі, шукаючы ратунку, Алендскі, можа, часам і лішне сыпаў імёнамі і фактамі. У прыватнасці, адзначыў неардынарную ролю Рамуальда Рагоўскага, які прывёў у атрад цэлую групу добраахвотнікаў з 9 чалавек. Праўда, пашкодзіць катаржаніну гэта ўсё адно ўжо не магло. Наконт Рагоўскага ў справе Алендскага пракідаюцца і дадатковыя звесткі: 23 гады, выхоўваўся ў Маскоўскім універсітэце, «в селе Гапуновичи» (так у дакуменце) Сенненскага павета ў бацькі маёнтак. Мабыць, гэта тыя самыя Гапонавічы, адкуль пісаў прачытаны намі разам ліст Бішаф у 1862 годзе.

Алендскага за зламанне вайсковай прысягі гасудару імператару ў 1864 годзе публічна расстралялі ў Мінску. У параўнанні з больш адкрытым, прасталінейным Жаброўскім ён выйграў некалькі месяцаў астрожнага жыцця.

Доўгі час нічога не ведаў пра Гаўрылу Есьмана, знятага на нашай фатаграфіі. Ён сядзіць у паўстанцкай чамарцы ў першым радзе трэцім справа. Выглядае молада, амаль па-студэнцку. Адметнае прозвішча гэтае пракідаецца ў розных кутках Беларусі. Напрыклад, «Польскі слоўнік біяграфічны» падае дэпутата Дзяржаўнай думы Уладзіслава Есьмана са Слонімшчыны. У друкаваным «Списке землевладельцев Минской губернии за 1876 год» Есьманы сустракаюцца ў Бабруйскім, Барысаўскім, Мінскім паветах. Паводле апублікаваных матэрыялаў, нейкія Есьманы (адзін — Цітус) былі ў 1863 годзе ў Ігуменскім

паўстанцкім атрадзе С. Ляскоўскага. Нарэшце, у цікавай, вельмі рэдкай кніжцы Я. Кавалеўскага «Успаміны з мінулага: Да гісторыі паўстання 1863 года на Літве» (Вільня, 1907) знайшоў такое месцайка, дзе размова ішла пра невялікі паўстанцкі атрад на Вілейшчыне пад кіраўніцтвам Кавалеўскага (сам мемуарыст) і Вінцэнта Адынца: «Атрадзік наш, які складаўся з выдатных стралкоў, быў добра ўзброены, але больш паляўнічай зброяй. Апрача некалькіх сялян, галоўную сілу складала інтэлігенцыя, пераважна з універсітэцкай моладзі. Сярод іншых былі: брат Вінцэнта Ірэней Адынец, тры браты Ратынскія з Краснага, Здзіслаў, Альфрэд і Эрнест, “dr. Gabryel Jeśman ze swoim stangretem” (тут пакідаем арыгінал. — *Г. К.*), Малахоўскі і некалькі іншых». Гэта было ўжо бліжэй да мэты нашых пошукаў. Старая фатаграфія выдатна падсвяцілася радкамі з рэдкай кнігі.

Выходзіць, сярод знаёмых Дуніна-Марцінкевіча быў доктар Габрыель, або Гаўрыла, Есьман з Вілейшчыны, чалавек перадавых поглядаў, паўстанец 1863 года. Дарэчы, хоць па-польску чытаю ўжо не першы год, мудрае слова «stangret» было мне незнаёмае, падумалася спачатку, што гэта нешта з галіны медыцыны. Як высветлілася — усяго толькі «фурман». Відаць, Есьман пайшоў у паўстанцы са сваёй доктарскай брычкай і верным фурманам. У другім месцы кнігі згадваецца, што перад злучэннем з галоўным атрадам Вілейскага павета, якім кіраваў вядомы паўстанец Вінцэнт Козел, мемуарыст ездзіў з Есьманам на разведку ў Дзвінаскія лясы. Магчыма, каб не выклікаць падазрэнняў, паездка і рабілася ў звыклай, знаёмай усім доктарскай брычцы пад выглядам звычайных раз’ездаў мясцовага эскулапа.

У следчых паперах царскіх карных органаў імя Гаўрылы Есьмана нідзе не сустракалася. Мусіць, яму, як і Францішку Багушэвічу, удалося затаіцца, перачакаць цяжкую часіну, пазбегнуць рэпрэсій… Друкаваныя чыноўніцкія даведнікі, справаздачы мясцовых медычных таварыстваў не фіксуюць у жыцці Есьмана якіх-небудзь вялікіх белых плям, правалаў, звязаных з арыштамі і высылкамі. Хутчэй, наадварот. З адрас-календара Віленскага генерал-губернатарства на 1868 год даведваемся, што ўвосень 1866 года Гаўрыла Казіміравіч Есьман прызначаецца вілейскім павятовым доктарам. Тамсама знаходзім невялікую даведку пра яго: 30 гадоў, скончыў у свой час Маскоўскі ўніверсітэт, пакуль што халасцяк. Паведамляецца нават, колькі атрымліваў зарплаты, або, па-тагачаснаму, жалавання. Паводле іншых даведнікаў высвятляецца, што неўзабаве Есьман перабіраецца ў Мінск (з 1870 года член Таварыства мінскіх лекараў), займаецца вольнай практыкай. Апошні раз сустракаем яго імя ў памятнай кніжцы Мінскай губерні на 1896 год. Ён усё той жа «вольнопрактикующий» лекар, жыве ва ўласным доме



на Падгорнай. Потым гэтае імя з губернскіх даведнікаў знікае. Відаць, памёр.

Гісторыя гэтая мела свой працяг. У 1995 годзе польскі прафесар з Гданьска Анджэй Хадубскі прачытаў на II Міжнародным кангрэсе беларусістаў у Мінску даклад на тэму «Цывілізацыйная роля беларусаў на Каўказе ў XIX — першай палове XX ст.», апублікаваны ў 6-м томе надзвычай змястоўнага зборніка «Беларусіка = Albaruthenica» (Мінск, 1997). У прыватнасці, там гаварылася: «Значнае месца ў цывілізацыйнай дзейнасці на Каўказе займае таленавіты вучоны-гідраэнергетык Юзаф Есьман (1868–1955). Ён нарадзіўся ў Вілейцы, дзяцінства і юнацкія гады правёў у Мінску…»

Вілейка… Мінск… Ды і далёкім, вельмі далёкім пачаткам жыцця герой даклада Хадубскага дацягваецца амаль да эпохі Каліноўскага… Адразу адчуў, што гэта мог быць сын вілейскага доктара-паўстанца. Вось толькі як звалі бацьку гэтага гідраэнергетыка? У «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» (там артыкул таго ж Хадубскага пра Есьмана) імя па бацьку называецца — Іосіф Гаўрылавіч! Ланцуг замкнуўся. Усё цвёрда стала на сваё месца.

Паколькі не кожны мае пад рукой спецыяльны даведнік, для агульнай арыентацыі прывядзём цалкам гэтую кароткую энцыклапедычную нататку: «Есьман Іосіф Гаўрылавіч (1(13).12.1868, г. Вілейка Віленскай губ., цяпер у Мінскай вобл. — 1.7.1955), вучоны ў галіне гідраэнергетыкі і гідраўлікі, грамадскі дзеяч. Акадэмік АН СССР (1938), акадэмік АН Азербайджанскай ССР (1945). Скончыў гімназію ў Мінску (1887), Пецярбургскі тэхналагічны інстытут (1892). Працаваў на чыгунцы, стажыраваўся ў Аўстрыі, Германіі, Швейцарыі. З 1902 года выкладаў у Пецярбургскім політэхнічным інстытуце. У 1-ю сусветную вайну накіраваны ў Тыфліс, у 1918 годзе — ва Уладзікаўказ. З 1922 года ў Баку, рэктар (да 1929 года) політэхнічнага інстытута. Аўтар падручніка «Гідраўліка» (выдадзены 10 разоў), каля 300 прац па гідраэнергетыцы і гідраўліцы. Прымаў удзел у праектаванні нафтаправода Баку — Батумі».

Які павучальны прыклад навуковага даўгалецця! Мусім унесці, бадай, толькі адну папраўку. Саюзным акадэмікам Есьман наўрад ці быў: яго імя не знаходзім у самавітым даведніку «Академия наук СССР. Персональный состав», дзе пералічаны літаральна ўсе без выключэння расійскія, а потым саюзныя акадэмікі і члены-карэспандэнты за 250 гадоў ад заснавання акадэміі (1724) да выхаду кнігі (1974).

Няма звестак пра членства ў саюзнай акадэміі і ў другім выданні Вялікай Савецкай Энцыклапедыі (адпаведны том выйшаў у 1952 годзе, яшчэ пры жыцці Есьмана). Там сказана: «…советский ученый-

гидравлик, действительный член Академии наук Азербайджанской ССР (с 1945), заслуженный деятель науки Азербайджанской ССР (1927). С 1922 — заведующий кафедрой гидравлики Азербайджанского индустриального ин-та, до этого был профессором нек-рых институтов в Петрограде. Работы Е[сьмана] посвящены преимущественно гидравлике и гидромашиностроению, в частности исследованиям движения жидкостей повышенной вязкости через местные сопротивления, турбулентным потокам, а также теории и расчету поршневых и центробежных насосов. Им даны физич. основы явления турбулентности потока и введено понятие липкости жидкости. Е[сьман] принимал участие в разработке предложенной В. Е. Грум-Гржимайло гидравлич. теории движения газов в металлургич. печах. Участвовал в проектировании крупнейших нефте- и водопроводов и насосных станций». І гэтая даведка вельмі ўражвае, нягледзячы на спецыяльную тэрміналогію. Быў ці не быў Есьман саюзным акадэмікам — пытанне ў дадзеным выпадку другараднае (дарэчы, магчыма, выбіраўся, ды не быў зацверджаны, часы былі строгія, як шматзначна сказаў бы паэт — сведка эпохі, «может, в списке наградном вышла опечатка»). І без таго абсалютна ясна, што перад намі яшчэ адна цікавая постаць, якая сведчыць пра celebrityзнабаковую таленавітасць нашых землякоў, каштоўны ўнёсак беларусаў у навуку і культуру многіх народаў свету.

Унушальны спіс прац Есьмана апублікаваны ў яго персанальнай бібліяграфіі, якая выйшла ў свет асобным выданнем у серыі «Дзеячы навукі і культуры Азербайджана» (Баку, 1969).

На вокладцы партрэт Іосіфа Гаўрылавіча. Адразу кідаецца ў вочы яго вялікае падабенства з бацькам на групавым здымку з Дуніным-Марцінкевічам. Толькі ўсё наадварот — бацька-паўстанец малады, а сын-акадэмік сівы, у шаноўным узросце. Так дзівосна пераблыталіся розныя эпохі.

Ва ўступным артыкуле акадэміка Ч. М. Джуварлы, які блізка ведаў Есьмана, цытуюцца аўтабіяграфічныя нататкі нашага земляка:

«І. Г. Есьман нарадзіўся 1 снежня 1868 г. у маленькім гарадку Вілейцы, у сям'і земскага доктара. "Памятаю сябе хлапчуком гадоў 3-х, калі жылі ў горадзе Мінску на Захараўскай вуліцы каля нямецкай кірхі, — пісаў у сваёй аўтабіяграфіі Іосіф Гаўрылавіч. — Бацька мой паходзіў з невялікага беларускага сяла Есьманы, дзе апрача нас жыло досыць многа людзей з тым самым прозвішчам — Есьман.

У адрозненне ад маці, кабеты надзвычай пабожнай, бацька быў перакананым атэістам і знаходзіўся ў заўсёдных канфліктах з царквою. Асабліва яскрава яго атэізм выказаўся ў тастаменце, дзе ён запатрабаваў, каб яго хавалі без святара. Мы з братам пастараліся выканаць яго просьбу, і горад быў уражаны дзіўнай па тым часе працэсіяй, на чале якой ішоў не святар, а двое маладых людзей — сыны нябожчыка"».

Калі прыняць, што Гаўрыла Есьман памёр у 1897 годзе, то яго сыну — будучаму азербайджанскаму акадэміку — было тады прыблізна 29 гадоў. Ч. Джуварлы піша далей: «Відаць, бацька адыграў значную ролю ў выхаванні сына, у фарміраванні яго юнага светапогляду. Хлопчык на ўсё жыццё запомніў прагулкі з бацькам па бяскрайніх лясах Беларусі, яго апавяданні пра польскае паўстанне, удзельнікам якога ён быў. У бацькі Іосіф Гаўрылавіч навучыўся любіць і цаніць прыроду, займацца спортам; выдатная загартоўка, набытая ў маладыя гады, дапамагла яму да глыбокай старасці захаваць творчую працаздольнасць, аставацца бадзёрым і жыццярадасным чалавекам».

Завершым наш нарыс яшчэ адной цытатай — са згаданага даклада прафесара Хадубскага на кангрэсе беларусістаў. «Працуючы ў Азербайджане, — гаворыць Хадубскі, — Есьман падкрэсліваў сваю сувязь з Беларуссю. Ахвотна наведваў Бацькаўшчыну. У сваім асяроддзі ці ў час кантактаў са знаёмымі беларусамі карыстаўся беларускай мовай». Магчыма, дададзім мы, гэта таксама ішло яшчэ ад бацькі, паўстанца-каліноўца, неардынарнага чалавека з акружэння беларускага класіка Дуніна-Марцінкевіча.

Пра ўсё гэта нагадаў нам стары здымак — можа, самы ранні вядомы на сёння групавы здымак, зроблены ў Мінску. (Па Віцебску мы ведаем больш ранні — хоць і не нашмат — групавы здымак 1860 года. На ім зафіксаваны 12 асоб: беларускі пісьменнік А. Вярыга-Дарэўскі, славуты гітарыст-віртуоз М. Сакалоўскі і інш.).

І яшчэ напаследак. Мяркуючы па каталогах нашых навуковых бібліятэк, любоў да гідраўлікі, да навукі і тэхнікі перадалася дзецям Іосіфа Гаўрылавіча. Напрыклад, у 1986 годзе ў Баку пад грыфам Інстытута праблем глыбінных нафтагазавых радовішчаў выйшла папулярная кніжка «Ля вытокаў гідраўлікі» з падзагалоўкам «Займальная гідраўліка». Напісана яна лёгка, сапраўды займальна, з непадробным захапленнем, здзіўленнем перад таямніцамі жыцця і прыроды, тэхнічным прагрэсам чалавецтва. Яе аўтар Багдан Іосіфавіч Есьман — унук паўстанца. Магчыма, у Баку, у сямейных архівах захоўваюцца матэрыялы, цікавыя для беларускіх даследчыкаў.

Адгукніцеся, Есьманы!

# «ТО ТАДЭВУШ — ЛЕПШЫ СЯБРА — АЖ З-ПАД МАГІЛЁВА...»

Тады ў народа ёсць паэты,
Калі ў паэта ёсць народ.
*Р. Баравікова*

У вершаваным апавяданні «Літаратарскія клопаты» (1857) Дунін-Марцінкевіч распавядае пра нялёгкае становішча тагачаснага літаратара, якому ўздумалася пісаць на беларускай — «мужыцкай» — мове. У салонах шчабяталі па-французску, у лепшым выпадку па-польску. На беларускую кнігу модныя шалахвосты, мясцовыя бобчынскія-добчынскія глядзелі як на нонсэнс. Але час вымагаў свайго, у перспектыве час працаваў на Беларусь. Сярод адукаваных памешчыкаў былі ўжо такія, што падтрымлівалі беларускі культурны рух. Душой адпачываў і набіраўся новай моцы для жыццёвага змагання наш класік, напрыклад, у маёнтку Шчаўры былога Сенненскага павета (цяпер Крупскі раён). Пра гасцяванне ў Шчаўрах у аматара беларушчыны Юлія Рашкоўскага ён пісаў у тых жа «Літаратарскіх клопатах»:

Хто жадае уваскрэсіць даўні чын гасцінны,
Хай на Беларусь паедзе, стрэнуць там, як сына.
Затрапеча тваё сэрца, адпачнеш душою,
Як я быў прыняты шчыра Юлія сям'ёю!
Вось ягоная сядзіба, у пакой ступаю,
Ён па-польску, па-братэрску мяне абдымае.
Малады ён і багаты, а не ганарысты,
Прадстаўляе мне суседзяў ветла, урачыста.
То з-пад Лепеля прыехаў Павел з Пацейкова,
То Тадэуш — лепшы сябра — аж з-пад Магілёва…

Абарвём на гэтым ніштаваты пералік ганаровых гасцей, што сабраліся-з'ехаліся ў хлебасольных Шчаўрах. Пералік гэты пісьменнікам не прыдуманы, мае пад сабой цалкам рэальную аснову. Хоць не ўсе імёны даследчыкі належным чынам расшыфравалі. Але ёсць пэўныя зрухі, сёетое навукоўцам ужо вядома. «Тадэуш з-пад Магілёва» — гэта, несумненна, Тадэвуш Чудоўскі, адметная постаць культурна-грамадскага жыцця Беларусі гэтага перыяду. Ёсць дакументальнае сведчанне прыяцельскіх



стасункаў Чудоўскага з Дуніным-Марцінкевічам. У 1858 годзе, аддаючы ў цэнзуру сваю новую вершаваную аповесць «Быліцы, расказы Навума», пісьменнік зрабіў самакрытычна-іранічнае, не без хітрынкі, прысвячэнне: «Вяльможнаму Тадэвушу Чудоўскаму ў знак глыбокай пашаны гэты слабы твор ахвяруе аўтар». У адпаведнасці з правіламі той са свайго боку напісаў на цэнзурным рукапісе: «На ахвяраваную мне дэдыкацыю твора згаджаюся і з падзякаю прымаю. Тадэвуш Чудоўскі». Вось вам і нітачка: Чудоўскі — Дунін-Марцінкевіч. Ужо гэтага было б дастаткова, каб зацікавіцца, хто такі Чудоўскі. Чаму менавіта яму вырашыў прысвяціць Дунін-Марцінкевіч сваю аповесць? І не проста чарговую аповесць, а арыгінальны, можна сказаць, этапны беларускі твор. Я доўга прыглядаўся да гэтай постаці. Адкрылася шмат цікавага, неардынарнага, драматычнага, чым хацелася б сёння падзяліцца з чытачом.

Тадэвуш Чудоўскі паходзіў з вядомай шляхецкай сям'і ўсходняй Беларусі. Ён згадваецца ў мемуарах слыннага ўдзельніка паўстання 1863 года Якуба Гейштара. Ёсць там і фота нашага героя з рамантычна (калі не сказаць дэманічна) сашчэпленымі на грудзях рукамі. У каментарыях да мемуараў называецца год нараджэння Чудоўскага — 1818, праўда пад пытальнікам. Ужо без агаворак распачынае жыццяпіс Чудоўскага 1818 годам аўтарытэтны «Польскі слоўнік біяграфічны». Між тым матэрыялы мінскага гістарычнага архіва дазваляюць істотна ўдакладніць гэтую зыходную дату. Захавалася метрыка, з якой відаць, што ён нарадзіўся 5 ліпеня 1824 года. Хрышчоны двойчы: у Вародзькаве (вадой) і Маляцічах, дзе абрад хросту быў належным чынам завершаны. Усё гэта цяпер вёскі Крычаўскага раёна. Пры хрышчэнні атрымаў тры імёны: Тадэвуш, Рыгор і рэдкае — Удальрык. Бацька — чэрыкаўскі павятовы маршалак Тадэвуш Міхайлавіч Чудоўскі, маці — Юстына Іванаўна Галынская (таксама нішто сабе слынны род). Канкрэтнае месца нараджэння ў метрыцы не названа. З ужо згаданых каментарыяў да мемуараў Гейштара даведваемся, што гэта бацькоўскі маёнтак Нізкі.

Вучыўся наш герой у Віленскім дваранскім інстытуце (своеасаблівы прывілеяваны ліцэй) разам з Гейштарам. Закончыў інстытут у 1841 годзе. Праз год паступіў на юрфак Пецярбургскага ўніверсітэта, які пакінуў у 1846 годзе, адужаўшы толькі тры курсы. Разам з ім у сталіцы вучыліся Гейштар, Зыгмунт Серакоўскі, Аляксандр Аскерка, Уладзімір Спасовіч і многія іншыя вядомыя дзеячы. У біяграфіі Гейштара адзначана, што ён выбраў Пецярбургскі ўніверсітэт пад уплывам крыху старэйшага Чудоўскага, які, выбраўшыся ў паўночную сталіцу раней, з берагоў Нявы «цудоўнымі фарбамі маляваў тамтэйшае жыццё моладзі…».

У 1848 годзе бачым Чудоўскага на радзіме — ён быў прызначаны ганаровым наглядчыкам вучылішчаў Мсціслаўскага павета, садзейнічаў

поступу асветы і адукацыі. Потым пяць-шэсць гадоў (1850–1855) спраўна служыў Фемідзе, быў чэрыкаўскім павятовым суддзёй, пакінуў гэтую клопатную пасаду з прычыны хваробы. Прынамсі так запісана ў афіцыйным атэстаце.

Яшчэ адзін архіўны дакумент фіксуе важную падзею ў жыцці нашага героя: 4 ліпеня 1856 года ў Чарэйскім касцёле Тадэвуш Чудоўскі з маёнтка Краснае Вародзькаўскай парафіі ўзяў шлюб з паненкай Антанінай Свяцкай з маёнтка Горы парафіі Чарэйскай. Маладому 29 гадоў (так у дакуменце, у сапраўднасці амаль — без аднаго дня — 32), яго абранніцы — 20.

У 1857 годзе Т. Чудоўскі зноў прызначаецца ганаровым наглядчыкам Мсціслаўскага дваранскага павятовага вучылішча з абавязацельствам уносіць штогод на патрэбы гэтай установы па 150 рублёў.

Да гэтага часу належаць лісты Чудоўскага ў Вільню Адаму Кіркору. З Кіркорам наш герой на сяброўскай назе, звяртаецца да яго па-прыяцельску «Найдаражэйшы Адаме». Ліст ад 10 лютага 1857 года напісаны ў Дубасне Мсціслаўскага павета па дарозе ў Маскву і далей у Піцер.

«Заўтра выязджаю праз Маскву ў Пецярбург з Крычава, а цяпер пішу з дома майго швагра… ужо з дарогі, адсюль праз тры гадзіны еду ў Нізкі да брата Міхала, з Нізкоў заўтра рана выязджаю ў Крычаў, а адтуль ранішняй поштай па шашы ў Маскву». Вось так ездзілі тады нашы паны, чыгунак у Беларусі яшчэ не было. Масква ж з Піцерам была ўжо звязана чыгуначнай каляінай.

Перад гэтым Кіркор прасіў Чудоўскага падшукаць мясцовых карэспандэнтаў для праектаванага тады ў Вільні штотыднёвіка пад шматзначнай назвай «Літоўская Пагоня» (потым спыніліся на больш сціплым, «дзяжурным» найменні «Віленскі літаратурны тыднёвік», ды звышпільныя ўлады ўсё адно неўзабаве праект закрэслілі). А пакуль правінцыя шчыруе на заклік шаноўнага рэдактара. У сваім лісце Чудоўскі ў якасці магчымага карэспандэнта ў Магілёве назваў ксяндза Кеўліча (мабыць, гэта той самы Кеўліч, які пакінуў прыхільны запіс у вядомым альбоме беларускага пісьменніка і асветніка Вярыгі-Дарэўскага). Далей Чудоўскі працягваў: «Прызначаючы гадавое ўзнагароджанне Кеўлічу, май таксама на ўвазе, што маім стараннем будзеш мець значную колькасць бясплатных артыкулаў: а менавіта аповесцяў і сельскагаспадарчых матэрыялаў, цудоўна апрацаваных Ігнатам Цеханавецкім, у якім кожны прызнае неабыякі талент і немалы запас ведаў, статыстычныя матэрыялы Аляксандра Цеханоўскага, ад якога спадзяюся таксама мець артыкулы; з паэзіі Бржастоўскага і Барэйшы і многіх іншых, у поспеху якіх не сумняваюся». Як бачым, Чудоўскі выдатна ведаў, трымаў навідавоку ўсіх творчых людзей свайго краю, а іх было нямала.



Кіркор быў зацікаўлены таксама мець карэспандэнта ў Горках, дзе вакол земляробчага інстытута склаўся адметны асяродак культурна-грамадскага жыцця. На гэта Чудоўскі адпісаў так: «Паколькі сам не магу быць зараз у Горках для падшуквання карэспандэнта, пасылаю туды дваіх па гэтай справе, а менавіта аднаго вельмі прыстойнага маладога чалавека Яна Мянжынскага, які ў тым годзе скончыў Горы-Горацкі інстытут, і свайго прыяцеля Януша Касакоўскага, які з саміх Горак напіша табе пра вынікі сваіх захадаў і пра перагаворы, калі знойдзе каго на карэспандэнта, у чым, аднак, не сумняваюся, паколькі з цяперашніх вучняў ёсць двое вельмі здольных, а пра трэцяга таксама чуў, што з незвычайным талентам паэтычным піша па-беларуску».

«Калі Касакоўскі і Мянжынскі зробяць кепскі выбар карэспандэнта, — працягваў Чудоўскі, — або калі б зусім нічога не зрабілі, ручаюся, што, вярнуўшыся з Пецярбурга, найцудоўна ўладжу там тваю справу, паколькі маю там знаёмых, ды і Горкі знаходзяцца ад майго маёнтка Краснае за 45 вёрстаў».

Чудоўскі прасіў таксама прыслаць рэкамендацыйнае пісьмо ў Пецярбург да свайго цёзкі Булгарына (той самы знакаміты Фадзей Булгарын, высмеяны ў «Тарасе на Парнасе») — ён спадзяваўся, што ўплывовы, шматвопытны зямляк дапаможа ў нялёгкіх сталічных клопатах.

А яшчэ Кіркору паведамляецца вельмі знаёмы нам адрас: «Юлию Серафимовичу Рошковскому в у. г. [уездный город] Борисов для отправления в имение Щавры». Туды Кіркор павінен быў пасылаць чарговыя выпускі спеўніка, якія тады выходзілі.

Што да Горак, Чудоўскі сапраўды быў там частым госцем. У прыватнасці, удзельнічаў у сельскагаспадарчых з'ездах, якія там час ад часу збіраліся. Але яго стасункі з Горкамі гэтым далёка не абмяжоўваліся. Колішні студэнт, а потым апантаны краязнавец Ф. Сурын піша ў сваіх «Горацкіх успамінах»: «Неадступным сябрам нашым на працягу ўсёй бытнасці маёй ва ўстанове быў адзін з блізкіх памешчыкаў р. Tadeusz C.». Вядома ж, гаворка зноў пра Тадэвуша Чудоўскага. Мемуарыст малюе яго вялікім эксцэнтрыкам і ідэалістам, своеасаблівым Дон Кіхотам, які свята верыў у сваю адметную місію і нярэдка трапляў праз гэта ў камічныя сітуацыі.

Між іншым, гэты «ідэаліст» спрычыніўся да адкрыцця ў Горках тайнай народнай школы, дзе навучанне вялося па беларускіх кнігах, друкаваных лацінкай (відаць, меліся на ўвазе кнігі Дуніна-Марцінкевіча).

«Ідэаліст» Чудоўскі як мог падтрымліваў студэнтаў, здольную моладзь таксама і матэрыяльна, не шкадаваў на гэта ўласных сродкаў. Напрыклад, вядома, што за яго кошт вучыўся ў інстытуце зямляк з незаможнай шляхты Станіслаў Віскоўскі, які ў 1863 годзе быў адным

з галоўных завадатараў горацкага рэвалюцыйнага студэнцтва і, вядома ж, не так сабе атрымаў прызначэнне на пасаду паўстанцкага начальніка горада Горак.

Як і Дунін-Марцінкевіч, як і ўсе тагачасныя перадавыя людзі, усім сэрцам вітаў наш герой эпоху сялянскіх рэформаў, паводле слоў пляменніка, усяляк дбаў пра дабрабыт народа, фактычна яшчэ да маніфеста ад 19 лютага 1861 года даў свабоду сваім прыгонным.

Вялікі ўдзел прыняў ён у паўстанні Кастуся Каліноўскага, на сцягах якога былі накрэслены лозунгі свабоды, роўнасці, незалежнасці.

У замалёўцы журналіста С. Акрэйца (Арліцкага) «Куток паўстання 1863 года» (Исторический вестник. 1902. Т. 90) Чудоўскі выступае пад імем Чудзіноўскага, а Магілёўская губерня гэтак жа празрыста іншасказальна называецца Дняпроўскай. Там гаворыцца, што Чудзіноўскі ўвосень 1862 года паехаў у Варшаву і вярнуўся адтуль з намінацыяй (мандатам) на званне камісара Дняпроўскага ваяводства. Характарыстыку Чудзіноўскаму-Чудоўскаму аўтар дае не вельмі паважлівую, хутчэй, з'едлівую: «…бахвал, декламатор, промотавшийся барин, гордый своим родом и женившийся денег ради на глуповатой, болезненной шляхтянке, дочери некоего Свадского, темной личности, нажившейся ростовщичеством и содержанием почтовых станций». Магчыма, тут схоплены і нейкія рэальныя рысы Чудоўскага, але нядобразычлівы тон Акрэйца шмат у чым тлумачыцца яго рэнегацтвам: у 1863 годзе аўтар замалёўкі быў паўстанцам, а потым зусім адышоў ад ідэалаў маладосці. Даўно заўважана: няма больш зласлівых крытыкаў, як рэнегаты-адступнікі.

Гісторыкам вядома, што камісарам Магілёўшчыны, прычым камісарам вельмі энергічным, самаахвярным быў доктар Міхал Аскерка. Так што Акрэйц, мабыць, недакладна вызначыў месца нашага героя ў структурах паўстанцкай арганізацыі. Тым не менш роля Чудоўскага сапраўды была вельмі значнай, абсягі яго канспіратыўных кантактаў надзвычай шырокія.

Апрача зразумелых кантактаў з тым жа Аскеркам[64] дакументы раскрываюць, напрыклад, цесную сувязь Чудоўскага з найбуйнейшым кіраўніком паўстання ў Літве-Беларусі З. Серакоўскім. Яны сябры-прыяцелі яшчэ са студэнцкіх часоў. Удзельнік паўстання З. Міткевіч на допытах паказваў: «При поездке моей во второй половине марта 1863 г. в С.-Петербург… помещик Чериковского и Оршанского уездов Фаддей Чудовский поручил мне отвезти туда к капитану генерального штаба Сераковскому письмо, причем просил в случае выезда Сераковского в Вильно, как он это предполагал, съездить с этим письмом туда, объяснив, что найду Сераковского в гостинице Нишковского». Хоць, паводле Міткевіча, размова ішла адносна грашовай прэтэнзіі Чудоўскага да князёў Радзівілаў (падобная справа нібыта вялася ў сенаце), наўрад ці можна сумнявацца, што ў паказаннях фіксуюцца вельмі важныя канспіратыўныя сувязі. З Вільні Міткевіч прывёз Чудоўскаму ад Серакоўскага «2 пакета, из которых один был весьма наполнен». «Пакеты Сераковского я передал Чудовскому 6 апреля…» — паведаміў Міткевіч. Ёсць усе падставы думаць, што гаворка ішла пра рэвалюцыйныя паперы: інструкцыі, пракламацыі, мандаты. Да таго ж выходзіць, Чудоўскі загадзя ведаў пра будучы прыезд Серакоўскага з Пецярбурга ў Вільню. Гэта была, можна сказаць, самая важная таямніца канспіратараў: Серакоўскі ехаў, каб прыняць на сябе вайсковае кіраўніцтва паўстаннем.

Вельмі інфармаваны генерал Ратч, які па свежых слядах напісаў спецыяльны нарыс пра падзеі 1863 года на Магілёўшчыне, лічыў Чудоўскага ці не галоўным арганізатарам магілёўскага паўстання[65]. Паводле слоў генерала-гісторыка, Чудоўскі раздаваў намінацыі на рэвалюцыйныя пасады па паветах. У прыватнасці, ад яго ў сакавіку 1863 года атрымаў сваю намінацыю на начальніка Горак Віскоўскі.

Агульнае ўзброенае выступленне на Магілёўшчыне намячалася на 23–24 красавіка (на Юр'я). Вайсковым начальнікам (ваяводам) Магілёўшчыны быў прызначаны бліжэйшы паплечнік Каліноўскага Людвік Звяждоўскі (псеўданім Тапор), які служыў тады ў Маскве, у штабе грэнадзёрскага корпуса. Туды Звяждоўскаму была выслана ваяводская пячатка «як атрыбут яго ўлады». Перш чым з'явіцца на Магілёўшчыне, Звяждоўскі зрабіў паездку ў Пецярбург, дзе завербаваў некалькіх здольных рэвалюцыйна настроеных афіцэраў для кіраўніцтва баявымі групамі паўстанцаў. У цэнтры ўсіх гэтых падрыхтоўчых намаганняў быў і герой нашага нарыса, яму дапамагалі ўжо згаданыя Міткевіч і Віскоўскі. Ратч піша: «Кандидат мирового посредника Оршанского уезда молодой помещик Миткевич, воспитанник С.-Петербургского университета, был деятельным помощником Чудовского; по его приказанию он в марте месяце 1863 года ездил к предназначенному могилевскому воеводе Жверждовскому (Звяждоўскаму. — *Г. К.*) и оттуда в Вильну к Сераковскому, развозил деньги, пакеты и делал заготовления оружия». Віскоўскага Чудоўскі двойчы ў сакавіку пасылаў да Звяждоўскага ў Маскву. «Висковский за Жвеждовским ездил и в Петербург и привез в Горы-Горки целый транспорт штуцеров и револьверов».

[64] Пра гэта ёсць звесткі ў справе «О высылке на жительство помещицы Олимпиады Свенторжецкой и дочери ее Юзефы в Пермскую губернию…» (віленскі гістарычны архіў).

[65] Ёсць адпаведная згадка і ў абагульняльнай кнізе Ратча «Сведения о польском мятеже в Северо-Западной России».

І вось доўгачаканы дзень надышоў. Спачатку ўсё складвалася, здаецца, як найлепш. У ноч на 24 красавіка Тапор-Звяждоўскі з дапамогай студэнтаў, якімі кіраваў Віскоўскі, захапіў Горкі. Яго атрад пасля далучэння некалькіх дзясяткаў студэнтаў значна вырас. З гэтай ударнай, хоць колькасна ўсё яшчэ невялікай сілай ваявода рушыў на поўдзень у бок Крычава (тады Чэрыкаўскага павета).

На Чэрыкаўшчыне фарміраваў атрад артылерыйскі паручнік Ян Жукоўскі (псеўданім Каса), член рэвалюцыйнай арганізацыі, які напярэдадні — па дамоўленасці — уцёк з часці, што стаяла ў Смаленску. Паводле дыспазіцыі, ён павінен быў захапіць гарматы ў Крычаве. Калі б так сталася, падзеі, магчыма, павярнуліся б зусім інакш, набылі б больш спрыяльны для паўстанцаў ход. Але здзейсніць гэта не ўдалося. Улады даведаліся пра планы інсургентаў. Паўстанцкі атрад, які збіраўся паблізу Крычава, быў рассеяны. З рэшткамі Жукоўскі накіраваўся ў Краснае насустрач Звяждоўскаму. З Жукоўскім быў і ўладальнік Краснага Тадэвуш Чудоўскі. 25 красавіка паўстанцы спыніліся ў лесе Зялёная дубрава паблізу фальварка Ходасава памешчыка Галынскага. Жукоўскі-Каса частаваў мужыкоў гарэлкаю і ўгаворваў далучыцца да паўстанцаў, абяцаючы ўсе дабрoты і поўную свабоду. Пасля адзін з сялян паказваў, «что в шайке этой он хорошо заметил еще в лесу Зеленой дубравы самого помещика Фаддея Чудовского… Чудовский в Красное с Дубравы следовал с шайкой и угощал ее в своем имении Красном». І яшчэ цікавыя, характэрныя радкі з гэтага дакумента (відаць, адказ на пытанне, чаму ж сяляне не спынілі бунтаўнікоў-інсургентаў): «Забрать приходивший в фольварок Ходосов с Яном Косою отряд мятежников крестьяне не могли, во-первых, потому что все были пьяны и, во-вторых, более потому, что крестьяне, кроме небольшой дубины, а иные и без этого, не имея у себя никакого оружия, не решились открывать бой с мятежниками, бывшими тогда вооруженными ружьями со штыками, саблями и револьверами…».

Вядома ж, тут, у Ходасаве сялянскія галовы затуманіліся ад выпітага віна і жаданых слоў пра свабоду. Некалькі мужыкоў — пакуль не працверазіліся і не адумаліся — нават пайшлі з паўстанцамі. А ў цэлым народ на Магілёўшчыне паўстання не прыняў. У вачах народа гэта быў «панскі мяцеж». На паўстанцкі рух сяляне адказалі сваім рухам — антыпаўстанцкім і антыпамешчыцкім. Той жа Акрэйц піша: «Мужики принялись вязать и отвозить в ближайшие города своих, вчера еще столь грозных, панов. По дорогам тянулись деревенские телеги со связанными помещиками, окруженные толпами крестьян, впрочем не вооруженных. Женщин из деликатности не вязали. Барыни обыкновенно шли свободно за телегами. Экономов, свирепствовавших чуть не вчера с батожьем, случалось, и бивали, но не очень».



Вось такі парадаксальны кірунак набылі падзеі (прычым пяро Акрэйца ў дадзеным выпадку, бадай што, занадта мяккае, далікатнае). Уладам гэта было на руку, паколькі дазваляла адным махам пакончыць з мяцяжом і адначасова паслабіць у краі «польскі элемент». Губернскі жандар палкоўнік Сакалоў даносіў у Пецярбург 5 мая: «Преследование крестьянами помещиков-поляков, можно определительно сказать, составляет поголовное движение крестьян, кроме чувства преданности правительству в настоящем случае действует и месть за прежнее крепостное право, которое во зло употребляло большинство помещиков, полевые отработки для помещиков теперь почти оставлены, требовать строгого исполнения их в настоящее время, когда крестьяне заняты перевозкою иногда на повозках войск, караулами по дорогам, мостам от поджогов и охранением собственных домов, решительно невозможно».

Здаралася, цэлыя хмары сялян ішлі з вайсковымі камандамі, каб дапамагаць у дзеяннях супраць «мяцежнікаў», а пры нагодзе і чымсьці пажывіцца.

Сітуацыя для паўстанцаў склалася проста адчайная, драматычная. Што было рабіць кіраўнікам?

Паводле Ратча, Звяждоўскі «…из Горок двинулся навстречу Жуковскому, прибыл в Красное, именье главного организатора Чудовского, студентского товарища Сераковского; там он надеялся присоединить захваченные в Кричеве пушки…», але, але… Выслухаўшы сумны аповед Жукоўскага, Тапор-Звяждоўскі павярнуў з Краснага на захад і пераправіўся праз Проню, спаліўшы за сабой паромную пераправу. 30 красавіка, бачачы шматразовую колькасную перавагу царскіх войск і — што яшчэ важней — непрыхільнасць сялян, ваявода распусціў сваё воінства. Значная частка паўстанцаў (больш за 100 чалавек) здалася ўладам у Прапойску (цяпер Слаўгарад). Частку вылавілі па лясах мужыкі. Палонных чакалі турмы і высылкі. Галоўным завадатарам Звяждоўскаму і Жукоўскаму ўдалося ўцячы, і яны дзейнічалі потым на тэрыторыі Польшчы.

А што ж наш герой? З ім здарылася горшае. Па дарозе да Проні ён адбіўся ад асноўнага атрада. Яго спадарожнік потым расказваў: «Мы з Чудоўскім, каб злучыцца з партыяй Тапара, хацелі перайсці Проню каля вёсак Ліцягі — Рудня. Мост быў спалены. Шукаючы броду, наткнуліся на вайсковую каманду з сялянамі. Знаёмы афіцэр дазволіў быў нам ісці, але салдаты самі абшукалі фурманку. Там былі зброя і набоі. Мужыкі і салдатня кінуліся на нас. Чудоўскі бараніўся і быў забіты. Я зваліўся аглушаны…»

Адбылося гэта, відаць, 29–30 красавіка 1863 года (29-га быў спалены той мост ці, дакладней, паром).

Так загінуў сябра Дуніна-Марцінкевіча і Серакоўскага, актыўны дзеяч культурна-грамадскага жыцця ўсходняй Беларусі сярэдзіны XIX стагоддзя. Нялюдская, пакутніцкая смерць ад рук тых, за чыю свабоду ён так шчыраваў, у чыю будучыню верыў!..

Фантастычны, далёкі ад рэальнасці малюнак дзейнасці і гібелі Чудоўскага падаў, між іншым, у сваіх успамінах зямляк-мсціславец, выдатны беларускі лексікограф і фалькларыст Іван Насовіч. Як вядома, грамадскіх поглядаў ён прытрымліваўся даволі кансерватыўных і ў духу афіцыйнай ідэалогіі рашуча асуджаў паўстанцаў. Дык вось цытуем:

«Помещик Чериковского уезда Краснинской волости Иван (адкуль гэта? Іванам наш герой ніколі не быў; усе імёны яго мы пералічылі вышэй паводле афіцыйнай метрыкі. — *Г. К.*) или Фаддей Фаддеевич Чудовский, задавший пир отряду мятежников, шедших из Рясны через имение его Красное, и составившемуся из студентов Горы-Горецкого института, отпустив добрых гостей, собрал к себе крестьян из всех своих деревень, приказал им вооружиться чем кто может — косами, цепами, топорами и т. д. и идти в Мстиславский уезд в помощь повстанцам, в лес, где они избрали себе притон, и чтобы они не щадили москалей.

— Як же, барин, мы можем зломаць присягу нашему царю? — спросил один из всего общества.

Чудовский вместо ответа выхватил из кармана пистолет и пустил пулю в лоб возразившему ему. Сзади помещика стоял крестьянин.

— Аа! Ци гэтак? Дык няхай будзець так! — сказал стоявший сзади и с этими словами так ловко хватил дубиною по голове помещика, что тот пал, как мертвый, на убитого им, а крестьяне растерзали на нем одежду и топтали ногами его тело.

Из этого видно, что православные крестьяне крепко хранили присягу своему Государю».

Чытаеш шчырыя, прастадушныя «Успаміны майго жыцця» Насовіча (Нёман. 1997. № 4) і мімаволі думаеш: «Хто ж нарасказаў такога нашаму Івану Іванавічу і чаму паверыў яўным небыліцам Насовіч, чалавек вялікага розуму і навуковага сумлення?» Мы ж бачылі, што Чудоўскі загінуў не ў сваім маёнтку, а на беразе Проні і пры зусім іншых акалічнасцях… Дарэчы, якраз з месца гібелі пад Ліцягамі трапілі ў архівы (спачатку царскія, а потым нашы дзяржаўныя) асабістыя дакументы Чудоўскага, якія мы багата выкарысталі ў сваім нарысе (НГА ў Мінску. Ф. 3257. Воп. 1. Спр. 50 — на папцы ёсць адпаведны надпіс).

Зрэшты, розных чутак і небыліц у расколатым, палярызаваным грамадстве насілася шмат. Арыштаваны Здзіслаў Міткевіч у сваіх паказаннях у следчай камісіі заявіў: «Про Фаддея Чудовского слышал, что убит крестьянами при потушении мятежа в Могилевской губернии, другие же говорили, что скрылся».



У канцы 1864 года, калі страсці-жарсці суняліся і жыццё ўвайшло ў звычайныя берагі, магілёўскі губернатар Беклямішаў, адказваючы на запытанне аб кіраўніках мясцовага паўстання, назваў камандзіраў атрадаў і дадаў: «Сверх того главным двигателем восстания в Могилевской губернии был помещик Чериковского уезда Фаддей Чудовский, убитый крестьянами во время следования за Горецкою мятежническою шайкой». У дакуменце ішла гаворка пра канфіскацыю маёмасці паўстанцкіх камандзіраў. Губернатар лічыў: «Одинаковой с начальниками шаек ответственности подлежал бы, по моему мнению, и помещик Фаддей Чудовский как бывший главным действующим лицом и организатором восстания в Могилевской губернии».

Маёнткі Чудоўскага былі канфіскаваныя. Дзе ён пахаваны — мы не ведаем. Хацелася б, каб гэтым заняліся мясцовыя краязнаўцы.

Ён заслугоўвае нашай памяці.

Старонкі гэтага неардынарнага жыцця з такім балючым, трагічным акордам у канцы дадаюць нешта і да нашых сённяшніх роздумаў пра няпростыя, пакручастыя шляхі айчыннай гісторыі.

# Дыярыуш Міхала Галубовіча

Рамуальд Зямкевіч у сваім вядомым артыкуле «Стары Менск у беларускіх успамінах» (1919–1920) так акрэслівае кола сяброў і знаёмых Дуніна-Марцінкевіча, яго акружэнне: «У доме Марцінкевіча сабіраліся ўсе інтэлігентныя сілы Мінска. Бывалі ў яго бібліёграф і паэт Ігнат Легатовіч, які пісаў і па-польску, і па-беларуску, артыста-маляр Ян Дамель, каторы беспадобна рабіў карыкатуры і маляваў тыпы беларускіх сялян, арыгінальны і вельмі фацэтны гумарыст пан Юрый Кабылінскі, аўтар беларускага зборніка “Тысяча і адна фацэцыя”, Міхал Галубовіч, епіскап, шчыры і добры беларус, знамяніты кампазітар Станіслаў Манюшка, польскі крытык і пісацель Аляксандр Тышынскі (напісаў цікавыя, дагэтуль не надрукаваныя ўспаміны), граф Канстанцін Тышкевіч з Лагойска, пан Аляксандр Валіцкі, які пісаў па-беларуску пад прозвішчам Місьцюк, і шмат-шмат іншых».

Звяртае тут на сябе ўвагу імя Міхала Галубовіча (1800–1881), мінскага праваслаўнага епіскапа і архіепіскапа, які спачатку быў уніяцкім дзеячам і побач з І. Сямашкам прычыніўся ў свой час да скасавання уніі. Пра яго захаваліся самыя розныя сведчанні, але ўсе яны сыходзяцца на тым, што гэта асоба неардынарная. Паводле характарыстыкі А. Ельскага (артыкул «Мінск» у польскім «Слоўніку геаграфічным»), ён «быў цалкам абыякавы да рэлігіі, чалавек немалых здольнасцяў, вытанчанага жыцця, аматар і знаўца мастацтва, сабраў у сваім палацы значны збор карцін і скульптур».

Мабыць, вядомы пісьменнік і краязнаўца перабольшыў усё-такі абыякавасць Галубовіча да рэлігіі або выказаўся недакладна. У нашым друку (Беларускі гістарычны часопіс. 1993. № 4) адзначалася, што за дваццаць гадоў кіравання епархіяй (1848–1868) Галубовіч зрабіў нямала не толькі для ўмацавання пазіцый праваслаўя ў краі, але і для народнай асветы — зразумела, у зусім пэўным духу. З другога боку, прыводзілася і сведчанне сучаснікаў, што «он привлекал расположение образованных людей без различия в исповедании и национальности». На гэтым грунце і маглі ўзнікнуць узаемадачыненні такіх людзей, як Галубовіч і Дунін-Марцінкевіч.

Таму я вельмі зацікавіўся, даведаўшыся, што ў аддзеле рэдкай кнігі і рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі ў Мінску захоўваецца дзённік Галубовіча за 1858–1860 гады. Пра гэта — дзякуй ёй — напісала галоўны бібліёграф Л. Станкевіч у аглядзе рукапісных збораў бібліятэкі, надрукаваным у другім выпуску бібліятэчна-кнігазнаўчага зборніка «Здабыткі» за 1997 год. Добрую справу зрабіла бібліятэка, раскрыўшы свае «сакрэты».

І вось гартаю вельмі стары рукапісны сшытак, які па сваёй форме і памерах нагадвае наш «агульны». Можа, трохі большы. На вокладцы напісана: «№ 7. 1858, 1859 и 1860». Чарговы нумар сшытка і перыяд, які ён ахопліваў. Выходзіць, да нас дайшла толькі невялікая частка дзённіка, усяго за тры гады. Да 1858 года Галубовіч паспеў спісаць шэсць сшыткаў, якія недзе на раздарожжах гісторыі згубіліся. А колькі такіх сшыткаў магло быць спісана пазней, тым больш што з 1868 года ўладыка пайшоў на пакой (жыў у Жыровічах) і вольнага часу ў яго пабольшала. Не будзем марна наракаць на страты. Балазе захаваўся хоць адзін сшытак. Пячаткі з надпісамі «Минский церковный историко-археологический комитет» і «Комиссариат Просвещен[ия] Белорусск[ой] Республики. Областной музей» сведчаць пра ранейшых уладальнікаў гэтага рукапісу, пра шлях, які прарабіў сшытак як да рэвалюцыі, так і ў паслярэвалюцыйны час (Абласны музей існаваў у Мінску ў 1919–1923 гадах — потым ператвораны ў Дзяржаўны музей БССР). На жаль, гэта толькі асобныя вехі (так бы мовіць, дзве кропкі шматгадовага храналагічнага пункціру). Поўнай гісторыі рукапісу ва ўсіх падрабязнасцях мы не ўяўляем.

Ніякіх пазнак, што гэта дзённік менавіта Галубовіча, у сшытку няма. Толькі на адвароце пераплёту нехта (архівіст?) напісаў у больш позні час сінім няякасным чарнілам: «Дневник митрополита» (без прозвішча). Але пасля азнаямлення са зместам пагаджаешся — так, сапраўды, гэта рукапіс мінскага праваслаўнага іерарха канца 1850-х гадоў, г. зн. Міхала Галубовіча.

Пісаўся дзённік пераважна чорным чарнілам драбнюткім, не заўсёды разборлівым почыркам. Толькі ў адным месцы (у дарозе — уладыка шмат ездзіў, быў, што называецца, лёгкі на пад’ём) запіс зроблены алоўкам.

Што здзіўляе, пісаўся дзённік па-польску, хоць па сваім становішчы ды і перакананнях — пра гэта сведчаць і самі запісы — уладыка мусіў змагацца і змагаўся з польскімі і каталіцкімі ўплывамі. А вось у ціхай размове сам-насам з дзённікам ён карыстаўся польскай мовай, вядома ж, крэсавай, вельмі простай, набліжанай да беларускай (пракідаецца і беларуская лексіка). Так прывык ён з маладых гадоў. Па-руску ў дзённіку толькі назвы святаў, асобныя прозвішчы і выразы. Гэтая акалічнасць (мова дзённіка) дае выдатны матэрыял для роздуму пра гістарычныя шляхі Беларусі, пра лёс яе інтэлігенцыі. Трэба падкрэсліць: Галубовіч не быў у гэтым сэнсе нейкім выключэннем. У свой час гэтую ж супярэчнасць як

агульную, прынамсі вельмі пашыраную рысу адзначыў у сваіх успамінах сучаснік Галубовіча мінчанін Т. Корзан (вядомы польскі гісторык): «Нават праваслаўнае духавенства, паколькі складалася з асобаў мясцовага паходжання, захоўвала дома польскую мову і звычаі». Так глыбока засела, уелася ў беларускае адукаванае грамадства паланізацыя. Цікавае сведчанне пра складанасці нацыянальнага пытання, нацыянальнай ідэнтыфікацыі ў тагачаснай Беларусі пакінуў у сваіх успамінах Антоній Зубко, які кіраваў Мінскай епархіяй акурат перад Галубовічам: «Так как преемник мой минский архиепископ Михаил, при утонченности вкуса ко всему изящному, со всеми необыкновенно вежлив и хорошо говорит по-польски, то отсюда поляки заключили, что быть не может, чтобы в душе он был москалем и схизматиком. Более умные поляки, видя в архиепископе Михаиле, под польской оболочкой, твердый дух русского православия и тем более считая его для своих видов вредным, желали бы, чтобы место его заступил менее опытный, менее знающий поляков. В этих видах, может быть, они исподтишка пустили в ход между русскими патриотами мнение, что преосвещенный Михаил — поляк…». Складаны малюнак намаляваў Зубко. Ці не прасцей усё тлумачыць беларускасцю Галубовіча, яго няздольнасцю быць ні велікарусам, ні палякам.

На пачатку XX стагоддзя з дзённікам Галубовіча пазнаёмілася краязнавец Софія Кавалеўская, якая выдатна ведала эпоху 1863 года і пісала ў адным з артыкулаў, што ўладыка не змог ужыцца з Мураўёвым-вешальнікам, таму і апынуўся за манастырскімі сценамі ў Жыровічах. «Галубовіч ведаў адно польскую мову і на гэтай мове пісаў свае цікавыя дзённікі, і, толькі аблаяны апошнімі словамі Мураўёвым, скончыў іх у 1864 годзе па-руску»[66]. Выходзіць, дзённікі былі даведзены да 1864 года.

Але пара нам пасля ўсіх папярэдніх заўваг ужо заняцца самім дзённікам, пазнаёміцца з яго зместам.

Уважліва прачытаць увесь сшытак я не меў часу. Толькі прагледзеў, спыняючыся на найбольш цікавых мясцінах.

Кожны год у Галубовіча пачынаўся з малітвы і завяршаўся аналізам вынікаў.

Вось і мы калі не з малітвай у поўным сэнсе слова, дык з вялікай ахвотай і надзеяй на адкрыццё, на важную знаходку прыступаем да працы.

Шукаю найперш згадак пра Дуніна-Марцінкевіча. Думалася (з падачы Зямкевіча), што ледзь не на кожнай старонцы буду сустракаць пасажы кшталту: «Заходзіў Марцінкевіч», «Гасцяваў у аўтара «Гапона» і г. д. І вось прагледжана трэцяя частка сшытка — увесь 1858 год, але ніякіх слядоў сяброўства Галубовіча з беларускім пісьменнікам не знаходзім.

[66] Kowalewska Z. Rok 1863 w Mińszczyźnie // Kalendarz miński na r. 1918. Minsk, [1917]. S. 23.



Уладыка, як і належыць, найчасцей мае стасункі з кіраўнікамі губернскай адміністрацыі, з губернатарам Келерам, віцэ-губернатарам Лучынскім і г. д. Сябруе з Пушчынымі — мы ведаем, што Пушчыны валодалі маёнткам у Бабруйскім павеце, а Міхаіл Іванавіч Пушчын — колішні дзекабрыст — быў трохі пазней камендантам Бабруйскай крэпасці.

Шмат увагі аддаецца прыезду ў Мінск цара Аляксандра ІІ. З Мінска, як вядома, цар накіраваўся ў Вільню. Каб яго сустрэць, сюды, у Мінск, прыехаў нават віленскі генерал-губернатар Назімаў з трыма губернскімі маршалкамі шляхты свайго генерал-губернатарства (віленскім, гродзенскім, ковенскім).

З нагоды аднаго са святаў Галубовіч прыводзіць доўгі спіс людзей, якія яго павіншавалі ў пісьмовай форме (распісаліся па тагачаснай завядзёнцы ў спецыяльнай кнізе або прыслалі віншаванні). Знаходзім знаёмыя прозвішчы (якія зноў жа пішуцца то па-польску, то па-руску): *Niesłuchowski* (бацька Янкі Лучыны, адзін з прызнаных інтэлігентаў тагачаснага Мінска), *Павел Малышевич* (мінскі журналіст, пісаў і пра Дуніна-Марцінкевіча), *Александр Оскерко* (мясцовы ліберальны памешчык, пасля адзін з лідараў партыі «белых» у Беларусі і Літве). Але Дуніна-Марцінкевіча няма і тут, у гэтым шырокім, прадстаўнічым пераліку.

1859 год адкрываецца запісам: «З Пушчынымі былі ў Сляпянцы ў Ваньковічаў і вельмі прыемна прабавілі вечар». Сядзіба Ваньковічаў — нашчадкаў знакамітага мастака Валентыя Ваньковіча — захавалася і дагэтуль.

Абсалютна нечаканы запіс ад 10 студзеня: «Уладзісл[аў] Тупальскі (прыяцель Галубовіча. — *Г. К.*) прывёз мне ад Багрыма (Bahryma) два фран[цузскія] замкі з засаўкамі, для дзвярэй, кожны па 15 р. А таксама стары з даробленай засаўкай на 3 р. і 3 ножыкі».

Дык гэта ж наш Паўлюк Багрым! Выходзіць, слава каваля Багрыма з Крашына (і не толькі каваля, а віртуознага майстра на ўсе рукі) даходзіла і да Мінска (а гэта, паводле даведнікаў, 127 вёрстаў), і яго паслугамі карысталіся самыя шаноўныя прадстаўнікі эліты губернскага горада. Прычым яго імя названа без якіх-небудзь тлумачэнняў як шырокавядомае. Гэта каштоўная дадатковая рыска да ўсё яшчэ загадкавага жыццяпісу Паўлюка Багрыма, спрэчкі пра якога не сціхаюць ужо добрыя паўтара стагоддзя. Далібог, ужо дзеля гэтага варта было пазнаёміцца з дзённікам Галубовіча.

Ды цікавага тут шмат.

Пад датай 18 студзеня згадваюцца планы правядзення электрычнага тэлеграфа з Вільні на Бабруйск праз Мінск (віцэ-губернатар Лучынскі пазнаёміў уладыку з адпаведнай паперай з Піцера). З гісторыі вядома, што тэлеграфныя станцыі ў Мінску і Бабруйску «открыли действие» ў лістападзе 1859 года.

Характэрны запіс ад 8 сакавіка: «Інспектар Спасовіч толькі што спецыяльна прыязджаў да мяне з весткаю, што газета "Слово" лопнула (тут і далей падкрэсленыя словы напісаныя па-руску. — *Г. К.*). Рэдактар Агрызка пасаджаны на месяц в крепость, папячыцель універсітэта атрымаў строгі выговор і г. д. Нібыта апала тая наступіла праз Лялевеля, які па просьбе прыслаў свой артыкул. Пра тое паведаміў сын Уладзімір».

«Цешуся з гэтага, — працягвае Галубовіч, — бо газета тая мела на мэце толькі польскія вопросы, вельмі ўзмацняла польскі дух. Балазе ўрад усё-такі агледзеўся».

Згаданы тут інспектар губернскай урачэбнай управы беларус Даніла Спасовіч — бацька славутага сталічнага юрыста і літаратуразнаўца Уладзіміра Спасовіча. Пра доктара Спасовіча вельмі цёпла ўспамінаў знакаміты фалькларыст і пісьменнік Павел Шпілеўскі ў сваім «Падарожжы па Палессі і Беларускім краі». Сын доктара Уладзімір Данілавіч належаў да польска-беларускага зямляцтва ў Пецярбургу, уваходзіў у рэдакцыю «Слова» і нават кантактаваў з канспірацыйнымі арганізацыямі, да якіх далучыліся і браты Каліноўскія.

Забарона польскай прагрэсіўнай газеты «Слово», арышт яе выдаўца Агрызкі (таксама наш зямляк), як вядома, устрывожылі ўсё тагачаснае грамадства (Някрасаў: «Тихо, братцы, беда близко — арестован уж Огрызко»). Як бачым, вестка адразу ж дайшла і да Мінска. 11 сакавіка Галубовіч не ўцярпеў і, каб лепш ва ўсім разабрацца, сам наведаў Спасовічаў: «Чыталі мне ліст Уладзіміра, у якім піша, што апала на "Слово" выклікана інтрыгамі варшаўскіх газетчыкаў…».

Культурныя, у прыватнасці музычныя, навіны пераплятаюцца ў дзённіку Галубовіча з запісамі сацыяльнага плана. 22 сакавіка (год усё яшчэ 1859-ы): «Шыф іграў канцэрт у залі губернатара. Я слухаў у гасцёўні. Выйшаў перад канцом, не развітаўшыся з губернатаршай». 26 красавіка: «Губернатар выехаў у Слуцкі павет, у Грэск, для ўціхамірвання сялян».

Непакояць уладыку небяспека паланізацыі, спробы польскіх памешчыкаў зблізіцца з народам, перацягнуць сялян на свой бок. 27 жніўня ён пабываў у маёнтку вялікіх князёў у Старым Барысаве і сустрэўся з вялікім князем Мікалаем Мікалаевічам. «Даў яму запіску пра імкненне памешчыкаў вучыць сялян па-польску і пра житомірскае таварыства для выдання кніжачак для сялян, друкаваных польскімі літарамі і г. д.». Гаворка ідзе пра выдавецка-асветныя планы польскага паэта Аляксандра Грозы (пісаў і на беларускія сюжэты) і яго кампаньёнаў у Жытоміры. Царскія ўлады з падазрэннем ставіліся да гэтых праектаў.

Цікава, што акурат у гэты ж час быў забаронены і марцінкевічаўскі пераклад «Пана Тадэвуша», надрукаваны «польскімі» (лацінскімі) літарамі. Напрасткі гэта не звязана, відаць, з дзеяннямі Галубовіча, але нельга не адзначыць і розніцу ў пазіцыях царкоўнага іерарха і беларускага пісьменніка.

Зноў мясцовыя культурныя навіны. 19 кастрычніка: «Парадзінскі, скрыпач з Варшавы, вечарам іграў у мяне пад акампанемент Паўлоўскага на фартэпіяна. Даў яму гасцінца 10 р.». 22 лістапада Галубовіч выпісаў рускую перыёдыку (найперш гэта знакаміты «Современник», а яшчэ «Русский вестник», «С.-Петербургские ведомости», «Художественный листок»), прыкладзены акуратны рахунак (увогуле грашыма Галубовіч лішне не раскідаўся, у сваім месцы адзначаны нават капеечны ганарар ужо згаданаму доктару Спасовічу за вырваны зуб).

Цікавыя, а часткова і ўнікальныя звесткі пра мастака-эмігранта Невяровіча-Тысевіча. 24 лістапада: «Учора Невяровіч-Тысевіч прынёс мне сваё выданне (Парыж, 1851) Міцкевіча "Конрад Валенрод" і "Гражына". Мусіў заплаціць 10 р.

Запрапанаваў яму намаляваць абразы для прыдзела кам[еннага] сабора — у іканастас 4 вялікія і ў царскія дзверы 6 за 250–300 руб. Даў яму меркі».

Праз дзень: «Невяровіч прынёс літаграфіі-факсіміле. Мусіў выбраць з іх 15 штук і заплаціць 15 р.». І крытычна-бурклівая рэмарка: «Невяровіч цалкам французскі мастак-гандляр».

Такім чынам мы даведваемся пра знаходжанне ў Мінску мастака і грамадскага дзеяча Невяровіча-Тысевіча (1814–1888).

Як і многія іншыя ўдзельнікі паўстання 1831 года, Уладзіслаў Невяровіч у свой час эміграваў. Жыў за мяжою пад імем Яна Тысевіча, атрымаў мастацкую адукацыю ў Вене і Мюнхене, працаваў у Парыжы. У 50-я гады вярнуўся ў Вільню, потым зноў выехаў за мяжу. У 1851 годзе, рыхтуючы ў Парыжы багата ілюстраванае выданне «Гражыны» і «Конрада Валенрода» (ужо сама задума вельмі паказальная — гэта была рамантызаваная, патрыятычная гісторыя Літвы-Беларусі), мастак папрасіў С. Манюшку зрабіць своеасаблівыя музычныя ілюстрацыі — напісаць музыку да фрагментаў з гэтых твораў. Пісьмо захавалася ў Манюшкавым архіве. Каментуючы гэты ліст, вядомы сучасны польскі гісторык музыкі В. Рудзінскі піша: «Гэтае выданне, здаецца, не было рэалізавана, прынамсі пра яго маўчыць [знакаміты бібліёграф] Корбут». А вось жа з дзённіка Галубовіча мы пераканаліся, што выданне рэальна існавала і распаўсюджвалася Невяровічам у Мінску.

Што характэрна, ведаючы біяграфію Невяровіча (яшчэ ў 1867 годзе Энцыклапедыя Аргельбранда не адважылася адкрыць сапраўднае прозвішча і паходжанне «Тысевіча»), уладыка не пабаяўся замовіць яму абразы для праваслаўнага сабора. Гэта сведчыць пра шырыню яго поглядаў і пэўную талерантнасць. Ды і майстэрства мастака-эмігранта

вабіла. Пра віртуознае ўмельства Тысевіча пісаць палотны на рэлігійныя сюжэты сведчыць тая ж Энцыклапедыя Аргельбранда: яшчэ ў маладыя гады створаны мастаком абраз Марыі Магдалены праславіўся ці не на ўсю Еўропу. Гэтае жывапіснае палатно («Пакуты Магдалены») згадваў і Эдвард Паўловіч у сваім прачулым эсэ пра Невяровіча «З жыцця Ліцвіна», надрукаваным у кнізе «З-над Віліі і Нёмана» (Вільня, 1906), прысвечанай 50-годдзю з часу смерці А. Міцкевіча і Т. Зана.

Думаецца, што дзённік Галубовіча выкліча новую хвалю цікавасці нашых даследчыкаў да асобы Невяровіча-Тысевіча, да яго сувязяў з Беларуссю. Невыпадкова партрэт мастака-паўстанца, як сведчаць ацалелыя інвентарныя кнігі, захоўваўся некалі ў Беларускім музеі ў Вільні.

Для гісторыі фатаграфіі ранняга перыяду цікавыя звесткі з дзённіка пра аднаго з першых фатографаў Мінска Брафмана. 27 лістапада: «Учора Брафман зноў здымаў у мяне фатаграф[ічныя] партрэты». 7 снежня: «Учора Брафману за партрэты, рамкі і 2 павелічальныя шкельцы заплаціў 105 руб.». Мабыць, здымкі трэба было разглядаць праз павелічальнае шкло (штосьці накшталт стэрэаскопа). Мець модныя, прэстыжныя здымкі настолькі карцела, што Галубовіч адшкадаваў за іх немалыя па тым часе грошы.

У дзённіку за 1860 год сустрэліся звесткі пра яшчэ аднаго таленавітага прадстаўніка роду Ястржэмбскіх з усходняга Беларускага Палесся (раней мы ведалі рэвалюцыянера-петрашэўца Ястржэмбскага, які не без таленту паспаборнічаў з самім Гогалем, напісаўшы новыя раздзелы «Мёртвых душ», прынятыя спецыялістамі за аўтэнтычныя). А былі, высвятляецца, і іншыя даравітыя прадстаўнікі гэтага роду. 6 сакавіка 1860 года Галубовіч запісаў: «Учора быў у мяне Ястржэмбскі з Бруселя, эмігрант, майстра фартэпіяна, а менавіта піяніна, за якія атрымаў на лонданскай выставе залаты медаль. Чалавек энергічны. Мае намер вярнуцца ў край, асесці ў Лоеве і заснаваць фабрыку. Ён узяўся быць пасрэднікам у набыцці піяніна яго фабрыкі, якое знаходзіцца ў Бяляўскага (фартэпіянны майстар у Мінску. — *Г. К.*). Сёння я запрапанаваў даць за яго 300 р.; 150 цяпер і 150 у першых [днях] ліпеня, і ён згадзіўся. І так ізноў непатрэбны выдатак».

Невялікая даведка пра фартэпіяннага фабрыканта Фелікса Ястржэмбскага ёсць у «Польскім слоўніку біяграфічным». Высвятляецца, што ён быў найбліжэйшым паплечнікам і нават «душапрыказчыкам» (калі скарыстаць старадаўняе слова) знакамітага Лялевеля, які таксама жыў у эміграцыі ў Бруселі. А вось наконт паходжання Ястржэмбскага аўтарытэтны слоўнік, бадай што, хібіць: «Паходзіў, здаецца, з Вільні…». Дакладнейшая ў гэтым сэнсе старая, заслужаная Энцыклапедыя Аргельбранда (т. 13, 1863): «…нарадзіўся ў 1805 годзе на Літве (у Мінскай губерні) і эміграваў у 1831 годзе ў Брусель…». Дзённік Галубовіча пацвярджае, што Ястржэмбскі паходзіў з Лоева або ягоных ваколіцаў. Дарэчы, не можам утрымацца, каб не прывесці яшчэ радочак — нязвыкла эмацыянальны — з Энцыклапедыі Аргельбранда: «Яго піяніна шукаюць па ўсёй Еўропе». Вось такі быў наш зямляк, энергічны і даравіты, як і сотні беларусаў, якія і на эміграцыі рабілі свой плённы ўнёсак у навуку і культуру іншых народаў.

І яшчэ адна акалічнасць. Са знойдзеных Язэпам Янушкевічам лістоў В. Дуніна-Марцінкевіча да Я. Карловіча стала вядома пра спробу ў 1860-я гады надрукаваць творы нашага класіка ў Бруселі. Спрыяць гэтаму якраз мог уплывовы і досыць заможны зямляк Фелікс Ястржэмбскі.

Але вернемся да дзённіка Галубовіча. У той жа дзень, як быў зроблены запіс пра Ястржэмбскага (6.3.1860), уладыка пабываў у доме губернатара на канцэрце папулярных рускіх музыкаў братоў Мяшковых (віяланчэль і скрыпка). Яны былі прыгоннымі памешчыка Лярскага, што не забыўся адзначыць Галубовіч. Заўважана і такая характэрная дэталь: «З палякаў амаль нікога не было» (вынік тагачаснай раз'яднанасці грамадства).

Назаўтра ўладыка атрымаў магчымасць праверыць на практыцы набыты інструмент Ястржэмбскага: «Вечарам браты Мяшковы гралі ў мяне пад акампанемент Паўлоўскага, а на змену граў Гарун (?) на фартэпіяна. Новы інструмент выдатна вытрымаў выпрабаванне і заслужыў агульную пахвалу».

12 сакавіка Галубовіч быў на гарбаце ў нейкіх Васільевых, дзе ацаніў артыстычныя здольнасці мінскага кнігара Валіцкага (згадваўся на пачатку нашых нататкаў у цытаце з Зямкевіча сярод блізкіх знаёмых Дуніна-Марцінкевіча, ён — аўтар кнігі пра Манюшку, дзе расказаў і пра супрацоўніцтва кампазітара з Дуніным-Марцінкевічам). «Гэта чалавек вялікіх здольнасцяў…» — адзначыў уладыка: спяваў «без канца і ўсё на памяць». З Валіцкім звязаны і запіс ад 3 красавіка. У гэты дзень на свята ўладыка сабраў у сябе гасцей. «Вечарам іграў Валентэці, даў яму 15 р. Спяваў Валіцкі — гасцей было да 80».

Яшчэ характэрны факт. 13 жніўня 1860 года: «Адпісаў на ліст рэктара С.-Пецярбургскай академии художеств Бруні, што абраз Тройцы, чатыры гады таму заказаны для сабора, ужо намаляваны Ікавым…» (пецярбургскі мастак; абраз «Святая Тройца» для мінскага кафедральнага сабора — у ліку галоўных яго прац).

Нарэшце, калі я ўжо і спадзявацца перастаў, у дзённіку выплыла імя самога Дуніна-Марцінкевіча (а то мы ўсё хадзілі кругом ды навокала, то аддаляліся, то набліжаліся да галоўнай мэты, звышзадачы нашых пошукаў). Галубовіч сябраваў з заслужаным адстаўным палкоўнікам

Аляксандрам Фадзеевічам Шышкам, суседам нашага класіка па Люцынцы. І вось 16 жніўня 1860 года ўладыка паехаў да Шышкі ў госці ў маёнтак Скрундзеўшчына (цяпер Пяршайскі сельсавет). Адтуль завярнуў у недалёкія Доры. «Вярнуўшыся, заспеў колькі запрошаных суседзяў, у тым ліку Пятра Пляваку з Маскалёўшчыны, Комараў — бацьку і сына, беларускага барда Марцінкевіча, гарбатага, з Люцына і г. д. Апошні спяваў урыўкі з *Żydka pieczątowanego*». Пра артыстычныя здольнасці, як і пра сутуласць нашага песняра, было вядома і раней. А вось *Żydek pieczątowany* прымушае задумацца. Магчыма, гэта назва нейкага твора Дуніна-Марцінкевіча (ці не аперэта «Рэкруцкі яўрэйскі набор» маецца на ўвазе?). Падрабязней на гэтым Галубовіч, на жаль, не спыніўся. Больш зацікавіўся ўладыка Плявакам («Ён служыў у войску. Чалавек дасведчаны, прадпрымальны»), запісаў некалькі яго практычных парадаў. «Пасля абеду хадзілі ў поле і да млынка. Мясцовасць вакол добрая, лясістая… Жылы дом зручны, чысты. Прымалі мяне як нельга лепей і ад усяго сэрца». Потым, улагоджаны душэўным прыёмам, уладыка выехаў праз Старое Сяло ў Мінск.

Мы атрымалі дадатковы цікавы факт да жыццяпісу Дуніна-Марцінкевіча. Між іншым, палкоўнік Шышка і Комары як найбліжэйшыя суседзі і прыяцелі нашага класіка згадваюцца ў яго паказаннях у следчай камісіі 1864 года.

Між тым азнаямленне з дзённікам блізіцца да завяршэння, гартаем апошнія старонкі.

У лістападзе 1860 года Галубовіч пабываў у Вільні, наведаў вядомы Музей старажытнасцей. Пасля завітаў да археолага Э. Тышкевіча, які падараваў яму «Скарбец» І. Даніловіча (якраз толькі што выйшаў першы том гэтага каштоўнага дакументальнага выдання). Прысутнічаў і былы філамат, гісторык М. Маліноўскі, які ў размове сказаў: «…Еўропа падумае яшчэ пра ўтварэнне дзяржавы паміж Нёманам і Расіяй». Выходзіць, тагачасныя гісторыкі, знаўцы і даследчыкі мінулага, раздумвалі пра магчымасць узнікнення Беларуска-Літоўскай дзяржавы, спадчынніцы ВКЛ на новым гістарычным этапе. Галубовіч не выказаў у дзённіку непасрэднага стаўлення да гэтых мараў, але асцярожліва зазначыў, што Маліноўскі з гадамі «стаў яшчэ больш балбатлівым».

У сваім дзённіку Міхал Галубовіч паўстае неардынарным чалавекам з шырокімі культурнымі інтарэсамі і сувязямі. Добра было б з цягам часу выдаць гэты помнік нашай даўніны ці хаця б найбольш цікавыя мясціны з яго ў беларускім перакладзе[67].

[67] У 2003 г. Я. Янушкевіч выдаў дзённікі М. Галубовіча ў арыгінале і ва ўласным перакладзе на беларускую мову. Гл.: Янушкевіч Я. Дыярыюш з XIX стагоддзя: дзённікі Міхала Галубовіча як гістарычная крыніца. Мінск, 2003. — *Заўв. рэд.*



# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ Ў КАЛІНОЎСКАГА[68]

Беларуская нацыянальная ідэя, калі яе сфармуляваць у найбольш кароткай і агульнай форме, — гэта ідэя суверэннасці беларускага народа, самакаштоўнасці яго ўнікальнага менталітэту і культуры. Ідэя права і абавязку беларусаў імкнуцца да такіх сацыяльных і дзяржаўных формаў, якія найлепшым чынам маглі б забяспечыць захаванне і далейшае развіццё нацыі, яе ўнёсак у скарбніцу ўсяго чалавецтва.

Як і кожная грамадская з’ява, нацыянальная ідэя вымагае пры сваім вывучэнні гістарычнага падыходу. Яна можа відазмяняцца, трансфармавацца ў часе і мець розныя формы і аспекты — культурніцкія і палітычныя.

Высокія ідэі патрыятызму, служэння бацькаўшчыне, гонару за родную зямлю, побач з канстатацыяй сваёй адметнасці, выказваліся беларусамі на працягу стагоддзяў (Ф. Скарына, М. Гусоўскі, В. Цяпінскі, Л. Сапега, «Прамова Мялешкі», верш Я. Пашкевіча «Польска квітнет лаціною» і інш.). Асабліва важным у гэтым сэнсе было XIX стагоддзе — эпоха кансалідацыі нацый, калі мы выразна бачым на гістарычнай арэне спецыфічна беларускі культурны, а потым і палітычны рух. Лічыцца, што ў сучасных формах беларуская нацыянальная ідэя сфармулявана ў другой палове XIX стагоддзя — гоманаўцамі і асабліва выразна Ф. Багушэвічам у знакамітай прадмове да паэтычнага зборніка «Дудка беларуская» (1891). Але, па сутнасці, у той або іншай ступені нацыянальная ідэя, яе зародкі прысутнічаюць у творчасці ці не кожнага беларускага дзеяча XIX стагоддзя, кожнага, хто браў у рукі беларускую ліру, пачынаў збіраць нацыянальныя памяткі, задумваўся пра месца беларусаў сярод народаў свету, — Я. Баршчэўскага, М. Баброўскага, Я. Чачота, П. Шпілеўскага, А. Кіркора, А. Вярыгі-Дарэўскага, ужо не кажучы пра такога буйнога пісьменніка, як В. Дунін-Марцінкевіч. У сувязі з гэтым не магу пагадзіцца з думкай маладога даследчыка А. Латышонка, выказанай у артыкуле «Беларуская нацыянальная ідэя» (Сьвіцязь. 1994. № 2): «В. Дунін-Марцінкевіч быў беларускім паэтам,

[68] Артыкул напісаны на аснове даклада на навуковай сесіі Аддзялення гуманітарных навук АНБ па праблеме «Беларусь на шляху дэмакратызацыі» ў снежні 1995 г. У дужках курсіўнымі лічбамі падаюцца спасылкі на старонкі кнігі: Каліноўскі К. За нашую вольнасць.

але не быў беларускім нацыянальным паэтам…». Ці не штучным, надуманым з'яўляецца гэтае супрацьпастаўленне? Як можна сцвярджаць такое, калі Дунін-Марцінкевіч — для гісторыкаў літаратуры і культуры гэта абсалютна відавочна — цэлая эпоха ў мастацкім развіцці беларускага народа? Больш слушнай здаецца формула акадэміка І. Навуменкі ў яго манаграфіі пра аўтара «Гапона» і «Пінскай шляхты»: «Ён быў беларускім пісьменнікам, і гэтым усё сказана. Ён ганарыўся сваёй іменна беларускай вядомасцю і свядомасцю»[69]. В. Ластоўскі — у сваіх спецыфічных катэгорыях — таксама лічыў: «Наша адраджэнне ад самых сваіх пачаткаў (ад Марцінкевіча, Багушэвіча і Купалы) было "крыўскай прапагандай", бо імкнулася раскрыць самаістыя сілы і рысы нашай духовасці, нашай гісторыі, словам, — нашай народнай істоты ў мінуўшчыне і будучыне»[70].

Надзвычай важным гістарычным звяном у працэсе самаідэнтыфікацыі і кансалідацыі беларускай нацыі і выпрацоўкі нацыянальнай ідэі бачыцца нам і Кастусь Каліноўскі.

Магчыма, няпроста адшукаць у яго на гэты конт адну прамую ёмістую формулу. Хіба ў паролі віленскай рэвалюцыйнай арганізацыі, на чале якой стаяў Каліноўскі: «Каго любіш? — Люблю Беларусь. — Так узаемна!» (*149*). Або ў апошнім звароце з-пад царскай шыбеніцы да народа: «…цэлай грамадой ідзі ваяваці за сваё чалавечае і народнае права, за сваю зямлю родную» (*46*; паводле аўтографа, знойдзенага Уладзімірам Казберуком у Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве). З кантэксту як гэтага выказвання, так і ўсёй творчасці Каліноўскага відаць, што пад «чалавечым і народным правам» ён мае на ўвазе сацыяльныя (паводле Каліноўскага — «чалавечыя») і нацыянальныя («народныя») правы свайго народа. І, зразумела ж, усё гэта вельмі блізка да формулы нацыянальнай ідэі, як яна прагучыць трохі пазней, у нашаніўскі перыяд, — людзьмі звацца, звацца беларусамі.

З другога боку, у творчасці і дзейнасці Каліноўскага без цяжкасці знаходзім усе неабходныя элементы-чыннікі, з якіх гэтая ідэя складаецца.

Па-першае, — і гэта ці не самае галоўнае, прынамсі тут пачатак усяго — Каліноўскі сам быў годным носьбітам народнай культуры, увасабленнем лепшых рысаў нацыянальнага характару, ён па-сыноўску шанаваў, ведаў і любіў родную беларускую мову, віртуозна карыстаўся ёю ў сваёй творчасці, рабіў усё магчымае для пашырэння сферы яе ўжывання. Сваёй «Мужыцкай праўдай», «Пісьмамі з-пад шыбеніцы» ён не толькі даказваў наяўнасць сярод народаў свету беларусаў, не толькі выяўляў іх сацыяльныя і нацыянальныя памкненні, як яны бачыліся ў эпоху падзення прыгонніцтва, але і рабіў значны, адметны ўнёсак

69 Навуменка І. Я. Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. Мінск, 1992. С. 122.
70 Ластоўскі В. Выбр. тв. Мінск, 1997. С. 385–386.



у станаўленне новай беларускай літаратуры, у выпрацоўку беларускай літаратурнай мовы новага часу. Ужо пасля вынясення смяротнага прысуду ён піша ў турме развітальны верш да сваёй нявесты Марыі Ямант. Надзвычай характэрная рэч (хачу асабліва гэта падкрэсліць) — верш той таксама напісаны па-беларуску. Які яшчэ патрэбны доказ таго, што стаўленне Каліноўскага да беларускай мовы — гэта не адносіны нейкага палітычнага разліку, а самыя натуральныя і арганічныя. Ён выпраменьваў і ствараў вакол сябе беларускую аўру. І не страціў гэтай якасці нават у часіну смяротнага выпрабавання.

У наш складаны час пад маркай барацьбы за «гістарычную ісціну» робяцца спробы паставіць пад сумненне сувязь Каліноўскага з беларускім народам, ролю выдатнага змагара ў выпрацоўцы беларускай нацыянальнай ідэі. Той-сёй гаворыць (спашлёмся на публікацыю: ЛіМ. 1990. 7 снеж.), што ў «Мужыцкай праўдзе» ні разу не называюцца беларусы, Беларусь. Гэта праўда, там паўсюль фігуруюць, здавалася б, не акрэсленыя ў нацыянальным плане «дзецюкі». Але ці можна рабіць адсюль выснову, што Каліноўскі быццам бы не бачыў самабытнасці беларускага народа, не дапускаў магчымасці, што беларусы здольныя жыць самастойна, не ставіў пытання аб навучанні на беларускай мове і г. д.? Памылковасць падобнай думкі давесці не цяжка. Ад імя беларусаў Каліноўскі зусім пэўна выступае ў «Пісьмах з-пад шыбеніцы». Успомнім пачатак гэтага выдатнага твора: «І да нашага кутка даляцела ваша Газэтка, і мы яе з увагай прачыталі; вельмі яна ўсім спадабалася, бо праўда напісана. Прыймеце для таго нашу падзяку, а пісьмо аддрукуйце, каб знаў свет Божы, як мужыкі Беларусы глядзяць на маскалёў і паўстанне польскае, чаго яны хочуць і чаго па сваёй сіле дабівація будуць» (*40*). Ёсць у «Пісьмах з-пад шыбеніцы» і такія радкі, дзе параўноўваюцца пазіцыі польскіх паўстанцаў («ронд польскі») і расійскага царызму (які часам пазначаўся ў тэкстах Каліноўскага словамі «маскаль», «Масква», хаця значэнне іх гэтым не абмяжоўвалася) у нацыянальным пытанні: «Калі ронд польскі ўсім братнім народам дае самарондства, маскаль мала таго, што гэтак не робіць, но яшчэ там, гдзе жылі палякі, літоўцы і беларусы, заводзіць маскоўскія школы, а ў гэтых школах учаць па-маскоўску, гдзе ніколі не пачуеш і слова па-польску, па-літоўску да і па-беларуску, як народ таго хоча…» (*43*). Як бачым, тут ставіцца пытанне не толькі пра навучанне на роднай мове, але і пра «самарондства» беларусаў, як і літоўцаў. Надзвычай цікавы наватвор Каліноўскага «самарондства» заключае ў сабе цэлую канцэпцыю: яго можна разумець не толькі ў вузкім сэнсе, як самакіраванне, але і шырэй — як прызнанне і патрабаванне суверэннасці народаў, што ўваходзілі ў колішнюю Рэч Паспалітую. Тое, што А. Герцэн на лонданскіх перамовах з прадстаўнікамі варшаўскага ЦНК называў «самозаконностью провинций». (Зазначым

у дужках, што ў 1920-я гады, на новай хвалі нацыянальнага адраджэння, нашы лінгвісты сканструявалі вельмі блізкі да слова Каліноўскага наватвор «самаўрад» са значэннем «аўтаномія, самакіраванне», і гэта яшчэ раз пацвярджае як палітычнае, так і філалагічнае чуццё «атамана мужыцкай праўды».) Тыя ж надзвычай важныя, прынцыповыя палажэнні, што і ў «Пісьмах з-пад шыбеніцы», знаходзім і ў інспіраванай Каліноўскім газеце «Głos z Litwy», якая выходзіла за межамі краю, у Кёнігсбергу (дарэчы, для гэтай жа газеты прызначаліся і «Пісьмы з-пад шыбеніцы», прынамсі першая іх, самая вялікая, частка). Звернем увагу на наступны тэкст у № 4 газеты ад 20 сакавіка 1864 года (перакладаем з польскай): «Раўнапраўе народнасцей, станаў, вызнанняў — гэта імкненне, заключанае ў глыбіні сэрца ўсяго люду, імкненне моцнае, якое зрабілася моцнай воляй. Пад маскоўскім панаваннем гэтае імкненне і моцная воля наша не можа быць спатолена… Масква праследуе мову польскую, беларускую, маларускую, літоўскую і навязвае маскоўскую; мы хочам, каб кожная мова развівалася паводле ўласнай жыццяздольнасці: і літоўская, і беларуская, і маларуская, і польская» (*75*).

Уладзімір Калеснік у сваёй багатай на думкі і канцэптуальныя палажэнні кнізе «Тварэнне легенды» справядліва адзначыў, што Каліноўскі першы назваў беларусаў народам. Прынамсі першы ў новы час ён зірнуў на беларусаў як на суб’ект самастойнага гістарычнага дзеяння. Стаўленне Каліноўскага да беларускага народа нейкае інтымнае, вельмі душэўнае і свойскае. Можна сказаць, ён ставіўся да беларускага народа як да нейкай блізкай яго сэрцу жывой і нібыта роўнай яму істоты. Нязмушанае «народзе» або нават з пачцівай вялікай літары «Народзе» (як уласнае імя) — адно з любімых слоў Каліноўскага. А то ён мог сказаць пяшчотна: «…мой дарагі народзе». І нават патэтычна: «…Ты, народзе вялікі і чэсны» (*45, 46;* усе цытаты з «Пісьмаў з-пад шыбеніцы»). У апошнім выпадку ён нібы падсвядома пераносіў на беларусаў, на ўвесь народ, якасці, у высокай ступені характэрныя і для яго самога. Ды, па сутнасці, кожны заўсёды мерае той меркай, на якую здольны.

Каліноўскі бачыў пераважна сялянскі характар беларускага народа, беларускай нацыі тых часоў, як бачыў гэта трохі пазней і Я. Купала, які пісаў у адным з сваіх артыкулаў 1919 года пра сумныя вынікі паланізацыі роднага краю: «Масы, народ земляробчы, асталіся беларусамі, а іх баярства, вышэйшыя станы сталіся палякамі» (Купала Я. Жыве Беларусь. Мінск, 1993. С. 306). А ўжо хто лепш за Купалу ведаў рэаліі беларускага жыцця? Так і Каліноўскі называў беларусаў «мужыцкім народам»: «Бывай здаровы, мужыцкі народзе…» (*45*). У гэтым кантэксце прачытваецца (прынамсі можа прачытвацца) і выраз «мужыкі Беларусы» з прыведзенага ўжо пачатку развітальных «Пісьмаў…».



Беларуская нацыянальная ідэя заключалася ўжо ў самой рэвалюцыйна-дэмакратычнай стратэгіі Каліноўскага. Паслядоўны радыкал, ён — прынамсі ў тэорыі — скідваў з гістарычнай сцэны дваранства, шляхту, «баярства» (калі ўжыць выраз Я. Купалы). Шляхта, на думку рэвалюцыйных дэмакратаў, выканала ўжо сваю гістарычную ролю, перастала быць носьбітам прагрэсу. Заставаўся толькі працоўны народ, ва ўмовах Беларусі — народ беларускі, які і павінен быў вырашаць свой лёс і лёс свайго краю. Каліноўскі марыў «раздать всю поземельную собственность крестьянам и из среды землепашцев составить организацию. Он заявлял, что укажет из мелкой шляхты и из крестьян на способные личности, которые сумеют панов принять в руки…» (В. Ратч. *150–151*). А якраз жа земляробы — сяляне і дробная лапцёжная шляхта — былі носьбітамі беларускай мовы. Само сабой зразумела, што новае беларускае грамадства мусіла тварыцца ў такім выпадку ў беларускіх нацыянальных формах.

Заўзята спрачаючыся з варшаўскімі канспіратарамі за суверэнітэт і цэласнасць роднага краю (вядома, напрыклад, як раўніва аберагаў ён высокі самастойны статус віленскага паўстанцкага цэнтра, як рэзка пратэставаў супраць перадачы пад непасрэднае загадванне Варшавы беластоцкай арганізацыі), Каліноўскі разумеў у той жа час велізарнае значэнне для Беларусі, як і для Літвы, тагачаснага польскага вызваленчага руху, вельмі развітога, з багатымі традыцыямі, моцнага падтрымкай у адукаваных пластах грамадства. «…Польскае дзела гэта наша дзела, гэта вольнасці дзела», — заяўляў ён у «Пісьмах з-пад шыбеніцы» (*43*). Нягледзячы на ўсе самыя вострыя ідэйныя, арганізацыйныя і тактычныя спрэчкі з Варшавай, Каліноўскі прызнаваў у прынцыпе адзінства паўстання і пэўнае вяршэнства (у гэтым і толькі гэтым сэнсе) варшаўскага Нацыянальнага ўрада. Галоўныя акты віленскага паўстанцкага цэнтра спасылаліся, як правіла, на маніфест варшаўскага ЦНК ад 22 студзеня 1863 года аб пачатку паўстання або ў агульнай форме на аўтарытэт ананімнага «Ронда Польскага».

У 1863 годзе мужыцкая Беларусь яшчэ ішла часткова або ў значнай меры поруч са шляхецкай Польшчай. Беларускі рух яшчэ цесна звязаны з польскім, гаворачы словамі А. Каўкі, адбываецца яшчэ «пераважна ў межах польскага нацыянальна-вызваленчага працэсу» (Каўка А. Беларускі вызваленчы рух // Спадчына. 1991. № 5). У гэтых умовах трэба здзіўляцца не таму, што ў паўстанцкіх дакументах 1863 года Беларусь і Літва нярэдка аб’ядноўваюцца з Польшчай (самім гэтым словам для сцісласці яшчэ маглі абазначацца землі былой Рэчы Паспалітай, як словам «Расія» акрэслівалася ўся тэрыторыя Расійскай імперыі), а таму, што ў шэрагу дакументаў паўстання праводзіцца думка пра самабытнасць Беларуска-Літоўскага краю. Возьмем хаця б вядомы «Прыказ ад

Ронду Польскага над цэлым краем Літоўскім і Беларускім да Народу зямлі Літоўскай і Беларускай» (*103–105*). Мала таго, што перад намі дакумент на добрай беларускай мове, якая ўзнята тут паўстанцамі на своеасаблівы афіцыйна-дзяржаўны ўзровень. Тут у самой назве зноў жа цэлая канцэпцыя: «ронд» няхай сабе польскі, але край Літоўскі і Беларускі, зямля Літоўская і Беларуская і народ адпаведны. Дарэчы, як паказаў яшчэ А. Станкевіч у сваёй працы пра Каліноўскага 1933 года, ідэя адрознасці, самабытнасці Беларусі-Літвы ёсць і ў «Мужыцкай праўдзе», толькі яна схавана тут у самой логіцы разважанняў мудрага Яські-гаспадара: «…бо цар са сваімі маскалямі не падужае мужыкоў, што падняліся ў Польшчы, і не падолее Пранцуза, што за Польшчу ўступіўся. У Польшчы мужыкі таксама, як і мы, спадзяялісь на цара да ждалі волі ад няго…» (*№ 7*). Або яшчэ тамсама: «Памог бы Пранцуз і нам, як памагае мужыкам у Польшчы…» (*38*); «Не так думалі мужыкі ў Польшчы. Служылі яны яму верна, як і мы, да, пабачыўшы…» (*39*). «Мы» тут выразна і паслядоўна аддзяляецца ад «Польшчы». Мы — не Польшча. Ужо не гаворым пра тое, што «Мужыцкая праўда» належыць беларусам усім сваім духам, самім спосабам маўлення і любімы зварот Каліноўскага «дзецюкі» — таксама ўнікальны беларускі выраз, яго цяжка без стратаў нават перакласці на іншыя мовы.

У свой час (Славянское источниковедение: сб. статей и материалов. М., 1965) нам давялося апублікаваць неацэнныя матэрыялы генерала Ратча пра тое, як Кастусь Каліноўскі ўяўляў сабе будучае Беларусі і Літвы і ўзаемадачыненні Літоўска-Беларускага краю з Варшавай. Выдатную характарыстыку поглядаў Каліноўскага ў нацыянальным пытанні знаходзім таксама ў вядомага гісторыка паўстання 1863 года, сучасніка тых падзей В. Пшыбароўскага. Закрануўшы антышляхецкую канцэпцыю Каліноўскага, ён піша далей: «Больш важнай ад гэтых тэорый, якія тлумачацца маладосцю і пецярбургскім выхаваннем, дзе на глебе дэспатызму лягчэй за ўсё нараджаліся радыкальныя і крайнія ідэі, была іншая тэорыя Каліноўскага, пераняцая з “Колокола”. Як вядома, палітычная праграма Герцэна грунтавалася на тым, што ў будучым славянскія землі, пазбавіўшыся дэспатычных паноў і чужога ярма, павінны ўтварыць федэрацыю незалежных дзяржаў, якія маглі б, жывучы па суседстве, у ідылічнай згодзе развіваць усе свае нацыянальныя асаблівасці. Дык Каліноўскі гэтую тэорыю, ва ўсёй яе паўнаце, стасаваў да Літвы (Літвы-Беларусі. — *Г. К.*). Паводле яго, Літва павінна разам з Польшчай дабівацца незалежнасці, змагацца за выбаўленне ад чужога захопніка, але складаць асобную адзінку, зусім незалежную ад Польшчы і звязаную з ёй толькі федэратыўнымі вузамі. У адпаведнасці з гэтай тэорыяй, ён, уваходзячы ў Літоўскі камітэт, не хацеў прымаць ніякіх



загадаў з Варшавы, а хацеў, каб гэты камітэт распараджаўся і кіраваў паўстаннем самастойна і ў адносінах да Нацыянальнага ўрада займаў становішча ўлады роўнай і нікому не падначаленай» (*165–166*).

Паўторым, што гэта сведчанне вельмі кампетэнтнага сучасніка і гісторыка. Так што залежнасць беларускай палітычнай думкі перыяду 1863 года ад польскай не трэба абсалютызаваць, а такую небяспеку я адчуў, чытаючы, напрыклад, змястоўны ў прынцыпе артыкул Юрыя Туронка «Ваша национальность?» у «Нёмане» № 12 за 1992 год.

Мяркуючы па ўсім, Каліноўскі ў сваіх бліжэйшых планах бачыў беларусаў у адной дзяржаве з літоўцамі, пад агульным штандарам «Пагоні», як гэта было некалі ў часы ВКЛ. Таму і палітычная мяжа паміж народамі былога Княства, пра якую на працягу стагоддзяў не паклапацілася сама гісторыя, у часы Каліноўскага не была, здаецца, актуальная і ніяк нашым рэвалюцыянерам, прынамсі ў тых матэрыялах, што дайшлі да нас, не пазначана. Абвясціўшы 1 лютага н. с. 1863 года стварэнне Часовага ўрада Літвы і Беларусі, Каліноўскі зрабіў важны практычны крок у здзяйсненні свайго плана. Як вядома, гэтая ідэя была адроджана зноў у 1915–1917 гадах віленскімі беларускімі дзеячамі ў выглядзе маштабных праектаў «Канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага» або «дэмакратычнай Беларуска-Літоўскай дзяржавы» з аўтаноміяй беларускіх і літоўскіх земляў[71]. Ідэя сумеснай дзяржавы двух народаў у своеасаблівай форме закладзена таксама ў аснову ССР Літвы і Беларусі, што існавала нядоўгі час у 1919 годзе. (Хаця тут прычыніліся розныя іншыя фактары, і непасрэднай гістарычнай пераемнасці, здаецца, не было.)

Кастусь Каліноўскі марыў бачыць свой народ шчаслівым і свабодным, заможным і адукаваным. У «Пісьмах з-пад шыбеніцы» ён пісаў: «Нямаш, браткі, большага шчасця на гэтым свеце, як калі чалавек у галаве мае розум і науку. Тагды ён толькі магчыме (зможа. — *Г. К.*) жыці ў багацтве, па праўдзе, тагды ён толька, памаліўшысь Богу, заслужыць неба, калі збагаціць наукай розум, разаўе сэрца і радню цэлу сэрцам палюбіць» (*46*). «Радня цэла» — у дадзеным выпадку не толькі сваякі (гэта было б банальна), а ўсе суайчыннікі за выключэннем заўзятых рэтраградаў. Размова ідзе пра нацыянальную кансалідацыю на высокамаральнай аснове.

Як бачым, не адмаўляў Каліноўскі ў гэтым плане і значэнне рэлігіі. У «Мужыцкай праўдзе» і іншых зваротах да народа ён паслядоўна выказваўся за вяртанне да уніі, скасаванай у 1839 годзе царскім урадам.

[71] Гл.: Мікніс Р. Літва і Беларусь: супольная аўтаномія // Беларуская мінуўшчына. 1996. № 3; Знешняя палітыка Беларусі: зб. дак. і матэрыялаў. Т. 1. Мінск, 1997. С. 20–21.

Рабілася гэта, магчыма, не толькі з тактычных меркаванняў, каб лішні раз нагадаць народу пра крыўды, нанесеныя царызмам. Не выключана, што Каліноўскі глядзеў на унію як на канфесію, якая пры пэўных умовах магла б стаць нацыянальнай рэлігіяй беларусаў. Прынамсі гэта адпавядала б у нейкай ступені прамежкаваму геапалітычнаму становішчу Беларусі паміж Усходам і Захадам. Святар і даследчык А. Станкевіч у свой час пісаў пра гэта так: «Вось жа Каліноўскі жадаў закрануць гэту балючую рану, каб і на адцінку рэлігійнага жыцьця ўзбудзіць у нашым народзе нянавісьць да царскага на Беларусі панаваньня. Урэшце выступленьне нашага паўстанца за рэлігійную унію можна такжа тлумачыць як прынамсі падсьведамае імкненьне беларускай яго душы да шуканьня сінтэзы, да шуканьня моцнага і найбольш адпаведнага грунту дзеля закапаньня рэлігійнага рову, які разьдзёр беларускі народ на дзьве варожыя часткі. Гэткім грунтам, гэткім спосабам, у вачах яго сусім шчыра магла рысавацца іменна унія»[72]. Як бачым, нават вельмі блізкі да гэтай праблематыкі даследчык выказваецца тут даволі асцярожліва. Ды і ўвогуле праблема уніі — адна з самых складаных і цяжкавырашальных у беларускай гісторыі.

Вядома ж, як, мабыць, і кожны радыкальны палітык, Каліноўскі быў, мусіў быць досыць аднабаковым і, выступаючы за унію, дапускаў у сваіх творах, асабліва ў шостым нумары «Мужыцкай праўды», зняважлівае трэціраванне праваслаўя, на што справядліва звяртаюць увагу некаторыя даследчыкі, у прыватнасці У. Казбярук. Гэтая акалічнасць, мякка кажучы, не ўпрыгожвае твораў нашага героя-рэвалюцыянера, але ці ж можна праз гэта выстаўляць Каліноўскага нейкім «ідэолагам рэлігійнае хатняй вайны» ў Беларусі, як робіць ужо згаданы на пачатку нашага даклада А. Латышонак. Апошні зноў жа сумняваецца на гэтай падставе, ці быў Каліноўскі беларускім нацыянальным дзеячам.

Між тым навука даўно адказала на гэтае пытанне станоўча: Каліноўскі — выдатны беларускі нацыянальны дзеяч у спецыфічных умовах сярэдзіны XIX стагоддзя, паўстання 1863 года.

Раздумваючы пра шлях свайго народа, Каліноўскі, як і мы сёння, абапіраўся на вопыт мінулага, рамантызаваў гісторыю, знаходзіў у ёй прыцягальныя арыенціры, высокія прыклады, «аднаўляў “гістарычную даль” беларусаў»[73]. «Быў то калісьці народ наш вольны і багаты», — пісаў ён у «Мужыцкай праўдзе» (№ 2, *28*). Думаецца, ён успамінаў пры гэтым часы росквіту ВКЛ, калі беларусы годна баранілі межы сваёй

[72] Станкевіч А. Кастусь Каліноўскі, «Мужыцкая Праўда» і Ідэя Незалежнасьці Беларусі. Вільня, 1933. С. 30–31.

[73] Конан У. Гістарызму прынцып // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 3. Мінск, 1996. С. 7.



дзяржавы і з не меншым бляскам абаранялі мудрыя дысертацыі ў славутых еўрапейскіх універсітэтах.

«Буйным жыццём усё чыста кіпела, / Слава далёка за морам ішла…» — нібыта падхопліваючы-працягваючы гаворку Каліноўскага, скажа пазней, у нашаніўскі перыяд, Я. Купала (верш «Над Нёманам», 1911–1912). Наогул трэба падкрэсліць, што словы Каліноўскага — і гэта вельмі паказальна — лёгка знаходзіць паралелі (а часам і пэўную расшыфроўку) у творчасці нашаніўцаў.

Любімым героем Каліноўскага быў Т. Касцюшка. Каліноўскі высока цаніў гістарычнае значэнне такіх прагрэсіўных актаў, як Канстытуцыя 3 мая 1791 года, Паланецкі ўніверсал.

Ён бачыў свой народ свядомым змагаром за праўду, за лепшую будучыню.

А калі слова пяройдзе ў дзела,
Тагды за праўду станавіся смела,
Бо адно з праўдай у грамадзе згодна
Дажджэш, Народзе, старасці свабодна (*45*).

Неяк не адразу ўспрымаеш тут словы «старасць». А потым бачыш — гэта роздум Каліноўскага пра шлях свайго народа, роздум пра тое, што кожны народ праходзіць у сваім развіцці фазы, падобныя да фазаў жыцця асобнага чалавека: надзеі юнацтва, працы і здзяйсненні сталасці, нарэшце, прыдбаная пашана, назапашаны дастатак, мудрасць апошняй фазы. Прынамсі гэтага ён жадаў свайму народу. Нам важна сёння адзначыць, што Каліноўскі глядзеў на свой народ, які меў трывалыя гістарычныя карані, як на нацыю тым не менш маладую, поўную сіл, у якой усё яшчэ наперадзе.

Сугучныя думкі, у кожным разе блізкую тэрміналогію нечакана знаходзім у рускага крытыка і філосафа канца XIX — пачатку XX стагоддзя В. Розанава: «Было б памылковым думаць, што які-небудзь народ можа дасягнуць колькі-небудзь значнай старасці, г. зн. даўгавечнасці, не маючы чаго-небудзь, што саграваў б яго ў вяках і нарэшце ў тысячагоддзях»[74]. Беларусаў «сагравалі ў вяках» Ф. Скарына, колішні залаты Рэнесанс айчыннай культуры і дзяржаўнасці, а потым і сам К. Каліноўскі, яго агністае слова і яскравы жыццёвы подзвіг.

Кастусь Каліноўскі прадвызначыў многае ў далейшым шляху беларусаў. Нельга не пагадзіцца з А. Каўкам, які ў згаданым артыкуле ў «Спадчыне» справядліва гаворыць: «Этапную ролю ў далейшым развіцці рэвалюцыйна-дэмакратычнае традыцыі, усяго вызваленчага руху адыграла паўстанне 1863–1864 гг. на чале з К. Каліноўскім — мысляром,

[74] Розанов В. В. О писательстве и писателях. М., 1995. С. 59.

паэтам, публіцыстам, першым беларускім палітычным дзеячам новага часу. Дзейнасць Каліноўскага кладзе пачатак спалучэнню сацыяльна-эканамічных (найперш аграрных), палітычных, культурна-духоўных, у тым ліку рэлігійных, праблемаў у вызваленчым змаганні беларусаў. К. Каліноўскі ставіць, хай напачатку недастаткова выразна і паслядоўна, уласна беларускія (“літоўскія”) патрабаванні ў агульнапольскім нацыянальным руху (зноў гэты важны, дакладна заўважаны даследчыкам момант. — *Г. К.*), уключна з ідэяй самастойнасці Літвы-Беларусі ў дэмакратычным саюзе з Польшчаю і Расеяю. Легендарны паўстанец першы звярнуў увагу на сялянства як галоўную дзеятворную сілу беларускае нацыі, прысвяціў яму нелегальны перыёдык “Мужыцкая праўда”».

Адным з важнейшых момантаў беларускай нацыянальнай ідэі, як паказаў яшчэ І. Канчэўскі-Абдзіраловіч у знакамітым філасофскім эсэ «Адвечным шляхам», былі ўзаемадачыненні з Захадам і Усходам. Першую частку гэтай праблемы — стасункі з Варшавай — мы збольшага пазначылі. Гэтыя стасункі, як іх уяўляў Каліноўскі, можна акрэсліць двума словамі — падтрымліваць і спрачацца, ісці, наколькі магчыма, разам і адстойваць сваё.

Яшчэ больш складанай з’яўляецца пазіцыя Каліноўскага ў дачыненні да Расіі. Галоўным ворагам вызваленчага руху быў у той перыяд расійскі царызм. І ў той жа час існаваў рэвалюцыйны саюз народаў супраць самадзяржаўя, высокі міжнародны аўтарытэт рускіх рэвалюцыйных мысліцеляў, у першую чаргу А. Герцэна.

Каліноўскі многае (гэта даведзена ў шматлікіх сур’ёзных даследаваннях) узяў у рускіх рэвалюцыйных дэмакратаў. Перш за ўсё вострую сацыяльнасць, у той час як польская грамадска-палітычная думка назапасіла багаты досвед пастаноўкі нацыянальных пытанняў вызваленчага руху. Каліноўскі рашуча — асабліва па першым часе — размяжоўваў народ і царызм. Яму належаць высокія словы: «Народ маскоўскі скаланаецца ад нашай векавой крыўды. Ён свабодным братам нашым, а не прыгнятальнікам быць жадае і адказнасць перад нашчадкамі за нашу жалезную няволю рашуча ўскладае на гатовы пасці царызм» (*51*). Гэтая фармулёўка і сёння ўражвае сваёй бездакорнай узважанасцю і высакародствам.

Распачатае ўзброенае выступленне дыктавала новыя падыходы. У разгар паўстання 6 (18) ліпеня 1863 года ў Вільні, несумненна, з удзелам Каліноўскага была выпушчана адозва да народа Літвы-Беларусі, у якой гаварылася (перакладаем з польскай): «Ты паўстаў пад баявы сцяг: няма за ім спакойных гледачоў, толькі Бог адзін і натоўп бяззбройных і ўзброеных ворагаў, як народжаных на Доне ці Волзе, так і тых, што высыпалі ў царскай цяпліцы на Нёмане і Вяллі. Няма ніводнай



бязвіннай маскоўскай душы на нашай зямлі: сумленны сын Масквы бароніць сёння чэсць свайго народа ва ўласнай айчыне, а служкаў царызму на зямлі нашай чакае ганебная кара» (*110*). Па сутнасці, перад намі нібы далейшае развіццё ранейшай формулы ў новых умовах. Потым пад уплывам паразы паўстання, пад уплывам пачварнай дзейнасці Мураўёва-вешальніка і яго памагатых, ва ўмовах усё больш відавочнай кансалідацыі расійскага грамадства пад шавіністычнымі, антыпаўстанцкімі лозунгамі пачуццё Каліноўскага да Расіі яшчэ больш ускладнілася. У «Пісьмах з-пад шыбеніцы» ў яго вырваліся горкія і нават несправядлівыя словы ў адрас рускага народа, які, на яго думку, зусім змірыўся са сваім ярмом. Здаецца, Каліноўскі зрабіў канчатковы выбар: «Бо я табе з-пад шубеніцы кажу, Народзе, што тагды толька зажывеш шчасліва, калі над табою Маскаля ўжэ не будзе» (*46*). І разам з тым ён зноў і зноў вяртаўся да праблемы выбару шляхоў. У апошняй запісцы, адрасаванай уладам, ён прызнаваўся (прычым гэта не кан’юнктурныя словы — прынамсі ілюзій наконт свайго далейшага лёсу ў яго не было, літасці ён не чакаў): «Я не противник счастья народного, не противник и России, если она нам добра желает, но противник тех бедствий, которые посягают край наш несчастный» (*145*). (Зазначым у дужках — гэта цікава для літаратуразнаўцаў, — што руская мова яго не бездакорная, але яе моцна трымае ўнутраны рытм фразы, у прынцыпе аднолькавы, на якой бы мове ён ні пісаў.)

У рэшце рэшт галоўнаю мераю ўсяго для Каліноўскага былі «шчасце народнае», дабрабыт і духоўнае здароўе народа. І — праўда, якая ўяўлялася яму ў дзвюх ўзаемазвязаных іпастасях: праўда-ісціна і праўда-справядлівасць.

Гісторыя не дае гатовых рэцэптаў, простых рэкамендацый да дзеяння. Але для нас заўсёды надзвычай важны яе агульны сэнс, які заключаецца ў дадзеным выпадку ў тым, што беларуская нацыянальная ідэя, ідэя беларускай дзяржаўнасці — не мімалётны капрыз нейкай ізаляванай купкі нацыяналаў. Гэтая ідэя прыйшла да нас з глыбіні стагоддзяў і выпакутавана розумам і барацьбой многіх пакаленняў сыноў і дачок Беларусі, сярод якіх зоркай першай велічыні ззяе імя Каліноўскага.

Памяць пра гераічную барацьбу Каліноўскага з расійскім самадзяржаўем, пра яго непахіснасць у спрэчках з варшаўскімі канспіратарамі, якія не ўзнімаліся да разумення новай раскладкі сіл на гістарычнай арэне, гэтая памяць, як і яго вера ў годную будучыню свайго народа, увасобленая ў бліскучай публіцыстыцы, — ва ўсе часы, пры ўсіх выпрабаваннях будуць служыць падмуркам нязгаснай беларускай нацыянальнай ідэі, нацыянальнай свядомасці беларусаў.

# ЗДАРЭННЕ З ЯСЬКАМ-ГАСПАДАРОМ

Адозва гэта сапраўды нейкая дзіўная.

*Адам Станкевіч*

Там, дзе няма сапраўдных фактаў, гісторык не мае права выносіць нейкай з’яве свой прысуд, але ён можа выстаўляць уласныя меркаванні, гіпотэзы, не прэтэндуючы на канчатковую ісціну.

*Уладзіслаў Сыракомля*

У артыкуле «Прадвесне беларускага нацыянальнага Адраджэння» (Роднае слова. 1993. № 8) Уладзімір Казбярук, справядліва адзначыўшы недастатковую вывучанасць беларускай публіцыстыкі 1860-х гадоў, звязанай з паўстаннем Каліноўскага, узняў пытанне пра цікавы дакумент гэтага цыкла — «Пісьмо ад Яська-гаспадара да мужыкоў зямлі польскай». Гэтая беларуская адозва падчас паўстання была выдадзена асобнай улёткай з пячаткай друкарні Нацыянальнага ўрада. Вось яе поўны тэкст (пераводзім з лацінкі на кірыліцу, збольшага ўніфікуючы арфаграфію, але захоўваючы асаблівасці мовы).

**Пісьмо ад Яська гаспадара с-пад Вільні да мужыкоў зямлі польскай**

Дзяцюкі!

Калі Бог даў мне розум, то я вам буду радзіць, як рабіці трэба, каб было па справядлівасці і па праўдзе, а калі вы маеце розум, то мяне паслухайце.

Як толька запамятаюць нашыя бацькі, маскаль жыў адно ашуканствам і нячыстаю сілаю. Пакасаваў ён усё добрае, а ўстанавіў што адно можа выдумаць чартоўская хітрасць. Былі малыя падаткі, а ён, горла яго нясытае, устанавіў вялікія, якіх няма на цалюськам свеце; былі прывілеі Каралёў Польскіх, а цяпер гдзе яны? Сыноў нашых бяруць у рэкруты да і гоняць чорт ведае гдзе, каб прападалі марне як сабакі. Народ гіне, не мае чым пражыці, рвуць як могуць, нігдзе не найдзеш ніякай справядлівасці, скасавалі нашу Уніяцку Веру, адарвалі нас сілаю ад праўдзівага Бога, уагналі ў вечнае патэнпене. Пад Севастополём, калі Пранцуз прыняволіў Маскаля даці нам вольнасць, то ён адно ашуканствам займаўся, прашло шэсць лет, і мы ніякай вольнасці і ў очы не бачылі. Цяпер, калі Ронд Польскі аб’явіў, што зямлю мужыкоў паньскіх і казённых аддае на вечнасць мужыкам, а хто не мае зямлі і пойдзе да паўстаня, той дастане найменш тры моргі, то цар маскоўскі выдаў маніфэст, што мужык мусіць плаціць кожны рок вялікія грошы за сваю зямлю, што Ронд Польскі ім ужэ аддаў.

Дзяцюкі! калі цяпер Ронд Польскі, падняўшы паўстане проціў маскаля, дае нам зямлю, справядлівую вольнасць і Веру нашых Бацькоў, калі Пранцуз, Англічанін і цэлы свет ідзе нам памагаці, калі як шырока зямля наша, народ грамадою, хто зэ стрэльбаю, а хто с касою, ідзе на адвечнаго нашага непрыяцеля, маскаля паганаго, калі маскаль ад нашых кос агнём уцякае, чы ж мы, Дзяцюкі, сідзеці будзем? мы, што жывемо на зямлі Польской, што ямо хлеб Польскі, мы, Палякі з векаў вечных. Трэба нарэсьці і нам прыйці да таго розуму, што адно сілою дай касою даб’емся справядлівай вольнасці і веры нашых дзядоў і прадзедаў.

Даволі, Дзяцюкі, ужэ ждаці, настаў ужэ час, Божый час! хто за Рондам Польскім, таму праўдзіва Вольнасць, хто проціў яго, таму вечна няволя на гэтам, і вечнае патэнпене на тамтам свеце! Выберайце што каму лепшае.

Што да мяне, то я Вам, Дзяцюкі, кажу: бярэце за косы, гэта мая рада, а навекі расстанемся з маскалём паганым, з яго здзерствам, з яго сызмаю, з яго рэкрутчынаю, з яго сабачымі памерамі і аброкамі.

Ясько гаспадар с-пад Вільні

Вось такі дайшоў да нас дакументальны помнік таго бурлівага часу. Як бачым, псеўданім і стыль Каліноўскага, здаецца, яго энергічная, экспрэсіўная, вобразная, лаканічная, з асобнымі паланізмамі мова, любімыя ім «дзецюкі», але ёсць нешта, што насцярожвае, — ці атаясамліваў дзе яшчэ наш герой-рэвалюцыянер так бесцырымонна сялян-беларусаў з палякамі.

Сказаць, што гісторыкі «ўтойваюць» гэты дакумент, мабыць, наўрад ці правільна. У розныя часы гаворка пра «Пісьмо…» усчыналася. Паспрабуем пазначыць, прыгадаць тут некаторыя вехі тайнай і яўнай гісторыі «Пісьма…».

Яшчэ ў 1867 годзе адозва была передрукавана вядомым тагачасным дзеячам А. Гілерам у кнізе «Паўстанне польскага народа» (Парыж)

побач са славутымі «Пісьмамі з-пад шыбеніцы». Падкрэслім — побач, а не разам. Развітальныя лісты Каліноўскага змешчаны ў дадатку да гэтай кнігі пад № 11, «Пісьмо ад Яська…» — усутыч пад № 10. Ніякага каментарыя не зроблена, толькі падрабязна апісана пячатка — якая на ёй выява і які надпіс. (Заўважце: ужо другі раз гаворым мы пра пячатку — няйначай гэта тая стрэльба, якая потым павінна выстраліць.) Хаця суседства гэтых двух дадаткаў нібы прамаўляла само за сябе: абодва мелі адзін і той жа подпіс — Яська-гаспадар з-пад Вільні. Ды і ў тэксце кнігі згадвалася беластоцкая беларуская друкарня, дзе друкаваліся газеткі для народа, такія як (цытуем) «Апавяданне Янка-гаспадара з-пад Вільні», «Гутарка»; іх рэдактарам, паводле Гілера, быў Каліноўскі. Прыведзеная Гілерам назва «Апавяданне Янка-гаспадара…» — хутчэй за ўсё, вельмі прыблізная, нават апісальная — цалкам магла асацыявацца з надрукаваным у дадатку «Пісьмом ад Яська…». Пры перадрукоўцы «Пісьма…» Гілерам прапушчана некалькі слоў. Ніякага прынцыповага значэння гэта не мела — пропуск, відаць, выпадковы. Слова «даволі» ў пачатку перадапошняга абзаца чамусьці заменена на сінанімічнае «годзі». Апошнюю акалічнасць растлумачыць больш складана.

Новая цікавасць да «Пісьма…», як і да іншых дакументаў паўстання 1863 года, з’явілася на пачатку XX стагоддзя. Найперш у віленскім (у тым ліку беларускім) асяроддзі.

Як мы даведаліся з артыкула В. Шалькевіча (Беларусь. 1993. № 5), у 1911 годзе копію з арыгінала (друкаванага экзэмпляра?) «Пісьма…», які знаходзіўся ў рэдакцыі «Нашай нівы», зрабіў В. Ластоўскі.

Да пяцідзесяцігоддзя паўстання (1913) у Вільні выйшлі мемуары Я. Гейштара. У заўвагах да першага тома пра К. Каліноўскага, у прыватнасці, гаварылася: «…хацеў прывесці ў рух народныя масы і выдаваў у тайнай друкарні Нацыянальнага ўрада на беларускай мове газетку пад назвай “Мужыцкая праўда” (некалькі нумароў яе — бясконца рэдкіх — мае музей графа Мураўёва ў Вільні), а таксама адозвы на гэтай жа мове, як, напрыклад, “Пісьмо ад Яська Гаспадара с пад Вільні да мужыкоў зямлі польскай”» (выдаўцом мемуараў і аўтарам каментарыяў быў гісторык С. Касцялкоўскі).

У 1914 годзе вядомы знаўца крыніц па гісторыі паўстання 1863 года Станіслаў Зялінскі, кіраўнік бібліятэкі Польскага нацыянальнага музея ў Раперсвілі (Швейцарыя), вельмі багатай на зборы паўстанцкай дакументацыі, згадаў «Пісьмо…» у публікацыі «Спроба бібліяграфіі тайнай прэсы 1861–1864 гг.» у варшаўскім часопісе «Książka» (№ 4–5). Наступны пасаж з артыкула паказвае, як мала быў тады яшчэ вывучаны беларускі падпольны друк перыяду паўстання. Усё звалена ў адну кучу, даследчык (а гэта ж не які навічок, а сапраўдны вучоны) ніяк не можа звесці канцы з канцамі. Цытуем: «“Гутарка двух суседаў” з’яўляецца, як мяркую, трэцім нумарам брашуры, якія выходзілі пад рознымі назвамі, як “Мужыцкая праўда”, “Гутарка старога дзеда”, і друкаваліся лацінскім шрыфтам на беларускай гаворцы. Праўда, “Głos Wolny” (польская лонданская газета 1863 г. — *Г. К.*) у пятым нумары паведамляе, што выйшаў 6-ы нумар выданейка “Мужыцкая праўда”, які пачынаецца са слоў “Дзяцюкі”, аднак той лісток (“Мужыцкая праўда”. — *Г. К.*), наколькі мне вядома, не нумараваны, як не мае нумарацыі другая лістоўка, што падпадае пад катэгорыю гэтых гутарак, а менавіта “Пісьмо ад Яська Гаспадара”. “Виленский вестник” у № 35 за 1863 г., паведамляючы пра асуджэнне двух грамадзян на 6 гадоў катаргі за распаўсюджванне нелегальнай літаратуры, называе “Мужыцкую праўду” брашурай, а не газеткай. Дакладных звестак пра гэтыя брашуры, над якімі працавалі ў ліку іншых Канстанцін Каліноўскі і Браніслаў Шварцэ, я не знайшоў…» — прызнаецца карпатлівы даследчык. Доўгі шлях да высвятлення сапраўднай карціны публіцыстычнай спадчыны паўстання чакаў наперадзе гісторыкаў польскіх, расійскіх, беларускіх, літоўскіх.

Гістарычны матэрыял нярэдка набываў палітычную актуальнасць, што замінала аб’ектыўнаму аналізу.

У 1923 годзе цытату з «Пісьма…» выкарыстаў ужо згаданы польскі гісторык С. Касцялкоўскі ў спрэчках з літоўскім калегам А. Янулайцісам на старонках часопіса «Ateneum Wileńskie». Для Касцялкоўскага «Пісьмо…» было несумненным доказам таго, што «сепаратызм» Каліноўскага меў досыць адносны, абмежаваны характар і кіраўнік віленскага паўстанцкага цэнтра не ставіў перад сабой задачу аддзялення «Літвы» ад Польшчы.

Факсіміле «Пісьма…» паводле друкаванага экзэмпляра са згаданага музея ў Раперсвілі прывёў у сваёй вядомай кнізе «Год 1863» польскі гісторык Ю. Грабец. Адозва прадстаўлена тут, так бы мовіць, жывўцом як каларытная памятка паўстання. Пытання пра аўтарства Грабец не ўзнімаў. У нашай акадэмічнай бібліятэцы ёсць другое выданне гэтай кнігі (Познань, 1922). Ясную, чытэльную рэпрадукцыю нашай адозвы бачым на старонцы 345. Менавіта гэтым выданнем карыстаўся У. Ігнатоўскі, працуючы над знакамітай сваёй «Гісторыяй Беларусі ў XIX і пачатку XX ст.». У «Гісторыі…» Ігнатоўскага прыведзены некаторыя ілюстрацыі з кнігі Грабца (гэта ўдаецца вызначыць непасрэдным, што называецца, візуальным супастаўленнем дзвюх кніг), у тым ліку факсіміле «Пісьма…». Ігнатоўскі даў да гэтай ілюстрацыі подпіс: «Адозва Каліноўскага». Спецыяльна на гэтым дакуменце гісторык не спыняўся.

У гэты час асобнік «Пісьма ад Яська…» быў у Беларускай дзяржаўнай бібліятэцы. Паводле гэтага экзэмпляра апісала «Пісьмо…» бібліёграф Ю. Бібіла (Летапіс беларускага друку. Ч. 2. Паасобныя выданні на беларускай мове. 1835–1916 гг. Менск, 1929). Адозва апісана на псеўданім Яська-гаспадар, пытанне аб аўтарстве ў кнізе не ставілася. Аднак у анатацыі пільная Ю. Бібіла зноў жа спецыяльна пазначыла: «На адозве Бел. Дзярж. Бібліятэкі пячатка: “Друкарня Нацыянальнага ўрада”». Дададзім, што лістоўку з «Пісьмом…» можна бачыць у аддзеле рэдкай кнігі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі і цяпер. Ці той самы гэта экзэмпляр, які трымала ў руках Ю. Бібіла, цяжка сказаць. Поўнай пераемнасці паміж фондамі даваеннай і сённяшняй бібліятэкі ў сувязі з ваеннымі стратамі няма. Улётка разам з некалькімі нумарамі «Мужыцкай праўды» выяўлена сярод неапісаных фондаў бібліятэкі ў 1966 годзе[75].

Не бачыў розніцы паміж «Мужыцкай праўдай» і «Пісьмом ад Яська-гаспадара» С. Агурскі, аўтар дыскусійных «Нарысаў па гісторыі рэвалюцыйнага руху на Беларусі» (1928). Ён працытаваў «Пісьмо…» паводле «арыгінала», які захоўваўся ў тагачасным Музеі Рэвалюцыі БССР, адразу пасля вытрымак з «Мужыцкай праўды» і падкрэсліў: «Усе пералічаныя адозвы былі падпісаны адной асобай “Яська Гаспадар з-пад Вільні”, у ім некаторыя гісторыкі бачаць Кастуся Каліноўскага…» Гэтую ж пазіцыю Агурскі рашуча адстойваў на абмеркаванні кнігі ў гістарычнай секцыі Навуковага таварыства марксістаў Беларусі: «…гутарка аб тым, што гэтыя лісткі (“Мужыцкая праўда” і “Пісьмо…”. — *Г. К.*) былі народніцкімі, не вытрымлівае крытыкі, бо яны прасякнуты польскім шавінізмам і каталіцызмам…»[76]. Дылетанцкі, па сутнасці антыгістарычны падыход С. Агурскага да асвятлення праблем паўстання 1863 года тады ж быў выкрыты сур’ёзнымі беларускімі даследчыкамі (У. Пічэта і інш.). Ды наш артадокс не здаваўся. У 1929 годзе выкрываў «ідэалізацыю» Каліноўскага на XII з’ездзе КП(б)Б, а ў наступным годзе перанёс дыскусію на старонкі маскоўскага часопіса «Пролетарская революция» (Агурский С. Национал-демократические тенденции на историческом фронте в Белоруссии // Пролетар. революция. 1930. № 7–8).

Аднак сумненні ў тым, што аўтарам «Пісьма…» быў Каліноўскі, пачалі з’яўляцца даволі рана.

Яшчэ Іван Віткоўскі, беларускі (дакладней, беларуска-польскі) гісторык неардынарнага лёсу (атрымаў каталіцкую духоўную адукацыю, а потым узначальваў польскія сектары Інбелкульта і БАН) у грунтоўнай працы «Паўстанне 1863 года і рускі рэвалюцыйны рух пачатку 1860-х гадоў: Спроба параўнання праграмаў і дзейнасці на падставе тагачасных нелегальных выданняў» (Мінск, 1931, на польскай мове) пісаў: «Папулярным подпісам “Яська-гаспадар з-пад Вільні” карысталіся ў выданнях і тыя, хто прытрымліваўся зусім іншага кірунку, чым “Мужыцкая праўда”. Прыкладам з’яўляецца “Пісьмо ад Яські-гаспадара…”». На жаль, рэпрэсіі 1930-х гадоў не далі магчымасці даравітаму гісторыку працягваць свае даследаванні. Віткоўскага трэба прызнаць піянерам паглыбленага вывучэння беларускай агітацыйнай публіцыстыкі эпохі Каліноўскага. Здаецца, менавіта ён першы заўважыў, што «Пісьмо…» выпадае з кантэксту творчасці і дзейнасці нашага выдатнага рэвалюцыянера.

Зацятыя дыскусіі працягваліся ў Заходняй Беларусі.

Адам Станкевіч, а быў ён дапытлівым даследчыкам, у кнізе «Кастусь Каліноўскі, “Мужыцкая праўда” і ідэя Незалежнасці Беларусі» (1933) пісаў:

«Польскія некаторыя гісторыкі, залічаючы К. Каліноўскага да палякаў, пераважна паклікаюцца на “Пісьмо Яські гаспадара з пад Вільні да мужыкоў зямлі польскай”, у якім аўтар заклікае беларусаў да паўстання разам з палякамі, бо “мы — кажа — жывемо на зямлі польскай, емо хлеб польскі, мы палякі з векоў вечных”.

Адозва гэта сапраўды нейкая дзіўная.

Дух гэтай адозвы знаходзіцца ў яўнай супярэчнасці з усімі іншымі вышэйуспомненымі друкамі К. Каліноўскага ў сэнсе прадусім нацыянальным. Магчыма, што ён гэтак прамаўляў да беларусаў каталікаў, — якія тады дзеля аднолькавасці рэлігіі з палякамі і дзеля агульнай цемнаты напэўна лічыліся палякамі і якіх палякі такімі ж лічылі, — каб іх вастрэй процістравіць маскалём. Мог такжа К. Каліноўскі назваць усіх беларусаў палякамі — і Беларусь з Літвой зямлёй польскай — у значэнні палітычным што да мінуўшчыны, што на землях тутэйшых панавала калісьці Польшча, каб сялянам прыпомніць, што маскаль тут нявечны. Але сказаць, што “мы ямо хлеб польскі”, сказаць да сялян, з якімі Каліноўскі быў усей душой, якіх так высока цаніў працу, — гэта не ў дусе Каліноўскага. Ведаем, што беларускія друкі, каб заклікаць сялян да паўстання, выдавала такжа і буйная шляхта. Вось жа надта магчыма, што нехта з яе скарыстаў з папулярнасці Каліноўскага і зрабіў звычайны падлог, падшываючыся пад яго шырока сялянам вядомую мянушку: Яська гаспадар з пад Вільні. Быць можа — дакладныя студыі над Каліноўскім, асабліва беларускіх гісторыкаў, выясняць і гэтую няўразнасць, кідаючую цень як на нацыянальнасць, так і на беларускія і агульна краёвыя самастойніцкія ідэалы яго. Аднак паўтараем — тое ўсё, што мы ў гэтым сэнсе аб Каліноўскім сказалі, служыць нам дастатковым доказам і яго беларускіх палітычных самастойніцкіх ідэалаў.

[75] ЛіМ. 1966. 13 снеж.

[76] Марксісцкі зборнік. Мінск, 1929. С. 220.

Гэта ўсё так ясна ў гісторыі, што напр. віленскі праф. Ст. Касьцялкоўскі (рэцэнзія на кніжку аб паўстанні ў Літве 1863 г. А. Янулайціса. Aten. Wil. № 3–4, str. 587. Wilno, 1923), які апіраецца іменна на гэну адозву Каліноўскага, прыпісвае яму ідэалы агульна-польскія, а усёж-дыкі заве яго "gui generis сепаратыстам", свайго роду самастойнікам. А гэна самастойніцкае імкненьне Каліноўскага, імкненьне ў пэўнай меры аддзяліцца ад Польшчы між іншым пэўне ж апіралася і на яго беларускасці»[77].

Прыведзены вялікі фрагмент з кнігі А. Станкевіча сведчыць пра яго здольнасць усебакова ахапіць прадмет гаворкі, пра яго дастаткова высокае майстэрства аб'ектыўнага навуковага аналізу.

Дамо далей слова польскаму даследчыку і літаратару пасляваеннага часу Кшыштафу Канкалеўскаму, які ў выдатнай працы «Канстанцін Каліноўскі і яго творы», без ваганняў залічыўшы да творчага даробку Каліноўскага «Мужыцкую праўду», дадаваў: «Затое можна пагадзіцца з тымі гісторыкамі, якія з вялікім скептыцызмам ставяцца да аўтарства адозвы пад назвай: "Пісьмо Яська Гаспадара спад Вільні да мужыкоў зямлі польскай", якая некаторымі прыпісваецца Каліноўскаму. Хаця адозва гэтая падпісана імем, якое ўжываў Каліноўскі, аднак яе змест цалкам адыходзіць ад поглядаў Каліноўскага і ад зместу "Мужыцкай праўды", а таксама напісанага незадоўга да смерці "Пісьма з-пад шыбеніцы". Невядома, ці не белыя або Дзюлеран (камісар варшаўскага Жонда ў Вільні. — *Г. К.*), ведаючы папулярнасць подпісу "Яська Гаспадар", выкарысталі яго ў гэтай адозве для сваіх мэтаў»[78].

Некалькі разоў, пачынаючы з артыкулаў 1950-х гадоў[79], выказваўся пра «Пісьмо…» вядомы гісторык А. П. Смірноў. Найбольш падрабязна ён спыняецца на гэтым пытанні ў сваім грунтоўным даследаванні пра «Мужыцкую праўду»[80]. Прасочым за ходам яго думкі (дзеля эканоміі месца мы крыху скарачаем шматкроп'ем у квадратных дужках поўную назву дакумента, пра які ўся наша гаворка): «Што да сцвярджэнняў, быццам Каліноўскі быў аўтарам так званага "Пісьма Яські […]", то іх трэба адпрэчыць. Змест гэтага пісьма, якое выйшла прыкладна вясной 1863 г., карэнным чынам адрозніваецца ад сёмага нумара "Мужыцкай праўды", абнародаванай у гэты ж час, па асноўным пытанні

[77] Stankiewič A. Kastuś Kalinoŭski: «Mużyckaja Praŭda» i Ideja Niezaležnaści Biełarusi. Wilnia, 1933. S. 41–43.

[78] Kąkolewski K. Konstanty Kalinowski i jego piśma w latach 1862–1864 // Z dziejów współpracy rewolucyjnej Polaków i Rosjan w drugiej połowie XIX wieku. Wrocław, 1956. S. 195.

[79] Гл.: Смірноў А. Гісторыкі народнай Польшчы пра Кастуся Каліноўскага // Полымя. 1958. № 1.

[80] Смирнов А. «Мужицкая правда» // Восстание 1863 г. и русско-польские революционные связи 60-х годов. М., 1960. С. 21–22.



паўстання — аграрным. "Мужыцкая праўда" сцвярджае, што існы парадак павінны быць зменены ў адпаведнасці з інтарэсамі сялянства. Зусім інакш вырашаецца пытанне ў пісьме. Яно высоўвае патрабаванне перадачы сялянам, і да таго ж за выкуп, толькі той зямлі, якая знаходзіцца ў іх карыстанні на момант апублікавання маніфеста варшаўскага Жонда ад 22 студзеня 1863 г. Такім чынам, велізарныя зямельныя ўчасткі, захопленыя памешчыкамі ў сялян у перыяд падрыхтоўкі рэформы 1861 г., пакідаюцца ў эксплуататараў. Інтарэсы беззямельнага сялянства зусім абмінаюцца, калі не лічыць мізэрнай абяцанкі надзялення ўчасткамі ў 3 моргі пасля перамогі паўстання.

У пісьме і размовы няма аб пераўтварэнні існых парадкаў у адпаведнасці з жаданнямі сялянства, што яскрава выказана ў "Мужыцкай праўдзе".

Пісьмо, адрасаванае "мужыкам зямлі польскай", змяшчае сцверджанне, што ўсе жыхары Беларусі і Літвы з'яўляюцца "палякамі з векаў вечных". Гэта таксама супярэчыць поглядам групы Каліноўскага. Яна адрасавала свае адозвы "да народа зямлі літоўскай і беларускай" нават і тады, калі была вымушана прызнаць сваю залежнасць ад варшаўскага Жонда. Ставячы ў сваіх адозвах на першы план вырашэнне аграрнага пытання ў адпаведнасці з інтарэсамі сялянства, група Каліноўскага абараняла свабоду нацыянальнасцей і ніколі не называла беларусаў і літоўцаў палякамі. Вядома, што рэвалюцыйныя адозвы таго часу завяраліся пячаткай камітэта, які іх выпускаў. "Мужыцкая праўда" наогул не мела пячаткі, таму што не была афіцыйным органам Літоўскага правінцыяльнага камітэта. Органам гэтага камітэта быў "Сцяг свабоды". Пазней, у ходзе паўстання, Каліноўскі змацоўваў свае адозвы пячаткамі. Так, на загадзе аб уступленні яго на пасаду гродзенскага рэвалюцыйнага камісара стаіць пячатка з надпісам: "Урадавы камісар Гродзенскага ваяводства". Аднак "Пісьмо Яські […]", якое выйшла ў той перыяд, калі Каліноўскі быў на Гродзеншчыне, мае пячатку не гродзенскага камісара, а друкарні Жонда Нарадовага. Гэтую адозву змацаваў сваім імем Жонд, а не Каліноўскі. Нарэшце, мы не можам прайсці міма таго факта, што ў "Мужыцкай праўдзе" № 7, якая распаўсюджвалася неўзабаве пасля "Пісьма […]", змяшчаюцца словы: "Доўга маўчаў я, не казаў вам нічога, бо хацеў разглядзецца добра да разабраць, што гэта дзеецца на свеце, штаб ужэ спавясціць вас па справядлівасці да сказаць… што нам цяпер трэба рабіць". У дадзеных словах змяшчаецца відавочнае сведчанне таго, што аўтар "Мужыцкай праўды" не звяртаўся да народа ў якіх-небудзь адозвах.

Моўныя асаблівасці адозваў таксама сведчаць пра тое, што яны не належаць пяру аднаго аўтара.

Усё гэта прыводзіць да высновы, што "Пісьмо [...]" не з'яўляецца творам, якія выйшаў з колаў рэвалюцыйнай дэмакратыі. Відавочна, папулярнасць "Яські" спрабавалі выкарыстаць члены так званай партыі "белых"».

Вось такі ўсебаковы разгляд гэтага дакумента і пытання пра яго аўтэнтычнасць зрабіў А. П. Смірноў. Былі тут надзвычай трапныя і пераканаўчыя назіранні (здаецца, менавіта Смірноў першы, ва ўсякім разе, адзін з першых надаў прынцыповае значэнне пячатцы), прываблівае сам даследчыцкі пафас гісторыка, універсалізм падыходаў, хоць некаторыя высунутыя ім палажэнні маглі выклікаць (дый сапраўды выклікалі) і пярэчанні.

У прыватнасці, як мы ўжо гаварылі, па сваёй мове і стылі «Пісьмо...» якраз вельмі блізкае да вядомых твораў Каліноўскага.

Можна таксама пагадзіцца з польскім гісторыкам Д. Файнгаўзам, які ў карпатлівым даследаванні «Канспіратыўная прэса Студзеньскага паўстання ў Літве і Беларусі»[81] выказаў думку, што ў сацыяльнай праграме «Пісьма ад Яська...» і «Мужыцкай праўды» № 7 прынцыповай розніцы няма. Дададзім ад сябе, што якраз 3 моргі зямлі, як і ў «Пісьме...», абяцаў беззямельным паўстанцам Літоўскі правінцыяльны камітэт Каліноўскага ў сваім маніфесце пра пачатак паўстання, датаваным 1 лютага 1863 года (новага стылю).

Д. Файнгаўз прывёў таксама вельмі важны новы архіўны матэрыял па гэтым пытанні. У Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве, паведамляе даследчык, захоўваецца незавершаная рукапісная праца гісторыка-бібліёграфа С. Пісарскага пачатку XX стагоддзя «Польскі перыядычны друк 1861–1864 гадоў». Аснову працы складае каталог, у якім на сваім месцы згадваецца і «Пісьмо ад Яська...», а ў дадатку падаецца яго копія, аналагічная тэксту Гілера, і гаворыцца, што гэтае выданне рэдагаваў Каліноўскі і — тут Файнгаўз цытуе Пісарскага — «пададзены экзэмпляр з'яўляецца памяткай па Канстанціне Каліноўскім, яго рукой праўлены». Вось так, ні больш ні менш — праўлены рукой самога Каліноўскага! Навуковая каштоўнасць гэтага сведчання ўзрастае, калі даведваемся (з прадмовы да зборніка «Падпольная прэса 1861–1864 гг.»[82]), што Станіслаў Пісарскі быў даволі блізкім сваяком (зяць сястры) А. Гілера, сам калекцыяніраваў тайную паўстанцкую прэсу і іншыя дакументы таго перыяду. А да Гілера ж — мы ведаем — нейкім чынам трапілі рэшткі творчай спадчыны Каліноўскага, менавіта ён быў першым выдаўцом яго славутых «Пісьмаў з-пад шыбеніцы». Можа — прыходзіць у галаву думка, — наяўнасцю экзэмпляра з аўтарскай праўкай

[81] Fajnhaus D. Prasa konspiracyjna powstania styczniowego na Litwie i Białorusi (1861–1864) // Rocznik Białostocki. T. 4. 1963.

[82] Prasa tajna z lat 1861–1864. Cz. 1. Wrocław; Warszawa; Kraków, 1966.



і тлумачыцца варыянтнасць прыведзенага Гілерам тэксту «Пісьма...», пра што мы гаварылі ў пачатку нашага артыкула (хаця, з другога боку, вядома, што Гілер часам адступаў і ад аўтографаў). Разам з тым нельга не адзначыць, што якраз адносна «Пісьма...» у каталогу Пісарскага вялікая прыкрая блытаніна. Ён падае «Пісьмо...» як перыёдык, які нібыта выходзіў нерэгулярна ў 1862 і 1864 гг. (якраз 1863 год, якім і трэба датаваць «Пісьмо...», чамусьці прапушчаны). Між тым ніякіх звестак, нават намёкаў, каб «Пісьмо ад Яська...» мела нейкі працяг у часе, было перыядычным выданнем, сёння ў даследчыкаў няма. «Пісьмо...» мае ўсе прыкметы аднаразовай адозвы. Так што Пісарскі, мабыць, уяўляў сабе беларускі друк перыяду паўстання гэтаксама ж цьмяна, як і яго цёзка і сучаснік Станіслаў Зялінскі, пра што мы пісалі вышэй. Мог памыліцца ён і ў вызначэнні почырку Каліноўскага на экзэмпляры, якім карыстаўся. Сёння такі паасобнік невядомы. Калі б мы мелі такі экзэмпляр і графалагічная экспертыза пацвердзіла б прыналежнасць почырку Каліноўскаму, гэта была б іншая размова. А пакуль нам застаецца рупліва і абачліва ўзважваць усе вядомыя акалічнасці. Вернемся да артыкула ў «Roczniku Białostockim».

Некаторыя пытанні Д. Файнгаўз вырашае ў духу А. Станкевіча. «Больш складанай, — піша ён, — з'яўляецца справа з ужываннем аўтарам "Пісьма Яська Гаспадара" звароту: "мы, што жывемо на зямлі Польскай... Палякі з векаў вечных", у той час як Каліноўскі ў астатніх сваіх выданнях ужываў вызначэнне "народ Літвы і Беларусі". Можам, аднак, дапусціць, што ў дадзеным выпадку мелася на ўвазе моцная дэманстрацыя перад Еўропай і царскім урадам адзінства інтарэсаў з Польшчай, і слова "паляк" ужыта ў пераносным сэнсе, каб падкрэсліць, што ўвесь абшар, дзе разгортваецца паўстанне, з'яўляецца "польскім"».

Наконт пячаткі Д. Файнгаўз прызнае, што «ўласна гэтая акалічнасць хіба найцяжэй паддаецца вытлумачэнню». Увогуле, на думку польскага вучонага, уся сітуацыя з «Пісьмом...» вымагае дадатковага даследавання.

Такім чынам, не толькі ў беларускіх і рускіх даследчыкаў, але і ў іх польскіх калег ёсць большыя або меншыя сумненні ў аўтэнтычнасці гэтага дакумента. У вельмі ўзважаным рэдакцыйным артыкуле пра Каліноўскага ў аўтарытэтным «Польскім біяграфічным слоўніку» (т. 11, 1965) пра «Пісьмо ад Яська...» сказана: «...друк, прыпісваны К[аліноўск]аму, вы[дадзены], здаецца, "белымі" як акт супраць рэвалюцыйнай прапаганды...»

Зазірнём таксама ў польскія бібліяграфіі. У спецыяльнай фундаментальнай бібліяграфіі Э. Казлоўскага, прысвечанай паўстанню 1863 года[83], «Пісьмо...» пададзена пад № 4349 па першым слове загалоўка.

[83] Kozłowski E. Bibliografia powstania styczniowego. Warszawa, 1964.

Прыведзены загаловак, пачатак тэксту, подпіс. Далей чытаем: «Без месца і года выдання. Друк Нацыянальнага ўрада, 8°, ненумараваных старонак 1». І ніжэй анатацыя адным словам: «К. Каліноўскі». У другім выданні знакамітай «Польскай бібліяграфіі XIX стагоддзя» К. Эстрайхера[84] гэтая адозва апісваецца на імя К. Каліноўскага як адзіны яго, не лічачы «Мужыцкай праўды», твор, які выйшаў асобным выданнем. Праўда, у анатацыі ўдакладняецца: «Друк, прыпісваны К. Каліноўскаму».

Не можам абмінуць тут таксама палемічны артыкул маскоўскага вучонага М. В. Міско (з Беларусі родам) «Пра асвятленне характару паўстання 1863 г. у Літве і Беларусі ў некаторых працах савецкіх аўтараў»[85]. Наш зямляк з вялікім імпэтам — дзе справядліва, а дзе і не — крытыкаваў там працы савецкіх гісторыкаў, у першую чаргу А. П. Смірнова, за пэўныя нацяжкі ў ацэнцы характару беларуска-літоўскага паўстання і яго дзеячаў. Прыгадаў ён і дакумент, які нас цяпер цікавіць, прычым і сам не абышоўся без палемічнага перабольшання. Мяркуйце самі — цытую: «Пісьмо “Да мужыкоў зямлі польскай” знаходзіцца ў поўнай адпаведнасці з усім, што было напісана або рэдагавана Каліноўскім — з “Мужыцкай праўдай”, з яго загадамі і, у прыватнасці, з пісьмом “Да беларускага народа” (так званым “пісьмом з-пад шыбеніцы”), якое напісана ўжо пасля арышту і не выклікае сумненняў у прыхільнікаў новых ацэнак». Так лічыць М. Міско. Але мы ўжо бачылі, што адрозненні (прычым прынцыповыя) былі — іх заўважыў не толькі А. П. Смірноў, але і А. Станкевіч, К. Канкалеўскі і інш. Нельга не адзначыць, што ў далейшых сваіх разважаннях М. Міско, на жаль, дэманструе часам няўвагу да канкрэтнага матэрыялу, блытае «Пісьмы з-пад шыбеніцы» Каліноўскага з яго ж вядомай тлумачальнай запіскай ад 28 лютага 1864 года, адрасаванай царскім уладам. Гэта недаравальна для прафесійнага гісторыка, да таго ж не навічка ў праблематыцы паўстання (М. Міско — аўтар навукова-папулярнай манаграфіі «Польскае паўстанне 1863 года», выдадзенай у Маскве ў 1962 годзе). Тым больш калі ён сурова папраўляе іншых.

Дзеля паўнаты карціны трэба сказаць, што некаторыя беларускія вучоныя і ў наш час лічаць «Пісьмо…» творам Каліноўскага. У прыватнасці, вядомы беларускі паэт і літаратуразнавец, што жыве ў Польшчы, А. Баршчэўскі пісаў у «Аглядзе публіцыстычна-літаратурнай спадчыны Кастуся Каліноўскага»: «“Мужыцкая праўда”, займаючы ў яго [Каліноўскага] публіцыстычных дасягненнях галоўнае месца, не

[84] Estreicher K. Bibliografia polska XIX stulecia. T. 14. Kraków, 1987.

[85] Миско М. В. Об освещении характера восстания 1863 г. в Литве и Белоруссии в некоторых работах советских авторов // Славянская историография. М., 1966. С. 141–175.



з'яўляецца адзіным творам Каліноўскага. Яго публіцыстычна-літаратурная спадчына дапаўняецца “Пісьмом Яські гаспадара з-пад Вільні” і “Пісьмом з-пад шубеніцы”[86], напісаным напярэдадні смерці ў час прабывання ў віленскім астрозе”[87]. Гэтая ж думка ў больш сціслай форме паўтараецца і ў курсе гісторыі беларускай літаратуры XIX стагоддзя, апублікаваным А. Баршчэўскім у беластоцкай “Ніве”. Працытуем зноў: “Публіцыстычна-літаратурная спадчына Каліноўскага гэта: сем нумароў газеты “Мужыцкая праўда”, “Пісьмо Яські гаспадара з-пад Вільні”, “Пісьмо з-пад шубеніцы”»[88]. Пра выказаныя многімі даследчыкамі сумненні ў аўтэнтычнасці «Пісьма ад Яська…» нідзе нават не згадваецца. Трэба сказаць, што ў паважных і цікавых экскурсах Баршчэўскага ў каліноўсказнаўства сустракаюцца прыкрыя недагляды (як у першай, так і ў другой публікацыях Я. Гейштар паслядоўна блытаецца з А. Гілерам). Не ўзнікае пытанняў пра аўтарства і ў У. Казберука, які, праўда, спецыяльна гэтай праблемы не вывучаў.

Супраць прыпісвання Каліноўскаму «Пісьма ад Яська…» пераканана выступіў наш вядомы гісторык М. В. Біч у артыкуле пра нацыянальнае і аграрнае пытанні ў час паўстання 1863 года[89].

Розныя пункты гледжання ў свой час імкнуўся ўлічыць А. Мальдзіс у тэксце, напісаным для другога тома «Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры»: «Магчыма, Каліноўскі быў і аўтарам аддрукаванага ў Парыжы (? — *Г. К.*) “Пісьма ад Яські — гаспадара з-пад Вільні да мужыкоў зямлі польскай”, хоць не выключана, што папулярнасць “Яські” на гэты раз выкарысталі “белыя” — па сваёй ідэйнай накіраванасці “Пісьмо” часта разыходзіцца з “Мужыцкай праўдай”»[90].

І ўсё ж для канчатковага вырашэння пытання зроблена яшчэ далёка не ўсё. На жаль, дагэтуль не высветлены толкам некаторыя важныя першачарговыя пытанні, звязаныя з «Пісьмом…», а менавіта дакладны час выдання гэтага дакумента і тэрыторыя, на якой ён пашыраўся.

У следчай справе па гродзенскай паўстанцкай арганізацыі (ДГА Літвы. Ф. 1248. Воп. 2. Спр. 917в) прыводзіцца такі выпадак.

[86] У такой форме часам пісаў слова “шыбеніца” Каліноўскі. Уплыў польскай, а магчыма, дыялектнае беларускае з родных мясцін Каліноўскага (заходнія ўскраіны Беларусі).

[87] Баршчэўскі А. Агляд публіцыстычна-літаратурнай спадчыны Кастуся Каліноўскага // Навукова-літаратурны зборнік і беларускі каляндар 1961 г. Беласток, 1961. С. 70.

[88] Баршчэўскі А. Перыяд XIX стагоддзя: Кастусь Каліноўскі // Ніва. 1972. 19 ліст.

[89] Гл.: Біч М. Нацыянальнае і аграрнае пытанне ў час паўстання 1863–1864 гг. // Беларускі гістарычны часопіс. 1993. № 3.

[90] Мальдзіс А. Літаратура XIX ст. // Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры: у 2 т. Т. 2. Мінск, 1969. С. 61.

У верасні 1863 года сяляне маёнтка Паўловічы Сакольскага павета (Беласточчына) перадалі царскім уладам паперы, знойдзеныя імі (нібыта яшчэ ў жніўні) у панскім садзе. Там былі асобныя дакументы павятовай паўстанцкай арганізацыі і сярод іх — друкаваны лісток з «Пісьмом ад Яська…».

Спецыяльнае расследаванне ў Паўловічах у сувязі з гэтым царскія ўлады праводзілі ў сакавіку 1864 года. Селянін Цімох Сцяжэўскі расказаў на допыце, што летась (г. зн. у 1863 г.) на Масленіцу ён сёк дровы ў маёнтку, потым снедаў у чалядні. Дачка панскага фурмана Мар'яна Альшэўская (цытуем) «показала мне печатный листок, говоря, что это мужик с-под Вильно пишет, и стала потом читать его. Я просил ее из любопытства дать мне листок этот взять с собой в деревню, где — говорил я Марьяне — найдутся грамотные и тоже прочтут». Мар'яна сказала яму, што ўзяла лісток у панскіх пакоях, але ўсё ж дала яго Сцяжэўскаму. Потым яго нібыта забраў назад Мар'янін бацька-фурман. Царскія чыноўнікі ў парадку следчага эксперымента прачыталі Сцяжэўскаму «Пісьмо ад Яська…», і селянін прызнаў, што гэта тое самае. Мар'яна на допыце сказала, што сапраўды перад Вялікім пастом перадала Сцяжэўскаму друкаваны лісток, але ці гэты самы — не памятае.

Уся справа набыла нежартоўны абарот. Небарака-селянін за цікавасць да рэвалюцыйных адозваў атрымаў арыштанцкія роты, Мар'яна адседзела год у турме з наступнай высылкай пад нагляд паліцыі ва «ўнутраныя губерні» Расіі.

Трохі пазней я прывяду неаспрэчны аргумент за тое, што «Пісьмо…» не магло чытацца ў Паўловічах на зыходзе зімы або ранняй вясной 1863 года. «Пісьма…» папросту тады яшчэ не існавала. Калі ўдзельнікі гэтай падзеі дакладна вызначылі час, значыць, размова можа ісці толькі пра «Мужыцкую праўду», якая ў Сакольскім павеце пашыралася вельмі інтэнсіўна і якую Сцяжэўскі мог свабодна, па многіх прыкметах, пераблытаць з «Пісьмом…». З прыведзеных дакументаў ясна толькі, што ў верасні 1863 года, калі адбылася перадача паўловіцкіх папер уладам, «Пісьмо…» было ўжо рэаліяй (знойдзены паперы нібыта нават раней — у жніўні).

Як мы бачылі вышэй, А. Смірноў датуе «Пісьмо…» «прыкладна вясной 1863 г.» — адначасова з сёмым нумарам «Мужыцкай праўды», нават крыху раней за яго. Д. Файнгаўз без дадатковай матывіроўкі адносіць з'яўленне «Пісьма…» да вясны — лета 1863 года, М. Міско — да лета 1863 года.

Цяпер прызнана, што сёмы нумар «Мужыцкай праўды» выйшаў у чэрвені 1863 года, адначасна з вядомым «Прыказам… да народу зямлі Літоўскай і Беларускай».



Тады ж, а хутчэй за ўсё, следам за імі з'явілася і «Пісьмо ад Яська…». Мне бачыцца нейкі паралелізм — спрэчка паміж «Прыказам…» і «Пісьмом…». Спрэчка пра тое, як называць гэтую зямлю, абшар былога Вялікага Княства Літоўскага. Для нагляднасці пакажам гэта графічна, прынамсі паралельна:

| I | II |
|---|---|
| «Прыказ… да народу зямлі Літоўскай і Беларускай» | «Пісьмо… да мужыкоў зямлі польскай» (або — «зямлі Польскай»)[91] |

«Зямлі Літоўскай і Беларускай», — сцвярджае першы. «Не, чакайце, якой яшчэ гэта зямлі Літоўскай і Беларускай? Зямлі Польскай!» — адгукаецца «Пісьмо…». Дый не «да народу», а ўсяго толькі «да мужыкоў». Ці не з'яўляецца «Пісьмо…» у гэтым сэнсе якраз своеасаблівай папраўкай-антытэзай да «Прыказа…»? Ці не чуюцца за ўсім гэтым пэўныя ідэалагічныя баруканні.

«Прыказ…» змацаваны пячаткай Аддзела Літвы. Пячатка на «Пісьме…» з надпісам «Друкарня Нацыянальнага ўрада» неабвержна даводзіць, што дакумент мае сувязь з Варшавай, з'явіўся на свет у адной з друкарняў Нацыянальнага ўрада. Пра гэта ж сведчаць і даволі высокі паліграфічны ўзровень выдання, выразнасць і разнастайнасць шрыфтоў. Іншыя беларускія выданні, якія выходзілі ў Беластоку і іншых друкарнях Беларусі-Літвы, выглядалі ў гэтым плане бяднейшымі.

Гэтай пячаткай наогул варта заняцца больш пільна. Разгорнем выдадзены ў Польшчы вычарпальны зборнік «Дакументы Цэнтральнага нацыянальнага камітэта і Нацыянальнага ўрада: 1862–1864»[92]. Там ёсць спецыяльная табліца пячатак, якімі карысталіся ў гэты час паўстанцкія ўлады. Наша пячатка пад № 10 — увенчаны каронай шчыт з гербамі Польшчы, Літвы (Літвы-Беларусі) і Русі (Украіны) і ўжо добра знаёмы нам надпіс буйнымі літарамі па акружнасці: «Друкарня Нацыянальнага ўрада». Пячатка згадваецца ў прадмове да зборніка ў сувязі з так званым чэрвеньскім (але якраз не «чырвоным», а вельмі ўмеркаваным) урадам К. Маеўскага: «Усе паперы, прызначаныя для масавага выдання, уключаючы і падпольную прэсу, змацоўваліся асобнай пячаткай друкарні Нацыянальнага ўрада…».

Радуемся высокаму ўзроўню працы польскіх археографаў. Усе дакументы ў зборніку забяспечаны пазнакай, якой яны змацаваны пячаткай. Пячатку 10-га ўзору, як высветлілася, маюць 32 дакументы. Першы (за № 130) датаваны 30 мая 1863 года новага стылю, апошні (№ 333) —

[91] Загаловак надрукаваны вялікімі літарамі.

[92] Dokumenty Komitetu Centralnego Narodowego i Rządu Narodowego: 1862–1864. Wrocław; Warszawa; Kraków, 1968.

25 сакавіка 1864 года, таксама новага стылю. Па месяцах яны, па маіх падліках, размяркоўваюцца так: май 1863 года — 1, чэрвень — 3, ліпень — 11, жнівень — 10, кастрычнік — 3, лістапад — 1, люты 1864 года — 1, сакавік — 2. Пік выкарыстання пячаткі прыходзіцца на ліпень — жнівень. Хутчэй за ўсё, тады і надрукавана наша «Пісьмо…» (мы памятаем, што ў верасні 1863 года паўловіцкія сяляне на Сакольшчыне перадалі яго ўладам).

Такім чынам, «Пісьмо…» было запушчана ўлетку 1863 года варшаўскім Жондам, але гэта магло быць зроблена з удзелам або без удзелу Каліноўскага.

Дарэчы, падумаем, каму «Пісьмо…» адрасавана. Можа, сялянам карэннай Польшчы? Варшаўскі ўрад мог паспрабаваць перанесці ўдалы досвед агітацыйнай працы Каліноўскага сярод сялян на іншыя рэгіёны. У парадку, так бы мовіць, своеасаблівага абмену вопытам. Чаму б хлопцам з-пад Варшавы не паслухаць дасціпнага ды языкастага Яська з-пад Вільні? Мова ж не такая і далёкая, з польскай у яе нямала агульнага. Але гэта неяк адбілася б на змесце дакумента, «уніяцкая вера», што згадваецца ў «Пісьме…», закранала толькі беларусаў (хіба яшчэ ўкраінцаў). Так што па назве і некаторых дэталях гэта зварот да сялян усёй былой Рэчы Паспалітай, а па мове і некаторых іншых рэаліях зварот да мужыкоў-беларусаў (хоць, паўторым, непасрэдна ні Беларусь, ні беларусы ў адозве не называліся).

Цікавую гіпотэзу прапануе ў сувязі з гэтым польскі гісторык В. Кардовіч у сваёй паважнай манаграфіі «Канстанцін Каліноўскі». Тут знаходзім такую інтэрпрэтацыю: у загадкавым «Пісьме ад Яська…» «…Каліноўскі звяртаўся, відавочна, да беларускіх сялян той часткі Гродзеншчыны, якая ў той час была далучана паўстанцкімі ўладамі да Каралеўства Польскага, і тым самым сапраўды да сялян Польшчы як дзяржаўнай цэласці»[93]. І яшчэ: «Да сялян Гродзеншчыны, а можа, і да польскіх сялян Літвы адносяцца такія выразы гэтай лістоўкі, як: “мы, што жывемо на зямлі польскай… з векаў вечных” і “хто за Рондам Польскім, таму праўдзівая вольнасць, хто проціў яго, таму вечна няволя і вечнае патэмпене на тамтам свеце”».

Тут трэба хаця б каротка прыгадаць тэрытарыяльныя спрэчкі паміж канспіратарамі Варшавы і Вільні. Як вядома, яшчэ ў лістападзе 1862 года віленскія падпольшчыкі вельмі бурна рэагавалі на перадачу Беластоцкай арганізацыі[94] пад непасрэднае кіраўніцтва Варшавы. Раззлаваны (калі не сказаць — раз'юшаны) Каліноўскі нават выгнаў у сувязі з гэтым прадстаўніка варшаўскага Цэнтральнага нацыянальнага камітэта ў Вільні Дзюлерана з пасяджэння Літоўскага камітэта. Пасля пачатку паўстання Беласток вяртаецца пад эгіду Вільні, але паступова ледзь не ўся Гродзеншчына далучаецца да «Кароны», або «Каралеўства» (г. зн. Польшчы). Улетку 1863 года загадам з Варшавы ў адзін рэгіён у вайсковых адносінах аб'ядноўваюцца Аўгустоўская і Гродзенская губерні, Лідскі павет Віленскай губерні і Навагрудскі павет Мінскай. Праўда, на чале быў пастаўлены ўраджэнец Беларусі Р. Траўгут, да таго ж гэты праект, здаецца, так і застаўся на паперы[95]. 30 студзеня 1864 года Каліноўскі паказваў на допыце: «…Гродненская [губерния] с августа месяца прошлого года по управлению отошла от Литвы к Варшавскому комитету, но по каким причинам, того не знаю»[96]. Асабліва шчодра гатовыя былі раскідацца беларускай зямлёй «белыя». Я. Гейштар успамінаў: «За паўднёвыя паветы Гродзенскай губерні Віленскі Камітэт («чырвоных». — *Г. К.*) вёў спрэчку з нацыянальным урадам; апошні жадаў далучыць іх да Каралеўства, а літвіны настойвалі на цэласнасці Літвы. Першай нашай (беларуска-літоўскіх «белых». — *Г. К.*) справай было поўнае выкананне волі Урада, калі нават пажадае забраць і ўсю Гродзенскую губерню, якая ляжыць паміж Вільняй і Варшавай і таму распараджэнні Урада там могуць раней атрымлівацца з Варшавы. Бо мы лічылі сябе адзінай Польшчай, і размова ішла толькі пра аператыўнасць, пра веданне мясцовых умоў. Мы хацелі знішчаць той сепаратызм, які з'яўляецца адной з адвечных нашых правінаў і якім мы, літвіны, пераважна грашым»[97].

Прынцыпова іншай, як мы ведаем, была пазіцыя Каліноўскага і яго аднадумцаў. І яна заставалася нязменнай. Памочнік Каліноўскага І. Ямант, паводле ўласных паказанняў, у жніўні 1863 года «написал два обширных рапорта в Варшаву о состоянии литовского восстания и положении края. Объясняя в них исключительные условия Литвы, я оспаривал пользу в присоединении вое[водст]в Ковенского и Гродненского к управлению Царства»[98].

Але гэта не значыць, што Каліноўскі не мог назваць Беларусь і Літву «Польскай зямлёй». Мог — менавіта ў тым гістарычна-палітычным сэнсе, пра які пісалі А. Станкевіч і Д. Файнгаўз. Ды яшчэ — каб падкрэсліць

[93] Kordowicz W. Konstanty Kalinowski: Rewolucyjna demokracja polska w powstaniu styczniowym na Litwie i Białorusi. Warszawa, 1955. S. 186.

[94] Паводле О. Авейдэ, Беластоцкая арганізацыя мела статус ваяводства, куды ўваходзілі Беластоцкі, Брэсцкі, Бельскі, Кобрынскі і Пружанскі паветы (Революционный подъем в Литве и Белоруссии в 1861–1862 гг. С. 509). Чамусьці прапушчаны Сакольскі павет.

[95] Гл.: Революционный подъем в Литве и Белоруссии в 1861–1862 гг. С. 178.

[96] Каліноўскі К. За нашую вольнасць. С. 132.

[97] Gieysztor J. Pamiętniki Jakóba Gieysztora z lat 1857–1865: w 2 t. T. 1. Wilno, 1913. S. 252.

[98] Восстание в Литве и Белоруссии 1863–1864 гг. С. 447.

іх «немаскоўскасць». У артыкуле «Каліноўскі — знаёмы і незнаёмы» (Полымя. 1993. № 6) я пісаў ужо пра блізкасць Каліноўскага і амаль усёй тагачаснай беларускай інтэлігенцыі да Польшчы, да польскіх культурна-палітычных традыцый. Калі карыстацца тэрміналогіяй даследчыка М. Хаўстовіча (гл. аўтарэферат яго дысертацыі «Беларускі літаратурна-грамадскі рух у 30–40-я гады XIX стагоддзя». Мінск, 1993), беларускі патрыятызм злучаўся ў Каліноўскага з патрыятызмам «літвінскім» і «рэчыпаспалітаўскім».

Выраз «польская зямля» дапасавальна да Літвы-Беларусі ёсць у маніфесце Літоўскага камітэта Каліноўскага ад 1 лютага 1863 года, які мы ўжо згадвалі. Прывядзём § 2 гэтага маніфеста:

«Польскі Нацыянальны ўрад аддае аселым сялянам, панскім і скарбовым, на вечныя часы ў поўнае ўладанне без чыншаў і выкупаў тую зямлю, якую яны мелі да гэтага часу, а ўсе распараджэнні маскоўскага ўрада адмяняе, таму што гэта зямля польская, а не маскоўская»[99]. Могуць сказаць, што Літоўскі камітэт быў калектыўным органам, што тэкст маніфеста выпрацоўваўся супольна ўсімі членамі, частка якіх не падзяляла радыкальных поглядаў Каліноўскага і г. д., але ўсё-такі перад намі факт, з якім мы не можам не лічыцца.

Да таго ж у «Пісьме ад Яська...» сказана куды болей: «...мы, што жывемо на зямлі Польскай, што ямо хлеб Польскі, мы, Палякі з векаў вечных». Селяніна ўвогуле нельга папракнуць хлебам, селянін заўсёды есць свой хлеб. А тут беларускаму селяніну-хлеборобу гавораць, што ён есць польскі хлеб. Ці не занадта ўжо гэта?! Вельмі сумнііўна, каб так мог напісаць Каліноўскі, заўсёдны абаронца сялянскіх інтарэсаў. Сваю цвёрдую пазіцыю рэвалюцыянера-дэмакрата ён выказаў у першым нумары «Мужыцкай праўды», заявіўшы ад імя беларускіх сялян: «...мы можам не толькі карміць сваім (!) хлебам, но яшчэ і ўчыць сваей мужыцкай праўды». У «Пісьме ад Яська...» бачацца нейкі наўмысны выклік, супрацьпастаўленне таму, што гаварылася ў «Мужыцкай праўдзе» і «Прыказе... да народу зямлі Літоўскай і Беларускай».

І чаму раптам «Пісьмо ад Яська...» ідзе на Беларусь, няхай на заходнюю яе ўскраіну, праз Варшаву? Гэта можна было б зразумець, калі б у Каліноўскага ўлетку 1863 года не было сваіх друкарняў. Не, друкарні былі, у іх надрукаваны ў чэрвені 1863 года сёмы нумар «Мужыцкай праўды» і згаданы «Прыказ...» з пячаткай паўстанцкага Аддзела Літвы. Праз некаторы час Каліноўскі паслаў нават адзін з друкарскіх станкоў у Пецярбург, рускім рэвалюцыянерам-землявольцам.

[99] Тэкст па-польску гл.: Dokumenty Komitetu Centralnego Narodowego i Rządu Narodowego: 1862–1864. S. 502. Пераклад на беларускую мову гл.: Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі. Т. 2. Мінск, 1940. С. 486.



Таму меркаванне пра тое, што Каліноўскі не меў дачынення да ўзнікнення «Пісьма...», выглядае не такім ужо неабгрунтаваным.

Магчыма, мы маем справу з акцыяй варшаўскага паўстанцкага ўрада ў адказ на «сепаратысцкія» настроі і дзеянні Каліноўскага і яго аднадумцаў. Праз шчыльную заслону часу можна паспрабаваць убачыць і непасрэднага арганізатара-выканаўца гэтай акцыі. Ім мог быць чалавек, які ў 1858 годзе распісаўся ў знакамітым альбоме А. Вярыгі-Дарэўскага як «Дзівак з-над Віліі». Вацлаў Пшыбыльскі — я пісаў пра яго ў сувязі з альбомам у кнізе «Героі і музы» (1982). Педагог і журналіст, цесна звязаны з гуртком віленскіх літаратараў, ён прыняў у 1863 годзе чынны ўдзел у паўстанні. Дзейнічаў ён у Варшаве, прычым ягонае становішча ў паўстанцкай арганізацыі прымушала яго пільна, вельмі пільна сачыць за падзеямі ў Літве і Беларусі і адначасна дазваляла яму хутка здзейсніць любую друкарскую акцыю. Зрэшты, прывядзём кароткую даведку пра яго з паказальніка імёнаў да кнігі «Паказанні і запіскі аб польскім паўстанні 1863 года Оскара Авейдэ» (М., 1961). Падкрэслім дэталі, на якія трэба звярнуць асаблівую ўвагу: «Пшыбыльскі (Пржыбыльскі; Przybylski) Вацлаў (1828–1872) — віленскі настаўнік, журналіст, супрацоўнік газеты “Kurier Wileński”, прыхільнік “белых”, у сакавіку — снежні 1863 сакратар па справах Літвы пры Нацыянальным урадзе, у чэрвені — жніўні і кастрычніку начальнік горада Варшавы, у чэрвені — верасні дырэктар Аддзела друку, са снежня 1863 да мая 1864 камісар Нацыянальнага ўрада за межамі Каралеўства Польскага, застаўся ў эміграцыі». Польскія даведнікі дадаюць яшчэ і нешта зусім дэтэктыўнае, што стасуецца ўжо да апошніх гадоў, да жыцця на эміграцыі: «Быў агентам турэцкай разведкі на Балканах». Хоць гэта і нагадвае сваёй раптоўнасцю смелыя імправізацыі берыеўскіх следчых, але жыццё — таксама някепскі імправізатар, і нейкія рэальныя рысы характару, трэба думаць, адлюстроўвае і гэтая дэталь. Словам — чаго ж вам болей! Як прыхільніка «белых» і сакратара па справах Літвы пры Нацыянальным урадзе яго, зразумела ж, не магла не трывожыць «сепаратысцкая» дзейнасць Каліноўскага. А будучы дырэктарам Аддзела друку, ён якраз загадваў усімі друкарнямі Нацыянальнага ўрада. Можна эфектна ўсклікнуць нават: гэта ж у яго была пячатка з надпісам «Друкарня Нацыянальнага ўрада»! (Праўда, не ўтойваю: усёй тэхнікі я не ведаю, магчыма, пячатак было некалькі — у кожнай друкарні свая, хоць і ідэнтычная іншым. Але што ўсе друкарні, а з імі і пячаткі былі пад рукой Пшыбыльскага — гэта факт.)

Дык ці не прывабілі Пшыбыльскага публіцыстычныя лаўры Каліноўскага, ці не наважыўся-адважыўся «Дзівак з-над Віліі» на нейкі момант зрабіцца «Яськам з-пад Вільні»? Беларуская мова як ураджэнцу

Вільні яму была не чужая, дададзім сюды немалы журналісцкі досвед. Але магчымы і такі варыянт: Пшыбыльскі — арганізатар, а непасрэдны выканаўца — беларускі паэт Фелікс Ражанскі, паплечнік Каліноўскага па гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі. Пра магчымае дачыненне Ражанскага да «Пісьма ад Яська…» я выказаў гіпотэзу яшчэ ў першай сваёй кнізе «Сейбіты вечнага» (1963, с. 72). Аўтар беларускіх паўстанцкіх песень, дзе не адзін раз згадвалася і «Польшча наша маць святая», Ражанскі як удзельнік выдання «Мужыцкай праўды» меў нават нейкае права на знакаміты псеўданім, якім падпісвалася газета. Выказвалася меркаванне пра прыналежнасць яму аўтарства беларускай «Песні на Божы час» (выйшла асобнай улёткай), дзе пад «Божым часам» разумелася паўстанне за нацыянальнае і сацыяльнае разняволенне. Гэты характэрны выраз ёсць і ў «Пісьме ад Яська…». Параўнаем:

| «Песнь…» | «Пісьмо…» (варыянт лістоўкі) | «Пісьмо…» (варыянт А. Гілера) |
|---|---|---|
| Божый час, Божый час<br>Завярнуўся для нас;<br>Мужык вольна стаў спяваці,<br>Годзі, годзі прападаці. | Даволі, Дзяцюкі, ужэ ждаці,<br>настаў ужэ час, Божый<br>час!.. | Годзі, Дзяцюкі, ужэ<br>ждаці, настаў час<br>Божый!.. |

Пэўны час Ражанскі знаходзіўся пад магутным уплывам Каліноўскага. У чэрвені 1863 года Каліноўскі, як вядома, вярнуўся з Гродзеншчыны ў Вільню. Сёмы нумар «Мужыцкай праўды» і «Прыказ… да народу зямлі Літоўскай і Беларускай» належаць да першых вынікаў яго дзейнасці на віленскім грунце пасля вяртання. Канкрэтных звестак пра Ражанскага ў нас менш. Прыблізна ў гэты ж час, калі Каліноўскі пакінуў Гродзеншчыну, Ражанскі з ваўкавыскімі паўстанцамі далучыўся да галоўнага атрада Гродзенскага ваяводства на чале з А. Духінскім і В. Врублеўскім. Далейшыя сляды яго губляюцца. Вядома толькі, што пасля ён туляўся на эміграцыі (быў жывы яшчэ ў 1903 годзе, напісаў успаміны, на жаль кароткія). А ў цэлым Гродзеншчына, як мы бачылі, усё больш падпадала пад непасрэдную залежнасць ад Варшавы, і ў нейкі момант Ражанскі мог трапіць у поле прыцягнення Пшыбыльскага, нават апынуцца недзе побач з ім у той жа Варшаве…

Зразумела, усё гэта толькі хісткія гіпотэзы. На большае нестае пакуль што фактаў. У любым выпадку «Пісьмо ад Яська…» сведчыць яшчэ раз, як нялёгка прабівала дарогу ў XIX стагоддзі беларуская нацыянальная ідэя, як нялёгка, у пакутах, беларускае «аддзіралася» ад польскага. У гэтым высокім сэнсе, па вялікім рахунку, «Пісьмо…» магло належаць і Каліноўскаму. Як — у такім выпадку — адна з паразаў, адно з адступленняў вялікага нашага рэвалюцыянера на яго слаўным, надзвычай важным для беларускага народа шляху.



Магчыма і такое: «Пісьмо…» напісана, у сваёй аснове, Каліноўскім і потым папраўлена, дапрацавана ў Варшаве.

Цяпер канчатковы вынік нашага маленькага даследавання, так бы мовіць, summa summarum. Згодна з планамі Інстытута літаратуры я рыхтую зараз Збор твораў Каліноўскага[100]. Там мяркуецца змясціць і «Пісьмо ад Яська…». Але не ў галоўнай частцы, а ў раздзеле dubia — твораў, аўтарства якіх канчаткова не высветлена, тэкстаў, якія прыпісваюцца Каліноўскаму.

Так або інакш, «Пісьмо…» было фактам біяграфіі Каліноўскага: ён мусіў неяк рэагаваць на з'яўленне свайго «двайніка» — «Яськігаспадара» варшаўскай рэдакцыі. Таму звесткі пра гэты эпізод варта ўключыць і ў «Летапіс жыцця і дзейнасці» нашага рэвалюцыянера — напрыклад, у такой, думаецца, дастаткова карэктнай форме:

«Улетку 1863 года (чэрвень — жнівень) у Варшаве (?) у адной з друкарняў Нацыянальнага ўрада выдадзена "Пісьмо ад Яська-гаспадара з-пад Вільні да мужыкоў зямлі польскай" супярэчлівага зместу. Акалічнасці гэтага выдання не высветлены. Удзел Каліноўскага многімі гісторыкамі аспрэчваецца. Магчыма, падробка».

[100] Кніга, пра якую ідзе гаворка, выйшла ў 1999 г. Гл.: Каліноўскі К. За нашую вольнасць: творы, дакументы / уклад., прадм., пасляcл. і камент. Г. Кісялёва. Мінск, 1999. — *Заўв. рэд.*

# АПОКРЫФЫ ЗМАГАННЯ: САНГІН — СЯМЯЦІЧЫ — РАГІНСКІ

Сангін… асоба малавядомая…

*Я. Янушкевіч* (з каментарыяў да «Выбранага» *В. Ластоўскага)*

Над Бельскам адкрылася неба стажараў.

*Я. Чыквін*

Як вядома, напярэдадні паўстання 1863 года беларускае нацыянальнае адраджэнне рабіла значныя поспехі. Выразныя прыкметы абуджэння народа, мэтанакіраванай культурна-палітычнай працы заўважаліся паўсюль. На Гродзеншчыне дзейнічалі Кастусь Каліноўскі і яго паплечнікі па выданні «Мужыцкай праўды» Фелікс Ражанскі і Валерый Урублеўскі. У Мінску ўпарта і плённа працаваў на ніве роднай культуры Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. У Вільні падавалі голас Адам Кіркор, Вінцэсь Каратынскі (калі нават не лічыць памерлага ўвосень 1862 года Сыракомлю), у Віцебску — Арцём Вярыга-Дарэўскі, Ялегі Вуль і інш. Вялікую цікавасць да свежага беларускага слова ў тагачасным грамадстве раскрывае знакаміты альбом Вярыгі-Дарэўскага. Не ўсе імёны дайшлі да нас, многае страчана назаўсёды, сёе-тое ўдаецца з цяжкасцю адкапаць, вырваць з нябыту.

У прыватнасці, надзвычай цікавай постаццю ў гэтым плане паўстае перад намі паплечнік Каліноўскага Станіслаў Сангін[101], які загінуў у 1863 годзе ў баі з карнікамі.

Адзін з актыўных удзельнікаў тагачасных падзей Ю. Такарэвіч, родам з Бельска, сцвярджаў нават у 1867 годзе, што найбольш поўна ў перыяд паўстання выказвалі памкненні беларускага народа, стаялі на чале адметнай «літоўскай партыі», займалі зусім выразную пазіцыю ў гэтым дачыненні «нябожчык Станіслаў Сангін і жывы-здаровы і зараз Валерый У[рублеўскі]». Той жа Такарэвіч, не задаволены аднабаковасцю прац па гісторыі паўстання, што з’явіліся ў друку, марыў пра той час, калі новая грамадская бура «збярэ разам пакутніцкія косці Каліноўскіх, Юр’евічаў, Сангіных», каб скласці з іх сапраўдны манумент героям 1863 года. Тут у якасці самых годных прадстаўнікоў вызначальных перадавых тэндэнцый паўстання згадваюцца якраз наш Каліноўскі, яго паплечнік Сангін і малады кіраўнік паўстання ва Украіне («дыктатар на Русі») А. Юр’евіч. Як бачым, Сангін упісаны ў надзвычай высокі кантэкст, і вельмі шкада, што Такарэвіч не сабраўся расказаць пра свайго земляка шырэй.

Прыемны сюрпрыз для даследчыка — некалькі прысвечаных Сангіну радкоў у польскай Энцыклапедыі Аргельбранда (Warszawa, 1912. Т. 18): адзначана, што яго артыкулы па сельскай гаспадарцы і эканоміцы ў віленскім друку «абяцалі здольнага працаўніка на гэтай ніве», а ў свой час ён разам з Каліноўскім і Ражанскім выдаваў беларускае «пісэмко» (малы перыёдык) «Мужыцкая праўда».

Не адзін раз пісаў пра ўдзел Сангіна ў выданні першай беларускай газеты гісторык і зноў жа ўдзельнік тых падзей Б. Ліманоўскі. Працытуем яго надзвычай папулярную некалі кнігу «Змагары за свабоду» (1911), змешчаны там нарыс пра Урублеўскага: «Фелікс Ражанскі, беларускі паэт, разам з Каліноўскім і Станіславам Сангіным выдаваў пісэмко пад назвай “Мужыцкая праўда”, а Шварцэ памагаў Белакозу выдаваць беларускія песенькі і гутаркі ў рэвалюцыйным духу. Урублеўскі не толькі падтрымліваў гэтыя выданні грашыма, але праз падначаленых яму стралкоў [лясной варты], якіх схіліў да сябе братнім стаўленнем, і праз сваіх калег, лясных афіцэраў у іншых мясцовасцях Літвы (Літвы-Беларусі. — *Г. К.*). распаўсюджваў гэтыя друкі сярод вясковага люду».

Так акрэсліваў вельмі інфармаваны Ліманоўскі кола рупліўцаў палітычнай асветы беларусаў напярэдадні паўстання. Сказанага досыць, каб пераканацца, што Сангін — яшчэ адзін забыты працаўнік беларускага адраджэння, змагар за нацыянальнае і сацыяльнае разняволенне свайго народа.

Скласці яго жыццяпіс сёння надзвычай цяжка. Даводзіцца збіраць матэрыял літаральна па крупінках. Ніводнага спецыяльнага некралога ці артыкула бібліяграфіі не фіксуюць, адсутнічаюць самыя элементарныя звесткі. У мартыралогу паўстання «Памятка для польскіх сем’яў» З. Калюмны (1868) пра яго сказана, на жаль, вельмі сцісла, канспектыўна: «Сангін — ва ўзросце 45 гадоў, чыноўнік з Гродзенскай губерні, дзейнічаў у атрадзе Рагінскага, загінуў у баі ў Брэст-Літоўскім павеце». І больш нічога. Скупа, хоць плач. Гэта, хутчэй, паспешлівая пазначка для памяці, у лепшым выпадку падказка-загатоўка для будучага біёграфа.

Самае каштоўнае для нас тут узрост, бо такіх звестак больш нідзе не сустракалася. Адсюль вынікае, што наш герой быў чалавекам досыць сталым, нарадзіўся каля 1818 года. Трэба думаць — недзе на Гродзеншчыне, магчыма, на Беласточчыне, якая, нагадаем, з 1843 года ўваходзіла ў склад Гродзенскай губерні.

[101] Інакш Сонгін. Па-польску Sągin, радзей Songin.

Некалькі цікавых згадак пра Сангіна ёсць у следчай справе чыноўніка І. Штарка, які ў 1849–1862 гадах рэдагаваў «Гродненские губернские ведомости» і загадваў губернскай друкарняй (дзе, на думку ўладаў, маглі друкавацца бунтоўныя адозвы і нават сама «Мужыцкая праўда»). Дык вось гэты Штарк паказваў на допыце ў 1864 годзе: «…Станислава Сонгина я помню с 1843 года, со времени поступления моего на службу в Гродненское губернское правление, где я нашел его столоначальником в 8-м столе, но не завязывал ни знакомства, ни дружбы, помню только, что он хотел быть редактором ("Губернских ведомостей". — *Г. К.*) — я соперничал с ним и по протекции г. вице-губернатора Лоншковского одержал преимущество. Он же оставил Губернское правление и перешел в казенную палату в акцизные надзиратели». Такім чынам, на працягу 1840-х гадоў Сангін служыў у Гародні ў губернскім праўленні, потым перайшоў у казённую палату, стаў акцызным чыноўнікам. Непасрэдна перад паўстаннем ён быў, хутчэй за ўсё, ужо ў адстаўцы (часам у архіўных дакументах пракідаецца: «былы акцызны наглядчык»). Як можна зразумець з успамінаў Рагінскага, тады Сангін кіраваў маёнткам каля Сямяцічаў у Бельскім павеце.

Скончыў, відаць, гімназію (Гродзенскую? Беластоцкую? Свіслацкую?), быў чалавекам адукаваным, з шырокімі культурнымі зацікаўленнямі. Сярод падпісчыкаў «Teki Wileńskiej» А. Кіркора на 1858 год (спісы — з рэкламнымі мэтамі — публікаваліся) ёсць Станіслаў Сангін, калежскі асэсар з Бельскага павета. Цытаваная Энцыклапедыя Аргельбранда, як мы ўжо бачылі, згадвае ў агульнай форме яго артыкулы ў віленскім друку — што канкрэтна маецца на ўвазе, сёння, на вялікі жаль, мы не ведаем (магчымая нейкая сувязь з сялянскай рэформай, з яе грамадскім абмеркаваннем).

Супрацоўнічаў з Віленскай археалагічнай камісіяй і Музеем старажытнасцей. У канцы 1862 года «Kurier Wileński» паведаміў, што С. Сангін, член-супрацоўнік Археалагічнай камісіі, падараваў у музей каштоўныя знаходкі: зуб маманта і чатыры кавалкі зубоў дапатопнага каня. Вось так пастунова, патроху, асобнымі рыскамі і вымалёўваецца перад намі неардынарная постаць культурніка-асветніка, улюбёнага ў свой край збіральніка памятак мінуўшчыны.

Чыста навуковыя і культурныя інтарэсы спалучаліся ў яго з актыўнай палітычнай дзейнасцю, якая непазбежна набывала ў той час падпольныя, канспірацыйныя формы. З вясны 1861 года бачым яго бліжэйшым паплечнікам Каліноўскага па гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі. Адным з важных асяродкаў, апорных пунктаў гродзенскай арганізацыі была, як вядома, Саколка, дзе Урублеўскі ўзначальваў пісарска-егерскую школу ляснога ведамства. Ёсць звесткі (скажам пра іх пазней), што ў Саколцы ў гэты час працаваў і Сангін акцызным наглядчыкам. У 1861 годзе, неўзабаве пасля расстрэлу царскімі апрычнікамі дэманстрацыі ў Варшаве, малады гродзенскі чыноўнік Э. Заблоцкі быў запрошаны Урублеўскім у Саколку і «застал там следующее общество: питейно-акцизного надзирателя Сонгина (як бачым, наш Сангін называецца першым. — *Г. К.*), ксендза Козловского… и Константина Калиновского, с которым я тогда и познакомился. Разговор шел о варшавских происшествиях. Константин Калиновский и Врублевский сказали мне, что составляется организация Народного польского правительства, которая скоро должна сформироваться по всей Литве, и предложили мне принять в ней участие…».

Паказанні ўдзельніка гродзенскай арганізацыі Ігната Геніуша належаць храналагічна ўжо да пачатку паўстання і зноў малююць Сангіна побач з Каліноўскім (апошні выступае тут пад імем Чарноцкага) у ліку галоўных завадатараў рэвалюцыйных падзей на Гродзеншчыне: «В конце января 1863 г. Станислав Сонгин, б. акцизный надзиратель, прибыв в гор. Гродно, призвал меня в свою квартиру, где остановился, т. е. в заезжем доме на Мостовой ул. возле монастыря, это было вечером. Там я нашел незнакомого мне некоего Чарноцкого. После беседы и продолжительных убеждений они разными угрозами заставили меня приступить к своей партии с тем, чтобы я занимался составлением корреспонденции». Пры ўсёй каштоўнасці гэтае паведамленне вымагае крытычнага асэнсавання. Наўрад ці галоўным аргументам кіраўнікоў арганізацыі пры вярбоўцы новых прыхільнікаў былі пагрозы. Выклікае сумненні і храналогія. Бо ў канцы студзеня 1863 года Каліноўскі знаходзіўся, хутчэй, у Вільні, а Сангін — у раёне Сямяцічаў, дзе разгарнуліся ў гэты час падзеі першачарговай важнасці.

Паўстанне ў Польшчы пачалося, як вядома, 10 студзеня старога стылю. Сямяцічы (інакш Сяметычы), размешчаныя на заходняй мяжы Гродзенскай губерні, з'явіліся важным асяродкам фарміравання паўстанцкіх атрадаў, куды збіраліся паўстанцы як з заходняй Гродзеншчыны, так і асабліва з боку Царства Польскага (Падляшша).

Старадаўняе мястэчка Сямяцічы, вядомае кляштарам місіянераў і пышным палацам-замкам колішніх уладальнікаў Сапегаў, культурна-асветніцкай дзейнасцю Ганны Ябланоўскай-Сапяжанкі (друкарня, акушэрскі інстытут, разнастайныя рэдкія калекцыі і г. д.), належала напярэдадні 1863 года адстаўному капітану (ці то штабс-ротмістру) барону Феншаў, які, магчыма, спачуваў паўстанцам (прынамсі ва ўладаў былі такія падазрэнні).

У канцы студзеня 1863 года камандуючы царскімі войскамі ў Гродзенскай губерні генерал-лейтэнант Манюкін паведаміў, «что это местечко

более двух месяцев служило уже депо (асяродкам збору, цэнтрам. — *Г. К.*) готовящейся Литовско-Польской инсуррекции и что две недели уже как оно было совершенно в руках мятежников.

Кругом местечка две последние недели стояли их часовые. Некто Цихорский, он же Замечек (псевдоним), промотавшийся помещик из Подлясья, выбранный вождем Литовского восстания на границе, своими ловкими распоряжениями успел завербовать до 1000 человек из окрестностей Семятич. Они обмундировались и обучались в замке помещика Феншау».

У лютым 1863 года ў Сямяцічах па даручэнні гродзенскага губернатара рабіў спецыяльнае расследаванне бельскі земскі спраўнік Лаворка, які данёс, «что деятельное участие в формировании мятежнической партии в м. Семятичах принимали следующие лица: 1) б[ывший] акцизный надзиратель Сонгин, который проживал в Семятичах, 2) управитель им. Семятичи, житель Царства Польского Домбровский, 3) родственник его из Ц[арства] Польского Мрозовский, 4) фельдшер из им. Семятичи временнообязанный крестьянин Высоцкий, 5) служитель по акцизу Пиотровский и 6) помещик Ц[арства] Польского Рыльский — все они по настоящее время не возвратились». Цікава, што адным з завадатараў, аказваецца, быў тут фельчар з сялянбеларусаў Высоцкі. Зазначым таксама, што на момант, калі пісаўся рапарт, многіх з пералічаных асоб ужо не было ў жывых. Згаданы тут Браніслаў Рыльскі (паўстанцкі ваенны начальнік Бельскага павета, сын палкоўніка 1831 года) будзе таварышыць Сангіну ў яго апошнім паходзе і загіне разам з ім.

Што да Феншаў, то, паводле данясення Лаворкі, «до появления в м. Семятичах с 18 на 19 января с. г. мятежников никаких приготовлений как в доме помещика Феншау, так и в м. Семятичах не было», «Феншау по возвращении из-за границы, куда ездил для излечения претерпеваемой им болезни, проживал в Семятичах около 2 месяцев и выехал с семейством в гор. Варшаву 20 января с. г. Мятежники появились в м. Семятичах с 18 на 19 число января месяца, прежде в малом количестве, а на следующий день, т. е. 20 января, начали постепенно прибывать большими партиями из смежного Царства Польского, и в отсутствие помещика Феншау предводители мятежников заняли его дом (замок) и образовали там свое управление, принудив жителей им повиноваться, а дабы кто из них не отлучился для донесения об этом местному начальству, расставляли постоянно многочисленный пикет, воспрещая с угрозами выйти кому-либо из пределов оного, формируя (забяспечваючы. — *Г. К.*) между тем свою партию в амуничные и другие припасы посредством местных мастеров до самого прибытия



в м. Семятичи генерал-лейтенанта Манюкина, который подступил с отрядом под Семятичи 25 января ночью».

Потым наконт Феншаў вялося следства ў польскім горадзе Седльцы. Карысныя для нас вытрымкі з адпаведнай следчай справы прыведзены ў «Материалах к истории польского восстания в северо-западных губерниях в 1863 году» генерала Цылава, рукапіс якіх захоўваецца у Расійскім дзяржаўным ваенна-гістарычным архіве ў Маскве.

Паводле гэтай крыніцы, «священник м. Семятич Лецевич показал, что Домбровский вместе с некием Сонгиным организовали в м. Семятичах мятежническую шайку в начале возмущения 18 января 1863 г. Священник видел, как Домбровский имел у себя 30 человек вооруженных, а 19 января было у него уже 100 человек, а когда 23 января вступила в Семятичи шайка Замечки, то Домбровский при торжественной встрече шайки стоял вооруженный с боку толпы своей уже в 300 человек. Бывший становой пристав Яблонский показал, что Домбровский, Сонгин, Мрозовский и Булашевич 18 января приходили к нему вооруженные и по приказанию Сонгина становой пристав отдал в шайку собственных своих 2 охотничьих ружья». Як бачым, роля Сангіна з самых першых крокаў паўстання была тут досыць актыўнай. Да таго ж, несумненна, далёка не ўсё было раскрыта, не ўсё трапіла ў следчыя дакументы, многае, так бы мовіць, засталося за кадрам.

Спачатку сямяціцкія паўстанцы (расчытваем усё тыя ж «Матэрыялы...» Цылава) размяшчаліся ў будынку былога кляштара, «куда мятежники значительно стали прибывать отдельными отрядами, собрав возможное число подвод отправились к Бельску с намерением разбить тамошнее уездное казначейство, но, узнав, что в м. Семятичи прибыло войско, возвратились 19 января, а 20-го капитан Феншау со всем своим семейством отправился в г. Варшаву. По отъезде же его на другой день 21 числа главные предводители мятежников с частию оных поместились в помещичьем доме и с сего же числа по 25 января в обоих главных притонах (кляштар і палац. — *Г. К.*) производились между мятежниками военные экзерциции (вучэнні. — *Г. К.*).

Сухари и военные снаряды мятежники привезли с собой на подводах, а для вновь прибывших и ожидавших [возможности примкнуть] к их шайке безоружных людей мятежники заставили находившихся в м. Семятичах кузнецов приготовлять запасы пик и кос».

Адсюль ішлі распараджэнні наконт наладжвання новай адміністрацыі па ўсім бліжэйшым наваколлі. Вядома, напрыклад, характэрнае пісьмо з Сямяцічаў у Драгічын (гарадок на Бугу, дзе ў XIII стагоддзі была вядомая бітва князя Данілы Галіцкага з крыжакамі), апублікаванае ў «Виленском временнике» за 1913 год. Перакладаем з польскай:

«Ад Вайсковага начальніка ўзброеных сіл
Бельскага павета
Урадніку (чыноўніку. — *Г. К.*)
старажытнага архіва ў месце Драгічыне
Залескаму

На падставе ўпаўнаважання Цэнтральнага Нацыянальнага Камітэта, польскі народны ронд (скарыстаем тэрмін "Мужыцкай праўды". — *Г. К.*) у месце Драгічыне і прылеглых ваколіцах намі ўжо ўстаноўлены і цывільны ўраднік ад Камітэта для кіравання местам Драгічынам і ваколіцаю будзе ў хуткім часе прысланы. Аднак пакольні жыхары места Драгічына, прыбыўшы сёння да мяне, засведчылі, што пасля закрыцця ў Драгічыне юрысдыкцыі (царскага суда. — *Г. К.*) і адхілення ад пасады гараднічага, распачаліся вялікія беспарадкі, а менавіта з'явілася мноства валацугаў з Каралеўства Польскага, якія нібыта дапускаюць рабункі, крадзяжы і ўсялякія пагрозы, таму, адпаведна просьбе гэтых жыхароў паставіць Вас ураднікам у Драгічыне, даручаю Вам часовае кіраванне местам Драгічынам з парафіяй, пакуль ад Камітэта не будзе прысланы на гэтую пасаду ўраднік, з умоваю, каб Вы на працягу гэтага часу забяспечвалі кожнаму жыццё і ўласнасць і спынілі ўсякага кшталту пагрозы, крадзяжы і розныя злоўжыванні. Што і маеце выконваць у абавязковым парадку пад адказнасцю перад ваенным судом.

Дано ў Сямяцічах 22 студзеня (1 лютага)[102] 1863 года.

Начальнік узброеных сіл у Бельскім павеце
Рыльскі».

Паступова ў Сямяцічы сцягваюцца ці не ўсе паўстанцкія сілы з Падляшша ў шырокім разуменні гэтага слова. Па розных ацэнках, да 4–5 тысяч чалавек. Цэлае войска. Важную ролю адыгрываў ужо згаданы Уладзіслаў Ціхорскі, які карыстаўся псеўданімам Замечак. Ён прывёў у Сямяцічы (калі верыць цытаваным «Матэрыялам...» Цылава — 23 студзеня) вялікі паўстанцкі атрад, які быў ужо ў баях з царскімі войскамі (у прыватнасці, зрабіў 11 студзеня напад на Сураж Беластоцкага павета на самай мяжы з Царствам Польскім).

Вялікую ролю ў тых падзеях, як і ў жыцці Сангіна, адыграў паўстанцкі камісар Падляшскага ваяводства Раман Рагінскі, выхаванец польскай вайсковай школы ў Італіі, чалавек зусім яшчэ малады, але надзвычай энергічны, рухавы, мэтанакіраваны. Нішто не магло спыніць яго на абранай дарозе. Ён пакінуў каларытныя ўспаміны, якімі мы не адзін раз будзем карыстацца. Трапіўшы ў палон, ён даў таксама падрабязныя паказанні. Арыгінал іх сёння невядомы, ёсць толькі не лепшая копія

[102] Так у публікацыі. Павінна быць: 22 студзеня (3 лютага).



на польскай мове і даўні пераклад на рускую з арыгінала. У 1983 годзе паказанні (паводле польскай копіі) былі апублікаваны вядомым польскім гісторыкам Стэфанам Кеневічам. Там ёсць прынцыповая для нас згадка пра героя нашага нарыса: «Songin… (шматкроп'е ў публікацыі; мы да гэтага яшчэ вернемся. — *Г. К.*) podwojewódzki grodzieńskiej gub. i który miał krewnych w Siemiatyczach». «Падваяводскі» — намеснік ваяводы. Вядома, што ваяводам (паўстанцкім начальнікам) усёй Гродзеншчыны быў да «белага» перавароту ў лютым — сакавіку Валерый Урублеўскі. Выходзіць, паводле сведчання Рагінскага, Сангін займаў у паўстанцкай іерархіі пост намесніка гродзенскага ваяводы Урублеўскага. Так што яго актыўны ўдзел у сямяціцкіх падзеях быў невыпадковы, удзел гэты абапіраўся на адпаведны мандат паўстанцкай арганізацыі.

І яшчэ адна акалічнасць, звязаная з працытаваным фрагментам паказанняў Рагінскага. Тры кропкі пасля прозвішча пастаўлены публікатарам. У крыніцы тут нейкае слова ў дужках, якое Кеневіч не змог разабраць. Але руплівы навуковец зрабіў заўвагу, што ў рускім перакладзе тут у дужках стаіць слова «молния». Выказваем здагадку, што ў дужках быў пададзены псеўданім Сангіна (як вядома, паўстанцы любілі карыстацца вобразнымі, сімвалічнымі мянушкамі-псеўданімамі), і тады ўвесь тэкст чытаўся б так: «Сангін (Маланка), намеснік ваяводы Гродзенскай губ., які меў сваякоў у Сямяцічах». Нагадаем, што такі псеўданім мог быць падказаны Сангіну «Мужыцкай праўдай», велічнымі словамі, якімі пачынаўся першы нумар беларускай газеты: «О, загрыміць наша праўда і, як маланка, пераляціць па свеце!». Нічога немагчымага ў гэтым няма, калі ўлічыць актыўны ўдзел Сангіна ў выданні «Мужыцкай праўды».

Але вернемся да сямяціцкіх падзей, да ўспамінаў Рагінскага. Знакаміты партызан расказаў у іх пра задачы, што стаялі перад Падляшшам, сумежжам «Кароны і Літвы»: «Нашай мэтаю, пра што дамовіліся ў Варшаве з Падлеўскім (член Цэнтральнага Нацыянальнага Камітэта. — *Г. К.*), было авалоданне дзвюма лініямі: Варшаўска-Брэст-Літоўскай і Варшаўска-Люблінскай у напрамку Усцілуга, Валыні і Русі. Калі б не ўдалося адразу ўтрымацца на якой-небудзь з гэтых ліній, мусілі перакінуцца за Буг, каб пашырыць паўстанне на як мага большы абшар і тым самым раздрабіць непрыяцельскія сілы». Ахвотна падтрымлівала паўстанне, паводле ўспамінаў, засцянковая шляхта, прыхільна ставіліся, шчыравалі ўніяцкія святары (у Царстве Польскім, за Бугам, унія не была скасавана). Цікавая замалёўка ва ўспамінах Рагінскага пра яго прыезд у вялікі засценак Гунча, які расцягнуўся траха не на дзве вярсты: «Калі ўехаў у засценак, перада мной паўстала наступнае відовішча: каля кожнай хаты адпаведна таму, колькі людзей ішло з яе ў паўстанне, стаялі косы, прыхінутыя да сценаў хат. Гэта была вуліца косаў!». Такі малюнак

можа служыць своеасаблівым сімвалам народнага паўстання супраць царызму.

У Сямяцічы Рагінскі трапіў не адразу. Спачатку з буйным атрадам ён пераправіўся за Буг і з'явіўся ў Высока-Літоўску (цяпер Высокае Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці). Ва ўспамінах прыведзена яго размова з уладальнікам Высокага князем Сапегам. «Умольваю, каб ён прыняў каманду, каб прысвяціў сябе агульнай справе — стаў на чале атрада з тысячы чалавек, які ўжо двойчы быў у агні і поўны баявога духу, і што на яго заклік паўстане ўся Літва». Бачым, што Рагінскі, як і ўся тагачасная моладзь, быў вялікім рамантыкам. Больш практычны і дасведчаны нашчадак старадаўняга беларускага ўплывовага роду, вядома ж, адмовіўся ад прапановы партызана-летуценніка, даў толькі 6 коней, дзве дубальтоўкі і нешта 250 рублёў (ці нават меней) грашыма. Вельмі няшмат для казачна багатага пана.

Тут Рагінскі даведаўся, што шмат паўстанцаў сабралася за 35 вёрстаў у Сямяцічах, і як паўстанцкі камісар паслаў туды прапанову-распараджэнне, каб далучыліся да яго. «Маім намерам было ісці на Белавежу, прыстанак зуброў і люду, які помніў яшчэ 1830 год».

Ганец (чытаем-цытуем успаміны) прывёз адказ за подпісам Замечка: «Галоўнакамандуючы Падляшскай арміяй заклікае гэтым начальніка Падляшскага атрада неадкладна з'явіцца ў галоўную кватэру ў Сямяцічы для агульных дзеянняў».

У вачах Рагінскага гэта было самаўпраўствам, бо паўстанцкае кіраўніцтва Падляшша ўжо даўно было вызначана Нацыянальным урадам: паўнамоцны камісар — ён, Рагінскі; ваенны начальнік — Левандоўскі, чалавек з вайсковым вопытам, удзельнік яшчэ колішняй венгерскай рэвалюцыі.

Што кіравала Замечкам — ці толькі асабістыя амбіцыі? А можа, прычыніліся таксама неакрэсленасць самога паняцця «Падляшша» або даўнія тэрытарыяльныя спрэчкі паміж рэвалюцыянерамі Беларусі-Літвы і Польшчы?.. Ды падобныя матэрыі, хутчэй, маглі абыходзіць Сангіна — паплечніка Каліноўскага і Урублеўскага, а не былога варшаўскага службоўца Ціхорскага, які і пасля выклікаў незадавальненне Нацыянальнага ўрада сваімі празмернымі амбіцыямі і прэтэнзіямі.

Тым не менш са сваім немалым атрадам (да 900 чалавек і вялікі — ці не на сотню падводаў — абоз) Рагінскі неадкладна паспяшаўся ў Сямяцічы.

Падышоў ён вельмі своечасова. Там якраз кіпеў бой. З'явіўся сюды і Левандоўскі.

Сямяціцкая бітва — адна з самых буйных вайсковых аперацый 1863 года — доўжылася, як вядома, два дні — 25 і 26 студзеня (6–7 лютага н. ст.). Царскія войскі (7 рот пяхоты пры чатырох гарматах) узначальваў сам камандуючы войскамі ў Гродзенскай губерні генерал Манюкін[103].

Першую атаку (быў ужо позні вечар) паўстанцы паспяхова адбілі і самі перайшлі ў наступ, але напароліся на бязлітасную карцеч.

Ноч спыніла бітву. Як дасведчаны вайсковец Манюкін адвёў войскі, а назаўтра ўзнавіў атакі. Завязаліся вулічныя баі. Салдаты выкурвалі інсургентаў агнём. Мястэчка запалала. «Ожесточение с обеих сторон было крайнее, — даносіў пазней Манюкін. — Когда я приглашал сдаться поляков, оставшихся в замке, обхватываемом уже огнем, мне отвечали выстрелами. Вообще же нужно отдать справедливость неприятелю: сбитые с толку обходом, они все-таки дрались храбро». Гэта — з падрабязнага аналітычнага рапарта генерала. А першае данясенне, як успамінаў пазней адзін з карнікаў — афіцэр Нарвскага палка, нібыта было складзена з сувораўскім лаканізмам: «Шайка і мястэчка Сямяцічы больш не існуюць»[104].

Магчыма, гэта ўжо легенда, але гісторыкам паўстання вядомы блізкі па тоне і сэнсе афіцыйны дакумент — зварот Манюкіна да жыхароў ужо згаданага суседняга Драгічына. Вось яго поўны тэкст, які сведчыць, што генерал зусім не збіраўся міндальнічаць з крамольнікамі і парушальнікамі парадку:

«26 января я прибыл к местечку Семятичам, занятому 5000 бунтовщиков. Я штурмовал местечко и истребил всех вооруженных людей.

Облеченный полномочием моего Государя, я буду карать всех возмутителей общественного покоя, буду преследовать их постоянно и упорно до тех пор, пока не искореню зла с корнем.

Жители Дрогичина! Вы слыхали, что сделалось с Семятичами: дома, откуда стреляли засевшие поляки, сожжены, и ветер погнал пламя по всему местечку. Если хотите испытать участь Семятич, — слушайтесь мятежников, и даю вам слово, — вы будете наказаны. Если же хотите оставаться покойными под охранаю нашего войска, ваших законных властей, вяжите людей, волнующих вас на вашу погибель и, при приближении сильной партии мятежников, давайте о том с нарочными известие военным властям в Бельск или Белосток.

Подписал: Генерал-Лейтенант Манюкин

Скрепил: И. д. Начальника Штаба, Генерального Штаба Капитан Гейнс».

---

103 Між іншым, ёсць няпэўныя звесткі пра нейкае дачыненне Манюкіна да вядомай ваенна-рэвалюцыйнай арганізацыі А. Патабні («Камітэт рускіх афіцэраў у Польшчы»), але сур'ёзныя гісторыкі лічаць гэта беспадстаўнай легендай. Наша расследаванне пацвярджае, што Манюкін быў артадаксальным апрычнікам і не больш.

104 Межецкий М. П. Воспоминания из беспокойного времени на Литве 1861–1863 гг. // Исторический вестник. 1898. Т. 73. С. 833.

Ва ўжо цытаваных «Матэрыялах...» Цылава адзначана, што пасля сямяціцкай бітвы генерал Манюкін узяў у палон 41 мяцежніка, якія паказалі, што «шайкаю» камандаваў Замечак-Ціхорскі, а начальнікамі асобных часцей сярод іншых былі «памешчыкі» Рыльскі і Сунгін (такое ў дадзеным выпадку напісанне прозвішча ў «Матэрыялах...»).

Цікава, што Манюкін быў да ўсяго хітрым палітыкам і стараўся прыхаваць досыць шырокі ўдзел у паўстанні беларускіх сялян. Яго начальнік штаба (той самы капітан Генеральнага штаба Гейнс, які змацаваў сваім подпісам па-вайсковаму энергічны, жорсткі, а лепш сказаць — раз'юшаны зварот да драгічынцаў) адзначыў у прыватным лісце: «…Генерал-лейтенант Манюкин, чтобы скрыть скандал, отпустил из плена до 200 крестьян, взятых с оружием в руках в деле под Семятичами…» Выходзіць, ужо ў ходзе вайсковых аперацый актыўна фарміраваўся пэўны вобраз паўстання, які перайшоў потым у афіцыёзную гістарыяграфію.

Нягледзячы на цяжкую паразу, многім паўстанцам удалося вырвацца з ахопленых полымем Сямяцічаў. Замечак са сваімі людзьмі накіраваўся ў Плоцкае ваяводства, а Рагінскі, Сангін, Рыльскі, Левандоўскі пайшлі зноў пад Высока-Літоўск, каб рушыць потым у Белавежскую пушчу. Тут аддзяліўся Левандоўскі, які лічыў, што як ваявода Падляшша павінен вярнуцца ў Карону (Царства Польскае).

Для далейшага паходу Рагінскі выклікаў ахвотнікаў. З ім засталося паўтары сотні маладых байцоў. Часткова гэта, — піша Рагінскі, — «літвіны з-пад Сямяцічаў з Браніславам Рыльскім і Сангіным, аканомам маёнтка пад Сямяцічамі. Астатнія былі са мной з першай ночы». Узялі з сабой толькі дзве павозкі — адну з вайсковым рыштункам, другую са срэбрам, захопленым некалі ў Янаве[105].

Генерал-маёр Носціц, які з немалымі сіламі (2 батальёны пяхоты, 2 гарматы, казакі) даўно ўжо гнаўся за Рагінскім, прапусціў Левандоўскага за Буг і зноў пайшоў за Рагінскім, адразаючы яго ад пушчы.

У баі пад Каралёвым Мостам паўстанцы панеслі сур'ёзныя страты. Карнікам у якасці трафея дасталіся паўстанцкае срэбра, каштоўныя вазы з Янава. Ды гэта нічога. Вайна ёсць вайна. Горай, што Носціц не пусціў інсургентаў у пушчу. Тым не менш адчайны рэйд працягваўся.

31 студзеня вечарам паўстанцы Рагінскага і Сангіна ўвайшлі ў Шарашова. Пазней Рагінскі ўспамінаў: «Шарашова нечакана дало нам усё нават з лішкам: багата ботаў, бялізны, харчоў. Усё мястэчка навыперадкі збеглася, каб нас накарміць».

105 У Янаве-Падляшскім, дзе быў дзяржаўны конны завод, Рагінскі на пачатку паўстання захапіў дарагія прызавыя вазы. За ім з Янава пайшла і частка конюхаў, жакеяў, спрактыкаваных наезнікаў.



На золку 1 лютага на падводах уляцелі ў сонныя Пружаны. У адзін момант абяззброілі даволі шматлікую інвалідную каманду — гарнізон ціхага павятовага гарадка. Выпусцілі вязняў з астрога. Захапілі гарадскую касу — больш за дзесяць тысяч рублёў. А вось з людскім папаўненнем было горш. У Пружанах, — піша Рагінскі, — далучылася толькі двое добраахвотнікаў, «бо Пружаны, як і наогул увесь абшар, па якім я праходзіў, былі ахоплены сном і толькі на наш голас уздымаліся, скідвалі тое здранцвенне, у якім знаходзіліся з 1830 года».

Ды грому-грукату нарабілі шмат. На ўсю імперыю. Жандары данеслі цару, што на Пружаны напалі ажно дзве тысячы мяцежнікаў (такую тэлеграму можна бачыць у маскоўскім архіве).

З Пружан павярнулі на Кобрын, каб перабрацца потым на Валынь. Па дарозе паўстанцаў адшукаў ветэран рэвалюцыйнага руху Апалін Гофмейстар з весткамі: Носціц ужо ў Пружанах, і з Кобрына насустрач паўстанцам выслана войска. Дарэчы, цікавая дэталь: Гофмейстар прывёз Рагінскаму каробку дарагіх сігар. Той не паліў і пакінуў іх Носціцу з насмешлівай запіскай, каб генерал не надта сумаваў, у чарговы раз упусціўшы інсургентаў. Яшчэ раней, калі верыць Рагінскаму, ён зрабіў з Носціцам абмен палоннымі афіцэрамі. Гэта было як у рамане пра дасціпнага высакароднага разбойніка і не менш шляхетнага пераследвальніка. Вайна вайной, але паступова паміж генералам і ўдалым партызанам утварылася нейкая нітачка, якая пазней выратавала Рагінскаму жыццё.

Між тым, цвяроза ўзважыўшы сітуацыю, Сангін вырашыў падавацца бліжэй да родных мясцін, да Сямяцічаў, дзе ў яго, па словах Рагінскага, заставалася сям'я. Клікалі яго, трэба думаць, таксама абавязкі па арганізацыі. З ім пайшлі і Рыльскі, і яшчэ з паўсотні сямяціцкіх «літвінаў». Пры расставанні сумленна падзяліліся зброяй, рыштункам, грашыма.

Назаўтра здарылася непапраўнае. Сангіна і яго таварышаў дагнаў атрад карнікаў, высланы Носціцам. Завязаўся бой. Сангін, Рыльскі і яшчэ некалькі паўстанцаў загінулі на месцы, палова трапіла ў палон, мала хто выратаваўся.

Гэта здарылася 3 лютага (15-га па новым стылі) ля Рэчыцы былога Пружанскага павета. Паводле матэрыялаў А. Гілера (таго самага, што апублікаваў «Пісьмы з-пад шыбеніцы» Каліноўскага), паўстанцаў падвёў былы пружанскі судовы чыноўнік Ізбіцкі, які нібыта ўцёк з пікета.

Ёсць сэнс прывесці апісанне Гілера, заснаванае, відаць, на ўспамінах удзельніка падзей (яно вельмі канкрэтнае, дэталёвае), цалкам:

«Рыльскі з 38 людзьмі намагаўся вярнуцца за Буг, прабіваючыся праз Пружанскі і Брэсцкі паветы. Дайшоўшы да Рэчыцы, 15 лютага спыніўся

на папаску ў суседнім лесе. Здарожаныя паходам, усе адпачывалі, апрача тых, хто гатаваў ежу на вогнішчах, і аднаго ў пікеце, а менавіта ўжо згаданага вышэй Ізбіцкага. Той, пакінуўшы пост, адправіўся ў Рэчыцу, узяў фурманку і паехаў у Пружаны на ласку маскалёў. Калі нашы ў лесе менш за ўсё чакалі нападу маскалёў, тыя, у складзе 3 рот пяхоты, пры 75 казаках і 5 белавежскіх стражніках, прыйшлі іх следам, прыведзеныя ў лес папом Асташэўскім і царкоўным старастам. Заняты Рыльскім лес утвараў трохкутнік, абмежаваны ракой Лясной, пакрытай крыгамі. Маскалі рассыпаліся па абодва бакі трохкутніка; спярша білі па лесе перакрыжаваным агнём, потым рушылі аблавай. Паўстанцы, зноў жа, як і пад Каралёвым Мостам, заспетыя знянацку, не здолелі бараніцца і пазалазілі на дрэвы або пахаваліся ў ямах. Маскалі адшуквалі і стралялі. Забіты сам Рыльскі і 10 падначаленых; 14 узята ў палон і яшчэ два смяротна параненыя; некалькі патанула ў рэчцы, потым у вёсцы Чамярах паказалася 8 уратаваных. Адзін з паўстанцаў загінуў вельмі геройскай смерцю. Прабіваючыся праз шэрагі правага маскоўскага крыла і будучы смяротна параненым, ён бег у поле, дзе стаяў непрыяцельскі рэзерв з Брынкенам (царскі афіцэр. — *Г. К.*). З рэзерву выбеглі фельдфебель і шараговец, каб узяць паўстанца, аслабелы ад раны, той упаў на зямлю, але, бачачы, што да яго бягуць салдаты, узняўся для апошняга бою, зваліў стрэлам шарагоўца, потым фельдфебеля і сам скончыў жыццё, прысвечанае свабодзе. Назаўтра нашых 11 маскалі пахавалі разам на ростані [na rozstajnych drogach], а сваіх салдатаў на могілках. Маскалі вярнуліся ў пушчу і даставілі ў Белавежу на двух фургонах нашых палонных і зброю палеглых».

Так выглядае версія бою паводле кнігі А. Гілера. Ва ўспамінах і паказаннях Рагінскага пра здраду Ізбіцкага не гаворыцца, хоць гэтае імя і згадваецца. У рапарце камандзіра карнікаў падпалкоўніка Вімберга Носціцу, напісаным адразу пасля бою, перабежчык Ізбіцкі таксама не ўспамінаецца, але ёсць згадка пра нейкае атрыманае Вімбергам «достоверное сведение», якое дакладна вывела яго атрад на паўстанцаў. Вось пачатак рапарта: «Вашему сиятельству доношу, что вчерашнего числа, т. е. 2 настоящего февраля месяца, в 12 час. ночи в м. Шерешеве, получив достоверное сведение, что польские мятежники… числом до 250 чел. направились из г. Пружаны к селению Кеватыче, Пружанского уезда, вследствие чего, дабы преследовать их по горячим следам, вверенный мне отряд был поднят на 100 обывательских подводах к означенному селению, куда и прибыл в 6 час. утра сего числа, и, осведомившись, что мятежники двумя часами раньше до моего прибытия отправились к ферме Речица, то, переменив подводы, немедленно проследовал до сказанного места, где узнал от местных крестьян, что они находятся вблизи деревни в лесу, почему в ту же минуту я отправил казаков в объезд для пресечения им дороги, а сам, рассыпав в цепь две роты, а именно 2-ю стрелковую и 3-ю линейную, окружил с трех сторон лес, оставив в резерве 7-ю линейную роту, и настигнул мятежников в лесу во время приготовления пищи. Когда началась ружейная канонада и мятежники упорно отстаивали свою позицию, скрываясь за деревьями, я вынужден был 7-ю роту повести разомкнутою атакою, чтобы вытеснить мятежников в поле, но они упорствовали и, не выходя из леса, отстреливались. Несмотря на их сопротивление, нижние чины вышеозначенных рот с ожесточением поражали меткими своими выстрелами до такой степени, что мятежники принуждены были скрываться на деревья, но и тут ни один из них не успел спастись, все были убиваемы пулями». Стыліст з Вімберга быў неважнецкі, затое фантазіі і нахабства ставала. Колькасць паўстанцаў і іх страты ў рапарце бессаромна — у шмат разоў! — перабольшваліся.

На гэты рапарт, мабыць, абапіралася кароткае апісанне бою ў пераліку баёў і сутычак з паўстанцамі, складзеным на пачатку нашага стагоддзя афіцыёзным гісторыкам А. Мілавідавым (у пераліку, які ахопліваў шэсць беларуска-літоўскіх губерняў, бой атрымаў парадкавы нумар 166):

«166) 3 февраля. Дело при ферме Речице, Пружанского уезда. Русский отряд состоял из 2-ой стрелковой и 3 и 7 линейной рот Псковского полка с казаками, под командою подп. Вимберга. Убито (у карнікаў. — *Г. К.*) 2, ранено 3. Состав шайки до 250 чел. Начальник ее Рыльский (он убит). Убито 83 чел., ранено 34, в плен взято 14».

У заўвазе ўдакладняецца, што ферма Рэчыца належыць да Гарадзечанскай воласці Пружанскага павета.

Амаль адначасова складаў пералік бітваў 1863 года польскі гісторык С. Зялінскі, які меў магчымасць карыстацца шматлікімі сведчаннямі пра паўстанне, назбіранымі ў польскіх архівах і бібліятэках. У дадзеным выпадку ён грунтаваўся, мабыць, на кнізе А. Гілера, а магчыма, меў пад рукой і саму мемуарную першакрыніцу. Апісанне бою, які нас цяпер цікавіць, у яго атрымалася такое:

«15.2.63. Рэчыца, Гр[одзеншчына], Пружанскі пав., 13 км на ўсход — паўднёвы ўсход ад Камянца-Літоўскага (Чамяры)[106].

Аддзяліўшыся ад Рагінскага, Рыльскі і Сангін рушылі ў заходнім кірунку. Пад Рэчыцай на іх напала высланая Носціцам, які ішоў ад Пружанаў на Кобрын, калона падпалкоўніка Вімберга: 3 роты і 40 казакоў. Жменька з 38 чалавек, атакаваная знянацку такімі праўзыходнымі

[106] У дужках Зялінскі падаваў дадатковыя тапаграфічныя арыенціры, узятыя з даступных яму крыніц.

сіламі, была ўшчэнт разбітая: 11 загінула, у тым ліку Рыльскі і Сангін, а 14 трапіла ў палон. Маскоўскія страты заключаліся толькі ў 2 забітых і 3 параненых».

Сітуацыя амаль як у «Тутэйшых» Купалы: спрэчка «ўсходняга» і «заходняга» вучоных, кожны вядзе сваю ўласную лінію, цягне ў свой бок. Адзін карыстаецца звыклым старым каляндарным стылем, другі — новым (розніца ў 12 дзён). Зялінскі больш дакладна паказвае маштабы і вынікі бою, Мілавідаў следам за рапартам Вімберга моцна перабольшвае паўстанцкія сілы і — адпаведна — іх страты. Затое ёсць падставы думаць, што Зялінскі крыху схібіў пры вызначэнні месца бою. Тая Рэчыца, якую ён згадвае (сёння ў Камянецкім раёне, цэнтр сельсавета), як і сам Камянец, належала, мабыць, да Брэсцкага павета. Вёска Чамяры, дзе паказаліся пасля бою ўратаваныя паўстанцы, сапраўды ёсць у Рэчыцкім сельсавеце (гл. слоўнік Я. Рапановіча), але якую адлегласць уцекачы паспелі прайсці пасля трагедыі — невядома, звычайна інсургенты стараліся ў такіх выпадках абмінаць вёскі. Арыенцірам для нас павінна служыць вызначэнне Вімберга «ферма Рэчыца». Заўважым: не вёска, не маёнтак, а менавіта «ферма» (паводле Даля — хутар, мыза). Ферму Рэчыца знаходзім у каштоўнай даведачнай кнізе, выдадзенай Гродзенскім статыстычным камітэтам (Указатель населенным местам Гродненской губернии, с относящимися к ним необходимыми сведениями. Гродно, 1905). Паводле гэтага даведніка, ферма Рэчыца — невялікае паселішча, налічвала 25 жыхароў, належала да Гарадзечанскай воласці Пружанскага павета, адлеглас ць ад павятовага горада 31 вярста, да бліжэйшай чыгуначнай станцыі (Тэўлі) 18 вёрстаў. Нейкім дадатковым арыенцірам можа служыць і вёска Ківацічы (цяпер у Тэвельскім сельсавеце Кобрынскага раёна), названая ў рапарце Вімберга. Ківаціцкі лес згадваецца і ў данясенні гродзенскага губернатара Галера ад 28 лютага 1863 года пра дзеянні паўстанцаў Рагінскага: «…отправились в урочище Хомну, где после ужина и короткого ночлега толпа разделилась на две половины, из коих одна (з Рагінскім. — *Г. К.*) отправилась в имение Вылоск помещика Шемиота, а другая (з Рыльскім і Сангіным. — *Г. К.*) — в Кивятицкий лес. Часть эта, состоявшая из 40 человек, была разбита близ местечка Речицы Бельского (так у дакуменце. — *Г. К.*) уезда отрядом полковника Вимберга, причем 11 человек мятежников взято в плен, а прочие убиты на месте». Як бачым, маштабы бою тут бліжэй да ісціны. Затое ў данясенні іншая памылка (відаць, звычайная апіска): вядома ж, меўся на ўвазе не Бельскі, а Брэсцкі павет, і тады мы зноў выходзім на тую вёску (у данясенні — мястэчка), якую згадваў Зялінскі.

Думаецца, што мясцовыя следапыты-краязнаўцы ўдакладняць і ўшануюць месца, дзе закончыў свой зямны шлях выдавец «Мужыцкай праўды», паплечнік Каліноўскага Станіслаў Сангін. Трэба думаць, там, пад Рэчыцай, у брацкай магіле паўстанцаў ля «расстайных дарог», ён і пахаваны. З чатырох выдаўцоў «Мужыцкай праўды» ён — старэйшы ўзростам — першы пакінуў гэты свет і лёг у беларускую зямельку. Праз год у Вільні ад рукі мураўёўскага ката загінуў Каліноўскі. Урублеўскі і Ражанскі эмігравалі, наперадзе ў іх быў доўгі шлях. Адзін упісаў сваё імя ў найноўшую гісторыю Францыі, памёр там у 1908 годзе і як герой Камуны быў урачыста пахаваны на парыжскіх могілках Пер-Лашэз. Лёс Ражанскага сціплейшы, ён неяк згубіўся ў натоўпе эмігрантаў. Калі памёр і дзе пахаваны — невядома. Прынамсі ў 1903 годзе быў яшчэ жывы, напісаў успаміны да саракавой гадавіны паўстання.

Пра лёс Сангіна царскія ўлады пэўных звестак не мелі. Дакладней, звесткі нібыта падзяліліся. Хоць яго імя ў першым рапарце Вімберга адсутнічае, па вайсковай лініі пра гібель паўстанцкага камандзіра Сангіна пад Рэчыцай усё ж дакладвалася. У прыватнасці, у падагульняльнай рэляцыі Носціца, напісанай у сакавіку 1863 года, гаварылася: «Узнав о быстром движении Рогинского на Шерешев и Пружаны, я отправил туда часть отряда, который после трехдневного преследования партии Рыльского и Сонгина, пробиравшейся из Пружан в Высоко-Литовск с целию перейти Буг и вступить в пределы Царства Польского, настигнул ее у Речицы и окончательно уничтожил, причем начальники партий были убиты». Але чыноўнікі, якія аналізавалі следчыя матэрыялы пра ўдзельнікаў паўстанцкай арганізацыі, у рапарты вайскоўцаў, мабыць, не зазіралі ці не былі ўпэўнены, што размова ідзе менавіта пра таго самага Сангіна — даўняга канспіратара, паплечніка Каліноўскага. Ва ўсякім разе, ва ўжо знаёмай нам следчай справе Штарка ёсць афіцыйны дакумент ад 15 красавіка 1864 года, у якім чытаем: «Вследствие отношения Гродненской следственной комиссии от 13 апреля за № 8 Особое отделение канцелярии г. начальника губернии имеет честь уведомить, что бывший начальник Егерского училища Валериан Врублевский и бывший питейно-акцизный надзиратель Станислав Сонгин, как видно из дел Особого отделения, участвовали в мятеже (первый был предводителем шайки) и где ныне находятся — неизвестно…» У алфавітным паказчыку асобаў, датычных да спраў Палітычнага аддзялення канцылярыі віленскага генерал-губернатара, пра Сангіна сказана: служыў акцызным наглядчыкам у Саколцы (падкрэслім — «у Саколцы»; калі чыноўнік не памыліўся, не зблытаў, гэта вельмі каштоўнае для нас біяграфічнае ўдакладненне), удзельнічаў у гродзенскай арганізацыі. І зроблена паметка: «Скрылся».

Колькі слоў застаецца сказаць пра далейшы лёс Рагінскага. Пасля развітання з Сангіным і Рыльскім ён накіраваўся на Пінск і блукаў

з атрадам навокал. Напачатку яму па-ранейшаму шанцавала. Напасці на даволі вялікі горад не адважыўся, але перахапіў пошту на мінскай дарозе, забраўшы каля 5 тысяч рублёў. 14 лютага атрад быў высачаны і разбіты адной з калонаў Носціца пад вёскай Боркі на мяжы Слуцкага павета (цяпер Ганцавіцкі раён), і праз некалькі дзён — якраз у гадавіну сялянскай рэформы — Рагінскі быў схоплены сялянамі ў старажытным Тураве.

Падлічана, што ўсяго смелы рэйд Рагінскага пасля Сямяцічаў доўжыўся 24 дні, было пройдзена 750 кіламетраў. У Маскве ў Гістарычным музеі захавалася кароткая запіска віленскага генерал-губернатара без даты: «Граф Ностиц доносит, что шайка мятежников Рогинского вся уничтожена, сам Рогинский схвачен крестьянами в Мозырском уезде и приведен к нему. Награбленные деньги найдены при нем. Молодецки Ностиц доконал этого мошенника. В. Назимов». Адчуваем задавальненне царскага саноўніка. Сам Носціц у сваім форменным данясенні Назімаву ад 25 лютага паведамляў прыемныя для рэжыму падрабязнасці (магчыма, мы прысутнічаем пры нараджэнні чарговай вернападданіцкай легенды): «19-го числа крестьяне села Турова задержали двух лиц, возбудивших их подозрение щедрою платою фурманщикам. Это был Рогинский с секретарем Юрашкевичем. Начальник банды предлагал мужикам все деньги, находящиеся у него, до 5000 рублей серебром, но они отвергли это, говоря: “Мы одному Царю служим, Царю нашему Освободителю и присяги не изменим”, — этот ответ был дан 19-го февраля в день столь достопамятный для всех русских. Рогинскаму связали руки, а через несколько часов прибыли солдаты, коим были переданы мятежники и 4542 рубля, которые имел Рогинский при себе». А ў цэлым Носціц стараўся быць аб'ектыўным, закранаючы ў сваіх рапартах не толькі чыста вайсковыя, але і палітычныя аспекты апошніх падзей: «Рогинский действовал везде удалым партизаном, и его быстрые и неожиданные появления на местностях, отдаленных одна от другой, немало давали мне хлопот. Во всех проходимых им деревнях он собирал крестьян, уговаривая их поступить в ряды защитников “ойчизны”, и приказывал им не отбывать более барщины и не платить оброка, говоря, что вся земля — неотъемлемая собственность. Крестьяне выслушивали эти речи, но ни один, исключая некоторых дворовых, не пристал к шайке».

З Пінска Рагінскі быў дастаўлены ў Брэст, а потым у Варшаву. Па ўсім, яго чакала немінучае пакаранне смерцю. Расстрэльвалі і вешалі за куды меншыя грахі. Але, як мы ўжо казалі, генерал Носціц у нечым сімпатызаваў свайму маладому праціўніку і асабіста хадайнічаў за яго перад вялікім князем — намеснікам у Царстве Польскім.



Справа набывала вельмі шырокі розгалас. На галаву вязня прэтэндавалі Варшава і Вільня. Пецярбург і Варшава абменьваліся тэлеграфічнымі дэпешамі.

Шэф жандараў вялікаму князю, 9 сакавіка:

«Государь желает, чтобы Рогинский был переведен для допросов и суждения из Бреста в Вильно… Долгоруков».

Вялікі князь, 10 сакавіка:

«По близкому отношению Рогинского к Центральному Комитету сделано распоряжение о переводе его в Варшаву, где он необходимее, чем в Вильне».

З царовым братам паспрабуй пацягайся.

Ды і ў самім Пецярбургу Носціц як свіцкі генерал меў моцныя сувязі. Усё-такі захоп Рагінскага быў пэўным трыумфам. Як пераможцу Носціца сустрэлі ў сталіцы, хаця чужы поспех, магчыма, некаму і мазоліў вочы. 11 сакавіка міністр унутраных спраў Валуеў раўніва запісаў у сваім дзённіку: «Граф Ностиц, вернувшийся из Литвы (так на стары лад у сталіцы разумелі геаграфію. — *Г. К.*) после уничтожения шайки Рогинского, привез разного рода трофеи, которые выставлены напоказ в биллиардной у государя. Там есть призовые вазы, похищенные из Янова, косы, значки, конфедератки и даже чье-то исподнее платье. Вся эта выставка неизвестно почему и для чего продолжается уже два или три дня».

Алею ў агонь падлівалі жандары. Гродзенскі жандарскі штаб-афіцэр Лелякоў паведамляў у Пецярбург 19 сакавіка:

«Из всех отрядных начальников, действующих с вверенными им отрядами против мятежников, выхваляют (мясцовая публіка. — *Г. К.*) одного только генерал-майора графа Ностица за то, что будто бы он дал честное слово взятому в плен предводителю шайки Рогинскому испросить у государя императора милость избавлением его от смертной казни и приказал снять с него фотографический портрет. В какой степени эти толки справедливы, подтвердить не могу».

Чуткі пра фотапартрэт былі цалкам справядлівыя (здымак зрабілі ў Брэсце). Ды і пра генеральскае слова гонару — небеспадстаўныя. І трэба сказаць, граф Носціц умеў трымаць слова.

Сваёй выставай трафеяў у царскім палацы ён даў магчымасць вялікім панам-саноўнікам дакрануцца да рэалій паўстання, адчуць халадок ад дотыку да вострай паўстанцкай касы. За кулісамі ўсяго гэтага, як і раней у Варшаве, ішоў торг за жыццё Рагінскага, які і сам сабе дапамагаў, даўшы нечакана падрабязныя паказанні, назваўшы некаторыя імёны, якія не меў права называць. Так або інакш, кашчавая ад вязня адступілася. Сышліся на 20-гадовай катарзе. Што ні кажыце — катарга ўсё ж лепш

за пятлю. Ды і тэрмін выглядаў такім страшным толькі напачатку. Ужо ў Сібіры тэрмін гэты ці не на ¾ быў скарочаны. З 1868 года Рагінскі на правах ссыльнапасяленца жыў у Віціме, Верхняўдзінску, Іркуцку, гандляваў вяндлінай, якую з бяды навучыўся талкова выраблць, загадваў спіртавым складам. У Сібіры ён ажаніўся з дачкою ўдзельніка паўстання, мяркуючы па дакументах, да 1879 года меў сына і дзвюх дачок. Новых міласцей давялося чакаць доўга. У 1877 годзе тагачасны міністр унутраных спраў Цімашоў у адказ на чарговае хадайніцтва заступнікаў пісаў не без рацыі, што Рагінскі «представляется несравненно виновнее, чем многие из тех преступников, кои будучи отнесены к главным двигателям польского мятежа, подверглись за это смертной казни, я нахожу, что облегчение участи Рогинского ни в коем случае невозможно и он должен быть оставлен в том положении, в котором ныне находится». Толькі ў 1894 годзе змог гаротнік вярнуцца на радзіму. Між іншым, апынуўшыся на свабодзе, былы партызан палічыў неабходным адшукаць і наведаць свайго выратавальніка Носціца, і генералу было прыемна пабачыць яго, як заўсёды нам прыемныя людзі, якім мы зрабілі дабро. Ссівеламу адстаўніку-генералу і трохі маладзейшаму колішняму паўстанцу было што ўспомніць. Памёр Рагінскі ў час Першай сусветнай вайны, генерал — на дзясятак гадоў раней.

Зычлівыя рэверансы ў адрас Носціца знаходзім у старой польскай прэсе. А. Халанеўскі пісаў у 1910 годзе ў нарысе «Як ваяваў з намі Іван Носціц» пра сустрэчу двух ветэранаў на зыходзе стагоддзя: «Герой-паляк і шляхетны расеец маглі гаварыць адзін з адным, як сябры, бо перадусім людзьмі чуліся і тады, калі абодва стаялі пад градам куль і не ведалі іншага паяднання, апрача паяднання смерці…» Праўда, неўзабаве ў тым самым часопісе «Świat» з'явілася нататка нейкага ўдзельніка паўстання Ю. Длугаша «Носціц і Рагінскі». Аўтар (відаць, па натуры скептык і буркун) гаварыў пра бязмэтнасць рэйду Рагінскага, а наконт Носціца ўдакладніў, што яго род старадаўняга лужыцкага кораня. (Згадваецца там і апошні бой атрада — ці групы — Рыльскага «за Рэчыцай, паблізу вёскі Чамяры», але новых для нас звестак няма.)

Сам Носціц у сваіх невялікіх успамінах (Русский архив. 1900. Кн. 2) высока ставіў вайсковую доблесць наогул і прызнаваў гэтую якасць за Рагінскім: «…отвага, энергия и предприимчивость всегда творили чудеса на войне, а этими качествами вполне обладал Рогинский». Такім энергічным баявым камандзірам быў і сам Носціц, патомны вайсковец (бацька — генерал-ад'ютант, аўтар запіскі 1831 года «О русской кавалерии»). Разам з тым успаміны Носціца не дазваляюць лішне яго ідэалізаваць. Ён цалкам салідарызаваўся ў іх з дзеяннямі Манюкіна, дарэчы свайго калегі па Каўказе (праўда, чамусьці ён увесь час называе яго Маныкіным — магчыма, у рэдакцыі кепска расчыталі рукапіс): «Маныкин под Семятичами действовал по-кавказски, обстрелял замок Феншау, взял его приступом и положил предел домогательствам “довудцев” взволновать эту часть края. Я тоже, где нужно было, не забывал наших Кавказских приемов и “перчаток не надевал”, а посему имел кое-какие успехи…». Ёсць ва ўспамінах (на жаль, у вельмі агульнай форме) і згадкі пра «довудцу» Сангіна, пра бой пад «мызай Рэчыцай». Па-мужчынску скупа закранае Носціц асабістую драму, перажытую ў 1863 годзе. Незадоўга да паўстання ён ажаніўся. Маладая жонка (з вядомай дзекабрысцкай сям'і Раеўскіх) цяжка захварэла. Акурат адразу пасля беларускага паходу Носціц павёз яе лячыцца ў Бадэн-Бадэн. Праз некалькі месяцаў яна памерла. Вось, па сутнасці, і ўсё, што ўдалося даведацца. Трэба думаць, у паходзе ён моцна трывожыўся за жонку, і гэта дадавала яму чуласці. Магчыма, тут яшчэ адно тлумачэнне спагадлівасці Носціца да маладога паўстанца, які трапіў у яго рукі.

Што ж думаюць пра ўсё гэта капрызлівая спадарыня Гісторыя і яе вучоныя служкі?

Гісторыкі даволі высока ацэньваюць партызанскі рэйд Рагінскага ў Беларусь, але памятаюць таксама і яго залішне падрабязныя паказанні. Праўда, працяглы час шырокая грамадскасць не мела доступу да гэтых паказанняў, хаця ўжо ў 1894 годзе адзін з былых вязняў-паўстанцаў успамінаў у друку, што ў варшаўскай цытадэлі яму давялося бачыць «агромністы фаліянт» з паказаннямі Рагінскага. «У гэтых паказаннях на кожнай перагорнутай старонцы два-тры радкі прозвішчаў, падкрэсленых чырвоным і сінім алоўкам, і было іх так шмат, што напачатку на асобным аркушы я ўбачыў алфавітны спіс ахвяраў — такая адсутнасць грамадзянскай мужнасці ў маладога чалавека, якому ў ваеннай ніхто не адмаўляў…»

Вядома, што пэўную слабасць-сантымент да Рагінскага меў Юзаф Пілсудскі, які да ўсяго быў ваенным гісторыкам і знаўцам паўстання 1863 года. Каментуючы кнігу Пілсудскага «Год 1863» (перавыдадзена ў Польшчы ў 1989 годзе), ужо згаданы польскі гісторык С. Кеневіч заўважыў: «Сардэчная ацэнка Рагінскага ў вуснах Пілсудскага напэўна змянілася б, калі б яму былі вядомыя дадзеныя ў Цытадэлі паказанні Рагінскага, якія скампраметавалі многіх асобаў». Цяжка ўявіць, каб Пілсудскі-гісторык не ведаў прыведзенага сведчання 1894 года пра залішнюю шчырасць Рагінскага на допытах. Але думаецца, што Пілсудскі-палітык быў гатовы заплюшчыць вочы на многае, бо постаць Рагінскага ў пэўным сэнсе працавала ў яго вачах на любімую ідэю ўзнаўлення Рэчы Паспалітай у магчыма шырэйшых межах (чытай: ідэю падначалення Беларусі і Літвы польскай дзяржаве). Хаця сітуацыю

XIX стагоддзя ніяк нельга без самых вялікіх карэктываў пераносіць на стагоддзе дваццатае. Тое, што было прагрэсіўным учора, у новых умовах станавілася відавочным рэгрэсам.

Напаследак нагадаю пра маленькую дыскусію гісторыкаў, якая згубілася ў багатай літаратуры паўстання. У 1867 годзе генерал Ратч у сваёй вядомай кнізе «Сведения о польском мятеже…» напісаў пра рэйд Рагінскага так: «Рогинский, воспитанник генуезской военной школы, набрав ватагу мерославчиков (прыхільнікаў польскага рэвалюцыйнага дзеяча Л. Мераслаўскага. — *Г. К.*), думал содействовать Калиновскому и вовлечь в мятеж Северо-Западную Россию, ошеломленную вестями о событиях в Польше. Он ворвался в Гродненскую губернию, совершил, как определил варшавский ржонд, пляску сумасшедшего (такая ацэнка змяшчаецца ў вядомых "Запісках" А. Авейдэ. — *Г. К.*), и по пятам преследуемый графом Ностицем, был рассеян и наконец сам был схвачен». Праз трыццаць гадоў польскі гісторык В. Пшыбароўскі парыраваў у сваёй капітальнай працы па гісторыі паўстання: «Паведамленне В. Ратча… нібыта Рагінскі ў сваёй экспедыцыі ў Літву дзейнічаў у згодзе з Каліноўскім, кіраўніком партыі літоўскіх чырвоных, як і большасць рэляцыяў Ратча, хлуслівае. Калі б нешта падобнае было, Рагінскі не прамінуў бы сказаць пра гэта ў сваіх успамінах. Каліноўскага ён (Рагінскі. — *Г. К.*) не ведаў, і можна сумнявацца, ці нават чуў тады пра яго». У сапраўднасці ж, сёння лічыцца, што Ратч меў унікальныя матэрыялы пра Каліноўскага, якія да нас не дайшлі, і гэтыя матэрыялы істотна дапаўняюць наша уяўленне пра погляды і дзейнасць кіраўніка рэвалюцыйных дэмакратаў Беларусі. Сцвярджаць на ўсе сто працэнтаў пра сувязь Рагінскага з Каліноўскім мы не можам, але і неабачлівую катэгарычнасць Пшыбароўскага прыняць нельга. Наш нарыс сведчыць, што Рагінскі прынамсі павінен быў чуць пра Каліноўскага ад Сангіна. Як даўні паплечнік Каліноўскага і намеснік гродзенскага ваяводы апошні меў, трэба думаць, нейкія мясцовыя канспірацыйныя сувязі і яўкі, карысныя Рагінскаму. Ды і прыезд у атрад Рагінскага Апаліна Гофмейстара, трохі пазней прызначанага Каліноўскім на высокую пасаду кіраўніка цывільнай арганізацыі ўсёй Гродзеншчыны, дае ў гэтым сэнсе дадатковы матэрыял для роздуму. Цалкам магчыма, што гэта не было толькі асабістай ініцыятывай Гофмейстара.

Нейкія сувязі з мясцовымі жыхарамі, магчыма, удзельнікамі падполля ў Рагінскага былі. У данясенні гродзенскага губернатара Галера пра захоп паўстанцамі Пружанаў ёсць характэрная згадка, «что дворяне — жители города… знали за две недели о намерении мятежников…».

І яшчэ адзін цікавы для нас факт. У сваіх паказаннях у ліку іншых жыхароў Беларусі, якія яму садзейнічалі, Рагінскі назваў імя Напалеона



Абуховіча, уладальніка маёнтка Круховічы (Круговічы) у паўднёвай частцы Слуцкага павета. Гэта, несумненна, нейкі сваяк нашага Альгерда Абуховіча (у бацькоў пісьменніка, як вядома, быў па суседстве ў Мазырскім павеце маёнтак Грабава). Паводле каментарыяў да публікацыі паказанняў, гэты Напалеон Абуховіч выглядаў нібы «двайніком» нашага пісьменніка: нарадзіўся ў 1840 годзе (такі ж самы год нараджэння і пісьменніка Абуховіча), у красавіку 1863 года, калі пачалося агульнае паўстанне ў Беларусі, далучыўся да паўстанцаў, быў сасланы ў Сібір, адкуль вярнуўся пасля 1871 года. Усё гэта вельмі нагадвала паўстанцкія сцежкі-дарожкі Альгерда Абуховіча, дакументальна яшчэ не высветленыя, у агульных рысах вядомыя нам толькі па ўспамінах. На момант нават падумалася, ці не пра Альгерда тут размова. Далейшае расследаванне паказала, што Напалеон Абуховіч значна перажыў нашага пісьменніка: апошні памёр у 1898 годзе (ёсць магіла з адпаведнымі датамі ў Слуцку), а Напалеон яшчэ праз паўтара дзесяцігоддзя пасля гэтага сам прыслаў з родных Круговічаў звесткі аб сабе выдаўцам мемуараў Гейштара. З яго ліста ў рэдакцыю віленскай «Бібліятэкі мемуараў» (каля 1913 года) даведваемся, што, як і Альгерд, ён вучыўся ў Слуцкай гімназіі, потым у Маскоўскім універсітэце, на вестку пра паўстанне вярнуўся ў Круговічы і далучыўся да паўстанцкага атрада Машэўскага, які сфарміраваўся непадалёк. У першым жа баі паранены трапіў у палон. Дакументальных жа звестак пра ўдзел у паўстанні Альгерда Абуховіча мы пакуль так і не маем.

Далёка не ўсе таямніцы паўстання, як і нашага адраджэння, ужо раскрыты. Ёсць старонкі легендарныя, прыкрытыя вэлюмам часу, быццам бы «не ўзаконеныя» грунтоўнымі навуковымі распрацоўкамі, апакрыфічныя.

# САМАЯ ЦУДОЎНАЯ І ЧЫСТАЯ ПОСТАЦЬ ПАЎСТАННЯ

І гэтаму пошуку (спачатку былі агульная прыкідка, назапашванне звестак) ужо не першы год. Штуршком, зыходным імпульсам, паслужыла старая, вельмі старая і рэдкая польская кніжка, на якую надыбаў калісь у багатай на кніжныя рарытэты маскоўскай Ленінцы (цяпер Расійская дзяржаўная бібліятэка).

Ва ўспамінах літаратара-эмігранта, удзельніка вызваленчага руху В. Кошчыца пра паўстанне 1863 года на Міншчыне, надрукаваных у 1875 годзе ў Кракаве, зацікавілі радкі, прысвечаныя студэнту Феліксу Клюкоўскаму, які напярэдадні паўстання «пусціўся пешкі ў народ па Случчыне і Піншчыне». Цытуем далей: «Адважны, кемлівы, ён дасканала валодаў народнай мовай і ценем выслізгваў ад рускай паліцыі, спыняючыся ў корчмах або сялянскіх хатах, дзе смела сеяў патрыятычную прапаганду, не баючыся здрады з боку сялян, якіх баламуцілі паны і чыноўнікі. Гэты чалавек належыць да самых цудоўных і чыстых постацяў апошняга паўстання; калі б такіх хаця б па адным было на кожны павет, замест паразаў нас сустракалі б трыумфы». Вось так узнёсла і горача характарызуе Клюкоўскага мемуарыст. Несумненна, перад намі чалавек, нечым падобны да Каліноўскага, мабыць, шмат у чым яго аднадумец. Як і Каліноўскі, ён гаварыў на адной мове з народам і ўжо праз гэта далучаецца да тагачаснага нацыянальнага адраджэння.

Ці ж справядліва, што мы амаль нічога пра яго не ведаем? Доўгі час я прыглядаўся да гэтай постаці, збіраў матэрыялы ў віленскіх, мінскіх, маскоўскіх архівах, у багатай літаратуры па гісторыі паўстання. Асобныя рыскі-дэталі паступова набывалі канкрэтнасць, складваліся ў пэўную карціну.

Гісторыю шляхецкага роду Клюкоўскіх даносіць радаводная «фамільная» справа, якая захоўваецца ў мінскім гістарычным архіве. Род паходзіў з Гродзеншчыны. У канцы XVIII стагоддзя нейкая галіна Клюкоўскіх атаўбавалася ў Мінскім павеце, дзе набыла маёнтак Калюжаўшчыну (у Ракаўскай парафіі). У першай палове XIX стагоддзя маёнткам валодалі браты Фабіян, Дамінік і Алоіз Клюкоўскія. Тром гаспадарам у невялікім маёнтку было зацесна, дык Фабіян адправіўся ў шырокі свет, нейкі час арандаваў фальварак Раготынкі на



Слонімшчыне, а ўрэшце пасяліўся ў маёнтку Шчарбінаве ў Наваградскім павеце (цяпер Ляхавіцкі раён). «…Мясцовасць лясістая і ўзгорыстая, над навакольнымі балотамі», — паведамляе стары ўсёахопны геаграфічны даведнік. Словам, тыповая Цэнтральная Беларусь. Відаць, Фабіян быў там арандатарам, а можа, якім службоўцам. Жонка Канстанцыя паходзіла з роду Багушэвічаў (ці няма тут нейкага далёкага сваяцтва з нашым класікам?). Сям'я хутка расла. Усяго ў Фабіяна і Канстанцыі было ажно сем сыноў: старэйшы нарадзіўся ў 1829 годзе, малодшы — у 1848-м. Сярэднія сыны — Канстанцін Фаўсцін (1839 года нараджэння), Фелікс Людвік (1841) і Лаўрын Фабіян (1843) — належалі да пакалення Кастуся Каліноўскага, сталі актыўнымі ўдзельнікамі паўстання 1863 года.

Метрыкі асноўнага нашага героя Фелікса Людвіка ў радаводнай справе, на жаль, няма: яна была далучана да справы ў 1850 годзе, але потым забрана бацькам назад для сямейных патрэбаў. Аднак у прашэнні 1850 года аб далучэнні чатырох малодшых сыноў да шляхецкага роду бацька называе даты іх з'яўлення на свет. Дык датай нараджэння Фелікса трэба лічыць згаданае бацькам число — 22 мая 1841 года. Называецца ў радаводнай справе і іншая дата — 25 мая, ды гэта, мабыць, ужо дата хросту. Месцам нараджэння будзем лічыць Шчарбінава.

Як відаць з дакументаў радаводнай справы, на пачатку 1850-х гадоў бацька збіраўся аддаць Фелікса і Лаўрына ў «ваенна-навучальную ўстанову», у які кадэцкі корпус. Хутчэй за ўсё, гэты намер не здзейсніўся. Лаўрына знаходзім у спісе выпускнікоў Слуцкай гімназіі за 1861 год[107]. Магчыма, тамсама (разам з будучым беларускім пісьменнікам Альгердам Абуховічам) вучыўся і Фелікс Клюкоўскі. Напярэдадні паўстання Фелікс і Лаўрын былі студэнтамі Кіеўскага ўніверсітэта. Наплыў студэнтаў з Беларусі-Літвы, асабліва са Случчыны, быў вялікі. У Кіеве існавала асобнае Літоўскае зямляцтва, якое падзялілася неўзабаве на Слуцкае, Гродзенскае і Жамойцкае.

Час клікаў на змаганне, з самых спакойных і памяркоўных рабіў дзёрзкіх барацьбітоў. Браты-студэнты, асабліва Фелікс, актыўна ўдзельнічалі ў кіеўскім падполлі. Ужо згаданы В. Кошчыц паведамляе ў сваіх успамінах, што ў Мінск у лістападзе 1862 года прыбылі тры эмісары кіеўскай рэвалюцыйнай арганізацыі — Фелікс Клюкоўскі, яго ўніверсітэцкі калега О., а таксама W., землеўласнік і былы кавалерыйскі афіцэр. Хто хаваецца за гэтымі таямнічымі ініцыяламі, сёння цяжка адгадаць. О., паводле мемуарыста, «ехаў для ўзгаднення дзеянняў з рускімі рэвалюцыянерамі ў Пецярбургу і Маскве» (тады сапраўды

107 Глебов И. Историческая записка о Слуцкой гимназии с 1617–1630 — 1901 гг. Вильна, 1903. С. 209. У кнізе — цікавая памылка друку: «Кмоковский Лаврентий» (набор, відавочна, рабіўся з рукапісу, і замест «лю» наборшчык прачытаў «мо»).

вяліся адпаведныя перамовы. — *Г. К.*). Клюкоўскі і W. павінны былі дзейнічаць на Міншчыне. Мацаваць арганізацыю, рыхтаваць кадры барацьбітоў. Дадаткова Клюкоўскі меў даручэнне ад «літоўскага зямляцтва» Кіеўскага ўніверсітэта збіраць успамогу для незабяспечаных калег-студэнтаў. Абмяркоўваліся планы будучага паўстання на вясну 1863 года. Згодна з гэтымі планамі (пакуль яшчэ далёкімі ад жыцця марамі-наметкамі) паўстанцы Беларусі і Украіны павінны былі аб'яднацца паміж Мазыром і Радамышлем. Клюкоўскі, паводле Кошчыца, адзін з самых высокіх прадстаўнікоў падпольнай арганізацыі, «сапраўдны апостал рэвалюцыі», патрабаваў актыўных дзеянняў, але мінчане не былі яшчэ да іх гатовыя. Вось тады Клюкоўскі і выправіўся ў свае агітацыйныя падарожжы па Случчыне і Піншчыне.

Але не парываў сувязяў і са сваёй альма-матар. Кіеўскае падполле актывізавалася пасля выбуху паўстання ў Польшчы. «Нас папярэджваюць пра хуткі прыход кіеўскіх студэнтаў з паходняй той адзінай магчымай тут сацыяльнай вайны»[108], — хвалююцца памешчыкі беларускага Палесся. Улады першыя наносяць удар. Як паказваюць матэрыялы зборніка дакументаў «Грамадска-палітычны рух на Украіне ў 1863–1864 гг.» (Общественно-политическое движение на Украине в 1863–1864 гг. Киев, 1964), на пачатку лютага 1863 года ў Кіеве ў двух дамах па вуліцах Кузнечнай і Уладзімірскай паліцыя знайшла зброю, адмысловы літаграфскі станок і ўжо надрукаваных на ім некалькі дзясяткаў асобнікаў інструкцыі рэвалюцыйнага камітэта мясцовым паўстанцкім кіраўнікам. Паліцыя аб'явіла вышук некалькім студэнтам, якія пражывалі ў гэтых дамах і падчас ператрусу ўцяклі. У іх ліку — Фелікс Клюкоўскі. Укладальнікі зборніка паведамляюць: «Падчас паліцэйскага ператрусу В. Вышынскаму ўдалося збегчы у г. Бабруйск, Ф. Клюкоўскаму — у Наваградак, а І. Бараноўскаму — у Канстанцінопаль. Улетку таго ж года першыя двое былі схоплены і дастаўлены ў Кіеў, а ў лістападзе разам з астатнімі арыштаванымі студэнтамі выпушчаны з турмы з устанаўленнем строгага паліцэйскага нагляду». Што да Вышынскага і Бараноўскага — меркаваць не бяруся, але прынамсі наконт Клюкоўскага гэтыя звесткі абсалютна памылковыя, яго лёс быў зусім іншы.

Як жа было ў сапраўднасці? Просьбы кіеўскіх уладаў пра арышт Клюкоўскага і яго таварышаў накіроўваюцца ў Варшаву, Вільню, Пецярбург. Адтуль рассылаюцца адпаведныя загады ў губерні і паветы. Шукаюць уцекачоў паўсюль. Рыпяць пёры ў шматлікіх канцылярыях, шчыруюць наборшчыкі ў казённых друкарнях. У адной архіўнай справе па Віцебскай губерні знаходзім, напрыклад, такі друкарскі цыркуляр-абежнік тамашняга губернатара Аголіна ад 2 сакавіка 1863 года:

[108] Kieniewicz S. Dereszewicze, 1863. Wrocław, 1986. S. 123.



«Проживающие в Киеве студенты Болеслав и Сигизмунд Ивашкевичи, Болеслав Повятовский, Феликс Клюковский, Виктор Вышинский и Иван Барановский, навлекшие на себя подозрение в сокрытии оружия и распространении возмутительных сочинений, скрылись из Киева.

Вследствие сего согласно с циркулярным предписанием г. министра внутренних дел от 20 минувшего февраля за № 511 предписываю городским и земским полициям Витебской губернии сделать разыскание, не находятся ли означенные лица в Витебской губернии, и если находятся, то отослать их за надлежащим присмотром к г. киевскому военному, подольскому, волынскому генерал-губернатору и о последующем тотчас донести мне».

З прыкладзенага апісання прыкметаў мы ўпершыню даведваемся, як выглядаў герой нашага нарыса, бо фота яго, на жаль, няма. Клюкоўскага шукалі па такіх «установачных звестках»: «Уроженец Минской губернии, росту среднего, лет около 22, лицо худощавое, нос умеренный, усы и борода черные небольшие и на голове волосы черные». Не багата, але ўсё ж…

Віцебскую паліцыю, як і паліцыю іншых губерняў, падключылі да росшукаў, так бы мовіць, на ўсякі выпадак. Найперш, зразумела, гэта быў клопат мінскай адміністрацыі. Блытала тое, што маладых Клюкоўскіх было некалькі. Усе пагодкі, адзін да аднаго. Ды і гэтая нязвыклая для рускіх чыноўнікаў каталіцкая манера даваць дзецям два-тры імёны. Паспрабуй разбярыся, каго як завуць, хто з іх студэнт, хто — не. А тут яшчэ якраз над Нёманам моцна запахла порахам, з'явіліся першыя паўстанцкія групы, узброенае паўстанне з заходніх і паўночна-заходніх ускраін Беларусі дакацілася да Міншчыны. На Навагрудчыне, якая ўваходзіла ў Мінскую губерню, яно пачалося ў першыя дні красавіка. Справа-падшыўка канцылярыі мінскага губернатара «О студентах Клюковских и отставном штабс-капитане Карле Шалевиче…» адкрываецца акурат характэрным рапартам ваеннага начальніка Навагрудскага павета палкоўніка Чартова ад 5 красавіка:

«Для арестования студента Клюковского был послан исправником подпоручик Смольский; не доезжая места жительства Клюковского (мабыць, Шчарбінава. — *Г. К.*), они узнали, что в деревне Колпеничи появились инсургенты, численность коих и под чиим они начальством неизвестно. Студентов Клюковских нет дома, они в отлучке уже несколько дней. Получив такое известие, я вместе с сим дал знать военным начальникам Слонимскому и Несвижскому и просил их командировать к этому месту части войск; я же завтрашний день посылаю туда роту».

Палкоўнік не мог схаваць сваёй трывогі ў сувязі са знікненнем з горада патрыятычнай моладзі. Гэта быў грозны сімптом: «В последнее время

выходцы из города дали право предположить, что у них есть вредный план действий, который теперь приводится в исполнение, и потому за спокойствие в Новогрудке и за его безопасность я не ручаюсь по малочисленности войска».

Як вядома, наваградскія паўстанцы вельмі хутка — 7 красавіка — былі разбіты, у палон трапілі студэнт Адам Пуслоўскі (расстраляны пазней у Наваградку), былы штабс-капітан Карл Шалевіч, браты Канстанцін і Лаўрын Клюкоўскія. Фелікса сярод іх не было. Але ў першых рэляцыях злоўленыя Клюкоўскія праходзілі як студэнты, таму палкоўнік Чартоў у спешцы даў маху і паведаміў у Кіеўскі ўніверсітэт пра затрыманне студэнтаў Фелікса і Лаўрына.

Далейшая перапіска ішла на ўзроўні губернатараў. 15 красавіка з Кіева ў Мінск паляцела тэлеграма: «Прошу распорядиться о доставлении в Киев генерал-губернатору за строгим присмотром задержанного новогрудским военным начальником студента Клюковского». Цяпер задумаліся ў Мінску. Запытанне ў Кіеў ад 16 красавіка: «Новогрудским военным начальником задержаны два студента Клюковские Лаврентий и Константин, а предложением виленского генерал-губернатора велено арестовать Феликса Клюковского. Вноследствие телеграммы пятнадцатого апреля уведомите, высылать ли и которого Клюковского в Киев». У той самы дзень з Кіева растлумачылі: «Новогрудский военный начальник уведомил Киевский университет о задержании им без письменных видов студентов Феликса и Лаврентия Клюковских. Из них следует арестовать и выслать в Киев генерал-губернатору Феликса Клюковского. В здешнем университете было только два Клюковских Феликс и Лаврентий, а Константина нет».

Мінскі губернатар аддае неадкладны загад Чартову выслаць у Кіеў Фелікса ў суправаджэнні двух казакоў. Выпісваюцца прагонныя грошы, робяцца разлікі, з якіх мы даведваемся, што паміж Навагрудкам і Кіевам (у абодва канцы?) лічылася 729½ вёрстаў.

Але тут бравы палкоўнік усё ж зразумеў сваю прамашку і паведаміў, што Фелікс 21 сакавіка невядома куды выехаў з павета, злоўлены ж яго браты. Неўзабаве падаспелі зусім новыя звесткі пра лёс Фелікса са Слуцка. Нарэшце, 14 мая мінскі губернатар паведаміў свайму кіеўскаму калегу:

«Вследствие телеграфической депеши от 16 апреля имею честь уведомить ваше превосходительство, что дворянин Феликс Клюковский, взятый пленным после поражения мятежнической шайки 21 апреля Игуменского уезда при деревне Озерце, умер от ран в городе Слуцке, а пойманные Клюковские Лаврентий и Константин содержатся под арестом в Новогрудке».



Вядома, што пад Азярцамі быў разбіты слуцкі атрад. Такім чынам, непасрэдны ўдзел Фелікса ў баявых дзеяннях паўстанцаў звязаны не з Наваградскім, а са Слуцкім паветам. Узброенае выступленне на Случчыне пачалося пазней за Наваградчыну — 19 красавіка, калі наваградскія паўстанцы былі ўжо разбітыя.

Паўстанцамі на Случчыне камандаваў адстаўны артылерыйскі капітан Уладзіслаў Машэўскі. Пра яго, на жаль, вядома пакуль што няшмат. В. Кошчыц ва ўспамінах называе яго выдатнай постаццю, гаворыць пра нейкія пецярбургскія сувязі (магчыма, меўся на ўвазе Зыгмунт Серакоўскі і яго ўплывовая пецярбургская арганізацыя, тым больш што, па звестках Кошчыца, Машэўскі служыў у гвардзейскай артылерыі). Адзін з добра інфармаваных паўстанцаў распавядаў пасля на следстве пра сваю сустрэчу на пачатку красавіка з галоўнымі кіраўнікамі паўстання на Міншчыне Б. Свентаржэцкім (камісар) і С. Ляскоўскім (вайсковы арганізатар): «Свенторжецкий сказал, что он виделся с Владиславом Машевским, который назначен повятовым начальником Слуцкого уезда, что он обещал приготовить восстание в своем уезде, с которым намерен перебраться в Игуменский уезд на соединение с ним, и что тогда он, Свенторжецкий, передаст ему звание минского воеводы, так как Машевский весьма дельный человек, но пока удерживает это звание при себе, боясь, чтобы Машевский не был разбит раньше соединения, потому что переход для его партии будет очень труден…»

Так яно, на жаль, і здарылася. Горшыя прадчуванні спраўдзіліся, хоць першыя крокі, здаецца, былі ўдалыя. Невялікі (50–100 чалавек) атрад Машэўскага сфарміраваўся ў ваколіцах вёскі Галынка (цяпер Клецкі раён) з дапамогай удзельніка арганізацыі — міравога пасрэдніка Вендорфа. Самую актыўную ролю адыгрываў, трэба думаць, Фелікс Клюкоўскі, які з'явіўся сюды, як мы цяпер ведаем, пасля 21 сакавіка. На фурманках праз Слуцк і Грэск паўстанцы рушылі ў Ігуменскі павет на злучэнне з буйным баяздольным атрадам С. Ляскоўскага і Б. Свентаржэцкага. Па дарозе ссякалі тэлеграфныя слупы і рвалі дрот на Варшаўскай шашы, забралі 40 стрэльбаў у маёнтку князя Радзівіла. Праз два дні, 21 красавіка, атрад спыніўся на адпачынак каля вёскі Азярцы на ўскраіне Ігуменскага павета (цяпер у Гацукоўскім сельсавеце Слуцкага раёна). Напад карнікаў пад камандай падпалкоўніка Драгапулы быў нечаканы, што і вырашыла вынікі бою. Паўстанцы былі разбітыя ўшчэнт. У ліку першых загінуў Машэўскі і атрымаў сваю смяротную рану Клюкоўскі. В. Кашчыц узнёсла называе іх «новымі спартанцамі», якія аддалі сваё жыццё, каб выратаваць іншых.

А мы пагартаем архіўныя выпіскі. Агульную ацэнку атрада і яго разгрому знаходзім у рэляцыі мінскага губернскага жандарскага штаб-афіцэра

Рэйхарта ў Пецярбург ад 30 красавіка 1863 года (Дзяржаўны архіў Расійскай Федэрацыі): «О разбитии подполковником Великолуцкого пехотного полка Драгопулло 21 апреля при деревне Озерице (яшчэ адзін варыянт назвы. — *Г. К.*) шайки мятежников доставлены слуцким военным начальником следующие подробности: шайка эта числом до 100 человек (В. Кошчыц называе ўдвая меншую лічбу. — *Г. К.*) была сформирована мировым посредником Вендорфом и, как сам не сведущий в военном деле, состояла под начальством отставного артиллерии капитана Машевского, которого первая пуля наших стрелков повалила на месте. Смерть начальника и других около его при начале дела навели на мятежников страх, так что, не думая далее защищаться, искали спасения бегством, но меньшей части удалось уйти — трое убито на месте, 14 ранено, 35 взято в плен. С нашей стороны убит казак и помер от ран горнист, да убита лошадь под казаком. Раненые и пленные доставлены в Слуцк. При том взято у мятежников: весь обоз, 73 ружья, пистолеты, сабли, косы, пороху до двух пудов и других разных военных снарядов».

Паўстанцкая газета «Wiadomości o powstaniu na Litwie» ў № 5 ад 12 мая 1863 года (новага стылю) моцна прыхарошыла вынікі бою на карысць паўстанцаў: «У Слуцкім павеце атрад пад камандай Машэўскага, вымушаны прайсці значны бязлесны абшар краю, каля Азяранаў 3 мая быў атакаваны значнымі маскоўскімі сіламі. Страты Масквы і тут куды значнейшыя — забіта 12, ранена 30; у нас загінула 5, але ў гэтым ліку незабыўнай памяці Машэўскі, мужны жаўнер, высакародны грамадзянін. Раненых нашых 16, апрача таго схоплена 24, пераважна бяззбройных, што спакойна сядзелі дома».

Газета паўстанцаў відавочна старалася згладзіць уражанне ад паражэння — наўрад ці ў карнікаў былі такія вялікія страты. У сапраўднасці вядома, што пасля бою 21 красавіка паўстанне ў Слуцкім павеце так і не здолела ўзнавіцца. І яшчэ дзеля гістарычнай праўды адзначым, што сяляне Міншчыны далёка не заўсёды спрыялі паўстанцам. Многія шчыра бачылі ў іх бунтаўшчыкоў супраць бацюхны-цара і паводзілі сябе адпаведна. Вось і на слуцкі атрад пад Азярцамі навёў карнікаў мясцовы селянін Міна Бурак. Праз некаторы час яго ў адплату павесілі паўстанцы другога атрада, які прыйшоў сюды з Мінскага павета. У сваю чаргу, царскія ўлады абвінавацілі ў хаўрусніцтве з паўстанцамі лапцёжную шляхту недалёкай аколіцы Старая Гута — таму што «в июне месяце около этой деревни был взят мятежниками находившийся при смоляном заводе крестьянин деревни Озерцов Мина Бурак…». Улады пагражалі нават выселіць жыхароў Старой Гуты ў Сібір. Словам, як пры кожным буйным грамадскім катаклізме, завязваліся вельмі складаныя, драматычныя вузлы, якія часам цяжка было і разблытаць.



Вернемся да героя нашага нарыса. Дык вось, з праведзенага даследавання вынікала, што Фелікс Клюкоўскі — паслядоўнік Каліноўскага, актыўны ўдзельнік кіеўскага і мінскага падполля напярэдадні паўстання, адзін з кіраўнікоў узброенага выступлення на Случчыне (Клецкі, Капыльскі, Слуцкі раёны) — памёр ад ранаў у слуцкім шпіталі паміж 21 красавіка і 14 мая 1863 года. «Больш дакладная дата, як і месца пахавання, — пакуль невядомыя», — пісаў я ў сваёй публікацыі пра Клюкоўскага ў «Голасе Радзімы» (1995).

Між тым пошук працягваўся — карцела ўдакладніць акалічнасці і дату смерці героя. У мінскім гістарычным архіве, у справе «О движении шаек мятежников в Слуцком уезде», знайшоўся падрабязны рапарт ваеннага начальніка Слуцкага павета палкоўніка Астахава ад 25 красавіка 1863 года губернатару пра бой пад Азярцамі. З дакумента відаць, што з боку карнікаў у баі ўдзельнічалі часці Вялікалуцкага і Новаінгерманландскага палкоў са Слуцка і Нясвіжа.

«Шайка сформирована была из помещиков, студентов и дворян, вооруженных охотничьими ружиями, — гаварылася ў рапарце. — Собрав пленных, Дрогопулов отступил в деревню Озерницы (так у дакуменце. — *Г. К.*), где занялся перевязкою ран исправляющий должность батальонного лекаря честнейший Боршиевский. На другой день, откомандировав роту Новоингерманландского полка обратно в город Несвиж и забрав пленных, возвратился в город Слуцк».

Такім чынам, Клюкоўскаму, як і іншым параненым, забяспечыў першую дапамогу вайсковы лекар Баршыеўскі, які, трэба думаць, сумленна выканаў свой гуманны абавязак. (Дый сярод палонных, дадамо, быў свой лекар. Студэнт-паўстанец Напалеон Абуховіч, пра якога згадвалася ўжо ў папярэднім нарысе, узгадваў: «Трэба аддаць справядлівасць, абыходжанне з намі было людскае; раненых узяў пад сваю апеку лекар з нашай партыі шляхетны Кернажыцкі».) У Слуцку, куды даставілі параненых, здаецца, можна было спадзявацца на шпітальныя ўмовы. Ды рана Клюкоўскага аказалася безнадзейнай.

Да рапарта палкоўніка Астахава прыкладзены «Именной список инсургентам, задержанным вблизи деревни Озерцы, равно убитым и раненым». Забітых трое, у тым ліку Машэўскі і таварыш Клюкоўскага з Кіеўскага ўніверсітэта Міраслаў Мілярэўскі. Першым у пераліку параненых (усяго іх 14 чалавек) стаіць Фелікс Клюкоўскі, з паметкай — дваранін Наваградскага павета. Другі — Казімір Асяеўскі, «невядомага паходжання». Трэці — Франц Пятроўскі, таксама дваранін Наваградскага павета. Далей імёны яшчэ 11 параненых. Прозвішчы першых трох (Клюкоўскі, Асяеўскі, Пятроўскі) злучаны фігурнай дужкай, зроблена агульная для ўсёй гэтай тройцы заўвага — «умерли

от ран». Выходзіць, Клюкоўскі быў нежывы ўжо 25 красавіка, калі пісаўся рапарт Астахава.

Удакладненыя звесткі паспелі трапіць у чарговы том «Беларускай гістарычнай энцыклапедыі» (1997), дзе Фелікс Клюкоўскі, як і належыць, уганараваны асобным артыкулам.

Засталося дадаць, што яго браты Канстанцін і Лаўрын гэтаксама ж актыўна ўдзельнічалі ва ўзброеным выступленні на роднай Навагрудчыне. Належалі яны да паўстанцкай «партыі», якая фарміравалася пад кіраўніцтвам адстаўнога штабс-капітана Шалевіча (удзельнік пецярбургскай рэвалюцыйнай арганізацыі), і былі галоўнымі паплечнікамі камандзіра. Падчас аднаго зператрусаў у Навагрудку на пачатку мая 1863 года ў рукі ўладаў трапіў спіс нейкіх 44 падазроных асобаў, мабыць паўстанцаў. Пачатак спісу наступны: «1. Шалевіч Карл, 2. Клюкоўскі Канстанцін, 3. Клюкоўскі Лаўрын…». Як бачым, той, хто складаў спіс, паставіў Клюкоўскіх адразу за камандзірам. Але гэты спіс не быў далучаны да справы Клюкоўскіх і Шалевіча і падчас следства над імі не згадваўся. Ды, уласна кажучы, матэрыялу тут і без таго цалкам хапала, «склад злачынства» быў, што называецца, у наяўнасці. На допытах высветлілася, што Шалевіч накіраваўся на зборны пункт у Каўпеніцу 4 красавіка, узяўшы з сабой зброю, падзорную трубу і двух добраахвотнікаў — сыноў мясцовага ўніяцкага (так у дакументах) святара Давідовіча. У Каўпеніцы Шалевіча і яго спадарожнікаў ужо чакалі браты Клюкоўскія. У той жа дзень выступілі лесам у напрамку Нёмана. За Нёманам аб'ядналіся з другой навагрудскай «партыяй» (пад кіраўніцтвам ксяндза Лашкевіча і студэнта Пуслоўскага). 7 красавіка аб'яднаны атрад быў разбіты. Клюкоўскія разам з Шалевічам і Пуслоўскім апынуліся ў палоне. Як вядома, Пуслоўскі паводле выраку ваеннага суда быў у Навагрудку расстраляны (пра гэта я пісаў у кнізе «Радаводнае дрэва»). Шалевічу і Клюкоўскім пашанцавала — яны настойвалі на версіі, што нібыта кінулі зброю яшчэ да бою. Цэлы год адседзелі небаракі ў Навагрудку за кратамі, чакалі горшага, асабліва былы вайсковец Шалевіч, які прымаў у свой час прысягу на вернасць гасудару імператару. А за парушэнне вайсковай прысягі — ведаеце што… Нарэшце, 13 красавіка 1864 года, калі хмары вострага грамадскага супрацьстаяння ўжо, можна сказаць, рассеяліся, палявы аўдытарыят у Вільні зацвердзіў вырак ваеннага суда: Шалевічу — 6 гадоў катаргі, Клюкоўскія ссылаліся на жыхарства «в более отдаленные места Сибири».

Далейшы лёс іх невядомы. У Шалевіча, як відаць з дакументаў, засталася на радзіме маладая жонка і трое малых дзяцей, якім казна выплачвала па 20 рублёў утрымання ў год.



# А ШТО НА МЯДЗЕЛЬШЧЫНЕ?

Нарач, як мора, шуміць…

*М. Танк*

Сюды давялося зазірнуць па просьбе раённай «Памяці» (як вядома, такія калектыўныя кнігі-помнікі ствараюцца ва ўсіх раёнах Беларусі — добрая, патрэбная гэтая справа).

Дык вось, 1863 год, у Беларусі віруе паўстанне Каліноўскага — грознае ўзброенае выступленне супраць царызму і прыгонніцтва. Не засталася ўбаку ад гэтых падзей і Мядзельшчына.

Паўстанцкая арганізацыя ў 1863 годзе будавалася ў адпаведнасці з тагачасным адміністрацыйна-тэрытарыяльным падзелам. Мядзельшчыне ў гэтым дачыненні не пашанцавала. Стары, дарэвалюцыйны падзел, нібы нажніцамі, разрэзаў яе акурат напалам. Заходняя частка сённяшняй Мядзельшчыны ўваходзіла ў той час у Свянцянскі павет, усходняя — у Вілейскі.

Камандзірам паўстанцкіх узброеных сіл Вілейскага павета быў адстаўны афіцэр Вінцэнт Козел, які ўзначаліў даволі буйны паўстанцкі атрад, высачаны і разбіты карнікамі 16 мая 1863 года пад Уладыкамі. Трэба думаць, у гэтым атрадзе былі і мядзельцы. Балючая параза пад Уладыкамі моцна парушыла далейшыя планы паўстанцаў.

Ва ўспамінах паўстанца з гэтага атрада Яўгена Кавалеўскага, выдадзеных у 1907 годзе ў Вільні, ёсць цікавыя радкі: аказваецца, паўстанцы Козела мелі звесткі, што «каля возера Нарачы ў бок Свянцян арганізуецца атрад, які налічвае ўжо больш за 200 чалавек і хутка злучыцца з намі».

Гаворка тут пра атрад Свянцянскага павета. Узначальваў яго былы штабс-капітан рускай службы Густаў Рамуальдавіч Чаховіч. Ён нарадзіўся ў 1837 годзе ў маёнтку Паўлінава (Рачкаўшчызна) пад Свянцянамі ў небагатай шматдзетнай шляхецкай сям'і, пасля службы ў арміі выйшаў у адстаўку, займаўся гаспадаркай, а ў 1863 годзе атрымаў прызначэнне на пасаду паўстанцкага ваеннага начальніка свайго павета. Выбраў сабе псеўданім Астоя (паводле назвы радавога герба). Ядро атрада (каля 100 чалавек) утварылася паблізу Струнойцаў (Літва, на поўдзень ад Свянцян, непадалёк ад мяжы з Беларуссю). З гэтымі людзьмі Чаховіч-Астоя накіраваўся на Мядзельшчыну і паміж Свірскім і Вішнеўскім азёрамі злучыўся з атрадам свайго брата Лявона, які прыйшоў сюды з Віленскага павета.

Лявон на тры гады маладзейшы за Густава, таксама вайсковец, інжынер-падпаручнік, пасля заканчэння Канстанцінаўскага ваеннага вучылішча (Пецярбург) быў залічаны ў інжынерную акадэмію. Уваходзіў у пецярбургскую ваенна-рэвалюцыйную арганізацыю Серакоўскага і Дамброўскага, свядома рыхтаваў сябе да барацьбы за свабоду. Калі ў Пецярбургу рабіўсяператрус у адной з фотамайстэрняў, дзе размнажаліся антыўрадавыя адозвы, у рукі ўлад трапіў здымак групы пецярбургскіх афіцэраў у паўстанцкіх світках-чамарках. Сярод іх і наш Лявон Чаховіч. На першую вестку пра паўстанне ён кінуў царскую службу і неўзабаве стаў адным з баявых паўстанцкіх камандзіраў (як і Густаў, насіў псеўданім Астоя). У аб'яднаным атрадзе пад камандаю Густава Лявон заняў пасаду начальніка штаба. Шараговымі байцамі ў атрадзе былі і яшчэ два іхнія браты — Цітус і Андрэй (апошні — зусім малады гімназіст).

На Мядзельшчыне аб'яднаны атрад Чаховічаў канчаткова сфарміраваўся, папоўніўся новымі байцамі, рыштункам і іншымі запасамі. Не хапала зброі. Інсургенты і тут далі рады. Паводле паказанняў Лявона ў следчай камісіі, вясковы каваль умеў спрытна перарабіць звычайныя косы ў традыцыйную зброю беларускіх паўстанцаў.

Спачатку ставілася мэта злучыцца з Козелам. Як ужо гаварылася, яго параза парушыла гэтыя планы. Тым не менш пасля сфарміравання атрад Чаховічаў накіраваўся на поўдзень у Любанскія лясы і 24 мая на досвітку быў сустрэты карнікамі каля вёскі Любкі (непадалёк ад Іжы). Некалькі гадзін доўжыўся бой, асабліва добра паказалі сябе касінеры пад камандаю Кастуся Касцялецкага, які загінуў у баі. Густаву Чаховічу ўдалося захаваць ядро атрада, ён павёў сваіх байцоў у заходнюю частку Свянцянскага павета, потым яшчэ некалькі месяцаў турбаваў карнікаў у Ашмянскім і Віленскім паветах. Улады вельмі хацелі яго злавіць. Палонныя давалі супярэчлівыя паказанні пра тое, як выглядаў іхні камандзір: «Рост каля 2 аршынаў 6 вяршкоў (1,68 метра), даўганосы, светла-русы, барада і бакенбарды вялікія рыжыя…» — казалі адны. «Сярэдняга росту, хударлявы, каля 28 гадоў, шатэн, барада і вусы — такія сама, вочы чорныя, калі адпраўляўся з шайкі, надзяваў акуляры, каб не пазналі…» — гаварылі другія. «Сярэдняга росту, бландзін, насіў бараду і вусы, вочы шэрыя, хударлявы, нос умераны, твар чысты…» — распісвалі трэція і зноў згадвалі пра акуляры. Ці былі гэта свядомыя спробы збіць следчых з тропу, цяжка сказаць. Можа, тут дадавалася тое, што і брат Лявон таксама быў Астоем і іх маглі блытаць.

Які далейшы лёс Густава? Паводле адных звестак (яны трапілі нават у вельмі аўтарытэтны біябібліяграфічны слоўнік У. А. Дзьякава «Дзеячы рускага і польскага вызваленчага руху ў царскай арміі 1856–1865 гадоў», выдадзены ў Маскве ў 1967 г.), Густаў быў усё-такі схоплены карнікамі і расстраляны ў Дынабургскай крэпасці. Ды не надта ў гэта верыцца. Больш верагодна, што ўцёк за мяжу. Палонныя паказвалі, што ў сярэдзіне верасня, калі насоўвалася ўжо восень, ён сказаў двум дзясяткам ацалелых байцоў: «Хто хоча — ідзі дахаты, а сам я пайду ў Каралеўства (у Польшчу. — *Г. К.*)». У спецыяльным загадзе «жонд» Каліноўскага выказаў незадавальненне роспускам атрада[109]. Захаваўся і развітальны ліст Густава да сястры Марыі ў Свянцяны: ён абяцаў вярнуцца вясной 1864 года, калі чакаўся новы ўздым паўстання. Паводле звестак польскіх даследчыкаў, пасля паўстання Густаў апынуўся ў Францыі, служыў старшым кандуктарам на чыгунцы Парыж — Ліён, у званні капітана ўдзельнічаў у франка-прускай вайне 1870–1871 гадоў. У 1887 годзе яго сляды канчаткова губляюцца.

А што з Лявонам? Пасля бітвы пад Любкамі шляхі Густава і Лявона рашуча разышліся. Відаць, ім не давялося больш пабачыцца. Лявон з другой, невялікай, часткай атрада быў адрэзаны ад асноўных сіл і праз Вішнеўскія лясы і Кабыльнік пайшоў на поўнач у Дзісенскі павет. Недзе пад Паставамі 14 чэрвеня яго атрад (або група) быў разбіты, а наш Лявон трапіў у палон. Чакаў вырашэння свайго лёсу ва ўжо згаданай Дынабургскай крэпасці. Справа была вельмі сур'ёзная: былы вайсковец-афіцэр парушыў прысягу, выступіў са зброяй супраць законнага гасудара імператара. У яго пакаянным лісце царскім уладам ёсць, між іншым, такія радкі: «Горкі вопыт паказаў, што я і мае таварышы не вызваліцелі айчыны, а толькі мяцежнікі, што паўсталі супраць законнай улады, і замест урачыстых сустрэч ад свайго народа мы сустрэлі толькі праклёны і мусілі хавацца ў лясах ад тых, за каго мы, паводле нашых паняццяў, паўсталі». Вядома, многае тут навеяна самім становішчам, у якім пісаліся гэтыя словы, але ёсць і сапраўдныя горкія рэаліі. Сяляне далёка не ўсюды і не заўжды падтрымлівалі паўстанцаў. Першапачатковы прысуд быў адназначны — расстраляць, але бацюхна цар Аляксандр II у рэшце рэшт усё-такі зміласцівіўся і замяніў смяротную кару 12-гадовай катаргай. Катаржанін і ссыльнапасяленец Лявон Чаховіч пражыў доўгае жыццё, пасля вызвалення з катаргі займаўся будаўнічымі падрадамі ў Іркуцку і толькі ў глыбокай старасці напярэдадні Першай сусветнай вайны вярнуўся ў Вільню, дзе неўзабаве памёр.

Зведаў Сібір і малодшы з братоў Чаховічаў Андрэй. Потым ён жыў у Варонежы, вытрымаў у Харкаве іспыт на званне правізарскага памочніка (фармацэўта) і вярнуўся на радзіму. Пакінуў невялікія ўспаміны (былі звесткі і пра ўспаміны Густава).

---

109 Каліноўскі К. За нашую вольнасць. С. 112–113.

Здаецца, быў у Чаховічаў і пяты брат. Гэты ў паўстанні непасрэдна не ўдзельнічаў — наадварот, служыў афіцэрам-прапаршчыкам у Віленскім батальёне ўнутранай варты і па абавязку службы суправаджаў вязняў-этапнікаў па чыгунцы ад Вільні да Пскова або да Пецярбурга. Але і пра яго ёсць цікавыя дакументы. 13 жніўня 1863 года дынабургскі жандарскі штаб-афіцэр паведаміў ваеннаму начальніку Віцебскай губерні, «что при провозе и остановке на Динабургской станции партий арестантов, в числе которых находятся осужденные политические преступники, гарнизонный офицер, сопровождающий эти партии, по фамилии Чехович, брат которого содержится в Динабургской крепости в числе арестованных, выказывает к последним слишком резкое участие, дозволяя им под предлогом прощания выходить из-за цепи конвоя для того, чтобы в стороне говорить с посторонними лицами, называющими себя их родственниками, и даже дозволяет входить этим лицам в арестантский вагон». Перад намі, як жывыя, паўстаюць сцэны этапавання асуджаных пакутнікаў за свабоду.

Мураўёў загадаў пасадзіць гэтага занадта ліберальнага прапаршчыка на гаўптвахту і не даваць яму ў далейшым такіх даручэнняў.

У лёсе братоў Чаховічаў, у малюнку паўстання на Мядзельшчыне, як у кроплі вады, адбіліся і гераічныя рысы, і супярэчнасці паўстання 1863 года.

Нельга не ўспомніць і яшчэ адзін цікавы факт з той эпохі. У кастрычніку 1864 года на Мядзельшчыне быў арыштаваны класік нашай літаратуры В. Дунін-Марцінкевіч. Як вядома, царскія ўлады падазравалі яго ў напісанні вострых беларускіх праклямацый, доўга шукалі пісьменніка і знайшлі нарэшце ў Свіры, адкуль ён быў пад канвоем дастаўлены ў Мінск і пасаджаны ў астрог. Зрэшты, гэтаму ў нашай кнізе прысвечаны асобны аналітычны нарыс.

Пра падзеі 1863 года доўга помнілі старыя людзі. Максім Танк, родам з Мядзельшчыны, запісаў у 1991 годзе ў дзённіку з нагоды тэлефоннага званка землякоў: «Думаюць адбудаваць царкву, якая згарэла падчас першай імперыялістычнай вайны. Помню, як пры паляках доўга разбіралі і не маглі разабраць яе сцены, складзеныя з велізарных палявых валуноў.

Католікі ўжо, чуваць, аднавілі свой касцёл у Старым Мядзеле, дзе падчас паўстання 1863 г. казакі перахапілі былі склад зброі паўстанцаў. Пра ўсё гэта чуў я ад свайго дзеда і ад татарскага мулы, якому мы вазілі скруткі сухой яловай кары для вырабу аўчын» (Полымя. 1997. № 11).

Магчыма, некалі знойдуцца і дакументальныя пацверджанні гэтай мясцовай падзеі з часоў паўстання, адгалоскі якой данесены да нас народным паэтам.



# ШЛЯХАМІ «ЗЯМЛІ І ВОЛІ»
## Браты Катырлы

Кульмінацыйны момант жыцця галоўнага героя гэтых нашых нататак звязаны з Оршай, вядомай сёння як буйны чыгуначны вузел Віцебшчыны (ужо не гаворым, што гэта радзіма Уладзіміра Караткевіча і пра многае іншае, чым славіцца горад). У часы вызвалення сялян і паўстання Каліноўскага пра чыгунку тут яшчэ не чулі, але Орша і тады была прыкметным павятовым горадам — праўда, не Віцебскай, а Магілёўскай губерні. І дарогі паштовыя, стратэгічныя тут сыходзіліся — на Маскву і Варшаву, а праз Віцебск бойкі гарадок нацэльваўся шашой на Пецярбург. Адпаведна тут стаялі войскі, не спала ў шапку паліцыя.

12 сакавіка 1863 года (у Польшчы бушавала паўстанне, ды і ў Беларусі і Літве ўжо сям-там пастрэльвалі) тут здарылася чэпэ: з'явілася бунтоўная праклямацыя — друкаваны лісток з пячаткай «Земля и Воля — Русский Центральный Народный Комитет».

Гэта азвалася, кідала пальчатку царызму таямнічая ўсерасійская падпольная арганізацыя, звязаная ў гісторыі з імёнамі М. Г. Чарнышэўскага і яго паплечнікаў.

Улётка, што з'явілася ў Оршы, была без загалоўка і запаміналася па першых словах, якія закраналі балючы нерв часу, пераклікаліся з трывожнымі думкамі многіх: «Льется польская кровь, льется русская кровь… Отчего же и для чего она льется? Край, наводненный русскими войсками, народ, истерзанный нашими тиранами, не мог далее выдержать беспощадного гнета и на последние жестокости правительства ответил всенародным восстанием». Армія і ўвесь народ Расіі заклікаліся падтрымаць справядлівую барацьбу палякаў, аднадушна паўстаць супраць агульнага ворага — расійскага самадзяржаўя.

Улётка «Льецца польская кроў…» ужо распаўсюджвалася ў Маскве і Пецярбургу. І вось чарга дайшла да Беларусі.

У Оршы, як пасля высветлілася, гэтую лістоўку пашыраў невядомы малады чалавек у кажуху. Дзейнічаў вельмі смела і рызыкоўна. Адзін асобнік сунуў на плошчы ў непадпісаным запячатаным канверце салдату-артылерысту. Другі даў выпадкова сустрэтаму ў кавярні маладому канцылярысту з Магілёва Савінічу, якога наш канспіратар адкрыта падбухторваў рыхтаваць зброю, вербаваць кадры паўстання, складаць

ячэйкі-дзясяткі паўстанцкай арганізацыі. Зламыснік, гаварылася ў матэрыялах следства, «после клятв и увещаний, что все им открытое будет сохранено в тайне, высказал, что прибыл в Оршу из Витебска по поручению от комитета пропагандировать мятеж и отыскивать лиц, готовых принять в нем участие…».

Дзеянні рызыканта-крамольніка па шэрагу аб'ектыўных і суб'ектыўных прычын вельмі хутка скончыліся правалам. Салдат данёс начальству, адразу (памог выпадак) выйшлі на Савініча, той даволі ахвотна пагадзіўся дапамагчы злавіць агітатара, які, паводле яго слоў, толькі што выехаў з Оршы на Віцебск. Ды і ўвогуле ў Савініча выявіліся пэўныя вышукныя здольнасці: яшчэ раней у размове з бунтаўніком ён чамусьці прыкінуўся каталікам (хаця такім не быў), хітранька падтрымаў польскую гаворку свайго небяспечнага суразмоўцы.

Крамольніка дагналі на сёмай вярсце віцебскай дарогі, калі ён, пэўна, ужо лічыў сябе ў бяспецы. Забралі пяцізарадны (нішто сабе!) рэвальвер-скарастрэл, яшчэ адзін лісток «Льецца польская кроў…».

Пашпарт, выдадзены 1 лістапада 1862 года Віцебскім земскім судом (так называлася тады павятовая паліцыя) на свабоднае жыхарства ва ўсіх гарадах імперыі, быў у поўным парадку.

Высветлілася, што гэта вольны слухач Пецярбургскага ўніверсітэта Васіль Ігнатавіч Катырла. Дваццаці пяці гадоў. Дваранін Віцебскага павета. Бацькоў ужо няма ў жывых. Брат у Пецярбургу, чакае пасады. Сам прыехаў пагасцяваць да сваякоў у Віцебск і вось завітаў у недалёкую Оршу. Веры, што называецца, самай надзейнай і шаноўнай — праваслаўнай. Больш за тое, у яго на радзіме сярод паважных святароў сваякі.

Ад усіх абвінавачванняў рашуча адмовіўся, ды доказы былі занадта відавочныя.

Усяго цягам следства былі выяўлены, такім чынам, тры асобнікі крамольнай улёткі, як і датычнасць да іх Катырлы. Дастаткова, каб упячы хлопца на катаргу.

Гісторык і пісьменнік М. Зайцаў (М. Віж) знайшоў у мінскім гістарычным архіве дадатковыя звесткі, што ў гэты ж дзень, калі Катырла выехаў з Оршы, са скрыні для карэспандэнцыі мясцовай паштовай канторы быў выняты непадпісаны канверт з тым самым крамольным лістком. Улётку пераслалі магілёўскаму губернатару, і ў справе пра Катырлу яна не фігуравала. М. Зайцаў зрабіў абсалютна слушную выснову: «Абраны рэвалюцыянерам аднолькавы спосаб распаўсюджвання пракламацый у Оршы (у запячатаным канверце дробнага фармату, без адраса), супадзенне падзей па часе — усё гэта сведчыць пра тое, што ў скрыню аршанскай паштовай канторы адозву "Зямлі і волі"… раніцай 13 сакавіка, пакідаючы горад, апусціў В. Катырла. Праўда, дадзеная пракламацыя да матэрыялаў следчай справы аб падпольшчыку не далучана, не фігуруе там і рапарт губернскага паштмайстра аб яе знаходцы: прамых доказаў аб дачыненні да гэтага Катырлы не было»[110]. Ды, відаць, — дададзім — магло прычыніцца яшчэ вечнае суперніцтва розных галін улады паміж сабой.



Выходзіць, у Катырлы было сама меней чатыры экзэмпляры лістоўкі. Ды, хутчэй за ўсё, ён захапіў з сабой з Пецярбурга цэлы стос небяспечных для царызму лісткоў. Упэўнены, што былі і больш удалыя спробы Катырлы распаўсюджваць пракламацыю (у прыватнасці, у Віцебску), але яны засталіся невядомымі следству. Як, на жаль, і нам цяпер.

На акцыю Катырлы кідае дадатковае святло вядомая «Марыенгаўзенская справа» — пад такой назвай у гісторыю ўвайшоў яскравы эпізод сумесных намаганняў рускіх землявольцаў і рэвалюцыянераў Беларусі, Літвы, Польшчы стварыць асяродак для падрыхтоўкі паўстання ў маёнтку Марыенгаўзен Люцынскага павета. Тут, у самай паўночнай кропцы Віцебскай губерні, найбольш набліжанай да Пецярбурга, у глухой лясістай мясцовасці збіраліся ахвотнікі, рыхтаваліся зброя і вайсковы рыштунак, а землявольцы перавялі сюды сваю друкарню, дзе друкаваліся падпольныя выданні «Зямлі і волі». Ды і беларускія рэвалюцыйныя выданні «Мужыцкая праўда», «Гутарка двух суседаў» смела хадзілі тут па руках. У канцы лютага гэты асяродак быў выкрыты ўладамі. Арыштаваны друкар падпольнай друкарні студэнт Дзмітрый Сцяпанаў, як аказалася, быў блізка знаёмы з Катырлам, нават падарыў яму сваю фатаграфію, і імя нашага віцябляніна ў сувязі з гэтым згадваецца ў матэрыялах «Марыенгаўзенскай справы». З пратакола допыту Сцяпанава ад 18 красавіка 1863 года:

«Вопрос 4. Когда, где и по какому случаю вы познакомились с дворянином Василием Котырло, какие были ваши к нему отношения, когда и где виделись с ним в последний раз, для чего передали ему свою фотографическую карточку, и какое участие в ваших действиях принимал Котырло?

Ответ. Я жил прежде с Волковым, бывшим вольнослушателем здешнего университета, который меня познакомил с Василием Котырло. Отношения наши были как добрых знакомых; часто он приходил к нам, и мы по вечерам трое с Издебским занимались химией. Я виделся с ним, а при прощании я дал ему свою карточку. Он говорил сначала, что едет на урок в Тверскую губ. Но когда я ехал с Жуковым за вещами (маюцца на ўвазе друкарскія прылады і гатовая прадукцыя друкарні. — *Г. К.*),

[110] Зайцев М. С голубой печатью «Земли и воли» // Неман. 1984. № 10. С. 176.

встретил его в вагоне, и на вопрос мой, куда он едет, он сказал — на родину, а больше просил не расспрашивать, я, с своей стороны, просил тоже не расспрашивать, и в Острове мы расстались».

Як мы цяпер ведаем, згаданы тут выезд з Пецярбурга быў 24 лютага 1863 года: Катырла ехаў на радзіму распаўсюджваць пракламацыі, Сцяпанаў і другі земляволец Жукаў — у Марыенгаўзен, па справах тайнай друкарні, каб перамясціць яе ў бяспечнае месца. Апошнія сышлі з цягніка ў Жогах (адразу за Востравам) — там было ўжо недалёка да марыенгаўзенскіх ваколіцаў. Трэба думаць, што Сцяпанаў, нягледзячы на ўсе патрабаванні канспірацыі, ведаў пра мэты Катырлавай паездкі, але не пажадаў пра гэта гаварыць. Названы тут С. Ідзэбскі таксама быў актыўным земляводьцам (да гэтага яшчэ вернемся).

Назваў Сцяпанаў і Васілёвага брата Ігната, які пасля заканчэння ўніверсітэта застаўся ў Пецярбургу, чакаў настаўніцкай пасады, працягваючы жыць усімі звыклымі інтарэсамі студэнцкай супольнасці. 22 мая пецярбургскі обер-паліцмайстар Аненкаў даносіў генерал-губернатару Сувораву (між іншым, унуку палкаводца) пра вынікіператрусу ў асоб, якія згадваліся ў паказаннях Сцяпанава. Найперш улады цікавіліся кіраўнічым дзеячам «Зямлі і волі» Мікалаем Уціным, высвятлялі яго сувязі: «Утин бывал у Степанова преимущественно по делу печатания возмутительного воззвания “Земля и воля”. Кроме того, Утин нередко посещал Степанова во время пирушек, устраиваемых для товарищей. На этих пирушках бывали, по показанию Степанова: Издебский, Судакевич, Евтушевский, Корнеев, Федоров, Красноумов, Утин, Моравский, Волков, Котырло 2-й, Краевский, Ярмолович, Сербулов…». Укладальнікі зборніка «Руска-польскія рэвалюцыйныя сувязі», дзе надрукаваны гэты матэрыял, дапаўняюць тэкст афіцыйнага дакумента каштоўнай заўвагай: «Большасць згаданых тут асоб або ўваходзіла ў склад Пецярбургскай землявольчацкай арганізацыі, або была з ёй звязана. Судакевіч Фёдар Сцяпанавіч узначальваў вялікі гурток (“Пецярбургская камуна”), які ўваходзіў у таварыства “Зямля і воля”, быў членам камітэта пецярбургскай арганізацыі. Членамі арганізацыі былі (апрача М. Уціна і Ст. Ідзэбскага) Уладзімір Фёдараў, Ігнат Катырла, Пятро Мараўскі. Студэнты Васіль Еўтушэўскі і Рыгор Сярбулаў, актыўныя ўдзельнікі студэнцкага руху 1861 года, магчыма, таксама далучыліся да “Зямлі і волі”».

У Ідзэбскага прыператрусе, апрача артыкулаў з «Колокола» і іншай «бібулы», была знойдзена таямнічая запіска алоўкам, якая, несумненна, мае дачыненне да «Марыенгаўзенскай справы» або акцыі В. Катырлы, прынамсі паказвае жывую цікавасць пецярбургскіх землявольцаў да Віцебска і Віцебшчыны: «Лозунг (пароль. — *Г. К.*) господина,



отправившегося в Витебскую губ. Если там эти люди, то передайте этот лозунг в Комитет, если нет, то возвратите мне нераспечатанным». «Магчыма, што ЦК “Зямлі і волі” даручыў яму (Ідзэбскаму. — *Г. К.*) вырашэнне ўсіх пытанняў, што датычылі падрыхтоўкі паўстання ў Віцебскай губерні»[111], — слушна мяркуюць даследчыкі. Следству не ўдалося пранікнуць у многія таямніцы «Зямлі і волі», як і раскрыць усебакова яе сувязі з Віцебскам, з Беларуссю.

У Ігната Катырлы пры ператрусе нічога падазронага не было знойдзена, і яго вызвалілі з падпіскаю аб нявыездзе.

Матэрыялы следства па справе В. Катырлы, як і па «Марыенгаўзенскай справе», у наш час былі апублікаваны ў вядомых дакументальных зборніках «Руска-польскія рэвалюцыйныя сувязі» (т. 2, 1963) і «Паўстанне ў Літве і Беларусі 1863–1864 гг.» (1965). Ужо тады я зацікавіўся В. Катырлам як прадстаўніком беларускай інтэлігенцыі, актыўным удзельнікам перадавога вызваленчага руху свайго часу, аднадумцам і паслядоўнікам К. Каліноўскага і М. Чарнышэўскага. У пятым томе БелСЭ (1972) з’явілася першая нататка пра яго: «**Катырла** Васіль Ігнатавіч (каля 1838, Віцебская губ. — год смерці невядомы), удзельнік рэвалюцыйнага руху 60-х гадоў XIX стагоддзя…». Аднак многіх звестак пра яго, у тым ліку самых элементарных, неставала. Адкуль канкрэтна ён, а таксама яго брат родам? З якой яны сям’і, у якіх умовах раслі-гадаваліся?

Таму мне падаліся цікавымі дакументы пра братоў Катырлаў, выяўленыя апошнім часам у Нацыянальным гістарычным архіве ў Мінску.

Найперш гэта справа Віцебскай дырэкцыі вучылішчаў 1846–1849 гадоў пра вызваленне вучняў ад платы за навучанне (Ф. 2507. Воп. 1. Спр. 382). У канцы 1848 года з такой просьбай звярнуўся да вучылішчнага начальства і адстаўны чыноўнік Катырла, дзеці якога Васіль і Ігнат вучыліся ў Віцебскай гімназіі.

У справе ёсць чыноўніцкі фармулярны спіс просьбітаў пачатку 1849 года. Выпісваем адтуль наступныя звесткі.

Ігнат Іпалітавіч («Ипполитов сын») Катырла. Тытулярны саветнік (невысокі чын 9-га класа, які даваў права на асабістае, але не патомнае дваранства). Да таго ж у адстаўцы. Яму 40 гадоў. Веры праваслаўнай. «Из дворян священнический сын». Спалучэнне нячастае. Але сапраўды адметнае беларускае прозвішча Катырла сустракаецца ў тагачасных дакументах па Віцебшчыне як сярод шляхты, так і сярод святароў[112]. Аднак калі і было

[111] Революционная Россия и революционная Польша. М., 1967. С. 88.

[112] Не цураліся прадстаўнікі гэтага разгалінаванага роду і беларускай культуры. Вучаніца Віцебскага духоўнага вучылішча Вольга Катырла зрабіла каштоўныя фальклорныя запісы для П. Шэйна, апублікаваныя ў яго зборніку «Беларускія народныя песні» (1874).

ў даўнія часы гэтае шляхецтва ў продкаў Ігната Іпалітавіча, то цяпер яно засталося сямейным паданнем, да якога, праўда, з пэўнай павагай ставіліся саслужыўцы (вось жа зрабілі паслугу — унеслі ў фармулярны спіс, так бы мовіць, дакументавалі). А па сутнасці — юрыдычна — бацька быў ужо разначынцам. А значыць, насуперак матэрыялам следства 1863 года, якія ўжо прыводзіліся, не быў паўнапраўным дваранінам і яго сын Васіль. Пройдземся прыступкамі вельмі сціплай службовай біяграфіі бацькі. У 1828–1842 гадах служыў дробным канцылярскім чыноўнікам у Беларускай (Полацкай) духоўнай кансісторыі. У 1843–1845 гадах паштовы чыноўнік у Віцебску і Рэжыцы. Каля года знаходзіўся ў адстаўцы (чаму?). У ліпені 1846 года ўладкаваўся памочнікам столаначальніка ў Віцебскае губернскае праўленне, праслужыў з год і звольніўся, цяпер ужо канчаткова, з прычыны хваробы.

Самае для нас цікавае — звесткі пра сям'ю: «Женат вторичным браком, детей имеет — сыновей: первого брака Игнатия 13 и от второго брака Василия 11, и дочерей: Феклу 5 [лет] и Варвару-Марью 2-х месяцев. Вероисповедания православного, а жена римско-католического». Мяркуючы па двайным імені, прынамсі апошняя дачка была таксама ахрышчана ў касцёле. А магчыма, Ігнат Іпалітавіч з жонкай-каталічкай дамовіўся так: сыноў хрысціць па праваслаўным, а дачок — па каталіцкім абрадзе. Так што сям'я была ў пэўным сэнсе інтэрнацыянальная, па-беларуску адкрытая на Усход і на Захад.

Метрыкаў аб нараджэнні Васіля і Ігната пакуль што ў нас няма, таму фармулярны спіс бацькі — ці не адзіная для нас цяпер магчымасць вызначыць месца іх нараджэння. Мяркуючы па звестках пра ўзрост (якія трапляюцца і ў іншых дакументах — пра іх скажам пазней), сыны Ігната Іпалітавіча нарадзіліся ў 1836 і 1838 гадах (малодшы Васіль быў, выходзіць, аднагодкам Кастуся Каліноўскага). Месцам іх нараджэння будзем лічыць старажытны Полацк, дзе служыў у гэты час бацька. Канчаткова ўдакладніць гэтыя звесткі, выявіць дзень і месяц нараджэння пакуль што нельга, бо метрычныя кнігі па Полацку гэтага перыяду не захаваліся.

Агульная карціна сямейнага жыцця праз сухі, выпетраны чыноўніцкі фармулярны спіс бачыцца вельмі невясёлая. Першая жонка, мабыць, памерла неўзабаве пасля нараджэння сына Ігната. Давялося тэрмінова шукаць новую гаспадыню. Сам, нягледзячы на адносна не стары яшчэ век, цяжка хворы, ужо не можа цягнуць службовую лямку. А ў сям'і чацвёра малых дзяцей, дзяўчынка-немаўля.

3 лютага 1849 года дырэктар вучылішчаў Бернгоф паведамляў папячыцелю Беларускай навучальнай акругі (дзе канчаткова вырашалася пытанне пра вызваленне ад платы за вучобу):



«Из сего документа (фармулярнага спіса. — *Г. К.*), поступившего ко мне 1 сего февраля, не видно, чтобы за просителем или за женою его состояло какое бы то ни было недвижимое имение, а усматривается, что у него четверо малолетних детей.

Из собранных же мною частных сведений оказывается, что проситель, не имея и денежных капиталов, одною только службою, которую должен был оставить по болезни, снискивал себе пропитание.

О каковых обстоятельствах имея честь вашему превосходительству донести и признавая титулярного советника Котырло, с своей стороны, человеком действительно бедным, покорнейше прошу разрешить меня (так у дакуменце. — *Г. К.*) на освобождение поименованных сыновей его, учеников Витебской губернской гимназии Игнатия и Василья Котырло, вовсе от платежа за учение».

Дазвол быў атрыманы — «по совершенной их бедности».

Неўзабаве — у давяршэнне ўсіх бедаў — памірае бацька. Пра далейшае даведваемся са справы генерал-губернатарскай канцылярыі «По прошению вдовы Котырловой о помещении детей в учебные заведения на казенный счет» (Ф. 1297. Воп. 1. Спр. 22755). Падшыўка адкрываецца прашэннем ад 26 студзеня 1851 года, адрасаваным віцебскаму генерал-губернатару князю Галіцыну, які знаходзіўся тады па справах службы ў Пецярбургу. Дакумент і сёння кранае непрыкрытай бядою:

«Сиятельнейший Князь!

Милостивый государь!

Муж мой, титулярный советник Игнатий Ипполитов сын Котырло, прослужив по гражданскому ведомству 18 лет, по подаче за болезниею в отставку, в 1848 году (мяркуючы па ўсім, у 1849-м. — *Г. К.*) умер, оставив меня вдовою без всяких средств с двумя малолетними сыновьями и двумя дочерьми.

Местное начальство, видя мою крайнюю бедность и бесприютие, в 1849 году за службу мужа представило меня к единовременному пособию, но такового я еще и по настоящее время не получила, между тем, не имея малейших средств способствовать сыновьям моим, обучающимся: Игнатию — в III, а Василию — во II классе Витебской губернской гимназии, я приняла смелость за одно для спасения себя и детей средство прибегнуть в сем случае к Вашему сиятельству.

Сиятельнейший Князь! Милость Ваша и защита бедных сирот и вдов известна всему вверенному Вам Августейшим Монархом краю, после смерти мужа я не имею способов: ни воспитывать детей моих, ни даже давать им дневное пропитание, по нахождению теперь Вашего сиятельства в СПетербурге, снисходя на крайнее положение, приймите участие в помещении детей моих в какое-либо заведение на казенный счет,

а теплые молитвы пред Творцом Вселенной о благоденствии Вашем, Сиятельнейший Князь, на устах моих с малолетними детьми никогда не устанут.

При чем честь имею представить нужные документы о детях моих при поступлении их в какое-либо из учебных заведений.

С истинным высокопочитанием имею честь быть

Вашего сиятельства
Покорнейшею слугою
Виктория Котырлова»

Згаданых дакументаў (відаць, гэтак патрэбныя нам сёння метрыкі) у справе, на жаль, няма. З прашэння і наступных папераў даведваемся, што маці Васіля і мачыху Ігната звалі Вікторыя Адамаўна.

Прашэнне калі не расчуліла, дык усё ж, мабыць, неяк кранула важнага саноўніка. Хоць і не так хутка, улетку 1851 года, па даручэнні высокага начальства прыбітую горам і нэндзаю ўдаву наведаў сам віцебскі паліцмайстар маёр Барзоў, якому яна растлумачыла, што Ігната і Васіля жадала б уладкаваць «в которое-либо из нижепоясненных казенных заведений, как-то Константиновский Межевский (межавы. — *Г. К.*) институт, Институт лесничих, Аудиторскую школу, Школу Топографов, Школу Архитекторов или Инженеров Гражданского ведомства, в Институт Петагогический (так у дакуменце. — *Г. К.*), в Институт Правоведения». Такія былі мары беднай маці (прычым па скажоных, малапісьменных назвах адчуваецца, што ні яна, ні былы вайсковец Барзоў не надта разбіраліся ў гэтых высокіх сферах сталічнай адукацыі).

У кастрычніку таго ж года новае прашэнне ўдавы Катырлавай генерал-губернатару — уладкаваць дзяўчатак у Піпенбергскі інстытут (назва зноў перакручаная, даём адразу правільную) пад Магілёвам[113] — «состоящий в близком расстоянии от места жительства моего, чем удовлетворится хотя в части желание родительницы, лишенной по бедному своему состоянию и этого единственного удовольствия, дабы могла видеть при себе вырастающих и воспитывающихся детей. Что же касается помещения сыновей моих, если в указанные мною в записке… места встречается невозможность, то покорнейше прошу Ваше сиятельство поместить их в Воспитательный дом Гатчинского Института».

Але аказалася, што ў той Выхаваўчы дом у Гатчыне (інакш Гатчынскі сіроцкі інстытут) хлопцы ўжо спазніліся — туды бралі да 12 гадоў, а іх сястрычка Фёкла, або Тэкля, у 1852 годзе па загадзе міністра ўнутраных спраў (вось ажно якое высокае начальства давялося турбаваць) была залічана кандыдаткай у той жаданы Піпенбергскі інстытут.

[113] Пра Піпенбергскі інстытут (выхаваўчую ўстанову для дзяўчатак) пісаў З. Яцкевіч (Голас Радзімы. 1993. 14 кастр.).



Хлопцы ж працягвалі сяк-так вучыцца ў Віцебскай гімназіі, якую, насуперак усім цяжкасцям, і скончылі: Ігнат у 1856 годзе, а Васіль у 1859-м (іх імёны бачым у спісе выпускнікоў гімназіі, прыкладзеным да вядомай грунтоўнай кнігі А. Сапунова «Гістарычная запіска 75-годдзя Віцебскай гімназіі», выдадзенай у 1884 годзе).

Пра іх вучобу трапляюцца асобныя разрозненыя звесткі ў матэрыялах мінскага і віленскага гістарычных архіваў (справаводства дырэкцыі вучылішчаў і папячыцеля навучальнай акругі).

Найбольш раннія выяўленыя дакументальныя пазначкі належаць да 1844–1846 гадоў.

У 1844/45 навучальным годзе (яшчэ пры жыцці бацькі) сямігадовы Васіль Катырла лічыцца сярод вучняў Віцебскага прыходскага ланкастарскага вучылішча. У падобных характэрных для той эпохі ўстановах, як вядома, набывалі першую адукацыю пераважна дзеці разначынцаў.

У наступным годзе яго брат Ігнат, 10 гадоў, — вучань першага класа Віцебскага павятовага вучылішча.

Спіс 1849/50 навучальнага года: Васіль, 11 гадоў, у I класе Віцебскай гімназіі; Ігнат, 13 гадоў, у III класе гімназіі.

24 лістапада 1851 года ў журнале наглядчыка за «приходящими» вучнямі (якія жылі ў горадзе, а не ў інтэрнаце) з’явіўся надпіс (даручэнне дырэктара наглядчыку): «Довести до сведения г. Топальского, советника казенной палаты, что сын его Михаил успехами своими по закону Божию не соответствует ожиданиям начальства гимназии и нуждается в особом родительском побуждении. То же самое сообщить родителям и об учениках: Масловском Иване и Котырло Василии» (НГА ў Мінску. Ф. 2507. Воп. 1. Спр. 482. Л. 16). Легкадумная абыякавасць да Святога Пісьма, як бачым, ураўноўвае тут і сына шаноўнага саветніка, і дзяцей чыноўніцкай драбнаты. Васіля, як мы разумеем, павінна была «побуждать» усё тая ж гаротная маці Вікторыя Адамаўна.

Паводле архіўных выпісак, па-сяброўску ахвяраваных нам М. Зайцавым-Віжам, увосень 1852 года абодвум братам (Васіль у III, Ігнат у V класе) была прызначана невялікая стыпендыя з уладкаваннем іх у так званай агульнай вучнёўскай кватэры (інтэрнаце) пры гімназіі.

Як бы там ні было, жыццё ішло, браты раслі. У спісе вучняў 1855/56 года чытаем: V клас — Катырла Васіль, 17 гадоў, «личный дворянин» (гэта значыць — паўторым — бацька за службу атрымаў асабістае, але не патомнае дваранства), стыпендыят, веры праваслаўнай; VII клас (выпускны) — Катырла Ігнат, 19 гадоў.

Зафіксавана і такое. У лютым 1856 года выпускнік-сямікласнік Ігнат Катырла ўдзельнічае ў так званых літаратурных гутарках у гімназіі: робіць разбор сачынення вучня VI класа Кастуся Валодзькі «Паданне

аб латышах» (НГА ў Мінску. Ф. 2507. Воп. 1. Спр. 462). У сваіх даследаваннях аўтарства беларускіх ананімных паэм мы паказалі, што віцебскія гімназісты наогул жыва цікавіліся літаратурай і фальклорам. У 1855 годзе на Віцебшчыне створана выдатная паэма «Тарас на Парнасе». Як цяпер высвятляецца, да яе стварэння і папулярызацыі мелі непасрэднае дачыненне гімназісты Кастусь Вераніцын і, мяркуючы па ўсім, Элегій Карафа-Корбут (Вуль). Зразумела, літаратурныя поспехі сяброў надзвычай імпанавалі ўсяму гімназічнаму таварыству, у тым ліку, трэба думаць, братам Катырлам (Вераніцын на два гады, а Вуль усяго на год старэйшы за Ігната). На іх вачах адбыўся цуд узмужання новай беларускай літаратуры, хаця не ўсе, мабыць, гэта ў поўнай меры зразумелі. Так або інакш, але паглыбленае вывучэнне віцебскага гімназічнага асяроддзя 1850-х гадоў надзвычай важнае для даследчыкаў паэмы «Тарас на Парнасе». Браты Катырлы цікавыя нам і з гэтага пункту гледжання. Праз іх біяграфіі прасочваецца характэрная асаблівасць — даўняя цесная сувязь Віцебска з Пецярбургам (нездарма галоўная вуліца ў Віцебску называлася Пецярбургскай, а адзін з вакзалаў у Пецярбургу і цяпер Віцебскі).

Вось і Ігнат Катырла, скончыўшы гімназію, доўга не перабірае, а ўжо звыклымі для віцебскай моладзі шляхамі едзе ў паўночную сталіцу, дзе паступае ў Галоўны педагагічны інстытут (спраўдзілася ўсё ж колішняя мара маці бачыць сына ў інстытуце «петагогическом»). Яго імя знаходзім у спісе таварышаў М. А. Дабралюбава па інстытуце[114]. Праўда, вучыліся яны разам усяго адзін год і на розных факультэтах: Дабралюбаў у 1857 годзе скончыў гісторыка-філалагічны, Катырла ў 1856 годзе паступіў на фізіка-матэматычны.

Своеасаблівая, не лепшая ў вачах бюракратаў рэпутацыя гэтай установы засведчана радкамі «Гора ад розуму»:

…в Петербурге институт
Пе-да-го-гический, так, кажется, зовут:
Там упражняются в расколах и безверьи…

Грыбаедаў як у ваду глядзеў. У рэшце рэшт цярплівасць уладаў скончылася. У 1859 годзе інстытут закрылі, і давучвацца Ігнату давялося ва ўніверсітэце. Паводле вядомай кнігі В. Грыгор'ева «Імператарскі С.-Пецярбургскі ўніверсітэт на працягу першых пяцідзесяці гадоў…», Ігнат Катырла скончыў фізмат універсітэта (разрад прыродазнаўчых навук) у 1860 годзе (адначасова з К. Каліноўскім). Скончыў са званнем «действительного студента» (лепшыя па поспехах студэнты, як Каліноўскі, канчалі кандыдатамі).

[114] Рейсер С. А. Летопись жизни и деятельности Н. А. Добролюбова. М., 1953.



Васіль з 1859 года, пасля заканчэння гімназіі, стаў таксама пецярбуржцам, вольнаслухачом універсітэта. Мяркуючы па паказаннях Д. Сцяпанава, Васіль, як і яго старэйшы брат, вывучаў прыродазнаўчыя навукі, а сродкі на пражытак здабываў прыватнымі ўрокамі.

Мы бачылі ўжо, што браты Катырлы, як і ўся перадавая моладзь таго часу, не засталіся ўбаку ад грамадскага ўздыму слаўнай эпохі 60-х гадоў, удзельнічалі ў студэнцкім руху, сталі змагарамі за «зямлю і волю».

Пра Ігната, пасляператрусу ў яго 1863 года, новых звестак мы пакуль не маем.

Васіля, схопленага, як мы памятаем, 13 сакавіка 1863 года пад Оршай, чакаў доўгі пакутніцкі шлях. 15 сакавіка яго, а заадно і Савініча даставілі ў Магілёў да губернатара. У губернатарскай канцылярыі была заведзена справа «Об арестовании в Орше Катырло (так на вокладцы; звычайна па-руску пісалі «Котырло». — *Г. К.*) и Савинича» (НГА ў Мінску. Ф. 2001. Воп. 1. Спр. 891). Пагартаем яе разам, паспрабуем убачыць за радкамі казённых дакументаў рэаліі жыцця.

Першы дакумент датуецца 15 сакавіка, калі Катырлу і Савініча прывезлі. Але на лістах 4–5 чарнавік больш ранняга дакумента без даты і подпісу. Не інакш (падумалася спачатку) гэта накід ліста губернатара ў Пецярбург па свежых слядах падзей у Оршы, калі распаўсюджвальнік яшчэ не быў схоплены. Або, можа, нейкі досыць важны чын спехам пісаў губернатару з Оршы (тады чаму не падпісаўся і шкрабаў пяром так нядбайна і размашыста? Спяшаўся?). Дарэчы, пасля з'яўлення пракламацыі ў Маскве і Пецярбургу пра такую магчымасць спецыяльным цыркулярам былі папярэджаны мясцовыя ўлады ці не ўсёй імперыі. Афіцыйны Пецярбург чакаў навінаў. Мяркуючы па змесце нашага дакумента, 13 сакавіка губернатар ці, не менш верагодна, нехта санавіты з Оршы накідваў радкі таропкага паведамлення:

«Возмутительное воззвание Рус[ского] Цент[рального] Комитета, о котором мне дано знать предписанием, вчера явилось у нас. Молодой неизвестный человек в полушубке, в высоких сапогах, в картузе, владея хорошо русским языком, при встрече с одним артиллерийс[ким] солдатом вручил ему конверт, объявляя, что это письмо одному солдату их команды, причем будто бы дано под видом присланных при письме 15 коп[еек]. Письмо это солдат унес с собою и читал другому в квартире, а потом представлено было полковнику, который передал о том городничему, а от этого отдан приказ наблюдать за полушубковою наружностию (так у дакуменце. — *Г. К.*), что, разумеется, осталось без успеха.

Воззвание это, как слышно, было уже некоторым известно прежде. О развозителе говорят, что ближе всего походит он на студента Горецкого (г. зн. Горы-Горацкага інстытута. — *Г. К.*) или какого другого,

и полагают, что он отправился па уезду в другие команды, там квартирующие.

Разговаривая с начальником баталиона, к нам теперь прибывшего, я узнал, что у него были предписания о наблюдении за воззванием, и о том поставлены в известность ротные командиры. А так как о появлении вчера тут воззвания сделалось уже всем тут известно, то я просил баталионного начальника сообщить ротн[ым] командирам о наблюдении за появлением развозителя; но он отозвался, что переписку имеет чрез з[емскую] почту (відаць, не вельмі паспешлівую. — *Г. К.*). Поэтому я просил з[емского] исправника, чтобы он послал нарочного в места, где находятся по уезду войска, с предписан[ием] принять все меры к поимке известного лица. Сегодня обо всем [неразборліва] о появлении воззвания доносит городни[чий], как он мне объявил.

Ах, нужно более средств полиции, чтобы наблюдать в городе за появляющимися неизвестными. Мною [неразборліва] чтобы пленных Венгров (неразборліва; відаць размова пра назіранне за палоннымі, узятымі пры задушэнні рэвалюцыі 1848 года ў Венгрыі, якія з нейкіх прычынаў (прыжыліся?) яшчэ заставаліся ў Беларусі; у новых умовах грамадскага крызісу яны маглі выклікаць трывогу. — *Г. К.*) а Бог их знает [неразборліва]».

Адзначым, вылучым два аспекты. Па-першае, прызнанне, што «адозва гэтая, як чуваць, была ўжо некаторым вядомая раней». Паколькі, несумненна, у дадзеным выпадку маецца на ўвазе Орша або Усходняя Беларусь, то вельмі магчыма, што гэта якраз вынікі ранейшай больш удалай дзейнасці Катырлы, якая не была раскрыта следствам і засталася, так бы мовіць, за кадрам.

І другое. Аўтар ліста вельмі скептычна ставіцца да загаду аршанскага гараднічага назіраць за «полушубковою наружностию». Гэта значыць — за людзьмі ў кажухах. А між тым якраз гэтая ініцыятыва паліцыі і пагубіла Катырлу. Па бязглуздай выпадковасці (трэба ж так здарыцца!) Савініч таксама разгульваў у кажуху, і калі паліцыя з гэтай прычыны звярнула на яго ўвагу, ён адразу ж раскалоўся і выдаў Катырлу (унутрана ён ужо быў гатовы да гэтага з самага пачатку).

Але вернемся да справы № 891, распачатай у сувязі з дастаўкай Катырлы і Савініча ў Магілёў.

Дык вось 15 сакавіка. Магілёў-на-Дняпры (афіцыйная назва нашага Магілёва паводле імперскай «геаграфіі»). Губернатар — магілёўскаму паліцмайстру (закрэсленае ў копіі дакумента бяром у дужкі):

«Предписываю вашему высокоблагородию сделать распоряжение о немедленной отправке в Могилевский острог присланного из г. Орши дворянина Котырло (который обвиняется в распространении



возмутительных воззваний) для содержания его там (под строгим караулом) впредь до особого распоряжения как о нем, так и о присланном с ним писце правления VII округа путей сообщения Савиниче, которого содержать под арестом при полиции.

При сем препровождаются для сохранения взятые при обыске у Котырло вещи».

Назаўтра губернатар накіраваў першыя матэрыялы пра Катырлу міністру ўнутраных спраў, дадаўшы таксама пра знаходку пракламацыі «Льецца польская кроў…» у паштовай скрыні ў Оршы і што «обвиняемый Котырло заключен в острог в особую камеру, а прикосновенный к делу Савинич содержится под присмотром полиции».

Так яны і будуць праходзіць разам па адной справе: адзін як абвінавачваны, а другі — датычны. І ўтрымлівацца будуць па-рознаму: першы — пад строгаю вартаю ў астрозе, другі — больш вольна, пры паліцыі.

Па сутнасці Савініча трымалі «пры справе» як нейкі «рэчавы (у кожным разе — матэрыялізаваны) доказ»: сведка не сведка, злачынец не злачынец.

У маральным сэнсе Савінічу было куды цяжэй. Ва ўмовах высокага грамадскага ўздыму, які папярэднічаў паўстанню 1863 года, большасць землякоў рашуча асудзіла яго ўчынак. Абураліся і прагрэсіўна настроеныя вайскоўцы: многія з іх адчувалі ўплыў ідэй падпольнага «Камітэта рускіх афіцэраў у Польшчы». Гэта пачалося ўжо ў Оршы, калі Савініч яшчэ нібыта радаваўся, што змог зрабіць паслугу ўраду, і не падазраваў, у якое ліха трапіў. Больш за тое, ён быў гатовы да новых «паслуг». У справе ёсць запіска без подпісу і даты, але належыць яна, вядома ж, Савінічу і адрасавана, хутчэй за ўсё, паліцмайстру. Падаем яе цалкам, трохі паправіўшы арфаграфію ды расставіўшы знакі прыпынку, з якімі Савініч яўна не ладзіў:

«В дополнение моего отзыва по делу г. Котерло (так у дакуменце. — *Г. К.*) честь имею донести вашему высокоблагородию, что по донесению (даносе. — *Г. К.*) моему на Котерло как на вредного человека я получил много неприятностей, а именно от артиллерийского офицера Бучерманского, который, придя в Оршанское полицейское правление и увидя меня там, завел со мной разговор, хотя я и не был с ним знаком, упрекая меня, что подобное донесение можно счесть за великую подлость, и спрашивая меня, что за цель моего донесения — “или же с преданности к своему отечеству, а может быть, надеетесь получить за это награду, то ошиблись в своем мнении”. Подобное наставление, как г. Бучерманского, было подтверждено многими лицами теми, которые были моими хорошими знакомыми долгое время, но в эту счастливую

минуту заметил резкую измену моих друзей, о которых ничуть не сожалею за принятое [ими] участье в недостойном человеке и враге русскому Отечеству. Конечно, люди, которые сочувствуют и принимают особое участье в подобном человеке, как Катерло, можно и их счесть по крайней мере хотя в половину подобными людьми, как Катерло, тем более за сделанную складку денег для Котырлы. В этих же денежных пожертвованиях участвовали

1. Бучерманский
2. Старший Богданович
3. Письмоводитель Скорино

Младший Богданович — утвердительно не могу сказать».

Багдановіч, Скарына — якія спрадвечныя беларускія прозвішчы землякоў, што спачувалі Катырлу, стараліся палегчыць яго долю і, наадварот, рэзка асуджалі Савініча.

Нягоды Савініча, звязаныя з непрыняццем яго ўчынку навакольнымі, працягваліся і ў Магілёве. 25 сакавіка ў карчме «Расія» (відаць, яго адпускалі часам ненадоўга з паліцыі) хлапца збіла на горкі яблык група магіляўчан (Дэмбінскі, Гурскі, Акушка), якія накінуліся на яго з крыкам: «Вунь той самы, які выдаў нашага брата!».

…Між тым справай Катырлы моцна зацікавіліся ў Пецярбургу. Гэтага і належала чакаць — злейшага ворага, чым «Зямля і воля», у самадзяржаўя не было. 29 сакавіка электрычны тэлеграф — апошняя на той час навінка тэхнікі — прынёс загад:

«Могилев губернский. Начальнику губернии. Арестованного дворянина Котырло выслать с двумя жандармами в 3 Отделение Собственной Его Величества канцелярии. Свиты Его Величества генерал-майор Потапов». (Патапаў быў якраз начальнікам штаба корпуса жандараў і непасрэдным кіраўніком III аддзялення.)

Назаўтра хуткія коні панеслі нашага героя з жандарамі на ўжо знаёмую нам станцыю Востраў (Пскоўскай губ.), адтуль трэцім класам чыгункі на берагі Нявы. Форменная распіска пецярбургскіх жандараў ад 4 красавіка сведчыць, што на ўсю дарогу пайшло пяць-шэсць дзён. Быў час падумаць, паразважаць. Няцяжка ўявіць, пра што думаў Катырла ў дарозе, седзячы нос у нос са сваімі нядрэмнымі вартаўнікамі, — пра тактыку сваіх будучых гутарак з дасведчанымі следчымі: хаця б не прагаварыцца, не выдаць сяброў-землявольцаў, не натварыць новай бяды.

У сталіцы яго чакалі з нецярплівасцю — першы допыт быў ужо ў дзень прыезду. Ды жандары пралічыліся.

15 красавіка, пасля марных допытаў у Санкт-Пецярбургскай следчай камісіі, Катырлу, які не даў важным сталічным следчым ніякіх новых нітачак-зачэпак, адправілі назад, але не ў Магілёў, а ў Оршу, з загадам



«содержать его под арестом в тамошней тюрьме, отдельно от прочих арестантов». У Оршы была створана спецыяльна для гэтага выпадку следчая камісія.

Як вядома, на Юр'я (24 красавіка) на Магілёўшчыне (на Віцебшчыне таксама) была зроблена спроба агульнага ўзброенага выступлення, паплечнік Каліноўскага Звяждоўскі захапіў Горкі. Трэба думаць, што ў Катырлы на нейкі момант хутчэй забілася сэрца, мільганула надзея, што паўстанцы, калі ўсё пойдзе паспяхова, яго вызваляць. Як там у паэта?

…Темницы рухнут — и свобода
Вас примет радостно у входа,
И братья меч вам отдадут.

Ды дзе там — народ не падтрымаў, з паўстаннем на ўсходзе Беларусі было скончана ў лічаныя дні. «Меч» Катырлы (маем на ўвазе забраны ў яго пры арышце адмысловы — на пяць набояў — рэвальвер) так і застаўся пыліцца недзе ў паліцэйскай шафе. Калі яго не прысабечыў цішком які жвавы служака, страж парадку. Аршанская турма, як і іншыя турмы-астрогі Магілёўшчыны, запоўнілася палоннымі «мяцежнікамі» і іншымі датычнымі да ўзброенага выступлення вязнямі. Справа Катырлы была перададзена ў агульную Аршанскую следчую камісію, утвораную ў сувязі з красавіцкімі падзеямі паўстання.

У верасні Санкт-Пецярбургская следчая камісія зноў патурбавалася, у якім стане справа Катырлы. У лістападзе скончаная следствам справа накіравалася з Оршы ў Магілёў, адтуль — на рэзалюцыю — у Пецярбург. Катырла тады ўсё яшчэ сядзеў у аршанскім астрозе.

Там і перазімаваў, дачакаўся новай вясны, калі яго паўторна прывезлі ў Магілёў (у канцы сакавіка).

У перыяд паўстання 1863–1864 гадоў уся Беларусь, у тым ліку Магілёўшчына, была на ваенным становішчы, вяршэнствавалі вайсковыя ўлады. Невялічкая справа-падшыўка пра Катырлу і Савініча нагляднага, дапаможнага характару была заведзена ў красавіку 1864 года ва ўпраўленні камандуючага войскамі Магілёўскай губерні (НГА ў Мінску. Ф. 3256. Воп. 2. Спр. 49).

Найбольш яна запоўнена скаргамі Савініча на кепскія ўмовы ўтрымання пры магілёўскай гарадской паліцыі, «где нечистота, сырость, тяжелый воздух от стеснения народа, всякого рода мужчин и женщин с их детьми…».

Яго пераводзяць у турэмны замак, але ён зноў скардзіцца вайсковаму начальству, «что вследствие сделанного доноса на мятежников он не может вместе с ними сидеть в одной камере, ибо ежеминутно опасается быть побитым ими, почему и просил, чтобы его поместить отдельно…».

І яшчэ, і яшчэ: «…политические преступники хотят его удушить за то, что он донес о восстании…», «просит отделить его от политических…».

А 29 красавіка вайсковы начальнік Магілёўскага і Быхаўскага паветаў палкоўнік фон Вітэ паведаміў камандуючаму войскамі ў губерні:

«Содержащийся в Могилевском тюремном замке политический арестант дворянин Савинич лично просил меня оставить его там же, но только, как он сделал донос, то чтобы находящийся в казармах арестант Кутырло (так у дакуменце. — *Г. К.*) не был переводим для содержания вместе с ним».

Адсюль даведваемся, што Катырла, сустрэча з якім для Савініча была такой непажаданай, сядзеў у гэты час у казармах Магілёўскага батальёна ўнутранай варты, якія выкарыстоўваліся ў якасці турмы для небяспечных палітычных злачынцаў.

У жніўні 1864 года справа Катырлы была разгледжана нарэшце ў Магілёве ваенна-палявым судом. Прысуд: Катырлу дзесяць гадоў катаргі з пазбаўленнем правоў і канфіскацыяй маёмасці, Савініча ад адказнасці вызваліць. У лістападзе прысуд зацверджаны ў Вільні Часовым палявым аўдытарыятам пры штабе войскаў Віленскай ваеннай акругі. (У архіве аўдытарыята — цяпер у Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы — згодна з правіламі засталася найбольш поўная справа Катырлы з усімі аўтэнтычнымі судова-следчымі матэрыяламі.)

4 снежня ў Магілёве Катырлу і Савінічу абвяшчаецца канчатковы прысуд. Савініч нарэшце вызваляецца з-пад варты, праўда, з аддачаю пад нагляд паліцыі.

Катырла адпраўлены па этапе ў Сібір, паведамляе адпаведны дакумент, 21 снежня 1864 года. Як бачым, амаль два гады давялося яму адседзець перад гэтым у турмах. Орша — Магілёў — Пецярбург — зноў Орша і Магілёў… Відаць, мала каму так «пашанцавала».

Заключны, можа, не самы істотны, але нечым усё ж характэрны дакумент пра Катырлу ў Нацыянальным гістарычным архіве ў Мінску датаваны апошнім днём 1864 года: канцылярыя магілёўскага губернатара, «имея в виду, что имущество и капиталы Котырло подлежат конфискации», пераслала ў губернскую палату дзяржаўных маёмасцяў 1 рубель 77 капеек, узятыя ў яго пры арыштце. Мабыць, у гэтым і заключаліся ўся маёмасць і капіталы нашага героя.

Суровае пакаранне Васіль Ігнатавіч Катырла адбываў ва ўсходняй Сібіры. Вядома, што ў 1870-я гады ён знаходзіўся ў Енісейскай губерні. Цікава, што яго запраторылі ў Сібір з гучным тытулам «дзяржаўнага злачынца» (часцей ужываўся ў такіх выпадках выраз «палітычны злачынец»). Знакаміты земляволец, былы студэнт Л. Панцялееў, высланы



ў Сібір тым самым Мураўёвым-вешальнікам па справе пецярбургскай рэвалюцыйнай арганізацыі, узгадваў: «С титулом государственного преступника в Енисейской губернии были два-три сужденных по каракозовскому делу (няўдалы замах на цара 1866 г. — *Г. К.*) да Котырло, других не припоминаю. Котырло был моим товарищем по университету, по какому-то делу (пецярбуржац Панцялееў, відаць, толкам не ведаў пра аршанскія падзеі 1863 года. — *Г. К.*) сослан в каторгу, по отбытии срока перебрался в Красноярск, где заведовал молочной лавочкой Ин. Данилова».

Прыведзеныя Панцялеевым звесткі датычацца 1874 года. Тады якраз з нагоды чарговай падзеі ў аўгусцейшай сям'і (гэтым разам — шлюбу вялікай княжны Марыі Аляксандраўны з прынцам Альфрэдам Эдынбургскім) былі дараваны палёгкі сасланым у Сібір «дзяржаўным злачынцам». Ім было дазволена вярнуцца ў еўрапейскую Расію пад нагляд паліцыі. Ці скарыстаў гэты ўказ Васіль Катырла — пакуль не вядома.

# ФАНТОМЫ ТАЙНЫХ АРХІВАЎ

А гдзе жандар званком звягне,
Людзей добрых у турму цягне…

*«Гутарка старога дзеда»,*
*1861 г.*

Цікава, мабыць, было б напісаць
кнігу аб анатоміі здрады.

*У. Караткевіч*

Кесарава кесару. Такая кніга, можа, калі і напішацца. Мы ж бачым сваю задачу ў іншым: пазначыць адпаведныя сюжэты, падаць у лагічнай паслядоўнасці аўтэнтычныя факты-дакументы з эпохі Каліноўскага, Дуніна-Марцінкевіча, Багушэвіча, прыадкрыць заслону часу, закулісны бок гісторыі.

Могуць запытацца: «А ці варта наогул варушыць мінулае, вярэдзіць старыя раны, пісаць пра ўсё гэта — пра лоўкага жандара, або пра банальнага царскага шпіка, ці не менш банальнага адступніка, якога тым больш аніяк не назавеш героем?» Такія сумненні былі і ў мяне. І ўсё ж варта — хаця б таму, што прапанаваныя сюжэты звязаны з жыццяпісамі вялікіх беларусаў, спрыяюць высвятленню сякіх-такіх дэталяў і таямніц нашай гісторыі. Ды і само па сабе — пагодзімся з незабыўным Караткевічам — гэта даволі цікава, тым больш што сёння модна зазіраць за кулісы не толькі сцэнічныя. Зрэшты, мяркуйце самі.

*Сюжэт першы:*
*Двайная гульня тайнага агента Б.*

У маладыя аспіранцкія гады мне пашчасціла дабрацца-натрапіць у Маскве да архіва знакамітага III аддзялення — так называўся ў царскай Расіі галоўны жандарскі цэнтр. Гаворачы словамі Янкі Купалы, сказанымі з іншай нагоды, тут мне адкрыўся сапраўдны скарб. Неруш выдатных гістарычных крыніц. Жандары ўмелі, што называецца, трымаць руку на пульсе часу. Самыя свежыя звесткі, гарачыя факты сцякаліся сюды з усіх канцоў неабдымнай імперыі. Многія знаходкі залацінкамі ўвайшлі потым у мае кнігі «Сейбіты вечнага», «З думай пра Беларусь», у дакументальныя зборнікі.



Трэба сказаць, што парадак справаводства ў паноў жандараў быў адмысловы: на акуратных стандартных вокладках нязменны кіпцясты арол з расхінутымі крыламі, першакласная папера, старанныя почыркі, непадуладнае часу чарніла, ці не ў кожнай справе-падшыўцы так званы ўнутраны вопіс дакументаў — крый божа, каб не знікла якая паперка.

Архіў велізарны. Адна справа (па сутнасці, серыя спраў пад адным нумарам) «О революционном духе народа в России» за 1862 год налічвае паўтары сотні самастойных частак, у справе 1863 года «О беспорядках в Царстве Польском и западных губерниях» (пра паўстанне ў Польшчы, Беларусі, Літве) ажно 801 частка. Натуральна, усяго ахапіць не давялося, але тое-сёе паглядзець і выпісаць я паспеў.

Гэта былі незабыўныя хвіліны заглыблення ў гісторыю, ціхай размовы з мінулым. Прошласць шамацела старонкамі, заварожвала, зацягвала, дрыготка зіхцела зводдаль, нібы вада на дне глыбокага калодзежа. А то раптам выплюхвалася наверх нечаканымі фактамі, асацыяцыямі.

Вось тады ў дасье далёкага 1861 года трапіўся загадкавы дакумент, ахарактарызаваны жандарскімі справаводамі ва ўнутраным вопісе як «Письмо неизвестного за подписью Владимир от 10 августа». Ды са зместу было відаць, што тут нешта не так, што аўтар жандарам добра знаёмы. У гэтым лёгка пераканацца.

«Давно уже я собирался написать к вам, но не находил удобного случая, а притом не было крайней нужды, — пачынаўся ліст. — Теперь же честь имею донести, что все мои приготовления насчет эмиссаров устроены как нельзя лучше, и остается только, чтобы они явились, а при первом шаге на земле литовской непременно будут в руках правительства. Наверно знаю, что они выехали из Парижа 20 июля и находятся теперь в Познани, и вскоре явятся к нам. Я обещал узнать вам имя студента, который ездил за границу из Москвы. Это есть Юльян Чарновский, вольный слушатель Московского университета…»

Не інакш размова тычылася матэрыі вельмі важнай і таемнай — стасункаў перадавой моладзі з вольным замежжам, з такімі жаданымі для адных і страшнымі для другіх эмігранцкімі асяродкамі. Далей паведамлялася пра выкананне даручэння жандараў даведацца, хто напісаў крамольную адозву, атрыманую ў красавіку віленскім маршалкам Дамейкам. Для гэтага аўтар ліста спецыяльна ездзіў на Міншчыну і цяпер дакладна ведаў, што да адозвы прычыніўся Дунін-Марцінкевіч — вельмі небяспечная асоба, ён жа напісаў зламысную беларускую «Гутарку старога дзеда» і пераклаў на народную мову патрыятычны гімн «Божа, што Польшчу…».

Называліся таксама імёны наравістых лацінскіх святароў, якія сваім парадкам цішком бунтуюць народ. «Есть еще один опасный

человек в Ошмянском уезде — кадет Николаевского инженерного училища Сигизмунд Минейко, который ходит переодет крестьянином, и разносит “Гуторки”, и возбуждает народ против государя». Разышоўшыся-распаліўшыся, карэспандэнт абяцаў заадно выдаць уладам у поўным складзе і нелегальную сталічную студэнцкую бібліятэку разам з усімі яе завадатарамі-бібліятэкарамі. Вось толькі вернецца ў Пецярбург…

Як цяпер нам — з вышыні часу — бачыцца, большасць названых у лісце асобаў сапраўды былі не на апошніх ролях у вызваленчым руху, нечым вылучаліся сярод іншых. Той жа Зыгмунт Мінейка ўзначаліў у 1863 годзе паўстанцаў Ашмяншчыны, потым уцёк з сібірскай катаргі і стаў у эміграцыі ганаровым грамадзянінам Грэцыі. Ды яшчэ напісаў цэлы том цудоўных успамінаў «З тайгі пад Акропаль». Так што аўтар ліста вока мае вострае, нюх выдатны, умеў бачыць (нават прадчуваць) буйных, каларытных, неардынарных людзей.

«Теперь не могу писать более, потому что могут поймать меня…» — са зразумелым страхам абрываў даносчык сваё небяспечнае пасланне, ставячы подпіс: «Ваш покорный слуга Владимир». Так і ўяўляеш шэрую, бясколерную фігурку баязліўца, які, калоцячыся і азіраючыся, дрыготкай рукой строчыць свой данос. Ды была яшчэ прыпіска: грошы шліце ў Ашмяну на маё імя, а лепш на імя Валяр’яна Бакшчаніна, даручэнні — на імя Пракаповіча ў тую ж Ашмяну.

Ясна, што гэта не проста даносчык-аматар (хапала і такіх ва ўсе часы), а нейкі тайны агент, платны супрацоўнік III аддзялення. (Пішучы пра небяспеку, «Уладзімір», магчыма, проста набіваў сабе цану.) Хто ж менавіта? Тайная агентура не раскрывалася, спасылацца на сапраўдныя імёны «осведомителей» не было прынята, нават ва ўнутранай перапісцы карысталіся эўфемізмамі ці ўвогуле фігурай умаўчання. Аднак пачакайце — на аркушы 7 той самай справы, апрацоўваючы атрыманыя звесткі для перасылкі віленскаму генерал-губернатару Назімаву, жандары ўсё ж «прагаварыліся», пазначыўшы сабе для памяці — «извлечены из письма Бернацкого». Вось вам і прозвішча шпіка. Дарэчы, пад лістом апрача прыдуманага імя «Уладзімір» можна разгледзець хітра сплеценую манаграму з дзвюх літар-ініцыялаў — ОБ.

Хто ж ён такі?

Як відаць з матэрыялаў Віленскай навучальнай акругі, Восіп Бярнацкі быў старэйшым таварышам Францішка Багушэвіча з Віленскай гімназіі. Ішоў класам вышэй. Скончыў гімназію ў 1860 годзе і тады ж паступіў у Пецярбургскі ўніверсітэт. Паходзіў ён, відаць, з Ашмянаў ці аднекуль з тамашніх ваколіцаў і быў, такім чынам, яшчэ і блізкім земляком будучага нашага класіка. Зразумела, яны ведалі адзін аднаго. Толькі не ведаў (прынамсі доўга не ведаў) наш Францішак, што Юзук, Ёска ці Язэп (як там яго называлі гімназічныя таварышы?) такі бессаромнік.

Між тым у сталіцы наш Бярнацкі часу дарма не губляў, хуценька знайшоў дарожку ў праславуты будынак ля Цапнога моста і ўжо на пачатку 1861 года быў платным агентам III аддзялення пад імем Уладзімір, Уладзімір Іваноў.

«Жыву з Божай ласкі і добрых людцаў», — сціпла, хаваючы вочы, гаварыў Бярнацкі (цытую ў перакладзе адзін з яго лістоў). Вядома ж, «дабрадзеі»-жандары ахвотна заапекаваліся хлопцам. Мець свайго чалавечка ў неспакойным студэнцкім асяроддзі ў трывожныя часы блакітным мундзірам было вельмі выгадна. І свой чалавечак стараўся.

Гэта ён у красавіку таго ж 1861 года паведаміў жандарам пра падрыхтоўку небяспечнага зборышча студэнтаў у Вільні, і ўладамі своечасова былі прыняты адпаведныя меры. Тады ж ён атрымаў ад сваіх шэфаў даручэнне даведацца, хто прыслаў бунтоўную адозву маршалку Дамейку (пра вынікі мы ведаем).

Для таварышаў ён такі ж патрыёт, гарачы адэпт эмансіпацыі, прыхільнік вызвалення, як і ўсе астатнія. Ды і мясцовыя ўлады на радзіме, не далучаныя да прафесійных жандарскіх сакрэтаў, яго прымаюць за такога. У чэрвені 1861 года ён заўважаны паліцыяй у спяванні патрыятычнага гімна ў Ашмянах. У спісе спевакоў яго прозвішча стаіць нават першым. Пры ўсёй шпікоўскай схільнасці да мімікрыі ён у дадзеным выпадку наўмысна кідаўся у вочы, нібы падаваў прыклад іншым (мы ж ведаем, з якімі мэтамі — тут пахне ўжо правакацыяй).

У жніўні піша знаёмы нам данос, дзе фігураваў Дунін-Марцінкевіч.

У лістападзе новы данос — пра земляка-студэнта Эўстаха Чарноўскага (брат Юльян згадваўся ім раней), які старшынстваваў на нарадзе польскіх і рускіх студэнтаў Пецярбурга (пад «польскімі» разумеліся і студэнты з Беларусі). Эўстах паўставаў у даносе ініцыятарам рэвалюцыйнага таварыства «Пятнковічаў» на Віленшчыне (назва — таму што збіраліся па пятніцах). Цяпер, паведамляў агент, Эўстах з канспіратыўнымі мэтамі паехаў у Маскву, а неўзабаве будзе на радзіме. «Он, говорят, имеет большое влияние на крестьян, которые его любят, потому что он, одеваясь в серый армяк, называет их братьями».

Яшчэ і яшчэ вытрымкі з жандарскіх падшывак-дасье, па якіх мы можам меркаваць як пра ўвішнасць Бярнацкага, так і пра нарастанне размаху падзей у краі. Падзей, якія ў рэшце рэшт вялі да адкрытай канфрантацыі, да паўстання:

«Наш агент Б. пишет из Ошмян от 27 декабря 1861 года, что, приехав 23-го числа того же месяца из Петербурга в Вильно, он не мог там долго оставаться, потому что генерал-губернатор приказал всех студентов

немедленно выслать, и ему дозволили пробыть в Вильне только несколько часов, которые он употребил на разведывания». Паведамляліся новыя падрабязнасці пра дзейнасць таварыства «Пянтковічаў» у Ашмянах.

Наўздагон дадатковая порцыя фактаў:

«Агент наш Б. доносит из Виленской губернии от 12 января следующее.

Перед новым годом, вопреки ожиданию, в городе Ошмянах собралось не много молодежи, а именно: Чарновские, Марковский, Богушевич…». Стоп! Імя не названа, але даследчыкі справядліва мяркуюць, што вядзецца пра Францішка Багушэвіча, які пасля закрыцця ўніверсітэта апынуўся на радзіме (вельмі хутка — праз які год — наш паэт стане ў шэрагі паўстанцаў Каліноўскага). А можа, дададамо, гэта паэтавы брат Валяр'ян, таксама будучы паўстанец, а потым эмігрант.

«После Нового года агент отправился в Свенцянский уезд, где пробыл до 7 января. В городе Свенцянах он узнал, что там существует общество, подобное ошмянскому…»

Па руках ходзіць напісаны Э. Чарноўскім зламысны артыкул «Новы год». Агент і тут не дае прамашкі. Вось, калі ласка — тэкст артыкула ва ўсёй красе. І трывожны сігнал: пад уплывам «маладога пакалення» сяляне, «которые были верными государю и правительству, видимо, переменили свой образ мыслей».

У красавіку 1862 года ў Вільні выйшла некалькі нумароў падпольнага рукапіснага часопіса «Jednaść». Наш агент ізноў тут як тут. Адначасова Бярнацкі даведваецца пра актывізацыю ў Літве-Беларусі структур вызваленчага лагера, пра дзейнасць у гэтым напрамку ветэрана патрыятычнага руху, нядаўняга катаржаніна Францішка Далеўскага, які — гісторыкі ведаюць — стасункаваў як з «белымі», так і з «чырвонымі», хоць пад уплывам асабістага жыццёвага досведу схіляўся болей да «белых».

І тут наш пінкертон робіць нечаканы крок. У звыклай працэдуры «тавар — грошы — тавар» узнік збой. З'явілася думка істотна папоўніць сваю казну, запрапанаваўшы ходкі «тавар» таксама віленскім уладам (паводле схемы «тавар — грошы — грошы»). Слушна гавораць, што апетыт разгараецца падчас яды. У сярэдзіне чэрвеня 1862 года віленскі паліцмайстар атрымаў наступны ліст з Пецярбурга:

«Милостивый государь!

Узнав некоторые подробности об обществе с политической целью, существующем в городе Вильне, спешу вам о нем сообщить, чтобы вы потрудились уже это передать дальше, так как сам к его превосходительству (Назімаву. — *Г. К.*) писать не могу, опасаясь, что письмо мое достанется в ненужные руки. Дело вот в чем: как вам известно…



в Вильно ходило по рукам периодически издаваемое в числе нескольких экземпляров "Единство"… Оно вышло всего только в четырех номерах… и теперь есть у меня». Далей — пра падпольнае таварыства: «Начальников главных есть двое, один помещик (один из бывших официально в Петербурге по крестьянскому делу), другой возвращенный из Сибири». Бачым, што агент выйшаў на Аляксандра Аскерку (гэта ён удзельнічаў у выпрацоўцы ўмоў сялянскай рэформы) і Францішка Далеўскага. Далей гаварылася пра разгалінаваную структуру падполля, якое мела свае камітэты ў Вільні, Гродне, Коўне, Мінску.

Нарэшце — рэзюме: пінкертон адкрывае, чаго хоча:

«Из всего вышесказанного можете судить, что я имею довольно подробных сведений об этом обществе, которые высказал вам в общих чертах и которые вам бы я охотно сообщил, но не знаю вашего способа мыслей, согласитесь ли вы на принятие этих сведений, то есть сочтете ли нужным принять их. Кроме того, я мог бы узнать для сообщения вам еще гораздо более подробностей, но я человек небогатый, живу на Божью волю и добрых людей, и к тому, чтобы узнавать многое, я должен иметь средства. Так вот, милостивый государь, ежели вы согласитесь принять мое сведение об этом обществе, которое может наверное послужить вам к уничтожению его, что непременно нужно, то не откажите мне в присылке за это сведение с подробностями, фамилиями лиц действующих, с изложением способа их действий… 800 рублей серебром, в которых я нуждаюсь. Я слышал, что вы предлагали 1600 рублей за открытие редакции "Единства" ("Jedności"). Эту редакцию теперь с доказательствами явными… я вам передам в руки, и так много денег мне не нужно… Теперь же как задаток, без которого я не могу ничего начинать, потрудитесь прислать мне 200 или 300 рублей, и я вам после получения этой суммы через неделю пришлю подробное описание всего… В случае, ежели вы мне откажете, я буду пробовать счастья в Петербурге.

А теперь, ждя от вас удовлетворительного ответа на этой неделе, смею оставаться вашим всепокорнейшим слугой

Владимир Иванов

Отвечайте мне под следующим адресом: Его благородию Ивану Францевичу Мисевичу в С.-Петербург, подать швейцару императорского университета Савельичу»

Швейцар Савельіч удзячна помніўся многім пакаленням студэнтаў і выкладчыкаў, можна сказаць, быў нязменным атрыбутам сталічнага ўніверсітэта (у 1863 годзе прафесар, акадэмік, важны чыноўнік-цэнзар А. Нікіценка запісаў у дзённіку: «Горячо похристосовался с нашим добрым и умным швейцаром Савельичем, видевшим день рождения университета»). Місевіч — студэнт-зямляк і нават блізкі сваяк, які, трэба

думаць, ні пра што такое (маецца на ўвазе сапраўдны твар Бярнацкага) не здагадваўся і выкарыстоўваўся апошнім як шырма, як прыкрыццё (гэта ж датычыць, мабыць, і ашмянскіх адрасоў Бярнацкага на імя Бакшчаніна і Пракаповіча). Так бы мовіць, звычайная таварыская, прыяцельская ці нават сваяцкая паслуга.

І былі яшчэ ў гэтым дзівосным пасланні два пастскрыптумы:

1. «…Конверт должен быть хорошо заклеен и запечатан» (канспірацыя).

2. «Фамилию мою настоящую вы узнаете после».

Ці трэба сумнявацца, што паліцмайстар адразу ж прымчаўся з гэтым лістом да генерал-губернатара. Назімаў загадаў паслаць даносчыку 200 рублёў і адначасова (вось што значыць сур'ёзны досвед кіравання!) паведаміць у ІІІ аддзяленне. На такі ход віленскай адміністрацыі наш пінкертон ані не спадзяваўся. Атрымаўся поўны канфуз.

Абураныя падступнасцю агента жандары схапіліся за галаву. Вось дык агент Іваноў!.. Нахабнік з нахабнікаў! У выніку Бярнацкі, яго зямляк-сваяк ужо згаданы Місевіч і яшчэ некалькі студэнтаў з іх асяроддзя арыштоўваюцца. Прыператрусе ў іх знайшлі колькі адозваў-пракламацый (у каго іх тады не было), а ў Бярнацкага яшчэ накід больш разгорнутага даносу пра Ф. Далеўскага і віленскія падпольныя структуры, якія шпік рыхтаваў для Назімава. Тэкст даносу сведчыць, што пралаза Бярнацкі ведаў вельмі многае, але найперш пра дзейнасць «белых». Да больш заканспіраванага камітэта «чырвоных» ён яшчэ толкам не дабраўся, прозвішчаў радыкалаў Звяждоўскага і Каліноўскага не назваў, хаця быў ужо на блізкіх подступах. Ім названа група «чырвоных» у Троках на чале з Карэвам, названа прозвішча студэнта Эдмунда Вярыгі, бліжэйшага паплечніка Каліноўскага. Падпольныя структуры Літвы-Беларусі былі ў велізарнай небяспецы.

Але пасля выбрыку Бярнацкага з непасрэдным выхадам на віленскую адміністрацыю яго рэпутацыя ў вачах жандараў упала так нізка, што ранейшыя шэфы яму больш ні на грош не верылі.

ІІІ аддзяленне грэбліва адступілася ад свайго выкармка (і ў жандараў быў свой кодэкс гонару).

Справа Бярнацкага (шантаж, захоўванне пракламацый) была хуценька прапушчана праз Пецярбургскую следчую камісію князя Галіцына, былы агент загрымеў у Архангельск любавацца на палярнае ззянне пад пільным наглядам паліцыі. Яго данос не палічылі вартым увагі і не пазнаёмілі з ім Назімава. З бруднай вадой з ночваў выплюхнулі і дзіця. Жандары хадзілі літаральна па золаце і не захацелі яго падняць. Сюжэт пра віленскіх змоўшчыкаў не атрымаў тады далейшага развіцця ў следчых дзеяннях не вельмі разумных улад. Але яго працягнула само жыццё.



Названыя Бярнацкім Ф. Далеўскі, А. Аскерка, Э. Вярыга ўваходзілі ў 1863 годзе на розных этапах у віленскі паўстанцкі цэнтр, кіравалі паўстаннем у маштабах усёй Літвы-Беларусі. Карэва ўзначаліў адзін з першых на нашых землях паўстанцкіх атрадаў (і быў расстраляны).

Але высветлілася ўсё гэта паступова ў працэсе задушэння паўстання. Успененая павадкам мяцяжу рака часу вярталася ў свае берагі, і можна было агледзецца. Тады і ўспомнілі папярэджанні агента Б. Справа пра Бярнацкага ўладай Мураўёва была запатрабавана з Пецярбурга і разгледжана, дакладней, прачытана ў Віленскай следчай камісіі.

24 красавіка 1864 года, вяртаючы справу назад, старшыня камісіі генерал Весяліцкі (дарэчы, аднарукі, што не замінала яму «рукоприкладствовать» — збіваць вязняў) са шкадаваннем і несхаваным папрокам пісаў у ІІІ аддзяленне:

«Из секретной переписки по политическим делам генерал-губернатора вовсе не видно, чтобы о тайном обществе Далевского было сообщаемо генералу Назимову, а это дозволило расшириться преступному действию Далевского, тогда как, имея о нем сведения в половине 1862 года, при энергических и решительных действиях можно было бы предупредить много бедствий, к прискорбию, совершившихся в 1863 году.

Все показания Бернацкого, в той записке упоминаемые, совершенно верны: Далевский, Оскерко и другие лица, Виленской следственной комиссией с усилием открытые в половине 1863 года, подвергнуты уже заслуженному ими наказанию.

…Показания Бернацкого, как из отношения вашего видно, сосланного в Архангельск, были действительно справедливы и предупредительны».

Запозненыя рэверансы віленскіх улад у лёсе Бярнацкага, здаецца, нічога не змянілі. Вядома, што да 1870 года ён заставаўся ў Архангельску (служыў там па канцылярыях). Праўда, і адтуль слаў даносы ў ІІІ аддзяленне на сваіх таварышаў-ссыльных. Толькі богведама, рабілася гэта за грошы ці з чыстай любові да подлага рамяства.

Тут, па сутнасці, усё проста. Больш складаная псіхалагічная задачка нас чакае наперадзе.

*Сюжэт другі:*
*Фатальная памылка Каліноўскага*

У апошні дзень бурлівага 1863 года вядомы віленскі жандар палкоўнік Лосеў атрымаў асабістае даручэнне Мураўёва-вешальніка паехаць у Мінск і раскрыць там паўстанцкую арганізацыю. Такія структуры былі ўжо выкрыты, разгромлены ў Вільні (як потым высветлілася — толькі часткова), Коўне, Гродне. Мураўёў меркаваў, што і Мінск не

будзе выключэннем. Дасведчаны прафесіянал Лосеў таксама быў такой думкі.

Новы год Лосеў сустрэў у Вільні — з адпаведным настроем — і выехаў у Мінск 2 студзеня.

«Полковник Лосев была (!) одна из лучших личностей администрации края как по благородству характера и прекрасным душевным качествам, так и по способностям» (саслужывец П. Чарэвін).

«То был плотный мущина, лет около пятидесяти, с седыми редкими волосами, одутловатым лицом, серыми неприятными глазами» (зямляволец Л. Панцялееў).

Кароткая даведка: нарадзіўся ў 1819 годзе на Арлоўшчыне. З 17 гадоў у арміі. Панюхаўшы пораху ў Крымскай вайне, перабраўся ў корпус жандараў, быў губернскім жандарам у Віцебску, з 1861 года на такой самай пасадзе ў амаль сталічнай у параўнанні з Віцебскам Вільні. Камандзіроўка ў Мінск сведчыла, што высокае начальства бачыла ў ім штосьці большае, чымся ардынарнага губернскага жандарскага функцыянера. Прыемна, калі цябе цэняць.

Па дарозе (у зручным экіпажы, пад манатоннае бомканне званочкаў) ён абдумваў-перачытваў прадпісанне Мураўёва:

«Из показаний политических преступников, содержащихся под арестом в городе Вильно, а также секретных сведений, получаемых мною частным образом, оказывается, что в некоторых городах Минской губернии, а также и в городе Минске существует тайная революционная организация, которая до сих пор продолжает свои действия к поддержанию в крае духа мятежа.

…Вы имеете немедленно взять под стражу всех подозрительных людей, не стесняясь в этом случае ни званием, ни состоянием этих личностей.

Надеюсь, что в этом случае вы будете действовать с надлежащим благоразумием и свойственной вам распорядительностию».

Апошнія словы, трэба думаць, былі асабліва прыемныя жандару, як і згадка пра грошы, якія паступалі пад будучую аперацыю ў яго «безотчетное распоряжение».

…Плошча Свабоды ў Мінску некалі была Высокім рынкам, а старажытная вулачка Кірылы і Мяфодзія, што збягае ўніз да Свіслачы, называлася Бернардзінскай. Паабапал яе бернардзінскія кляштары — жаночы і мужчынскі. Абодва (іх муры) цудам захаваліся дагэтуль у нашым вельмі падмаладжаным горадзе, які перанёс ні адну пластычную аперацыю, каб сцерці сляды ўзросту. Для «арыентацыі на мясцовасці» падкажам, што праваслаўны сабор, барочныя вежы якога ўпрыгожваюць і, можна сказаць, адухаўляюць панараму гарадскога цэнтра, — колішні



касцёл жаночага кляштара. У прылеглых будынках з схаваным ад вока квадратным дворыкам — жылыя памяшканні, крама «Духоўная спадчына», класы музычнай школы. Якраз тут бляклая ахоўна-мемарыяльная дошка нагадвае пра Верхні горад як комплексны помнік гісторыі і горадабудаўніцтва. Будынкі былога мужчынскага кляштара (насупраць — цераз вузкую вулачку) належаць вайсковаму ведамству, у касцёле з арыгінальным бязвежавым фасадам — архіў літаратуры і мастацтва.

Кляштар — па сваёй сутнасці — замкнёная, адгароджаная ад свету прастора, таму лёгка ператвараецца ў вязніцу. Гэтая якасць кляштарных муроў заўсёды цанілася рэпрэсіўнымі рэжымамі. Пад турму выкарыстоўвалі закрытыя бернардзінскія кляштары царскія ўлады ў перыяд паўстання Каліноўскага. Тут за таўшчэзнымі, часам літаральна метровымі сценамі і атайбаваўся Лосеў з прывезенымі з Вільні і мясцовымі памочнікамі.

Паўстанец Апалінар Свентаржэцкі ўзгадвае:

«У пабернардзінскіх мурах разыгрываўся другі акт трагічнай драмы паўстання. Адтуль час ад часу ляцела ў горад і ўвесь край рэха безнадзейнай журбы, а часта і фізічных катаванняў. Тут вырываліся вымушаныя паказанні, цягнучы за сабой новыя ахвяры.

Праз тыя муры прайшлі найлепшыя сыны мінскай зямлі, увесь цвет тагачаснай моладзі».

Паміж мужчынскім і жаночым кляштарамі існаваў пэўны «падзел працы».

«Найбольш скампраметаваныя перад уладамі члены народнай арганізацыі, — сведчыць Свентаржэцкі, — сядзелі ў кляштары бернардзінаў, дзе пры судовым расследаванні апервараваў вядомы сваёй хітрасцю шэф камісіі Лосеў.

Другая катэгорыя вязняў, чымсьці менш важных, да якіх і я быў залічаны, месцілася ўласна ў кляштары бернардзінак. Імі займалася іншая камісія, на чале якой стаяў лагодны і спагадлівы жандарскі палкоўнік Рэйхарт».

Цікава, што вуліца паміж кляштарамі-вязніцамі была настолькі вузкая, што некаторыя спрытныя арыштанты знаходзілі спосаб перагаворвацца праз вокны.

Вакол кляштараў ажно раіліся сямейнікі вязняў, іх сябры і знаёмыя. «Тут, — гаворыць Свентаржэцкі, — узважваліся лёсы не толькі адзінак, але ў пэўнай ступені ўсяго краю і грамадства». Як мы хутка пераканаемся, справядлівыя словы.

Дык вось поўнаўладным гаспадаром у Бернардзінах на нейкі час зрабіўся Лосеў. Мясцоваму жандару Рэйхарту — таксама палкоўніку — давялося моўчкі праглынуць крыўду і падначаліцца.

Даручэнне Мураўёва Лосеў выканаў бліскуча — меў для гэтага ўсе падставы: немалы досвед, інтуіцыю вышукоўца, артыстычную здольнасць уваходзіць у давер да зняволеных ахвяр. Ён быў — у сваіх сышчыцкіх межах — тонкім псіхолагам і ведаў, чаго ад каго можна чакаць, на якія душэўныя струны націснуць. Мог прыкінуцца шчырым сябрам-дабрадзеям вязня. «Слезы участия, горячее участие, поцелуи — вот средства Ал. Мих. Лосева», — з замілаваннем адзначыў мураўёўскі чыноўнік Масалоў. Лосеву прыпісваецца такая характэрная фраза, сказаная наконт нейкага ўпартага паўстанца: «Ну і моцны арэшак трапіўся, я яго шэсць разоў пацалаваў, а ён усё адно маўчыць». Іграў на славалюбстве шляхецкіх рэвалюцыянераў, на традыцыйнай любові шляхты да мішуры гучных тытулаў. Перад амбітным мінскім ваяводам Гектарам Лапіцкім, які трапіў у яго рукі, карцінна хіліў чало, казаў салдатам аддаваць таму чэсць, ласкава запрашаў на каўку-гарбатку, называў «ваша правасхадзіцельства». Словам, ставіўся (рабіў выгляд) як да нейкага важнага генерала. І Лапіцкі паддаўся — скампраметаваў шмат каго.

Рэдакцыя польскай кніжкі «Год 1863: выракі смерці» (Вільня, 1923) дадае: «Часам, аднак, і такі Лосеў выходзіў з цярплівасці, калі яго юдавыя пацалункі і аніякія спосабы не дзейнічалі. Не ведаем, ці ўжываў катаванні, але саджаў, напрыклад, доктара Міхала Аскерку, на хлеб і ваду за ўпартае адпрэчанне ўсіх фактаў, ужо вядомых камісіі з іншых крыніц».

Ацэньваючы дзейнасць жандара, Масалоў, наадварот, не хавае свайго захаплення: «…послан был полковник Лосев на дело почти безнадежное. И что же? Через несколько недель его неутомимых, терпеливых трудов была открыта почти вся революционная организация Минской губернии. Были обнаружены все уездные начальники, комиссары, кассиры, окружные, участковые, полицейские и т. п.; большая часть из них были задержаны и вполне откровенно сознавались — оказалось, что в числе революционных должностных лиц было много довольно значительных помещиков».

Падабраць ключык да арыштаванага губернскага камісара Вітальда Парфяновіча такому артысту, як Лосеў, не склала цяжкасці. Той быў зусім хлапчына, без належнага жыццёвага досведу, ды, відаць, і без цвёрдых перакананняў.

На постаці Парфяновіча[115], які адыграў фатальную ролю ў лёсе Каліноўскага, трэба спыніцца больш грунтоўна.

Парфяновічы належалі да небагатага мінскага дваранства, маёнткаў не мелі, былі блізкія да разначынцаў. Хаця, як сказаць, адзін

[115] Па-руску прозвішча пісалася як «Парфианович», часам яшчэ больш расцягвалася: «Парафианович».



з Парфяновічаў (відаць, з больш багатай, уплывовай галіны) навекі праслаўлены прыхільнай згадкай у «Пане Тадэвушы»:

…Шчасцям прыйшоў на помач нам Параф'яновіч,
Міцкевічаў дзве сотні прывёў з Гарбатовіч…

(Пераклад *В. Дуніна-Марцінкевіча*)

Так што і Міцкевічы, здаралася, некалі хадзілі пад Парфяновічамі.

Храналагічна першая вядомая дакументальная згадка пра Вітальда належыць да 24 красавіка 1848 года. У гэты дзень дробны мінскі чыноўнік-службовец калежскі сакратар Апанас Гаўрылавіч Парфяновіч звярнуўся ў мясцовую духоўную кансісторыю з просьбай засведчыць хросныя метрыкі яго сыноў Мікалая і Вітальда Льва, хрышчоных адпаведна 25 снежня 1842 і 4 ліпеня 1844 года ў мінскіх Кафедральным і Траецкім касцёлах.

Бытавы, будзённы па сутнасці дакумент шмат чаго для нас удакладняе, ставіць у зусім пэўныя рамкі. Найперш храналогію. Выходзіць, Вітальд Парфяновіч быў на цэлых шэсць гадоў маладзейшы за Каліноўскага, якога мы таксама лічым вельмі маладым. Хлапчук дый годзе.

Вучыўся Вітальд у Мінскай гімназіі. Потым сям'я перабралася ў Магілёў, дзе бацька атрымаў прыстойнае месца ў адной з губернскіх устаноў. Перад паўстаннем Вітальд — студэнт Кіеўскага ўніверсітэта[116]. Паводле ўласных паказанняў, на пачатку 1863 года пакінуў універсітэт і прыехаў да бацькоў у Магілёў. Не адзін раз наязджаў адтуль у Мінск, дзе спыняўся ў бедных сваякоў.

Як сведчыць адно з яго перахопленых пісьмаў (па-польску — так тады звычайна было прынята), умеў складна пагаварыць, някепска валодаў пяром, словам, хлапец быў не апошні. А што там далей — ніхто не ведаў.

Ён свой чалавек у асяроддзі мінскай перадавой моладзі. Інакш бы не ўдастоіўся гонару зняцца з самім Дуніным-Марцінкевічам на вядомым групавым здымку пачатку 1863 года. Ён там сядзіць у шэрай світцы ў першым радзе чацвёрты справа. Адкрыты, здаецца, твар. Якраз прыкладна на 18 гадоў і выглядае. За ім стаіць, паклаўшы руку яму на плячо, Парфяновіч Мікола, мабыць яго брат, хоць той і выглядае, магчыма, старэйшым за свой узрост.

Падчас паўстання Вітальд прызначаецца Каліноўскім на высокую пасаду магілёўскага губернскага камісара.

[116] Нейкі час, відаць вельмі коратка, вучыўся і ў Пецярбургу, бо ў Сібіры называў сябе былым студэнтам С.-Пецярбургскага ўніверсітэта і меў адпаведнае пасведчанне.

У студзені 1864 года, арыштаваны Лосевым, адразу зламаўся, выдаў усё, што ведаў.

Саракапяцігадовы жандарскі палкоўнік-езуіт і ўчарашні гімназіст — яны, так бы мовіць, выступалі ў розных вагавых катэгорыях. Сцэнарыі маглі быць розныя. Трэба думаць, хітры жандар, як той змей-спакуснік, спяваў пра каштоўнасць і прыгажосць жыцця, пра тое, што наперадзе яшчэ можа быць шмат добрага, — веру, што вы не такі сапсаваны, як некаторыя вашы канаводы. Магчыма, быў выкарыстаны і выпрабаваны ідэалагічны прыём: што вам гэты польскі мяцеж — вы ж з мясцовага роду, які, напэўна, некалі быў праваслаўным!.. Бойку-калатнечу трэба як хутчэй спыніць, каб не лілося братняй крыві! Давайце зробім добрую справу! (Жандар у ролі голуба-міраносца.)

У канфесійных спрэчках Лосеў парадкам налаўчыўся за гады сваёй службы ў краі. (Хаця здараліся і асечкі. Яшчэ «Колокол» здорава прапясочыў аднойчы нахрапістага палкоўніка за гвалтоўнае навязванне праваслаўя на Віцебшчыне.)

А можа, усё было нават прасцей, і гаварыць шмат не давялося. Сам Парфяновіч пасля ў прашэнні на імя цара (мы да гэтага яшчэ вернемся) пісаў: «…два-три слова, сказанные… Лосевым… заставили меня со слезами детского раскаяния рассказать все свои похождения» (каб жа толькі свае). Зрэшты, гэта таксама ўсяго толькі адна з версій.

Што кіравала яго паводзінамі? Юначая недасведчанасць? Разгубленасць? Страх за ўласнае жыццё? Авантурызм? Ці да ўсяго геннае пачуццё тутэйшасці, якое ўсё-такі пакідала запасны шлях-шчыліну на ўсход?..

Хутчэй за ўсё, ён належаў да тых неглыбокіх, беспрынцыповых (часам нават здольных) людзей, якім абы трымацца на паверхні. Напярэдадні паўстання чуйна падхапіў модную патрыятычную фразеалогію. Сустрэўся з Каліноўскім — пайшоў за ім. Хоць некаторыя ўжо беглі-ратаваліся з паўстанцкіх шыхтаў. Потым гэтаксама ж лёгка яго павёў за сабой Лосеў. Здаецца, ёсць у ім штосьці ад несмяротнага купалаўскага Зносака.

Во ўспамінах мураўёўскага чыноўніка Масалова Парфяновіч выступае ананімна: «В числе лиц, с которыми имел дело полковник Лосев, оказался один молодой человек, наиболее посвященный во все тайны главных деятелей мятежа. Полковник Лосев понял это, обещал исходатайствовать ему помилование и воспользовался его открытиями. Молодой организатор этот обнаружил не только главных двигателей мятежа и все перемены, происходившие в их составе, но и самое местопребывание Калиновского, с которым он был в ближайших сношениях».



Рэзка адмоўную характарыстыку Парфяновічу даў у сваіх мемуарах Якуб Гейштар, папракаючы Каліноўскага ў няведанні людзей: «Каліноўскі сам чалавек, можна сказаць, маштабаў героя, бязмежнай ахвярнасці, моцнага характару, як высветлілася, выбраў дзясяткі самых блізкіх постацяў у найнікчэмнейшых адкідах грамадства. Прыкладам: Заблоцкі, Парфяновіч, Дзічкоўскі — гэта ўжо не слабыя, а нягоднікі». І праз колькі старонак: «Віной Каліноўскага было неразуменне таго, што самая высакародная моладзь павінна ірвацца ў ваяцкія шыхты, у бой, а хто ціснецца да ўлады ў арганізацыі, бывае часцей за ўсё не толькі славалюбным лайдаком, але і баязліўцам. Такімі былі Кушалеўскі, Ажэшка, Парфяновіч і інш.».

У рукапісе мемуараў (віленскі гістарычны архіў) ёсць дадатковы спіс з рубрыкамі «Infamia» («Ганьба») і «Прыклады для пераймання, героі, пакутнікі». Парфяновіч, вядома ж, трапіў у першую рубрыку (дарэчы, тут жа бачым і А. Кіркора — Гейштар, мабыць, не мог дараваць знакамітаму навукоўцу і культурніку пэўнага супрацоўніцтва з мураўёўскімі ўладамі, у прыватнасці датычнасць да падрыхтоўкі вернападданіцкага адраса віленскага дваранства цару).

Вядома, на Гейштара, на яго ацэнкі часта ўплывалі партыйныя сімпатыі і антыпатыі (лідар ліберальнай партыі «белых», людзей самавітых, маёмных, ён недаверліва ставіўся да ўсёй «чырвонай» галоты і драбнаты), але ў нашым канкрэтным выпадку яму цяжка запярэчыць. Так або інакш Парфяновіч на допыце ў Мінску 28 студзеня 1864 года назваў Каліноўскага і сказаў, што той хаваецца пад імем Ігната Віташэнца ў Святаянскіх мурах. У той жа дзень, а дакладней, у ноч на 29-е правадыр паўстання па тэлеграме Лосева быў арыштаваны.

Гэта быў, мабыць, самы шчаслівы дзень у жыцці жандара Лосева. І, па сутнасці (незалежна ад уласнага ўспрыняцця), самы няшчасны ў жыцці Парфяновіча. Непапраўны крок быў зроблены. Дарогі назад не было.

Што каму выпала, чакаць доўга не давялося. Пэўную рысу падвяла тэлеграма, атрыманая 30 студзеня ў 1 гадзіну 43 хвіліны дня:

«Минск

Полковнику Лосеву

№ 28 [спачатку шыфр — два няпоўныя радкі лічбаў] Калиновский сознался. Парафианович [далей адкрытым тэкстам:] всё-таки нужен здесь, и потому отправьте его за строгим караулом в Вильно в распоряжение коменданта.

Генерал Муравьев».

Хітрае слоўца ўсё-такі магло азначаць: дзякуй за Каліноўскага, але спадзяёмся на працяг.

З мінскіх Бернардзінаў хлопец, нібы ўзмахам чарадзейнай палачкі, пераносіцца ў віленскія Дамініканы (з кляштара — у кляштар), дзе 2 лютага ён даў падрабязныя паказанні, якія захоўваюцца цяпер у Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы, у «Справе Віленскай Асаблівай следчай камісіі пра асоб, датычных да справы пакаранага злачынцы Каліноўскага». Зразумела, так напісалі на абгортцы справы пасля — пакуль Каліноўскі яшчэ жывы, кусае губы недзе ў суседняй камеры Дамініканскай турмы.

Асабліва скрупулёзна распісаў Парфяновіч свой прыезд у Вільню ў верасні 1863 года, калі ўласна і адбылося яго знаёмства з Каліноўскім. Прасочым крок за крокам шлях Парфяновіча, шлях да здрады і ганьбы.

Выехаўшы з Магілёва, ён дабраўся спачатку да Мінска, сустрэўся там з доктарам Міхалам Аскеркам (цвёрды рэвалюцыянер, магілёўскі, а потым мінскі паўстанцкі камісар. — *Г. К.*), з ім і паехаў у Вільню. Па дарозе ў Радашковічах сустрэліся з маладым Ямантам (які ехаў у Мінск, каб з даручэння Каліноўскага рэарганізаваць мясцовыя паўстанцкія структуры. — *Г. К.*).

У Вільні спыніліся ў Пецярбургскай гасцініцы.

Пасля абеду каля 4-й гадзіны пайшлі да Ямантаў. Дзверы адчыніла паненка Ямант (потым удакладнялася, што гэта Марыя Ямант — тая, дададзім, знакамітая Марыська з развітальнага верша Каліноўскага. — *Г. К.*). Парфяновіч дэталёва запомніў усю абстаноўку кватэры, атмасферу першай сустрэчы з Каліноўскім. Перад намі нібы кароткія сцэнічныя рэмаркі з нейкай п'есы, але гэта была рэальная драма жыцця.

У маленькім пакойчыку направа ад дзвярэй канапа, пры ёй стол і два крэслы, далей камода. Акно на галерэю. У пакоі — Каліноўскі і Мілевіч (бліжэйшы паплечнік Каліноўскага яшчэ з Гродзенскай арганізацыі. — *Г. К.*). «Оскерко сказал мою фамилию, но Калиновский про свою умолчал (цікавая дэталь. — *Г. К.*), говорил, что назначит меня комиссаром в Могилев…»

Неабходна адзначыць, што паўстанне ўжо ішло на спад, гаворачы словамі таленавітага Валянціна Таўлая, «задыхаўся мяцеж балесна ў пятлі Мураўёва і ў здрадзе белых». Дадамо, што і сярод «чырвоных» здаралася рознае. Зусім нядаўна па Вільні пракацілася хваля катастрафічных арыштаў. Сапраўдны дзявяты вал. Людзей неставала, кожны быў на ўліку. Свайго земляка Парфяновіча, трэба думаць, рэкамендаваў Каліноўскаму аўтарытэтны доктар Аскерка. І ўсё ж кіраўнік паўстання наладжвае своеасаблівую праверку.

Парфяновіч мусіў выканаць сур'ёзнае даручэнне Каліноўскага — з'ездзіць у Пецярбург і дамовіцца там наконт пашпартоў для кіраўнікоў мінскіх паўстанцаў Ляскоўскага і Свентаржэцкага, вымушаных



прабірацца за мяжу. Але ўжо на гэтым этапе Каліноўскі даверыў свайму пасланцу важны канспіратыўны адрас Баранецкага ў Пецярбургу.

Праз тыдзень, выканаўшы даручэнне, Парфяновіч вяртаецца ў Вільню і зноў стукае ў дзверы Ямантаў (дэталь — «напугав старуху Ямонт»: нешта ж было ў паводзінах ці абліччы Парфяновіча, што насцярожыла старога чалавека). У тым жа пакоі знайшоў Каліноўскага і Мілевіча. Выслухаўшы аповед Парфяновіча, Каліноўскі прапанаваў яму ехаць у Магілёў і выдаў 150 рублёў з пачка, прынесенага адной з дачок Ямантаў. Прыходзіў таксама брат жонкі Серакоўскага Далеўскі, малады чалавек сярэдняга росту, брунет (мы ведаем, што гэта знакаміты Ціт Далеўскі. — *Г. К.*), які размаўляў з Яманцянкамі (Алена была нявестай Ціта, як Марыся нарачонай Кастуся. — *Г. К.*).

Тады адбыліся яшчэ дзве сустрэчы з Каліноўскім у Ямантаў. Адпускаючы Парфяновіча ў Магілёў, Каліноўскі даў яму адозву, «где между прочим призывались патриоты не упадать духом».

Некалькі месяцаў Вітальд правёў у Магілёве, потым выехаў праз Віцебск і Пецярбург у Вільню. «Баранецкий сказал мне, что поручений в Вильно никаких нет, просил только сообщить Калиновскому, что он не может прислать в Вильно машинки для печатания, которую, кажется, он называл "аутографиею"».

У Вільню прыехаў 25 снежня (на Каляды) і вырашыў скарыстаць адрас і пароль, атрыманыя некалі ў Магілёве. Гэта быў той знакаміты трохзвенны пароль: «Каго любіш? — Люблю Беларусь. — Так узаемна». (Якраз з паказанняў Парфяновіча мы гэты пароль сёння і ведаем. — *Г. К.*) Тут здарылася замінка.

— На Дамініканскай вуліцы, — расказваў Вітальд, — у Дамініканскім будынку над аптэкай Савіцкага знайшоў пані Баневіч, якая спалохалася майго прозвішча, пад якім — так здарылася — нядаўна быў арыштаваны Ціт Далеўскі, і не адказвала на мой пароль, пакуль я не назваў прозвішча Ямантаў. Потым сказала, што я магу знайсці «пана Канстанціна» ў Ямантаў.

Дзверы адчыніў мне малады Ямант (прыехаў з Мінска на Каляды. — *Г. К.*). У тым самым пакоі, адразу за пярэдняй, я знайшоў Каліноўскага і Мілевіча (неразлучная пара. — *Г. К.*).

Каліноўскі прасіў, каб у Мінску я прыняў ад маладога Ямanта камісарскую пячатку.

І тут адбылося самае галоўнае, пра што Каліноўскі, вядома ж, потым моцна шкадаваў (чыноўніцкія ўспаміны прыпісваюць яму нават такія словы, выкладзеныя, зрэшты, спецыфічным канцылярска-абывацельскім жаргонам: «Одному только лицу открыл я настоящее свое имя — и попался»). Паслухаем зноў Парфяновіча:

— А 5-й гадзіне вечара я прыйшоў зноў, і мы пайшлі з Каліноўскім на яго кватэру (у Святаянскім будынку, кватэра 16). Ён сказаў, што хаваецца пад імем Ігната Вітаржэнца. Увайшоў малады Ямант, з якім размаўлялі пра складанне контрадрасоў.

Назаўтра а 9-й раніцы я заспеў Каліноўскага яшчэ ў пасцелі. Неўзабаве прыйшоў «экспедытар» (даецца падрабязнае апісанне знешнасці). Каліноўскі пайшоў, а экспедытар паведаміў мне новы пароль («Который день?»[117]), канспіратыўныя адрасы і рэцэпт сімпатычнага чарніла для тайнай перапіскі.

Вярнуўся Каліноўскі з пачкам друкаваных аб'яў, якія загадаў экспедытару разаслаць па горадзе. Потым даў мне 20 рублёў (відаць, паўстанцкая каса за апошнія месяцы збяднела. — *Г. К.*) з наказам збіраць і ашчаджаць грошы «на случай вероятной войны или продолжения восстания».

У маладога Ямантa я атрымаў у Мінску яшчэ крыху грошай, але абяцанай пячаткі не атрымаў.

Неўзабаве па дарозе у Бабруйск мяне арыштавалі.

Так закончыў Парфяновіч сваё разгорнутае паказанне ў Віленскай асобай следчай камісіі ад 2 лютага 1864 года (у поўным выглядзе яно яшчэ ні разу не публікавалася[118]). Камісія пад старшынствам палкоўніка Шалгунова атрымала ў свае рукі дакладны злепак падполля, выдатны матэрыял, пра які, напэўна, і не марыла.

Вось жа ўсё помніў нягоднік — даты, яўкі, імёны. Усё пратакольна зафіксаваў. Нічога не ўтаіў. У жывых малюнках, нібы на імгненных здымках, паўстала перад следчымі рознабаковая дзейнасць Каліноўскага. Ва ўсёй паўнаце і канкрэтнасці адкрылася роля сям'і Ямантаў, іх кватэры як галоўнага прыстанку рэвалюцыянераў — а мы ведаем, як раўніва, можна сказаць, да апошняга аберагаў Каліноўскі на следстве ўсё, што датычыла гэтай дарагой яму сям'і.

Кастусь, 4–5 лютага: «…положительно утверждаю, что в семействе Ямонта никогда не бывал и фамилию эту слышал только в Петербургском университете, но с самим студентом под этою фамилиею знаком не был и даже не знаю его в лицо».

Потым знаёмства з Юзафам Ямантам давялося ўсё ж прызнаць, але толькі з Юзафам. 22 лютага: «С Парафиановичем в первый раз я виделся в Вильне на квартире Далевского, как я упомянул прежде, или же в Петербургском заездном доме, где он останавливался вместе с Оскерко.

[117] Калі, прыкладам, у сапраўднасці быў чацвер, адказвалі: «Аўторак». Папраўляючы, трэба было «памыліцца» зноў на два дні ў другі бок: «Не аўторак, а субота».

[118] Некаторыя лічаць нават, што яно захавалася толькі ў выглядзе выпіскі.



Но не у Ямонтов, из которых я, кроме молодого Иосифа Ямонта, никого не знаю».

Трывала трымаліся і арыштаваныя Ямантьі. Трэцяга лютага галава сям'і сівы надворны саветнік Мацвей Ямант зусім пэўна, без ваганняў, заявіў: «Предъявленного мне Константина Калиновского вижу в первый раз». А Каліноўскі ж у Ямантаў колькі месяцаў літаральна дняваў і начаваў.

10 сакавіка нязломны Каліноўскі па-геройску ўзышоў на свой эшафот. Яго не стала. Ён ужо не замінаў. Гэта яшчэ больш (хаця куды ўжо далей?) развязала язык Парфяновічу, як і некаторым іншым вязням. Са смерцю героя — не ўсім быць героямі — многія адчулі сябе вальней. Што ж казаць пра нашага няшчаснага маладзёна, якому трэба было ўвесь час кідаць у ненаедную пашчу следчага малоха ўсё новыя факты, новыя выкрыцці. Даводзілася падбіраць паскрэбкі памяці. 12 сакавіка Парфяновіч успомніў, што на вераснёўскай сустрэчы ў Ямантаў быў яшчэ цёзка па прозвішчы Кастуся Юзаф Каліноўскі, прычым Міхал Аскерка тады сказаў, што гэта інжынер і дзейсны член арганізацыі. У ноч на 14-е паліцыя ўжо ўварвалася да пана Юзафа. Так у рукі ўладаў трапіў яшчэ адзін неардынарны дзеяч паўстання, які праславіўся потым на рэлігійнай ніве пад імем айца Рафала і (ужо ў нашы часы) быў нават кананізаваны Касцёлам.

У маім даўнім канспекце, калі я раздумваў над ёмістай следчай справай, спрабуючы ўзнавіць паслядоўнасць падзей, логіку і драматургію следства, ёсць паметка (вось занатаваў чамусьці, спецыяльна адзначыў):

«На першым жа допыце па тых пытаннях, якія яму задаваліся, Юзаф Каліноўскі зразумеў, што яго выдаў Парфяновіч».

Потым удакладнілася: «Ю. Каліноўскі здагадаўся, хто яго выдаў, таму што камісія напомніла яму ўсе акалічнасці размовы ў Ямантаў, не назваўшы Парфяновіча».

Выходзіць, смаркачу Парфяновічу собіла аддаць у рукі ворагаў двух волатаў духу, двух Каліноўскіх — апостала нашай нацыянальнай памяці Кастуся і будучага айца Рафала, гэтак жа высока адзначанага ў скрыжалях духоўнага падзвіжніцтва (палявы аўдытарыят у Вільні асудзіў яго на дзесяцігадовую сібірскую катаргу — толькі цудам удалося пазбегнуць расстрэлу; лёс захаваў яму жыццё для будучых подзвігаў чалавекалюбства і маральнага ўдасканалення).

Як мы ўжо бачылі, моцна прычыніўся Парфяновіч і да выкрыцця тых жа Ямантаў, свайго апекуна і настаўніка ў справах канспірацыі Міхала Аскеркі (апошні расстраляны). Ды ці мала каго яшчэ. Словам, бяды нарабіў шмат.

Паводле успамінаў Гейштара і айца Рафала, Парфяновіч нават распытваў сваіх сукамернікаў і здабытыя звесткі паведамляў у камісію. У прыватнасці, Гейштар згадвае, нібыта Парфяновіча пасадзілі разам з Мілевічам. Парфяновіч расказаў апошняму, што яго ўзялі толькі праз пашпарт, знойдзены ў Ціта Далеўскага. Яго (Парфяновіча) хутка выпусцяць — што тады рабіць, куды падацца? Мілевіч назваў яму некалькі імёнаў. Назаўтра была вочная стаўка здрадніка і Мілевіча, і той мусіў прызнацца. Дзясяткі новых ахвяраў. Так піша Гейштар.

Не будзем — без старannай праверкі — браць грэх на душу. Па дакументах такі эпізод непасрэдна, здаецца, не прасочваецца, але і без таго віна Парфяновіча перад вызваленчым рухам, перад таварышамі (ды па вялікім рахунку — перад самім сабой, перад сваёй жывой душой) была велізарная.

Дарэчы, ёсць звесткі, што Парфяновіч вызваляўся ўладамі ад вочных ставак з людзьмі, якіх выдаваў. Улады аберагалі, мабыць, нервовую сістэму здрадніка. З судова-следчай справы доктара Пятра Чакатоўскага (паўстанцкага начальніка горада Мінска), напрыклад, відаць, што ён абвінавачваўся на падставе паказанняў Парфяновіча, а сам рашуча гэта адпрэчваў. Нават вайсковыя суддзі здзівіліся, чаму папярэднім следствам не праведзена вочная стаўка, і атрымалі адпаведнае тлумачэнне следчай камісіі са спасылкай на распараджэнне Мураўёва.

Наогул паслужлівасць «пана Вітальда» цанілася ўладамі. За здраду плацілі. Аднойчы цікавы папрок зрабіў следчы другому слабаку — з Наваградскай арганізацыі — Канстанціну Кашыцу: «Успомніце выключна хатнія ўмовы, у якіх вы ўтрымліваліся. Вы адзіны былі змешчаны ў афіцэрскі пакой і мелі такія частыя спатканні са сваімі». І дадаў: «Апрача вас, толькі Вітальд Парфяновіч карыстаўся падобнай палёгкай з прычыны таго, што аказваў камісіі паслугі ў справе раскрыцця Каліноўскага і арганізацыі ў некалькіх губернях».

Гэта — з запісак на французскай мове, якія захоўваюцца ў Дзяржаўным гістарычным музеі ў Маскве.

Ёсць яшчэ адпаведная вялікая падшыўка ў архіве III аддзялення. Пагартаем яе паводле маіх аспіранцкіх канспектаў[119].

Дэпешу ў Піцер пра пакаранне смерцю Кастуся Каліноўскага падпісаў начальнік Віленскай жандарскай каманды штабс-капітан Сямёнаў — яго непасрэдны шэф Лосеў быў яшчэ ў Мінску (на пакаранне мог прыехаць толькі партыкулярна). 17 сакавіка ён прыслаў разгорнутую справаздачу «Аб адкрытай рэвалюцыйнай арганізацыі ў Мінскай губерні».

[119] Некаторыя дакументы апублікаваны ў зборніку Інбелкульта «1863 год на Міншчыне» (1927).



Пісаць справаздачы-рэляцыі ён таксама ўмеў. Усё акуратна расклаў па палічках. Пачаў з даручэння Мураўёва: «Сообщенные мне его высокопревосходительством по этому предмету сведения возбуждали только некоторое подозрение в существовании подобной организации, а не заключали в себе фактических данных, на основании которых было бы возможно удостовериться в действительности этого преступления и обнаружить его.

Поэтому прежде выезда из Вильно я нашел здесь средство, сблизившись с одним из служивших в Минске чиновников (цікава — хто? — *Г. К.*) узнать о некоторых лицах, более других принимавших участие по Минской губернии в возбуждении местных жителей к беспорядкам и распространении революционной пропаганды; потом, приехавши в Минск, тем же порядком разузнал о подозрительных личностях; наконец, убедившись, что собранные мною в Вильне и Минске факты сходны и следовательно верны, я распорядился произвести в нескольких домах одновременно внезапные обыски, причем у многих господ найдены были бумаги и списки, сильно их компрометирующие».

Галоўнай удачай быў арышт Каліноўскага. Згадваўся ў справаздачы і бедалага Парфяновіч: «Проезжавший из города Вильно чрез Минск студент Киевского университета Парафианович (пісар напісаў “Парафиалович”. — *Г. К.*) был мною арестован, сознался, что он революционный комиссар Могилевской губернии, и указал Калиновского и других злонамеренных лиц, с которыми имел сношения даже в С.-Петербурге».

Была ў справаздачы і пэўная статыстыка. Магія лічбаў істотна падмацоўвала дакумент. Усяго па Мінскай губерні Лосевым арыштавана 89 чалавек, секвестравана 28 маёнткаў. За статыстыкай ішла сфрагістыка, дэманстраваліся адбіткі захопленых паўстанцкіх пячатак: 1) начальніка Мінскага ваяводства, 2) ваяводскага камісара, 3) начальніка горада Мінска, 4) начальніка Мінскага павета, 5) Бюро Мінскага ваяводства.

У Вільню Лосеў вярнуўся з веснавым настроем поўным пераможцам 17 красавіка (ёсць адпаведны рапарт). Літаральна за дзень да гэтага Мураўёў, прыняўшы рашэнне наконт Парфяновіча, паведаміў у Пецярбург:

«Хотя за означенное преступление дворянин Парафианович подлежит преданию суду и наказанию по всей строгости законов, но принимая во внимание его чистосердечное раскаяние, открытие прочих сообщников в Минской и Виленской революционных организациях, из коих вследствие его указаний многие и в числе их стоявшие во главе организации уже арестованы, а также принимая в соображение и молодые лета Парафиановича, коих ему 19, я по представленной

мне власти определил: не предавая Парафиановича суду, объявить ему всемилостивейшее его императорского величества прощение и отправить на жительство в Томскую губернию под строгий надзор полиции».

Масалоў (зноў не называючы прозвішча): «…а молодой дворянин, открывший Калиновского, по собственному его желанию, отправлен на жительство в одну из внутренних губерний».

У Сібіры Парфяновіч прыняў праваслаўе (пры гэтым памянялася і імя), ажаніўся з удавой Капіталінаю Рыгораўнай Капыловай. Відаць, на кожнага грэшніка знойдзецца жанчына, якая адпусціць яму ўсе грахі. А наш герой быў зусім не брыдкі сабой і адукаваны ніяк не горай за выпускнікоў сібірскіх гімназій.

Ды толькі ўсё адно пачуваўся сярод мясцовых людзей чужаком. Ужо не гаворым пра адкрытую пагарду з боку ссыльных.

Незайздросны лёс адступніка. Нават імя не асталося ад яго — ранейшага.

Ці былі якія згрызоты — не ведаем. Пэўна ж, былі. Прынамсі — не лепшыя ўспаміны. Адбываўся працэс адаптацыі, прызвычайвання да новых нязвыклых умоў.

Каб апраўдаць сябе, трэба было ўстаць на афіцыйны пункт гледжання, што нядаўняе паўстанне ў Беларусі — усяго толькі антынародная польская інтрыга. Пра гэта крычала ўся ўрадавая (і не толькі ўрадавая) прэса. У саюзнікі-хаўруснікі сабе мог выбраць Усевалада Крастоўскага з яго папулярнай антыпаўстанцкай дылогіяй «Крывавы пуф», дзе быў выведзены і Каліноўскі. Хоць у глыбіні душы ён ведаў, што гэта не зусім так або нават зусім не так.

Між тым жыццё ішло сваім парадкам.

Улетку 1871 года ён падаў томскаму губернатару адпаведныя дакументы (пастанова Мінскага дваранскага дэпутацкага сходу пра шляхецкае паходжанне, атэстат Мінскай губернскай гімназіі, пасведчанне Пецярбургскага ўніверсітэта) і папрасіў дазволу ўладкавацца на дзяржаўную службу. (Пра Кіеўскі ўніверсітэт ён чамусьці ў гэты перыяд не згадвае. Відаць, гэта таксама прыкмета «абнаўлення».)

Падтрымліваючы гэтую просьбу, губернатар пісаў генерал-губернатару Заходняй Сібіры, што Парфяновіч вось ужо каля двух гадоў займаецца пісьмаводствам па вольным найме ў Томскай губернскай будаўнічай камісіі, мае выдатныя здольнасці і адукацыю, «может служить примером для других».

Ды справа ўсё ж застопарылася, і Парфяновіч звярнуўся наўпрост да цара. У свой час я выпісаў з жандарскай падшыўкі цалкам, даслоўна гэты красамоўны дакумент, які перадае душэўны дыскамфорт просьбіта, з розных бакоў характарызуе яго асобу, змяшчае цікавыя рэтраспекцыі. Тэкст сведчыць пра цяжкасці і поспехі, калі так можна сказаць, адаптацыі:



«Бывшего студэнта С.-Петербургского
(не Кіеўскага. — *Г. К.*) университета
Иосифа (вось яго новае імя. — *Г. К.*)
Афанасьева Парфиановича

Всеподданнейшее прошение

В исходе 1864 года, по конфирмации бывшего начальника Западного края генерала Муравьева, я был сослан на жительство в Томскую губернию без лишения присвоенных мне прав. Причиной моего ареста и затем ссылки в Сибирь было участие в бывших в это время беспорядках в крае. Я не стану оспаривать справедливость примененного ко мне наказания: умеренность его была даже большим доказательством сострадания к молодому человеку со стороны генерала Муравьева, редко отступавшего от строгих мер, принятых им для обуздания взволнованного населения. Я был арестован на 18-м году жизни, и следственной комиссии не много стоило труда заставить меня опомниться; два-три слова, сказанные штаб-офицером корпуса жандармов в городе Вильне полковником Лосевым и председателем комиссии полковником Шелгуновым (впоследствии — могилевский губернатор) заставили меня со слезами детского раскаяния рассказать все свои похождения. Я привожу здесь имена этих двух лиц как объяснение снисходительного наказания моей личности: им не раз приходилось докладывать генералу Муравьеву, не раз они ходатайствовали о совершенном прощении и дозволении мне окончить курс наук в котором-нибудь из нестоличных университетов. "Пусть поживет в Сибири — лучше будет", — был всегда неумолимый ответ покойного графа. Если, с одной стороны, генерал Муравьев не ошибся, предвидя, что бытность в Сибири, среди русского общества, должна благотворно подействовать на мое умственное развитие, то, с другой, положение политического ссыльного, лишенного буквально всякой гражданской свободы, обреченного на недоверие закона и общества, слишком тяжело всякому, у кого только исчезло терпеливое озлобление и кому хочется не бесцельно жить на свете. Поведение поляков у себя на родине, как равно уже и на месте ссылки, возбудило такое недоверие в среде всего русского общества, что человеку, хотя нравственно отделившемуся от массы и не имеющему с ней ничего общего, но безумно попавшему в эту категорию, надо или жить в мире только своих фантазий и стремлений, или считать себя совершенно потерянной личностью.

В 1864 году, то есть тотчас после приезда моего в Сибирь, я присоединился к православию. Не мелкие расчеты, а то враждебное чувство, которое я питал к польскому обществу, было поводом этого поступка. Им, а не себе, я был обязан своим падением: во мне не было никаких убеждений, все мое детство прошло не под такими впечатлениями, чтобы в будущем приготовить из меня преступника; преступление явилось бессознательно, — это был плод того влияния, которое так искусно действовало на нас со школьной скамьи.

В мае месяце нынешнего года г. начальник Томской губернии действительной статский советник Родзянко ходатайствовал о дозволении мне вступить в государственную службу в Сибири, но министерство внутренних дел ходатайство это пред вашим императорским величеством на себя не приняло, а потому я решаюсь лично молить вас, государь, снять с меня цепи, которые я наложил на себя, дозволить мне вступить на службу, дать возможность быть полезным и счастливым! Не как средство к существованию прошу этой милости; я еще так молод и силен, что могу обеспечить себя, но мне больно терпеть презрение за давно искупленную вину, мне хочется в новой жизни утопить все прошлое, честной и полезной деятельностью возвратить к себе то доверие, которое я потерял и без которого самая жизнь кажется слишком пустой и никому не нужной.

Повергая к стопам вашего императорского величества документы о моем происхождении и образовании, я осмеливаюсь просить еще вас, государь, простить и забыть мое преступление!

Верноподданный Иосиф (бывший Витольд)
Афанасьев Парфианович
г. Томск
1871 г. ноября 30 дня».

Адпаведны дазвол у 1872 годзе быў атрыманы.

Праз шэсць гадоў Парфяновіч меў ужо невялікі, праўда, чын губернскага сакратара, служыў у Томскай экспедыцыі ссыльных, прасіў не абмяжоўваць атрыманы дазвол на службу Сібір'ю. З прыкладзенага чыноўніцкага фармулярнага спіса відаць, што нейкі час быў нават рэдактарам «Томских губернских ведомостей» (вось жа, выйшаў і ў журналісты).

У лютым 1879 года і гэты дазвол быў дадзены. Парфяновіч атрымаў, такім чынам, магчымасць пакінуць Сібір.

Далейшага лёсу яго не ведаем.

У канцы справы пра супольнікаў «казненного преступника Калиновского» цудам прыляпіўся лісток — у тым самым 1879 годзе старым, вельмі старым Ямантам (яму 82, ёй 77 гадоў) — пасля ўсіх нягодаў



і высылак — дазволена адзначыць у Вільні залатое вяселле. Без боязі памыліцца скажам, што на гэтым сямейным свяце нябачна прысутнічаў цень вялікага Кастуся. Можа і не называючы ў голас, сваякі, блізкія ўспомнілі яго горкае жаніхоўства да іхняй Марысі, абарванае пятлёй. Як помнілі і яго нягладкі, але моцны і самабытны (як і сам Кастусь) развітальны верш да Марыські, да Беларусі. І быў настрой, празорліва ўгаданы потым Караткевічам:

Дарагая, ты стала ўдавою,
Не пабачыўшы жаніха.

(Маю на ўвазе найперш не столькі словы, хаця і словы таксама, колькі сам настрой.)

Гэта было ў прыціхлай, прадзьмутай халоднымі вятрамі Вільні 23 лістапада 1879 года, якраз на парозе зімы.

А яшчэ праз якіх шэсць гадоў у друку мільганулі некралогі: памёр генерал-маёр корпуса жандараў Аляксандр Міхайлавіч Лосеў.

# БЕЛАРУСКІЯ ВЁРСТЫ ШАТЛАНДСКАГА ДВАРАНІНА СЕН-КЛЕРА

Чамусьці беларусаў больш за ўсё цікавіць гэтая далёкая паўночная краіна…

*З газетнага артыкула пра ўзнаўленне рыцарскіх традыцый*

На самым пачатку паўстання бліжэйшы паплечнік Каліноўскага Ахілес Банольдзі, якога сябры за паходжанне, тэмперамент і артыстызм звалі Італьянцам, быў вымушаны выехаць за мяжу. Скарыстаўшы гэта, Каліноўскі прызначыў яго замежным прадстаўніком віленскага паўстанцкага цэнтра. Адна з галоўных задач, якія перад ім ставіліся, — закупка зброі, у яго была на гэтыя мэты даволі вялікая сума грошай. Пасля пераходу ўлады ў паўстанцкіх структурах да больш умеркаваных «белых» мандат Банольдзі быў захаваны. Вядомы цікавы ліст паўстанцкага Аддзела кіраўніцтва правінцыямі Літвы з Вільні ў Парыж да Банольдзі ад 8 (20) красавіка 1863 года. Гаворка ў ім найперш пра тую ж да зарэзу патрэбную зброю і іншыя пільныя клопаты паўстанцаў, але асобным пунктам стаяць такія словы: «Аддзел звяртаецца да грамадзяніна Сен-Клера, які жадае прысвяціць свае выдатныя здольнасці святой справе (паўстанню. — *Г. К.*), каб неадкладна прыехаў у Вільню і паведаміў Аддзелу, дзе і якім чынам ён можа з карысцю служыць айчыне. Тады атрымае тут прызначэнне ў войска. Трэба спяшацца, бо сітуацыя спрыяльная, шчыраванне, асабліва ў Самагіціі (Жамойці. — *Г. К.*), мацнее з кожным днём, але нястача камандзіраў і зброі замаруджвае справу».

Бачым, што нейкі чужаземец (прынамсі так гучыць прозвішча) адшукаў Банольдзі ў Парыжы і выказаў жаданне далучыцца да літоўска-беларускага паўстання. Той напісаў пра гэта ў віленскі аддзел і атрымаў адпаведную санкцыю. Працытаваны намі дакумент двойчы публікаваўся (у 1913 і 1965 гадах), але публікатары нічога не маглі да гэтага дадаць і не ведалі, хто такі Сен-Клер (у абодвух выпадках пазначана ў самай агульнай, няпэўнай форме: «Сен-Клер, заграничный польский агент» або «Сен-Клер — иностранец, желавший принять участие в восстании»).



Між тым пра чалавека з гэтым адметным прозвішчам і яго беларуска-літоўскія сувязі можна расказаць нямала. Найперш згадваецца даўняя зацемка-нататка вядомага гісторыка Анатоля Піліпавіча Смірнова ў «ЛіМе» 1959 года пад назвай «Незвычайны талент». У зацемцы — цікавая рамантычная гісторыя.

Час і месца дзеяння — эпоха прыгонніцтва і мікалаеўскага царавання, часы Багрыма і Чачота (імёны-сімвалы можна называць і называць), Гродзеншчына, мястэчка Бераставіца, якое належала тады графіні Касакоўскай (у «ЛіМе» — графіні Касцялкоўскай, але гэта, як мы пераканаемся, нейкі недагляд, магчыма, памылка друку). З дачкой уладальніцы быў жанаты шатландскі дваранін Сен-Клер.

Прыкладна каля 1837 года ён прыехаў з жонкай у цешчын маёнтак і звярнуў увагу на сына мясцовага цесляра, які займаўся афарбоўкай лаваў і вазаў па касцёлах. І Сен-Клер, і яго жонка былі вялікімі аматарамі жывапісу, любілі бавіць час за мальбертам і ўзялі да сябе ўвішнага хлопца рыхтаваць фарбы, прыслугоўваць на эцюдах. Два месяцы гасцявалі маладыя ў Бераставіцы і паехалі, пакінуўшы добрую памяць. Жылі ў Літве, дзе ў Касакоўскіх таксама былі маёнткі, і за мяжой.

Праз пяць гадоў, вярнуўшыся з Англіі, Сен-Клер зноў зазірнуў у Бераставіцу і са здзіўленнем убачыў, што Ніканові (такое прозвішча юнака) зняў копіі з усіх жывапісных палотнаў, якія былі ў багатым маёнтку. Ды яшчэ як удала! Нібыта яны свабодна маглі супернічаць з арыгіналамі.

Будучы ў Вільні, Сен-Клер спецыяльным лістом паведаміў пра гэты цуд тагачаснаму генерал-губернатару Мірковічу.

«Пане генерал! — пісаў усхваляваны шатландзец. — Я асмельваюся прасіць пра апеку над маладым селянінам, які праяўляе выдатныя здольнасці ў галіне жывапісу. Гэта тым больш дзіўна, што ён ніколі не вучыўся жывапісу і малюнку. Аднак малюнак яго чысты і правільны, а фарбы ён кладзе з празрыстай лёгкасцю, сам здагадваючыся, калі так можна сказаць, пра сакрэты мастацтва, таямніцы святлаценю».

«Тое, што ён пераняў ад нас на працягу двух месяцаў нашага знаходжання ў Бераставіцы, — уся яго навука, — сцвярджаў Сен-Клер. — З таго часу ён упарта і шмат працаваў… Летась я вярнуўся з Англіі і быў здзіўлены цудоўнаму прагрэсу гэтага юнака. Лічу сваім абавязкам паведаміць пра гэта вашаму правасхадзіцельству і прасіць вас звярнуць на яго ўвагу, узяць пад ласкавую апеку гэтага юнага мастака, які пад добрым кіраўніцтвам можа стаць геніем, славай Расіі.

Я бачыў першакласныя сусветныя галерэі, а ў іх мастакоў, якія скончылі акадэміі… я назіраў, з якімі цяжкасцямі яны ў сваёй рабоце дабіваліся вынікаў не такіх выдатных, больш пасрэдных, чым той

чалавек, на якога я звяртаю вашу ўвагу. Маю гонар і інш. Аляксандр Бовэ Сент-Клер. Вільня, 28 студзеня 1843 года».

Энтузіязм Сен-Клера перадаўся саноўніку Мірковічу, які загадаў даставіць Нікановіча ў Вільню, каб асабіста з ім пазнаёміцца і пераканацца ў яго здольнасцях. Мастаку з народа наладжваецца своеасаблівы экзамен з дапамогай віленскіх знаўцаў жывапісу. Хоць лепшыя часы віленскай мастацкай школы мінулі, але прафесійных мастакоў і шматлікіх аматараў і знаўцаў мастацтва ў Вільні заўсёды ставала. Так што праверка была строгая, патрабавальная. І вынікі — выдатныя. У красавіку 1843 года Мірковіч пісаў у Пецярбург царскаму генерал-ад'ютанту Кавеліну: «…шатландскі дваранін Бовэ Сент-Клер, які жыве ў Віленскай губерні, давёў да майго ведама, што адзін вольнаадпушчаны селянін цешчы яго выяўляе настолькі незвычайны талент у жывапісе, што калі даць яму належны кірунак, дык з яго выйдзе мастак геніяльны, які зробіць гонар Расіі». Далей пра экзамен: «Выбраўшы некалькі карцін з Веркаўскай галерэі князя Вітгенштэйна, я даручыў яму зняць з іх копіі ў асабістых маіх пакоях, каб самому пераканацца ў яго мастацтве».

Паступовая размова пераводзіцца ў звыклае для адміністратара дзелавое, практычнае рэчышча: «Творы яго да такой ступені здзівілі не толькі мяне, але і ўсіх вядомых аматараў і знаўцаў жывапісу, што я не мог не прызнаць яго сапраўды вартым дастаўлення яму сродкаў да вывучэння жывапісу сістэматычным шляхам…

Імя гэтага селяніна Восіп Мацвееў Нікановіч, ад роду яму 25 гадоў, паводзін выдатных. Ураджэнец Гродзенскай губерні і павету, мястэчка Бераставіцы. Ён быў прыгонным графіні Касакоўскай, якая, паважаючы яго талент, дала яму вольную 26 чэрвеня 1841 года…

Прыкладзены пры гэтым ліст пана Сент-Клера тлумачыць вашаму правасхадзіцельству падрабязнасці цудоўнага і хуткага пераходу гэтага чалавека ад малярнага да мастацкага пэндзля, без усякага кіраўніцтва і дапамогі, сілай захаплення і таленту.

Але далейшаму развіццю гэтага таленту, які падае бліскучыя надзеі, жабрацтва яго ставіць непераадольную перашкоду…».

Мірковіч прасіў далажыць пра незвычайнага самародка гасудару імператару і даць магчымасць Нікановічу вучыцца ў Пецярбургскай акадэміі мастацтваў.

На гэтым закончыў гісторык А. Смірноў сваю нататку. Магчыма, ён узяў гэтыя звесткі з цікавай і вельмі рэдкай кнігі «Федор Яковлевич Миркович. 1789–1866. Его жизнеописание, составленное по собственным его запискам, воспоминаниям близких людей и подлинным документам» (СПб., 1889), але ў нашай Нацыянальнай бібліятэцы асобнік без дакументальных дадаткаў, а ў асноўным тэксце пра мецэнацтва Мірковіча, яго зычлівасць да людзей мастацтва я прачытаў наступнае: «Следует упомянуть о том, что известный поэт и писатель Одынец, композитор Монюшко во всё время пребывания его в Вильне, талантливый дирижер оркестра Кожинский, живописец Русецкий и Морочинский (таксама жывапісец. — *Г. К.*) всегда пользовались вниманием Федора Яковлевича и гостеприимством в его доме, а живописцу Никононовичу (так у кнізе. — *Г. К.*) исходатайствовал он освобождение от крепостной зависимости и определение в императорскую Академию художеств». Пра далейшы лёс Нікановіча вядома мала. У «Сборнике материалов для истории императорской С.-Петербургской академии художеств за сто лет ее существования» (ч. 3, 1866) удалося адшукаць запіс пра тое, што ў 1850 годзе за прадстаўленыя працы — партрэт і эцюд з натуры — савет акадэміі надаў «вольноприходящему» вучню Восіпу Нікановічу званне «неклассного художника». Ён стаў прафесіяналам, хоць вялікай славы, здаецца, так і не здабыў. Штосьці перашкодзіла яму рэалізаваць у поўнай меры свой несумненны талент («Колькі талентаў звялося…» — Я. Колас). І ўсё ж выпадак гэты, асабліва бліскучы дэбют мастака-самародка, сведчыць пра значны духоўны патэнцыял нашага народа.

А па-другое, ён, гэты выпадак, вельмі добра характарызуе самога Сен-Клера, яго адкрытае сэрца і гатоўнасць дапамагаць людзям незалежна ад іх паходжання.

Пра незвычайныя якасці Сен-Клера шмат расказала тагачасная паэтка і мемуарыстка Габрыеля Пузына ў сваіх вядомых успамінах «У Вільні і літоўскіх дварах» (1928). Пра Пузыну і яе мемуары мы пісалі ўжо ў нарысе «У Дабраўлянах, прыстанку муз, у 1863 годзе…». Дык вось, жонка Сен-Клера была сваячкай мемуарысткі, таму Габрыеля мела магчымасць блізка з ім пазнаёміцца, грунтоўна прыгледзецца да яго.

Упершыню Сен-Клер з'яўляецца ў мемуарнай хроніцы Пузыны пад 1835 годам, мабыць, неўзабаве пасля таго, як шчаслівая жонка прывезла з-за мяжы свайго абранніка. Можна сказаць, што шатландзец выклікаў тут цэлы фурор. «Галоўным "віленскім львом", — чытаем у мемуарах, — быў на той час англічанін-шатландзец дэ Бовэ Сен-Клер, які чатыры гады таму ажаніўся з польскай графіняй Касакоўскай. У важных выпадках, на прэзентацыях (гэтае моднае цяпер у нас слова, выходзіць, вельмі старое. — *Г. К.*), афіцыйных балях і абедах выступаў ён у нацыянальным касцюме горца, які складаўся, як вядома, з чорнай курткі, спаднічкі ў клетку і чаравікаў з высокай шнуроўкай крыжам; плед-накідку, дапасаваную колерам да спаднічкі, перакідваў праз плячо,

спераду ў яго была барсучыная сумка, на поясе кінжал, а на шарсцяной шапачцы меў піхтавую галінку, эмблему ці знак свайго клана». Яшчэ большым арыгіналам быў яго малодшы брат Джэймс, марак, які не апранаўся па-шатландску, затое ў сямейным коле без цырымоніі клаў ногі на стол, заяўляючы, што так яму зручна; па-французску той Джэймс, абвеяны ветрамі ўсіх мораў, — ні бум-бум, таму на балях запрашаў паненак танцаваць на мігі: адзін палец — першая кадрыль, два пальцы — другая.

Джэймс з мемуараў адразу ж знікае, мусіць, зноў пакліканы марскімі стыхіямі. Затое Аляксандр застаецца надоўга. У віленскіх салонах Сен-Клер быў, што называецца, нарасхват, пабываў ён і ў сям'і Пузыны. «Цётка наша Касакоўская, — занатавала мемуарыстка, — прывезла да мамы свайго зяця-шатландца, аднак гэтым разам апранутага не па-шатландску, і мы адразу яго палюбілі за шчырасць. Жонка лічыла яго верхам пекнаты і дасканаласці. Сапраўды, быў ён пекны і малады, маляваў някепска, як для аматара, а спяваў цудоўна, зусім як артыст. Пазнаёмілася з ім панна Пелагея ў Фларэнцыі і пакахала спярша за барытон, калі ён спяваў за сцяной пад гітару, потым у карціннай галерэі за маляванне і, нарэшце, на балі за танцы. У давяршэнне ўсяго даведалася, што ён каталік, і, натхнёная раманамі Вальтэра Скота, аддала яму сваю руку. Сужэнства іх было вельмі шчаслівае, хоць яна гадоў на дзевяць старэйшая, раўнівая і непрыгожая, затое сардэчная і разумная».

І яшчэ адзін раздумлівы, аналітычны запіс назіральнай паненкі: «…наш новы кузэн Сен-Клер не саступае палякам і кавалерам у жывасці танца. Праўда, на англійскі манер падскоквае ў мазурцы, вальсуе ж дасканала. Адразу відаць у ім чужаземца, але калі нягнуткасць паставы, правільныя рысы, цвёрдая мова, схільнасць да кідкіх колераў выдаюць у ім англічаніна, дык чорныя валасы, густа зарослы твар, жвавасць вачэй і цудоўнае спяванне прымушаюць думаць, што ён італьянец. Цётка Пелагея не спускае з мужа вачэй ад вялікага да яго кахання, а крыху і з рэўнасці. Аднак дазваляе яму танцаваць, бавіцца і спяваць з намі, таму спяваем з ім пры кожнай сустрэчы італьянскія дуэты, якія ён нам у вялікім штамбуху дорыць, а стары італьянец Брамаці буйным почыркам перапісвае. Хрэсьбіны яго першынца Стася былі добрай нагодай зноў апрануцца ў нацыянальны строй шатландца. Фамільны абед збірае ўсіх сваякоў, а гаспадар, седзячы ў сваёй накідцы на чале стала, кроіць ростбіф і запявае на дэсерт “Праў, Брытанія”».

Цікавы выпадак занатаваны пад 1837 годам. У Вільню завітаў уласнай персонай гасудар імператар Мікалай І, грозны ўладар велізарнай імперыі. Як і належыць, яму прадстаўлена мясцовае дваранства.



Сабраліся ўсе вяршкі грамадства. «Прэзентацыя адбылася з раніцы, — запісвае мемуарыстка. — Сярод шляхецкіх мундзіраў трох губерняў стаіць Сен-Клер у маляўнічым уборы шатландскага горца. “Што такое? — шапталася агарошаная шляхта. — Як ён смее! Вось пабачыце, цар загадае вывесці яго з залы” і г. д. А тым часам цар ці не найперш наблізіўся да яго і запытаўся, з кім жанаты, і, нахвальваючы строй, сказаў, што і ён мае права насіць яго, будучы citoyen d'Edinbourg [грамадзянінам Эдынбурга]. “Oni, je sais Sire, que Vous avez cet honneur” [“Так, я ведаю, сір, што вам выпаў такі гонар”], — адказаў смелы шатландзец, а пераказваючы гэта нам, дадаў: — “J'étais trop poli pour lui dire, qu'il faut appartenir a un clan pour porter ce costume” [“Я быў занадта ветлівы, каб сказаць яму, што неабходна належаць да якога-небудзь пэўнага клана, каб насіць гэты касцюм”]». Такая своеасаблівая фронда.

У тым самым годзе сям'я Габрыелі гасцявала ў Сен-Клераў у багатым маёнтку паблізу Вількаміра (цяпер Укмярге, Літва). Старадаўняе селішча з руінамі замка, які згадваўся яшчэ крыжацкімі храністамі, стаяла на беразе возера. Пад уражаннем паездкі Габрыеля запісала: «У Сен-Клераў старая польская гасціннасць і такая самая гасціннасць шатландская паядналіся. Сардэчнасць жонкі спадарожнічала там пачцівасці мужа, а літоўская шчодрасць англійскаму камфорту. Плавалі па возеры ў ботах з мачтай і ветразямі, якімі кіраваў сам гаспадар, а матросамі былі яго сыночкі, якія проста з калыскі скакалі ў ваду, як качаняты з яйка. Сняданні з вяндлінкай, позні абеды з індыйскімі прыправамі і ростбіфам, крайчым (рэзчыкам) якога быў сам гаспадар, конныя шпацыры і г. д. Словам, былі ў Англіі з дадаткам італьянскага элемента ў спевах мужа і ў палотнах на сценах, намаляваных абаімі малжонкамі».

У мемуарах адлюстраваліся і некаторыя гаспадарчыя навацыі шатландца. Тонкая стылістка, паэтка-арыстакратка ўмела часам спусціцца з нябёсаў высокіх матэрый на грэшную зямлю і занатавала, напрыклад, такое: «…найпрактычнейшымі былі кампосты накшталт гнаявых ям пры кожным сялянскім двары, куды скідвалі ўсякае смецце, пракладваючы яго глінай і чарназёмам. Была гэта ідэя пана Сен-Клера… Калі швагер намаўляў яго завесці цукраварню і садзіць буракі, ён хапаў жменю вількамірскага лёну і крычаў: “Voilà du sucre, voilà du cafe! Voilà tout!” [“Вось цукар, вось кава! Вось усё!”]». «Сапраўды, кожны край мае свой кшталт гаспадарання», — разважліва запісала мемуарыстка. Сен-Клер, па ўсім відаць, захапіўся нашым цудоўным ільном, бачыў перспектыўнасць гэтай унікальнай, высакароднай культуры.

У 1841 годзе Сен-Клера прымалі ў Дабраўлянах на сумежжы Смаргоншчыны і Мядзельшчыны. Многія маладыя сямейнікі бачылі сэра

Аляксандра ўпершыню, хоць шмат пра яго чулі. Ён быў якраз у добрым гуморы і раскрыўся перад моладдзю ва ўсёй красе. У шатландца абудзіўся «апавядальніцкі запал, і кузінкі, якія не раз з абурэннем чулі ад нас пра своеасаблівыя англійскія выхадкі кузэна, былі не ў сілах процістаяць гэтай плыні і смяяліся ад душы, слухаючы яго вясёлыя і жывыя апавяданні… Усё ў Дабраўлянах набыло англійскі характар: па вечарах ездзілі на конях, самы найтлусцейшы адкормлены вол прынесены ў ахвяру, і сам Сен-Клер чараваў над ростбіфам і кроіў яго ля стала спецыяльна навостраным нажом. Найбольшыя і найлепшыя лодкі былі замоўлены на Свірскім возеры ў рыбакоў, кузэн прывёз з сабой вуду і выжла. Пристанню служыла карчма Камёнка на дарозе паміж Свір'ю і Вішневам і прыбярэжны камень, любімае месца адпачынку аўтара "[Літоўскіх] абразкоў" [Ігната Ходзькі], які, едучы гэтай дарогай, заўсёды садзіўся на ім у задуменні і, гледзячы ў сінія далі, прыбеленыя кляштарнымі мурамі, задумаў там свой абразок "Восень у кляштары". Сен-Клер быў апрануты адпаведна воднай прагулцы, мой бацька таксама ўздзеў на галаву вялікі саламяны капялюш. Выжал лапамі абапіраўся на борт лодкі, і так адплылі ад берага з двума моцнымі бурлакамі (стараверамі?) на вёслах. Сен-Клер павесялеў на возеры. Ні супрацьлеглага берага, ні пачатку, ні канца возера не было відаць, а хвалі на ім узняліся, нібы на мініяцюрным моры. Штосьці ў рэшце рэшт у нашым краі нагадала яму яго радзіму! Рыбу ён лавіў не сеткай, а англійскай вудачкай, якой яму здаралася выцягваць і трыццаціфунтовага шчупака. На нашым возеры гэтая штука яму, аднак, не ўдалася, ды і сам рыбак ледзь не трапіў на маскоўска-паліцэйскі кручок. Паколькі гэтыя навігацыі паўтараліся дзень пры дні, аднойчы, вяртаючыся, нашы панове ўбачылі: на беразе ў поўнай форме стаіць асэсар (прыстаў?), які, аднак, вельмі пакорліва папрасіў у пана Сен-Клера пашпарт, гаворачы, што яму данеслі пра англічаніна, які плавае па возеры і напэўна здымае планы!.. Справа хутка высветлілася, і Сен-Клер вельмі гэтым пацешыўся».

Здаецца, усё было добра ў дабраўлянскім гасцяванні, толькі ў адным выпадку, жадаючы дагадзіць госцю, гаспадары перастараліся. Апранулі мясцовага пастуха ў імправізаваны шатландскі строй (нават пра піхтавую галінку ў шапцы не забыліся), схавалі яго на балконе і загадалі неяк познім пагодлівым вечарам, калі ўсе былі ў зборы, зайграць на дудзе-валынцы, любімым інструменце шатландскіх горцаў, у пэўных мадыфікацыях вядомым таксама ў Беларусі. Сен-Клер быў спачатку ўражаны, а потым, разабраўшыся, нават зазлаваў. Цэлая гама пачуццяў ад радаснага здзіўлення да поўнага расчаравання і пратэсту! Ён убачыў у гэтым травесці-пераапрананні карыкатуру на сваю радзіму. «Як жа ён кахаў свой край, калі яму і рэха яго было такім мілым, а пародыя — балючай!» — заўважае наша мемуарыстка.

Тым не менш сяброўства дабраўлянцаў з Сен-Клерамі толькі ўмацоўвалася. Да ўсяго сэр Аляксандр быў зачараваны непараўнаным Свірскім возерам. Запіс 1842 года: «У чэрвені з'явіліся Сен-Клеры з маці, двума сынамі і дачкой Вольгай».

На вялікі жаль, працяг мемуараў Габрыелі Пузыны не захаваўся. Таму нашы звесткі пра сувязі гаспадароў Дабраўлян з Сен-Клерамі няпоўныя.

Хацелася б падкрэсліць адну дэталь. З'яўленне паліцэйскага пристава ў Дабраўлянах з нагоды прыезду туды Сен-Клера было не выпадковым. Бюракраты глядзелі на свет, на жыццёвыя рэаліі зусім не так, як узнёслая паненка. У іх быў свой падыход. Каларытны, неардынарны шатландзец здаваўся царскім уладам падазроным, бо не ўкладаўся ў звычайныя рамкі. Як паказваюць матэрыялы віленскага гістарычнага архіва, яшчэ ў 1840 годзе ў генерал-губернатарскай канцылярыі была заведзена справа пра нагляд за іншаземцам Бовер дэ Сен-Клерам. Справа доўжылася да 1862 года.

Вернемся да пытання, пастаўленага ў пачатку нашых нататак. Хто ж збіраўся ў 1863 годзе ўстаць у шэрагі паўстанцаў Беларусі-Літвы? Няўжо той самы Аляксандр Сен-Клер, які так душэўна паставіўся дваццаць гадоў таму да мастака з народа і на працягу доўгага часу сваёй арыгінальнасцю бударажыў нашы арыстакратычныя салоны ды прымушаў турбавацца бюракратаў? Наўрад ці (улічым хаця б узрост). Хутчэй, гэта яго сын Станіслаў, хрэсьбіны якога згадваліся Пузынай.

У адным з апошніх выпускаў «Польскага біяграфічнага слоўніка» ёсць артыкул пра паўстанца 1863 года Станіслава Сен-Клера (1835–1887), які нарадзіўся ва ўжо знаёмым нам маёнтку пад Вількамірам. У слоўніку адзначана, што ён сын шатландца Аляксандра Сен-Клера (Bower de Saint-Clair; 1800–1880) і Пелагеі з Касакоўскіх (1798–1881). Меў двух братоў: Аляксандра (1834–1880), англійскага генеральнага консула ў Ясах, і Фелікса (1839–1897), а таксама сястру Вольгу.

Цікава, што розніца ва ўзросце бацькоў Станіслава тут не такая вялікая, як у мемуарах Пузыны. Хто больш дакладны — невядома. Зрэшты, гэта не мае вялікага значэння, як і тое, што — насуперак мемуарам — старэйшым сынам-першынцам Сен-Клераў у слоўніку названы Аляксандр.

Выхоўваўся Стась у Парыжы ў цёткі — знакамітай у свой час арыстакраткі Соф'і з Патоцкіх Кісялёвай, якая ўскружыла галовы многім знакамітым сучаснікам, у тым ліку Пушкіну (гл. цікавую даведачную кнігу Л. Чарэйскага «Пушкін і яго атачэнне»). Цётка так насілася з пляменнікам, што многія лічылі Станіслава яе сынам. Потым малады

Сен-Клер вучыўся ў Лондане. Як капітан англійскай арміі ўдзельнічаў у Крымскай вайне, нейкі час жыў у Літве ў сваякоў Касакоўскіх.

У 1863 годзе, паводле згаданага слоўніка, быў паўстанцам у атрадах Лянгевіча і Босака (на тэрыторыі Польшчы). Дададзім ад сябе, што паміж баявой дзейнасцю Лянгевіча і Босака быў вялікі перапынак, калі Сен-Клер і мог звярнуцца да Банольдзі з прапановай сваіх паслуг беларуска-літоўскім паўстанцам.

У тым самым «Польскім біяграфічным слоўніку» знаходзім звесткі пра Юзафа Дамініка Касакоўскага, бацьку Пелагеі. Гады яго жыцця: 1771–1840. У 1793 годзе ажаніўся з Людвікай Патоцкай, якая прынесла ў пасаг Бераставіцкі ключ з 16 вёскамі ў Гродзенскім павеце.

Гэта тая самая Бераставіца, дзе Сен-Клер адкрыў для сябе таленавітасць ліцвінаў-беларусаў, якія і ва ўмовах прыгону імкнуліся да вышыняў культуры.

Дарэчы, асобныя цікавыя звесткі як пра Сен-Клераў, так і пра Бераставіцу прыводзіць блізкі сваяк — вядомы генеалог, знаўца арыстакратычных радаводаў Станіслаў Казімір Касакоўскі (1837–1905). У яго ўспамінах, выдадзеных у Буэнас-Айрэсе і Парыжы ў 1974 годзе (кніга ёсць у Мінску ў акадэмічнай бібліятэцы), гаворыцца, што ў Бераставіцы падчас паўстання 1831 года некалькі тыдняў пасля ўцёкаў з Варшавы жыў царскі брат, вялікі князь Канстанцін Паўлавіч і ў Пелагеі (тады яшчэ паненкі, натуры артыстычна-экзальтаванай) было прадчуванне (кшталту яснабачання) наконт яго блізкай смерці. Сапраўды, праз колькі месяцаў вялікі князь памёр ад халеры ў Віцебску.

Некалі Бераставіца належала магнатам Хадкевічам. Тут — у касцёле — пахавана сэрца славутага, апетага паэтамі палкаводца Рэчы Паспалітай пачатку XVII стагоддзя — гетмана Яна Кароля Хадкевіча, які з поспехам вадзіў ваяроў ва ўсе бакі свету. У палацы паказвалі жалезны куфар Хадкевіча мастацкай работы.

Было шмат памятак нядаўна адшумелай вайны 1812 года. Бацька Пелагеі сфарміраваў у Мінску стралковы полк, з якім ваяваў на баку Напалеона. Сваяку генералу Юзафу Антону Касакоўскаму — любімаму ад'ютанту карсіканца — давялося нават цэлых тры дні пабыць камендантам Масквы (пасля ў Бераставіцы перахоўваліся асабістыя рэчы імператара французаў, падораныя Касакоўскаму).

Пра ўсё гэта, вядома ж, не раз чуў шатландскі рыцар Сен-Клер, якому собіла парадніцца з багатым і знатным беларуска-літоўска-польскім магнацкім родам. Беларусь паўставала перад ім як зямля багатых гістарычных традыцый, старажытнай цывілізацыі.

Напаследак, калі ўжо зайшла пра тое гаворка, дадамо яшчэ, што напярэдадні і ў перыяд паўстання 1863 года Бераставіца была важным



асяродкам Гродзенскай рэвалюцыйнай арганізацыі Каліноўскага. Тут працавалі актывісты арганізацыі Фелікс Ражанскі (каморнік, беларускі паэт) і Ігнат Казлоўскі (малады ксёндз, паходзіў з прыгонных). Ражанскі быў адным з выдаўцоў «Мужыцкай праўды». Пра яго сяброўства з Каліноўскім сястра Кастуся Казіміра Багушэвіч успамінала ў 1905 годзе (да яе звярнуліся тады па звесткі пра Каліноўскага): «Шмат падрабязнасцяў пра святой памяці Канстанціна можна было б атрымаць у пана Фелікса Ражанскага, які ў тыя часы займаў пасаду каморніка ў Вялікай Бераставіцы ў графа Касакоўскага. З ім (Ражанскім) Канстанцін быў у блізкім сяброўстве. Калі Канстанцін бываў дома (у Якушоўцы. — *Г. К.*), той часта ў нас бавіўся, і не аднойчы яны ездзілі разам». Відаць жа, і Каліноўскаму даводзілася не раз бываць у Ражанскага ў Бераставіцы. Пра паездку Кастуся ў Бераставіцу згадваў у сваіх паказаннях бацька рэвалюцыянера. Не выключана, што тут друкавалася «Мужыцкая праўда», прынамсі асобныя яе нумары.

Шмат захапляльных загадак і таямніцаў яшчэ хавае беларуская зямля.

# Змест

Навуковае выданне

**Кісялёў** Генадзь Васільевіч

**СМАК БЕЛАРУШЧЫНЫ**

Адказны за выпуск *М. Шыбко*
Вёрстка *В. Нога*
Карэктар *М. Шавыркіна*

Падпісана да друку 18.06.2013. Фармат 60x84 1/16. Афсетны друк.
Ум. друк. арк. 29,1. Ул.-выд. арк. 29,1. Наклад 250 асобн. Заказ 2311.

ТАА «Лімарыус». ЛИ № 02330/0003920 ад 16.03.2009.
Вул. Геалагічная, 59, к. 4, п. 29, 220138, г. Мінск.

ТДА «НоваПрынт». ЛП № 02330/0552786 ад 25.02.2009.
Вул. Геалагічная, 59, к. 4, п. 10, 220138, г. Мінск.



**Кісялёў , Г. В.**

К44 Смак Беларушчыны / Г. В. Кісялёў; уклад.: Л. Г. Кісялёва; прадм.: У. А. Арлоў. — Мінск: Лімарыус, 2013. — 498 с.

ISBN 978-985-6968-31-3.

У выданне ўвайшлі два зборнікі артыкулаў вядомага літаратуразнаўцы і гісторыка Генадзя Кісялёва (1931–2008). Першы з іх — «Радаводнае дрэва» — выйшаў у 1994 г. і стаўся знакавай кнігай для шанавальнікаў беларускай мінуўшчыны. Другі зборнік — «Смак Беларушчыны» — быў складзены Г. Кісялёвым на пачатку 2000-х гг. і дагэтуль не друкаваўся. Тут сабраныя артыкулы, большасць з якіх публікаваліся ў 1990-я гг. у перыёдыцы і пазней былі істотна пашыраны і дапрацаваны даследчыкам.

Кніга адрасуецца ўсім, хто неабыякавы да Беларушчыны.

**УДК [94(476)+821.161.3.09](081)**
**ББК 63.3(4Беи)**